


УЛАДЗІМІР ВАСЬКОЎ

# КАТОЛІКІ НА АБШАРАХ ПАНІЗОЎЯ І СЕВЕРШЧЫНЫ
(Гісторыя Гомельскага рыма-каталіцкага дэканата)

Аўтар ідэі кнігі А.В.Белы.

Навуковыя рэдактары:
гісторык, доктар гуманітарных навук (PhD) А.В. Белы,
кандыдат гістарычных навук В.С. Пазднякоў.
Рэцэнзент:
гісторык Я.Р. Малікаў.

Адроджанаму Гомельскаму дэканату Пінскай дыяцэзіі
Рыма-каталіцкага Касцёла прысвячаецца

# ЗМЕСТ

# СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Кніга «Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны» расказвае аб узнікненні каталіцтва на Гомельшчыне. На старонках манаграфіі апісваецца гісторыя парафій Гомельскага дэканата Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-каталіцкага Касцёла.

Ідэя кнігі належыць беларускаму гісторыку А. Беламу, які задумаў выдаць серыю кніг Conscius Mei аб гісторыі ўсіх каталіцкіх дэканатаў, якія размяшчаліся на тэрыторыі Беларусі. У гэтай серыі ўжо пабачыла свет кніга «Святы Казімір у Паазер'і» пра Лепельскі дэканат і кніга «Паміж Ласоснай і Чорнай Ганчай» гродненскіх гісторыкаў А. Вашкевіча і Дз. Нарэля, у якой апісваецца гісторыя парафій Сапоцкіншчыны.

Гісторыя Гомельшчыны, не толькі канфесійная але і агульная, дасюль з'яўляецца мала даследаванай. За XIX і XX стст. гісторыя Гомеля і ваколіц закраналася толькі ў пары дзесяткаў гістарычных прац, а даследванні, цалкам прысвечаныя Гомельшчыне, увогуле рэдкасць. Сярод дарэвалюцыйных аўтараў, якія пісалі пра Гомель, можна прыгадаць Л.Вінаградава і Ф.Жудро, І.Сербава і Дз.Даўгялу. Сярод сучасных — А.Макушнікава, А.Рогалева, В.Пічукова, М.Старавойтава і А.Яшчанку. Таму кніга «Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны» — гэта адно з нешматлікіх сучасных даследванняў, цалкам прысвечанае гісторыі Гомельшчыны.

Даная манаграфія фактычна з'яўляецца каталіцкай кнігай «Памяць» Гомельскага рыма-каталіцкага дэканата і змяшчае больш за 130 біяграфій і біяграм святароў, якія працавалі на тэрыторыі дэканата, а таксама некалькі сотняў біяграм рэпрэсіраваных савецкай уладай асоб каталіцкага паходжання.

Пра Гомельшчыну часта гаворыцца, як пра тэрыторыю, дзе каталіцтва не мае моцных каранёў і з'яўляецца чужародным элементам. Але такое меркаванне, безумоўна з'яўляецца памылковым, бо на тэрыторыі некалькіх раёнаў усходняй Гомельшчыны (Гомельскі, Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Жлобінскі, Чачэрскі раёны) існуюць дзесяткі населеных пунктаў, гісторыя якіх шчыльна звязана з Гомельскім рыма-каталіцкім дэканатам і ў якіх у розныя часы было прыкладна 40 каталіцкіх аб'ектаў — касцёлаў, капліц, місій і кляштараў.[1]

Дасюль на Гомельшчыне існуюць цалкам каталіцкія вёскі, жыхыры якіх гавораць на той жа мове, што і ў суседніх праваслаўных вёсках і не адрозніваюцца ад сваіх суседзяў-праваслаўных побытам. Усё гэта сведчыць, што каталіцтва на гэтых землях мае шматвяковую традыцыю і глыбокія карані ў мясцовай культуры. Данае даследванне дае магчымасць фактамі падцвердзіць выказанае вышэй меркаванне.

Крыніцы інфармацыі, якія выкарыстоўваліся ў працы над кнігай, можна ўмоўна падзяліць на некалькі катэгорый: 1) архіўныя дакументы з расійскіх і беларускіх архіваў; 2) даследванні і іншыя друкаваныя крыніцы, у якіх закраналася тэма рэлігійнай гісторыі Гомельшчыны (у спасылках на іх, як правіла, акрамя назвы і прозвішча аўтара падаюцца і выкарыстаныя ім крыніцы); 3) інфармацыя з інтэрнету (што само па сабе для такіх даследванняў новая справа); 4) матэрыялы палявых даследванняў (экспедыцыі ў вёскі Рудня-Стаўбунская, Хальч і горад Чачэрск).

У асноўным у кнізе выкарыстоўваліся архіўныя дакументы з Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу (РГИА) і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску (НГАБ). Цытаты з дакументаў падаюцца, як правіла, у беларускім перакладзе.

Выкарыстаны здымкі А.Белага, У.Васькова, Э.Васьковай, А.Дыбоўскага, Я.Малікава, С.Мохаравай, М.Новікава, А.Раманчанкі, Дз.Раманюка, М.Уласюка, К.Шастоўскага. А таксама здымкі і ілюстрацыі з НГАБ, РГИА, архіва Гомельскага касцёла, асабістых архіваў А.Калюжнага, Г.Кацубы, С.Мохаравай, А.Срэбракоўскага, В.Яўстраценкі, сайтаў RootsWeb.com, «Всё о Гомеле», «Рыма-каталіцкі Касцёл на Беларусі» і інш.

Аўтар выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў працы над кнігай гомельскаму дэкану ксяндзу Славаміру Ляскоўскаму.

А таксама ксяндзу Гжэгажу Худэку, ксяндзу Тадэвушу Саморэку, Віктару Адзіночанку (Гомель), Ігару Войнічу (Мінск), Уладзіславу Вяроўкіну (Мінск), Юрыю Дразду (Мінск), Алегу Калюжнаму (Люберцы), Алесю Карцелю (Варшава), Галіне Кацубе (Мінск), Валянціне Лебедзевай (Гомель), Андрэю Лебедзеву (Гомель), Леаніду Маракову (Мінск), Святлане Мохаравай (Гомель), Міхаілу Папову (Мінск), Дзянісу Салашу (Мінск), Аляксандру Срэбракоўскаму (Вроцлаў), Міхаілу Уласюку (Гомель), Канстанціну Шастоўскаму (Мінск) і Валерыю Яўстраценку (Кіеў).

ЧАСТКА I

# I. ГІСТОРЫЯ КАТАЛІЦТВА ВА ЎСХОДНЯЙ ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

## 1. КАТАЛІЦТВА ВА ЎСХОДНЯЙ ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

Гомельскі дэканат Магілёўскай каталіцкай архідыяцэзіі, які існаваў з канца XVIII ст. да 1920-х гг. і да 1853 г. называўся Беліцкім, знаходзіўся на тэрыторыі Панізоўя[2] і старажытнай Севершчыны[3]. Першапачаткова дэканат складаўся з парафій у Гомелі, Люшаве (Буда-Кашалёўшчына), Нежыне і Гросвердэры Чарнігаўскай губерні. Пазней у яго склад увайшлі Чачэрская і Радужская парафіі (Веткаўшчына), Антушаўская парафія (Рагачоўшчына), Ромненская парафія (Палтаўская губ.) і на нейкі час Палтаўская і Харкаўская парафіі.

Гісторыя парафій дэканата, якія знаходзіліся на тэрыторыі Украіны, у кнізе не разглядаецца (за выключэннем раздзела аб Гросвердэрскай парафіі). Трэба дадаць, што, у адрозненне ад беларускай часткі дэканата, вернікамі украінскіх парафій дэканата пераважна былі немцы-каланісты і мігранты з іншых тэрыторый Расійскай імперыі.

Беларусь адрозніваецца і раней адрознівалася ад суседніх Расіі і Украіны канфесійнай структурай насельніцтва. Калі ў Расіі і на Украіне сярод мясцовага насельніцтва распаўсюдзіўся ўсходні варыянт хрысціянства, то ў Беларусі развіўся таксама і заходні.[4] Гэты феномен поліканфесійнасці і сінтэзу культурных традыцый, якія адначасова абапіраліся і на лацінскую і на візантыйскую спадчыну, стаўся спецыфічным, асаблівым элементам беларускай гісторыі, пунктам, ад якога зыходзілі яе разнастайныя тлумачэнні і інтэрпрэтацыі.[5] Гэты элемент аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне нацыянальнай свядомасці жыхароў як усёй Беларусі цалкам, так, і ў прыватнасці, беларускай часткі Севершчыны (сучаснай усходняй Гомельшчыны), гісторыя станаўлення, упадку і, пасля перапынку, адраджэння каталіцтва ў якой і разглядаецца ў кнізе.

Пачатак сталай прысутнасці каталіцтва на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) адносіцца да перыяду заключэння Крэўскай уніі 1385 г., калі ў 1387 г. князь Ягайла хрысціў Літву. У 1387 г. была створана Віленская каталіцкая дыяцэзія (біскупства). У канцы XIV—пачатку XV ст. былі выдадзены асноўныя акты дзяржаўнай улады, якімі ствралася прывілеяванае становішча Каталіцкага Касцёла ў ВКЛ: перадача яму вялікіх зямельных уладанняў, поўны імунітэт касцельнай маёмасці ў фінансавых і

судовых адносінах. У гэты перыяд Рыма-каталіцкі Касцёл пачаў адыгрываць найважнейшую ролю ў дзяржаве.

Віленскае біскупства ў касцельна-адміністрацыйных адносінах было падпарадкавана гнезненскаму арцыбіскупу — прымасу Рымакаталіцкага Касцёла ў Польшчы. Тэрыторыя Віленскага біскупства ахоплівала Аўкштайцію[6] і беларускія землі апрача Палесся (раёнаў Брэста і Пінска), якое ўваходзіла ў склад Луцкага біскупства. Да Люблінскай уніі 1569 г. і ў першыя дзесяцігоддзі пасля яе, амаль усе касцёлы і кляштары Беларусі знаходзіліся на захад прыблізна ад лініі Браслаў — Паставы — Вілейка — Мінск — Нясвіж — Пінск (г.зн. у гістарычнай Літве). На ўсход ад гэтай лініі былі толькі адзінкавыя касцёлы (у Віцебску, Полацку, Слуцку і Абольцах каля Оршы), або іх зусім не было да пачатку XVII ст., як, напрыклад, на Дняпры.[7]

Прыкладна каля 1335 г. Гомель з навакольнымі землямі ўвайшоў у склад ВКЛ. Праз паўстагоддзя, у 1391 г., да віленскага капітула[8] была прыпісана буйная воласць з замкам Стрэшын на Дняпры, крыху вышэй вусця Бярэзіны.[9] Вялікі князь Вітаўт 3 красавіка 1399 г. узгадаў Стрэшын у сваёй даравальнай грамаце віленскім канонікам, аддаючы апошнім *«зямлю березынскую»* паміж Стрэшынам і Рагачовам. У грамаце гаварылася: *«Мы, великий князь Витовт, даем веданье всем, кто на сей лист узозрить или слышить. Дали есмо землю кановников виленским на имя березынская к Стрешину, што были есмо дали князю Юрью толочку от Рогочева оттойма. А в ту землю первописаную не уступатися никому, а ни рогачевцам, а ни иному кому, ниж держать кановником виленским к Стрешин вечно, непорюшно, никимже. А на то на все дали есмо на крепость сей лист и печать свою велели привесити. А писано у Троцех у четверг по велице дни под леты по рожстве господни 1000 и 300 и 9 десят и 9»*.[10]

Стрэшынская воласць лічылася *сталовай*, гэта значыць, што даходы з яе ішлі на патрэбы ўсяго капітула, у адрозненне ад *прэстыманіяльных* маёнткаў, даходы ад якіх ішлі асобным сябрам капітула. У склад Стрэшынскага маёнтка ў XVI ст. уваходзіла 14 вёсак (Стрэшын, Саланое, Губічы, Праскурні, Верхняя Алба і інш.), у тым ліку і вёска Скепня Гомельскай воласці.[11] Цалкам верагодна, што стрэшынскія падданыя капітула надалей заставаліся праваслаўнымі, бо касцёл у Стрэшыне быў пабудаваны толькі ў пачатку XVII ст. Солтанамі і з’яўляўся іх родавай пахавальняй.

Падданыя Стрэшынскай воласці падзяляліся на 3 катэгорыі. Большая частка (у 1538 г. гэта было 107 гаспадарак з 149) плацілі мядовую даніну. 23 гаспадаркі плацілі даніну грашыма (*proventus peccuniaris*). 19 гаспадарак, якія былі найбольш беднымі

(*чарнакунцы*, альбо *каморнікі*), уносілі 15 грошаў у якасці *куніцы*. Даннікі Стрэшынскай воласці былі арганізаваны ў *палавіцы мядовыя*. Налічвалася 10 такіх палавіц, на кожную прыходзілася 10—11 гаспадарак. Даніна, якую плацілі з палавіцы, называлася *лукно*. Аб'ём лукна раўняўся 12 *медніцам* (медніца — прыкладна 25 кг). Калі гэтую даніну перавесці ў грашовы эквівалент, то атрымліваецца, што ў XVI ст. адна стрэшынская сям'я плаціла прыкладна 33,6 гроша (для параўнання: карова ў тыя часы каштавала каля 100 грошаў).

Акрамя мёду кожная стрэшынская палавіца мела яшчэ шэраг дадатковых павіннасцяў. Адной з іх было *налуконнае* — ідаць, грашовая даплата ўрадніку (цівуну), які займаўся зборам мёду. Гэтая даплата раўнялася 50 вузкім грошам з лукна, а палавіцы, якія валодалі аддаленымі дзялянкамі на левабярэжжы Дняпра, плацілі падвойную даплату ў 100 грошаў. Таксама існавала плата за баброў (*pro castore*), якая складала 15 грошаў са звычайных палавіц і па 30 з аддаленых. Далей ішла плата за воск (ад 7 да 12 грошаў), *куніца* (6 грошаў), плата за карыстанне дадатнымі ворнымі дзялянкамі ў лесе — астравамі (ад 9 да 18 грошаў).

Шэраг дадатковых пляцяжоў размяркоўваўся не па службах, а па сёлах (вёсках). Незалежна ад памераў кожнае сяло плаціла або 16 грошаў, або 2 бязмены воску. Таксама існавала плата аўсом у колькасці ад 2 да 6 мераў (*смыраў*), ці грашовы эквівалент — 2 грошы за меру. Існавала плата ільном (20 вязак), просам і курамі. Замест старажытных павіннасцяў бралася грашовая плата: па 40—42 грошы *язоўшчыны*, 10 грошаў *невадоўшчыны*, 15—30 грошаў *лоўшчыны*, 40 грошаў узамен за падводную павіннасць, 6—12 грошаў *карабоўшчыны.* Існавала павіннасць *прапой* — плата за права вырабу піва ці хмяльнога мёду — 40 грошаў з сяла і некаторыя іншыя платы.

Яшчэ адна група плацяжоў размяркоўвалася індывідуальна. З кожных 3-х агнішчаў трэба было плаціць па 6 грошаў *агнёўшчыны*, а з кожнага дыма — па *цясновай куніцы* ў памеры 6 грошаў (2 разы на год). За вызваленне ад абавязку вартаваць на панскім двары трэба было заплаціць *вавёрку старажоўскую*, а ў выпадку шлюбу — *вавёрку шлюбную*. Пасля Вялікдня збіраўся плацёж *радані́чнае*, які, верагодна, быў своеасаблівым выкупам за права адпраўляць у касцельным маёнтку паганскі абрад памінання продкаў — Раданіцу. З адной гаспадаркі браўся 1 грош, з беднай гаспадаркі — паўгроша.

Агульная сума павіннасцяў стрэшынскага данніка складала 60 грошаў на год.[12]

Трэба зазначыць, што ў часе знаходжання ўсходняй Гомельшчыны ў складзе ВКЛ асноўная частка нешматлікага

насельніцтва заставалася праваслаўнай. Католікамі былі толькі асобныя шляхецкія сем'і, жаўнеры гарнізонаў, дзяржаўныя служкі.

Касцёлы ва ўсходняй Гомельшчыне пачынаюць з'яўляцца ў першай палове XVII ст.: у 1631 г. кароль Жыгімонт III Ваза фундаваў пабудову касцёла ў Гомелі[13], блізка да гэтага часу з'явіўся фундаваны Солтанамі касцёл у Стрэшыне (паводле інвентара, існаваў ужо ў 1628 г.), у 1687 г. тымі самымі Солтанамі быў узведзены драўляны касцёл у Люшаве, прыкладна тады ж пабудаваны касцёл у Чачэрску.

У гэты перыяд узніклі касцёлы і на Старадубшчыне. Гісторык Андрэй Катлярчук у сваёй працы «Беларусы Бранскага краю. Этнічная гісторыя і сучаснасць» піша аб узнікненні касцёлаў на землях Севершчыны на ўсходзе ад Гомеля ўжо пачынаючы з 1618 г. Пры гэтым ён спасылаецца на кнігу «Свод памятников архитектуры и монументального искусства России: Брянская область» (Масква, 1998).

У прыватнасці Катлярчук піша наступнае: *«На паўночным захадзе Браншчыны паміж шматлікімі помнікамі расійскай і ўкраінскай архітэктуры захавалася некалькі помнікаў беларускага дойлідства. Па-першае, гэта мураваныя касцёлы, узведзеныя ў 1618—1648 гг., калі захад Браншчыны зноў увайшоў у склад ВКЛ. На сёння захаваліся: моцна разбураная Праабражэнская царква («касцёл», як кажуць людзі) у Трубчэўску, пабудаваная ў 1640 г., аб чым сведчыў надпіс на муры; значна перабудаваная царква Св. Ганны ў Погары (пачатак XVI стагоддзя), таксама былы касцёл»*.[14]

Пра касцёл у Трубчэўску ў кнізе «Свод памятников архитектуры и монументального искусства России: Брянская область» сапраўды гаворыцца (с. 565), а вось пра касцёл у Погары ў кнізе няма ні слова. Магчыма А.Катлярчук ўзяў гэту інфармацыю з нейкай іншай крыніцы.

Захаваліся звесткі і пра заснаванне ў 1635 г. у Старадубе кляштара і касцёла[15], якія належалі францысканцам. Касцёл быў пабудаваны ў гатычным стылі[16].

Развіццё парафіяльнай сеткі на ўсходзе Беларусі было выклікана галоўным чынам канфесійнай трансфармацыяй мясцовай шляхты. Шляхту пасля ўпадку рэфармацыі не прываблівала ані праваслаўе, ані уніяцтва, якое трактавалася як *«мужыцкая вера»* і якое з пункту погляду рытуальнасці, па сваёй сутнасці не адрознівалася ад праваслаўя. Жаданай альтэрнатывай станавілася каталіцтва, дзякуючы яго характару пануючай дзяржаўнай канфесіі. Таксама сваю ролю адыгравала асветніцкая дзейнасць Касцёла, якая стварала перспектыву інтэлектуальнага развіцця шляхты. Неафіты з ліку заможнай шляхты рабілі шматлікія шчодрыя ахвяраванні на карысць

Каталіцкага Касцёла, асабліва каталіцкіх ордэнаў, прысутнасць якіх у Беларусі на працягу XVII і XVIII стст. стала ўзрастала.[17]

Каталіцкія ордэны разгортвалі духоўную і асветніцкую дзейнасць, якая спрыяла паланізацыі і акаталічванню шляхецкай моладзі. Ва ўсходняй Гомельшчыне актыўна дзейнічалі езуіты. Ордэн езуітаў (ці, больш дакладна, Таварыства Езуса) узнік 17 верасня 1540 г. пры папе Паўле III. Ордэн быў заснаваны Ігнацыем Лаёлам, які і стаў першым прэпазітам. Езуіты на землях ВКЛ пачалі працаваць у другой палове XVI ст. Першы калегіум быў адчынены ў Вільні ў 1570 г.

Езуіцкія місіі існавалі ў Гомелі, Хальчы, Чачэрску і Шарсціне. Гомельская, Хальчанская (у маёнтку Халецкіх) і Шарсцінская місіі былі заснаваны езуітамі Бабруйскай рэзідэнцыі. Місіі ў Гомеле і Шарсціне існавалі параўнальна кароткі час, а Хальчанская і Чачэрская дзейнічалі амаль цэлае стагоддзе, да самага выгнання езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г.

Езуіты вялі місіянерскую работу альбо ў парафіяльных касцёлах, альбо непасрэдна ў вёсках. Місіі ў парафіяльных касцёлах доўжыліся ад 3-х да 4-х тыдняў. Заняткі (навука) праводзіліся 2 разы на дзень: ранкам і ўвечары. Набажэнства адпраўлялася пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраменце. Для моладзі і старых праводзілася катэхізацыя.

Місіі непасрэдна ў вёсках (*missio pure ruralis*) уладкоўвалі ў гаспадарчых будынках, якія для гэтай мэты адпаведным чынам рыхтаваліся, у цэнтры вёскі. Людзі, галоўным чынам прыгонныя, збіраліся на бой звона 2 разы на дзень, раніцай паміж 6-й і 7-й гадзінамі і ўвечары пасля заканчэння палявых работ. Апоўдні збіраліся толькі дзеці на катэхізацыю. Шмат часу адводзілася на малітвы і спевы, якія мусілі замацоўваць у памяці казанні. Пасля гэтага вывучалі галоўныя праўды веры і хрысціянскія абавязкі. Місія доўжылася не менш, чым тыдзень і сканчвалася споведдзю і Святой камуніяй. Місіянер быў абавязаны супрацоўнічаць з уласнікам вёскі, ад якога мусіў дабіцца дазволу на ўдзел у рэлігійных занятках прыгонных сялян, хаця б і коштам іх абавязковай працы на панскіх палетках. У нядзелю і святы рэлігійныя заняткі ў вёсцы перарываліся і пераносіліся да парафіяльнага касцёла. Місіянеры часта карысталіся ўжо гатовымі канспектамі. Напрыклад, рукапісамі Мікалая Леановіча (латыша па паходжанні), місіянера ў Хальчы.

Дзейнасць каталіцкіх ордэнаў, а таксама павелічэнне колькасці касцёлаў і капліц у маёнтках не выклікалі, аднак, значнага пашырэння каталіцтва лацінскага абраду сярод мяшчанства і сялянства ўсходняй Беларусі, якія ў XVII і XVIII ст. належалі пераважна да грэка-каталіцкай царквы. У значнай ступені на гэта

паўплывала выдадзеная Апостальскаю Сталіцаю ў 1624 г. забарона пераходу з усходняга абраду на лацінскі без папярэдняга дазволу. Гэтая забарона выклікала пратэсты мясцовай *«рускай»* шляхты і ёю ўсяляк абміналася, аднак, яна павінна была ўлічвацца рыма-каталіцкімі святарамі. Таму езуіты маглі весці місійную дзейнасць сярод іншаверцаў, да якіх залічваліся і праваслаўныя, аднак спробы перацягвання грэка-католікаў у лацінскі абрад часта выклікалі ўмяшанне грэка-каталіцкага духавенства. Бывала, што такія канфлікты заканчваліся ў касцельных судах. Такім чынам, нягледзячы на некаторую непаслядоўнасць, унія была да падзелаў Рэчы Паспалітай перашкодай, якая стрымлівала масавае акаталічванне сялянства і мяшчанства.[18] Пры гэтым трэба падкрэсліць, што менавіта каталіцкія святары, як маглі, спрыялі пашырэнню уніі на землях Гомельшчыны.

Пасля далучэння тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі расійскія ўлады тэрмінова приступілі да кадыфікацыі прававых норм дзейнасці Касцёла ў адпаведнасці з расійскім заканадаўствам і палітыкай, накіраванай на замацаванне земляў былой Рэчы Паспалітай у складзе Расійскай імперыі. Расійская ўлада ўзяла на сябе абавязацельства ахоўваць свабоду каталіцкага веравызнання. У трактаце па выніках другога падзелу Рэчы Паспалітай (ад 11 ліпеня 1793 г.) Кацярына II абвясціла *«за себя, наследников преемников своих… оставить римских католиков обоих церковных обрядов на вечные времена при спокойной принадлежности преимуществ, собственности и церквей, при свободном отправлении их богослужения и церковного порядка и при всех правах к оному принадлежащих»*. Умовай было прыняцце прысягі на вернасць.

Усе спробы Рыма наладзіць кананічныя сувязі з Касцёлам у Расіі разглядаліся ўладамі як спроба ўмяшання ва ўнутраныя справы імперыі. Кацярына II указамі ад 14 снежня 1772 г., 26 студзеня 1782 г. і 6 верасня 1795 г. забараніла абвяшчаць у імперыі папскія булы без папярэдняга іх прагляду. Указамі ад 3 ліпеня 1779 г., 9 студзеня 1780 г., 28 лютага 1784 г. і іншымі, Кацярына II абмежавала, а потым і наогул забараніла ўсялякія сувязі каталіцкага духавенства з замежжам і загадала прымаць загады толькі імператарскай улады і Сената.

У канцы XVIII ст. арцыбіскуп С.Богуш-Сестранцэвіч здзейсніў у Магілёўскай архідыяцэзіі рэарганізацыю дэканатаў у адпаведнасці з павятовымі межамі. У пачатку XIX ст. у архідыяцэзіі налічвалася 29 дэканатаў. Асноўная іх частка знаходзілася на тэрыторыі Беларусі. Цэнтрамі дэканатаў былі Бабінавічы, Віцебск, Гомель (Беліцкі дэканат), Дрыса, Копысь, Лепель, Магілёў, Мсціслаў, Орша, Полацк, Рагачоў, Рэчыца, Сянно, Чавусы і інш.

Беліцкі (Гомельскі) дэканат у 1803 г. налічваў 4 парафіі: Гомельскую, Нежынскую, Люшаўскую і Гросвердэрскую (гл. табл. 1). Неўзабаве Люшаўская парафія была перададзена на некаторы час іншаму, верагодна, Быхаўскаму дэканату.

У сярэдзіне XVIII—пачатку XIX ст. пераважную частку католікаў на Гомельшчыне складала дробная шляхта. Другой буйной групай былі сяляне-католікі, асноўная частка якіх жыла кампактна ў вёсках Рудня-Нісімкавіцкая, Рудня-Дудзіцкая, Рудня-Барталамееўская і некаторых іншых.

1.Беларусы Магілёўскай губерні. «Живописная Россия», 1882 г.

*«Зямянаў»* (буйных землеўладальнікаў) налічваўся толькі невялікі працэнт ад усіх католікаў Гомельшчыны, але яны валодалі значнай часткай зямлі. Гэта бачна на прыкладзе Чачэрскай парафіі. Буйнымі землеўладальнікамі на Чачэршчыне ў XIX ст. былі Беліцкія (маёнтак Дварэц, 1309 дзес.), Богушы (маёнтак Янова, 1048 дзес.), Герарды (маёнтак Барталамееўка, разам з Вераб’ёўкай 1688 дзес.), Дзерналовічы (маёнтак Роўкавічы, 1686 дзес.), Сіксцелі (маёнтак Рудня, 1054 дзес.), Сулістроўскія (маёнтак Гута, 2908 дзес.).

Значна больш было дробнай шляхты, якая валодала сярэднімі і невялікімі маёнткамі і фальваркамі. Вёска Асінаўка належала Сенажэцкім, Гарадок — Баркоўскім, Зарэчча — Стошу, Захарполле — У.Бішэўскаму, Меркулавічы — Забелам (582 дзес.), (Ніўкі — А.Галіноўскаму (434 дзес.), Шапатовічы — Драбышэўскім.

Малынічы складаліся з 4-х маёнткаў: Даманскіх, Маліноўскіх, Марачэўскіх, Шэлютаў. Даманскія валодалі 321 дзес., Маліноўскія — 359 дзес., Марачэўскія — 155 дзес.

Каля аколіцы Бердыж было некалькі невялікіх маёнткаў: Антушэвічаў (105 дзес.), Міцкевічаў (167 дзес.), Шэлютаў (2 маёнткі: адзін разам з Малынічамі 360 дзес., другі — 187 дзес.). Некалькі маёнткаў было каля вёскі Будзішча. Яны належалі Вартманам, Васілеўскім, Ляцецкім.

Невялікія маёнткі называлі фальваркамі. Фальваркі фігуруюць у дакументах з XVI ст. і з’яўляюцца параджэннем валочнай рэформы. Першапачаткова фальваркамі называлі толькі невялікія маёнткі, якія займаліся вытворчасцю хлеба на продаж. Пазней назва *«фальварак»* замацавалася ўвогуле за дробнымі маёнткамі.

Цэнтрам фальварка з 1770-х гг. быў сядзібны дом з ганкам на слупах і сенцамі. Злева і справа ад сенцаў анфіладна ішлі пакоі. Да ганка вяла алея, якая пераходзіла ў курданёр. Паабапал алеі, перад домам, знаходзіліся ляднік, свірны, сырніцы. За домам быў сад,

далей — гаспадарчы двор. Калі меліся рэчка ці ручай, то там звычайна размяшчаліся бровар, піваварня, саладоўня. Асобна ставіліся гуменныя пабудовы.[19]

Як правіла, у фальварках жылі аканомы або арандатары вялікіх маёнткаў. Фальваркі месціліся непадалёку ад вёскі ці вялікага маёнтка і часта мелі тую ж назву. На Чачэршчыне аднайменныя фальваркі былі побач з вёскамі Аляксандраўка, Барсукі, Валосавічы (фальварак Стахоўскіх, 575 дзес.), Залаўе, Ніўкі, Роўкавічы, Слабодка, Старыя Малынічы (фальварак Серафімовічаў, 103 дзес.), Сярэднія Малынічы (адзін фальварак належаў Кубліцкім, 118 дзес.). Побач са станцыяй і вёскай Салтанаўка знаходзіўся фальварак Салтанаўка. Побач з вёскай Асінаўка знаходзіліся 2 фальваркі з той жа назвай (адзін быў з 2-х дамоў, другі — з 4-х), побач з вёскай Дварэц — 3 фальваркі. Фальваркамі былі Дудзічы, Меркулавічы, Халочча, Шэрахаў (Сяльцо), Юзін (Крутое).[20]

Шляхта Гомельшчыны складалася з розных катэгорый. У канцы XVIII ст. шляхта (*«stan szlachecki»*) у Рэчы Паспалітай падзялялася на 4 катэгорыі: I — паўнапраўная шляхта (землеўласнікі, магнаты і шляхта на дзяржаўнай службе); II — дробныя землеўладальнікі; III — чыншавая шляхта; IV — шляхта, што знаходзілася на прыватнай службе альбо ўтрымлівалася з розных неземляробчых заняткаў.

## 2.Шляхціч. Мастак Ян Пётр Норблін.

Амаль адразу пасля падзелаў Рэчы Паспалітай аб'ектам пільнай увагі расійскіх уладаў стала шматлікая дробная шляхта (3 апошнія катэгорыі). Прычынай гэтаму была яе велізарная, з пункту гледжання расійскіх чыноўнікаў, колькасць. Паводле ўрадавай тэрміналогіі, менавіта гэтая дробная шляхта з'яўлялася ўласна *«шляхтай»*, а паўнаправная шляхта (землеўласнікі, магнаты і шляхта на дзяржаўнай службе) — *«дваранствам»*. 19 кастрычніка 1831 г. з'явіўся ўказ Мікалая I, які вызначаў тэрміны працэсу пераводу шляхты ў іншыя саслоўі. Шляхцічаў, якія не здолелі пацвердзіць прыналежнасць да прывілеяванага саслоўя, пераводзілі ў так званыя *аднадворцы*, і да канца XIX ст. яны практычна былі прыроўненыя да сялян: *«проживающие в селениях возвращенных от Польши губерний, не утвержденных в дворянстве и не пропустивших установленных для избрания рода жизни сроков, составляют свободных сельских обывателей, под названием однодворцев западных губерний»*.[21]

## 3.Тыпы польскай шляхты. Мастак Ян Пётр Норблін.

Шляхцічы-аднадворцы маглі валодаць зямлёй без сялян. Шмат шляхцічаў не мелі зямлі і мусілі арандаваць яе ў дваран-памешчыкаў. Гаспадарчыя работы яны выконвалі альбо самі, альбо з дапамогай батракоў. Аднадворцы жылі ў асноўным асобна. У цэлым жа для шляхецкага каталіцкага (ці як тады казалі *«польскага»*) насельніцтва характэрнай была наяўнасць паселішчаў рознага тыпу. Апроч вёсак, яны пражывалі таксама і на *хутарах*, у *аколіцах* і *засценках*. Гэтыя тыпы паселішчаў склаліся ў папярэдні перыяд як месцы жыхарства шляхты — ваколічнай, засцянковай. У дарэвалюцыйны час аколіцы (ад *«околоти»* — абкружаць, агароджваць) былі вельмі распаўсюджаны. Напрыклад, у Чачэрскай і Радужскай парафіях Гомельскага дэканата аколіцамі былі Асоўе, Багдановічы, Бердыж, Гарысты, Дубраўка, Куракі, Новыя Грамыкі, Падасоўе, Свяцілавічы, Старыя Грамыкі, Старыя Малынічы, Хізы, Ухова, Шапатовічы, Шапатовіцкія Паплавы і шмат іншых. Невялікія засценкі практычна нічым не адрозніваліся ад хутароў, як і аколіцы, у цэлым, ад вёсак. Аколіцы існавалі да 1938 г., калі пры чарговым упарадкаванні адміністрацыйнага статусу населеных пунктаў былі перайменаваны, разам з засценкамі, у вёскі.

Цікавая характэрыстыка шляхты дадзена ў кнізе «Опыт описания Могилевской губернии…» пад рэдакцыяй магілёўскага губернатара А.С.Дэмбавецкага: *«От исторических влияний шляхта выработала свой собственный тип… Он отличается по наружному виду, главнейше своими усами, бороду сбривает. Одежда тоже отличается от крестьянской. Шляхтич не носит белорусских ни белой свитки, ни белой магерки, но какой-нибудь серый или черный кафтан, в роде длинного сюртука, на голове картуз, тоже серый или черный.*

*В характере шляхтича отличительные черты: задор и хвастливость… Шляхтянки держали себя поодаль от крестьянок, не носили нарядов с узорами, даже кольца и бусы покупали отличные от тех, которые видели они у крестьянок».*[22]

Вялікая частка шляхты была таксама, як і большасць сялян, непісьменнай. Гэта бачна па шматлікіх архіўных дакументах, дзе вельмі часта сустракаецца такі запіс: *«а замест іх, непісьменных, па іх просьбе распісаўся…».*

Да сярэдзіны XIX ст. Беліцкі дэканат, які з 1853 г. стаў называцца Гомельскім, пашырыў свае межы як за кошт беларускіх парафій (былых езуіцкіх Чачэрскай і Радужскай парафій), так і за кошт украінскіх. У 1820 г. да дэканата была далучана Радужская

паезуіцкая парафія. У 1850 г. з Быхаўска-Рагачоўскага дэканата перададзена Чачэрская парафія. У 1854 г. дэканат налічваў 8 парафій: 4 на беларускіх землях і 4 на ўкраінскіх (гл. табл. 2).

Гомельскім дэканам у гэты час быў адміністратар Чачэрскага касцёла Мікалай Гіртовіч, які кіраваў дэканатам з Чачэрска.

На працягу 50 гадоў пасля ўключэння ўсходняй Беларусі ў склад Расійскай імперыі, з 1772 г. прыкладна па 1820 г., царская палітыка ў адносінах да Каталіцкага Касцёла была скіравана на прывядзенне яго прававога становішча ў Імперыі ў адпаведнасць з расійскім заканадаўствам.

Становішча Касцёла ва ўсходняй Гомельшчыне ў гэты перыяд ў параўнанні з часамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай істотна не пагоршылася. Наадварот, менавіта ў гэтыя часы былі пабудаваны мураваныя касцёлы ў Чачэрску, Гомелі, Радузе. У гэты ж перыяд была заснавана і большасць капліц Беліцкага дэканата.

Адносіны да Касцёла пачалі мяняцца з таго часу, калі ў 1815 г. езуітаў выслалі з Масквы і Пецярбурга, а ў 1820 г. з усёй Расійскай імперыі. У 1820 г. на Гомельшчыне былі зачынены езуіцкія кляштары ў Чачэрску і Радузе.

З 1825 да 1830 г. Касцёл ва ўсходняй Беларусі (і Расійскай імперыі ў цэлым) захоўваў свой ранейшы прававы статус і тэрытарыяльную структуру. Але з пачаткам царавання Мікалая І, які толькі ў Праваслаўнай Царкве бачыў ідэялагічны падмурак царызму, у дзейнасці Касцёла з’явіліся значныя абмежаванні. Далейшае пагаршэнне сітуацыі адбылося пасля падаўлення паўстання 1831 г.[23]

Асабліва цяжкія часы наступілі для Касцёла і католікаў пасля паўстання 1863—1864 гг. Галоўнай мэтай царскай палітыкі пасля падаўлення паўстання была поўная ліквідацыя ўплыву на жыццё краю з боку каталіцкіх і польскіх колаў, поўнае абрусенне Беларусі. Ворагам №1 урад лічыў каталіцкую шляхту. Супраць шляхты быў накіраваны шэраг абмежавальных законаў. Напрыклад былі забаронены дваранскія сходы. 10 снежня 1865 г. быў прыняты закон, які забараняў «асобам польскага паходжання» набываць зямлю ў беларускіх губернях. Таксама аб’ектам урадавага ціску стаў Каталіцкі Касцёл. Пачалося закрыццё кляштараў і касцёлаў.

Каталіцкія святары знаходзіліся пад пільным наглядам з боку мясцовых улад. Іх рэгулярна прыцягвалі да адказнасці за парушэнне шматлікіх забарон працэдуры набажэнства, за самавольны рамонт касцёлаў і крытычныя заўвагі ў адрас Праваслаўнай Царквы. У 1864 г. гомельскага дэкана Мікалая Гіртовіча, які адначасова быў адміністратарам Чачэрскага касцёла, выслалі з Чачэрска ў Томскую губерню, дзе ён і памёр у 1872 г.[24] У тым жа 1864 г. вікарны ксёндз

Радужскага касцёла Фелікс Грахольскі быў высланы ўладамі ў Наўгародскую губерню.[25]

Пры гэтым трэба адзначыць, што значная частка шляхты Гомельшчыны не падтрымала паўстання і ўсяляк выказвала сваю лаяльнасць царскай уладзе. Сярод гэтэх шляхцічаў былі наступныя асобы: павятовы спраўнік Фёдар Вікенцьевіч Вяржбіцкі, памочнік спраўніка маёр Аляксандр Вікенцьевіч Кухарскі, калежскі асэсар Ануфрый Восіпавіч Гатоўскі, прыстаў 2-га стана Васіль Іванавіч Саковіч, калежскі асэсар, прыстаў 3-га стана Нікадзім Вікенцьевіч Вірпша, сакратар паліцэйскага ўпраўлення, тытулярны саветнік Вікенцій Фаміч Харкевіч, губернскі сакратар Ілья Гаўрылавіч Акушка, дваранін Фама Восіпавіч Кубліцкі, дваранін Уладзімір Казіміравіч Піантроўскі, губернскі сакратар Іван Пятровіч Маліноўскі, калежскія сакратары Канстанцін Вікенцьевіч Лабунскі і Фама Нічыпаравіч Вяроўкін.

Памешчык Аляксандр Баляслававіч Станевіч унёс ахвяраванні на фінансаванне коннай паўсотні ратнікаў, якую стварылі для барацьбы з паўстанцамі гомельскія стараверы.

Адным з камандзіраў сялянскай варты, якая была створана для барацьбы з паўстанцамі, быў калежскі сакратар Іван Герард, а сялянскімі атрадамі апалчэнцаў супраць паўстанцаў камандавалі вышэй узгаданы адстаўны ротмістр Вяржбіцкі і памешчык Бетулінскі.[26]

Аднак такое лаяльнае стаўленне да ўладаў часткі каталіцкай шляхты не выратавала католікаў Гомельшчыны ад рэпрэсій, і ў сувязі з падзеямі 1863—1864 гг. назіралася хуткае зніжэнне колькасці гараджан-католікаў, якое доўжылася да сярэдзіны 1870-х гг. Толькі з 1880-х гг. у Гомелі, як і ў іншых гарадах Магілёўскай губерні, прасочваецца хуткі рост каталіцкага насельніцтва. Змены ў дынаміцы колькасці католікаў ва ўсіх гарадах губерні знаходзіліся пад уплывам палітычнага фактару ў сувязі з курсам на правядзенне выключных захадаў у адносінах да каталіцкага (польскага) элемента ў Паўночна-Заходнім краі пасля паўстання 1863—1864 гг. У гэты час здзяйснялася замена мясцовых кадраў у дзяржаўных і навучальных установах на выхадцаў з цэнтральных губерняў Расіі. Гэта ў значнай ступені і адбілася на дынаміцы колькасці католікаў у структуры гарадскога насельніцтва.[27]

У 1866 г. была ліквідавана Радужская каталіцкая парафія. Будынак Радужскага касцёла Унебаўзяцця, верагодна, быў перададзены Праваслаўнай Царкве, а большая частка тэрыторыі парафіі далучана да Чачэрскай.

Цыркулярам віленскага генерал-губернатара М.Мураўёва ад 1 студзеня 1864 г. забаранялася ўжываць у афіцыйнай перапісцы і

карыстацца ў грамадскіх месцах польскай мовай. Наступствы гэтай забароны прасочваюцца па архіўных дакументах. Калі яшчэ ў 1840-х гг. касцельная перапіска вялася пераважна па-польску, то пачынаючы з 1860-х гадоў толькі на рускай мове.

29 чэрвеня 1864 г. М.Мураўёвым быў падпісаны цыркуляр аб абмежаванні пабудовы новых ці аднаўлення старых рыма-каталіцкіх касцёлаў, капліц і алтароў. Паводле гэтага цыркуляру, на любы рамонт касцёла ці капліцы, нават дробны, трэба было атрымаць дазвол уладаў. Абмежаванне заставалася правамоцным і пасля вылучэння ў 1869 г. Магілёўскай губерні з Віленскага генерал-губернатарства.

Цыркулярамі ад 19 і 23 студзеня 1865 г. забаранялася прызначэнне ксяндзоў на духоўныя пасады і настаўнікамі Закона Божага ў навучальныя ўстановы без згоды губернатара. Указам імператара ад 8 кастрычніка 1865 г. было вызначана рускамоўнае вывучэнне каталіцкага катэхізіса ў беларуска-літоўскіх губернях.

Цыркуляры ад 8 ліпеня 1864 г. і 19 верасня 1867 г. прадугледжвалі абавязковы дазвол адміністрацыі на ўстаноўку прыдарожных крыжоў і ўмацаванне на іх абразоў.[28]

Частка католікаў была гвалтоўна пераведзена ў праваслаўе. Так, за перыяд з 1863 г. па 15 ліпеня 1866 г. у Магілёўскай губерні было пераведзена ў праваслаўе 983 чалавекі. Некаторыя католікі перайшлі ў праваслаўе дабраахвотна, каб пазбегнуць ціску і рэпрэсій з боку ўладаў.

Паводле падлікаў В.Яноўскай (Грыгор'евай), доля католікаў у насельніцтве Магілёўскай губерні за перыяд ад пачатку 1860-х да 1897 г. зменшылася з 4,66% да 2,9%.[29]

З канца 1860-х гг. адбываліся пэўныя перамены ў сферы антыкасцельных мерапрыемстваў. Улады, не адмяняючы абмежавальных цыркуляраў, сталі значна менш выкарыстоўваць супраць каталіцкай канфесіі рэпрэсіўныя сродкі.

К пачатку 1880-х гг. Гомельскі дэканат налічваў 5 парафій, 20 капліц і 5830 католікаў. У Гомельскай парафіі ў гэты час быў 1 касцёл, 9 капліц і 2223 вернікі.[30]

У 1882 г. з Рагачоўска-Быхаўскага дэканата ў Гомельскі была перададзена Антушаўская парафія.

Апублікаваны 17 красавіка 1905 г. указ аб верацярпімасці нарэшце прынёс рэлігійным меншасцям імперыі (і католікам у тым ліку) адносную доўгачаканую свабоду веравызнанняў. Згодна з указам пераход з праваслаўя ў іншыя веравызнанні больш не пераследаваўся законам. Указ стаў падставай для аднаўлення адносна нармальнай дзейнасці Каталіцкага Касцёла, хаця цяжкасці і перашкоды заставаліся і надалей. У перыяд з 1905 г. па 1909 г. у

Расійскай імперыі, толькі паводле афіцыйных дадзеных, 233 тыс. чалавек перайшлі ў каталіцтва.

Дакладна невядома, колькі чалавек на тэрыторыі Гомельскага дэканата сталі каталікамі, але несумненна, што пераход у каталіцтва на Гомельшчыне меў месца. Так, Язафат Жыскар на старонках кнігі «Nasze koscioły. Archidjecezja mohylewska» прыводзіць звесткі аб пераходзе (або, дакладней, вяртанні) у каталіцтва значнай колькасці сем'яў аколіцы Любавін у Люшаўскай парафіі.[31]

Прычым былі выпадкі, калі парафіянамі гомельскага касцёла станавіліся нават яўрэі. Напрыклад дзядзька гамяльчаніна Хаіма Куніна: *«Сам дядя Тадик (от польского Тадэуш) уже второй десяток лет регулярно посещал костел на Румянцевской* (на самой справе касцёл знаходзіўся на Замкавай — У.В.)*, хотя дома все говорили в основном на идиш. В отсутствие чужих ушей, разумеется».*[32]

У 1914 г. выбухнула Першая сусветная вайна, якая ў значнай ступені паўплывала на грамадскае становішча жыхароў Гомеля і ўсёй Магілёўскай губерні, у тым ліку і на становішча католікаў. Для каталіцкай грамадскасці Гомеля (і ў цэлым Магілёўскай губерні) пэўным пераломам быў не столькі сам выбух Першай сусветнай вайны, колькі прыбыццё на гэтыя землі з тэрыторый Каралеўства Польскага і заходняй Беларусі восенню 1915 г. тысяч польскіх бежанцаў (уцекачоў). У Магілёўскай губерні налічвалася каля 146 тыс. уцекачоў, з іх каля 75 тыс. знаходзіліся пад апекай польскіх арганізацый дапамогі. З прыбыццём уцекачоў паўстала неабходнасць дапамогі гэтым людзям. Для арганізацыі такой дапамогі былі заснаваны камітэты, якія стварылі бюро працаўладкавання і танныя сталоўкі. У Гомелі найбольш дапамагалі мясцовыя абшарнікі (буйныя землеўласнікі) Фелікс і Караль Фашчы.[33]

Каталіцкае (пераважна польскае) насельніцтва Гомеля ў час Першай сусветнай вайны за кароткі тэрмін павялічылася са звычайных 1700—1800 чалавек прыкладна да 4700 чалавек (1916—1917 гг.).[34]

Прыбыццё польскіх уцекачоў умацавала каталіцкі асяродак Гомеля. Але яны ў сваёй большасці былі носьбітамі польскай нацыянальнай самасвядомасці і ўжо адной сваёй прысутнасцю тут як бы заклікалі католікаў да праявы пачуцця польскага патрыятызму. Вялікая колькасць уцекачоў не да канца разумела спецыфіку нацыянальных і палітычных стасункаў на Беларусі.[35]

Такім чынам, Першая сусветная вайна разам з часовым узмацненнем польскасці (а таксама і каталіцкасці) на Гомельшчыне,

звязаным з прыбыццём польскіх уцекачоў, у канчатковым выніку стала і прычынай паслаблення гэтай каталіцкасці.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. выклікала дэмакратызацыю ўсіх сфер жыцця грамадства. Была абвешчана свабода веравызнання, і такім чынам юрыдычна было скасавана дамінаванне Праваслаўнай Царквы. Каталікі Беларусі нарэшце атрымалі магчымасць адкрыта змагацца за свае правы.[36] У сакавіку 1917 г. быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт з прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і партый, у які ўвайшлі і беларускія каталіцкія святары. 25 красавіка 1917 г. магілёўскаму арцыбіскупу быў уручаны мемарыял, дзе прапаноўвалася ўвесці ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі, якая знаходзілася ў Петраградзе, лекцыі па беларускай мове, літаратуры і гісторыі Беларусі. Таксама прапаноўвалася рэкамендаваць духавенству звяртацца да вернікаў па-беларуску, перадаць католікам касцёлы, канфіскаваныя раней, у якіх планавалася весці беларускую працу, ініцыяваць друк рэлігійнай літаратуры і перыядычных выданняў па-беларуску.[37]

Гэта, зразумела, не магло спадабацца польскамоўнай каталіцкай грамадскасці, у тым ліку і Гомеля, якая пераважна атаясамлівала сябе з Польшчай. Гомельскія католікі паставіліся да беларусізацыі Касцёла насцярожана, калі не сказаць варожа. Гэта бачна з ліста сакратара Гомельскай тэхнічнай школы Аляксандра Дамарацкага да мітрапаліта Цепляка.

24 чэрвеня 1917 г. Дамарацкі пісаў: *«Аселы тут* (на Гомельшчыне, — У.В.) *з незапамятных часоў люд польскі, які на працягу ста гадоў вынішчалі маральна і культурна, не скарыўся, аднак, знішчэнню, пераЖыў часы Сямашкі*[38]*, калі ўсё, што насіла імя уніята, было «міласэрна» зачэрпнута да праваслаўя, а ўсё, што засталося польскага, то ўрадамі Навасільцавых, Мураўёвых, Пабеданосцавых і сучасных Яўлогіеў і Мітрафанаў*[39] *ператворана ў «беларусаў» каталіцкага вызнання. Гэтаму вельмі дапамагла маскоўская русіфікатарская школа, потым пазбаўленне польскага буквара і катэхізму, перасследванне польскай школы і нават хатняй навукі. Але гэтыя навасфабрыкаваныя «беларусы» сёння абудзіліся і разважаюць, чаму іх называюць беларусамі, пацеры ж ад веку ад дзядоў і прадзедаў маюць польскія! Малітва польская! То хіба таму нас так называюць, — тлумачыць польскі вясковец, — што мы на Беларусі жывем».*[40]

Далей Дамарацкі пісаў пра важнае становішча Гомеля і Праваслаўную Царкву: *«Прадбачлівае праваслаўе зразумела важную ролю Гомеля ў палітычным і нацыянальна-рэлігійным жыцці, а таму пакрыла горад і ваколіцы сеткай царкоўных школ, каб яшчэ мацней замацавацца ў гэтым краі і надаць яму рускі выгляд. Для*

*гэтага заснавана асобнае «Гомельскае біскупства», і цяпер у Магілёўскай губерні ёсць два праваслаўныя біскупы: магілёўскі — Канстанцін і гомельскі — Варлам. А мы — каталікі, зрабілі нейкі крок, каб абараніцца? Не! Гаспадар спіць, а вораг на яго полі куколь сее. А між тым чуюцца лозунгі: «Прэч з Богам!», «Прэч з касцёлам!», «Прэч з ксяндзамі!» ... Ад часоў ксяндза Яўгена Мірскага не маем у Гомелі прапаведніка, які б жывым словам запальваў, захапляў, адраджаў! Пуста і глуха! Вее ледзяны холад духоўнай смерці...».*[41]

## 4.Законанастаўнік ксёндз Яўген Святаполк-Мірскі.

Перыяд зацішша паміж Лютаўскай рэвалюцыяй і Кастрычніцкім пераваротам 1917 г., які працягваўся некалькі месяцаў, стаў адзіным часам для вольнага існавання Каталіцкага Касцёла як ва ўсёй Расіі, так і ва ўсходняй Беларусі ў прыватнасці.

У гэты час гомельскі дэкан Ячэйка аб становішчы на Гомельшчыне і аб католіках Гомельшчыны пісаў наступнае: *«Сяляне прагнуць паляпшэння быту. Да памешчыкаў стаўленне ў пэўным сэнсе негатыўнае. Да яўрэяў яшчэ горшае. Тыя, хто лічыцца палякамі, карыстаюцца гутарковай беларускай мовай. У некаторых мясцовасцях у гэтай беларускай мове больш рускіх выразаў. Прагнуць вучыцца па-польску. З людзьмі іншых нацыянальнасцяў мясцовыя людзі (католікі) жывуць у згодзе. Арганізацыі ЦКО*[42] *спрыяюць, а ПТПО*[43] *падтрымліваюць, беручы ў іх працы чынны ўдзел. Падобна ж ставяцца да іншых арганізацый. Жадаюць мець свае нацыянальна-каталіцкія школы. А калі застануцца дзяржаўныя школы ў тым самым стане, у якім яны знаходзяцца сёння, то жадаюць выкладання для сябе ў роднай мове (тут маецца на ўвазе польская мова, — У.В.) рэлігіі, таксама мовы, роднай гісторыі і геаграфіі. Гомельскі гарнізон задаволены сваімі капеланамі, але давялося чуць нараканні на рэдкія прыезды вайсковых капеланаў».*

А вось што пісаў А.Ячэйка пра задачы каталіцкага клеру і парафіяльнага актыву: *«Праз выданні і брашуры трэба прышчапляць рэлігійна-маральную асвету, трэба ўладкоўваць матэрыяльныя справы, засноўваць дэмакратычна-хрысціянскія саюзы і іншыя арганізацыі, якія датычацца польскага люду па вёсках, мястэчках і гарадах з цэнтральнай арганізацыяй у парафіі. Трэба засноўваць страхавое таварыства, ствараць трацейскія суды, трэба стаяць на каталіцкай платформе, падтрымліваць сваё, спрыяць іншым, унікаць нацыянальнага шавінізму. Трэба закладаць новыя і пашыраць існуючыя чыста каталіцкія і навуковыя*

*бібліятэкі. Заахвочваць з амбона да чытання добрых кніжак, часопісаў, выяўляць кепскія. Дзе няма школ — ствараць парафіяльныя. Існуючыя земскія ці народныя рэфармаваць у духу, прыязным да каталіцтва. Даваць мажлівасць заробку, засноўваць дамы працы, прытулкі для жабракоў (старцаў) і г.д. Засноўваць каталіцкія дамы, ці дабрачынныя таварыствы. Арганізоўваць на месцы каталіцкія саюзы. Галасаваць за прыхільныя Каталіцкаму Касцёлу партыі. Прызначаць у вялікай колькасці вайсковых капеланаў».*[44]

Аднак гэтыя задачы і мэты ў большасці так і засталіся нявыкананымі.

У першыя гады савецкай улады становішча Касцёла значна пагоршылася. Фармальнай прычынай для пачатку ганенняў на рэлігію наогул і асабліва на хрысціянства стаў дэкрэт ад 23 студзеня 1918 г. «Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы». У жніўні 1918 г. была выдадзена інструкцыя, якая пазбаўляла рэлігійныя арганізацыі юрыдычных правоў і маёмасці. Дэкрэты ад 26 снежня 1921 г. і 3 студзеня 1922 г. уводзілі цэнзуру казанняў і забарону на рэлігійнае навучанне дзяцей да 14 гадоў. Улада ініцыявала стварэнне атэістычных арганізацый.

Аб цяжкім становішчы Касцёла на Гомельшчыне ў першыя гады савецкай улады можна дазнацца з архіўных дакументаў. Адным з такіх дакументаў з'яўляецца перапіска гомельскага пробашча Шчэнха з біскупам Цепляком і віцэ-канцлерам Івановым. 14 студзеня 1921 г. Шчэнх пісаў біскупу Цепляку, што *«у Гомельскім дэканаце працы шмат і яна толькі прыбаўляецца»*. Ён прасіў біскупа прыслаць ксяндза для Хойнікаў, Астраглядавіч і Рэчыцы, дзе ўжо некалькі месяцаў, ад самага адступлення польскага войска, іх не было. Не было святароў і ў Мазыры і Калінкавічах. Былі арыштаваныя ў гэты час магілёўскі дэкан Белагаловы і ксёндз Антоні Ярмаловіч. Таму Шчэнх прасіў прыслаць ксяндза ў гэтыя мясцовасці. *«А тым часам,* — пісаў Шчэнх, — *ён паслаў на тыдзень ці два чачэрскага пробашча Альбіна Шацілу для аб'езду Хойніцкай, Астраглядавіцкай і Рэчыцкай парафій, якія заставаліся без духоўнай апекі»*. Таксама Шчэнх выказваў надзею, што яму прышлюць у Гомель ксяндза на дапамогу.[45]

Віцэ-канцлер Дамінік Іваноў, які доўгі час працаваў у Гомелі законанастаўнікам, адказаў Шчэнху, што *«святароў для памянёных парафій Мінскай дыяцэзіі няма, бо там працуюць толькі тры святары, і біскуп даручае ксяндзу Мустэйкісу з Антушаў і ксяндзу Лупіновічу з Жлобіна, каб яны, па магчымасці, паразумеліся паміж сабой і абслугоўвалі парафіі ў Ігуменскім і Бабруйскім дэканатах»*.

Далей Іваноў пісаў, што *«дэлегаванне ксяндза Шацілы для аб'езду Хойніцкай, Астраглядавіцкай і Рэчыцкай парафій было вельмі пажаданым і можа выкарыстоўвацца і ў будучыні, і калі ўмовы не зменяцца, то няхай ксёндз Шаціла нейкі час аб'язджае тыя пункты. Таксама трэба ў гэтым жа накірунку штурхаць ксяндзоў Мустэйкіса і Лупіновіча, каб і яны перамаліся гэтай справай і неслі рэлігійную дапамогу католікам, якія засталіся без апекі. Прысласць другога ксяндза ў Гомель для дапамогі Шчэнху немагчыма»*.[46]

З прыняццем пастановы УЦВК[47] ад 16 лютага 1922 г., якая дэкларавала прымусовую здачу *«усіх каштоўных рэчаў з золата, серабра і каменняў, канфіскацыя якіх не можа істотна закрануць інтарэсы самога культу»* пачаўся адлік маштабнай усерасійскай кампаніі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў.

На пасяджэнні Польбюро[48] Гомельскага губкама РКП(б) 12 красавіка 1922 г. было пастаўлена пытанне аб неабходнасці прыступіць да агітацыйнай працы сярод польскага (каталіцкага) насельніцтва па канфіскацыі літургічных рэчаў з касцёла на карысць галадаючых Паволжа. У выніку было прынята рашэнне правесці шэраг мітынгаў і сходаў гомельскіх палякаў (католікаў) па пытанні аб канфіскацыі з мясцовага касцёла літургічных рэчаў. Таксама было вырашана канфіскаваць літургічныя рэчы з усіх касцёлаў Гомельскай губерні. У сувязі з супрацівам канфіскацыі быў арыштаваны выконваючы абавязкі гомельскага пробашча ксёндз Леан Буйноўскі і найбольш актыўныя гомельскія парафіяне.

У 1923 г. Гомельскі дэканат налічваў 8 парафій і 6 святароў (гл. табл. 3). Прыкладна з 1923 г. антырэлігійная прапаганда на некалькі гадоў крыху аслабла. Тлумачыцца гэта не зменай уладамі стаўлення да рэлігіі, а неэфектыўнасцю антырэлігійнай прапаганды. На мясцовым узроўні не было падрыхтаваных кадраў, якія б маглі прафесійна весці антырэлігійную працу. Нават у 1928 г. сітуацыя не змянілася. Аб гэтым гаворыць пратакол №1 нарады актыву палякаў — членаў і кандыдатаў у члены КП(б)Б, у якім адзначаецца, што барацьба з рэлігіяй *«у Гомелі і Рэчыцы зусім не праводзілася, лічачы гэта... недапушчальным, пры наяўнасці кіраўнічых клерыкальных арганізацый у гэтых гарадах»*.[49]

У 1925—1926 гг. у Гомельскім дэканаце было 7 парафій (гл. табл. 4) і працавалі 4 ксяндзы: К.Андрэкус — гомельскі дэкан і адміністратар Гомельскай парафіі, К.Мустэйкіс — адміністратар Антушаўскай парафіі, Б.Валынец — філіяліст Люшаўскай парафіі, адміністратар Чачэрскай парафіі і П.Бараноўскі — адміністратар Нежынскай парафіі.[50]

У канцы 1920-х гг. (у гэты час на тэрыторыі Гомельскай акругі было 3 касцёлы і 8 капліц, гл. табл.) палітыка савецкай дзяржавы кардынальна мяняецца. У сувязі з пастановай УЦВК РСФСР «Аб рэлігійных аб'яднаннях» ад 8 красавіка 1929 г. пачынаецца *«разгорнуты наступ сацыялізму»* на рэлігію. Узмацняецца антырэлігійная прапаганда, пачынаецца закрыццё храмаў і рэпрэсіі супраць духавенства. За кароткі перыяд практычна ўсе касцёлы і капліцы былі зачынены. У 1930 г. ва ўсходняй Гомельшчыне дзейнічалі толькі Гомельскі касцёл і капліца ў Рудні-Стаўбунскай, якая таксама хутка (у тым жа годзе) была ліквідавана. Да 1937 г. усе каталіцкія святары на тэрыторыі Гомельскага дэканата былі арыштаваны, а Гомельскі касцёл зачынены. Большая частка арыштаваных святароў была расстраляна.

Каб паралізаваць працу рэлігійных структураў, савецкай уладзе трэба было прапанаваць нацыянальна-рэлігійным меншасцям нешта ўзамен, хаця б і нейкі эрзац. Таму яшчэ ў 1919 г. пры Гомельскім губкаме РКП(б) была створана польская секцыя. У губерні дзейнічалі польскія школы. Пачатак польскім савецкім школам быў пакладзены пастановай Народнага камісарыята асветы ад 31 кастрычніка 1918 г. «Аб школах нацыянальных меншасцяў». Праца гэтых школ праходзіла складана з-за некампактнага пражывання каталіцкага «польскага» насельніцтва (спіс польскіх культурна-асветных устаноў Гомельскай акругі на 1927 г. гл. у табл.).

Варта адзначыць той цікавы момант, што ўплыў Каталіцкага Касцёла на каталіцкае вясковае грамадства Гомельшчыны ў пачатку XX ст. быў у цэлым мацнейшы, чым уплыў Праваслаўнай Царквы на праваслаўнае грамадства. Магчыма, у гэтым адна з прычын папулярнасці сярод беларускага праваслаўнага сялянства сацыялістычных ідэй і даволі масавай падтрымкі ім камуністычнага руху. А вось вясковае каталіцкае насельніцтва Гомельшчыны мела моцную прышчэпку ад камуністычных ідэй. Каб не быць галаслоўным, варта прывесці такі факт: у 1927 годзе на ўсю Гомельскую акругу прыходзіўся толькі адзін член і два кандыдаты ў партыю з сялян-«палякаў».[51]

Канстытуцыя БССР 1927 г. заканадаўча замацавала палітыку па стварэнні ў мясцовасцях з кампактнай большасцю насельніцтва пэўнай нацыянальнасці нацсаветаў. Такая палітыка праводзілася з 1924 г. Нацыянальныя саветы з'яўляліся органамі ўлады, якія разам з выкананнем універсальных агульнасавецкіх функцый павінны былі забяспечваць гаспадарчае і культурнае развіццё нацыянальных меншасцяў.

З 22 польскіх сельсаветаў у тагачаснай БССР 11 былі на Гомельшчыне. На тэрыторыі былога Гомельскага дэканата існавалі

Рудня-Стаўбунскі, Рудня-Шлягінскі, Рудня-Нісімкавіцкі, Нова-Малыніцкі, Падасоўскі і Любавінскі польскія сельсаветы:

Рудня-Шлягінскі — усяго насельніцтва 1125 чал., палякаў 820 чал. (72,9%);

Рудня-Нісімкавіцкі — усяго 1106 чал., палякаў 1106 чал. (100%); Рудня-Стаўбунскі — усяго 720 чал., палякаў 665 чал. (92,4%), беларусаў 5 чал. (0,7%);

Нова-Малыніцкі — усяго 674 чал., палякаў 536 чал. (79,5%), беларусаў 119 чал. (17,7%).

Па Любавінскаму і Падасоўскаму польскіх сельсаветах даных няма.[52]

Пачынаючы з 1934 г. нацсаветы паступова ліквідуюцца. Скасаванне Нова-Малыніцкага, Рудня-Нісімкавіцкага і Падасоўскага польскіх сельсаветаў Чачэрскага раёна ў кастрычніку 1934 г. абгрунтоўвалася тым, што большасць насельніцтва ў іх складалі беларусы. У папярэдніх абследаваннях Чачэрскага раёна адзначалася, што польскія сельсаветы і хаты-чытальні на іх тэрыторыі працуюць на беларускай і рускай мовах. Таксама адзначалася, што *«насельніцтва польскіх вёсак не палякі, а акаталічаныя беларусы, якія лічаць сябе палякамі»*.

Улічваючы масавы супраціў «польскіх» сялянаў калектывізацыі, абвастрэнне адносін паміж СССР і Польшчай, нарастанне ў СССР масавых палітычных рэпрэсій, у значнай ступені скіраваных і супраць польскага насельніцтва, можна меркаваць, што ў паступовага ліквідавання польсаветаў былі палітычныя падставы. З 1936 г. у адпаведных актах ужо прама гаварылася пра шкодныя мэты пры стварэнні польсаветаў. У 1934 г. у БССР было 40 польскіх нацсаветаў, у 1935 г. — 34, у 1936 г. — 29, у 1937 — 19, у 1938 г. — ніводнага.[53]

На 1929 г. каталіцкае насельніцтва Гомельскага дэканата пражывала ў асноўным у гарадах Гомелі і Добрушы і ў сельскіх каталіцкіх («польскіх») населеных пунктах (гл. табл. 5).

На тэрыторыі Гомельскага дэканата, дзе каталіцкія структуры былі практычна знішчаны ў канцы 1930-х гг., апроч Гомеля ў пасляваенны перыяд нелегальна дзейнічалі толькі 3 нешматлікія групы католікаў: 2 групы ў вёсцы Рудня-Стаўбунская Веткаўскага раёна і 1 ў Свяцілавіцкім раёне (раён скасаваны ў 1957 г.).[54] Лакалізацыя свяцілавіцкай групы з даступных дакументаў невядомая. Магчыма, група дзейнічала ў вёсцы Рудня-Шлягіна, дзе каталіцкая традыцыя працягвалася да самага адсялення вёскі ў канцы 1980-х гг.

1940-я і 1960-я гг. характарызуюцца адміністрацыйным уціскам на Рыма-каталіцкі Касцёл у Беларусі ў цэлым і ва ўсходняй Беларусі

ў прыватнасці. Нягледзячы на намаганні вернікаў усходніх абласцей дамагчыся рэгістрацыі парафій і адкрыцця капліц і касцёлаў, уладамі гэта не было дазволена. Пры гэтым нельга сказаць, што ў адмове ў рэгістрацыі вінаватыя толькі цэнтральныя ўлады СССР. У 1955 г. старшыня Савету па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР І.Палянскі накіраваў у ЦК КПСС ліст аб неабходнасці пашырэння колькасці касцёлаў на Беларусі. Яго ў гэтым падтрымаў упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР К.Уласевіч. Перад партыйнымі органамі рэспублікі было пастаўлена пытанне аб мэтазгоднасці адкрыцця касцёлаў у Гомельскай, Віцебскай і Мінскай абласцях — там, дзе яны былі зачынены 30 гадоў таму, аднаўленні ў Мінску каталіцкага цэнтра з біскупам. Але рэспубліканскія партыйныя органы праігнаравалі гэтую ініцыятыву.[55]

У першай палове 1959 г. католікі Гомеля падалі заяву аб адкрыцці ў горадзе касцёла. Улады гэтага не дазволілі. Такім чынам, шмат залежыла ад рашэнняў мясцовай улады і яе адносінаў да Каталіцкага Касцёла. Пры гэтым уладамі рэгістраваліся дэнамінацыі пратэстанцкіх накірункаў. Дазвалялася катэхізатарская дзейнасць Праваслаўнай Царквы. Але гэтая дзейнасць, зрэшты, была абмяжавана сценамі храма. Таму можна меркаваць, што наяўнасць на сённяшні дзень значнай колькасці пратэстанцкіх і неапратэстанцкіх груповак і больш трывалыя пазіцыі Праваслаўнай Царквы ў параўнанні з Каталіцкім Касцёлам ва ўсходняй Беларусі абумоўлены не ў апошнюю чаргу і адміністрацыйным уздзеяннем на канфесіі рэгіёна ў паваенны час.

У канцы 1980-х гг. адраджэнне каталіцтва ва ўсходняй Беларусі ўсё ж адбылося.

Вялікую ролю ў гэтым працэсе адраджэння адыграла сустрэча Генеральнага сакратара ЦК КПСС М.С.Гарбачова з папам Янам Паўлам ІІ, якая адбылася 1 снежня 1989 г.

На беларускай тэрыторыі былога Гомельскага дэканата ізноў паўсталі Гомельская і Жлобінская парафіі. Ажывілася рэлігійнае жыццё ў каталіцкай вёсцы Рудня-Стаўбунская на Веткаўшчыне.

8 верасня 2007 г. у Гомельскім касцёле ў час урачыстага набажэнства ў гонар Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі было агалошана рашэнне апостальскага адміністратара Пінскай дыяцэзіі кардынала Казіміра Свёнтэка аб стварэнні (больш правільна — аднаўленні) Гомельскага дэканата. Гомельскім дэканам быў прызначаны пробашч Гомельскага касцёла ксёндз Славамір Ляскоўскі. У новы Гомельскі дэканат увайшлі каталіцкія парафіі Гомеля, Акцябрскага, Жлобіна, Рагачова, Рэчыцы і Светлагорска.

5.Карта «Каталіцтва ва ўсходняй Гомельшчыне».

## 2. МОЎНАЕ ПЫТАННЕ Ў ЖЫЦЦІ КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

Да Другога Ватыканскага Сабору (1962—1965 гг.) Імша ва ўсім Каталіцкім Касцёле вялася на лацінскай мове. На нацыянальных мовах адбываліся толькі дадатковыя набажэнствы і казанні. На Беларусі казанні і дадатковыя набажэнствы былі ў асноўным польскамоўнымі, хаця ў 1860-х—1870-х гг. царскія ўлады і спрабавалі ўвесці ў жыццё Касцёла рускую мову, але гэтыя спробы праваліліся. У 1871 г. гомельскія парафіяне разам з пробашчам Ф.Пятроўскім адмовіліся ўводзіць дадатковыя набажэнствы на рускай мове.[56]

Польскамоўнай была і рэлігійная каталіцкая літаратура, за выключэннем невялікай колькасці беларускамоўных выданняў, з якіх можна прыгадаць Каталіцкі катэхізм, выдадзены езуітамі ў 1585 г. у Вільні; кантычкі для ўжытку беларусаў-католікаў, выдадзеныя тымі ж езуітамі ў Полацку і катэхізмы па-беларуску, надрукаваныя ў 1838 г. у Віленскай дыяцэзіі, а ў 1861 г. перавыдадзеныя ў Варшаўскай. Але не выклікае сумненняў і тое, што для неадукаваных вернікаў-сялян і вернікаў з дробнай шляхты, якія кепска разумелі польскую мову, святары і манахі-езуіты вымушаны былі прамаўляць казанні па-беларуску — на мове штодзённага ўжытку гэтых вернікаў.

Перад Першай сусветнай вайной у Магілёўскай губерні (у якую ўваходзіла сучасная ўсходняя Гомельшчына) налічвалася каля 30 тыс. католікаў-беларусаў.[57] У Гомельскім дэканаце такіх вернікаў-беларусаў, якія кепска разумелі польскую мову, была значная колькасць (прыкладна 5—7 тыс.), асабліва ў Чачэрскай парафіі і філіі Рудня-Шлягіна. Пацвярджэнне гэтаму можна знайсці ў кнізе ксяндза Я.Жыскара «Nasze kościoły». Жыскар пісаў, што парафіяне Чачэрскай парафіі, апрача малалікай дробнай шляхты і некалькіх земляўласнікаў, пераважна беларусы. Таму святары ў капліцах прамаўляюць да іх па-беларуску. У Рудні-Шлягіна католікамі былі пераважна дробныя шляхцічы і часткова сяляне-беларусы. *«Мусім сцвердзіць, што з нацыянальнага погляду засталося тут мала польскасці. Нават дробная шляхта забыла мову сваіх прабацькоў...»* — пісаў Я.Жыскар.[58]

Але пры гэтым трэба адзначыць, што самі ўсходнебеларускія каталікі-сяляне, якія размаўлялі па-беларуску і практычна не разумелі польскай мовы, усё адно цягнуліся да гэтай польскай мовы (для іх сакральнай) і польскіх кніг. Беларускую мову яны лічылі некаталіцкай, а беларускія кнігі штучнымі. І хаця, па словах ксяндза Жыскара, беларускае кнігадрукаванне пачало развівацца і беларуская кніга пачала займаць ганаровае месца ў бібліятэках, але толькі ў бібліятэках заможных людзей, памешчыкаў і інтэлігенцыі. А вось у хаце беларускамоўнага селяніна-каталіка, які акрамя гэтай мовы іншых не ведаў, беларускай кнігі не было.[59]

Некаторыя святары, якія працавалі ў Гомельскім дэканаце, былі звязаны з нацыянальна-рэлігійным беларускім рухам. Сярод іх Баляслаў Валынец, Юзаф Ворслаў, Пётр Грыб, Ян Жаўрыд, Вінцэнт Ільгін, Юзаф Лук'янін, Карл Лупіновіч, Леан Буйноўскі, Альбін Шаціла.[60]

Адзін з пералічаных — Карл Лупіновіч, у 1914-1917 гг. быў удзельнікам беларускага гуртка ў Рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Петраградзе. Члены гуртка займаліся таксама нацыянальным выхаваннем беларускіх семінарыстаў, якія вучыліся ў Мітрапалітальнай духоўнай семінарыі ў Петраградзе.[61]

Ксёндз Лупіновіч у 1920 г. быў вікарыем Гомельскага касцёла, з 1920 г. па 1921 г. працаваў на пасадзе капелана Жлобінскай капліцы ў Антушаўскай парафіі. З 1917 г. прымаў удзел у беларусізацыі нацыянальна-рэлігійнага жыцця. Выступаў перад вернікамі з беларускімі казаннямі.

Баляслаў Валынец з 1921 г. філіяліст Люшаўскага касцёла і капелан Жлобінскай капліцы. З 1924 г. абслугоўваў яшчэ і Чачэрскую парафію. 20 кастрычніка 1929 г., пасля набажэнства ў Люшаўскім касцёле, Валынец пад ціскам АДПУ[62] публічна адмовіўся ад святарства.

Юзаф Ворслаў з 1914 г. да 1919 г. працаваў вікарыем Гомельскага касцёла.

Пётр Грыб у 1914—1917 гг. быў Люшаўскім філіялістам.

Ян Жаўрыд з 1910 г. да 1912 г. выконваў абавязкі філіяліста ў Люшаўскім касцёле.

Вінцэнт Ільгін з 1910 г. да канца 1918 г. быў пробашчам Чачэрскага касцёла. Менавіта яго меў на ўвазе Я. Жыскар, пішучы, што святары ў капліцах Чачэрскай парафіі прамаўляюць да вернікаў па-беларуску.

Юзаф Лук'янін працаваў адміністратарам Рудня-Шлягінскай парафіі з 1918 г. па 1921 г.

Леан Буйноўскі у 1921 г. быў прызначаны капеланам Рудня-Шлягінскай капліцы. Пазней, да 1922 г., таксама фактычна выконваў

абавязкі пробашча і дэкана ў Гомелі. Паводле адной з версій, у 1943 г. Буйноўскі быў расстраляны нацыстамі ў Баранавічах за невыкананне загаду аб увядзенні ў Касцёл беларускай мовы.[63] Але больш верагодна, што ён загінуў у Калдычаўскім лагеры.

*Калдычаўскі канцэнтрацыйны лагер існаваў у часы нямецкай акупацыі (1942-1944 гг.) у Баранавіцкім раёне, у Міхновіцкім лесе паміж вёскамі Калдычава і Міхноўшчына. У лагеры было знішчана 22 тыс. чалавек: беларусаў, палякаў, яўрэеў. Аховай лагеру займалася 7-я рота 13-га беларускага батальёна СС пры Баранавіцкім СД. У лагеры былі замучаны і пахаваны ў брацкай магіле прыкладна 40 каталіцкіх святароў.*

Малаверагодна, што Леан Буйноўскі, які быў удзельнікам нацыянальна-рэлігійнага беларускага руху, быў супраць увядзення беларускай мовы ў Касцёл. Можна выказаць версію, што ўлічваючы нацыянальна-моўныя рэаліі Заходняй Беларусі, ён выступіў супраць поўнага выцяснення польскай мовы з ужытку ў Касцёле, за што з падачы асобных беларускіх нацыяналістаў і быў пакараны смерцю.

Альбін Шаціла з 1920 г. па 1924 г. быў адміністратарам Чачэрскай парафіі.

Прыхільна ставіліся да выкарыстання беларускай мовы ў касцельным жыцці не толькі шараговыя святары, але і каталіцкія іерархі арцыбіскуп Эдвард Роп і біскуп Баляслаў Слосканс.

## 6.Эдвард Роп

## 7.Біскуп Баляслаў Слосканс

Латыш Баляслаў Слосканс у маі 1926 г. атрымаў прызначэнне на пасаду апостальскага адміністратара мінскага і магілёўскага. У сваіх казаннях ён выкарыстоўваў і беларускую, і польскую мовы. Каб растлумачыць стаўленне да моўнай палітыкі, ён падчас наведвання Гомельскай парафіі звярнуўся ў Гомельскім касцёле да прысутных вернікаў (частка якіх належала да інтэлігенцыі) па-польску: *«Казанне мае на мэце высвятліць усім вернікам, без розніцы ступені іхняй асветы, найважнейшую справу іхняга жыцця, справу збаўлення душы. Дык гаварыць аб гэтым у такой мове, якую добра не разумеюць шырокія масы, было б дарэмнаю гаворкаю, а казаць два казанні ў розных мовах я не маю часу. Дзеля гэтага прашу інтэлігенцыю прыстасавацца да мовы шырокіх колаў*

*вернікаў і выслухаць казанне ў беларускай мове»*. За сваю актыўную дзейнасць на пасадзе апостальскага адміністатара Б.Слосканс у верасні 1926 г. быў арыштаваны і высланы ў Салавецкі лагер.[64]

## 8.Баляслаў Слосканс

Сёння, у адпаведнасці з рашэннямі Другога Ватыканскага сабора, набажэнствы ў Гомельскім касцёле і іншых касцёлах адроджанага Гомельскага дэканата адбываюцца на беларускай мове. Але тут трэба ўдакладніць, што па жаданні гомельскіх вернікаў, у асноўным рускамоўных, казанні ў Гомельскім касцёле гучаць па-руску. Таксама ёсць адна Імша на тыдзень, якая адбываецца па-польску. Наогул, для гомельскіх ксяндзоў характэрна падкрэсліванне таго, што Каталіцкі Касцёл мае сусветны характар і звяртаецца да ўсіх людзей на той мове, якую яны разумеюць і якой валодаюць, і што Касцёл дапамагае кожнаму чалавеку, незалежна ад нацыянальнасці, падрыхтавацца да сустрэчы з Богам.[65]

# II. ГОМЕЛЬСКАЯ ПАРАФІЯ

## 1. ГОМЕЛЬ У XII—XVI стст.

Горад Гомель упершыню згадваецца Іпацьеўскім летапісам пад 1142 г. як уладанне чарнігаўскага князя. Але, як высветлілі археолагі, Гомель узнік раней — у канцы 1-га тысячагоддзя н.э., у сутоках ракі Сож і ручая Гамяюк.

Каля 1335 г. Гомель увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага і першапачаткова быў уладаннем пляменніка вялікага князя Альгерда — Фёдара Карыятавіча. У канцы XIV ст. Гомель ужо належаў іншаму пляменніку вялікага князя Альгерда — Патрыкею Нарымунтавічу.

У «Спісе гарадоў рускіх далёкіх і блізкіх» Гомель пазначаны сярод гарадоў Падняпроўя. Акрамя Гомеля да гарадоў Падняпроўя належалі Бранск, Любеч, Магілёў, Ноўгарад-Северскі, Оўруч, Папова Гара (цяпер раённы цэнтр Красная Гара Бранскай вобл. ), Рагачоў, Рэчыца, Стрэшын, Чачэрск.

Да 1406 г. горад належаў сынам Патрыкея Нарымунтавіча, Аляксандру і Івану. У 1406 г. вялікі князь Вітаўт западозрыў Аляксандра Патрыкеевіча, які з 1397 г. неаднаразова згадваецца як князь старадубскі, у сімпатыі да Маскоўскага княства і забраў у таго Гомельскі ўдзел. Старадубскае княства (напэўна, разам з Гомелем), а

таксама суседняе Бранскае княства былі перададзены адвечнаму праціўніку Вітаўта — князю Свідрыгайлу Альгердавічу. Аднак ужо ў 1408 г. Свідрыгайла зноў пасварыўся з вялікім князем Вітаўтам, пакінуў нованабытыя вотчыны і з’ехаў у Маскву.

У 1409—1419 гг. Гомелем кіравалі вялікакняжацкія намеснікі. У 1419—35 гг. горадам ізноў валодаў князь Свідрыгайла.

У 1446—1452 гг. Гомель належаў бегламу серпухаўскаму і бароўскаму князю Васілю Яраславічу. У 1452 г. у чарговы раз належаў князю Свідрыгайлу, які вылучыў са складу Гомельскай воласці і аддаў Андрэю Саковічу, які тады быў полацкім намеснікам, 3 сялы. Саковіч атрымаў Данілавічы (цяпер Веткаўскі раён), Дуравічы (Буда-Кашалёўскі раён) і Валосавічы (верагодна, Чачэрскі раён). Аб гэтай падзеі вядома з дакумента, які датаваны 1483 г. У гэтым годзе адбыўся суд паміж сынам Саковіча Багданам Андрэевічам і князямі Мажайскімі — тагачаснымі ўладальнікамі Гомельскай воласці. Багдан Саковіч скардзіўся, што пасля смерці яго бацькі (з іншых крыніц вядома, што пан Андрэй Саковіч памёр каля 1464 г.) гэтыя «пажалаванні» былі зноў далучаны да воласці, у той час як павінны былі перайсці ў спадчыну да яго, Багдана. Суд пацвердзіў яго правы і вярнуў яму маёнткі.

Пасля смерці князя Свідрыгайлы ў 1452 г. кароль і вялікі князь Казімір зноў аддаў Гомель і Гомельскую воласць выхадцу з Маскоўскага княства. На гэты раз ім стаў князь Іван Андрэевіч Мажайскі. Як і Васіль Бароўскі, ён быў блізкім родзічам вялікага князя маскоўскага Васіля II. У адрозненне ад Бароўскага, князь Мажайскі застаўся ў Вялікім княстве Літоўскім да канца жыцця. Яго ўладанні (Старадубскае княства, у якое ўваходзіў і Гомель) былі затым перададзены двум яго сынам, Андрэю і Сямёну. Менавіта з імі судзіўся ў 1483 г. Багдан Саковіч, дамагаючыся вяртання маёнткаў.

Неўзабаве Андрэй Мажайскі памёр, а яго брат Сямён, які афіцыйна называўся князем Старадубскім, захоўваў свае ўладанні да 1499 г., калі распачалася вайна паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай. У ходзе гэтай вайны восенню 1500 г. князь Сямён разам з уладальнікам Ноўгарад-Северскага княства Шамяцічам перайшоў на бок Івана III. За гэта іх княствы мелі ў складзе Маскоўскай дзяржавы пэўную аўтаномію, бо яны разам з Разанню ў першай чвэрці XVI ст. засланялі Маскву ад татарскіх набегаў.

Вайна закончылася перамогай Масквы, і паводле мірнага пагаднення ад 1503 г. уся Гомельская воласць і частка Чачэрскай, што ахоплівала сучасную Веткаўшчыну (з сёламі Свяцілавічы, Галоднае, Жалезавічы), адышлі да Маскоўскай дзяржавы.[66]

У 1518 г. Старадубскае княства перайшло ў валоданне Васіля III і спыніла сваё існаванне.

У 1534 г. паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім пачалася Старадубская вайна (1534-1537 гг.), і 16 ліпеня 1535 г. Гомель быў вызвалены ад маскоўскага гарнізона з дапамогай жыхароў горада, якія самі адчынілі войску ВКЛ браму моцна ўмацаванага Гомельскага замка. Весткі пра вяртанне Гомеля, які ад 1501 г. належаў Маскве, выклікалі вялікую радасць у ВКЛ. Кароль і вялікі князь Жыгімонт I Стары загадаў намеснікам з бліжэйшых да Гомеля гарадоў (Чачэрска і інш.) тэрмінова выслаць прафесійных будаўнікоў для ўзвядзення новых гарадскіх умацаванняў. Што і было неадкладна зроблена.

27 сакавіка 1537 г. у Маскве было падпісана замірэнне на 5 гадоў, па ўмовах якога, Масква адмовілася ад Гомельскай воласці. Ранейшым уладальнікам былі вернуты іх маёнткі. У прыватнасці, маёнтак Хальч быў вернуты Халецкім. Данілавічы былі зноў далучаны да Гомельскай воласці, бо іх колішні спадчыннік Багдан Саковіч не пакінуў нашчадкаў мужчынскага полу.

У 1542 г. замірэнне паміж ВКЛ і Масквой зноў падоўжылі на 5 гадоў на тых жа ўмовах.

Адразу пасля вяртання Гомеля ў 1535 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт I Стары заснаваў Гомельскае староства, як асобнае дзяржаўнае ўтварэнне ў складзе гаспадарскіх Падняпроўскіх воласцяў. Кіравалі староствам дзяржаўцы-старосты, як правіла, буйныя феадалы. Штогод (з 1562 г.) яны ўносілі ў скарб кварту — 25 % ад даходаў на ўтрыманне войска. Гомельскімі старостамі былі: князь Аляксандр Андрэевіч Сангушка-Кашырскі (1535), князь Васіль Юр’евіч Друцкі-Талачынскі (1536—1537), Я.Дарашкевіч (1537—1546), Я.Хршчановіч (1546—1547), пісар ВКЛ Анікей Гарнастай (1547—1552), Ян Каляйніцкі (каля 1560)[67], К.В.Тышкевіч, Міхайла Мышка-Варкоўскі, Багдан Паўлавіч Сапега (1572—1582), яго сыны Андрэй (1582—1610) і Павел Стэфан (1610—1635), князь Андрэй Млоцкі,[68] Рудскі, Аляксандр Слушка (да 1658) і яго сын Зыгмунт (да 1671), Міхаіл Казімір Радзівіл (1671—1680), Васіль Аляксандравіч Красінскі і яго пляменнік Тамаш (Фама) Міхайлавіч Красінскі (да 1717), Мікалай Фаміч Корвін-Красінскі (1717—1730), Міхаіл Фрэдэрык Чартарыйскі (1730—1772), які быў апошнім старостам.

21 сакавіка 1560 г. гомельскія мяшчане паводле прывілея вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста атрымалі пячатку з выявай крыжа і надпісам на лацінскай мове «Герб горада Гомеля».

9.Герб Гомеля 1560 г.

З 1566 г. Гомель знаходзіўся ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. У гэты час у склад староства акрамя Гомеля ўваходзілі 32 гаспадарскія вёскі, якімі кіравалі валасныя дзяржаўцы: Азарычы, Антонавічы, Бабовічы, Бацуны, Бярэзцы, Воўкавічы, Вуцце, Галавінцы, Губічы, Дабруша, Данілавічы, Данілкавічы, Дземіянавічы, Дзятлавічы, Карма, Кашалёва, Лагуновічы, Маркавічы, Марозавічы, Навасёлкі, Насовічы, Пірэевічы, Прыбыткавічы, Раманавічы, Старое, Трыастынь, Уваравічы, Целяшы, Цярэнічы, Цярэшкавічы і 2 вёскі з назвай Юркавічы. У гэтых вёсках налічвалася 198 дымоў — сялянскіх гаспадарак, якія карысталіся 87 *«службамі»* (паводле Л.Вінаградава, у воласці налічвалася 202 дымы з 88 службамі) — зямельнымі надзеламі ў адну валоку (21,36 га).

З адной службы ў каралеўскі скарб бралася падаткаў па 50 грошаў, па *«1 бочке жита ровной, без верха и не трясеной»*, па 1 бочцы аўсу, па 4 пенязі з возу сена, па 6 грошаў за язоўшчыну, па 25 грошаў з пяцернага пуда за мёд і за адвоз яго, акрамя таго, асобныя падаткі браліся за карыстанне паляўнічымі і рыбалоўнымі ўгоддзямі. Апроч таго, дзяржаўцы збіралі для сябе з кожнай службы па 6 грошаў, па 2 вазы сена (кожны цаной па 3 грошы), па 2 вазы дроў, паўбочкі жыта і аўсу. Самыя вялікія даходы дзяржаўцам паступалі ад судзебных пошлін, ад замкавага млыну на рацэ Узе і ад карчмы. Усяго з Гомеля ў каралеўскі скарб ішла 141 капа 20 грошаў 2 2/3 пенязі грашыма і вялікая колькасць падаткаў натурай. З воласці збіралася 304 капы 16 грошаў 9 пенязяў.

Да таго, сяляне абавязаны былі рамантаваць Гомельскі замак і ўтрымліваць замкавую варту.

Акрамя 32 гаспадарскіх вёсак, у Гомельскай воласці ў гэты час было 16 населеных пунктаў, якія належалі прыватным асобам або царкве: Вага, Валатава, Валозкавічы, Дударавічы, Засоўе, Кальскевічы, Кузьмінічы, Плеса, Прысна, Рылавічы, Сеўрукі, Слабада, Хальч, Чабатовічы, Чорныя, Шарсцін.

Буйнымі землеўласнікамі ў канцы XVI ст. былі баяры Мілька Ахрэмавіч, Лявон Грыгоравіч Воўк, Белка Кажамячын, Сідар Канапліцкі, Іван Фашч, Андрэй і Васіль Халецкія, Іван і Нячай Хаміры, Ісай і Павел Харковічы, Леў Шарында, замкавы харунжы Крыштаф Ленскі (Аленскі), а таксама святары і дыяканы Мікольскай, Спаскай і Троіцкай цэркваў: настаяцель замкавай царквы Св. Мікалая а.Сямён, які валодаў Шыншатураўскай зямлёй каля Добруша, Пясоцкай зямлёй каля сяла Вуцце і Каўбасоўшчынай каля Старога Сяла; настаяцель Спаскай царквы а.Ерафей Іванавіч

валодаў зямлёй каля Дзятлавічаў, Мільчыцкім востравам, Міхалёўшчынай і Махадоўшчынай; святар Троіцкай царквы а.Фёдар Іванавіч валодаў сялом Плёсам; дыякан Троіцкай царквы Рыгор Лук'янавіч — Міхалёўскай зямлёй каля Раманавічаў і Бушманаўскай зямлёй каля Лагуновічаў.[69]

Вёска Скепня ўходзіла ў склад маёнтка Стрэшын і належала Віленскаму касцёлу Св. Станіслава.[70]

У Інфлянцкую вайну 1558—1582 гг. Гомель ненадоўга заняло маскоўскае войска. У ліпені 1576 г. яно было выбіта атрадам Юрыя Радзівіла. Праз 5 гадоў, 5 мая 1581 г., на Гомель ізноў быў здзейснены напад царскіх войскаў. У выніку яны спалілі горад. Замак ім, аднак, узяць не ўдалося.

## 2. КАТАЛІЦТВА Ў ГОМЕЛІ Ў XVII—XVIII стст.

Каталіцкая грамада ў Гомелі і наваколлі пачала фарміравацца, верагодна, у канцы XVI—пачатку XVII ст., калі значная частка шляхты пачала пераходзіць у каталіцтва. 16 ліпеня 1631 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза фундаваў *«ab origine»* (ад самога пачатку) пабудову касцёла ў Гомелі.[71] Верагодна касцёл насіў назву святога Казіміра.

Несумненна, што будаўніцтва касцёла было вынікам таго, што тут ужо ўзнікла буйная каталіцкая грамада. На ўтрыманне капланаў і служак на вечныя часы быў запісаны фальварак Блюдніца з сялянамі ў 25 вёрстах ад Гомельскай плябаніі і 4 тыс. дзес. леса, 3 тыс. дзес. сенажаці, 2 тыс. дзес. ворнай зямлі, 3 тыс. дзес. няўдобіцы і забалочанай зямлі. У апісанні Гомельскага касцёла за 1881—1886 гг. упамінаецца «Экстракт канфірматны[72] фундуша Гомельскага 1631 года ліпеня 16 дня», які захоўваўся ў касцельным архіве да 1856 г., калі гэты дакумент згарэў у час гарадскога пажару.[73]

Гомельская парафія ўваходзіла ў Бабруйскі дэканат Віленскай дыяцэзіі.

У 1633 г. Гомельскі замак супрацьстаяў казацкім сотням Багдана Булгакава і Івана Ярмоліна, якія, на шчасце, так і не змаглі яго захапіць.

У 1640 г. Гомельскае староства налічвала 40 сёлаў з 202 дымамі.

4 ліпеня 1648 г. украінскія казакі палкоўніка Галавацкага і натоўпы мясцовых сялян захапілі горад і выразалі ўсіх католікаў і яўрэяў. У Гомеле *«враги совершили страшное избиение; били несчастных кольями, чтобы медленно умирали. Кучами падали мужья, жёны, дети. И не было им погребения, и псы и свиньи поедали валявшиеся трупы»*.[74]

Паводле афіцыйных данясенняў, у Гомелі *«было побито жидов с женами и детьми больше двух тысяч, а ляхов с шестьсот человек»*.[75] Такая вялікая колькасць католікаў («ляхаў») у Гомелі, верагодна, тлумачыцца тым, што за сценамі Гомельскага замка шукалі паратунку ад казакаў і сялян шматлікія шляхецкія сем'і з навакольных паселішчаў.

У выніку пагромаў на левым беразе Дняпра ў 1648 г. зніклі практычна ўсе католікі, палякі, яўрэі, а таксама тыя з праваслаўнай шляхты, хто сімпатызаваў Рэчы Паспалітай.[76]

Вясной 1649 г. перад Вялікаднём Гомель пры дапамозе мяшчан быў ізноў заняты казакамі, на гэты раз палкоўніка Марціна Нябабы (загон налічваў 2500 чалавек). Ізноў у горадзе была ўчынена бязлітасная разня. Летам 1649 г. гетман Януш Радзівіл сканцэнтраваў дастатковую колькасць войска для падаўлення паўстання на Палессі і ўзяў Гомель, Чачэрск і іншыя гарады.

Летам 1651 г. гомельскаму гарнізону ўдалося вытрымаць казацкую аблогу, а праз 3 гады, летам 1654 г., горад быў захоплены казацкім войскам Івана Залатарэнкі, хаўрусніка маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча.

Як піша ў сваёй кнізе «Ад Гомеля да Гамеюка» А.Рогалеў, з 1661 г. па 1671 г. Гомелем валодаў казацкі палкоўнік Андрэй Мурашка, які зрабіў з Гомеля «незалежную казацкую рэспубліку».[77] Аб гэтым пішуць і некаторыя іншыя беларускія аўтары, напрыклад А.Макушнікаў.[78] Але «Polski słownik biograficzny»[79] сцвярджае, што ў Гомелі ў гэты час размяшчаўся бацька Андрэя — Дзяніс Мурашка, які быў *«польскім»* палкоўнікам. Гэта азначае, што ён служыў Рэчы Паспалітай і ні аб якой *«незалежнай рэспубліцы»* не магло быць і гаворкі.

Яшчэ 18 верасня 1658 г. Дзяніс Мурашка, які ў той час быў наказным казацкім палкоўнікам і ваяваў супраць ВКЛ, перайшоў на бок Рэчы Паспалітай. На сойме 1659 г. Дзяніс і яго сын Андрэй атрымалі набілітацыю, гэта значыць, ім было нададзена шляхецтва. Менавіта часткі Дзяніса Мурашкі, падкантрольныя ўладам Рэчы Паспалітай, і кантралявалі Гомель з 1661 па 1668 г. У гэтых частках служыў і Андрэй Мурашка, якога, як вынікае з аналізу гістарычных дакументаў, блытаюць з яго бацькам.

Праведзены аналіз гістарычных крыніц дазваляе выказаць меркаванне, што гэтая блытаніна паміж Дзянісам і Андрэем Мурашкамі пайшла ад Л.Вінаградава, які ў сваёй кнізе «Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142—1900 г.» першым напісаў аб Мурашку.[80] У сваёй працы Вінаградаў не падае імя валадара Гомеля (толькі прозвішча Мурашка), але з «Заўвагаў» да кнігі вынікае, што валодаў Гомелем менавіта бацька — Дзяніс Мурашка. Вось, што

піша ў «Заўвагах» Вінаградаў спасылаючыся на «Акты Паўднёвай і Заходняй Расіі»: *«В конце 1666 г. Мурашкин сын ходил разбойничать, но потерпел поражение и едва спасся с небольшим отрядом конницы»*.[81] Але далей Вінаградаў піша пра валадара Гомеля ўжо падаючы факты з біяграфіі Андрэя Мурашкі, тым самым усё заблытваючы.[82]

У 1681 г., пасля крывавых дзесяцігоддзяў, агульная колькасць католікаў у Гомелі складала менш за 1% насельніцтва. У гэты час Гомельскім плябанам (пробашчам) быў ксёндз Казімір Тамкевіч.

Да католікаў у Гомелі належалі ў асноўным шляхцічы. Значнымі ўладаннямі ў Гомелі і побач з ім у канцы XVII ст. валодалі шляхцічы Келчэўскія, Красоўскія, Леановічы, Фашчы, Руцкія, Усціновічы.

Леановічы (Левановічы), Усціновічы і Фашчы (Хвашчы, Фашты) былі найстарэйшымі шляхецкімі родамі Гомельшчыны, нашчадкамі мясцовых баяраў XV—XVI стст. Яны захавалі свае ўладанні ў Гомелі і яго ваколіцах да 1919 г.

Леановічы вялі радавод ад баярына Лявона Рыгоравіча Волка, які ў 1560 г. *«трымаў за лістом гаспадарскім да волі і ласкі гаспадарскай»* ворныя землі і сенажаці пры сяле Азарычы і на тых жа ўмовах зямлю *«пры месце Гомельскім»*. Згодна з прывілеем караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста ад 9 жніўня 1560 г. Леановічы мелі правы на валоданне двума дварамі ў самім Гомелі. Да канца XVIII ст. Леановічы мелі зямельныя ўладанні ў сёлах Высокае і Слабада Паташава Рагачоўскага павета, Азарычы, Кажанаўка, Сяроўка і Плутоўка Беліцкага павета.

Радавод Фашчаў таксама вельмі старадаўні. Баярын Ян Фашч у 1560 г. *«трымаў»* ворную зямлю, сенажаці, мядовыя дані пры сёлах Насовічы і Юркавічы пад Гомелем. Новыя падараванні яму былі зроблены ў Гомелі і ваколіцах горада ў 1562 г. Правы на валоданне двума дамамі ў Гомелі паводле прывілея караля і вялікага князя Аўгуста III ад 5 лістапада 1762 г. атрымаў Аляксандр Фашч. Да канца XVIII ст. зямельныя ўладанні Фашчаў значна пашырыліся і меліся ў Дуравічах, Папоўцы, Пышноўцы Рагачоўскага павета, Галавінцах, Грабаўцы, Губіне-Харапуцці, Лукоўі (Улукаўі), Макаўі, Насовічах Беліцкага павета. У некаторых з гэтых населеных пунктаў (Грабаўка, Дуравічы, Лукоўе) Фашчы пабудавалі каталіцкія капліцы, якія звычайна знаходзіліся на могілках.

Баяры Усціновічы мелі 3 двары ў Гомелі паводле прывілеяў каралёў і вялікіх князёў літоўскіх Жыгімонта II Аўгуста ад 9 сакавіка 1555 г. і Яна II Казіміра ад 6 лютага 1664 г. У канцы XVIII ст. гэтыя шляхцічы ўжо валодалі землямі ў аколіцы Ухова, вёсках

Карыятаўка, Шылавічы Рагачоўскага павета, Любны, Сеўрукі, Чоны Беліцкага павета.

Некаторыя са шляхцічаў рабілі Гомельскаму касцёлу шчодрыя ахвяраванні. Так, Александр Келчэўскі у 1699 г. (у дакуменце пазначаны 1622 г., але гэта памылка) падараваў Гомельскаму касцёлу сад, які знаходзіўся ў Гомелі.[83]

5 ліпеня 1702 г. (ці ў 1762) Алена Аленская падаравала Гомельскаму касцёлу сенажаць каля Гомеля.[84]

3 красавіка 1703 г. (паводле іншых даных, 2 красавіка 1730 г.) граф Дамінік на Хальчы Халецкі ахвяраваў 1 тыс. польскіх злотых сярэбранай манетай (150 руб.) з абавязкам адпраўляць у касцёле штотыдзень адну св. Імшу за душу Алены. Фундушавая сума была забяспечана мястэчкам Веткай, якое належала Халецкаму. З гэтай сумы ў год атрымлівалася 100 злотых працэнтаў. У першай палове XIX ст. гэта Веткаўская эканомія належала княгіні Любамірскай.[85] Любамірская таксама выплачвала працэнты з фундушавай сумы, хаця рабіла гэта нерэгулярна.

6 кастрычніка 1709 г. шляхціч Юрый (Ежы) Келчэўскі перадаў касцёлу ў вечнае карыстанне *«морг грунту»* ў мястэчку Брылёва.[86]

У 1717 г. Мікалай Корвін-Красінскі, староста гомельскі і прапойскі, ахвяраваў Гомельскаму касцёлу 5 тыс. польскіх злотых (750 руб.) з абавязкам адпраўляць у Гомельскім касцёле штотыднёвую св. Імшу. Гэта алтарная сума ў пачатку XIX ст. была размешчанае ў валоданнях Беліцкага маршалка Фелікса Фашча.[87] Да 1844 г. грошы спраўна выплачваліся, але потым нашчадкі Фелікса Фашча (жонка Алена і дзеці Атон і Аляксандр) перасталі плаціць ануату. Толькі ў 1872 г. з Аляксандра Фашча спагналі доўг. Праз тое, што святары Гомельскага касцёла атрымлівалі ўтрыманне ад дзяржавы, доўг быў накіраваны ў «Магілёўскую губернскую па сялянскіх справах прысутнасць».[88]

У 1728—1729 гг. у Гомелі дзейнічала езуіцкая місія. Місіянерам у ёй працаваў Ян Дамброўскі.

У першай палове 1770-х гг. католікам у Гомелі належалі 18 дамоў. Імі валодалі: Аляксандр Фашч, Усціновічы, Леановічы, Ражыцкі, Сабанскі, Астроўскі, Гіжыцкі, Удзерскі, Місевіч. Каталіцкае насельніцтва Гомеля складала 67 чалавек, або каля 3,5% ад агульнай колькасці насельніцтва горада.[89] Каля Гомеля былі ўладанні шляхцічаў Усціновічаў, хутар Халецкага, хутар Сялец шляхціча Шынкевіча, слабодка Брылёва шляхціча Гурскага, аколіца Плёсы шляхцічаў Плескіх, аколіца Барлінскіх, Харкевічаў і Плескіх, слабада Сеўрукі шляхцічаў Келчэўскіх і інш. Уся Гомельская парафія налічвала 1670 парафіян (1781 г.).[90] Арганістам Гомельскага

касцёла ў гэты час быў пэўны Місевіч, які валодаў у Гомелі адным дваром.

З лістапада 1765 г. гомельскім пробашчам быў Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, які пазней стаў магілёўскім арцыбіскупам-мітрапалітам. Верагодна, ён змяніў на гэтай пасадзе былога пробашча ксяндза Хацiцкага. Нягледзячы на значнасць асобы Богуша-Сестранцэвіча, падрабязных звестак пра яго знаходжанне ў Гомелі адшукаць пакуль не ўдалося.

## 3. СТАНІСЛАЎ-ЯН БОГУШ-СЕСТРАНЦЭВІЧ[91]

Нарадзіўся Станіслаў-Ян Богуш-Сестранцэвіч 3 верасня 1731 г. у вёсцы Занкі Ваўкавыскага павета Наваградскага ваяводства (цяпер Свіслацкі раён) у шляхецкай, змяшанай кальвінісцка-каталіцкай, сям'і. Бацька — міхнеўскі староста і старадубскі стражнік Ян Богуш-Сестранцэвіч (1678—1771) быў па веравызнанні кальвіністам. Маці Карнелія Адзінец (1698—1773) — каталічкай.[92] Па яе патрабаванні дзіцё было ахрышчана 5 верасня 1731 г. паводле рыма-каталіцкага абраду ў Заблудаве ксяндзом Кшыштафам Бажылоўскім.[93] Хутка сям'я пераехала з Занкаў у Рале (30 км ад Кальварыі, цяпер тэрыторыя Літоўскай Рэспублікі). Там і прайшло дзяцінства будучага мітрапаліта.

Калі Станіславу было 7 гадоў, бацька наняў яму вандроўнага настаўніка П.Касарына, які ў суседнім фальварку Бурняны вучыў дзяцей мазырскага стольніка Яна Канарскага. Неўзабаве падраслі сёстры будучага мітрапаліта, і Касарын пачаў пераязджаць з аднаго фальварка да другога разам са сваімі вучнямі. Адзін квартал яны вучыліся ў Бурнянах, а на астатні час перабіраліся да Богушаў-Сестранцэвічаў.[94]

У 12 гадоў хлопчык мусіў пакінуць бацькоўскі дом для працягу адукацыі. У 1743—1745 гг. Богуш-Сестранцэвіч вучыўся ў Кейданскім кальвінскім калегіуме.[95]

У чэрвені 1745 г. на пахаванні старадубскага харужага Воўка 13-гадовы вучань сказаў чуллівую памінальную прамову. Яна настолькі закранула адзінаверцаў-кальвіністаў, што яны вырашылі накіраваць юнака ў нямецкія землі для далейшай адукацыі.[96] У жніўні 1745 г. Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч выехаў вучыцца ў Берлін. У дарозе ён быў абакрадзены ў адным з гатэляў Штатгарта Шчэцінскага.[97]

Не маючы сродкаў на існаванне, Богуш-Сестранцэвіч быў вымушаны паступіць на службу ў прускую армію. У Еўропе ў той час ішла вайна за аўстрыйскую спадчыну. Богуш-Сестранцэвіч служыў афіцэрам у гусарскім палку. 15 снежня 1745 г. у бітве пад

Касельдорфам юнак быў цяжка паранены карцеччу ў правую руку. Яго даставілі ў берлінскі шпіталь, дзе праз 10 дзён, 26 снежня 1745 г., крыху падлячыўшы рану, выпісалі і звольнілі з войска.[98]

У Берліне Станіслаў пазнаёміўся з дамініканінам Армандам,[99] які дапамог яму і ўладкаваў вучыцца ў гімназію святога Іахіма. Першы час Богуш-Сестранцэвіч вучыўся старанна. Вывучаў англійскую, лацінскую, нямецкую, старажытнагрэчаскую, французскую мовы. Аднак узровень адукацыі ў гімназіі быў слабым. Пад уплывам аднакашнікаў Богуш-Сестранцэвіч пачаў паліць люльку, піць піва ў карчме і наведваць гулянкі і вечарыны.[100]

Заканчэнне гімназіі давала права на паступленне ва універсітэт. У кастрычніку 1748 г. С.Богуш-Сестранцэвіч быў залічаны на філасофскі факультэт універсітэта Франкфурта-на-Одэры. У час вучобы Богуш-Сестранцэвіч вёў багемны лад жыцця і ўрэшце рэшт, апынуўшыся ў даўгах, быў вымушаны кінуць адукацыю і збегчы ад крэдытораў на радзіму. 27 жніўня 1751 г., пасля 6 гадоў адсутнасці, ён вярнуўся ў бацькоўскі дом.[101]

Паводле некаторых звестак, Богуш-Сестранцэвіч служыў капітанам у літоўскай гвардыі.[102] Нарэшце, у лістападзе 1753 г. С.Богуш-Сетранцэвіч стаў выхавальнікам дзяцей князя С.І.Радзівіла[103] і пераехаў у Жырмуны (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці).

Менавіта ў гэты час адбылося яго вяртанне ў каталіцтва і наспела рашэнне стаць святаром. Існуюць дзве версіі таго, што падштурхнула будучага мітрапаліта змяніць веравызнанне. Адна належыць ксяндзу С.Шантыру. Згодна з ёй, прычына была ў няшчасным каханні маладога чалавека да багатай і знатнай красуні. Тая, каб пазбавіцца ад дакучлівага залётніка, паставіла абавязковай умовай свайго замужжа змену канфесіі. Умова каханай была выканана, але тая забылася на сваё абяцанне. Другая версія належыць М.Гадлеўскаму. Справа ў тым, што ў Жырмуны часта прыязджаў малады каталіцкі іерарх Ігнацы Масальскі. Яму падабаўся малады адукаваны настаўнік, з якім прыемна было паразмаўляць, які быў добра выхаваны, умеў выслухаць і, здаецца, разбіраўся ва ўсіх галінах чалавечых ведаў. Масальскі прапанаваў С.Богушу-Сестранцэвічу прыняць сакрамент святарства, абяцаючы яму сваю пратэкцыю.[104] Гэтыя версіі не супярэчаць адна адной, і магчыма, што Богуша-Сестранцэвіча падштурхнула змяніць канфесію і тое і другое.

У 1759 г. разам са сваімі выхаванцамі Мікалаем і Ежы Радзівіламі ён едзе ў Варшаву. Радзівілы паступілі ў Варшаўскі галоўны калегіюм піяраў. Разам з імі вучыўся і С.Богуш-Сестранцэвіч. Пад навуковым кіраўніцтвам айца Байдыцкага ён у

1762 г. абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму «Аб непагрэшнасці папы» («De infallibilitate papae»).

15 сакавіка 1762 г. віленскім біскупам стаў Ігнацы Масальскі. 27 сакавіка 1763 г. Масальскі дамогся ад нунцыя А.М.Дурыні дыспенсы (г.зн. прабачэння) С.Богуша-Сестранцэвіча за тое, што той *«быў не народжаны бацькам-католікам і быў выхаваны ў ерасі»*. Гэтым была ліквідаваная апошняя фармальная перашкода для прыняцця сакраменту святарства. 17 красавіка 1763 г. у касцёле Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Варшаве Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч прыняў духоўны сан. Ён равёўся ў Варшаўскую семінарыю місіянераў, дзе на працягу двух з паловай месяцаў удасканальваў свае веды ў тэалогіі і праходзіў усе прыступкі святарскага пасвячэння. 29 мая кіеўскі суфраган Юзаф Алендзкі ў касцёле Святога Крыжа высвяціў яго на субдыякана, а праз 2 тыдні (12 чэрвеня) — на дыякана. Нарэшце, 3 ліпеня біскуп Анджэй Залускі рукапаклаў яго ў прэсвітэры (святары). 15 жніўня 1763 г. Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч цэлебраваў першую ў сваім жыцці Св.Імшу.[105]

Богуш-Сестранцэвіч быў улюбёнцам біскупа князя Масальскага. Карыстаючыся яго падтрымкай, а таксама пратэкцыяй Радзівілаў, Богуш-Сестранцэвіч імкліва рухаўся па царкоўнай іерархічнай лесвіцы. У маі 1763 г. ён стаў канонікам жмудзкай капітулы.

З лістапада 1765 г. быў пробашчам Гомельскага касцёла. У Гомелі Богуш-Сестранцэвіч знаходзіўся прыкладна год. Пэўны час жыў каля Гомеля ў вёсцы Рудзянец,[106] якая належала Гомельскаму касцёлу. Пасля Гомеля працаваў пробашчам і дэканам у Бабруйску.

У сакавіку 1768 г. стаў віленскім канонікам. У 1766—1767 гг. і 1771—1772 гг. быў адміністратарам Віленскай дыяцэзіі, замяшчаючы на гэтай пасадзе біскупа Масальскага, які наведваў Рым. У 1773 г. звярнуў на сябе ўвагу каранаваных асоб Еўропы: пасля замаху ў Варшаве на караля Станіслава Аўгуста, Богуш-Сестранцэвіч прамовіў у Віленскім катэдральным касцёле казанне і паслаў тэкст казання каралю. Станіслаў Аўгуст быў у такім захапленні ад казання, што загадаў перакласці яго на розныя мовы і разаслаць розным каранаваным асобам Еўропы,[107] а Богуш-Сестранцэвіч атрымаў ордэн Святога Станіслава. Пасля гэтага і Кацярына II звярнула ўвагу на Богуша-Сестранцэвіча. 12 ліпеня 1773 г. нунцый Джузэпе Гарампі іменем папы Пія VI узвёў С.Богуша–Сестранцэвіча ў біскупскую годнасць (тытулярнага біскупа маленскага *in partibus infidelium*[108]) і прызначыў яго суфраганам беларускім. Рукапакладзены 3 кастрычніка 1773 г. у Вільні.

Пасля далучэння земляў усходняй Беларусі да Расійскай імперыі па ініцыятыве Кацярыны II з 3 снежня 1773 г. стаў біскупам у «Беларускай дыяцэзіі», якая існавала з 1773 г. і не была зацверджаная Ватыканам. Жыў у гэты час у Абольцах каля Оршы. 28 студзеня 1782 г. стаў арцыбіскупам магілёўскім. З 9 мая 1798 г. быў мітрапалітам усіх каталіцкіх дыяцэзій Расійскай імперыі, старшынёй Рыма-каталіцкага дэпартамента. У тым жа годзе пасяліўся ў Санкт-Пецярбургу.

10.Станіслаў-Ян Богуш-Сестранцэвіч

З 1801 г. старшыня Рыма-каталіцкай духоўнай калегіі. У 1813—1823 г. старшыня Вольнага эканамічнага таварыства. Супрацьдзейнічаў пашырэнню ўплыву Ватыкана ў Расійскай імперыі, быў праціўнікам езуітаў і ўмешваўся ў жыццё манаскіх ордэнаў. Спачуваў паўстанню 1794 г. Намагаўся перавесці уніятаў у лацінскі абрад, прадчуваючы ліквідацыю Уніі. Тыя уніяты, якія перайшлі ў лацінскі абрад, у далейшым пазбеглі лёсу сваіх братоў па канфесіі і засталіся ва ўлонні Каталіцкага Касцёла.

Богуш-Сестранцэвіч — заснавальнік Магілёўскай друкарні, аўтар і пастаноўшчык вершаванай трагедыі «Гіцыя ў Таўрыдзе», якая была пастаўлена ў Магілёве ў 1783 г. Аўтар прац «Аб Заходняй Расіі», «Гісторыя Таўрыды», «Гісторыя сарматаў і славян», нявыдадзенай працы «Граматыка літоўская» (мелася на ўвазе беларуская мова). Дзядзька і апякун класіка беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Памёр 13 снежня 1826 г. на 94-м годзе жыцця, пахаваны ў Пецярбургу ў пабудаваным ім касцёле Св. Станіслава.[109]

## 4. КАТАЛІЦТВА Ў ГОМЕЛІ Ў 2-й ПАЛОВЕ XVIII —1-й ПАЛОВЕ XIX ст.

Першы гомельскі касцёл, які пераждаў казацкія нашэсці, згарэў 2 верасня 1737 г.[110]

У гэты час у Гомельскую парафію (яна належала да Бабруйскага дэканата) апрача Гомеля ўваходзілі наступныя населеныя пункты: Чачэрск, Бердыж, Лоеў, Малынічы, Навасёлкі, Нямковічы, Хальч і Шарсцін.[111]

Новы касцёл пад тытулам Нараджэння Панны Марыі быў пабудаваны гомельскім плябанам ксяндзом Хаціцкім (верагодна на

месцы старога, у самым пачатку Спаскай вуліцы, каля рынку і стромы да ракі Сож.[112]). Касцёл 25 сакавіка 1768 г., на свята Звеставання, кансекраваў (асвяціў) Фелікс Тавяньскі, які ў 1766—1782 гг. быў біскупам-суфраганам беларускім. Асвячэнне адбылося паводле распараджэння віленскага біскупа князя Ігнацыя Масальскага.[113]

Аб гэтым мы можам даведацца з дакумента, які мае характэрную для таго часу доўгую назву: «Акт генеральнай візітацыі гомельскага парафіяльнага касцёла і плябаніі з усім фундушам, якія знаходзяцца ў Беліцкім павеце Магілёўскай губерні. Праведзена па загаду ўрада прызначаным візітатарам канонікам Магілёўскай архікатэдры асэсарам кансісторыі Каралем Пацэвічам». Тэкст дакумента напісаны па-польску.

Паводле візітацыі касцёл быў пабудаваны з брусавага дрэва, без падмурка. Дах быў гонтавы. Касцёл меў у даўжыню 11 трохаршынных сажняў[114], у шырыню — 7 і быў пабудаваны ў выглядзе крыжа. Калі перавесці сажні ў метры, то памеры касцёла былі прыкладна 23 метры ў даўжыню і 15 у шырыню. З фасаду касцёла ўзвышаліся 2 вежы, на адной з якіх знаходзіўся малы звон (сігнатурка). Уваход быў праз бабінец, у які вялі адзіночныя дзверы з рамай. Яны былі на завесах і жалезных круках. Другія дзверы, малыя, вялі ў бабінец збоку. Яны таксама былі на завесах і жалезных круках з вісячым замком і жалезнай засаўкай з сярэдзіны.

Вялікіх вокнаў з простым шклом у касцёле было 10. Малых акруглых вокнаў — 4. Падлога была зроблена з дылёўкі (тоўстых дошак), столь — з дошак. У касцёле было 5 алтароў. Лавак сталярнай работы з двух бакоў было 10. Касцёл меў канфесіянал сталярнай работы з двума кратаванымі акенцамі. Амбон быў драўляны, разьбярскай работы, пафарбаваны з пазалотай і пасярабрэннем, уверсе з разным балдахінам і ляпнымі элементамі, над якім была выява Святога Духа ў выглядзе галубкі ў аблоках і промнях. Краты ў гзымсах былі зроблены з балясінамі, яны аддзялялі прэсбітэрыюм. Баптыстэрый знаходзіўся па левы бок ад вялікага алтара і быў разны, падобна амбону, з фігуркамі Яна Хрысціцеля, Пана Езуса і Святога Духа ў выглядзе галубкі.

Хоры над бабінцам былі вялікія з пафарбаванымі балясінамі. На хорах знаходзіўся арган на 9 галасоў і 2 мяхі, а таксама 2 барабаны з зоркай.

З левага боку ад вялікага алтара было 2 дзвярэй. Адны вялі ў сакрысцію, другія — на цвінтар. Гэтыя дзверы былі на завесах і круках жалезных з замкамі вісячым і ўнутраным. Падлога ў сакрысціі была зроблена з дылёўкі, столь з дошак, вокнаў зашклёных з жалезнымі кратамі было 2. З правага боку ад вялікага

алтара знаходзіліся яшчэ адны дзверы, якія вялі ў другую сакрысцію (арыгінальны тэкст візітацыі на тагачаснай польскай мове глядзі ў дадатку 1).

Навокал касцёла знаходзіўся цвінтар плошчай 1 тыс. кв. сажняў.

У адказной кнізе на гомельскі маёнтак П.А.Румянцава 1776 г. пра касцёл гаворыцца наступнае:

*«Против оной на левой стороне близ самого рынку каталицкого римского исповедания дервяной кастел на имъя Рождества Пресвятия Богородицы. При нем дервянное ж хоромное строение со всякими выгодами для живущих ксензов. Сей кастел и строение вокруг обнесены дервянною оградой».*[115]

У іншым месцы Гомеля, у адлегласці ад касцёла, знаходзіліся могілкі з драўлянай капліцай, зробленай з брусавага дрэва[116]. Капліца была пабудавана гомельскім плябанам ксяндзом Хаціцкім у 1765 г.[117] Могілкі займалі тэрыторыю ў 600 кв. сажняў.

Згодна з планам канца XVIII ст., планіровачная структура Гомеля ўяўляла сабой тыповы прыклад радыяльна-дугавой планіроўкі сярэдневяковага паходжання. 5 вуліц сыходзіліся да замка, які быў абкружаны глыбокім ровам. Канцэнтрычныя напрамкі былі фрагментарныя, за выключэннем працяглай дугападобнай вуліцы ў паўночнай частцы горада, якая адзначала другі, раней страчаны пояс абарончых збудаванняў.

За ровам (на поўнач ад замка) размяшчаўся гандлёвы пляц няправільнай канфігурацыі. Недалёк ад яго стаялі вядомая з XVI ст. царква Нараджэння Багародзіцы (Прачысценская, адбудаваная ў 1756 г.) і драўляны касцёл. У горадзе існавалі яшчэ 2 праваслаўныя царквы і сінагога (усе гэтыя будынкі не захаваліся). Ніжэй па цячэнні Сожа ў пачатку XVIII ст. узнікла стараверская Спасава слабада.[118]

У 1772 г. Гомель увайшоў у склад Расійскай імперыі. У горадзе былі вывешаны аб’явы наступнага зместу: *«Калі хто з дваранства ці іншага стану, хто валодае нерухомай маёмасцю, не клапоціцца аб сваім дабрабыце, не пажадае прысягаць, таму дазваляецца продаж сваёй нерухомай маёмасці і дабраахвотны выезд за межы ў 3-месячны тэрмін, пасля якога ўся пазасталая маёмасць яго будзе секвестравана і ўзята ў дзяржаўны скарб»*. Практычна ўся гомельская шляхта прысягнула Кацярыне ІІ.

У 1773 г. Гомель стаў павятовым горадам Рагачоўскай правінцыі Магілёўскай губерні.[119]

У 1775 г. былое Гомельскае староства было падаравана графу П.А.Румянцаву.

З 1777 г. Гомель стаў мястэчкам Беліцкага павета.

Пасля перадачы Кацярынай II Гомеля ва ўладанне графу П.А.Румянцаву, на ўчастку замка ў 1777 г. пачалося будаўніцтва палаца, якое ішло ў некалькі этапаў да 1856 г.[120] У 1804—1824 гг. быў пабудаваны Петрапаўлаўскі сабор.

Планіровачная структура горада, якая склалася паступова і натуральна, была цалкам заменена новай рэгулярнай структурай. 3 асноўныя восі плана выходзілі на галоўную гандлёвую плошчу перад палацам. 2 з іх — вуліца Замкавая (цяпер праспект Леніна) і Прабойная (Румянцаўская, цяпер Савецкая) былі арыентаваны на галоўны корпус палаца, купал якога на вялікім працягу завяршаў відавыя перспектывы ўздоўж гэтых магістраляў. 3-я вуліца — Фельдмаршальская (цяпер Пралетарская) была пракладзена ўздоўж Сожа. Большасць астатніх вуліц пралягала паралельна альбо перпендыкулярна асноўным напрамкам.

На рубяжы XVIII—XIX стст. арцыбіскупам Богушам-Сестранцэвічам у Магілёўскай архідыяцэзіі была праведзена рэарганізацыя дэканатаў. Гомель, які да гэтага быў цэнтрам парафіі Бабруйскага дэканата Віленскай дыяцэзіі, стаў цэнтрам Беліцкага дэканата, які ўключаў і парафіі на Левабярэжнай Украіне. Гомельскім камендажам (пробашчам) і алтарыстам, а таксама беліцкім і чарнігаўскім дэканам у 1784—1801 гг. быў Аўгусцін Судорскі, які атрымаў духоўную адукацыю ў Кракаве, дзе і прыняў сакрамент святарства. Разам з ім у канцы XVIII ст. служэнне неслі два вікарныя ксяндзы: Язафат Садко, які атрымаў духоўную адукацыю ў Віленскай Папежскай семінарыі, і Караль Пацэвіч, які скончыў Магілёўскую Генеральную семінарыю. Жылі яны ў драўлянай плябаніі і ўтрымліваліся за кошт магілёўскага арцыбіскупа. Парафія мела 7 капліц, 1200 парафіян, *«здольных да споведзі»*. Пры касцёле знаходзілася алтарыя гомельскага старосты Тамаша Красінскага. Сума алтарыі — 750 руб. Яна знаходзілася ў Беліцкага маршалка Халецкага. Алтарыст Аўгусцін Судорскі браў з яе 7-ы працэнт. Гомельскай плябаніі належалі ў Беліцкім павеце 4 фундушовыя вёскі: Сямёнаўка, Рудзянец, Блюдніца і Асобін.

У 1797 г. у Сямёнаўцы было 196 душ падданых сялянаў, у Рудзянцы[121] 107 душ, у Блюдніцы[122] 136 душ, у Асобіне 46 душ. Агулам было 485 душ. Штогод з тых вёсак збіралі чыншу і арэнды 1500 руб. З парафіяльных капіталаў у год «набягала» 150 руб. працэнтаў.

Пры парафіі дзейнічала парафіяльная школа. Выкладаў у ёй ксёндз Садко. Навучанне вялося на лаціне і польскай мове. Пасля таго, як граф Румянцаў адчыніў у Гомелі школу з рускай мовай навучання, дзецi каталікаў пачалі вучыцца ў ёй.

У 1797 г. у касцёле ўзялі шлюб 22 пары. Было ахрышчана 20 дзяцей, пахавана 17 памёрлых натуральнай смерцю.[123]

Адміністратарам Судорскім недалёка ад фальварка Блюдніца быў пабудаваны яшчэ адзін фальварак — Кабылін, які знаходзіўся на адлегласці 15 вёрст ад плябаніі. Гомельскаму касцёлу ў той час належала 7848 дзес. 1800 сажняў зямлі.

11.Карта Гомеля. 1799 г.

Пасля А.Судорскага, які, верагодна, памёр у 1801 г., беліцкім дэканам і 1-м вікарыем Гомельскага касцёла (пробашчам) быў Я.Садко. У 1803 г. яму было 45 гадоў, з якіх 20 гадоў ён выконваў абавязкі святара ў Гомелі. Калятарам і гомельскім плябанам — намінальным кіраўніком парафіі, лічыўся мітрапаліт Богуш-Сестранцэвіч. 2-м вікарыем быў Караль Пацэвіч. У 1803 г. Пацэвічу было 32 гады, у святарстве ён прабыў 8 гадоў, з якіх 7 правёў у Гомелі.

У 1803 г. у Гомельскай парафіі налічвалася 7 касцельных служак і 587 падданых. Капіталы складалі 750 руб. серабром. Пэўнага даходу парафія атрымлівала 3500 руб., няпэўнага — 3600 руб. Плацяжы ў дзяржаўную казну і павет складалі 970 руб., аплата ксяндзам, служкам і за грунты (зямлю) — 700 руб. Святая Імша ў касцёле адбывалася 52 разы на год. У парафіі было 1125 парафіян, здольных прымаць камунію, і 375 няздольных (усяго 1500 вернікаў). За год было ахрышчана 18 хлопчыкаў і 16 дзяўчынак. Памерла ў парафіі ў тым годзе 9 мужчын і 7 жанчын. Шлюб узялі 15 пар.

5 жніўня 1805 г. у Гомеле з візітацыяй быў пралат Ксаверый Вэйтка.

Пасля Язафата Садко адміністратарам і дэканам прыкладна з 1812 г. быў канонік і асэсар Караль Пацэвіч.

У 1816 г. паводле перапісу за касцёлам лічылася 464 асобы мужчынскага полу і 533 — жаночага полу падданых сялянаў .

У 1818 годзе было ахрышчана 19 хлопчыкаў і 16 дзяўчынак, ўзялі шлюб 9 пар. Памёрла ў парафіі ў тым годзе 6 мужчын і 4 жанчыны.

У 1819 г. склад святароў Гомельскага касцёла быў наступны: адміністратар Караль Пацэвіч (у 1819 г. яму было 49 гадоў, у святарстве ён прабыў 25 гадоў, у Гомелі правёў 24 гады, з якіх 6 гадоў — адміністратарам), канонік Магілёўскай архікатэдры, асэсар кансісторыі, доктар, валодаў лацінскай, польскай, рускай і французскай мовамі; Данат Гінка (у 1819 г. яму было 30 гадоў, у

святарстве ён прабыў 6 гадоў, з якіх 2 — у Гомелі), валодаў лацінскай, польскай і рускай мовамі, атрымліваў 100 руб. жалавання; Юзаф Бяртовіч (у 1819 г. яму было 44 гады, у святарстве ён прабыў 12 гадоў, з якіх 4 — у Гомелі), валодаў лацінскай, польскай і жмудскай (літоўскай) мовамі, атрымліваў 50 руб. жалавання; Ян Чаховіч (у 1819 г. яму было 37 гадоў, у святарстве прабыў 12 гадоў, з якіх 2 — у Гомелі), валодаў лацінскай і польскай мовамі, атрымліваў 100 руб. жалавання.[124]

Арганістам у касцёле быў Ян Шыдлоўскі, які атрымліваў 80 руб. жалавання. Жонка Шыдлоўскага служыла гаспадыняй у плябаніі і атрымлівала 40 руб. жалавання, а сын іх Ян быў адным з касцельных хлопцаў.

У Гомельскай парафіі ў 1819 г. апрача парафіяльнага касцёла налічвалася 8 капліц: у маёнтку Ціхінічы, аколіцы Новыя Цярэшкавічы, маёнтку Баршчоўцы, у Дуравічах, Улукаўі і Грабаўцы, а таксама ў аколіцы Ухова (Ухаў) Рагачоўскага павета.

Гомельскі касцёл меў 521 падданага мужчынскага полу. Сума фундушавых капіталаў складала 750 руб., сума агульных даходаў — 10115 руб. і 250 рублёў на той час яшчэ не атрыманых. З вёсак збіралі 2 тыс. руб. Аплата ксяндзоў і касцельных служак, а таксама выдаткі на касцёл складалі 4500 руб. У год адбывалася 52 святыя Імшы.

У 1819 г. драўляны касцёл Нараджэння Панны Марыі ужо быў нахілены, дах — дзіравы, 2 акны былі разбіты бурай. Будынак патрабаваў неадкладнага рамонту, але яго не рабілі, бо коштам графа Румянцава быў пабудаваны новы мураваны касцёл, які быў пакрыты жалезнай бляхай, але не меў яшчэ дзвярэй, вокнаў і падлогі.

Дакладная дата пачатку будаўніцтва новага касцёла невядома. Да вясны 1818 г. ён быў пабудаваны, летам 1818 г. атынкаваны звонку, але ўнутры ніякія работы яшчэ не праводзіліся.

У 1818 г. коштам мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча праз дарогу на адлегласці 20 сажняў ад касцёла была пабудавана плябанія.

Новы гомельскі мураваны касцёл быў пабудаваны ў стылі класіцызму. Галоўны фасад быў фланкіраваны чацверыковымі купальнымі вежамі, па цэнтры вылучаўся 4-калоннай лоджыяй і завяршаўся масіўным антаблементам. Над 2-схільным дахам узвышаўся магутны сферычны купал на цыліндрычным барабане з ліхтаром.[125]

Невядома, які архітэктар з’яўляецца аўтарам праекту касцёла, але найбольш праўдападобнай падаецца версія В.Ф.Марозава, згодна з якой касцёл пабудаваны архітэктарамі Дж.Кларкам і І.Дзячковым паводле праекта прыдворнага архітэктара Л.Рускі. Першапачаткова

праект прызначаўся для пабудовы праваслаўнай царквы, але царкоўныя ўлады, хутчэй за ўсё, не ўхвалілі яго, і Кларк з Дзячковым выкарысталі праект для касцёла.[126] Паводле задумы будаўнікоў святыня мусіла напамінаць рымскі Пантэон.

Касцёл быў меншы за праваслаўны Петрапаўлаўскі сабор. Памеры касцёла былі наступныя: даўжыня 12,5 сажняў, шырыня 10,5 сажняў, вышыня 7,5 сажняў (у метрах гэта прыкладна 26м х 22м х 16м).[127]

У 1821 г. у Гомелі працавалі ксяндзы Юзаф Сядлоўскі (у 1821 годзе яму было 27 гадоў, 4 гады святарства), Мікалай Лявіцкі (у 1821 годзе яму было 49 гадоў, 22 гады святарства) і Юзаф Шацкі (у 1821 годзе яму было 30 гадоў, 5 гадоў святарства) — вікарый у Новай Беліцы.

20 лютага 1822 г. перад асвячэннем новага мураванага касцёла быў складзены план пляца. На плане быў адзначаны стары ўчастак зямлі з драўляным касцёлам, які стаяў пасярэдзіне пляца, а таксама плябанія з агародам. Стары ўчастак з касцёлам займаў тэрыторыю ў 1 тыс. сажняў. Плябанія — 132 сажні, агарод — 594 сажні. Могілкі — 600 сажняў. Усяго касцёлу ў Гомелі належала 2326 сажняў зямлі.

Побач на плане быў паказаны ўчастак з новым касцёлам. Усяго ўзамен было выдзелена 1920 сажняў зямлі (не ўлічваючы зямлі пад могілкамі).

12.План пляца, складзены 20 лютага 1822 г.[128]

13.План плябаніі. 1822 г.[129]

15 мая 1822 г., у Вялікую суботу, з дазволу мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча касцёл быў асвечаны ксяндзом Мікалаем Лявіцкім пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.[130]

Пасля асвячэння касцёла і адводу для яго новай зямлі стары драўляны касцёл і плябанія былі разабраныя.

Пры касцёле спачатку знаходзіліся 4 святары, пазней — 3.

Пасля Караля Пацэвіча пробашчам у Гомелі быў ксёндз Ян Чаховіч, з 1827 г. беліцкі віцэ-дэкан. Ён уласнаручна зрабіў у касцёле помнік у гонар 1500-гадовага юбілею Нікейскага сабору. Помнік знаходзіўся па левы бок ад вялікага алтара і быў у выглядзе павільёна з дошкай усярэдзіне. Дошка была зроблена з бляхі залацістага колеру і пакрыта лакам. Над павільёнам быў бляшаны крыж.[131]

З 1824 г. у плябанскіх вёсках былі арганізаваны склады збожжа (сялянскія магазіны) на выпадак неўраджаю. Склады напаўняліся ўвосень, калі з кожнай рэвізскай душы збіраліся 4 гарнцы хлеба.

Пасля смерці мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча (ён памёр у снежні 1826 г.) у Гомельскім фундушавым маёнтку была ўчынена праверка. Паводле тэстамэнту мітрапаліта, каб забяспечыць Гомельскі і іншыя маёнткі ад разарэння, належныя мітрапаліту даходы мусілі быць унесены ў прыказ грамадскай апекі. Апісанне маёнтка і адасабленне мясцовай маёмасці і маёмасці мітрапаліта прадпісвалася зрабіць кіраўніку Беліцкага дэканата віцэ-дэкану Пашавіцкаму (пробашч у Радузе) разам з чынам гомельскага земскага суда, гомельскім парафіяльным святаром Чаховічам, канонікам Калянкоўскім (капітул прызначыў яго кіраўніком камісіі) і валаснымі кіраўнікамі.

15 студзеня і 20 сакавіка Калянкоўскі і Пашавіцкі паведамлялі ў рапартах кансісторыі пра недабранадзейнасць і нядбайнасць аканома і служак маёнтка. Кансісторыя 19 і 30 сакавіка загадвала следчай камісіі правесці рэвізію, пасля якой звольніць старых служак і набраць дабранадзейных. Для рэвізіі кансісторыя загадала наняць дасведчанага бухгалтара. Такі быў знойдзены, але за працу ён запатрабаваў 150 руб. Кансісторыя дала згоду, і грошы бухгалтару былі выплачаны. 16 красавіка аканомам Гомельскага фундушавага маёнтка быў прызначаны дваранін Мікалай Шадзеўскі. 10 мая віцэ-дэкан Пашэвіцкі быў адхілены ад праверкі.

З 1827 г. вікарыем Гомельскага касцёла быў Адам Ян Каэтанавіч Камінскі, які ў 1829 г. прызначаны віцэ-дэканам. 11 ліпеня 1832 г. вікарыем прызначаны Ігнацы Ян Ксавер’евіч Кашэўскі.

У 1835 г. капліцы Гомельскай парафіі былі ў наступных 9-ці мясцінах: у павятовым горадзе Новая Беліца — драўляная, без начыння для Імшы, належала былому павятовому страпчаму Якубу Міцкевічу і знаходзілася на адлегласці 7 вёрст ад касцёла; у шляхецкай аколіцы Новыя Цярэшкавічы, драўляная, пабудаваная шляхтай аколіцы; у маёнтку Фелікса Фашча Грабаўцы, драўляная, бенедыктаваная канонікам Пацэвічам у 1818 г.; у Антонаўцы — маёнтку Крушэўскіх, бенедыктаваная канонікам Пашэвіцкім у 1819 г.; у Баршчоўцы — маёнтку Ільяшэвічаў, пабудаваная ў 1814 г.; у Борхаве — маёнтку малалетніх Валкавіцкіх, драўляная, бенедыктаваная ксяндзом Чаховічам у 1827 г.; у Дуравічах — маёнтку Фашчаў, пабудаваная ўладальнікам; у Засоўі — маёнтку Халецкага, драўляная, пабудаваная ўладальнікамі; у Ціхінічах — маёнтку Вішнеўскага.

У склад парафіі ўваходзілі 2 павятовыя гарады, 4 шляхецкія аколіцы, 7 памешчыцкіх дамоў, 21 фальварак, 7 вёсак, 163 дамы парафіян, у якіх пражывала 517 душ мужчынскага полу і 599 жаночага.[132]

Парафіяльныя могілкі, якія знаходзіліся за Гомелем на адлегласці 700 сажняў ад касцёла, у 1835 г. мелі памеры 50 сажняў на 30 сажняў (прыкладна 105 м на 63 м). Могілкі былі агароджаны плотам з дылёўкі, у якім мелася брама. На тэрыторыі стаяла драўляная каплічка з абразом Св. Тройцы.[133]

У касцельных фальварках Блюдніцы і Кабыліне было агулам 7848 дзес. і 1800 сажняў зямлі. У абодвух фальварках у 1833 г. высявалі: жыта — 58 чвэрцяў, пшаніцы — 5 чвэрцяў, ячменю — 6 чвэрцяў і 20 гарнцаў, аўса — 90 чвэрцяў, грэчкі — 20 чвэрцяў і 20 гарнцаў, ільнянога семя 3 чвэрці 20 гарнцаў, канапель — 5 чвэрцяў 40 гарнцаў, гароху — 2 чвэрці, бабоў — 1 чвэрць.

Сенакосу было 500 дзес., на якіх у 1833 г. сабрана 2426 пудоў 15 фунтаў сена; лесу дубовага, альховага, бярозавага і сасновага — 150 дзес., з якога на апал плябаніі, фальваркаў і вёсак Асобіна, Блюдніцы, Рудзянца і Сямёнаўкі пайшло 210 куб. сажняў дроў. У абодвух фальварках стаяла па аднаму млыну-ветраку, разам было 6 корчмаў, 153 сялянскіх хат, якія мелі 1990 дзес. ворнай зямлі. Зямлі пад лесам налічвалася 2048 дзес., балоцістай і пад азёрамі — 100 дзес., сенакоснай і пад забудовамі — 2680 дзес. У вёсцы Рудзянец існавала грэка-расійская (праваслаўная) царква.

З усіх 153 двароў у касцельных вёсках 56 былі на аброку ці чыншу. Павіннасці касцельных сялян былі наступныя: з чвэрці (валокі) зямлі сяляне мусілі плаціць 8 руб. серабром і пастаўляць прадукты: 1 чвэрць жыта, 20 гарнцаў ячменю, 1 чвэрць аўса, 40 гарнцаў грэчкі, 20 гарнцаў хмелю, 100 штук грыбоў, палову гусі, курыцу, 10 яек. Таксама дастаўлялі 3 вазы аднасажанных аднапаленных дроў у плябанію, 2 талькі[134] пражы ў 40 пасмаў, 1 фунт кужалю, па чарзе рамантавалі будынкі, выстаўлялі падводы па патрабаванні эканоміі. На жніво, сенакос і вываз гною чыншавыя сяляне мусілі выходзіць разам з прыгоннымі сялянамі.

Прыгонныя сяляне адбывалі 2 дні прыгону ў тыдзень. Малацьба і старажоўшчына[135] былі па чарзе. Усе гэтыя павіннасці былі яшчэ з *«польскіх»* часоў і адбываліся акуратна.[136]

## 14.Сяляне Магілёўскай губерні

У 1835 г. пры касцёле былі наступныя служкі: арганіст Людвік Енджэеўскі, 36 гадоў, шляхціч Лепельскага павету, на пасадзе 3

гады; сакрысціянін Дамінік Шынкевіч, 25 гадоў, шляхціч з аколіцы Лапічы, на пасадзе 8 гадоў. Плябанскія служкі: фурман Іван, 16 гадоў, праваслаўны капітульны падданы з вёскі Рудзянец; вартаўнік Клім Васілёў, 22 гады, праваслаўны плябанскі падданы з вёскі Сямёнаўка; гаспадыня Магдалена Жарнова (магчыма, Жарына), 45 гадоў, шляхцянка-каталічка з вёскі Рудзянец; хлопец Міхаіл Аколаў, 25 гадоў, католік; хлопец Віктар Енджэеўскі, 16 гадоў, шляхціч-католік. Таксама пры плябаніі жыла жабрачка Марыяна Пашкевічава, удава 54 гадоў, шляхцянка Беліцкага павета.[137]

## 5. СПРАВА КСЯНДЗА ДУБРАЎСКАГА[138]

З 1830 г. вікарыем у Гомельскім касцёле працаваў кандыдат багаслоўя ксёндз Юліян Дзяменцьевіч Дубраўскі. У 1832 г. ён быў прызначаны беліцкім дэканам.

1 кастрычніка 1841 г. ў Гомель прыехалі два каталіцкія святары — магілёўскі дэкан Юзаф Длугаборскі і рагачоўскі пробашч Гедэон Кіч, якія накіраваліся ў вікарыят, дзе паведамілі мясцоваму плябану ксяндзу Дубраўскаму аб мэце іх прыезду.

15.Карта Гомеля 1838 г.

Яшчэ 3 жніўня 1841 г. Длугаборскі атрымаў ад арцыбіскупа мітрапаліта Ігнацыя Корвіна Паўлоўскага прадпісанне, якім яму загадвалася разам з яшчэ адным ксяндзом добрай рэпутацыі накіравацца ў мястэчка Гомель. Мэтай паездкі мусіла быць расследаванне паводзін гомельскага плябана і беліцкага дэкана ксяндза Юліяна Дубраўскага. На імя мітрапаліта прыйшлі 2 лісты, адзін у 1840 г., а другі ў 1841 г., у якіх ксёндз Дубраўскі абвінавачваўся ў розных учынках, несумяшчальных з духоўным санам. Калі ў першым лісце абвінавачванні насілі агульны характар, то ў другім яны былі падрабязна апісаны ў 12-ці пунктах. Дубраўскага абвінавачвалі ў тым, што ён не носіць святарскага ўбору; не выконвае духоўных абавязкаў у парафіі, а калі і выконвае часам, то ўбраны ў свецкае адзенне; не адпраўляе святую Імшу; не спавядаецца; вучыцца граць на фартэпіяна і танцаваць; не выконвае пастоў і таму страціў павагу не толькі сваіх парафіянаў, але і людзей іншых вызнанняў; амаль не жыве пры касцёле; з-за празмернай юрлівасці захварэў на венерычную хваробу і страціў увесь нос; купіў дзвюх маладых дзевак і жыве з імі; у 1840 г. у Дзень Задушны спраўляў баль у сябе і да таго дапіўся, што дагала распрануўся і з-за

гэтага з боку людзей меў да сябе вялікае пагаршэнне адносін; кепска абыходзіцца з плябанскімі падданымі і з фундушавымі падданымі музыкі катэдральнай; знішчыў фундушавы лес.

Юзафу Длугаборскаму было прадпісана неадкладна разабрацца ў гэтай справе і дакласці мітрапаліту. Длугаборскі, спаслаўшыся на занятасць, папрасіў адкласці паездку да першых дзён верасня.

Толькі 1 кастрычніка камісія ў складзе Ю.Длугаборскага і Г.Кіча прыбыла ў гомельскую плябанію і адразу прыступіла да расследавання. Спачатку былі складзены 2 экзэмпляры апытальніка з 12 пытаннямі для вікарыяў Гомельскага касцёла і 10 экзэмпляраў — для паважаных і годных веры парафіян. Пасля былі прыведзены да прысягі 10 парафіян, 2 вікарыі і доктар, які лячыў ксяндза Дубраўскага.

Паказанні прадставілі наступныя асобы: пан Гарбатоўскі — падсудак Беліцкага павета; пан Валадкевіч — маршалак; пан Жукоўскі — гранічны суддзя; пан Юхневіч — доктар Беліцкага павета; Рамуальд Дамброўскі — губернскі сакратар; Якуб Міцкевіч — асэсар земскага суда; Адам Вінрцых — сакратар земскага суда; пан Плескі — асэсар Беліцкага павета; пан Міцкевіч — сакратар; пан Стракоўскі — прэзідэнт; ксёндз Баніфацый Найневіч — вікарый Гомельскага касцёла; ксёндз Вінцэнт Кондрат — вікарый Гомельскага касцёла.

Усе гэтыя асобы далі практычна аднолькавыя адказы на пытанні. Так, Гарбатоўскі паведаміў наступнае: «1. У якім аддзенні ксёндз Дубраўскі заўсёды ходзіць? — У адзенні, якое б не адпавядала духоўнаму стану, ні разу ксяндза не бачыў.

2. Ці выконвае абавязкі плябана і, калі выконвае, то ў духоўным убранні ці свецкім? — Калі выконвае плябанскія абавязкі ў касцёле, то заўсёды ў духоўным убранні, а калі гэта патрэбна, то ў арнаце, капе або ў комзе.

3. Ці адпраўляе святую Імшу і як часта? — Калі знаходзіцца ў Гомелі, святую Імшу адпраўляе рэгулярна.

4. Ці спавядаецца калі-небудзь? — Не ведаю.

5. Ці праўда, што вучыцца граць на фартэпіяна і танцаваць у пані Вішнеўскай? — З-за аддаленасці месца майго пражывання не ведаю, ці бывае ён у пані Вішнеўскай і каб іграў і танцаваў, ні ад кога не чуў.

6. Ці выконвае пасты? — У дзень посту мясных страў на стол не падавана.

7. Дзе найчасцей жыве, у Гомелі пры касцёле ці ў іншым месцы? — Найчасцей жыве ў Гомелі.

8. Ці праўда, што з-за празмернасці ў юрлівасці страціў увесь нос? — Няпраўда.

9. Ці праўда, што з-за той самай прычыны купіў у пані Вішнеўскай дзвюх маладых дзевак, разам з імі жыве ў адной кватэры і вядзе непрыстойнае жыццё? — Ці купляў калі-небудзь дзевак ці не, не ведаю і ніякіх ні старых ні маладых у памяшканні ксяндза не бачыў.

10. Ці па той самай прычыне ў мінулым годзе ў дзень Задушны спраўляў баль са сваёй кампаніяй і да таго дапіўся, што дагала разабраны віваты выконваў і праз гэта меў да сябе вялікае пагаршэнне адносін з боку людзей? — Не толькі ў дзень Задушны, але ніколі ксяндза п'яным не бачыў, і ці была якая кампанія ў гэты дзень, не ведаю.

11. Як абыходзіцца з плябанскімі падданымі і з падданымі фундушавымі музыкі катэдральнай, і ці не пакрыўджаны яны ксяндзом Дубраўскім ці яго падручнымі? — Па лагодным характары ксяндза не мяркую, каб быў кепскім для падданых.

12. Ці не прадаваў лясоў фундушавых і як багата? У якім стане гэтыя лясы? — Не ведаю і не чуў».

Маршалак Валадкевіч напісаў у адказах, што *«Дубраўскі ходзіць заўсёды ў адпаведным духоўнаму сану ўбранні. Як служка хрысціянскай рэлігіі ўзорна з стараннасцю захоўвае яе праўды і пашырае яе боскую маральнасць»*. Хаця Валадкевіч і жыве за 30 вёрст ад касцёла, але калі бывае ў касцёле, то бачыць ксяндза, які адпраўляе святую Імшу з навукамі. Пра гранне на фартэпіяна і танцы адказаў, што трэба ведаць пані Вішнеўскую, трэба паглядзець, колькі ёй гадоў, ці можа граць і танцаваць. Гэта благі жарт. Пані Вішнеўская — удава адваката, а пасля — сакратара павятовага суда, маці шматлікіх дзяцей, якая прабывала ў шматлікіх клопатах і патрабавала дарадцы і суцяшальніка. Яна знайшла яго ў ксяндзе Дубраўскім. Заўсёды ва ўсім гомельскі плябан ксёндз Дубраўскі выконваў свае абавязкі паклікання і быў прыкладам для парафіян. Парафіяльныя абавязкі, кіраванне фундушавымі фальваркамі, паляпшэнне быту сялянаў, будаўніцтва ў плябаніі, заняткі дэканскімі абавязкамі — вось справы ксяндза Дубраўскага. На пункты 8, 9 і 10 напісаў, што гэта найчарнейшая намова, якая нават выходзіць за межы фальшы.

Падобна адказалі і ўсе астатнія запытаныя.

5 чысла таго ж месяца Длугаборскі з Кічам выехалі ў Смедзін лес за ракой Сожам, які знаходзіўся на адлегласці 50 вёрст ад касцёла (гэты лес, верагодна, знаходзіцца паміж вёскамі Рудня-Шлягіна і Ухова Веткаўскага раёна. На рацэ Сож у гэтым месцы існавала прыстань Смедзін). Ксяндзы агледзелі ўвесь лес (з ляснікам, які там жыў) і потым распыталі ў лясніка, ці не было якога-небудзь продажу лесу «налева». Ляснік даў паказанні, згодна з

якімі апроч высечкі на плябанскія і фальваркавыя патрэбы не было ніякага продажу «налева», толькі на працягу трох гадоў забрана з прычыны паваленння 40 сажняў верхавін, якія сплаўлены па Сажу ў Гомель і аддаены на апал цэглы для вырабу 50 тыс. цаглін, з якіх быў зроблены ў плябаніі склеп пад новым домам.

6-га дня камісія прыбыла да плябанскага фальварка Блюдніцы, дзе таксама быў агледзены цэлы лес і быў апытаны другі ляснік. Ён таксама адказаў, што апрача хатніх патрэб нікому ні аднаго дрэва не прадалі.

У 7-ы дзень Длугаборскі з Кічам прыбылі да *«фальварка катэдральнай музыкі»* Кабылін[139], дзе агледзелі лес, але ніводнага продажу, апрача хатніх патрэб, не выявілі. Сабраныя падданыя, як плябанскія, так і музычныя, былі апытаныя, ці не маюць якога ўціску ці крыўдаў ад ксяндза Дубраўскага і яго падручных, ці не прадавалі каму-небудзь фундушавы лес? На гэта ўсе аднолькава адказалі, што ксёндз Дубраўскі іх не крыўдзіў і лес не прадаваў. Былі правераны ўсе вясковыя склады ўсіх плябанскіх вёсак, аднак ніякай недастачы не было знойдзена. Усе падаткі былі сплочаны, за выключэннем падаткаў за 1841 г., з якіх была сплочаная толькі палова.

Не знайшоўшы ніякага пацвярджэння ананімным абвінавачванням, Длугаборскі з Кічам пакінулі Гомель.

Аднак Длугаборскі атрымаў ад мітрапаліта новы загад, згодна з якім ён мусіў падабраць на пасаду гомельскага плябана і беліцкага дэкана новую кандыдатуру замест Юліяна Дубраўскага. Длугаборскі 10 кастрычніка ў рапарце да мітрапаліта адказаў, што ў дэканаце няма такой кандыдатуры, бо апрача двух гомельскіх вікарыяў у дэканаце працуюць усяго 4 святары:

1) У Гросвердэры, у адлегласці 200 вёрст ад Гомеля daміnіканец ксёндз Зубрыцкі;

2) У Радузе ксёндз Ставярэй, былы дамініканец, на той час хворы, які на працягу трох тыдняў нават не мог падняцца з ложку;

3) У Чачэрску дамініканец ксёндз Багдановіч, які не меў ніводнага фундушу;

4) У Люшаве ксёндз Дамінік Юшкевіч, які быў нядаўна прызначаны, і які не мог выконваць дадатковых даручэнняў, бо знаходзіўся далёка ад пошты і не зрабіў яшчэ ніякіх грашовых запасаў. А з-за таго, што апытаныя парафіяне і вікарыі нічога супраць ксяндза Дубраўскага не паказалі і ўхвалілі яго паводзіны, выбар новага плябана і дэкана мусіў застацца за арцыбіскупам.

У той жа дзень, 10 кастрычніка, у справаздачы мітрапаліту ксяндзы Длугаборскі і Кіч напісалі, што ўсе апытаныя 10 парафіян, доктар і 2 вікарыі нічога кепскага пра Дубраўскага не паведамілі.

Калі Юзаф Длугаборскі з Гедэонам Кічам прыехалі ў Гомель, то засталі Дубраўскага ў звычайным убранні ксяндзоў — чорным доўгім сурдуце. Святую Імшу Дубраўскі адпраўляў у духоўным убранні, споведзь адбываў, як сам казаў, у Магілёве і Гомелі. Тое ж паказаў вікарый Найневіч. Абвінавачванні ў гранні на фартэпіяна і танцах у пані Вішнеўскай на праўду не падобны, бо ксяндзы самі бачылі яе ў Гомелі з старэйшым сынам 26 гадоў. Вішнеўская — удава каля 60 гадоў, маці дзевяцёра дзяцей, была ў няшчасным стане і вялікіх турботах. Хутчэй, была вартая спачування, чым ачарнення. Ксёндз Дубраўскі сам казаў, што бываў у фальварку Ціхінічы Вішнеўскай толькі для адпраўлення святой Імшы ў фальваркавай капліцы і выканання іншых парафіяльных абавязкаў тамашнім парафіянам, на 30 вёрст ад касцёла аддаленым. Што да посту, дык усе сказалі, што не бачылі, каб Дубраўскі ўжываў у гэты час мясныя стравы. Што да пражывання за межамі Гомеля, то ўсе адказалі, што плябан непараўнальна даўжэй жыве пры касцёле, чым у фальварках.

Наконт таго пункту, нібыта ксёндз Дубраўскі страціў нос ад любошчаў, то гэта вымысел, таму што нос у Дубраўскага быў здаровы і цэлы. А хварэў ён рожай твару, на якую пакутваў з надыходам непагадзі, паводле сведчання доктара, які яго лячыў. Абвінавачванні ў тым, што Дубраўскі купіў у пані Вішнеўскай дзвюх маладых дзевак, якія з ім жылі на адной кватэры, аказаліся выдумкай. Праўда была ў тым, што Дубраўскі купіў цэлую сям'ю católікаў — маці, якая ў 1840 г. памерла, двух сыноў і дачку. Аднаму сыну было 22 гады, другому — 12, а дачцэ — 14. Купіў для таго, каб мець прыслугу. Двух тых хлопцаў трымаў пры сабе ў плябаніі, а іх сястру за месяц да падзеяў аддаў у Гомелі ў сям'ю Закрэўскіх для падвучэння шыццю-мыццю і іншым работам, каб потым адаслаць да сваёй маці на Падолле. Што да баля ў Задушны Дзень, то вікарыі, як і парафіяне, сказалі, што то быў не баль. Некаторыя парафіяне былі ў Дубраўскага на гарбаце, а некаторыя нават і начавалі, згодна з даўнім звычаем, для адбыцця набажэнства за душы памерлых. Што да абыходжання з падданымі, дык падданыя былі апытаны асабіста, але не мелі ніякай крыўды ад ксяндза Дубраўскага — ні адзін з іх не адазваўся, каб быў у чым небудзь пакрыўджаны.

Ніякага продажу «налева» фундушавага лесу не было выкрыта. З вывезенага дрэва былі пабудаваны ў плябаніі свіран, вазоўня, 2 стайні, павець і лядоўня, якія накрыты драніцай пад цвік, дом на 6 пакоеў з мураванай кухняй, накрыты гонтай і агароджаны штыкетам з брамай. Пры тым доме свіран, прывезены ў 1840 г. з фальварку Блюдніцы, накрыты драніцай, а на яго месцы пастаўлены ў Блюдніцы новы, таксама накрыты драніцай, новая лазня на 2 пакоі з

сенцамі. Апроч таго, у *«фальварку музычным»* Кабыліне быў пастаўлены вялікі дом, у якім мусілі жыць чэлядзь і аканом. Дом гэты быў накрыты драніцай пад цвік. У вёсцы Рудзянец пабудавана новая карчма на 2 паловы па 2 станцыі з сенцамі, накрытая драніцай.

Напрыканцы рапарта Длугаборскі і Кіч падкрэслілі, што даручэнне мітрапаліта сумленна і акуратна выканалі.

Але хто тады і з якой прычыны мог пісаць лісты з фальшывымі абвінавачваннямі мітрапаліту? Ліст ксяндза Дубраўскага да арцыбіскупа толькі прыадкрывае гэтую таямніцу, але не падае прозвішча ачарніцеля:

«*Да яснавяльможнага мітрапаліта рыма-каталіцкіх у Расіі касцёлаў, арцыбіскупа магілёўскага, прэзідэнта рыма-каталіцкай калегіі і кавалера Ігнацыя Корвіна Паўлоўскага.*

*Ад ксяндза Юліяна Дубраўскага, плябана гомельскага, дэкана беліцкага.*

*Найпакорнейшы рапарт.*

*У гэтым годзе атрымаў 13-га верасня прадпісанне Вашай арцыпастырскай мосці за № 1188 днём 8 верасня датаванае, якое паведамляе мне аб кепскіх і несумяшчальных з духоўным званнем паводзінах. Тым самым даючы мне адмову ад абяцанай пасады асэсара ў магілёўскай калегіі і страту надзеі атрымання далейшага павышэння, абяцанага мне лістом Вашай арцыпастырскай мосці, датаваным днём 17 мая гэтага ж года № 113. Цяпер паўторна дня 1-га кастрычніка ксяндзы Длугаборскі, дэкан магілёўскі, і Кіч, пробашч рагачоўскі, прыбылі ў Гомель і паведамілі мне аб мэце прыбыцця свайго службовага. Яны пазнаёмілі мяне з прадпісаннем Вашай арцыпастырскай мосці, у якім з болем майго сэрца вычытаў паданае на мяне Вашай арцыпастырскай мосці найагіднейшае і найнесправядлівейшае ачарненне, якое толькі мог зрабіць адзін паклёпнік, у дванаццаці пунктах зместам.*

*Уражаны такім раптоўным і неспадзяваным няшчасцем, ледзь вынесці магу такое незайздроснае становішча. Адзін раз ужо будучы жорстка караным псаваннем ласкі і дастойнага меркавання пра мяне Вашай арцыпастырскай мосці, ад чыёй волі лёс мой цалкам залежыць, зноў пабачыў сябе выстаўленым перад Вашай арцыпастырскай мосцю ў найагіднейшым вобразе, які толькі зласліўцы пры дапамозе бессаромнага фальшу сфарміраваць маглі. Усялякую стараннасць і руплівасць у выкананні даручаных мне абавязкаў, якімі я намагаўся заслужыць увагу і давер майго начальства, гэты паклёп мог знішчыць, і, нарэшце, пазбаўленне мяне добрага імя перад парафіянамі, з нагоды задаваных ім камісіяй пытанняў, у якіх да гэтага часу быў я ў павазе і меў добрую рэпутацыю і з пагаршэннем якіх быў я ачэрнены — гэта стала для*

*мяне самым адчувальным і балючым ударам. Таму гэтым лістом прыбягаю да стопаў Вашай арцыпастырскай мосці, каб прынесці найглыбейшую ўдзячнасць за прызначэнне камісіі ў Гомель, што ўжо з'яўляецца міласцю, якую Ваша арцыпастырская мосць па бацькоўскай сваёй дабрыні для мяне зрабіць вырашыла.*

*Будучы цалкам упэўненым у сваёй нявіннасці, не мяркую, каб дадзеная камісія змагла выкрыць нешта падобнае на ісціну з абвінавачванняў, якія былі прад'яўляны мне ў фальшывым данясенні. Таксама камісія мусіла давесці да Вас аб маёй руплівасці ў адносінах даверанай мне плябаніі і добрасумленным кіраванні маёмасцю, як належачым плябаніі, так і фундушу катэдральнага сабора. Так жа шчыра і сумленна магу заявіць, што не зрабіў для сябе ніякіх грашовых запасаў, а ўсе даходы выдаткоўваю на будаўніцтва і гаспадарку як плябані, так і абодвух маёнткаў.*

*Пры тым прашу, яснавяльможны пастыр, прабачыць мне маю смеласць, што асмельваюся турбаваць Вашу арцыпастырскую мосць сваёй найпакорнейшай просьбай выкрыць паклёпніка, які ёсць, я ўпэўнены, ніхто іншы, як той жа, хто і год таму ачарніў мяне перад Вашай арцыпастырскай мосцю.*

*Гаворка ідзе не аб помсце, бо гэта не хрысціянская справа, а аб жаданні ўпэўніцца ў тым, што гэты пасквіль падпісаны выдуманым імем, і гэтага чалавека не існуе, а калі і існуе, то, напэўна, нават і не ведае пра гэты данос, у той час як сапраўдны аўтар гэтых пасквіляў, ведаючы ўсю ганебнасць шляху свайго жыцця, і якому я рашуча адмаўляю ў веры, ніколі не адважыцца адкрыць сваё імя. Для мяне яно не падляжыць сумненню, паколькі гэты зласлівы чалавек кулуарна прызнаваўся шмат каму, што будзе мяне пераследаваць сваімі даносамі, пакуль не атрымае патрабуемую несправядліва суму, а таму, будучы зусім нявінным, лёгка магу чакаць пра сябе і ў далейшым падобных пасквіляў. Выкрыццё яго паслужыць таксама для ўлагоджвання таго дурнога ўплыву, які гэты ілжывы паклёп мог аказаць на грамадскую думку парафіян, чыя павага і нічым не зняслаўленая рэпутацыя так неабходны святару.*

*Яснавяльможны пастыр! Не дазволь, каб я нявінна пакутаваў і ганьбілася духоўнае званне. Пажадай, Ваша архіпастырская мосць, пачуць маю просьбу і абараніць мяне сваёй высокай увагай ад падобных пасквіляў. Бо вядучы такое недастойнае жыццё, у якім абвінавачвае мяне паклёпнік, ці мог бы я быць цярпімы столькімі важнымі людзьмі, якія маюць сталую магчымасць звярнуць на мяне ўвагу, або бліжэйшым начальствам, якім з'яўляецца Магілёўская кансісторыя, для якой бачна мая дзейнасць.*

*Пажадай, Ваша арцыпастырская мосць, звярнуць сваю ўвагу на нанесены мне ўрон, які мой паклёпнік нічым папоўніць не ў стане.*

*Кс. Юліян Дубраўскі. 21 кастр. 1841 г.».*[140]

Арцыбіскуп Ігнацы Корвін Паўлоўскі ў лісце да ксяндза Дубраўскага, які датаваны 9 лістапада 1841 г., прызнаў, што абвінавачванні «аказаліся фальшывымі». Яшчэ некалькі гадоў ксёндз Дубраўскі працаваў на пасадах гомельскага плябана і беліцкага дэкана. Далейшы лёс яго невядомы, як і прозвішча яго крыўдзіцеля.

16.Фармулярны спіс (біяграфія) уласнаручна напісаны Ю.Дубраўскім
у 1834 г.

6. ГОМЕЛЬ І ПАРАФІЯ Ў СЯРЭДЗІНЕ XIX ст.

У 1854 г. у Гомелі пражывала 10100 жыхароў. Католікаў у гэты час (1855 г.) было 212 чалавек. У горадзе (разам з Новай Беліцай) налічвалася 1219 жылых, гаспадарчых і адміністрацыйных будынкаў, з іх 129 мураваных, 1090 — драўляных.

17.Гандлёвая плошча. Рысунак сярэдзіны XIX ст.

Моцны пажар 1856 г. знішчыў у Гомелі 540 з 1219 дамоў. Пацярпеў ад пажару і касцельны архіў, у якім згарэла шмат каштоўных дакументаў.

У 1858 г. у Гомелі налічвалася 13700 жыхароў, у 1860 г. — 17 тыс.[141] У 1862 г. колькасць гараджан-католікаў дасягнула 540 чалавек (266 мужчын і 274 жанчын).

18.Гомельскі палац. З малюнка Н.Орды. 1850-я гады.

У 1852 г. у Гомельскай парафіі налічвалася 9 капліц: у Новай Беліцы, Антонаўцы, Грабаўцы, Баршчове, Борхаве і Ціхінічах (з іх у 1850 г. 3 капліцы ў Дуравічах, Засоўі і аколіцы Новых Цярэшкавічах былі ўжо запячатаны).

У 1855 г. гомельскія парафіяне сабралі 210 руб. дабраахвотных ахвяраванняў. Для рамонту касцёла ў гэты год былі набыты розныя матэрыялы і касцельнае начынне. Для пабелкі за 56 руб. было куплена 100 пудоў чыстай вапны і 84 пуды вапны для тынкоўкі. За

сасновы лес (брусы, бярвенне, дошкі, дубовыя штандары) і цэглу было заплачана 250 руб. Было куплена для касцёла варшаўскага серабра на суму 203 руб. 10 кап.: 6 вялікіх падсвечнікаў на алтар вышынёй 1 аршын 4 вяршкі; 6 малых падсвечнікаў вышынёй 11 вяршкоў на алтар; мошчнік, у некаторых месцах пазалочаны; пара ампулак. Заплачана 30 руб. за вялікае пазалочанае на сярэбраным крыжы распяцце і 15 руб. за вялікае чыгуннае распяцце і літары для надпісу *«Sit nomen Domini benedictum usque ad aeternum»* (гэта выслоўе і распяцце знаходзіліся звонку на касцёле да пачатку XX ст.). Усяго было заплачана 554 руб. 10 кап. на матэрыялы і начынне і 250 руб. рабочым, агулам — 804 руб. 10 кап.

Да 1 лістапада 1855 г. у касцёле быў зроблены вялікі мураваны алтар. Касцёл быў звонку нанава атынкаваны і пабелены, як звонку, так і ўсярэдзіне. Быў перароблены ганак. Касцельная агароджа, падмурак і слупы таксама былі атынкаваны і пабелены. Дах касцёла пафарбаваны чырвонай фарбай, крыжы вызалачаны.

У мураваным доме плябаніі ў чырвоны колер быў пафарбаваны дах, дом быў атынкаваны і пабелены, зроблены 2 новых ганкі. Усярэдзіне дома ў блакітны колер былі пафарбаваны сцены, перароблены печы і падлога. Былі таксама перароблены печы ў флігелі, адрамантавана лазня, зроблена багадзельня (шпіталь) на падмурку. Заставалася яшчэ перабудаваць флігель з кухняй і перакрыць стайню і свіран.[142]

У 1848—1849 гг. адміністратарам Гомельскага касцёла быў Павел Якуб Лаўрэнцьевіч Келпш. Пасля яго пробашчам гомельскага касцёла і адначасова беліцкім, а потым гомельскім дэканам (да 1855 г.) быў ксёндз Баніфацый Найневіч, якога на дэканскай пасадзе змяніў чачэрскі пробашч Гіртовіч.

Вікарыем у Гомелі ў пачатку 1850-х гг. служыў ксёндз Сухоцкі, капеланам да 1852 г. быў ксёндз Юзаф Энгельгард. Пасля іх у Гомелі працавалі вікарый Ян Буген (пад гэтым прозвішчам хаваўся літоўскі селянін Ян Венцкус) і законанастаўнік Аляксандр Багрым. Парафія налічвала 1050 вернікаў.

21 лютага 1859 г. законанастаўнікам пры Гомельскім трохкласным вучылішчы быў прызначаны Рыгор Войцехавіч Керсноўскі. З 1864 г. ён быў законанастаўнікам пры Гомельскай шасцікласнай прагімназіі. Па прашэнні 18 сакавіка 1889 г. быў звольнены з пасады. Да самага скону 1 снежня 1896 г. ён выконваў абавязкі вікарыя пры Гомельскім касцёле.

У 1859—1860 гг. вікарыем Гомельскага касцёла быў Фелікс Ігнацьевіч Заленскі.

У 1863—1864 гг. вікарыем Гомельскага касцёла працаваў Іосіф Іосіфавіч Гліндзіч.

У 1864 г. вікарыем у Гомель быў прызначаны былы вікарый скасаванага Радужскага касцёла Аляксандр Тамашэўскі.

30 чэрвеня (паводле іншых звестка 13 чэрвеня) 1864 г. вікарыем прызначаны Рох Антонавіч Багушэўскі.

У 1867 г. (а магчыма, і раней) у Гомеле адміністратарам працаваў ксёндз Рэніер, якога потым перавялі ў Шклоў на пасаду адміністратара і магілёўска-горацкага дэкана.[143]

З 22 снежня 1869 г. па 14 сакавіка 1870 г. на пасадзе пробашча і гомельскага дэкана быў Рох Антонавіч Багушэўскі. З 25 сакавіка ён быў прызначаны на пасаду адміністратара Івандарскага касцёла.

Парафіянамі касцёла ў 1840—1850 гг. былі, па ўсёй верагоднасці, польскі архітэктар Адам Ідзікоўскі, які з 1837 г. да сярэдзіны 1840-х гг. кіраваў рэканструкцыяй і дабудовай палаца і планіроўкай парка, а таксама італьянскі майстар па тынкоўцы Вінцэнта Вінцэнці, які працаваў у палацы з 1843 г. да сярэдзіны 1850-х гг.[144]

19.Гомельскі палац і парк у сярэдзіне XIX ст. Карціна А.Ідзікоўскага.

Сярод іншых вядомых парафіян XIX ст. трэба адзначыць памешчыка Вінцэнта Крушэўскага. Ён валодаў мястэчкам Антонаўкай Насовіцкай воласці (у Антонаўцы да 1920-х гг. на могілках існавала каталіцкая капліца[145]), Борхавам (таксама з каталіцкай капліцай) Целяшоўскай воласці і вёскай Брылёва Гомельскай воласці (цяпер на тэрыторыі Гомеля).[146] Крушэўскі зрабіў сваёй зімовай рэзідэнцыяй знакаміты гомельскі «Паляўнічы домік», які быў пабудаваны ў 1820 г. архітэктарам У.Дзячковым для графа М.П.Румянцава.

20.«Паляўнічы домік»

Вуліца, побач з якой стаіць гэты дом, да 1923 г. так і называлася — Крушэўская. Сын Вінцэнта Крушэўскага Адольф выбіраўся магілёўскім маршалкам і быў ініцыятарам адкрыцця ў Гомелі ў 1865 г. першай дзяржаўнай прагімназіі.

21.Надмагілле Адольфа Крушэўскага. Беліцкія могілкі Гомеля.

Пасля заключэння шлюбу Антаніны Крушэўскай з Аляксандрам Лісоўскім «Паляўнічы домік» перайшоў да Лісоўскіх.[147] Апошняй гаспадыняй гэтай каталіцкай сядзібы была Ірына Галынская з Лісоўскіх, жонка Юзафа Галынскага з Крычава.[148]

22.Сучасны выгляд «Паляўнічага доміка».

Пасля паўстання 1863—1864 гг. Каталіцкі Касцёл зрабіўся адным з галоўных аб’ектаў рэпрэсіўнай палітыкі расійскага ўраду. Толькі за перыяд з 1863 г. па 15 ліпеня 1866 г. у Магілёўскай губерні было пераведзена ў праваслаўе 983 чалавекі.[149] Адзначаліся выпадкі пераходу ў праваслаўе і ў Гомельскай парафіі, праўда, цяжка сказаць, наколькі гэта было гвалтоўна. Але несумненна, што пэўны ціск на многіх католікаў аказваўся. Так, у аколіцы Фашчаўка Гомельскага павета (цяпер Целяшоўскі сельсавет Гомельскага раёна) у праваслаўе перайшоў Корзун Рыгор Мікалаевіч. А вось яго браты Пётр і Мікалай засталіся вернымі Касцёлу.[150]

## 7. ГОМЕЛЬСКАЯ ПАРАФІЯ І ДЭКАНАТ ПРЫ КСЯНДЗУ ПЯТРОЎСКІМ (1870—1911 ГГ.)

23.Гомель. Ілюстрацыя з кнігі «Живописная Россия».

У 1870 г. гомельскім пробашчам і дэканам быў прызначаны былы пробашч Бобрскага касцёла Ф.І.Пятроўскі, з іменем якога звязана цэлая эпоха ў гісторыі Гомельскай парафіі і дэканата, бо Пятроўскі працаваў на гэтых пасадах 41 год — да самай сваёй смерці 21 верасня 1911 г.

Францыск Іосіфавіч Пятроўскі нарадзіўся ў 1827 г. на Падляшшы, паходзіў з шляхты. У 1857 г. атрымаў ступень магістра багаслоўя і быў прызначаны законанастаўнікам Мсціслаўскага павятовага дваранскага вучылішча, у 1860 г. — пробашчам Касцюковіцкага парафіяльнага касцёла, 9 верасня 1865 г. — пробашчам Бобрскага касцёла, а 14 сакавіка 1870 г. ён стаў гомельскім пробашчам і дэканам.

Неўзабаве пасля свайго прызначэння ў Гомель, у 1871 г., Пятроўскі разам з гомельскімі парафіянамі адмовіўся ўводзіць дадатковыя набажэнствы на рускай мове.[151]

У 1877 г. пачалася цяжба паміж мешчанінам Лейзарам Іоселевічам Тумаркіным (Тамаркіным, Тапалеўскім) і ксяндзом Пятроўскім за ўчастак касцельнай зямлі.

Яшчэ 5 лістапада 1865 г. паміж гомельскім пробашчам Баніфацыем Найневічам і пагарскім мешчанінам Лейзарам Тумаркіным была заключана дамова, згодна з якой Тумаркіну на 12 гадоў была перададзена ў арэнднае ўтрыманне дзялянка касцельнай зямлі, якая з аднаго бока абмяжоўвалася Кіева-Варшаўскай шашой, з другога — ярам, што аддзяляў горад Гомель ад Спаскай слабады, а з трэцяга боку — фруктовым садам касцёла. Памер дзялянкі складаў 154 квадратных сажняў. Аплата ўстанаўлівалася 3 руб. серабром у год.

Дамова прадугледжвала, што па сканчэнні 12-гадовага тэрміна арэнды пры ўмове рэгулярнай выплаты арэндных грошай Тумаркіну надавалася перавага перад іншымі прэтэндэнтамі пры заключэнні новай дамовы. Таксама прадугледжвалася, што калі б касцёлу пасля сканчэння дамовы спатрэбілася гэтая зямля, то ўсе будынкі, якія пабудаваў Тумаркін, мусілі былі быць разбураны без усялякіх адтэрміновак.

7 чэрвеня 1867 г. дамова была зацверджана Магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыяй.

На падставе гэтага кантракту Тумаркін пасяліўся на арэндаваным пляцы. У 1877 г., пасля сканчэння 12-гадовай дамовы, Тумаркін хацеў заключыць новую, але ксёндз Пятроўскі адмовіўся, матывуючы гэта тым, што пляц патрэбны касцёлу. 15 кастрычніка 1877 г. ксёндз звярнуўся ў гомельскае паліцэйскае ўпраўленне з просьбай аб знясенні дома, але Тумаркін, у адказ на гэта, зрабіў новыя печы і коміны і пачаў пісаць скаргі ў розныя інстанцыі. У скарзе ў кансісторыю Тумаркін аспрэчваў патрэбу Гомельскага касцёла ў арэндаваным пляцы. Па словах Тумаркіна, касцёлу рэальна не быў патрэбны арандаваны ім пляц, бо і так 3 касцельныя будынкі і будынак багадзельні здаваліся ў арэнду прыватным асобам, да таго ж арэндаваны ім участак знаходзіўся не на той вуліцы, што касцёл. Таму Тумаркін прасіў кансісторыю, каб яна прымусіла ксяндза Пятроўскага заключыць новую дамову.

Кансісторыя для вырашэння гэтай справы 10 мая 1878 г. прадпісала ксяндзу Пятроўскаму прадставіць кантракт. Пятроўскі ў рапарце ад 3 чэрвеня 1878 г. яго прадставіў і паведаміў, што ён сапраўды адмовіў у арэндзе Тумаркіну, бо зямля патрэбна касцёлу. У доме, які быў прададзены Тумаркіну на знос, пісаў Пятроўскі, жыў

ксёндз Найневіч і месцілася кухня і касцельная прыслуга. Аднак дом не быў знесены, і ў ім працягваў жыць Тумаркін. Да таго ж, скардзіўся Пятроўскі, гэты дом знаходзіцца на адным двары з іншымі касцельнымі пабудовамі, і ў выпадку пажару нельга захаваць гэтыя касцельныя будынкі. Яшчэ Пятроўскі скардзіўся на тое, што дом, у якім жыў Тумаркін, знаходзіўся блізка ад дома ксяндзоў, і яўрэйскія дзеці, якія вучыліся ў Тумаркіна, не давалі ксяндзам займацца, а ўначы тыя, хто прыязджаў да Тумаркіна, грукалі ў браму, і Пятроўскаму нават прыходзілася падымацца з ложка, каб даведацца, ці не пажар гэта ці што іншае. Па словах Пятроўскага, ён толькі і чакаў сканчэння кантракта, каб знесці гэты стары дом і пабудаваць кухню і памяшканне для размяшчэння касцельнай прыслугі. Гэтае месца, па словах Пятроўскага, адзінае, якое падыходзіла для гэтых мэтаў, бо знаходзілася на адным двары з іншымі касцельнымі дамамі і будынкамі і другога такога месца не было. Таму Пятроўскі прасіў кансісторыю не дазваляць заключаць новы кантракт і не аддаваць участак не толькі Тумаркіну, але і нікому іншаму. Разам з кантрактам і сваімі тлумачэннямі Пятроўскі ў рапарце прадставіў сваю перапіску з гомельскім паліцэйскім упраўленнем.

Тумаркін жа ў прашэнні на імя імператара Аляксандра II аспрэчваў словы Пятроўскага. Ён пісаў, што дом, у якім ён жыве, аддзелены ад касцельных будынкаў агародам (ад дома Тумаркіна да касцельнай агароджы 40 сажняў) і не знаходзіцца на адным двары з іншымі касцельнымі будынкамі, што ксёндз Найневіч у гэтым доме не жыў, што ніякай навучальнай установы ў яго доме не было і пастаялага двара таксама. Наадварот, Тумаркін і яго сям’я цэлымі днямі не бывалі ў доме, а толькі начавалі там, бо заўсёды знаходзіліся ў сваёй краме. «Ці не за тое мяне не церпіць духавенства, што я прапаведую ў вольны час Слова Божае, — пісаў Тумаркін, — няўжо спакойнае маё жытло, якое трымаецца на сумленнай працы, горшае, чым касцельная прыслуга, якая ў свой вольны час займаецца спевамі пад бесталковую музыку гармоніка»?

Пачалася бясконцая бюракратычная валакіта. 13 верасня 1878 г. кансісторыя прыняла рашэнне аб зносе дома Тумаркіна і аб незаключэнні новага кантракта. 27 верасня яна звярнулася ў гомельскае паліцэйскае ўпраўленне, каб яно законнымі мерамі прымусіла Тумаркіна знесці будынак. Праз 2 месяцы (28 лістапада) паліцэйскае ўпраўленне напісала кансісторыі, каб тая прыслала копію свайго паведамлення ад 27 верасня. 20 снежня кансісторыя выслала копію. Між тым Тумаркін паслаў праз кансісторыю скаргу Сіноду. Кансісторыя гэту скаргу праз гомельскае паліцэйскае ўпраўленне вярнула Тумаркіну назад. Паліцэйскае ўпраўленне

даручыла выкананне рашэння кансісторыі аб зносе наглядчыку ўчастка № 2 г. Гомеля. Але Тумаркін адмовіўся зносіць дом. Тады паліцэйскае ўпраўленне перадало справу на рашэнне міравому суддзі 2-га ўчастка Гомельскай акругі. Суддзя накіраваў справу назад у паліцэйскае ўпраўленне, патлумачыўшы, што справа не з’яўляецца крымінальнай, а таму паліцэйскае ўпраўленне не мае права яе заводзіць — гэта мусяць рабіць бакі, якія спрачаюцца. Паліцэйскае ўпраўленне адаслала справу назад у кансісторыю.

1 сакавіка 1879 г. дэкан Пятроўскі адаслаў рапарт у кансісторыю. У рапарце гаварылася, што Тумаркін не толькі не збіраецца зносіць дом, а наадварот, у канцы студзеня 1878 г. адрамантаваў дах. Таксама Пятроўскі прасіў вярнуць кантракт паміж Найневічам і Тумаркіным, каб ён, Пятроўскі, мог прад’явіць зыск Тумаркіну. Кансісторыя ўпаўнаважыла Пятроўскага падаць зыск да Тумаркіна аб зносе дома з касцельнай зямлі. 19 сакавіка гэты ўказ і кантракт былі высланы Пятроўскаму. 7 сакавіка 1880 г. Пятроўскі падаў зыск да Тумаркіна ў магілёўскую аб'яднаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда. 11 снежня 1880 г. палата вынесла рашэнне, паводле якога Тумаркін мусіў вярнуць зямлю Гомельскаму касцёлу і знесці ўсе пабудаваныя ім будынкі ў гадавы тэрмін. За неабгрунтаваную спрэчку з Тумаркіна спаганялася 7 руб. 50 кап. штрафу.

Тумаркін падаў апеляцыю ў Сінод. Цяжба скончылася 29 ліпеня 1883 г., мяркуючы па ўсяму, не на карысць Тумаркіна.

У 1882 г. Гомельская парафія налічвала 2223 асобы.

З 21 сакавіка 1884 г. па 14 чэрвеня 1885 г. вікарыем у Гомелі працаваў Стэфан Антонавіч Градзіцкі.

У 1886 годзе касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі паводле «Описания Гомельского Римско-католического приходского костела и всякого имущества его, Могилевской губернии в уездном городе Гомеле Гомельского Деканата» (поўны тэкст «Апісання» гл. у дадатку 2) выглядаў наступным чынам. Касцёл быў мураваны, ззаду напаўкруглы, з круглым купалам і 2-ма вежамі. На іх былі 3 жалезныя вызалачаныя крыжы з вызалачанымі шарамі. На адной з вежаў віселі 5 званоў: вялікі, сярэдні і 3 малых. Усе яны былі вагой у 26 пудоў.

Дах касцёла быў крыты жалезнай бляхай і пафарбаваны алейнай чырвонай фарбай. Звонку касцёл быў атынкаваны і агароджаны мураваным палісаднікам на мураваным падмурку з атынкаванымі мураванымі слупамі. Уваход у касцёл быў праз драўляны ганак на мураваным падмурку з 6 прыступкамі. Дзвярэй для ўваходу ў касцёл было 3. Яны былі зроблены з дубовага дрэва. Вокнаў вялікіх напаўкруглых у касцёле было 3, у купале 8, падлога была з дубовага

дрэва, пафарбаваная, па абодвух баках касцёла стаялі 10 пафарбаваных лавак. Канфесіяналаў ясянёвых сталярнай работы было 2, пад хорамі 2 лаўкі простыя, у прэсбітэрыюме 1 лаўка палітураваная. Краты, якія аддзялялі прэсбітэрыюм, былі адліты з чыгуну, нанава на той час пафарбаваны і завешаны напаўтыбетам чырвонага колеру, а зверху белай пасцілкай. Звонку на касцёле над франтонам вісела чыгуннае ўкрыжаванне Збавіцеля. Касцёл меў 5 алтароў.

Плябанія складалася з наступных будынкаў:

1. Мураваны дом з мезанінам. Меў 7 пакоеў. Дах быў пакрыты жалезнай ліставой бляхай, пафарбаваны чырвонай алейнай фарбай, столь паклеена халстом, падлога зроблена з дошак сасновага дрэва. Дзвярэй, пафарбаваных аднолькавых на жалезных асях — 3, вокнаў фарбаваных — 23, печаў з юшкамі і дзверцамі — 4.

2. Флігель, пабудаваны з круглага сасновага дрэва. У даўжыню на 8, у шырыню на 3,5 сажняў, накрыты гонтамі. Пакоеў 5. Ганак, які вёў ў сенцы, падтрымліваўся на 2-х слупах, дзверы, якія вялі у сенцы, былі на жалезных завесах з зашчапкамі. Дзвярэй простых на жалезных завесах з унутранымі замкамі было 5, вокнаў — 11, печаў з чыгуннымі юшкамі і дзверцамі — 3, у сенцах была кладоўка, а пад 2-ма пакоямі мураваны склеп.

3. Флігель з правага боку мураванага дома, з кухняй і сенцамі. У даўжыню быў 12,5 сажняў, а ў шырыню 3,5 сажняў. Пабудаваны з круглага дрэва пад адну кроўлю, накрыты гонтамі пад цвік, у сенцах перагародка, якая аддзяляла ўваход у флігель. У кухні знаходзіўся склад. Ганак быў на 3-х слупах. Дзвярэй меў 2. Адны, з правага боку, вялі у сенцы да пакоеў, а другія, з левага боку, — у кухню. Пакоеў — 5, дзвярэй — 6, печаў цагляных з чыгуннымі дзверцамі — 3, акенцаў — 14. Усе гэтыя пакоі былі атынкаваны, пафарбаваны і паклеены шпалерамі. Кухня мела 1 печ для варкі і пліту.

4. Кухня да першага флігеля. Была асобная, накрытая гонтамі, у ёй 4 акенцы, 1 печ для варэння і камін, сенцы з каморкай, дзвярэй 3 простых на завесах з клямкамі.

5. Свіран. У даўжыню быў 2,5, а ў шырыню 3,5 сажні. Меў 2 засекі, дзверы на жалезных завесах-круках і такой жа клямкай.

6. Вазоўня, хлеў, склад для дроў, стайня ў 3 станкі, сенніца, склад для дроў і ляднік. Усе гэтыя будынкі былі пад адзін дах пабудаваныя ў кут, дзверы былі ўсе аднолькавыя на завесах з клямкамі, накрытыя гонтай пад цвік, даўжынёй 15, шырынёй 3 сажні і даўжынёй 20, шырынёй 4 сажні.

7. Дом драўляны на мураваным падмурку. Даўжынёй быў у 7 сажняў і палову аршына, шырынёй 4 сажні і 2,5 аршына, пры доме было 2 ганкі: парадны на 4-х калонах, пафарбаваных белай фарбай, і

задні на 7-мі калонах з драўлянымі кратамі. Вонкавых дзвярэй 2, адны сталярнай работы, растворчатыя, напаўшкляныя, а з задняга ганка прастыя, на жалезных завесах і петлях, з унутранымі замкамі. Унутры дома было 7 пакоеў, падлога была фарбаваная, печаў — 3 з юшкамі і чыгуннымі дзверцамі, акенцаў — 11. Усе пакоі ў гэтым доме былі на той час нанава атынкаваныя і паклееныя шпалерамі, накрытыя гонтай пад цвік. Пад домам існавала кухня. З левага боку сенцаў знаходзіўся жылы пакой, у ім печ для варкі. На правым баку таксама быў жылы пакой, у ім 2 акны, простыя дзверы і печ для варкі, падлога з сасновых дошак. З усходняга боку пад домам знаходзіўся мураваны склеп, да гэтага дома належыла стайня з вазоўняй.[152]

У 1887 г. на сродкі Ф.І.Пятроўскага быў зроблены рамонт касцёла. Выдаткі склалі 516 руб. 82 кап.

У 1889 г. пачалася цяжба паміж ксяндзом Пятроўскім і графам Ф.І.Паскевічам. Яна скончылася палюбоўна ў 1891 г.

З 1 лістапада 1891 г. законанастаўнікам пры гомельскіх мужчынскай і жаночай прагімназіях працаваў Баляслаў Юзаф Марцінавіч Вайшвіла. З-за хваробы ён змог выконваць свае абавязкі толькі да 1893 г. У канцы таго ж года ён памёр.

## 24.Надмагілле ксяндза Вайшвілы. Беліцкія могілкі Гомеля.

1 жніўня 1893 г. на пасаду законанастаўніка прагімназій быў прызначаны Ігнацы Карлавіч Чаеўскі. Ён паспеў адпрацаваць у Гомелі ўсяго паўтары месяцы і 16 верасня таго ж года быў пераведзены ў Пецярбург на пасаду вікарыя касцёла Св. Кацярыны.

У 1893 і 1894 гг. вернікаў Гомельскай парафіі наведаў з душпастырскай візітацыяй біскуп Францыск Альбін Сымон.[153] У самім Гомелі католікаў у гэты час налічвалася 717 чалавек.

Пастырскія візіты — гэта вельмі важны абавязак біскупаў. Кожны дыяцэзіяльны біскуп абавязаны, наколькі гэта магчыма, здзяйсняць іх як мага часцей. Мэтай гэтых візітацый ёсць ахова чысціні веры і звычаеў, выкараненне злоўжыванняў, утрыманне спакою і любові паміж вернікамі, карацей кажучы, ажыўленне і ўзмацненне рэлігійнага і маральнага духу ў дыяцэзіі. Тагачасны арцыбіскуп Шымон Марцін Казлоўскі з прычыны паважнага веку і хваробаў не мог асабіста выканаць гэты абавязак у сваёй архідыяцэзіі, якая была найбуйнейшай у свеце, таму ў гэтым яму вырашыў дапамагчы яго памочнік, біскуп Францыск Альбін Сымон.[154] Аб гэтых візітацыях біскуп уласнаручна напісаў у сваіх

дзённічках (дакладней кажучы, цыдулках), якія сёння захоўваюцца ў архіве катэдральнай капітулы на Вавелі (Кракаў).

Пастырскія візітацыі на тэрыторыі Расійскай імперыі былі вельмі рэдкімі з-за стварэння ўладамі розных адміністрацыйных перашкод. Два візіты арцыбіскупа Сымона адбыліся ў перыяд адраджэння Касцёла пасля асабліва моцнага праследавання, прычынай якога было паўстанне 1863 г. Пасля паўстання расійскія ўлады намагаліся зрусіфікаваць і разбурыць Касцёл пры дапамозе ксяндзоў-«патрыётаў»[155]. Але дзякуючы большасці святароў і вернікаў, удалося хоць і павольна, але пераадолець гэты смутны час.

Першае наведванне Альбінам Сымонам Гомеля адбылося ў жніўні 1893 г., калі ён вяртаўся з візітацыі ў глыбіню Расіі. Цягніком з Бранска ён прыбыў да Гомеля. Вось радкі з дзённіка біскупа:

*«Kolej z Brianska przez lasy — polesie najzupełniejsze. Sobota 7 sierpnia. O godz. 2.00. w Homlu na banhofie. Kościół pełniuteńki. Pobierzmowałem osób ze 30 jeśli nie więcej. O godz. 1-ej obiad, o 3 odjazd. Tłum ludzi przeprowadzał».* (Чыгунка з Бранска (ідзе) праз лясы — сапраўднае Палессе. Субота, 7 жніўня. А другой гадзіне ў Гомелі на вакзале. Касцёл паўнюткі. Пабежмаваў прыблізна 30 асоб, калі не больш. А першай гадзіне абед, а трэцяй — ад’езд. Праваджаў [нас] натоўп людзей).

У кнізе «Charitas. Księga zbiorowa», якая была выдадзена ў Пецярбургу ў 1894 г. і ўтрымлівае звесткі пра гэтую паездку Альбіна Сымона, візіт у Гомель не апісваецца, а візітацыя сканчваецца ў Бранску, адкуль пастыр *«накіраваўся на Валынь, каб зрабіць кароткі адпачынак»*.[156]

Наведванне Гомеля, хутчэй за ўсё, не ўваходзіла ў планы візітацыі і не было зафіксавана ў справаздачы святароў, якія суправаджалі біскупа, бо лічба пабежмаваных асоб *(«каля 30-ці, калі не больш»*), вельмі салідная для ўсходняй Беларусі сённяшняга часу, для канца XIX ст. была звычайнай і не выклікала зацікаўлення хранікёраў.

У другі раз, ужо арцыбіскуп, Францыск Альбін Сымон наведаў Гомель улетку 1894 г., калі ён аб’язджаў з візітацыяй Магілёўскую губерню. Ён аб'ехаў парафіі Гомельскага дэканата ў такой паслядоўнасці: 14 ліпеня (серада) — Антушы.; 16 ліпеня (субота) — Люшаў; 18 ліпеня (панядзелак) — Гомель; 20 ліпеня (серада) — Чачэрск.

У 1894 г. распараджэннем біскупа Францыска Альбіна Сымона польскія літургічныя спевы ў касцёлах, у тым ліку і ў Гомельскім, былі заменены лацінскімі (толькі ў пачатку XX ст. польскія спевы зноў загучалі ў касцёлах).[157]

У снежні 1895 г. на пасаду законанастаўніка гомельскіх мужчынскай і жаночай прагімназій прызначаны Міхаіл Маеўскі. 6 лютага 1897 г. ён прызначаны законанастаўнікам у Гомельскае тэхнічнае чыгуначнае вучылішча.

25.Міхаіл Маеўскі.

1 снежня 1896 г. у Гомелі памёр Рыгор Керсноўскі, які выконваў абавязкі гомельскага вікарыя. Таму 10 снежня 1896 г. гомельскія парафіяне напісалі прашэнне арцыбіскупу з просьбай прызначыць новага вікарыя ў Гомель, бо парафія была вельмі вялікая і раскіданая. Прашэнне падпісалі Іосіф Уладзіслававіч Акушка, Людвік Казіміравіч Пуцята, Стэфан Іванавіч Дзік і яшчэ 18 парафіян.[158] У лютым наступнага 1897 г. вікарыем у Гомель быў прызначаны Антоні Ігнацьевіч Ячэйка.

Абсалютная лічба католікаў у Гомелі з сярэдзіны XIX ст. да 1893 г. павялічылася з 352 да 717 чалавек, рэзкае змяненне ў бок павелічэння зафіксаванае ў 1897 г, калі колькасць гараджан-католікаў дасягнула лічбы 2012 чалавек (5,5% жыхароў). У губернскім Магілёве, як і ва ўсіх гарадах губерні, таксама прасочваліся падобныя тэндэнцыі. У сувязі з падзеямі 1863—1864 гг. спачатку назіралася хуткае зніжэнне колькасці гараджан-католікаў, якое доўжылася да сярэдзіны 1870-х гг. З 1880-х гг. прасочваецца ўжо хуткі рост каталіцкага насельніцтва ў гарадах Магілёўскай губерні.[159] Не ў апошнюю чаргу гэта было звязана з развіццём чыгункі, на якой працавала шмат католікаў (гл. ніжэй).

У 1897 г. Гомель налічваў, паводле перапісу насельніцтва, 36,8 тыс. чалавек. Нацыянальнасць пры гэтым перапісу вызначалася паводле мовы. 17,6% жыхароў Гомеля назвалі сваёй роднай мовай беларускую. 4,3% жыхароў Гомеля (1589 чалавек) у якасці роднай пазначылі польскую мову.[160] Пераважная большасць гомельскіх палякаў (99,4 %) прытрымліваліся каталіцтва. Каля 1% насельніцтва складалі немцы, сярод якіх былі і католікі. Пасля 1897 г. колькасць жыхароў-католікаў знізілася і да 1912 г. заставалася прыблізна на адным узроўні.

Прысутнасць католікаў у Гомелі была заўважнай. Аб гэтай прысутнасці напамінаў велічны касцёл, каталіцкія могілкі ў горадзе і каталіцкія могілкі ў Новай Беліцы, тапаніміка Гомеля — Крушэўская вуліца і вуліцы са значным каталіцкім («польскім») насельніцтвам.

У канцы XIX ст. каталікі жылі ў розных раёнах горада. Значная частка парафіян кампактна пражывала на вуліцы Лугавой (цяпер Песіна),[161] вуліцах Вакзальнай, Магілёўскай, Мінскай, Навапрудкоўскай (Ландышава), Тэхнічнай, каля Лібаўскай і Палескай станцый чыгункі, а таксама на *«планах пры алейнай фабрыцы»* і *«планах за майстэрнямі»*. Такім чынам, значная частка гамяльчан-каталікаў канцэнтравалася побач з чыгуначным вакзалам, чыгуначнымі майстэрнямі, прадпрыемствамі, у раёне за лініяй чыгункі, які ўзнік прыкладна ў гэты час. Гэта, як і розныя дакументы, указвае на тое, што пераважная частка каталікаў Гомеля ў канцы XIX ст. з’яўлялася працоўнымі чыгункі і прадпрыемстваў. З аналізу прозвішчаў і сваяцкіх сувязей вынікае, што шматлікія сваякі імкнуліся сяліцца побач (на адной вуліцы, у адным раёне горада).[162]

У 1900 г. разгарэўся скандал паміж Пятроўскім і часткай парафіян. У 1892 г., у час эпідэміі азіяцкай халеры, чыгуначнікі-каталікі Гомеля для збаўлення Усявышнім ад хваробы далі абяцанне набыць абраз Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, які мусіў быць размешчаны ў Гомельскім касцёле ў асобным алтары. Таксама было дадзена абяцанне *«ладзіць набажэнствы ва ўсе дні гадавых святаў, утрымліваць алтар на свае сродкі ў чысціні і ахайнасці і замяняць касцельных служак у такія дні асобамі з ліку ўдзельнікаў гэтага ахвяравання»*.

26. Алтар з абразом Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Гэтае абяцанне было ўхвалена ксяндзом Пятроўскім. З яго блаславення на ўказаным месцы ў касцёле быў узведзены асобны алтар. У 1894 г. уладкаванне алтара і адведзены ксяндзом Пятроўскім кут у касцёле пад званіцай, для захоўвання свечак, бялізны і начыння, быў асабіста агледжаны і ўхвалены біскупам Альбінам Сымонам. У 1897 г. магілёўскім губернатарам быў дадзены дазвол на збор сродкаў чыгуначнікамі-парафіянамі, якія на чале з служачым чыгункі Красніцкім утрымлівалі алтар да 1900 г.

Восенню 1900 г. Пятроўскі пачаў будаўніцтва старожкі на старых парафіяльных могілках. Пры гэтым узнік канфлікт. Згодна з рапартам законанастаўніка Міхаіла Маеўскага мітрапаліту ад 13 студзеня 1902 г., калі сцены будынка ўжо былі ўзведзены даволі высока, Красніцкі заявіў, што будаўніцтва трэба спыніць, бо пад сцяною знаходзіцца магіла сястры Красніцкага. Красніцкі звярнуўся ў паліцыю, і тая спачатку забараніла далейшае будаўніцтва. Але з-за таго, што апроч некалькіх кустоў, ніякай магілы не было бачна, то будаўніцтва працягнулі. Пазней пры раскопках пад сцяной сапраўды

былі знойдзены косткі, якія Пятроўскі перазахаваў на новых парафіяльных могілках.

Крыху інакш апісваюць гэтыя падзеі ў прашэнні да мітрапаліта[163] парафіяне Адам Куроўскі, Вікенцій Нядзвецкі, Уладзіслаў Гівойна і Іосіф Мілаш. Паводле іх слоў, Красніцкі прасіў ксяндза Пятроўскага не знішчаць надмагілля і кустоў, якія былі пасаджаны на магіле роднай сястры Красніцкага, якую сам жа Пятроўскі і пахаваў. Пятроўскі не выканаў просьбу Красніцкага. Будаўніцтва ён не прыпыніў, а надмагілле сястры Красніцкага знішчыў. Красніцкі звярнуўся ў паліцыю, але Пятроўскі пісьмова заявіў, што ніякага пахавання на месцы будаўніцтва няма. Тады Красніцкі вымушаны быў хадайнічаць аб эксгумацыі праха сваёй сястры і пераносе яго на новыя могілкі. 6 верасня 1900 г. былі зроблены раскопкі пад сцяной будынка, якія выкрылі парушэнне ксяндзом Пятроўскім агульнага парадку пахавання і хрысціянскага доўгу, бо сапраўды былі знойдзены парэшткі сястры Красніцкага.

Як бы там ні было, але пасля гэтага ксяндзом Пятроўскім было забаронена чыгуначнікам на чале з Красніцкім утрымліваць і даглядаць алтар з абразом Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Язафат Жыскар (Jozafat Żyskar) у кнізе «Нашы касцёлы» («Nasze kościoły») пісаў пра ксяндза Пятроўскага наступнае: *«Гомельскі касцёл мае шматлікую парафію. Збудаваны ў раманскім стылі, у цэлым някепска ўтрымліваецца, астатнім часам трохі павялічаны стараннем гомельскага дэкана, святой памяці ксяндза Пятроўскага, які сваімі намаганнямі і сваёй асабістай шчодрай ахвярай дужа прычыніўся да гэтай працы. Больш за 50 гадоў* (Жыскар памыляецца, Пятроўскі быў пробашчам 41 год, — У.В.) *кіраваў гэты стары такой велізарнай парафіяй і аддаваў усяго сябе працы. Ён быў і ў канфесіянале, і на амбоне і ўсюды».*[164]

У 1901—1903 гг. у Гомелі (а таксама ў Барысаве) у 160-м пяхотным Абхазскім палку праходзіў службу і, пэўна ж, наведваўся ў Гомельскі касцёл Аляксандр Астрамовіч, які больш вядомы пад псеўданімам Андрэй Зязюля — беларускі рэлігійны і літаратурны дзеяч. У 1920-х гг. ён быў адным з сябраў Саюза ксяндзоў-беларусаў, ад якога пачалося стварэнне грамадскай арганізацыі Беларуская Хрысціянская Злучнасць (БХЗ), пазней рэарганізаванай у партыю Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД).[165]

## 27.Аляксандр Астрамовіч

15 сакавіка 1903 г. парафіяне Гомельскага касцёла пачалі хадайнічаць да ўладаў, каб дазволілі ім здзяйсняць хросныя хады вакол касцёла ўнутры касцельнай агароджы. Парафіяне тлумачылі сваю просьбу тым, што з-за цеснаты і боязі даўкі ім прыходзіцца ў любое надвор’е стаяць на двары за дзвярыма касцёла. Прашэнне падпісалі Іван і Уладзіслаў Красніцкія, Аляксандр, Ванда і Эмілія Дамарацкія, Рычард Сарачынскі, Рамуальд Вайцахоўскі, Антоні Марцынкевіч, Міхаіл Селівонскі, Іосіф Басарэўскі і іншыя парафіяне.[166] Аб гэтым жа прасіў кіраўніка Магілёўскай архідыяцэзіі і ксёндз Пятроўскі, тлумачачы, што ў касцёле на святы збіраецца вельмі багата народу.[167] Негледзячы на ўсё гэта 10 кастрычніка 1903 г. МУС[168] адхіліла прашэнне парафіян.[169] 20 кастрычніка пралатам Данісевічам аб гэтым было паведамлена дэкану Пятроўскаму.[170]

У красавіку 1905 г. Пятроўскі зноў прасіў мітрапаліта паклапаціцца пра ўрадавы дазвол на правядзенне навокал Гомельскага касцёла працэсій, тым больш, што набліжалася Рэзурэкцыя. Звычайна на Рэзурэкцыі з-за цеснаты касцёла шмат парафіян вымушаны былі заставацца па-за святыняй. У 1905 г. гэта сітуацыя ўскладнілася тым, што ў Гомеле знаходзіліся 1,5 тысячы запасных салдат-літоўцаў, і таму чацвёртая частка вернікаў не магла прысутнічаць на набажэнстве, як гэта звычайна бывала па нядзелях.[171]

Маніфест 17 красавіка 1905 г., у якім абвяшчалася аб верацярпімасці, стаў падставай для аднаўлення адносна нармальнай дзейнасці Каталіцкага Касцёла (хаця цяжкасці заставаліся і надалей).

У маі 1905 г. ксёндз Пятроўскі яшчэ раз напісаў рапарт мітрапаліту з просьбай, каб той дамовіўся аб дазволе праводзіць хросныя хады навокал касцёла, бо колькасць парафіян пераўзыходзіла ўмяшчальнасць Гомельскага касцёла. Працэсіі мяркавалася праводзіць у наступныя дні: Унебаўшэсця Панскага, Спаслання Духа Святога і актавы Божага Цела. Пятроўскі таксама прасіў паведаміць яму, ці можна пасля маніфеста аб верацярпімасці без хадайніцтва праводзіць працэсіі ва ўказанныя святы. А таксама па нядзелях і ў іншыя гадавыя святы.

21 мая дазвол на правядзенне працэсій быў атрыманы. Прадпісвалася толькі паведамляць аб іх паліцыі, каб тая забяспечвала парадак.[172]

28.Гомельскі касцёл.

Паводле інфармацыі гомельскага гісторыка Я.Малікава фатаграфія зроблена не пазней за 1908 г.

Прыблізна ў 1905 г. на грошы ксяндза Пятроўскага была ўзведзена мураваная прыбудова да касцёла, пра якую вышэй упамінаў Я.Жыскар. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваўся каштарыс на гэту прыбудову. Яна была пабудована прыблізна ў 1905 г. У прыбудове размяшчаліся сакрысція і каморка. З каштарыса можна даведацца пра дакладную суму выдаткаў на будаўніцтва: 1899 руб. 84 кап. Прыбудова ўяўляла сабой памяшканне з цэглы, з вокнамі, атынкаванае звонку цэментным растворам, а ўнутры вапнавым. Памяшканне мела дзве перагародкі і злучалася з касцёлам праз двое дзвярэй, адтуліны для якіх былі прабіты ў сценах касцёла. Падлога была зроблена з цэментных добрай якасці плітак, дах — з жалеза, меліся вадасцёкавыя трубы. Абагравалася памяшканне дзвюма печкамі з комінамі. З вуліцы ў памяшканне можна было трапіць праз ганак.[173]

Верагодна, у час гэтага будаўніцтва быў заменены надпіс на франтоне касцёла. Франтон будынка да пачатку XX ст. быў аздоблены выслоўем *«Sit nomen Domini benedictum usque ad aeternum»* (Няхай імя Божае будзе блаславёна цяпер і навекі»).[174] Вышэй узгадвалася нават сума, за якую набылі літары для гэтага надпісу ў 1855 г. — 15 руб. Пасля замены надпіс быў ужо на польскай мове. На адной з фатаграфій касцёла пачатка XX ст. мы можам прачытаць пачатак фразы: «Chwalcie Pana wszystkie…». Хутчэй за ўсё, цалкам надпіс выглядаў як *«Chwalcie Pana wszystkie narody»* (Хваліце Пана ўсе народы).

У 1906—1908 гг. законанастаўнікам у Гомелі працаваў ксёндз Я.Святаполк-Мірскі.

19 верасня 1908 г. гомельскія парафіяне С.Касцюковіч, Ф.Даўнаровіч, І.Аўчыннікаў і іншыя звярнуліся да пралата Данісевіча з просьбай прызначыць у Гомель яшчэ аднаго святара. Парафіяне ў прашэнні пісалі, што *«прайшло ўжо больш за 10 гадоў, як быў прысланы ў Гомель вікарны ксёндз А.Ячэйка. Колькасць вернікаў за гэты час не зменшылася, а наадварот, з кожным годам усё прыбывае. У Гомелі працуюць наступныя святары: 1) Дэкан — ксёндз Ф.Пятроўскі; 2) Вікарый — ксёндз А.Ячэйка; 3) Законанастаўнік — ксёндз Я.Святаполк-Мірскі.*

29.Я.Святаполк-Мірскі (справа)

*Гомельская парафія па тэрыторыі адна з самых вялікіх у Магілёўскай губерні і займае ўвесь Гомельскі павет і частку Чарнігаўскай губерні.*

*Парафія мае прыпісныя капліцы: 1) у Рудні; 2) у Навазыбкаве; 3) у Сноўску (цяпер г. Шчорс на Украіне, — У.В.); 4) у Жлобіне; 5) у Лапічах і яшчэ 5—6 дальніх капліц, якія абслугоўваюць гомельскія ксяндзы: Ухова, Рудня-Стаўбунская, Рудня-Шлягіна, Баршчоўка і інш.*

*Пасля маніфестаў 17 красавіка і 17 кастрычніка 1905 г. у Гомелі адбылося багата змен, а менавіта: на 70 тыс. насельніцтва адчуваўся недахоп школ, а таму было нанава адчынена некалькі школьных устаноў, якія да гэтага нельга было адчыняць. У Гомелі адчыніліся наступныя навучальныя ўстановы: камерцыйнае вучылішча, 2 мужчынскія і 2 жаночыя гімназіі і Другое гарадское вучылішча. Такім чынам, у Гомелі маюцца: 3 мужчынскія і 3 жаночыя гімназіі, 1 камерцыйнае вучылішча, 1 тэхнічнае вучылішча і 2 гарадскіх вучылішчы — усяго дзесяць навучальных устаноў, у якіх неабходна выкладанне закона Божага дзецям-католікам. Акрамя таго, парафіянам удалося атрымаць дазвол на выкладанне каталіцкага закона Божага ў 3-й царкоўна-прыходскай школе. Таму і патрабуецца 2-і вікарый у Гомель».*[175] Але Данісевіч адмовіў у просьбе, бо вольных святароў у той час не было.[176]

З 1909 г. законанастаўнікам у Гомелі працаваў Дамінік Іваноў. Ксёндз Пятроўскі прапанаваў Іванову пасяліцца ў плябаніі. Яму быў выдзелены пакой і забяспечана ўтрыманне. Узамен дэкан папрасіў Іванова дапамагаць яму ў парафіяльных справах, што той і рабіў у вольны ад школьных заняткаў час. Каля двух гадоў паміж імі не было сур’ёзных непаразуменнеў, але прыкладна за год да смерці Пятроўскага яны ўзніклі. Пятроўскі, спасылаючыся на вялікія выдаткі, адмовіў Іванову ва ўтрыманні, а за выдзелены пакой запатрабаваў працаваць практычна на ўзроўні вікарыя. Іванову такая прапанова не спадабалася і ён напісаў 25 лістапада 1910 г. ліст мітрапаліту, у якім скардзіўся на Пятроўскага. У лісце Іваноў пісаў, што ён не супраць дапамогі Пятроўскаму, але яго школьныя абавязкі таксама патрабуюць часу. Пісаў, што ксёндз дэкан выказвае незадавальненне ў прыкрых выразах і што ён, Іваноў, адмовіцца ад пакоя не можа, бо гэта не дазваляе зрабіць яго жалаванне і натуральнае ў такім выпадку пагаршэнне адносін з боку парафіян. Мітрапаліт вымушаны быў умяшацца і ўлагодзіць адносіны паміж святарамі.

З 20 студзеня 1909 г. вікарыем Гомельскага касцёла прызначаны Міхаіл Цакуль, які да гэтага служыў вікарыем Іркуцкага касцёла.

26 красавіка 1910 г. быў пачаты, як бы цяпер сказалі, «касметычны» рамонт Гомельскага касцёла. Касцёл быў пафарбаваны звонку. Быў пафарбаваны і дах.[177]

30.Карта Гомеля 1910 г.

У 1910 г. біскуп Данісевіч адведаў з візітацыяй Магілёўскую губерню. Візіт быў вельмі кароткі (як гэта звычайна бывала ў Магілёўскай архідыяцэзіі) і цягнуўся ўсяго толькі пяць тыдняў. Кансісторскія заняткі змусілі біскупа большую частку лета заставацца ў Пецярбургу. Толькі 24 ліпеня ён распачаў сваё пастырскае падарожжа, пачынаючы з візітацыі Мсціслаўскага парафіяльнага касцёла. Біскуп Данісевіч быў прыхільнікам выкарыстання беларускай мовы ў душпастырскай працы. Да гэтага ён у час візітацыі заахвочваў духавенства, ды і сам нярэдка прамаўляў па-беларуску.

Стэфан Данісевіч — беларус па паходжанні, нарадзіўся ў 1836 г. у Чарэйскай парафіі на Магілёўшчыне, скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1859) і Духоўную акадэмію ў Пецярбургу (1863). Пасля прыняцця сакраменту святарства (1863) доўгі час працаваў у парафіях у Оршы, Магілёве і Смаленску, быў магілёўскім і клімавіцка-мсціслаўскім дэканам, а з 1895 г. — членам кансісторыі Магілёўскай архідыяцэзіі, сядзіба якой знаходзілася ў Пецярбургу. Пасля смерці мітрапаліта Казлоўскага з 1903 да 1910 г. з кароткімі перапынкамі выконваў абавязкі адміністратара архідыяцэзіі. Быў ініцыятарам выдання беларускай каталіцкай літаратуры. У 1908 г. атрымаў годнасць біскупа. Памёр у 1913 г. ва ўзросце 77 гадоў.[178]

31.Стэфан Данісевіч

У адным толькі Гомелі біскупам Данісевічам было бежмавана 1204 вернікі. У іншых парафіях Гомельскага дэканата біскуп пабежмаваў: у Чачэрску (парафія) — 321 чал.; у Люшаве (філія Антушаўскай парафіі) — 298 чал.; у Антушах (парафія) — 908 чал. Усяго ў трох беларускіх парафіях Гомельскага дэканата — 2731 чал.[179]

## 8. КАТАЛІЦТВА Ў ГОМЕЛІ Ў ПАЧАТКУ XX СТ.

12 снежня 1911 г. пробашчам і гомельскім дэканам быў прызначаны пробашч Віцебскага касцёла Св. Барбары Хрызагон Пжэмоцкі, які змяніў на гэтай пасадзе Антонія Ячэйку (Ячэйка часова выконваў абавязкі дэкана і пробашча пасля смерці ксяндза Пятроўскага).

Захаваўся вельмі цікавы ліст да мітрапаліта, які напісаў сакратар Гомельскай тэхнічнай школы Аляксандр Дамарацкі. Ліст датаваны 18 снежня 1911 г. Мы можам паглядзець на сітуацыю, у якой тады знаходзіліся каталікі Гомельшчыны, вачыма актыўнага парафіяніна Гомельскага касцёла. Перадусім трэба сказаць, што Дамарацкі разглядаў практычна ўсіх каталікаў Гомеля як палякаў, а Гомельшчыну лічыў даўнім памежным пасам Польшчы, альбо, інакш, *«усходнімі крэсамі»*. З ліста таксама вынікае, што каталіцкая грамада Гомеля ў гэты час не была аднародная і дзялілася на 2 лагеры: мясцовых каталікаў — ураджэнцаў Гомеля і чыгуначнікаў, якія ў асноўным былі прыезджымі. Адносіны ўраду да палякаў і каталікаў у гэты час Дамарацкі ацэньваў як вельмі непрыязныя. Ён пісаў наступнае:

*«Лічба жыхароў Гомеля хутка ўзрастае і налічвае ўжо 80 тыс. чалавек розных нацыянальнасцяў. Гомельская парафія з'яўляецца адной з самых вялікіх ва ўсёй Магілёўскай губерні. З часу ліквідацыі Радужскай парафіі, якая была далучана да Гомельскай, займае ўвесь Гомельскі павет і частку Чарнігаўскай губерні. Парафіяне дзеляцца на тры часткі, або лагеры:*

*1) не вельмі шматлікія мяшчане і зямяне (землеўласнікі) — жывуць толькі для сябе, «салонная партыя»;*

*2) сельскія жыхары, якія жывуць сваім самабытным жыццём без усялякай дапамогі з боку ўплывовых і заможных, народ бедны, бо цёмны і закінуты;*

*і, нарэшце:*

*3) чыгуначнікі розных службаў і працаўнікі рамонтных майстэрняў. Гэтая астатняя група па колькасці займае другое месца пасля сялянаў, а ў рэлігійным жыцці бярэ найбольшы ўдзел, нават мае ў касцёле ўзнесены ўласным коштам алтар Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У Гомелі да смерці ксяндза дэкана Ф.Пятроўскага было чатыры ксяндзы, засталося тры. Пасля смерці Пятроўскага каталікі-чыгуначнікі склалі тэлеграму да мітрапаліта, у якой прасілі прыслаць у Гомель дэкана руплівага і энергічнага, моцнага духам і адважнага. Складаючы такія пажаданні, мы зыходзілі з таго, што горад Гомель мае важнае значэнне і з'яўляецца стратэгічным пунктам. Тут патрэбны барацьбіт вялікай адвагі і розуму, бо будзе мусіць супрацьстаяць варожаму лагеру, які мае тут сваё гняздо і які пусціў тут глыбокае карэнне. Варожы лагер складаюць:*

*Праваслаўны місіянер, якога накіравалі сюды для навяртання іншаверцаў.*

*Гомельскі архірэй Мітрафан, думскі актывіст.*

*М.Ладамірскі, былы маршалак шляхты, член Дзяржаўнага Савета і камер-юнкер двара.*

*Аддзел клубу нацыяналістаў, таварыства правых (чорная сотня), прадстаўнікі гарадской улады, навуковых таварыстваў і г.д.*

*Партыя гарадскіх парафіян (салонная партыя) выказвала жаданне, каб месца дэкана заняў тутэйшы вікарый Антоні Ячэйка. Мы не можам ні ў чым папракнуць шаноўнага ксяндза А.Ячэйку, нават са свайго боку мусім выразіць яму сваё прызнанне як сціпламу, пабожнаму, лагоднаму, людскаму, таварыскаму, гаспадарліваму і ціхаму святару… усімі якасцямі добрага і сумленнага ён валодае… але становішча дэкана ў Гомелі апрача пералічаных якасцяў вымагаюць яшчэ «вялікай сілы», энергіі, адвагі, смеласці, мужнасці, «дару слова», «вымовы» і павагі…*

*Таму мы не падтрымалі кандыдатуры ксяндза Ячэйкі, які ў іншых месцах, такіх як Быхаў, Рагачоў, Магілёў, Чачэрск, Журовічы і г.д. можа быць цалкам адпаведны.*

*Апрача таго, мелі мы яшчэ ў полі зроку адну важную акалічнасць, якая ў недалёкай будучыні будзе мець значэнне ў жыцці гомельскіх католікаў, а менавіта: у Гомелі плануецца арганізацыя Цэнтральных рамонтных чыгуначных майстэрняў…у якіх будуць працаваць 5—6 тысяч рамеснікаў, таму можна прадбачыць значнае павелічэнне каталіцкіх сям'яў, дзяцей і моладзі. А таму карысць Касцёла вымагае на пасадзе дэкана адпаведнага святара».*[180]

Мітрапаліт, мяркуючы па ўсяму, не прыслухаўся да А.Дамарацкага, бо неўзабаве пасля пераводу Пжэмоцкага (на пасадзе гомельскага дэкана Пжэмоцкі працаваў да 10 лістапада 1912 г., калі па ягонай просьбе яго перавялі пробашчам у Росіцкую парафію Віцебскай губерні) гомельскім дэканам і пробашчам парафіі 10 лістапада 1912 г. быў прызначаны ніхто іншы, як пробашч Віцебскага касцёла Св. Барбары Антоні Ячэйка, які ўступіў на пасаду 6 снежня. Як паказаў час, ксёндз Ячэйка па сваіх якасцях не зусім адпавядаў такой адказнай пасадзе.

Гомельская парафія ў гэты час налічвала ўжо 15 капліц, прычым 2 з іх у Чарнігаўскай губерні: у Навазыбкаве (цяпер Бранская вобласць Расіі) і Сноўску (цяпер Шчорс, Украіна).

Вікарыем з 1 лютага 1912 г. да 26 кастрычніка 1912 г. у Гомелі быў Міхаіл Цакуль, які з 1910 г. абслугоўваў філію Рудня-Шлягін.

21 чэрвеня 1912 г. вікарыем у Гомельскі касцёл прызначаны Зыгмунт Сямашка, які да гэтага быў вікарыем Дараўскай парафіі Навагрудскага павета Мінскай губерні.

30 кастрычніка (ці 23 лістапада) 1912 г. на месца Сямашкі быў прызначаны выпускнік Пецярбургскай духоўнай акадэміі Павел Бірнік, які прыбыў у Гомель 9 снежня. На гэтай пасадзе Бірнік

працаваў да 21 красавіка 1914 г., калі ён быў прызначаны філіялістам Люшаўскага касцёла.

Законанастаўнікам у гімназіі і іншых школах Гомеля ў гэты перыяд (1906—1908 гг.) быў ксёндз Яўген Святаполк-Мірскі — заснавальнік Гомельскага каталіцкага таварыства дабрачыннасці. Ксёндз Святаполк-Мірскі валодаў харызматычнымі якасцямі і быў выдатным прапаведнікам. Так, пасля адной яго прамовы, у час якой ён заклікаў гомельскіх парафіян ахвяраваць грошы на рамонт падлогі ў касцёле, парафіяне даволі хутка сабралі патрэбную суму і замянілі драўляную падлогу на падлогу з пліткі.[181] Нават праз шмат гадоў парафіяне ўспаміналі яго як выдатнага прапаведніка і прызнавалі, што пасля яго святароў такога ўзроўню ў Гомелі не было.[182]

Пасля Яўгена Святаполк-Мірскага з 1909 па 1918 г. законанастаўнікам у Гомелі працаваў Дамінік Іваноў.

У 1912 г. у Гомелі налічвалася 1750 католікаў, з іх 867 мужчын і 883 жанчыны.[183] Вучняў-католікаў у гэты час у Гомелі было прыблізна 350 чалавек.[184] Адным з гэтых вучняў-католікаў быў Аляксандр Крыжаноўскі, ураджэнец Бранска, які ў будучыні, у часе Другой сусветнай вайны, камандаваў Віленскай акругай Арміі Краёвай.[185]

Александр Крыжаноўскі нарадзіўся 18 лютага 1895 г. у Бранску. Памёр 29 верасня 1951 г. у турэмным шпіталі ў Варшаве. Бацькі: Якуб Крыжаноўскі і Зофія Вілямоўская-Кнобельсдорф. Да 1914 г. вучыўся ў гімназіі ў Гомелі. У 1914 г. сям’я Крыжаноўскіх пераехала ў Петраград. У Петраградзе Аляксандр Крыжаноўскі вучыўся ў XII класічнай гімназіі. У 1916 г. паступіў у Тэхналагічны інстытут. З першага курса інстытута быў прызваны на вайсковую службу і накіраваны ў Канстанцінаўскае артылерыйскае вучылішча, якое скончыў летам 1917 г. З ліпеня 1917 г. служыў у 6-м Сібірскім корпусе, а з кастрычніка 1917 г. – у 1-м Польскім корпусе Доўбар-Мусніцкага. Пасля расфарміравання корпуса немцамі паступіў у Варшаўскі універсітэт. У лістападзе 1918 г. уступіў у Войска Польскае. У 1927 г. ажаніўся з Янінай Лапінскай.

Пачатак Другой сусветнай вайны сустрэў маёрам, камандзірам дывізіёну. Пасля паразы Польшчы знаходзіўся ў Варшаве, дзе звязаўся з падпольнай арганізацыяй «Służba Zwycięstwa Polski», SZP. У канцы 1939 г. быў накіраваны на Віленшчыну, дзе стаў начальнікам штабу і намеснікам каменданта Віленскай акругі SZP (хутка SZP была перайменаваная ў «Związek Walki Zbrojnej», ZWZ).

У 1941 г. атрымаў званне падпалкоўніка і быў прызначаны камендантам Віленскай акругі ZWZ (14 лютага 1942 г. ZWZ перайменавана ў Армію Краёвую).[186] У 1943 г. падпалкоўнік

Крыжаноўскі вёў з беларускімі нацыянальнымі дзеячамі перамовы аб супрацоўніцтве. Начальнік штаба Навагрудскай акругі АК Станіслаў Сэндзяк так успамінаў пра гэта:

*«Мы мелі ўсе варункі, каб сярод тутэйшага люду знайсці дзейсных саюзнікаў у барацьбе з ворагам. Наш мемарандум па беларускім пытанні апрацавалі былы камендант асяродка Навагрудак Людвік Ненартовіч («Мядзянка»). Мы яго рапарт неадкладна накіравалі ў штаб галоўнага камандавання. Вельмі спяшаліся, асабліва я, бо на маіх плячах ляжала адказнасць за як мага хутчэй рэалізацыю плана па прывядзенні ўсёй акругі ў баявую гатоўнасць.*

*У хуткім часе я таксама паехаў у Варшаву. Там мне сказалі, што наша справа, якая датычыць дастаўленага раней у штаб мемарандума, уладжана не будзе, бо гэтай праблемай цяпер займаецца камендант Віленскай акругі «Вільк»* (псеўданім А. Крыжаноўскага – У.В.)*, і толькі ён, а не хтось іншы, будзе весці перагаворы на вышэйшым узроўні з беларускімі дзеячамі ў Вільні.»*.

Перамовы Крыжаноўскага ў канцы 1943 г. з прадстаўнікамі Беларускай краёвай абароны (БКА), Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) і іншымі беларускімі нацыянальнымі і нацыяналістычнымі фарміраваннямі скончыліся правалам.

У 1944 г. камендант Віленскай акругі АК падпалкоўнік Крыжаноўскі ўдзельнічаў у баях з літоўскімі фарміраваннямі. Таксама ўдзельнічаў у баях за вызваленне ад немцаў Вільні. 17 ліпеня 1944 г. у часе нарады з генералам Чарняхоўскім у Вільні быў арыштаваны НКУС, як Ян Кульчыцкі – «генерал Вільк». Утрымліваўся ў Бутырках у Маскве, у Дзягілева каля Разані і ў Гразоўцу каля Волагды. 11 жніўня 1947 г. палкоўнік (званне палкоўніка яму было нададзена ў верасні 1944 г., ужо пасля арышту) Крыжаноўскі ўцёк з лагеру і дабраўся да Вільні, але 13 верасня ізноў быў арыштаваны і накіраваны ў Бутыркі. У 1947 г. яго разам з групай польскіх грамадзян накіравалі ў Польшчу. 3 ліпеня 1948 г. у Варшаве ізноў быў арыштаваны – на гэты раз польскім УБ.

У 1994 г. Аляксандру Крыжаноўскаму пасмяротна было нададзена званне генерала.

## 32.Аляксандр Крыжаноўскі

18 чэрвеня 1914 г. вікарыем Гомельскага касцёла быў прызначаны Вацлаў Васілеўскі, які ў тым жа годзе, незадоўга да

прызначэння, скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю і прыняў сакрамент святарства.

Пасля 1870 г. адрознівалі 5 катэгорый парафій. Ад катэгорыі залежаў гадавы заробак пробашча: 1-я катэгорыя — 600 руб., 2-я — 500, 3-я — 400, 4-я — 275 і 5-я — 230 руб. Гомельская парафія мела 3-ю катэгорыю.

Адпустовымі фэстамі ў Гомельскай парафіі былі: св. Станіслава, св. Антонія, св. Пятра і Паўла, 14 верасня (Узвіжанне) і ўсе святы ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі.

У касцёле знаходзіліся рэліквіі святых пакутнікаў Віктара, Сімпліцыя, Пацыфіка, Віктарыяна і Тэафіла. Пры касцёле дзейнічала Таварыства святых Вінцэнта і Паўла.[187]

У пачатку XX ст. касцёл выглядаў наступным чынам. На на купале і 2-х вежах былі 3 жалезныя пазалочаныя крыжы, на званіцах — 5 званоў вагой каля 30 пудоў кожны. Дах касцёла быў бляшаны, пафарбаваны. Касцёл звонку быў пабелены. На франтоне знаходзіўся жалезны пазалочаны крыж, вышэй за крыж быў надпіс на польскай мове, які заклікаў: *«Хваліце Пана ўсе народы»*.

33.«Хваліце Господа ўсе народы». Фрагмент фасада паводле Г.Лукомскага. 1913 г.

Унутры касцёла вакол вялікага купала быў надпіс: *«Святы, Святы, Святы Бог Усемагутны, неба і зямля поўныя хвалы Яго»*. Падлога ў касцёле была выкладзена пліткамі. Меўся арган на 7 галасоў. У касцёле было 14 стацый Крыжовай Дарогі Езуса Хрыстуса, на сценах з 4-х бакоў былі намаляваны 4 Евангелісты, а ў купале — абраз Святой Тройцы. Касцёл налічваў 3 алтары (з каплічнымі — 5).

Галоўны алтар быў мураваны, з 4 калонамі, зверху знаходзіліся 2 драўляныя пазалочаныя анёлы і абраз Унебаўзяцця Божай Маці ў пазалочанай раме. Табернакул быў драўляны з 4 пазалочанымі калонкамі. Па баках алтара знаходзіліся абраз Езуса Хрыстуса ў Аліўным садзе і крыж з фігурай Езуса Хрыстуса, над алтаром быў абраз Бялыніцкай Божай Маці.

Другі алтар св. Антонія быў драўляны, з 4 калонамі. Зверху знаходзіўся невялікі абраз св. Францыска. Алтар быў аддзелены жалезнымі кратамі.

Трэці алтар у гонар Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі быў з двума калонамі ў пасярэбранай металічнай рызе, зверху

знаходзіўся абраз св. Лукі і 4 анёлы. Прастол быў аддзелены жалезнымі кратамі.

У касцёле знаходзіліся 2 капліцы. Злева — капліца Маці Божай Няспыннай Дапамогі. Алтар у ёй быў драўляны, пафарбаваны пад мармур, абраз быў на сінім аксаміце ў пазалочанай раме. Меўся амбон. Справа — капліца Збавіцеля, з драўляным алтаром, пафарбаваным пад чорны мармур, тут размешчалася фігура Збавіцеля з крыжам. Тут жа быў і баптыстэрый (хрысцільня). У касцёле меліся 2 сакрысціі.

Касцельны архіў утрымліваў шлюбныя кнігі, кнігі дашлюбных экзаменаў, кнігі хросту і памерлых.[188]

Пры касцёле захоўваўся дэкрэт аб шлюбах і сужэнстве, выдадзены Папам Рымскім Піем Х.

На навабеліцкіх парафіяльных могілках былі помнікі з наступнымі надпісамі: *«Дэкан Баніфацый Найневіч. Пам. 1869 г.»*, *«Кс. Баляслаў Вайшвіла, былы капелан. Пам. 28 лютага 1893 г.»*, *«Кс. Рыгор Керсноўскі, пам. у 1897 г.»*, *«Ганна Здзяхоўская з Оштарпаў. Пам. у 1878 г., праж. 70 г.»*, *«Ружа Равіч-Касінская з Казакевічаў»*.[189] Таксама былі надмагіллі Адольфа Крушэўскага, Яна і Марыі Крушэўскіх, Антонія Лукашэвіча, Баляслава Барткевіча, Баляслава Ажахоўскага, Канстанта Ліпскага і інш.

34.Помнік з магілы Крушэўскіх.

35.Магіла К.Ліпскага.

Плябанія ўяўляла сабой двухпавярховы дом на 7 пакоеў, ніжні паверх быў мураваны, верхні — драўляны, дом быў накрыты бляхай, падлога была з сасновых дошак. Флігель быў драўляны, даўжынёй 8, шырынёй — 3,5 сажняў, накрыты драніцай, складаўся з 5-і пакоеў. Гаспадарчыя пабудовы ўключалі свіран, вазоўню, хлеў, склад для паліва, стайню, ляднік. Меўся фруктовы сад. На старых могілках быў драўляны дом, пакрыты бляхай, даўжынёй 12, шырынёй 9 аршынаў.

Ахвярадаўцамі касцёла былі Соф'я Багушэвіч, Юзаф Лісоўскі, Ізабела Збарамірская.[190]

## 9. ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА І РЭВАЛЮЦЫІ 1917 Г.

У 1914 г. выбухнула Першая сусветная вайна. У 1914—1915 гг. тысячы польскіх уцекачоў з тэрыторый Каралеўства Польскага,

Жмудзі і заходняй Беларусі, прыбылі ў Гомель. Сярод іх была сям'я Зянкевічаў (іх сваяк Ян Зянкевіч быў пралатам польскай парафіі ў Санкт-Пецярбургу). Зянкевічы вымушаны былі ў 1915 г. пакінуць свой маёнтак Адамайцы на Жмудзі і пераехаць у Гомель, дзе яны знаходзіліся па 1919 г. У Гомелі іх прытулілі далёкія сваякі — сям'я Нагурскіх. Сын Зянкевічаў Эдвард сябраваў з сынам Нагурскіх Тэадорам. Хлопцы былі членамі гомельскай харцэрскай арганізацыі і ўдзельнікамі «Польскай Вайсковай Арганізацыі».

Каталіцкае (пераважна польскае) насельніцтва Гомеля ў час Першай сусветнай вайны за кароткі тэрмін павялічылася з 1700—1800 чалавек прыкладна да 4700 чалавек (1916—1917 гг.).[191] Бежанцы рассяляліся ў часовыя лагеры, а пазней, у 1916—1917 гг., некаторыя з іх пачалі займаць і забудоўваць вольныя землі за лініямі Лібава-Роменскай і Палескіх чыгунак (Залінейны раён) і паўночна-усходнюю частку Новай Беліцы.[192]

У 1916 і 1917 гг. на свята Божага Цела працэсіі адбываліся не ўнутры касцельнай агароджы, як гэта было некалькі дзесяцігоддзяў, а на вуліцах горада.

Законанастаўнік Дамінік Іваноў перад вайной, летам 1914 г., выехаў у Заходнюю Еўропу. Ён не змог да пачатку Першай сусветнай вайны перасячы расійскую мяжу і на год быў затрыманы ў Германіі, спярша ў турме, а потым пад наглядам паліцыі. У Гомелі пра гэта не ведалі. 20 верасня 1914 г. гомельскі дэкан Ячэйка ў рапарце біскупу Цепляку напісаў, што законанастаўнік мужчынскай гімназіі і некаторых іншых навучальных устаноў Дамінік Іваноў выехаў на летнія канікулы за мяжу, і ніякіх звестак аб ім няма. Таму дэкан прасіў прыслаць у Гомель іншага законанастаўніка, бо ані ён, ані вікарый Васілеўскі проста не маюць часу, каб выкладаць у навучальных установах Закон Божы.[193]

Біскуп 27 верасня адказаў на гэты рапарт Ячэйкі. Ён пісаў, што прызначае вікарыем у Гомель ксяндза Іосіфа Ворслава, былога вікарыя Барысаўскай парафіі Мінскай губерні з тым, каб той дапамагаў Ячэйку і Васілеўскаму ў парафіяльных справах, а Ячэйка і Васілеўскі мусілі выкладаць Закон Божы ў гомельскіх навучальных установах да вяртання законанастаўніка Іванова.[194]

22 лістапада (5 снежня паводле новага стылю) 1917 г. у Гомелі была ўстаноўлена савецкая ўлада.

1 сакавіка 1918 г. Гомель занялі часткі 41-га корпуса нямецкай арміі. Гомельшчына на 10 месяцаў трапіла пад нямецкую акупацыю. У канцы сакавіка 1918 г. Гомель з паветам быў перададзены немцамі Украіне. У горад быў прызначаны ўкраінскі камендант палкоўнік Харчанка і прысланая ўкраінская *«дзяржаўная варта»*, якая

размясцілася ў Новай Беліцы. Павятовым камісарам стаў былы галава гомельскага дваранства Стош.[195]

У Гомелі ў гэты час дзейнічалі розныя польскія і каталіцкія арганізацыі: Таварыства дабрачыннасці, чытацкае таварыства, харцарская арганізацыя, «Польская Вайсковая Арганізацыя», дзейнічала польская бібліятэка. Для дзяцей-católікаў арганізоўваліся летнікі. Актыўны ўдзел у гэтым прымаў мясцовы душпастыр ксёндз Дамінік Іваноў, які вярнуўся з Германіі.

36.Ксёндз Дамінік Іваноў з харцэрамі каля гомельскай плябаніі. 1917 г. 16 – Дамінік Іваноў.

37.Гомельскія харцэры. 1917 г.

У 1917 г. гомельскія харцары стварылі арганізацыю «Клуб валацуг» («Klub Włóczęgów»). Адным з заснавальнікаў быў Тэадор Нагурскі (мянушка «Астатні»), які пазней, у 1930-я гг., быў віцэ-прэзідэнтам Вільні.

Удзельнікі клуба сустракаліся ў будынку адзінай у горадзе польскай бібліятэкі. Час праводзілі ў дыскусіях і вясёлых забавах. Спрабавалі свае сілы ў літаратурнай творчасці. Творы друкавалі на старонках уласнай газеты «Jak to u nas», якую выдавалі пры дапамозе гектографа.

38.Вокладка часопіса «Jak to u nas»

Удзельнікі арганізацыі, як і іншыя харцары, былі таксама членамі падпольнай «Польскай Вайсковай Арганізацыі» (створаная Ю.Пілсудскім і актыўна дзейнічала ў 1914—1919 гг.), гомельскае аддзяленне якой было выкрыта ЧК у маі 1919 г. «Валацугі» вымушаны былі тэрмінова пакінуць Гомель і накіравацца на захад, углыб Польшчы. Пасля небяспечнай дарогі частка членаў клуба апынулася ў Варшаве, дзе зноў былі арганізаваны спатканні і наладжаны выхад часопіса. 19 снежня 1923 г. новы «Клуб валацуг» быў заарганізаваны Т.Нагурскім у Вільні. Клуб у далейшым аказаў значны ўплыў на польскую літаратуру і культуру. Адным з яго ўдзельнікаў (з 1929 г.) быў нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш.[196]

39.Т.Нагурскі (злева) і Э.Зянкевіч

## 10. ЖЫЦЦЁ ПАРАФІІ ПРЫ САВЕТАХ У 1919—1922 ГГ.

14 студзеня 1919 г. нямецкія часткі пакінулі Гомель, а ўвечары ў горад увайшлі атрады Чырвонай Арміі.

26 лютага 1919 г. вікарый Ворслаў быў пераведзены ў Віцебск на пасаду вікарыя Віцебскага касцёла Св. Антонія. На месца Ворслава ў той жа дзень вікарным ксяндзом і законанастаўнікам гомельскіх навучальных устаноў быў прызначаны Ян Кавалеўскі.[197] А днём раней, 25 лютага 1919 г., тагачаснаму законанастаўніку Паўлу Бірніку біскупам Цепляком было прапанавана ў адсутнасць Антонія Ячэйкі часова заняць пасаду пробашча Гомельскага касцёла і дэкана.

Ноччу з 23-га на 24-га сакавіка 1919 г. ў Гомель прыбылі 11 эшалонаў 2-й Тульскай брыгады Чырвонай Арміі, часткі якой самавольна пакінулі савецка-польскі фронт і вярталіся дадому. Гомельскія чыгуначнікі адмовіліся прапусціць эшалоны з тулякамі далей і тым самым фактычна справакавалі захоп горада часткамі 2-й Тульскай брыгады. Камандаванне паўстанцамі ўзяў на сябе начальнік гаспадарчай часткі брыгады Стракапытаў.

24 сакавіка Стракапытаў выдаў загад №1, у якім гаварылася: «*Сёння, 24 сакавіка, я, па даручэнні Палескага Паўстанчага Камітэту прыняў на сябе абавязкі камандуючага войскамі Гомельскай акругі, якія паўсталі супраць ураду Троцкага і Леніна. Камандуючы войскамі Гомельскай акругі Стракапытаў*».[198]

25 сакавіка стракапытаўцы захапілі атэль «Савой», у якім супраціў ім аказвала прыкладна 150 бальшавікоў. 26 сакавіка частку захопленых бальшавікоў (24-х адказных савецкіх супрацоўнікаў) паўстанцы забілі.

Толькі ў ноч на 29 сакавіка тулякоў выбілі з Гомеля. Пераважная частка паўстанцаў змагла прарваць чырвонае кальцо і аб'яднацца з сваёй часткай, якая раней заняла Рэчыцу. Пасля паўстанцы прарвалі савецкі фронт і здаліся пятлюраўцам, якія перадалі іх палякам.[199] Гэтыя падзеі увайшлі ў гісторыю Гомеля пад назваю «Стракапытаўскі мяцеж».

Пасля таго, як у горадзе ізноў была ўсталявана савецкая ўлада, пачаліся арышты. На працягу 3-х месяцаў, па ліпень 1919 г., у Гомелі засядала Губернская тройка ЧК, якая практычна кожны дзень выносіла смяротныя прысуды. Сярод расстраляных быў і кіраўнік

гомельскага аддзелу «Польскай Вайсковай Арганізацыі» Браніслаў Канткоўскі.[200]

У ліпені 1919 г. (13 ці 14 чысла) па справе «Польскай Вайсковай Арганізацыі» быў арыштаваны ксёндз Павел Бірнік. Разам з ім былі арыштаваны і двое парафіян: Адам Маркоўскі і Вікенцій Бальчэўскі.

Гомельская парафія засталася без святароў. У сувязі з гэтым парафіяне 20 ліпеня паслалі тэлеграму біскупу Цепляку: *«…ліпеня арыштаваны ксёндз Гомельскага касцёла Павел Бірнік і двое парафіян — Адам Маркоўскі, Вікенцій Бальчэўскі. Просім Вашага хадайніцтва перад таварышам Леніным аб вызваленні арыштаваных асобаў. Акрамя гэтага, просім Вашага распараджэння да вырашэння пытання аб Бірніку камандзіраваць у Гомельскі касцёл ксяндза, бо парафіяне лічбай 6 тыс. чалавек пазбаўлены магчымасці выконваць у храме рэлігійныя абрады».*[201]

40.Тэлеграма

Біскуп Цепляк адразу ж 21 ліпеня адказаў парафіянам тэлеграмай, у якой паведаміў, што 14 ліпеня ён паслаў тэлеграмы ў Саўнаркам і Гомельскі губвыканкам і што, на жаль, вольнага святара няма. Цепляк параіў парафіянам узмоцнена хадайнічаць на месцы аб вызваленні свайго пастыра.[202] Праз некалькі дзён Цепляку ўсё ж удалося знайсці вольнага святара для Гомеля. 26 ліпеня на пасаду гомельскага вікарыя быў прызначаны Міхаіл Шчэнх[203], які лічыўся энергічным і сумленным святаром.

41.Пячатка Гомельскага касцёла. Дакумент 1922 г.

Ксёндз Шчэнх прыбыў у Гомель у чацвер 14 жніўня. Яшчэ да яго прыезду, 11 жніўня 1919 г., ксёндз Бірнік разам з некалькімі палякамі быў расстраляны чэкістамі.[204]

42.Меркаваны здымак з пахавання ксяндза Бірніка.

Міхаіл Шчэнх фактычна стаў выконваць абавязкі пробашча і дэкана. 20 жніўня 1919 г., праз тыдзень побыту ў Гомелі, Шчэнх напісаў ліст сакратару архідыяцэзіі ксяндзу Дамініку Іванову. Шчэнх быў амаль у роспачы і ліст пачынаўся наступнымі словамі:

*«Прападобны ксёндз сакратар, Desolatione desolata est terra!* («уся зямля бязлюдная» — Ерамія 12:11*) Так хацеў бы крычаць увесь час»*.

У лісце Шчэнх паведамляў, што прыбыў у Гомель у чацвер 14 жніўня ці, калі больш дакладна, увечары 13. У плябаніі, дзе паўсюль бачыліся сляды пагрому, ён нікога не застаў. Ледзь знайшоў ключы ад касцёла. Становішча было вельмі цяжкае. Не было вартаўніка касцёла і арганіста. Не было кніжак, апроч пары сшыткаў. Таксама Шчэнх не знайшоў ані капейкі грошай, хаця не губляў надзеі, што частка касцельных капіталаў знойдзецца. Ён выказваў здагадку, што ксёндз Бірнік насіў грошы пры сабе і іх адабралі ў ЧК. У ЧК знаходзіліся і асабістыя рэчы ксяндзоў, якія раней працавалі ў Гомелі — Кавалеўскага, Ячэйкі, які ўжо даўно быў у Сноўску, і расстралянага ксяндза Бірніка. Там жа, верагодна, знаходзіўся і куфар Дамініка Іванова, аб якім той прасіў даведацца Шчэнха.

У горадзе адбываліся расстрэлы, сярод расстраляных было шмат палякаў.

*«Не ведаю, ці ўтрымаюся,* — пісаў Шчэнх, — *таму што характар уладаў немагчыма варожы супраць духавенства, асабліва польскага, палякаў»*. Шчэнх прасіў Іванова, каб пры магчымасці супакоілі яго старых бацькоў. Ён быў гатовы да ўсяго, нават да лёсу ксяндза Бірніка. Людзі сустрэлі Шчэнха зычліва, але, як пісаў Шчэнх, *«жаль напаўняў іх сэрца, бо людзі былі застрашаныя»*. Атмасфера ў горадзе, па словах Шчэнха, была вельмі цяжкая.

На працягу тыдня Шчэнх наведаў ксяндза Лук’яніна ў Рудні-Шлягіна. Ён адзначыў, што парафіяне Лук’яніна вельмі любяць.[205]

Праз складаныя абставіны, у якіх знаходзілася былая імперыя, кантакты паміж Шчэнхам і курыяй былі досыць рэдкія — раз у некалькі месяцаў (гаворка ідзе аб перапісцы). Таму ў разе немагчымасці кантактавання з курыяй ксяндзу Шчэнху было рэкамендавана духоўным начальствам карыстацца прывілеямі, якія былі нададзены ксяндзу Ячэйку. Але Шчэнху былі невядомыя гэтыя прывілеі, і ён прасіў курыю паведаміць яму аб іх. Гаворка ішла галоўным чынам аб індультах аб 2-х ці 3-х аб’явах для тых, хто з поваду мабілізацыі ці выезду з-за блізкасці фронту прасіў аб наданні ім шлюбу пасля адной аб’явы.[206] Дарэчы, гэта справа была яшчэ больш цяжкая таму, што тэлеграфнае ведамства не прымала дэпеш аб касцельным шлюбе.

Тым часам, увосень 1919 г. Шчэнх пачаў аб’язджаць бліжэйшыя капліцы, каб хоць часткова даведацца аб сваёй парафіі. Ён таксама хацеў пазнаёміцца з бліжэйшымі ксяндзамі і іх працай. Спачатку Шчэнх наведаў ксяндза Лук’яніна, якога папрасіў аб высыланні ў Гомель патрэбных парафіяльных дадзеных. Шчэнх таксама збіраўся паўтарыць просьбу пісьмова.[207]

1 снежня 1920 г. Шчэнх напісаў ліст былому законанастаўніку Даменіку Іванову, які ў гэты час займаў у архідыяцэзіі пасаду сакратара.

У лісце Шчэнх пісаў, што ў Гомелі ёсць нейкая Катажына Мугеніс (Mugenis), якая ў час прыбыцця Шчэнха ў Гомель верхаводзіла ў працэсіях. Апрача гэтага, займалася мыццём касцельнай бялізны і асабліва мела прэтэнзіі да апекавання рэчаў, якія засталіся ад ксяндзоў. Шчэнх не хацеў мяняць былых парадкаў і цярпеў яўныя злоўжыванні з боку Мугеніс як мог доўга. Цярпенне ксяндза скончылася, калі Шчэнх заўважыў брак лепшай касцельнай бялізны і яму прынеслі часткі альб і комжы, купленых на рынку, і калі статую Пана Езуса Мугеніс занесла ў яўрэйскі дом, дзе служыла.

Аднаго разу, калі ксёндз пасля Імшы распранаўся, яна пачала зрываць пакрыццё з харугвы, сцвярджаючы, што пакрыццё, як і фігурка, — яе ўласнасць. Шчэнх забараніў ёй зрываць пакрыццё і выкінуў яе з касцёла. Раз’юшаная жанчына схапіла цэглу, якая ляжала каля касцёла і кінула ў бакавыя дзверы касцёла, але цагліна ўпала на зямлю. Людзі, якія былі сведкамі гэтага, былі абураныя і запатрабавалі ад Шчэнха, каб Мугеніс прыцягнулі да судовай адказнасці. Пасля высвятлення справы Шчэнх з амбоны перасцярог парафіян ад раскрадання касцельных рэчаў, падбухторвання другіх супраць ксяндза і касцельнага камітэта.[208]

15 снежня 1920 г. Іваноў у адказ напісаў Шчэнху наступнае: *«У адказе на Ваш ліст ад 1-га снежня па справе Катаржыны Магяніс* (Mogianis — так у лісце Іванова, — У.В.) *магу паведаміць тое, што ведаю яе як неўраўнаважаную кабету і грубіянку, аднак не дапускаў, каб яна магла здзейсніць крадзеж. За сваё злачынства панесла слушную кару. Ніхто не сумняваецца, што яна абавязаная вярнуць скрадзенае, як касцельныя рэчы, так і рэчы, якія належаць пацярпелым ад яе. Калі б яна пачала абразліва лаяцца ці нейкімі дзеяннямі зневажала ксяндза або раскрадала касцельную ўласнасць, то трэба ўжыць да яе каноны касцельнага права і як асобу, якая падлягае адлучэнню ад касцёла, каталічкай не ўважаць. Касцельны камітэт за перанесеныя ад яе знявагі і за раскраданне касцельных рэчаў можа прыцягнуць яе да судовай адказнасці»*.[209]

Яшчэ 10 кастрычніка 1919 г. біскуп Цепляк загадам № 3057 прадпісаў выконваючаму абавязкі пробашча Магілёўскага касцёла Св. Казіміра Карлу Лупіновічу здаць справы магілёўскаму дэкану і накіравацца ў Гомель на пасаду гомельскага пробашча і дэкана. Гэтыя пасады часова, у адсутнасць дэкана Ячэйкі, які знаходзіўся ў Сноўску, займаў вікарый Гомельскага касцёла Шчэнх. Лупіновічу прадпісвалася прыняць ад Шчэнха касцёл з маёмасцю і прадставіць

інвентарны вопіс у курыю. Але выезд Лупіновіча ў Гомель зацягнуўся. 10 студзеня 1920 г. біскуп Цепляк прызначыў Карла Лупіновіча ўжо не пробашчам, а вікарыем у Гомельскі касцёл і выпісаў пасведчанне на яго імя. Пасля нядоўгага побыту ў Гомелі, 5 мая 1920 г. Лупіновіч выехаў у Жлобін на пасаду капелана Жлобінскай капліцы Антушаўскай парафіі.[210]

14 студзеня 1921 г. ксёндз Шчэнх напісаў рапарт кіраўніку Магілёўскай архідыяцэзіі. У рапарце гаварылася: *«Арцыпастыр, ужо даўно трэба было б пераслаць з майго боку рапарт аб парафіяльнай працы ў Гомелі і часткова дэканаце. Хацеў гэта зрабіць праз спецыяльнага пасланніка, але гэта было досыць цяжка. Абмяжуюся найважнейшым. Працы тут багата і яна ўсё прыбаўляецца. Каб усё паспець зрабіць, трэба выкарыстоўваць кожную хвіліну. Вельмі прыдаўся б ксёндз для раптоўных раз'ездаў. Сам езджу, як толькі можна. Але цяжка. Цяпер маю да Вас наступныя просьбы...»*.

Далей Шчэнх прасіў біскупа прыслаць ксяндза для Хойнікаў, Астраглядавічаў і Рэчыцы, дзе ўжо некалькі месяцаў, ад самага адступлення польскага войска, іх не было. Не было святароў і ў Мазыры і Калінкавічах. Былі арыштаваны ў гэты час магілёўскі дэкан Белагаловы і ксёндз Антоні Ярмаловіч, за што канкрэтна — невядома. Таму Шчэнх прасіў прыслаць ксяндза ў гэтыя мясцовасці. А тым часам ён паслаў на тыдзень—2 тыдні чачэрскага пробашча Альбіна Шацілу для аб'езду Хойніцкай, Астраглядавіцкай і Рэчыцкай парафій. Шчэнх прыклаў да ліста подпісы парафіян з Хойнікаў з просьбай прыслаць ім ксяндза.

Між тым ксёндз Мечыслаў Сабачынскі з Люшава (як пісаў Шчэнх, *«вялікі мучанік за сваю памылку»*) абвясціў з амбоны аб сваім ад'ездзе, і Шчэнх не ведаў, ці меў Сабачынскі нейкія ўказанні на гэты конт з курыі. У любым разе, Шчэнх прасіў у выпадку перамяшчэння, каб новы люшаўскі ксёндз яшчэ застаў Сабачынскага на месцы, бо інакш плябанскія будынкі стануць спажывай людзей і будуць разрабаваны. Перадача іншаму ксяндзу парафіі абавязкова мусіць адбыцца на месцы. Ксёндз Сабачынскі, дадаваў Шчэнх, мусіць быць пераведзены з Люшава, а калі біскуп запатрабуе выразных прычын, то ён, Шчэнх, прадаставіць іх. Але несумненна, што на працягу нядоўгага часу (2-х месяцаў) трэба яго катэгарычна перавесці на іншую пасаду пробашча.

Ксёндз Іосіф Лук'янін таксама мусіць быць пераведзены, толькі не на незалежную пасаду, а пад апеку паважнага сталага пробашча.

Шчэнх прасіў біскупа, каб гэтыя парафіі ці філіяльныя касцёлы не засталіся без ксяндзоў. На выпадак, калі б прыслалі ксяндза яму на дапамогу, то ён аб гэтым вельмі просіць. Пакуль ён можа даць

сабе рады. Але ў вялікі пост будзе вельмі цяжка. Таксама Шчэнх выражаў надзею, што настануць лепшыя часы для Касцёла.[211]

Віцэ-канцлер курыі Дамінік Іваноў, які доўгі час працаваў у Гомелі законанастаўнікам, адказаў Шчэнху, што:

1) Святароў для ўпамянутых парафій Мінскай дыяцэзіі няма, бо там працуюць толькі 3 святары, і біскуп даручае ксяндзу Мустэйкісу з Антушаў і ксяндзу Лупіновічу са Жлобіна, каб яны, па магчымасці, паразумеўшыся паміж сабой, абслугоўвалі парафіі ў Ігуменскім і Бабруйскім дэканатах. Далей Іваноў пісаў, што дэлегаванне ксяндза Шацілы для аб'езду Хойніцкай, Астраглядавіцкай і Рэчыцкай парафій было вельмі пажаданым і можа выкарыстоўвацца і ў будучыні, і калі ўмовы не зменяцца, то няхай ксёндз Шаціла нейкі час аб'язджае тыя пункты. Таксама трэба ў гэтым жа накірунку штурхаць ксяндзоў Мустэйкіса і Лупіновіча, каб і яны пераймаліся гэтай справай і неслі рэлігійную дапамогу католікам, якія засталіся без апекі.

2) Наконт ад'езду ксяндза Сабачынскага, — пісаў Іваноў, — курыі нічога не вядома. І трэба растлумачыць прычыны для яго пераводу.

3) Прыслаць другога ксяндза ў Гомель для дапамогі Шчэнху немагчыма. У Вялікі Пост змогуць дапамагчы кондэканальныя ксяндзы.

4) Іваноў апраўдваў ксяндза Лук'яніна з Рудні-Шлягіна і пісаў, што курыя не давала дазволу на вядзенне ім метрычных кніг на месцы, а прадпісвала высылаць акты аб хрышчэнні, шлюбу і пахаванні ў Гомель. Калі ён рабіў гэта неакуратна, то заслугоўвае вымовы. Біскуп ухваляе распараджэнне Гомельскага дэканата аб вядзенні метрычных кніг на месцы — і ў Рудні-Шлягінскай, і ў Сноўску.

5) Іваноў яшчэ паведамляў аб высылцы ў кожны касцёл Гомельскага дэканата рубрыцэлы (літургічнага календара) на 1921 г. Ён пісаў, што бланкі для перадшлюбных экзаменаў вычарпаны, і што тыя экзамены трэба праводзіць на рускай мове.[212]

Духоўнае начальства прыслухалася да Шчэнха і замяніла ксяндзоў Лук'яніна і Сабачынскага. На месца Лук'яніна ў Рудню-Шлягіна быў прызначаны ксёндз Леан Буйноўскі.

А між тым, паводле слоў вышэй згаданага капелана Рудня-Шлягінскай капліцы Леана Буйноўскага, у ксяндза Шчэнха выявіліся 2 адмоўныя рысы, якія цяжка было сумяшчаць са званнем святара, а менавіта — спекуляцыя і сувязь з жанчынамі. Ксёндз Шчэнх, як пісаў Буйноўскі, займаўся продажам касцельных рэчаў. Прадаў гадзіннік, шафу. За 2 пуды мукі — касцельную фісгармонію Ігнату Захараўскаму з Ухова. Калі ксёндз Буйноўскі паспрабаваў

забраць фісгармонію ў Захараўскага і вярнуць яе альбо ў Гомельскі касцёл, альбо ва Ухоўскую капліцу, то той стаў пагражаць, што разаб’е яе, але ў касцёл не аддасць, бо заплаціў ксяндзу Шчэнху. Калі Буйноўскі спытаў у Шчэнха пра продаж фісгармоніі, то той адказаў, што не прадаваў яе. Але Буйноўскі яму не паверыў на слова, і тады Шчэнх прадставіў наступнае пасведчанне:

*«Гэтым паведамляю, што пазычаная праз ніжэй падпісанага фісгармонія, якая ёсць уласнасцю Гомельскага касцёла, для каталіцкай капліцы вёскі Ухова, перавезеная Аляксандрам Ядкоўскім, цалкам знаходзіцца пад апекай капелана з Рудні-Шлягінскай і мусіць захоўвацца ў капліцы, а не прыватных дамах. Адказным за гэта з’яўляецца капелан з Рудні-Шлягінскай. У выпадку распараджэння капелана фісгармонія мусіць быць адшуканая. Выконваючы абавязкі гомельскага дэкана кс. Міхаіл Шчэнх»*.[213]

Такім чынам, з сарказмам пісаў Буйноўскі, Шчэнх аддаў фісгармонію пану Захараўскаму, а паўнамоцтвы ёй распараджацца — ксяндзу Буйноўскаму. Як бы там не было, а зараз ужо цяжка высветліць, прадаваў Шчэнх фісгармонію ці не.

Некаторыя рэчы Шчэнх дарыў жанчынам. Напрыклад, пані Ярмаловіч ён падарыў бронзавы гадзіннік. Неяк ксёндз Буйноўскі прыехаў у Гомель і стаў сведкам канфлікту паміж Шчэнхам і парафіянамі. Раніцай Буйноўскі зайшоў у сакрысцію. Там былі Шчэнх, убраны ў арнат і дзве выхавальніцы з дзіцячага дому, якія галасілі. Шчэнх ім сказаў: *«Прашу адыйсці ад мяне, то маё»*, і каб перарваць крыкі пакінуў сакрысцію і пайшоў на набажэнства.

Жанчыны выйшлі за ім і ўкленчылі перад алтаром, працягваючы галасіць. Калі Імша скончылася, яны пайшлі з нейкай дзяўчынкай на плябанію, увесь час паўтараючы: *«Ксёндз дэкан сіроцкія слёзы вывозіць»*. На плябаніі яны запатрабавалі, каб Шчэнх вярнуў залаты гадзіннік і завушніцы і пачалі прасіць Буйноўскага, каб той прыняў гадзіннік і завушніцы на захаванне ў касцёл. Але Буйноўскі не згаджаўся, тлумачачы, што ён у Гомелі толькі госць, а не гаспадар.

Тут у пакой зайшлі дзве жанчыны — сёстры Яўгення і Марта Ярмаловічы, якія працавалі ў дзіцячым садку, а жылі на другім паверху ў ксяндза Шчэнха. Яны пачулі, аб чым размова, і пачалі вішчэць і ўсяляк бараніць Шчэнха. Але тыя, якія прыйшлі з дзіцём за гадзіннікам, пачалі ў адказ казаць сёстрам, маўляў, Ярмаловічы такія ж, як і Шчэнх, бо жывуць у яго і добра зжыліся з ксяндзом, як Шчэнх выедзе з Гомеля, то і сёстры за ім. У выніку ўсяго гэтага Шчэнх мусіў вярнуць выхавальніцам і гадзіннік, і завушніцы, а ксёндз Буйноўскі мусіў прыняць залаты гадзіннік на захаванне.

Быў складзены наступны акт: *«26/11 1921. Пані Хелена Французсан просіць ад імя дзіця Марыі Амбражэвіч (24 гады) пакінуць залаты дамскі гадзіннік з залатым ланцужком на карысць Марыі Амбражэвіч (9 гадоў). Гадзіннік быў перададзены Леану Буйноўскаму, які ў гэты час выконваў абавязкі дэкана і пробашча. У прысутнасці мяне: Міхаіла Шчэнха. Сведкі: В.К-нецка (подпіс неразборлівы), Ярмаловіч, ксёндз Леан Буйноўскі. № акта 494»*. Пасля гэтага Буйноўскі сказаў Французсан, што лепш бы дазволілі Шчэнху вывезці гадзіннік, каб ўратаваць яго ад бальшавіцкай канфіскацыі, але тая адказала, што людзі не давяраюць Шчэнху, бо той параспрадаваў касцельныя рэчы, прадасць і гадзіннік. Адным словам, Шчэнх страціў у людзей павагу.[214]

Трэба дадаць, што Шчэнх вёў агульную гаспадарку з сёстрамі Ярмаловіч (свінні, куры і г.д.), сёстры пачуваліся гаспадынямі і ў яго кватэры, што абурала парафіян. Шчэнх кожны дзень пераапранаўся ў цывільную вопратку і разам з маладымі паненкамі Ярмаловіч, якія мелі не вельмі добрую рэпутацыю, куды-небудзь выязджаў. Буйноўскі разам з чачэрскім ксяндзом Шацілам пару разоў сустракалі Шчэнха, які катаўся з Яўгенняй Ярмаловіч і сам правіў коньмі.

Буйноўскі, калі быў у Петраградзе, чуў пра Шчэнха як пра сумленнага і энергічнага святара. Гэта была праўда, але праўда і тое, што ў Гомелі Міхаіл Шчэнх сябе паводзіў не зусім так, як гэта належыць святару. Калі Буйноўскі першы раз прыехаў у Гомель, то быў уражаны, што касцельная канцылярыя застаўлена мяшкамі мукі і півам, а Шчэнх кожнаму прапануе купіць, кажучы, што мука танная, а піва свежае. Пры кожным прыездзе ў Гомель Буйніцкі станавіўся сведкам якога-небудзь продажу, як, напрыклад, у выпадку, калі нейкі пан Рудзік амаль не пабіўся з Шчэнхам за 200 пудоў сена.

Пры выездзе з Гомеля ў Польшчу Шчэнх звярнуўся ў Губэвак, просячы зарэгістраваць на выезд з ім яшчэ і пані Яўгенню Ярмаловіч, як ён пісаў *«вследствие общаго имущества»*. І ў цягніку Шчэнх размясціўся з ёй на адной палічцы, быццам яны былі адной сям'ёй.[215]

Крыху ў больш мяккіх фармуліроўках характарызуе асобу Шчэнха Іван Пятровіч Купець, гомельскі парафіянін, былы аканом аднаго з маёнткаў князя Паскевіча. Аднак і ён у лісце да ксяндза Дамініка Іванова ад 19 сакавіка 1922 г. пацвярджае факты, прыведзеныя Леанам Буйноўскім.

Паводле слоў Купеця, гомельскія парафіяне былі расчараваны ад'ездам Шчэнха, бо той быў узорны і руплівы ў выкананні духоўных абавязкаў, і ўсе парафіяне былі ім задаволены. Але пры

ад'ездзе з Гомеля Шчэнх паказаў сябе *«аферыстам»*. Шмат з касцельных і плябанскіх рэчаў Шчэнх прадаў альбо забраў з сабой і практычна нічога не пакінуў з кухоннага і сталовага начыння і бялізны. Магчыма, што да гэтага яго падбілі сёстры Ярмаловіч, якія цвердзілі, што ўсё прападзе. Нават і плябанію хацелі аддаць пад інтэрнат, але ксёндз Буйноўскі не даў гэтага зрабіць.

Пасля ад'езду Шчэнха з Яўгенняй Ярмаловіч у Вільню Марта Ярмаловіч засталася ў Гомелі і працягвала жыць у плябаніі з Дамарацкай (магчыма, сястра А.Дамарацкага), і ксяндзу Буйноўскаму прыйшлося вымусіць іх пакінуць плябанію.[216]

28 лістапада 1921 г. выконваючы аабавязкі гомельскага пробашча і дэкана Міхаіл Шчэнх выехаў з Гомеля ў Вільню. Абавязкі пробашча пачаў выконваць капелан Рудня-Шлягінскай капліцы Леан Буйноўскі, які па просьбе Шчэнха прыехаў у Гомель 24 лістапада, каб абараняць касцельную нерухомую маёмасць ад рэквізіцыі. Афіцыйнага прыняцця касцёла і інвентара Буйноўскім не адбылося, бо Шчэнх адмовіўся ад афіцыйнай перадачы касцёла, спаслаўшыся на тое, што сам ніякага інвентарнага спісу не атрымаў. У плябаніі на момант прыезду Шчэнха ў Гомель захоўваліся рэчы, якія засталіся ад ксяндзоў і парафіян, што з розных прычын выехалі з Гомеля. Частку гэтых рэчаў Шчэнх прадаў, а частку вывез (насценны гадзіннік, сервіз, карціны). Буйноўскі ўскладаў віну за гэта на касцельны камітэт, хаця і прызнаваў, што Шчэнх з камітэтам не вельмі і лічыўся.

Буйноўскі напісаў біскупу Цепляку, бо лічыў, што *«Бог яму не даруе, калі ён захавае ў таямніцы тое, што рабілася ў Гомелі»*.

Буйноўскі адзначаў, што Шчэнх аказаўся не лепшым за ксяндза Лук'яніна з Рудні-Шлягіна і з'ехаў з Гомеля з рэпутацыяй спекулянта, і Буйноўскаму было сорамна хадзіць па вуліцах, бо ксёндз тут у гэты час асацыяваўся з лайдаком.[217] Гомельскія парафіяне прасілі біскупа, каб ён афіцыйна прызначыў Буйноўскага адміністратарам Гомельскай парафіі, бо чачэрскі ксёндз Шаціла, якога яны прасілі прызначыць раней, не выказаў асаблівага жадання пераехаць у Гомель, а афіцыйны гомельскі дэкан Ячэйка, які знаходзіўся ў Сноўску, рашуча адмовіўся.[218]

Пасля ад'езду Шчэнха пачаліся спробы савецкіх улад завалодаць касцельнымі будынкамі. Гомельская камунальная гаспадарка выдала 2 ордэры на рэквізіцыю хлявоў, якія планавалася выкарыстаць як стайню для 12 коней будзёнаўскага аддзела. Але Буйноўскі адмовіўся іх пусціць, і яму на нейкі час удалося адстаяць касцельную маёмасць. Потым да Буйноўскага прыйшлі камуністы з «Польскай лекцыі асвятовай» з мэтай рэквізаваць кватэру дэкана і ўвесь дом пад польскі інтэрнат. Буйноўскі вырашыў бараніць дом да

апошняга, але яму было цяжка, бо ў Гомелі ён яшчэ мала каго ведаў і таму мог першы час разлічваць толькі на сябе.[219]

У пачатку 1922 г. з Масквы ў Гомель прыбыла змешаная польска-савецкая камісія. Мэтай камісіі быў дэмантаж і перавозка ў Варшаву помніка Ю. Панятоўскаму (у адпаведнасці з спецыяльным раздзелам аб вяртанні культурных каштоўнасцяў, вывезеных з Польшчы ў часы Расійскай імперыі, зафіксаванага ва ўмовах Рыжскага дагавора 1921 г.). Помнік Ю.Панятоўскаму стаяў у парку каля палаца з 1842 г. і быў адзіным конным помнікам на тэрыторыі Беларусі. На пастаменце была змешчана шыльда: *«Іосифъ Антонъ Понятовскій»*.[220]

Камісія працавала ў Гомелі каля 3-х тыдняў. За гэты час помнік быў дэмантаваны, разабраны і перавезены на Гомельскі вакзал, адкуль яго адправілі ў Варшаву. Безумоўна, што гэта была страта для гомельскіх католікаў, для якіх помнік быў сімвалам каталіцкасці і польскасці. Нездарма «Гомельскія валацугі» памясцілі на вокладцы свайго часопіса выяву помніка. А адзін з найбольш актыўных гомельскіх парафіян Іван Купець у сваім лісце да віцэ-канцлера ксяндза Дамініка Іванова напісаў аб гэтым, як аб адной з найважнейшых навінаў: *«Развіталіся мы з князям Юзэфам Панятоўскім»*, — пісаў Купець.[221]

43.Помнік Ю.Панятоўскаму.

44.Так цяпер выглядае месца, дзе стаяў помнік Ю.Панятоўскаму.

45.А помнік (вярней яго копія) стаіць цяпер у Варшаве.

## 11. КАНФІСКАЦЫЯ ЛІТУРГІЧНЫХ РЭЧАЎ З ГОМЕЛЬСКАГА КАСЦЁЛА Ў 1922 Г.[222]

Вясной 1922 г. савецкімі ўладамі была здзейснена кампанія па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў. Як тлумачылася, канфіскацыя была вымушанай і была здзейснена для барацьбы з голадам, які ахапіў Савецкую Расію ў 1921—1922 гг. Аднак існуе меркаванне, што голад быў усяго толькі нагодай для канфіскацыі каштоўнасцяў, а галоўны матыў палягаў у тым, каб падарваць эканамічную базу царквы і палепшыць фінансавае становішча савецкай улады.

У Гомельскай губерні перад пачаткам канфіскацыі літургічных рэчаў была праведзена агітацыйная кампанія. У час гэтай кампаніі былі праведзены сялянскія канферэнцыі і мітынгі. Паводзіны сялян на гэтых мерапрыемствах былі рознымі. У справаздачы Гомельскага губкама РКП(б) за май 1922 г. з грыфам «зусім сакрэтна» паведамлялася: *«У шэрагу паветаў — Клінцоўскім, Чэрыкаўскім, Старадубскім, Гомельскім… былі прыняты рэзалюцыі за канфіскацыю каштоўнасцяў. У іншых — Навазыбкаўскім, Рэчыцкім, Быхаўскім, Рагачоўскім — сяляне пераважна адмаўляліся галасаваць за канфіскацыю»*.[223]

Апрача канферэнцый і мітынгаў у вёсках, у гарадах праводзіліся жаночыя мітынгі, канферэнцыі чырвонаармейцаў і выступленні ў цэрквах у часе набажэнстваў.

Улады вырашылі таксама правесці агітацыю сярод каталіцкага насельніцтва. На пасяджэнне Польбюро Гомельскага губкама РКП(б) 12 красавіка 1922 г. было вынесена пытанне аб неабходнасці *«прыступіць да агітацыйнай працы сярод польскага насельніцтва аб канфіскацыі літургічных рэчаў з польскага касцёла на карысць галадаючых, каб яны не сустракалі перашкод да канфіскацыі такіх»*. У выніку было вынесена наступнае рашэнне: *«Правесці шэраг мітынгаў і сходаў грамадзян палякаў, якія знаходзяцца ў горадзе Гомелі аб канфіскацыі з мясцовага польскага касцёла літургічных рэчаў, а таксама… знаходзім неабходным… па ўсёй губерні канфіскаваць з польскіх касцёлаў літургічныя рэчы, каб тым дапамагчы галадаючым братам павалжанам у самым кароткім часе»*.

Актыўную ролю ў агіткампаніі, на думку ўладаў, мусіла адыгрываць мясцовая прэса, у прыватнасці, газеты «Полесская правда» і «Новая деревня».[224]

Для ажыццяўлення практычных мерапрыемстваў па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў была створана адмысловая ўпаўнаважаная камісія і былі выдзелены ўпаўнаважаныя па паветах. Старшынёй камісіі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў Гомельскай губерні быў прызначаны пэўны Фядзяеў. У першую чаргу планавалася канфіскацыя з сінагог, потым з цэркваў і ў апошнюю чаргу з касцёлаў.

10 красавіка капелан Рудня-Шлягінскай капліцы, які фактычна выконваў абавязкі пробашча Гомельскага касцёла, Леан Буйноўскі быў тэрмінова выкліканы да старшыні камісіі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў Фядзяева. Размова адбывалася ў прысутнасці рэдактараў газет «Полесская правда» і «Новая деревня», двух праваслаўных святароў і двух супрацоўнікаў ЧК.

Фядзяеў паведаміў ксяндзу Буйноўскаму, што дэкрэт УЦВК па канфіскацыі каштоўнасцяў будзе выкананы і ў Гомельскім касцёле. Ксёндз адказаў, што гэта будзе парушэннем Рыжскага дагавора, які гарантуе каталікам рэлігійную свабоду, і паказаў копію дагавора. *«Якая тады розніца паміж каталікамі-палякамі і рускімі, і што ж тады дае, паводле разумення ўлады, Рыжскі дагавор палякам-каталікам?»* — спытаў Буйноўскі. Фядзяеў адказаў, што не трэба звяртаць увагу на міждзяржаўныя фармальнасці і іх пярэчанні і спаслаўся на прыклад Езуса Хрыстуса, які казаў, што трэба прыходзіць на дапамогу бліжняму. Буйноўскі адказаў, што так, Езус Хрыстус, які ёсць узорам, вучыць, што трэба прыходзіць на дапамогу бліжняму, але ніколі не вучыць, што трэба гвалтам і насіллем змушаць да гэтай дапамогі, што прынцыпаў Езуса Хрыстуса Касцёл дакладна прытрымліваецца ў адносінах да сябе і што згодна з цыркулярам генеральнага вікарыя Магілёўскай архідыяцэзіі ад 6 жніўня 1921 г. ужо робіцца збор у касцёлах для галадаючых, што палякі-каталікі больш чулыя ў гэтым пытанні за іншых, хаця і з’яўляюцца ў Расіі выгнаннікамі.

Фядзяеў вымушаны быў прызнацца, што аб прынцыпах Езуса Хрыстуса ён баіцца дыскутаваць, бо ведае аб гэтым толькі з школьных рэлігійных заняткаў і то вельмі мала, але лічыць ахвяры Касцёла занадта малымі. Ксёндз згадзіўся з тым, што ахвяры Касцёла малыя, але, з іншага боку, як так можна казаць аб уцекачах, выгнаных са сваіх сядзіб гвалтам, якія бадзяліся па Сібіры і ўскраінах Расіі і якія жывуць, чаму Фядзяеў сам ёсць сведкам, па гомельскіх бараках і зямлянках на Палескай станцыі. Як можна вымагаць ад гэтых галадаючых качэўнікаў-парафіян чагосці надзвычайнага. Далей Буйноўскі сказаў Фядзяеву, што каштоўнасці ў касцёле былі, але вывезены ў ЧК. Няхай іх вернуць і аддадуць галадаючым. А ў касцёле зараз каштоўнасцяў няма, а ёсць толькі рэчы, патрэбныя для штодзённага ўжытку, часткова пазалочаныя, часткова пасярэбраныя. Фядзяеў вымушаны быў прызнацца, што выразіўся нетактычна і папрасіў прабачэння. Пра цыркуляр генеральнага вікарыя Магілёўскай архідыяцэзіі ад 6 жніўня 1921 г. Фядзяеў сказаў, што бачна, што каталікі арганізаваныя, і заахвочваў надалей працаваць, але прасіў узгадняць працу з працай іх камісіі, і нават прапанаваў узяць удзел у камісіі. Буйноўскі адказаў, што ўдзел у працы камісіі браць не можа з уласнай ініцыятывы, таму што ёсць касцельнае права і без паразумення з генеральным вікарыем пра гэта не можа быць гаворкі. *«А калі б Вам мітрапаліт дазволіў?»* — запытаў Фядзяеў. Ксёндз сказаў, што ён задае дзіўнае пытанне, бо мітрапаліт не будзе да гэтага змушаць, і ніхто да гэтага змушаць не будзе.

Гомельскія праваслаўныя святары, якія прысутнічалі на сустрэчы, перад гэтым былі ў Буйноўскага з просьбай аб каардынацыі пратэстаў супраць канфіскацыі каштоўнасцяў з цэркваў і касцёлаў. Аднак, у адрозненне ад Буйноўскага, які не пагаджаўся на канфіскацыю, яны ў рэшце рэшт пагадзіліся аддаць царкоўныя «лішкі». І пераканаліся, што зрабілі глупства, калі пабачылі ў газетах рэзалюцыі, якія знаёмілі гамяльчан з ходам кампаніі, і ўбачылі там словы аб поўнай і ўсеагульнай згодзе царкоўных камітэтаў, каб аддаць каштоўнасці. Благачынны на сустрэчы з Фядзяевым нічога не мог вымавіць, а другі святар казаў: *«Навошта выбралі такі час на страсным тыдні? Што скажа народ? Пытанне балючае, а вы нас яшчэ ў газетах правакуеце»*. Неўзабаве пасля гэтай сустрэчы, у вялікую пятніцу, яны былі арыштаваныя.

У газетах «Полесская правда» і «Новая деревня» з'явіліся артыкулы і вершы, якія ганілі ксяндза Буйноўскага (у газетах ён быў названы Буйніцкім)[225]. Асабліва шчыраваў на гэтай ніве Г.Лялевіч[226]. 12 красавіка 1922 г. на старонках газеты «Новая деревня» з'явіўся такі верш:

*О ксендзе, золоте и Поволжье*

*Ксёндз утешается беседами:*
*«Пусть голодные станут людоедами,*
*Пусть умирают с голоду дети,*
*Не отдам золота ни за что на свете!*
*Во первых, это Рижским договором запрещено,*
*Во вторых, прихожане не дадут все равно,*
*В третьих, нельзя отдать без митрополитова благословенья,*
*В четвертых, вообще нет ценностей в нашем распоряжении».*
*А рабочий, следя за этой ложью,*
*Твердит: «Послать бы ксендза в Поволжье,*
*Кабы он там с месяц поголодал,*
*Так сразу бы все золото из костела отдал».*[227]

Ксёндз Буйноўскі спачатку думаў, што ўсё абмяжуецца толькі ачарненнем у газетах, бо прайшоў усяго толькі год, як быў падпісаны Рыжскі дагавор, і савецкае кіраўніцтва мусіла з гэтым дагаворам лічыцца. Аднак Буйноўскі памыляўся. Гомельскія ўлады паспрабавалі ўздзейнічаць на парафіян праз камуністычную ячэйку «Польскай лекцыі асвятовай». Неяк пасля набажэнства камуністы Апольскі і Ступінскі ўваліліся ў сакрысцію, вітаючыся, знялі шапкі і са здзеклівай усмешкай прамовілі, што, маўляў, прыйшлі

паглядзець, што ксёндз мае ў касцёле. Ксёндз вымушаны быў выгнаць іх з сакрысціі з крыкамі на вачах у людзей. Тады камуністы папрасілі, каб Буйноўскі выслухаў іх у плябаніі, маўляў, яны прыйшлі толькі парадзіць і дапамагчы. Дыскусія ў плябаніі працягвалася 3 гадзіны. Апольскаму і Ступінскаму не ўдалося пераканаць ксяндза. Яны прызналі слушнасць таго, што ксёндз выгнаў іх з плябаніі, нават прызналіся ў свінстве. Аднак, прапанавалі аддаць хоць што-небудзь з касцельных рэчаў, прасілі, каб так востра не ставіўся да іх, інакш яны зробяць мітынг на цвінтары, людзі самі аддадуць каштоўнасці, а Буйноўскага вымушаны будуць арыштаваць. Ксёндз адказаў, што касцельных рэчаў ні ў які спосаб аддаць не можа, бо гэта парафіяльнае, а ад сябе можа ахвяраваць уласнае зімовае паліто. Камуністы прыняць паліто адмовіліся, сказаўшы, што не маюць жадання крыўдзіць і даводзіць да галечы, але касцельныя рэчы ўсё адно канфіскуюць.

У Вялікі чацвер да Буйноўскага падаслалі жабрака, амаль голага, без кашулі. Буйноўскі пазнаў у ім супрацоўніка ЧК, які раней шпіёніў за ксяндзамі Лук’яніным і Шчэнхам. Буйноўскі вырашыў яго засароміць. Ксёндз спытаў, чым можа яму дапамагчы? Жабрак адказаў, што хлебам.

*— А яшчэ?*

*— Кашуляй.*

*— А яшчэ?*

*— Кальсонамі.*

*— А яшчэ?*

*— Палітом.*

*— А яшчэ?*

*— Грашыма.*

Буйноўскі ўзяў з касы пару сот тысяч дробных грошай і высыпаў яму ў шапку. Аднак жабрак запытаўся, ці не мае ксёндз большых грошай. Ксёндз адказаў яму, што большыя маюць камісары, і тут жабрак выкрыў сябе, абразіўся і сказаў: *«Аднак жа ксёндз з Масквы прыехаў»*.

На Вялікдзень, 16 красавіка, Буйноўскі мусіў зрабіць адпаведнае бягучаму моманту казанне. Адзін з католікаў-камуністаў Маркевіч, які быў памочнікам Губэваку[228] і прысутнічаў на Імшы, крыкнуў, што трэба аддаць касцельныя рэчы. Вернікі ў касцёле тут жа ўпалі на калені і пачалі крычаць, што нельга аддаваць, а мужчыны, якія былі бліжэй да Маркевіча, падхапілі яго і выштурхнулі з касцёла. Калі ж ён паспрабаваў крычаць на цвінтары, то міліцыя, якая была непадалёк, яго падхапіла і выправадзіла ад касцёла.

Не могучы нічога зрабіць у касцёле і на цвінтары, улада вырашыла арганізаваць мітынг у касцельным садзе каля плябаніі. Ксёндз Буйноўскі даведаўся аб гэтым 17 красавіка, у Велікодны панядзелак, калі прыйшоў рана да касцёла і пабачыў, што муры касцёла абклеены плакатамі.

Сход мусіў быць для ўсіх палякаў, незалежна ад веравызнання і перакананняў. Парадак сходу быў такі: 1) забранне каштоўнасцяў з Гомельскага касцёла; 2) арганізацыя польскага інтэрната (хутчэй, камуны, якую прывезлі з Самары); 3) арганізацыя дзіцячага садку ў плябаніі.

Для Буйноўскага гэта была нечаканая навіна. Ён разгубіўся і не ведаў што рабіць, ці прыняць удзел у гэтым сходзе, ці не ўдзельнічаць і асцерагчы парафіян ад удзелу. Калі ён прыме ўдзел, то ЧК, напэўна, яго арыштуе, таму што павестка дня была такая, што не дазваляла прысутнічаць яму як святару. Ксёндз не выключаў крывавыя падзеі. Калі ж ён не будзе ўдзельнічаць, то жменька нягоднікаў ад імя парафіян вырашыць аддаць каштоўнасці, як гэта адбылося, паводле вестак з газет, у Мінску ды Рагачове. Таму ў імя Божае Буйноўскі вырашыў прыняць удзел у сходзе. У гэтым яго падтрымалі і парафіяне. Супольна яны вырашылі спазніцца на сход з Імшы і прыйсці напрыканцы сходу, каб толькі прагаласаваць.

Буйноўскі прызначыў члена касцельнага камітэта, які мусіў паведаміць, калі пачнецца сход. Гэты член камітэта ў час Імшы сказаў Буйноўскаму, што на сход сабралася 16 чалавек, але сходу яны не пачынаюць, чакаюць парафіян. Таму пасля набажэнства Буйноўскі прамовіў людзям у касцёле казанне. Людзей сабралася мноства, таму што разыйшліся ўжо чуткі, што ксёндз арыштаваны. Буйноўскі зачытаў цыркуляр генеральнага вікарыя ад 6 жніўня 1921 г., просячы, каб парафіяне падвоілі сваю руплівасць, рабілі збор прадуктаў, абутку, словам, выявілі сваё хрысціянскае сэрца (у гэты ж дзень адбыўся збор грошай для галадаючых).

У часе казання Буйноўскі сказаў, што да гомельскіх вернікаў прызначаны новыя «парафіяне», толькі яны, на жаль, не хочуць браць удзел у малітвах і дапамагчы ўтрымліваць Гомельскі касцёл, які працякае і абсыпаецца, што новыя «святары» ў сваім казанні пажадаюць вернікам зусім не вясёлых святаў, што стануць перад вернікамі новыя «анёлы», толькі шкода, што яны анёлы толькі на словах, а ў руках у іх агонь і меч, што не просяць яны ў вернікаў для галодных яйка, мяса, кавалак хлеба і адзення, а дамагаюцца назойліва, як юды, золата, а ўсякі ж хлеб ёсць золатам, і для галоднага ён нават больш, чым золата.

Людзі так праніkліся, што калі Буйноўскі скончыў, то не маглі спяваць і ў касцёле гучаў толькі арган. Пасля набажэнства ўвесь

народ з касцёла рушыў на сход. Людзі запатрабавалі, каб Буйноўскі быў старшынёй сходу. Бачачы распалены люд, з гэтым пагадзіліся і камуністы. Ксёндз ахвотна прыняў гэтую прапанову, бо разумеў, што можа ўтрымаць пад кантролем ход сходу і не дапусціць крывапраліцця. Ён адразу прапанаваў змяніць парадак сходу, згадзіўшыся абмяркоўваць толькі касцельныя справы. Людзі аднагалосна падтрымалі яго.

Буйноўскі спачатку даў слова камуністам, але людзі выгукамі не давалі ім гаварыць. Адзін з камуністаў звярнуўся да работніц. Але нейкі голас з натоўпу выгукнуў: *«Мы тут толькі хрысціяне-католікі, вернікі, а не таварышы, не дазволім нас абражаць»*. Камуніст спрабаваў гарланіць, што яго цікавіць галодны рабочы, а не касцёл. На гэта адна з жанчын, кінула яму ў вочы зямлю, кажучы: *«Ах, касцёл не цікавіць»*, і зноў кінула зямлёй. Кінулі зямлёй і яшчэ ў аднаго камуніста. Людзі збіраліся іх збіць, але ксёндз гэтага не дапусціў.

Тут адзін з камуністаў выцягнуў з кішэні гатовую рэзалюцыю і сказаў, што, маўляў, мы хочам вынесці такую пастанову: *«На агульным вальным сходзе мы, работнікі і жыхары-палякі горада Гомеля, выслухаўшы прамову грамадзян Апольскага, Ступінскага і іншых аб здачы каштоўнасцяў з мясцовага касцёла, пастанавілі, што не маем нічога супраць здачы касцельных каштоўнасцяў для паміраючых з голаду паволжан — нашых братоў, тым самым даём мажлівасць камісіі без перашкод выканаць свой абавязак перад паміраючымі ад голаду маткамі з дзецьмі і адначасова сведчым аб братэрстве польскага і рускага люду»*.

Буйноўскі ўзяў гэтую рэзалюцыю і зачытаў людзям. Людзі запратэставалі. Камуніст вырваў з рук ксяндза рэзалюцыю і закрычаў: *«А хто не супраць?»*. Людзі маўчалі. Тут Буйноўскі крыкнуў, што гэта сатанінская рэзалюцыя, і людзі зноў адзінагалосна запратэставалі. Тады ксёндз звярнуўся да людзей: *«А няхай падыміцца тая прыкрая для нас рука, што хоча абабраць касцёл»*. Рукі паднялі толькі 3 чалавекі — камуністы Апольскі, Ступінскі і Маркевіч. Адзін з камуністаў загадаў тады занесці іх рэзалюцыю да пратаколу, а сам хутка схаваў паперку ў кішэнь, сказаўшы, што згубіў яе. Ён быццам шукаў яе ў ботах, адзенні, але не знайшоў і папрасіў, каб напісалі новую. Буйноўскі адказаў, што рэзалюцыя завялікая, тады камуніст дастаў яе з сваёй кішэні і аддаў, папрасіўшы пазней вярнуць.

Камуністы вымушаны былі прызнаць, што прайшла не іх рэзалюцыя, а рэзалюцыя ксяндза. Яны папярэдзілі, што Буйноўскага мусяць арыштаваць. Камуніст Маркевіч, які ў папярэдні дзень быў выкінуты з касцёла, пачаў крычаць пасля галасавання, што людзі

памыліліся з золатам і касцёлам. Людзі так абурыліся, што на чале з Вандай Ізбіцкай кінуліся з каменнем за ім. Маркевіч уцёк з саду, але на вуліцы яго затрымалі сяляне-праваслаўныя і пабілі палкамі.

Калі галасаванне ўжо адбылося, з'явіўся старшыня Губвыканкаму Нейбах, які спытаў у Буйноўскага: *«Хто вам дазволіў прыйсці на гэты сход?»*.

Ксёндз адказаў яму, што ён задае дзіўнае пытанне, таму што ўлады самі змусілі да гэтага сходу і галасавання. Буйноўскі звярнуўся да камуністаў з пытаннем, чаму яны арганізавалі гэты сход? Яны адказалі, што загадала Палітбюро. Тады Нейбах запатрабаваў даць яму слова, кажучы, што ён не проста грамадзянін, а старшыня Губвыканкама і адначасова прадстаўнік ЦК. Ён заклікаў у гэтую ж хвіліну згадзіцца на адданне каштоўнасцяў. Але людзі не далі яму прадоўжыць. Буйноўскі пачаў супакойваць людзей. Нейбах тады пачаў крычаць, што толькі жменька крыкуноў не пагаджаецца. Людзі адзінагалосна запярэчылі і не далі яму гаварыць. Ксёндз яшчэ раз супакоіў людзей і папрасіў даць Нейбаху слова. Нейбах сказаў, што ўсё адно рэчы будуць забраныя: *«Паставім кулямёты і адчынім касцёл»*.

Падняўся гоман. Пачуліся галасы: *«За бараду яго, за бараду!»*. Жанчыны пачалі знімаць пярсцёнкі з рук і кідаць у яго, дзядок, які прынёс сабраныя ў касцёле грошы, кінуў іх яму пад ногі і прамовіў: *«Нельга касцёл абіраць!»*. Пачуліся галасы: *«Да касцёла не пусцім, нават калі б ксёндз захацеў, то і тады не аддадзім!»*.

Калі напружанне ўзрасло, то Нейбах папрасіў, каб Буйноўскі супакоіў людзей, але Буйноўскі адказаў, што ён не міліцыянер ці жандар і даў Нейбаху 5 хвілін на прамову, а калі Нейбах не падпарадкаваўся, то пазбавіў яго голасу і зачыніў сход, папрасіўшы людзей разыйсціся па дамах. Людзі не разыходзіліся і налягалі, каб Буйноўскі выехаў з Гомеля. Буйноўскі не хацеў выязджаць, але яго ўжо цэлыя суткі чакалі коні з Рудні-Шлягіна, куды ён мусіў ехаць на першы дзень Вялікдня. Ён вырашыў касцёл замкнуць, ключы схаваць і не аддаваць, а сам выехаў. Людзі з плачам развітваліся, цалавалі ксяндза ў рукі. Камуніст Ступінскі, які наглядаў за гэтым, ухмыляўся. На вуліцы і рынку было шмат яўрэяў, якія збегліся, маючы вольны час з поваду свята, паглядзець на мітынг. Нейбах разганяў іх па дамах. Яўрэі, калі пабачылі Буйноўскага, зладзілі авацыю.

Ксёндз баяўся, што яго адразу ў Гомеле арыштуюць, але яго ніхто не затрымаў. Па дарозе да Рудні-Шлягіна таксама за ім ніхто не гнаўся. Магчыма, проста таму, што гэта было цяжка зрабіць з-за кепскіх дарог і паводкі. Да маёнтка Навасёлак Буйноўскі 15 вёрст ехаў конна, адтуль, з-за разліцця рэк Сожа і Бесядзі, плыў на лодцы

да лясніцтва графа Мельжынскага, а ад лясніцтва зноў 6 вёрст да Рудні-Шлягіна праз балота конна. У Рудні, Ухове і Утоньцы ксёндз без перашкод паспавядаў людзей.

Пасля ад’езду Буйноўскага, 19 кастрычніка, у Гомелі пачаліся арышты вернікаў-католікаў. Былі арыштаваны Яраслаў Тэадор Хельмех, Ванда Ізбіцкая, арганіст Вацлаў Лук’янін і іншыя (таксама былі арыштаваны чыгуначнік Лукомскі, служачы Франц Напалеонавіч Рытвінскі, Уладзіслаў Якаўлевіч Пажамецкі, Адам Леанавіч Маркоўскі, Іван Пятровіч Купець, Іван Восіпавіч Стэфановіч і Соф’я Альбертаўна Гарадзецкая).

У шыфраванай тэлеграме Гомельскага аддзела ДПУ ад 21 красавіка 1922 г. гаворыцца, што ў сувязі з канфіскацыямі ў Гомелі *«задержано девять человек крикунов»*. Хутка шасцёх з іх адпусцілі, а *«три человека заключены под стражу ведется следствие дело будет передано Ревтрибунал тчк Числа заключенных два интеллигента служащие поляки один железнодорожник ... отдельными лицами ... ведется агитация что ценности попадут не по назначению а комиссарам»*.[229]

22 красавіка 1922 г. у Маскву з Гомеля была адпраўлена чарговая тэлеграма наступнага зместу: *«задержана подстрекательница польском митинге всего задержано содержится под стражей четыре человека оканчивается следствие будет передано трибунал тчк»*.[230] Падобныя рэпрэсіўныя метады былі санкцыяніраваны зверху. У пратаколе пасяджэння пленума Гомельскага губкама РКП(б) ад 18 красавіка 1922 г. адзначана, што была дадзена дырэктыва праводзіць рэзкую і цвёрдую лінію ў тых месцах, дзе на шляху да канфіскацыі будуць сустракацца якія-небудзь «валынкі» і г.д.[231]

У суботу перад Праводнай Нядзеляй у Рудні-Шлягіна з’явіўся начальнік гомельскай міліцыі, які расшукваў, куды падзеўся Буйноўскі. Ад яго ксёндз і даведаўся, што ў Гомелі арыштавалі 10 парафіян і ўсіх праваслаўных святароў, а яго самога шукаюць кожны дзень. Ён супакоіў міліцыянераў і сказаў, што прыедзе на Праводнай Нядзеле. Да 1930-х гг. было яшчэ далёка, і ксяндзу паверылі на слова. Адразу пасля гэтага Буйноўскі перайшоў на нелегальнае становішча, як ён сам казаў, *«пайшоў у падполле»*. Буйноўскі вымушаны быў адпусціць бараду і хавацца ад прадстаўнікоў улады.

Пасля таго, як ксёндз не з’явіўся на Праводную Нядзелю ў Гомелі, у плябаніі быў учынены вобыск. Шукалі ключы ад касцёла. З прыслугі ўзялі распіску, што яна данясе ўладам пра ксяндза.

27 красавіка, пасля арышту найбольш актыўных гомельскіх вернікаў-католікаў, была здзейснена канфіскацыя літургічных рэчаў з Гомельскага касцёла. Ксяндзу Буйноўскаму, які хаваўся ад

арышту, гэта было невядома. У тэлеграме старшыні камісіі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў Гомельскай губерні Фядзяева намесніку асобаўпаўнаважанага СНК па ўліку і сканцэнтраванні каштоўнасцяў Базылевічу пра ход канфіскацыі ад 30 красавіка 1922 г. паведамлялася, што ў Гомелі 29 красавіка была выкананая канфіскацыя (паводле іншых даных, канфіскацыя адбылася 27 красавіка, — У.В.) касцёла без удзелу ксяндза, які ўцёк. І што колькасць канфіскаванага падлічваецца, а ўсё канфіскаванае захоўваецца ў Губфінаддзеле.[232]

У Гомельскай парафіі канфіскацыя таксама была праведзена ў капліцы ў Навазыбкаве (усяго за 1921—1922 гг. з усіх культавых будынкаў Гомельскай губерні было канфіскавана розных сярэбраных рэчаў 12 пудоў 24 фунты 80 залатнікоў 14 доляў, рэдкіх каштоўных камянёў — 147 штук, вагой 3 фунты 13 доляў, грошай сярэбранай і меднай манетай — 138 руб. 5 кап.).[233]

Каб дапамагчы арыштаваным, ксёндз Буйноўскі пад чужым прозвішчам прыехаў у маі ў Маскву. Адразу пасля прыняцця сакраменту святарства, ён працаваў вікарыем у Маскоўскім касцёле і таму, верагодна, меў у Маскве знаёмых, у якіх мог спыніцца. Буйноўскі напісаў данясенне, якое перадаў у рукі польскаму паслу. Але ён не быў упэўнены, што гэта дапаможа арыштаваным, бо супрацоўнікі польскага пасольства зрабілі на яго кепскае ўражанне, на яго погляд, бальшавікі і тыя былі больш ветлівыя. Аднак, у пасольстве сабралася ўжо некалькі падобных спраў, і Буйноўскі чытаў добра складзеную ноту да Чычэрына.

У Маскву ў гэты ж час з той жа самай справай прыехаў ксёндз дэкан Белагаловы з Магілёва. Яны разам з Буйноўскім хацелі дамагчыся, каб канфіскацыю касцельных рэчаў замянілі на збор парафіянамі прадуктаў для галадаючых. Пасля гэтага Буйноўскі меў намер вярнуцца ў Рудню-Шлягіна. Але 19 мая яго папярэдзілі ў польскай камісіі па рэпатрыяцыі, што ён мусіць быць асцярожным, бо падлягае той жа кары, што і рускія, нават смерці, і, каб змог пазбегнуць рэпрэсій, раілі выехаць праз Мінск у Польшчу. Дапамагчы ў гэтым Буйноўскаму мог у Мінску пан Ян Белапятровіч.

Буйноўскі ў канцы мая прыехаў у Мінск, дзе і быў арыштаваны. Яго лёс вырашаўся самім Сталіным. Вось што паведамляе тэкст шыфраграмы сакратара ЦК КПБ Багуцкага:

*«Шифротелеграмма секретаря ЦБ КПБ В.А.Богуцкого в ЦК РКП(б) И.В.Сталину о составе суда над католическими польскими священниками в Белоруссии и планируемом приговоре. 26 мая 1922 г. Поступила для расшифрования 27/V 1922 г. в 9 час. 20 мин. Весьма секретно. По исполнении сдать в секретный архив. Из Минска. Москва ЦК РКП. Тов. Сталину.*

*...Арестован ксендз гомельского процесса, присужденный по гомельскому делу, который пришел в Минск с подложными докуменами с намерением пробраться в Польшу. Сообщите мнение ЦК. нр21/Ш. Секретарь ЦБ КПБ Богуцкий»*.[234]

А 7 чэрвеня 1922 г. у газеце «Полесская правда» з’явіўся артыкул «Гомельскі ксёндз знайшоўся». Аўтар артыкула падпісаўся псеўданімам «С-ие»:

*«Калі ў Гомельскім губрэўтрыбе слухалася справа каталіцкіх чарнасоценцаў, якія супраціўляліся канфіскацыі царкоўных рэчаў, на судзе не хапала асноўнага і галоўнага кіраўніка Гомельскіх католікаў — ксяндза Буйноўскага.*

*Ксёндз уцёк. Высветліць яго месцазнаходжанне не ўдалося.*

*Толькі ўчора ў Мінскай газеце «Звязда» ад 1 чэрвеня 1922 года мы ў вялікім раздзеле «Контррэвалюцыя ў касцёле» выпадкова натыкнуліся на наступную заметку: дапытваюць сведкаў па справе Мінскіх ксяндзоў.*

*«Уводзяць ксяндза Буйноўскага, які знаходзіцца пад вартай. Апрануты ў цывільную вопратку, носіць бараду і вусы.*

*— Ці знаді вы раней ксяндза Тамашэўскага?*

*— Не знаў.*

*— навошта вы прыехалі ў Мінск?*

*— Ехаў з Масквы ў Гомель.*

*— Чаму ж праз Мінск, няўжо няма іншага шляху?*

*— Ёсць праз Бранск, але праз Мінск зручней.*

*— Колькі разоў вы сустракаліся з ксяндзом Тамашэўскім?*

*— 2 разы. Першы раз — 16 мая.*

*— Як вы паставіліся да канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў у вашым касцёле ў Гомелі?*

*— Мяне тады ў Гомелі не было.*

*— Чаму ж вы карысталіся чужым дакументам?*

*— Хацеў купіць для хора ноты, дзеля гэтага ўзяў у знаёмага настаўніка дакументы, па якім у Савецкай краме мне выдалі б ноты.*

*— Чаму вы ў другі раз прыязджалі ў Мінск?*

*— Ездзіў дамой.*

*— І абодва разы мелі пры сабе чужыя дакументы?*

*— Так.*

*— Чаму вы прад'явілі ў часе арышту чужыя дакументы?*

*Прамога адказу ксёндз Буйноўскі не даў».*

*Так што, ксёндз Буйноўскі ў Мінску. Уцёк з Гомеля, але трапіўся ў Мінску.*

*Трапіўся з фальшывымі дакументамі на руках.*

*Збег з Гомеля, але на кватэры мінскага чарнасоценнага ксяндза быў арыштаваны.*

*Чакаем з радасцю яго ўрачыстага прыезду у так паспешна пакінуты ім негасцінны Гомель».*[235]

Шляхам абмену палітычнымі вязнямі ў 1924 г. Леан Буйноўскі апынуўся ў Польшчы.

## 12. ГОМЕЛЬСКАЯ ПАРАФІЯ Ў 1920-Х—1930-Х ГГ.

З 1922 па 1933 г. выконваючым абавязкі адміністратара Гомельскай парафіі і гомельскага дэкана быў Канстанцін Андрэкус. Ён быў прызначаны на гэтыя пасады ў сакавіку 1922 г., але рэальна пачаў выконваць абавязкі, верагодна, у першай палове лета. Амаль адразу пасля гэтага Андрэкус пазбавіўся дадатка «в.а.» і стаў сапраўдным дэканам і пробашчам.[236]

У 1923 г. Гомельская парафія налічвала акрамя касцёла ў Гомелі 11 капліц: у Антонаўцы, Баршчоўцы, Борхаве, Грабаўцы, Засоўі, Касцюкоўцы, Лапічах (Дуравічах), Міхальках, Навазыбкаве, Сноўску (цяпер Шчорс), Ціхінічах.

У 1920-я гг. улады пачалі руйнаваць старыя гомельскія каталіцкія могілкі, што знаходзіліся каля перакрыжавання цяперашніх праспекта Леніна і вуліцы Сялянскай. Косткі з могілак выкідвалі літаральна на тратуар. Пасля іх згрэблі як смецце і прыбралі.

Гэтыя могілкі спачатку былі ў полі за горадам. Гомель рос, і ў XIX ст. могілкі апынуліся ў мяжы горада, побач з вуліцай Замкавай. На карце Гомеля 1910 г. гэтыя могілкі пазначаны як старыя (яны ўжо былі зачыненыя).[237] Паводле ўспамінаў Лідзіі Бязручкі, могілкі былі невялікія, са шматлікімі прыгожымі склепамі і помнікамі.[238]

На месцы могілак быў пабудаваны драўляны будынак цырку, падмурак для якога зрабілі проста на магілах. Вельмі часта ў гэтым цырку артысты гінулі і іх хавалі на могілках на Савецкай.[239] Цырк згарэў у час вайны (пасля на гэтым месцы былі пабудаваны дамы з ювелірнай крамай «Рубін», хлебнай крамай «Каласок» і аптэкай).

У 1927—1928 гг. у парафіі працаваў толькі касцёл у Гомелі, капліца ў Лапічах, якая да 1930 г. была ліквідавана, і капліца ў Абрамаўцы (Баршчоўская капліца), якая была скасавана значна раней за Лапіцкую.

5 чэрвеня 1933 г. ксёндз Андрэкус быў арыштаваны па абвінавачванні ў стварэнні ў Гомелі з вернікаў-католікаў контррэвалюцыйнай арганізацыі ПВА («Польская Вайсковая Арганізацыя»). Разам з ім былі арыштаваны 54 вернікі. Паводле пастановы «тройкі» ад 24 лютага 1934 г., Андрэкус быў заключаны ў

лагер на 10 гадоў. 25 жніўня 1937 г. ён быў асуджаны на смяротнае пакаранне і 27 жніўня 1937 г. расстраляны ў турме НКУС у Мінску.

У 1934—1935 гг. Гомельскі касцёл абслугоўваў ксёндз Уладзіслаў Кунда, які быў у гэты перыяд пробашчам у Рагачове.

## 46.Ксёндз Кунда

У пачатку 1936 г. гомельскія ўлады правялі ў касцёле вобыск. Быў складзены акт, тэкст якога паведамляў:

*«А К Т*
*1936 года, февраля 21 дня, гор. ГОМЕЛЬ.*

*Мы, нижеподписавшиеся члены Специальной Комиссии Гомельского Городского Совета – СЕРАФИМОВИЧ И.Т. (председатель), БЕЛЬЦЕР И.М., ВЕЛИЧКО И.М., ВАРАКСА А.К. и МАТКОВСКАЯ Я.Г., - действуя на основании полномочий и указаний Президиума Гомельского Городского Совета, сего числа произвели, в присутствии председателя костельного комитета КРАСНИЦКОЙ, обследование помещений Р-К костела, расположенного на площади ЛЕНИНА.*

*При обследовании помещений костела обнаружено следующее:*

*В боковой комнате (закрыстие), что направо от алтаря – находится нелегальная костельная библиотека в составе свыще 5.000 томов из книг на польском языке. В числе книг также имеются издания 1917-1918 г.г. с польским орлом на обложке.*

*Просмотром взятых на выборку нескольких книг из этой библиотеки, а именно:*

*а) “Белый Орел” – общественно-политический еженедельник №1 – г. Киев 6/X-1918 г.*

*б) Владислав БЕЛЗА – “Катехизис польского ребенка” изд. 1916 г. – Киев с польским орлом на обложке.*

*в) “Польские действия после раздела, или как польский народ боролся за отчизну” – изд. 1906 г. – Чикаго.*

*На обложке польский орел.*

*г) “Социализм и католическая работа” – изд. 1908 г. г. Варшава.*

*д) Календарь польский на 1916 г. (настольная книга с польским орлом на обложке).*

*е) “Деятельность для родины” – изд. “Свет”.*

*ж) Календарь польский на 1917 г. (настольная книга).*

*з) Календарь народный польский – 1918 г.*

*и) “Очерк по истории Польши” с польским орлом на обложке.*

*УСТАНОВЛЕНО, что они по своему содержанию являются контр-революционно-националистическими и направлены на внедрение идей захвата территории БССР и призывающие по существу к борьбе с Советской Властью и оказания помощи польской армии на случай войны.*

*По об”яснению председателя костельного комитета КРАСНИЦКОЙ, эта библиотека ранее принадлежала польской школе и при ее ликвидации взята в костел бывшими членами костельного комитета.*

*Комиссия считает, что хранение в костеле обнаруженной к-р. националистической нелегальной польской библиотеки является грубым нарушением имеющегося договора между общиной верующих католиков и государством.*

*Самый факт наличия при костеле нелегальной библиотеки определенно указывает, что таковая на протяжении ряда лет использовывалась в целях политической борьбы с Соввластью и воспитания прихожан в духе польского национализма.*

*В целях пресечения дальнейшего использования названной библиотеки в к-р. целях, комиссия считает необходимым немедленно из”ять все обнаруженные книги и передать их в распоряжение Горсовета.*

*Настоящий акт представить на рассмотрение президиума Горсовета.*

*Председатель Комиссии (Подпіс) (Серафимович)*

*(Подпіс) (Бельцер)*
*ЧЛЕНЫ КОМИССИИ (Подпіс) (Величко)*
*(Подпіс) (Варакса)*
*(Подпіс) (Матковская)*

*[Распіска ад рукі: «Осмотр помещения костела производился в моем присутствии. Никаких претензий к комиссии не заявляю. Поименованные в настоящем акте книги действительно из’яты в моем присутствии. Председатель Костельного Комитета (Подпіс) [Красницкая.]».*[240]

Апошнім пробашчам Гомельскага касцёла ад 3 красавіка 1937 г. быў ксёндз Франц Чырскі, які знаходзіўся ў Гомелі пасля адбыцця пакарання.

47.Фота Савецкай (былой Гандлёвай) плошчы Гомеля. Сярэдзіна 1930-х гг. У верхняй частцы здымка бачны будынак касцёла.

У 1937 г. Гомельскі касцёл быў зачынены ўладамі «па просьбах працаўнікоў»: на старонках гомельскай прэсы быў апублікаваны артыкул 3-х рабочых-палякаў з заклікам спыніць яго дзейнасць.[241] У 1940 г. касцёл быў знішчаны.

48.Сёння нічога не нагадвае аб існаванні касцёла на былой Гандлёвай плошчы.

## 13. РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ ГОМЕЛЬСКІХ КАТОЛІКАЎ

Адразу пасля ўсталявання ў горадзе савецкай улады ў Гомелі пачаліся рэпрэсіі супраць католікаў (ці, як тады лічылася, — палякаў). Рэпрэсіраваныя католікі складалі больш за чвэрць ад агульнай колькасці рэпрэсіраваных у Гомелі. Так, прыкладна з 1600 асоб, рэпрэсіраваных у 1920—1930-я гг., спіс якіх прыведзены ў кнізе «Памяць. Гомель. Кн. 1», больш за 400 асоб маюць відавочныя каталіцкія імёны, імёны па бацьку і прозвішчы.

Адным з першых у 1919 г. быў арыштаваны ЧК у якасці палітычнага закладніка па справе «Польскай Вайсковай Арганізацыі» ксёндз Павел Бірнік. Ён быў расстраляны ў Гомелі ў тым жа годзе (гл. вышэй). 26 жніўня 1919 г. быў арыштаваны супрацоўнік губземаддзела Леан Фульгенцьевіч Маркоўскі. Ён абвінавачваўся ў сувязях з белапалякамі і па пастанове калегіі юрыдычнага аддзела і прэзідыюма Гомельскай ЧК разам з жонкай Людвігай Львоўнай быў высланы на спецпасяленне ў Сімбірскую губерню. Маркоўскім было амаль па 70 гадоў. Яны мелі сына Адама, якога арыштоўвалі ў 1919 і 1922 гг. Апошні раз ён быў арыштаваны ў 1937 г., абвінавачаны, падобна бацькам, у сувязі з польскай разведкай і згодна з пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 28 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Адам Леанавіч быў расстраляны ў гомельскай турме 28 снежня 1937 г.[242]

У 1922 г. у сувязі з супрацівам канфіскацыі літургічных рэчаў з касцёлаў чэкістамі пераследаваўся выконваючы абавязкі гомельскага дэкана ксёндз Буйноўскі.

У 1927 г. быў арыштаваны і абвінавачаны ў шпіёнскай дзейнасці на карысць Польшчы рабочы Леанід Іванавіч Цішанін. Яго прыгаварылі да расстрэлу і адправілі для выканання прысуду ў Мінск.

У 1929 г. па падазрэнні ў прыналежнасці да агентуры польскай разведкі быў арыштаваны рабочы Генрых Францавіч Радвілас. 17

чэрвеня 1929 г. калегія АДПУ СССР вынесла Радвіласу прысуд: 10 гадоў зняволення ў канцлагеры.

У снежні таго ж 1929 г. быў арыштаваны Міхаіл Аляксандравіч Случаноўскі, які нарадзіўся на Рагачоўшчыне. Ён быў запісаны палякам, да таго ж паходзіў з дваран (шляхты), таму прысуд быў вельмі жорсткім — па рашэнні «тройкі» АДПУ СССР Случаноўскі быў расстраляны.[243]

У 1933 г. як удзельнікі «контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі» былі арыштаваны і расстраляны паштальён Архіп Адамавіч Канцавенка і рабочы Альберт Казіміравіч Стасяловіч.

У снежні 1933 г. была арыштавана 30-гадовая супрацоўніца бібліятэкі імя Герцэна Ганна Геранімаўна Тумілоўская. Яна мела сям'ю: мужа, дачку і сына. Пастановай «тройкі» ПП АДПУ па БССР Тумілоўская была прызнана ўдзельніцай антысавецкай шпіёнска-паўстанцкай арганізацыі і зняволена на 5 гадоў. Пасля адбыцця пакарання яна вярнулася ў Гомель, дзе была зноў арыштавана. У асабістай справе яна ўжо значылася адзінокай. Пастановай НКУС СССР і пракурора СССР ад 3 студзеня 1938 г. была прыгаворана да вышэйшай меры пакарання як «шпіёнка» і праз тыдзень расстраляна ў Гомелі.[244]

У 1923—1933 гг. адміністратарам Гомельскай парафіі і гомельскім дэканам быў Канстанцін Андрэкус. Ён быў арыштаваны 5 чэрвеня 1933 г. У тым жа годзе Польскім Чырвоным Крыжам ён быў унесены ў спіс палітычных вязняў на абмен з Літвой, але ў абмене было адмоўлена, і прозвішча ксяндза Андрэкуса не аказалася ў спісе 11 абмененых літоўскіх ксяндзоў. 25 жніўня 1937 г. на падставе артыкулаў 66 і 68 КК БССР (паводле іншых звестак, на падставе артыкулаў 64, 68 і 72) пастановай калегіі УНКУС БССР быў асуджаны на смяротнае пакаранне і 27 жніўня 1937 г. расстраляны ў турме НКУС у Мінску разам з 4-ма іншымі каталіцкімі святарамі: Пятром Аўглам, Янам Баравіком, Пятром Януковічам і Станіславам Райко.

5 снежня 1935 г. у Рагачове быў арыштаваны пробашч Рагачоўскага і Гомельскага касцёлаў Уладзіслаў Кунда. Чэкісты лічылі яго *«кіраўніком контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай групы палякаў-католікаў»*. Разам з ім было арыштавана 8 гомельскіх і рагачоўскіх парафіян: Вайчынская Сафія Іванаўна і Ядлоўскі Міхаіл Фердынандавіч з Рагачова і Астроўская Антаніна Юльянаўна, Барткова Казіміра Іванаўна, Жукоўская Феліцыя Феліксаўна, Фалькоўская Ганна Станіславаўна, Фалькоўская Кацярына Станіславаўна, Шчука Альбіна Вінцэнтаўна з Гомеля. 20 мая 1936 г. ксёндз Кунда быў асуджаны на 8 гадоў лагеру. У 1937 г. арыштаваны ўжо ў лагеры па абвінавачванні ў *«сыстэматычнай*

*паўстанцкай антысавецкай агітацыі сярод зняволенных»* і 22 жніўня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 31 жніўня 1937 г. у Мардовіі.

Нярэдка католікі вынішчаліся цэлымі сем'ямі. Адной з такіх сем'яў былі Фалькоўскія, якія жылі ў Гомелі ў доме №37 па вуліцы Адзескай. У 1933 г. як «удзельніца антысавецкай шпіёнска-паўстанцкай арганізацыі» была асуджана на 5 гадоў Ганна Станіславаўна Фалькоўская. Яе датэрмінова вызвалілі, але 5 снежня 1935 г. арыштавалі зноў разам з ксяндзом Кундам і групай парафіян. Цяпер яе зняволілі ўжо на 3 гады ў папраўча-працоўны лагер як «удзельніцу контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай групоўкі». Пакаранне Ганна Станіславаўна адбывала ў Цемлаге Мардоўскай АССР. У лагеры Ганна Станіславаўна паводзіла сябе мужна і годна. Аб гэтым сведчаць дакументы з архіву КДБ:

*«... З/к. ФАЛЬКОВСКАЯ Анна Станиславовна, 1904 г. рождения ... осуждена Выездной Сессией Спец. Суд. Коллегии Верховного Суда БССР по ст. 72-76 УК БССР, сроком на 3 года. Начало срока 5/XII-35 г., конец срока с зачетом рабочих дней 5/XI-38 г.*

*Состав преступления выразился в том, что по делу контрреволюционной организации, возглавляемой АНДРЕКУСОМ, бывш. Тройкой ПП ОГПУ БССР по ст. 72-76 УК была осуждена к 5 годам лишения свободы. Будучи досрочно освобожденной, в июле мес. 1934 г. возвратилась к постоянному месту жительства в г. Гомеле, где приняла непосредственное участие в контрреволюционной группе, возглавляемой КУНДО. Посещала нелегальные сборища контрреволюционной группы в доме ЗАЛЕССКИХ, распевала контрреволюционные песни, проводила антисоветскую агитацию, доказывала, что в Польше жизнь лучше, чем в СССР, что в СССР преследуют поляков, польскую религию и духовенство.*

*Отбывая наказание в лагере з/к. ФАЛЬКОВСКАЯ продолжает проводить антисоветскую агитацию и распространять к-р. провокационные слухи, а именно:*

*В июле м-це 1936 г. по вопросу проекта Сталинской Конституции, среди заключенных БУКРЕЕВА и КОЛЧАНА, ФАЛЬКОВСКАЯ говорила:*

*«... После проекта новой Конституции стали много сажать в тюрьмы и подвалы людей, в особенности верующих, которые посещают церкви и костелы, судят таковых по ст. 58 УК. При допросах угрожают – не думайте мол, что в Конституции говорится – каждый гражданин может быть избранным в Совет и имеет право выбирать, это говорят, не значит, что Вы на 20-м*

*году существования Сов. власти должны ходить в церковь и костел».*

*21 февраля 1938 г. среди лагерников: ПЕТРИЧЕНКО, ЛЯШКО, НУДЕЛЬТЕШЕЛЬ и ГРЕЗНЕВА, ФАЛЬКОВСКАЯ говорила:*

*«... По моему делу в лагере сидел ксендз по имени Владик. В настоящее время его освободили из ТЕМЛАГ"а, т.к. он имеет большие связи с Польшей, оттуда его заменили на политического заключенного. Мне дали срок за то, что я не хотела давать показания на ксендза».*

*СПРАВКА:*

*1. Ксендз Владик являлся заключенным КУНДО – нами репрессирован по первой категории в порядке приказа №409.*

*2. З/к. ФАЛЬКОВСКАЯ в 1937 г. за антилагерную агитацию нами лишена зачета рабочих дней за ОДИН год.*

*3. З/к. ФАЛЬКОВСКАЯ вместе с однодельцами БАРТКОВОЙ и ВОЙЧИНСКОЙ проходят по агентурной разработке "ОДНОДЕЛЬЦЫ".*

*Зам. Нач. 3-го Отдела ТЕМЛАГ НКВД*

*Ст. Лейтенант Гос. Безопасности (Подпіс) (Т. ЛЕВЧЕНКО)*

*Опер. Уполномоченный 3-отдела (Подпіс) (ОСИПОВ)».*[245]

І яшчэ:

*«Сов. Секретно.*

*ВОСЬМОЙ ОТДЕЛ ГУГБ НКВД СССР*

*"28"июня 1938 г.*

*г.МОСКВА*

*НАЧ 3 ОТДЕЛА 1 УПРАВЛЕНИЯ НКВД –*

*КОМИССАРУ ГОС БЕЗОПАСНОСТИ 3 РАНГА т. НИКОЛАЕВУ. –*

*Согласно приказания Зам. Наркома Внутренних Дел СССР – Комкора т. ФРИНОВСКОГО от 31/III-38 г. за № С-835 дело на БАРТКОВУ Казимиру Ивановну и ФАЛЬКОВСКУЮ Анну Станиславовну, осужденных Выездн. Сессией Спец. Колл. Верх. Суда БССР от 20/V-36 г. в ИТЛ на 3 года каждая, - поставьте на рассмотрение О/Сов. при НКВД, на предмет вынесения дополнительного ограничения.*

*Указанные заключенные отбывают наказание в Темлаге НКВД.*

*З/к. ФАЛЬКОВСКАЯ А.С. отбывая наказание в лагере продолжает проводить антисоветскую агитацию и распространять к-р провокационные слухи.*

*На БАРТКОВУ К.И. в 3 отделе Темлага НКВД компрометирующих материалов нет.*

*Результаты сообщите. <...>*

*ЗАМ НАЧ 1 СПЕЦИАЛЬНОГО ОТДЕЛА НКВД (Подпіс) (Зубкин)*

*КАПИТАН ГОС БЕЗОПАСНОСТИ*

*НАЧ 3 ОТД-НИЯ – СТ. ЛЕЙТ. ГОС. БЕЗОП. (Подпіс) (Мишустин)».*[246]

Далейшы лёс Ганны Станіславаўны Фалькоўскай невядомы.

Яе брат Эдуард Станіслававіч Фалькоўскі, сёстры Кацярына Станіславаўна і Марыя Станіславаўна Фалькоўскія былі арыштаваны 22 жніўня 1937 г. Іх абвінавачвалі як *«удзельнікаў польскай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі»*. Праз 3 месяцы яны былі расстраляны.

Ураджэнца Гомеля ваентэхніка 2-га рангу Аляксандра Мікалаевіча Канасевіча, які служыў у горадзе Барысаве, абвінавацілі ў шпіёнскай дзейнасці на карысць Японіі. Ён таксама быў расстраляны.[247]

У 1937 г. рэпрэсіі набылі небывалы размах. У тагачаснай БССР колькасць палякаў (да якіх часта залічвалі і беларусаў-католікаў) зменшылася на 61,5 тыс. чалавек.[248] Частка з іх была забіта, частка дэпартавана ў Казахстан і Сібір. Толькі ў выніку так званай польскай аперацыі па сфабрыкаванай НКУС-ДПУ справе «Польскай Вайскавай Арганізацыі» было арыштавана больш за 21 тыс. чалавек.[249] Сярод гэтых рэпрэсіраваных і сотні гамяльчан, якія былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання як *«агенты польскіх разведвальных органаў»*. Сярод расстраляных рабочы Адольф Антонавіч Хвайніцкі, начальнік перавалачнага пункта рачнога порта Станіслаў Лявонцьевіч Сенажэцкі, рабочая зеленгаса Ганна Антонаўна Міцкевіч, рахункавод суднарамонтнага завода Разалія Францаўна Шуберт-Янчэўская, дырэктар педагагічнага інстытута Аляксандр Іосіфавіч Сташэўскі, выкладчык чыгуначнага тэхнікума Іосіф Іванавіч Карпашэвіч.[250]

У ліпені—жніўні 1937 г. на Беларускай чыгунцы было *«вскрыто несколько шпионско-диверсионных гнезд и широко разветвленная японо-немецкая, троцкистско-бухаринская вредительская организация»*. Сярод асабліва значных гнёздаў ворагаў называліся Гомель і іншыя буйныя чыгуначныя вузлы (Асіповічы, Жлобін, Крычаў, Магілёў, Слуцк). Сакратару ЦК КП(б)Б Волкаву дакладвалі, што сярод выкрытых шпіёнска-дыверсійных і шкодніцкіх арганізацый асабліва вялікае месца займае «Польская Вайсковая Арганізацыя», якая мела сваёй мэтай шпіянаж, арганізацыю дыверсій і тэрору, нацыяналістычна-

фашысцкую апрацоўку палякаў, якія жывуць на найважнейшых участках дарогі. Акрамя таго, дакладвалася, што на Гомельскім ПВРЗ (паравозавагонарамонтным заводзе) выяўлена контррэвалюцыйная «Повстанческая организация». У дакладной прыводзіліся наступныя факты, якія, на думку складальніка гэтага дакумента, з'яўляліся пераканаўчымі доказамі варожай дзейнасці: *«Разоблаченный и арестованный некий Новаковский, шпион, состоявший в данной организации, признал: «Я всю жизнь не перевариваю русских». Бывший председатель дорпрофсожа Иванов, разоблаченный как активный член «ПОВ», при разборе его дела на заседании парткома управления дороги заявил: «Если за что меня надо осуждать, так за то, что я родился в Польше. Сегодня обо мне разбирается вопрос или в результате клеветы, или за то, что я родился в Польше». Бывший конторщик распорядительного отдела ст. Гомель Милонович, ныне арестован как антисоветский элемент, высказывался: «Еще Польша не сгинела, пока мы живем».*[251]

Прозвішча згаданага вышэй Навакоўскага можна пабачыць і ў дакуменце, які захаваўся ў гомельскім архіве КДБ:

*«Са следчых матэрыялаў гомельскага УДБ НКУС СССР па справе «Членаў шпіёнскай дыверсійна-тэрарыстычнай «Польскай Вайсковай Арганізацыі».1937 г.*

*...Меркавалася, што на Гомельскім паравозавагонарамонтным заводзе і Гомельскім чыгуначным вузле існуе польская шпіёнская дыверсійная тэрарыстычная арганізацыя, якая праводзіць дыверсійна-шпіёнскую работу на карысць Польшчы, рыхтуючы кадры на выпадак вайны Польшчы супраць СССР.*

*Праведзеным следствам устаноўлена: у 1933 г., у сакавіку месяцы, на Гомельскім чыгуначным вузле была прыхаваная шпіёнска-дыверсійная арганізацыя, якая з'яўлялася філіяй «Польскай Вайсковай Арганізацыі» (ПВА), якая кіравалася ксяндзом Гомельскага касцёла Андрэкусам і дырэктарам Гомельскай польскай школы Най Стэфанам Рыгоравічам*[252]*, якія разам з шэрагам выяўленых следствам сяброў арганізацыі былі асуджаны.*

*Выпіска з акта ад 29 кастрычніка 1937 г. аб прывядзенні прыгавора ў адносінах асуджаных, прыгавораных згодна з пратаколам № 143 ад 10 кастрычніка 1937 г. да расстрэла: Хамічук У.А., Брадоўскі А.Ю, Марцінкевіч С.М., Рачкоўскі В.І., Сянькевіч П.П., Філіповіч Э.С., Папельскі І.І., Філіповіч М.І., Навакоўскі Л.Б., Навакоўскі Б.В., Фалькоўская К.С., Малевіч Г.Ф., Тарноўскі І.Б., Якштас Л.К., Ядзвінскі В.І., Карпашэвіч І.І., Вуйчык А.М.»*.[253]

6 лістапада 1937 г. быў арыштаваны апошні пробашч Гомельскага касцёла ксёндз Франц Чырскі, які ў другой палове 1937

г. знаходзіўся ў Гомелі пасля высылкі. Ён паспеў папрацаваць у горадзе ўсяго некалькі месяцаў. Па пастанове камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 22 лістапада 1937 г. Чырскі быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны ў Гомелі 29 лістапада 1937 г.

У канцы 1937 г. перыяд афіцыйнага існавання каталіцтва ў Гомелі скончыўся, і пачаўся падпольны. Вернікі па нядзелях і па святах сустракаліся ў прыватных дамах. Маліліся на ружанцы, спявалі рэлігійныя песні. Самі ж хрысцілі дзяцей.

## 14. ГОМЕЛЬСКАЯ ПАРАФІЯ Ў 2-Й ПАЛОВЕ XX—ПАЧАТКУ XXI СТСТ.

Пасля зачынення ўладамі касцёла, арыштаў і расстрэлаў асноўнай масы католікаў, рэлігійнае каталіцкае жыццё ў Гомелі не знікла. Па словах старажылаў, у акупіраваным нацыстамі Гомелі знаходзіліся каталіцкія капеланы нямецкіх і італьянскіх войск, якія пэўны перыяд адпраўлялі Імшу для гомельскіх католікаў.

Пасля вызвалення Гомеля некаторыя католікі наведвалі праваслаўную царкву. Пра гэта сведчаць успаміны праваслаўнага протапрэсвітэра Віталя Баравога, які пісаў: *«У маёй пастырскай практыцы быў такі выпадак. У першы год пасля прыняцця сакраменту святарства (1945 г.) я быў святаром у Гомелі. У часе споведзі адной жанчыны высветлілася, што яна каталічка. Я прыпыніў споведзь, але жанчына мне сказала, што яны — гомельскія католікі — не маюць каталіцкага касцёла і каталіцкага святара і... усе Сакраменты выконваюцца для іх праваслаўнымі святарамі (у тым ліку і Споведзь і Камунія). Я пайшоў да благачыннага, дасведчанага святара, які ўжо шмат гадоў служыў у Гомелі. Ён сказаў мне, што бянтэжыцца не трэба. Ён і іншы яшчэ гомельскі святар спакойна і з чыстым сумленнем здзяйсняюць усе Сакраменты для католікаў, не патрабуючы ад іх адмаўлення ад каталіцтва».*[254]

У пасляваенны час ужо нешматлікія гомельскія католікі, пераважна сталага веку, збіраліся на прыватных кватэрах. Пару разоў на год у Гомель прыязджаў ксёндз Мечыслаў Малыніч-Маліцкі, які абслугоўваў гэту тэрыторыю. Першы раз ён прыехаў у Гомель у 1946 г. Менавіта пад яго ўплывам адбывалася адраджэнне рэлігійнага жыцця. У першай палове 1959 г. католікі Гомеля падалі афіцыйную заяву аб адкрыцці ў горадзе касцёла. Але ўлады гэтага не дазволілі.

Ксёндз Малыніч наведваў Гомель, Жлобін, Бабруйск, Грушаўку, Магілёў, Светлагорск. Пасля вызвалення з лагеру ксяндзу

было адмоўлена ў рэгістрацыі — так улады хацелі пазбавіцца ад усюдыіснага місіянера. Але ён усё адно з вялікай энэргіяй, ужо хворы, з падарваным у зняволенні здароўем, ездзіў па населеных пунктах усходніх абласцей Беларусі і адпраўляў набажэнствы, вянчаў і хрысціў па дамах, заклікаў вернікаў змагацца за свае правы.[255] Рабіў гэта ксёндз Малыніч да самай смерці ў 1969 г.

У 1970—1980-я гг. у Гомель прыязджаў ксёндз Уладзімір з Вільні. Як правіла, гэтыя прыезды прымяркоўваліся да Божага Нараджэння і Вялікдня.

У 1989 г. у Гомель прыехаў малады святар з Люблінскай дыяцэзіі Польшчы Славамір Ляскоўскі. У гэты час вернікі збіраліся ў старожцы на могілках у Навабеліцы, насупраць мясакамбіната. Іх было прыкладна 30 чалавек, пераважалі жанчыны сталага ўзросту.

## 49.Ксёндз Славамір Ляскоўскі

Вось што распавядаў на старонках часопіса “Дыялог” стараста Гомельскай парафіі Аляксандр Гулевіч: *«Да нас у сярэдзіне 1960-х гадоў прыязджаў ксёндз Малыніч са Слоніма. Адна наша парафіянка пераехала туды жыць і распавяла святару, што яна паходзіць з вёскі Малынічы, а ксёндз меў такое ж прозвішча, і яму захацелася пабачыць мясціну-цёзку. У свой першы прыезд ён павянчаў 4 пары, пахрысціў некалькі дзяцей. Ад таго часу ён і стаў наведвацца ў Гомель, праўда, нелегальна. У той час маглі і арыштаваць за незаконную рэлігійную дзейнасць. У горадзе было некалькі кватэр, дзе сустракаліся вернікі і на якіх бываў ксёндз. Калі ў 1967 г. мы з жонкай надумалі вянчацца і прыйшлі на адну з такіх кватэр, нас нават не пусцілі, не паверылі, што маладыя хочуць вянчацца. Дапамагла нам цешча. Калі ксёндз Малыніч перастаў прыязджаць, то самі парафіяне сталі кожную першую пятніцу месяца ездзіць у Вільню на святую Імшу. 25 снежня 1987 года* (так у тэксце, на самой справе С.Ляскоўскі прыехаў у Гомель 25 снежня 1989 г., — У.В.) *да нас прыехаў цяперашні пробашч ксёндз Славамір Ляскоўскі. Нам выдзялілі старожку на могілках, дзе і адбылася першая Імша. Потым ксёндз з’ездзіў на раён, паразмаўляў з людзьмі і сказаў, што не ведае іншага такога выпадку, каб без святара людзі так захавалі сваю веру»*.[256]

28 чэрвеня 1989 года Савет па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў СССР пратаколам № 7 зарэгістраваў «религиозное общество верующих Римско-Католической церкви в г. Гомеле Белорусской ССР».

Створаная каталіцкая суполка пачала актыўна дамагацца ад улад Гомеля будынка, дзе можна было б адпраўляць набажэнствы. Так як месца, дзе раней знаходзіўся знішчаны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, было занята праезжай часткай дарогі, то вернікі папрасілі аддаць ім той будынак, з якім іх хоць нешта звязвала, а менавіта будынак па вуліцы Савецкай 118, які ў той час належыў камбінату «Мастацтва». Гэты будынак — былая праваслаўная царква Нараджэння Багародзіцы, якая была пабудавана ў 1896 г. на сродкі сялян на тэрыторыі Новікаўскіх могілак.[257]

Могілкі лічыліся праваслаўнымі, але па словах ксяндза дэкана Славаміра Ляскоўскага на іх хавалі і каталікаў, а побач з праваслаўнай царквой стаяла каталіцкая каплічка. Царква Нараджэння Багародзіцы ў савецкі перыяд была зачынена, верхні драўляны аб’ём з купалам разабраны. Менавіта ў будынку царквы Нараджэння Багародзіцы католікі і збіраліся на набажэнствы ў часе вайны. У пасляваенны перыяд будынак царквы выкарыстоўваўся як пункт кінапракату. Пасля ў ім месціліся мастацкія майстэрні.

50.Будынак былой царквы Нараджэння Багародзіцы. Прыкладна 1970-я гг.

Побач з будынкам былой царквы Нараджэння Багародзіцы і могілкамі, па адрасу вул. Песіна, 70, знаходзіцца дом, паловай якога валодала каталічка Дамарацкая. У гэтым доме ў пасляваенны час збіраліся гомельскія католікі, сюды ж прыязджаў ксёндз Малыніч. Як распавядае ксёндз Славамір Ляскоўскі, міліцыя ладзіла аблавы на удзельнікаў каталіцкіх набажэнстваў і ксяндзу Малынічу часам прыходзілася уцякаць на суседнія могілкі і хавацца ад міліцыянераў за надмагіллямі.

51.Дом Дамарацкай. 2008 г.

52.Дом Дамарацкай. Від з боку былых могілак. 2008 г.

20 лютага 1990 г. рашэннем № 50 Гомельскага гарадскога Савета народных дэпутатаў гэты будынак быў перададзены рыма-

каталіцкай суполцы. У чэрвені 1990 г. суполка гомельскіх католікаў перабралася са старожкі на Нававеліцкіх могілках у будынак на Савецкай, які атрымаў статус капліцы.

Увосень 1991 г. пачаўся рамонт капліцы, якой ксёндз Ляскоўскі свядома пакінуў назву былой праваслаўнай царквы — Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.

Па запрашэнні арцыбіскупа Казіміра Свёнтэка і тагачаснага старшыні гарвыканкама Святланы Гальдадэ 4 жніўня 1993 г. у Гомель прыехалі Місіянеркі Любові (так называецца ордэн Маці Тэрэзы).[258]

Цяпер у Гомелі 6 сясцёр гэтага ордэну з Індыі, Конга і Польшчы. Сёстры заснавалі ў Гомелі Дом міласэрнасці. Дом уяўляе сабой невялікі двухпавярховы цагляны будынак. Праца Місіянерак Любові вельмі разнастайная, у асноўным гэта дапамога самым абяздоленым. У сталоўцы харчуецца 5 разоў на тыдзень (акрамя чацвярга і нядзелі) каля 140 чалавек. Заўсёды знаходзяць у гэтым доме прытулак і бяздомныя — памяшканне для іх разлічана на 20 чалавек. Многім з іх сёстры дапамагалі атрымаць дакументы і ўладкавацца ў дамы-інтэрнаты.

Робяць сёстры і перавязкі хворым, а раз на тыдзень сюды прыходзяць памыцца тыя, хто не мае свайго кута. Раз у месяц каля 130 бедных сем’яў атрымліваюць прадукты. Раз на тыдзень сёстры наведваюць гомельскую жаночую турму. У Доме міласэрнасці бывае шмат дзяцей. Акрамя катэхізацыі яны тут атрымліваюць урокі міласэрнасці і любові да Бога і бліжніх. Усё гэта яскрава адлюстроўваюць малюнкі, якія вісяць на стэндзе катэхетычнага класа.[259]

З 1997 г. у Журавіцкім доме для дзяцей-інвалідаў, ад якіх адмовіліся бацькі, у Рагачоўскім раёне, працуюць 3 манашкі ордэна бенедыктынак-самарыцянак. У Нававеліцы будуецца дом і цэнтр рэабілітацыі для дзяцей-сірат з цяжкімі формамі інваліднасці, працаваць у якім будуць бенедыктынкі-самарыцянкі.[260]

У 1994 г. пробашч Славамір Ляскоўскі на базе капліцы пачаў будаўніцтва новага касцёла. Будынак былой царквы Нараджэння Багародзіцы, пазней — капліцы, стаў трансептам храма. На будоўлі шмат працавалі самі парафіяне, грошы збіраліся адзінаверцамі з Аўстрыі, Германіі, Італіі і Польшчы.

Гомельскую парафію з візітай неаднаразова наведваў мітрапаліт мінска-магілёўскі кардынал Казімір Свёнтак. У 1998 г. такая візіта адбылася 6 верасня.

Да 2000 г. касцёл быў пабудаваны. Святыня была асвечана кардыналам Казімірам Свёнтакам 9 снежня 2000 г. пад тытулам, які дастаўся ў спадчыну ад былой праваслаўнай царквы — Нараджэння

Найсвяцейшай Панны Марыі. Такім чынам, гісторыю новай святыні, можна адлічваць з 1896-га года.

53.Шыльда ў Гомельскім касцёле.

54.Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.

У касцёле ў алтары захоўваюцца мошчы св. Антонія, св. Андрэя Баболі, блажэннай Маці Тэрэзы і сясцёр-назаратанак.

Пры касцёле працуе дабрачынная арганізацыя «Карытас» (Міласэрнасць), якая аказвае дапамогу найбольш бедным людзям. Выканаўчым дырэктарам арганізацыі з’яўляецца Валянціна Казлова.

Святары, якія прыязджалі ў Гомель у якасці вікарыяў, таксама былі з Люблінскай дыяцэзіі. Усе яны скончылі Люблінскі каталіцкі універсітэт, які з’яўляецца адным з цэнтраў каталіцкай адукацыі. Гэта ксёндз Гжэгаж Худэк (быў вікарыем у 1993—1998 гг.).

55.Ксёндз Гжэгаж Худэк

Ксёндз Тадэвуш Саморэк (вікарый у 1999—2002 гг.).

56.Ксёндз Тадэвуш Саморэк

Ксёндз Пётр Голец (вікарый з 2003 г.).

У наш час каталіцкімі святарамі сталі наступныя гамяльчане: Павел Халяўкін (скончыў Гродзенскую каталіцкую семінарыю, прыняў сакрамент святарства ў 1998 г.), Генадзь Казлоў[261] (прыняў сакрамент святарства ў 2000 г.), Аляксандр Каліноўскі (прыняў сакрамент святарства ў 2001 г.) і Аляксандр Драбышэўскі, (прыняў сакрамент святарства ў 2001 г.). 3 апошнія святары скончылі місіянерскую семінарыю ў Варшаве.

У місіянерскіх семінарыях «Redemptoris Mater» вучацца Мікалай Фокін і Віктар Прыходзька. Фокін вучыцца ў Варшаве, а Прыходзька — у Кіеве. Арцём Мігіц і Віталь Гулевіч з'яўляюцца паслушнікамі ордэна Францысканцаў (Расійская Генеральная кустодыя імя св. Францыска Асізскага).

Сёння колькасць сталых парафіянаў у Гомельскім касцёле складае прыкладна 600 чалавек, на Божае Нараджэнне і Вялікдзень прыходзіць больш за тысячу. Дзейнічае нядзельная школа. У

адпаведнасці з рашэннямі Другога Ватыканскага сабора (1962—1965) вядзецца праца па катэхізацыі дарослых. Людзі рыхтуюцца да прыняцця таямніцаў хрышчэння, бежмавання, шлюбу. Католікі з Гомеля рэгулярна выязджаюць на сустрэчы з Папам Рымскім. Першая такая паездка была ў Беласток у чэрвені 1991 г., апошняя — у Варшаву ў маі—чэрвені 2006 г.

Летам 2007 г. сотні католікаў Гомельскай парафіі паставілі свае подпісы пад патрабаваннем вярнуць вернікам комплекс будынкаў кляштара бэрнардынцаў з касцёлам Святога Юзафа, размешчаны па вуліцы Кірыла і Мяфодзія ў Мінску, які Мінгарвыканкам вырашыў перадаць інвестарам пад камерцыйны праект. Напрыклад, толькі ў адной вёсцы Рудня-Стаўбунская, дзе пражываюць у асноўным католікі з прозвішчам Гулевіч, было сабрана амаль 50 подпісаў – падпісаліся практычна ўсе жыхары.

8 верасня 2007 г. у Гомельскім касцёле адбыліся ўрачыстасці з нагоды Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, у якіх узялі ўдзел больш за 400 чалавек. Эўхарыстыю для гомельскіх парафіян і госцяў з розных гарадоў вобласці і Германіі праводзілі 11 каталіцкіх святароў. У часе ўрачыстага набажэнства было агалошана рашэнне апостальскага адміністратара Пінскай дыяцэзіі кардынала Казіміра Свёнтэка аб стварэнні (больш правільна – аднаўленні) Гомельскага дэканата. Гомельскім дэканам прызначаны пробашч Гомельскага касцёла ксёндз Славамір Ляскоўскі. У новую тэрытарыяльную адзінку Пінскай дыяцэзіі ўвайшлі каталіцкія парафіі Гомеля, Акцябрскага, Жлобіна, Рагачова, Рэчыцы і Светлагорска.

## 15. НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ, У ЯКІХ ІСНАВАЛІ КАПЛІЦЫ ГОМЕЛЬСКАЙ ПАРАФІІ

### АНТОНАЎКА

Вёска ў Насовіцкім сельсавеце Добрушскага раёна, за 17 км на поўдзень ад Добруша, 23 км ад Гомеля. Вядома з XVI ст. У 1819 г. у вёсцы была пабудавана царква Нараджэння Багародзіцы.[262]

Да XVIII ст. вёска называлася Антонавічы. Уваходзіла ў склад Гомельскага староства. У вопісе Магілёўскай губерні 1784 г. названа мястэчкам. У сярэдзіне XIX ст. належала Крушэўскім, у канцы XIX ст. Клячкоўскім.[263]

У пачатку XX ст. мястэчка і маёнтак уваходзілі ў склад Насовіцкай воласці Гомельскага павета. У 1900 г. налічвалася 425 праваслаўных, 2 католікі, 14 яўрэяў. У мястэчку існавалі каталіцкая капліца, праваслаўная парафіяльная царква, яўрэйскі дом малітвы.

Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі пабудавана Крушэўскімі ў 1819 г., асвечана ў тым жа годзе канонікам Пашавіцкім. Драўляная з падмуркам, знаходзілася на каталіцкіх могілках, была агароджана, добра ўтрымлівалася. Індульт (афіцыйны пісьмовы дазвол) № 61 быў выдадзены арцыбіскупам Казімірам Дмахоўскім 12 студзеня 1850 г.[264]

БАРШЧОЎКА

Вёска, цэнтр Баршчоўскага сельсавета Рэчыцкага раёна. Да рэвалюцыі вёска і маёнтак Баршчоўка былі ў складзе Целяшоўскай воласці Гомельскага павета. У 1879 г. у вёсцы 210 двароў (дымоў), 635 жыхароў. У вёсцы была каталіцкая капліца і праваслаўная царква, вятрак, млын. Маёнтак — спадчыннае ўладанне Будзяноўскіх, 6797 дзес., з іх 4612 дзес. лесу.[265]

Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі была пабудавана ў 1814 г. і асвечана канонікам Пацэвічам. Фундатар капліцы — Ільюшэвіч. Капліца была драўлянай, знаходзілася на каталіцкіх могілках за чвэрць вярсты ад двара, была агароджана і мела невялікі арганчык. Да найбліжэйшай суседняй капліцы (у Борхаве) было 8 вёрст, да Гомельскага касцёла — 30 вёрст. Індульт арцыбіскупа Ігнацыя Галавінскага ад 28 лютага 1855 г. № 7368 выданы быў на 3 гады.[266] У 1920-х гг. у дакументах дзяржаўных устаноў капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі значыцца як капліца ў Абрамаўцы.

БОРХАЎ

Вёска ў Баршчоўскім сельсавеце Рэчыцкага раёна. У мінулым вёска і маёнтак каля ракі Уза ўваходзілі ў склад Целяшоўскай воласці Гомельскага павета. У 35 вёрстах ад Гомеля. У 1900 г. вёска налічвала 198 двароў, 836 жыхароў. Існавала каталіцкая капліца, млын, вятрак. Спадчыннае ўладанне Крушэўскіх, 9342 дзес.[267]

Капліца Святога Антонія. Драўляная, на падмурку. Была пабудавана ў 1827 г. у маёнтку малалетніх Валкавіцкіх. Бенедыктавана ксяндзом Янам Чаховічам з дазволу мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча ў 1827 г. Знаходзілася на каталіцкіх могілках за паўвярсты ад двара, была агароджана. Мела арган на 5 галасоў. Індульт І.Галавінскага ад 28 лютага 1855 г. № 740 на 3 гады .[268]

ГРАБАЎКА

Вёска, цэнтр Грабаўскага сельсавета Гомельскага раёна. 35 км на паўднёвы ўсход ад Гомеля, на р. Грабаўка (прыток р. Церуха). Вядома з XVIII ст. У другой палове XIX ст. у маёнтку ўладкованы парк і яблыневы сад, пабудаваны дом. У заходняй часцы парка знаходзіцца курган.[269] У пачатку XX ст. вёска і маёнтак у складзе Насовіцкай воласці (13 вёрст да Насовічаў) Гомельскага павета. У 1900 г. 166 двароў, 813 жыхароў. Каталіцкая капліца, драўляная парафіяльная царква, 2 вятракі, млын. Маёнтак — спадчыннае ўладанне Фашчаў, 5468 дзес., з іх 1 тыс. дзес. пашы, 853 дзес. лугоў, 3406 дзес. лесу.[270]

Капліца Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай была пабудавана Фашчамі і бенедыктавана па загаду мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча канонікам Пацэвічам у 1818 г. Знаходзілася на каталіцкіх могілках за паўвярсты ад гаспадарчых пабудоў. У 1850 г. была агароджана, мела алтар і наступныя рэчы: сярэбраны пазалочаны келіх з патэнай, партатыў, арнаты — 3, альбы — 2, комжы — 4, гумералы — 3, карпаралы — 3, пурыфікатары — 8, антыпедыюмы — 2, туальні — 2, ручнікі — 6, абрусы — 6, крыж — 1, распяцце — 1, ліхтары — 8, каноны — 3, звон — 1, сервітарскі звон — 1, імшал — 1, падушкі — 2, евангелічка — 1.

Індульт І.Галавінскага ад 28 лютага 1855 г. № 736 на 3 гады.[271]

Капліца была зачынена пасля 1926 г.

## ДУРАВІЧЫ

Вёска, цэнтр Дуравіцкага сельсавета Буда-Кашалёўскага раёна, за 12 км ад райцэнтра, 40 км ад Гомеля, 225 гаспадарак, 638 жыхароў.

Фальварак належаў Фашчам. У 1897 г. налічваў 28 жыхароў. На могілках існавала рыма-каталіцкая капліца. У пачатку XX ст. (прыкладна ў 1903 г.) уладальнік маёнтка памешчык Фашч прадаў маёнтак Дуравічы стараабрадцу Грыбянцову, а капліцу падарыў жыхарам-католікам суседняй аколіцы Лапічы. У 1907 г. капліца была перанесена ў аколіцу Лапічы і ў спісе касцёлаў і капліц Магілёўскай архідыяцэзіі была пазначана як «капліца Лапічы (Дуравічы)».[272]

## ЗАСОЎЕ

У былым вёска і маёнтак у Гомельскім павеце, з каталіцкай капліцай. Маёнтак належаў Халецкім, Палонскім, у канцы XIX ст. — Валерыю Людвікавічу Венцлавовічу.[273]

Драўляная капліца была пабудавана ў 1811 г. Фундатар — Халецкі. Капліца знаходзілася на каталіцкіх могілках. Адлегласць ад Гомельскага касцёла — 40 вёрст, да найбліжэйшай каталіцкай капліцы 30 вёрст. У наваколлі Засоўя ў сярэдзіне XIX ст. жыло каля 150 католікаў. У гэты час (1850-я гг.) капліца знаходзілася ў крытычным стане, бо хадзілі чуткі, што капліцу адбяруць і перададуць праваслаўным. Індульт быў выданы пралатам Янам-Феліксам Шчытам (верагодна, у перыяд з 1829 па 1833 г.), але быў згублены.[274]

КАСЦЮКОЎКА

Вёска ў Яромінскім сельсавеце Гомельскага раёна, за 5 км на поўнач ад Гомеля. Вядома з XVIII ст.[275]

Да рэвалюцыі вёска і фальварак каля возера Забач у складзе Пакалюбіцкай воласці (9 вёрст да Пакалюбічаў) Гомельскага павета. Вёска налічвала 121 двор, 358 жыхароў. Каталіцкая капліца пабудавана не пазней за 1864 г. Фальварак з 1862 г. належаў барону Нолькену, 611 дзес.[276]

КЛІНЦЫ

Горад. Адміністрацыйны цэнтр Клінцоўскага раёна Бранскай вобласці РФ. Насельніцтва 70 тыс. чал.

Слабада Клінцы заснавана старaверамі ў 1707 г. У 1782 г. Клінцы атрымалі статус пасада. Уваходзілі ў Суражскі павет Чарнігаўскай губерні. З 1919 г. па 1926 г. адміністрацыйны цэнтр Клінцоўскага павета Гомельскай губерні РСФСР.

У Клінцах у гады Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў дзейнічала каталіцкая капліца. Яна была ўладкавана ў школьнай спартзале. У капліцы з верасня 1917 г. служыў вікарый Ігнацы Скарупка.

64.Ксёндз Ігнацы Скарупка.

На набажэнствы, якія ладзіў ксёндз Скарупка, збіраліся католікі, якія жылі ў радыюсе 100 км ад Клінцоў. Ксёндз Ігнацы Скарупка загінуў у 1920 г. у бітве пад Варшавай і стаў сімвалам польскага супраціву савецкай уладзе і Чырвонай Арміі.

Капліца ў Клінцах узгадваецца яшчэ ў 1926 г. У гэты час яна размяшчалася ў прыватным доме аднаго з вернікаў. Капліца належала да Гомельскага дэканату.

65.Капліца ў школьнай спартзале ў Клінцах.

ЛАПІЧЫ

Вёска ў Уваравіцкім сельсавеце Буда-Кашалёўскага раёна. Раней аколіца Лапічы знаходзілася ў Рудзянецкай воласці Гомельскага павета.[277]

8 лістапада 1903 г. жыхары аколіцы напісалі прашэнне гомельскаму дэкану Пятроўскаму, што ў іх ёсць вялікая патрэба ва ўладкаванії ў іх аколіцы рыма-каталіцкай капліцы. Гомельскі касцёл знаходзіўся за 30 вёрст ад аколіцы, і ім было вельмі цяжка і нязручна, асабліва ўзімку і ўвосень, выконваць свае духоўныя трэбы. Хоць за 3 вярсты ад іх, у Ціхінічах, і была капліца, але яна была зусім лядашчая і патрабавала вялікага рамонту.

Зімой у капліцы прыходзілася быць з 8 гадзін раніцы і да гадзіны ці 2-х гадзін дня, што ў марозныя дні вельмі цяжка пераносілася нават здаровымі людзьмі, не кажучы ўжо пра дзяцей, хворых і старых, якія ў такіх выпадках не маглі прысутнічаць на Імшы. Ксяндзу прыходзілася адвозіць Святыя Дары з Ціхініцкай капліцы па хатах старым і хворым, якіх звычайна набіралася душ 10 і больш, што ізноў было вельмі цяжка. Духоўнае выхаванне дзяцей таксама было абцяжаранае тым, што яны былі пазбаўлены магчымасці прысутнічаць на набажэнствах.

Католікаў у Лапічах налічвалася больш за 250 чалавек, а таму з-за такой вялікай колькасці вельмі цяжка было ўсім дабрацца да Гомельскага касцёла, тым больш, што багата хто з католікаў не меў каня, каб паехаць у касцёл ці прывезці ксяндза да хворага для споведзі ці святой Камуніі. Таму лапіцкія католікі і прасілі гомельскага дэкана, каб той звярнуўся да магілёўскага губернатара па дазвол на перанос капліцы, якая знаходзілася ў фальварку Дуравічы памешчыка Фашча, у аколіцу Лапічы, дзе жыхары планавалі паставіць яе на сваёй грамадскай зямлі. Тым больш, што Фашч падарыў ім гэтую капліцу. Жыхары яшчэ 31 ліпеня падалі прашэнне магілёўскаму губернатару, які тлумачэннем ад 25 верасня 1903 г. паведаміў, што хадайнічаць трэба праз сваё духоўнае начальства. Таму жыхары Лапічаў і звярнуліся да дэкана Пятроўскага. Прашэнне падпісалі дваранін Казімір Казіміравіч Драбышэўскі, дваранін Станіслаў Аляксандравіч Івіцкі і ўсе парафіяне.[278]

Праз некалькі дзён ксёндз Пятроўскі сваім рапартам паведаміў аб гэтым кіраўніку Магілёўскай архідыяцэзіі пралату Данісевічу. Данісевіч атрымаў рапарт 15 лістапада 1903 г.,[279] а 28 лістапада напісаў ліст міністру ўнутраных спраў, у якім паведамляў, што жыхары аколіцы Лапічы Рудзянецкай воласці Гомельскага павета звярнуліся да яго з просьбай аб дазволе ім з-за аддаленасці парафіяльнага касцёла перанесці ў іх аколіцу капліцу з фальварка Дуравічы Гомельскага павета. Былы ўладальнік маёнтка памешчык Фашч прадаў маёнтак Дуравічы стараабрадцу і дазволіў прасіцелям узяць капліцу. Прымаючы пад увагу аддаленасць прасіцеляў ад горада Гомеля, тое, што яны былі пазбаўлены магчымасці наведваць парафіяльны касцёл, асабліва вясной і восенню, у час бездарожжа, Данісевіч прасіў міністра дазволіць перанесці капліцу.[280]

4 сакавіка 1904 г. магілёўскі губернатар паведаміў у Дэпартамент замежных веравызнанняў МУС, што *«аколіца Лапічы знаходзіцца ад капліцы фальварка Дуравічы ў адлегласці 6 вёрст, а ад Гомеля — 25 вёрст. У Дуравіцкай капліцы набажэнствы ніколі не адбываюцца, таму што яна лічыцца могілкавай і ўладкованая на родавых могілках дваранаў Фашчаў. Сродкаў на перанос капліцы ў аколіцу Лапічы жыхары аколіцы не маюць і плануюць збіраць ахвяраванні сярод мясцовых католікаў. За 2 вярсты ад Лапічаў знаходзіцца на могілках фальварка Ціхінічы рыма-каталіцкая капліца, у якой і адбываюцца набажэнствы ў выпадку смерці католікаў аколіцы Лапічы адным з ксяндзоў горада Гомеля»*.

З-за гэтага, а таксама з-за адсутнасці ўласных сродкаў на перанос капліцы з Дуравіч у Лапічы, магілёўскі губернатар прапанаваў адмовіць у просьбе.[281]

6 красавіка 1904 г. таварыш (намеснік) міністра ўнутраных спраў Дурнаво паведаміў пралату Данісевічу, што ў пераносе капліцы з Дуравіч у Лапічы адмоўлена.[282]

Але жыхары Лапічаў і не думалі адмаўляцца ад пераносу капліцы ў сваю аколіцу. 5 снежня 1906 г. яны напісалі калектыўнае прашэнне на імя міністра ўнутраных спраў, у якім паведамлялі:

*«Мы, католікі, лічбай да 300 душ, якія жывуць на адлегласці 30 вёрст ад парафіяльнага касцёла, збіраемся на набажэнствы ў капліцу, якая знаходзіцца за 3 вярсты ад нашай аколіцы, у хутары Ціхінічы. Гэта старая драўляная капліца зусім лядашчая і патрабуе вялікага рамонту. Памешчык жа Фашч, прадаўшы стараабрадцу пану Грыбянцову маёнтак Дуравічы, падараваў нам драўляную капліцу, якая знаходзіцца ў тым маёнтку. У ваколіцах маёнтку Дуравічы і хутара Ціхінічы няма іншых, акрамя нас, жыхароў рыма-каталіцкага веравызнання. Таму маем гонар прасіць Ваша высокаправасхадзіцельства дазволіць нам перанесці падараваную*

*панам Фашчам капліцу і паставіць яе ў аколіцы Лапічы на ўласныя нашы сродкі.*

*Аб рашэнні пачціва просім паведаміць нам праз гомельскага дэкана ксяндза Пятроўскага».*

Прашэнне падпісалі мешчанін Іосіф Лаўрэнцьеў Вялічкевіч, мешчанін Юліян Душкевіч, мешчанін Фёдар Іванавіч Вялічкевіч, мешчанін Іван Іосіфавіч Душкевіч, дваранін Міхаіл Аляксандравіч Івіцкі, дваранін Станіслаў Аляксандравіч Івіцкі, Іван Трызна, мешчанін Цімафей Адольфаў Вялічкевіч, Мікалай Вялічкевіч, Антоні Красоўскі, Station Браніслаў Вялічкевіч, дваранін Уладзіслаў Аляксандраў Драбышэўскі, Станіслаў Жарын, дваранін Станіслаў Казіміравіч Драбышэўскі, Франц Сушчынскі.[283]

Дэпартамент замежных веравызнанняў МУС паведаміў аб гэтым прашэнні магілёўскаму губернатару і арцыбіскупу і запытаўся ў іх, ці не існуе з іх боку нейкіх перашкод для задавальнення прашэння.

Пралат Данісевіч 15 студзеня 1907 г. у лісце МУС адказаў, што з яго боку перашкод для пераносу капліцы няма.[284]

Магілёўскі ж губернатар 7 красавіка 1907 г. паведаміў наступнае: 1) Месца ў аколіцы Лапічы, куды плануецца перанесці капліцу з Дуравічаў, знаходзіцца на адлегласці 20 сажняў ад царкоўна-прыходскага вучылішча і каля 100 сажняў ад іншых пабудоў, так што перанясенне сюды капліцы не будзе супярэчыць патрабаванням будаўнічага статута. 2) Рыма-каталіцкага насельніцтва ў аколіцы Лапічы крыху больш за 200 душ, лічачы мужчын, жанчын і дзяцей з 1 года. Бліжэйшы касцёл ад аколіцы Лапічы знаходзіцца ў горадзе Гомелі на адлегласці 30 вёрст, злучэнне з ім чыгункай. Таму для выканання неабходных духоўных трэб жыхары аколіцы з-за зручнасці ў злучэнні стала могуць звяртацца да гомельскага духавенства. 3) У Лапічах таксама няма праваслаўнай царквы, і пры ўладкаванні рыма-каталіцкай капліцы праваслаўныя будуць яе наведваць для малітвы, і можна прадбачыць іх поўнае адпадзенне ад праваслаўя пад уплывам каталікаў і іх духавенства. Таму магілёўскі губернатар меркаваў, што прашэнне Вялічкевіча, Душкевіча і іншых трэба адхіліць, тым больш, што за 3 вярсты ад Лапіч, як яны самі сцвярджалі, ёсць ужо капліца ў хутары Ціхінічы, наведванне якой не звязанае з нейкімі нязручнасцямі.[285]

Нягледзячы на гэта, намеснік міністра ўнутраных спраў Макараў паведаміў губернатару, што МУС не бачыць перашкод для задавальнення хадайніцтва жыхароў Лапічаў згодна з пунктам 13 указа ад 17 красавіка 1905 г.[286]

Капліца ў рэшце рэшт была перанесена ў Лапічы і ў спісе духавенства Магілёўскай архідыяцэзіі за 1923 г. пазначаная як

«капліца Лапічы (Дуравічы)».[287] Была ліквідавана самай апошняй у Гомельскай парафіі.

МІХАЛЬКІ

Вёска ў Даўгалескім сельсавеце Гомельскага раёна, за 30 км на паўночны захад ад Гомеля, 234 гаспадаркі, 642 жыхары. Вядома з XVI ст.[288] Вёска і аднайменны маёнтак раней знаходзіліся ў складзе Дзятлавіцкай воласці Гомельскага павета, каля возера Заезніца. У канцы XIX ст. 79 двароў, 395 жыхароў. Каталіцкая капліца, млын. Капліца пабудавана не раней за 1885 г. Маёнтак — спадчынная ўласнасць Хацяноўскіх, 14384 дзес., з іх 7198 дзес. лесу. Цагельня, дзягцярня, вятрак.[289]

НОВАЯ БЕЛІЦА

Раён Гомеля. У мінулым павятовы горад Магілёўскай губерні. Узнікненне Новай Беліцы звязанае з асобай уладальніка Гомеля фельдмаршала П.Румянцава. Уплывовы прыватны ўладальнік Гомеля дамогся пераносу павятовага цэнтра з уласнага гораду ў іншы населены пункт. Часова павятовым цэнтрам з 1777 г. стала Беліца (цяпер вёска Старая Беліца), а павет стаў называцца Беліцкім. Рашэннем Кацярыны ІІ у тым жа годзе на левым беразе Сожа пачалося будаўніцтва новага павятовага цэнтра, якому была пакінута назва Беліца з дабаўленнем слова Новая — Новая Беліца. У 1781 г. Новай Беліцы нададзены герб. У якасці адміністрацыйнага цэнтра Новая Беліца праіснавала 75 гадоў. У 1852 г. павятовым горадам стаў Гомель, а Новая Беліца была абвешчана заштатным горадам. 28 сакавіка 1828 г. адчынена капліца Найсвяцейшай Тройцы, якая была пабудаваная коштам жыхароў Новай Беліцы, перадусім на сродкі былога павятовага страпчага, тытулярнага саветніка Якуба Міцкевіча. Ён з’яўляўся куратарам капліцы. Асвечана ксяндзом Янам Чаховічам. Індульт выдадзены мітрапалітам Богушам-Сестранцэвічам, але потым згублены Я.Міцкевічам. Капліца знаходзілася на каталіцкіх могілках на адлегласці 1 вярсты ад мястэчка.[290] Была драўляная, агароджаная штыкетнікам. У ёй быў 1 алтар. Яшчэ да пабудовы капліцы ў Новай Беліцы знаходзіліся святары. Так, у схеме Магілёўскай архідыяцэзіі за 1821 г. вікарыем у Беліцы пазначаны ксёндз Юзаф Шацкі. У 1852 г. у Новай Беліцы жылі вікарый ксёндз Тамаш Сухоцкі і ксёндз капелан Юзаф Энгельгард.

Капліца ў Беліцы ўпамінаецца ў «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага» (канец XIX ст.).[291]

## НОВЫЯ ЦЯРЭШКАВІЧЫ

Вёска ў Цярэшкавіцкім сельсавеце Гомельскага раёна. У мінулым шляхецкая аколіца за 25 вёрст ад Гомеля. Капліца пабудавана ў 1820 г. мясцовай шляхтай, бенедыктавана ксяндзом Янам Чаховічам. Знаходзілася за паўвярсты ад будынкаў на каталіцкіх могілках, была абкружана ровам. У 1855 г. ужо была закінутая і знаходзілася ў руінах без усялякага начыння. Індульт быў згублены. Прычынай такога становішча было нежаданне мясцовай каталіцкай шляхты ўтрымліваць капліцу, хаця патрэба ў яе была відавочнай, бо найбліжэйшая капліца знаходзілася за 16 вёрст ад Новых Цярэшкавіч.[292] Капліца пазначана ў схеме Магілёўскай архідыяцэзіі за 1864 г., але ўжо адсутнічае ў схеме 1885 г.

## УЛУКАЎЕ

Вёска, цэнтр сельсавета ў Гомельскім раёне. Узнікла ў пачатку XIX ст.

Да рэвалюцыі вёска і фальварак Улукаўе знаходзіліся ў складзе Гомельскай воласці Гомельскага павета (8 вёрст ад Гомеля). У канцы XIX ст. налічвала 39 двароў, 199 жыхароў. У вёсцы знаходзіўся валасны склад збожжа. Фальварак належаў Фашчам і займаў 1303 дзес. (516 дзес. лесу, 585 дзес. раллі, 209 дзес. лугоў). У фальварку была племянная стайня.[293]

У пачатку XIX ст. (прыкладна да 1830-х гг.) у маёнтку знаходзілася каталіцкая капліца, якая была пабудавана з брусу, накрыта драніцай, без падмурка, з вежай з пераду і невялікім купалам з тылу, з 3 жалезнымі крыжамі. Уваход быў праз адзіночныя дзверы сталярнай работы на завесах. Дзверы замыкаліся вісячым замком. У капліцы было 2 вялікіх акны з белым шклом і 2 маленькіх круглых акны. Падлога і столь былі з дошак. З аднаго боку стаялі 2 лаўкі простай работы. Канфесіянал таксама быў простай работы і меў кратаваныя акенцы. Капліца мела 3 алтары.

## ХУТАРАНКА

Вёска ў Грабаўскім сельсавеце Гомельскага раёна.

Раней маёнтак і вёска ў складзе Насовіцкай воласці (9 вёрст да Насовічаў) Гомельскага павета. У вёсцы было 49 двароў, 272 жыхары. Маёнтак належыў Крушэўскім. У 1861 г. пабудавана рыма-каталіцкая капліца.

Біскуп Станеўскі звярнуўся 17 чэрвеня 1866 г. да міністра ўнутраных спраў Валуева з лістом, дзе паведамляў, што 31 чэрвеня 1861 г. міністр загадам № 1593 прапанаваў магілёўскаму губернатару зрабіць распараджэнне аб дазволе памешчыцы Гомельскага павета Крушэўскай пабудаваць у сваім маёнтку Хутаранка рыма-каталіцкую капліцу для адпраўлення гомельскім пробашчам ці яго вікарыем набажэнстваў у дні, вызначаныя дыяцэзіяльным начальствам. Капліца была пабудавана і 2 ліпеня 1861 г. асвечана гомельскім дэканам ксяндзом Мікалаем Гіртовічам, але індульт на адпраўленне набажэнстваў па невядомых Станеўскаму прычынах не быў выдадзены тагачасным мітрапалітам Жылінскім.

У 1866 г. гомельскі дэкан Найневіч звярнуўся да Станеўскага з просьбай аб выдачы індульта, бо Хутаранская капліца знаходзілася далёка ад парафіяльнага касцёла, і мясцовыя парафіяне былі пазбаўлены магчымасці слухаць літургію ў іх парафіяльным касцёле. Між тым, генерал-губернатар Мураўёў яшчэ 29 чэрвеня 1864 г. паведаміў Станеўскаму, што ў Паўночна-Заходнім краі пабудова новых філіяльных касцёлаў, алтароў і капліц, рамонт і аднаўленне існуючых не можа адбывацца без папярэдняй згоды генерала-губернатара. Але з-за таго, што Хутаранская капліца існавала з 1861 г. і знаходзілася ў спісе філій і хатніх капліц, які Магілёўская духоўная кансісторыя прадставіла генералу-губернатару, і не патрабавала ані рамонту, ані аднаўлення набажэнстваў, а толькі дазволу на адпраўленне набажэнстваў, і тое з боку духоўнага начальства, то Станеўскі лічыў магчымым выканаць просьбу Гомельскага дэкана.[294]

Таварыш (намеснік) міністра ўнутраных спраў А.Г.Трайніцкі напісаў аб гэтым лісце Станеўскага віленскаму генералу-губернатару. На дакуменце стаіць дата 6 чэрвеня 1866 г., але гэта памылка, ліст быў напісаны 6 ліпеня. Трайніцкі прасіў генерала-губернатара паведаміць міністру, ці былі набажэнствы ў Хутаранскай капліцы пасля яе асвячэння і, калі былі, то калі яны спынены, ці, можа, зусім з-за адсутнасці індульта набажэнствы не адпраўляліся.[295]

15 ліпеня 1866 г. біскуп Станеўскі зноў напісаў міністру Валуеву і паведаміў, што ён запатрабаваў ад гомельскага дэкана падрабязныя даныя пра Хутаранскую капліцу і высветліў, што тагачаснаму Гомельскаму дэкану ксяндзу Гіртовічу мітрапалітам Жылінскім быў дадзены дазвол на адпраўленне набажэнстваў, і набажэнствы сапраўды адбываліся, але з-за частых пажараў і змены гомельскіх дэканаў дакумент, які захоўваўся ў дэканскім архіве, згубіўся.[296]

Віленскі генерал-губернатар таксама пацвердзіў гэтыя факты і дадаў, што не супраць выдачы індульта на адпраўленне набажэнстваў у Хутаранскай капліцы, тым больш, што Гомельскі павет у паўстанні 1863—1864 гг. (у дакуменце напісана «беспорядках») удзелу амаль не браў, і сын памешчыцы Крушэўскай[297] вядомы ўраду сваімі заслугамі і поўнай палітычнай добранадзейнасцю.[298]

21 сакавіка 1867 г. МУС дало дазвол на выдачу індульта для Хутаранскай капліцы.[299]

У Хутаранцы да нашага часу на могілках захавалася праваслаўная капліца, якая, як кажуць мясцовыя жыхары, «стаяла яшчэ да вайны» і нядаўна была адрамантавана.[300] Цалкам магчыма, што гэта і ёсць тая самая каталіцкая капліца Крушэўскіх.

66.Капліца ў Хутаранцы. Ліпень 2005 г.

## ЦІХІНІЧЫ

Вёска, чыгуначная станцыя (на лініі Жлобін—Гомель) ва Узаўскім сельсавеце Буда-Кашалёўскага раёна, за 21 км на паўднёвы ўсход ад Буда-Кашалёва, 27 км ад Гомеля на поўдзень, 41 гаспадарка, 82 жыхары, працякае рака Журбіна (прыток Узы).[301] У 1909 г. 53 двары, капліца.

Капліца пабудавана ў 1810 г. у маёнтку Вішнеўскіх з дазволу мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча на падставе дадзенай яму ад імператрыцы Кацярыны II улады.[302]

26 жніўня 1913 г. чачэрскі пробашч Вінцэнт Ільгін падаў рапарт № 140 аб перанясенні капліцы з маёнтка Ціхінічаў у вёску Рудня.[303] Верагодна, Ціхініцкую капліцу не паспелі перанесці з-за вайны. У спісе духавенства Магілёўскай архідыяцэзіі за 1923 г. Ціхініцкая капліца пазначана як існуючая ў Гомельскай парафіі.[304]

# III. ЧАЧЭРСКАЯ ПАРАФІЯ

## 1. ЧАЧЭРСК І ПАРАФІЯ ДА СЯРЭДЗІНЫ XIX СТ.

Паводле археалагічных даных Чачэрск узнік у X ст. на беразе ракі Чачоры пры ўпадзенні яе ў Сож. Упершыню Чачэрск згадваецца ў Іпацьеўскім летапісу пад 1159 г. як горад радзімічаў, які кіеўскі князь Ізяслаў Давыдавіч вярнуў чарнігаўскаму князю Святаславу Ольгавічу.

Пасля смерці Святаслава ў 1167 г. горад перайшоў да яго сына Алега. Да сярэдзіны XIV ст. Чачэрск быў у складзе Чарнігаўскага княства. Пасля гэтага горад быў далучаны да Вялікага княства Літоўскага і з'яўляўся ўладаннем вялікага князя і цэнтрам воласці Віленскага ваяводства.

У 1387 г. Чачэрск разам з навакольнымі вёскамі*, «с людми и со всеми доходы»* перайшоў ва ўладанне князя Скіргайлы. З 1390-х гг. горадам кіравалі намеснікі вялікага князя. З 1501 па 1518 г. Чачэрскам валодала вялікая княгіня Алена — жонка вялікага князя Аляксандра і дачка вялікага князя маскоўскага Івана III. З 1510 г. Чачэрск — цэнтр староства, меў права на самакіраванне.

Паводле перапісу войска ВКЛ за 1528 г.: *«Василеи Дмитриевич в Чичерску мает ставити конь. Гаврило Тишкович у Чичерску мает ставити конь».*[305]

Чачэрскае староства з XVI ст. здавалася ў пажыццёвае валоданне розным дзяржаўным дзеячам (з 1562 г. кварту — 25 % чыстага даходу — уладальнік староства ўносіў у дзяржаўны скарб на ўтрыманне войска). Пасля смерці княгіні Алены горадам валодалі розныя дзяржаўцы: князі Чартарыйскія, Астафій Дашкевіч (за змаганне з татарамі), Юрый Зяновіч, з 1621 г. Аляксандр Сапега (за заслугі ў войнах з туркамі). Пасля рэформы 1566 г. Чачэрск знаходзіўся ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства.

Каля 1589 г., паводле Метрыкі ВКЛ, з Чачэрскага староства было вылучанае нягродавае староства[306] Нямковічы, у якое ўвайшлі Вялікія Нямковічы, Малыя Нямковічы і Сабунск. Нямковічы — гэта сучасныя вёскі Вялікія Нямкі і Малыя Нямкі Веткаўскага раёна. Сабунск — хутчэй за ўсё, сучасная вёска Стаўбун Веткаўскага раёна.

З 1629 г. Чачэрск стаў лічыцца мястэчкам, атрымаў каралеўскі прывілей на гандаль і кірмашы.

У 1648 г. Чачэрск захапілі казакі Хмяльніцкага. У пачатку лета 1649 г. войска ВКЛ на чале з польным гетманам Янушам Радзівілам адбіла Чачэрск. За нечуваныя зверствы, якія тварылі казакі, Радзівіл загадаў у палонных адсячы правыя рукі па запясце. 50 казакоў пасадзілі на пáлі, а астатніх з жонкамі і дзяцьмі пасяклі.

У 1654 г. Чачэрск захапіў атаман Залатарэнка. Да 1659 г. мястэчка і ваколіцы былі ў складзе гетманскіх казацкіх уладанняў на Беларусі. Пасля Чачэрск да 1772 г. знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай.

Пра час з'яўлення ў Чачэрску касцёла сказаць цяжка, але ў інвентары 1704 г. ён ужо згадваецца як касцёл Святой Тройцы. Верагодна, ён быў пабудаваны ў канцы XVII ст.

У сярэдзіне XVIII ст. практычна ўся чачэрская шляхта была ўжо каталіцкай.

З фрагмента попіса Рэчыцкага павета 1765 г., які датычыцца Чачэрскай парафіі,[307] можна даведацца аб парафіянах шляхецкага стану, а таксама мясцовасцях, у якіх яны жылі. Падаем тут спіс усіх чачэрскіх шляхцічаў-католікаў, якія згадваюцца ў попісе:

Казімір Вішчынскі, суддзя гродскі, мечны і ротмістр Чачэрскай парафіі Рэчыцкага павета — дзяржава (староства) Нямковічы.

Леан Келчэўскі, падстолі Рэчыцкага павета — спадчынны маёнтак Янцы.

Міхаіл Шэлюта, будаўнічы Рэчыцкага павета — маёнтак Бердыж.

Ігнацы Маліноўскі, стражнік чарнігаўскі; Дамінік Маліноўскі — маёнткі Малынічы і Сябровічы.

Юзаф Канюшэўскі, чашнік смаленскі — маёнтак Бердыж.

Станіслаў Бельскі, чашнік чарнігаўскі — маёнтак Акрынка (сучасная Акшынка Веткаўскага р-ну).

Андрэй Грушэцкі, гараднічы — Старыя Малынічы.

Тамаш Марачэўскі, мастаўнічы рэчыцкі — маёнтак Малынічы (Слабодка).

Стэфан Марачэўскі, Сымон Марачэўскі, Казімір Марачэўскі, мастаўнічы рэчыцкі — маёнтак Малынічы.

Базыль Цутровіч на Чарняве Чарняўскі — маёнтак Малынічы (Слабодка).

Юзаф Вішчынскі — дзяржава Янава.

Пётр на Чарняве Чарняўскі, Базыль Тэадаровіч на Чарняве Чарняўскі — маёнтак Малынічы (Слабодка).

Антоні Шымкевіч — маёнтак Малынічы.

Якуб Шэлюта, Ян Шэлюта, Ян другі Базылевіч Шэлюта, Ігнацы Шэлюта, Тамаш Шэлюта, Дыянізій Гарбатоўскі — маёнтак Бердыж.

Базыль Акушка — маёнтак Матневічы.

Базыль Акушка, Ян Рэфемберк, Казімір Гурскі — маёнткі Матневічы і Сябравічы.

Аляксандар Збарамірскі, Марцін Збарамірскі, Войцех Збарамірскі, Міхаіл Гавароўскі, Леан Лашкевіч, Міхаіл Лашкевіч — маёнтак Аношкі.

Пётр Грынеўскі, Самуэль Грынеўскі — маёнткі Аношкі і Жабін.

Людвік Драбышэўскі, Андрэй Драбышэўскі, Ян Драбышэўскі, Пётр Драбышэўскі, Пантэльяш Драбышэўскі, Тэадор Драбышэўскі — маёнткі Шапатовічы.

Давыд Шэлюта, Андрэй Касцюшка, Казімір Левальт, Тэадор Левальт-Язерскі — маёнтак Свацілавічы.

Рыгор Валенціновіч-Катальскі, Міхаіл Валенціновіч-Гатальскі, Марцін Валенціновіч-Гатальскі — маёнтак Жалезнікі.

Андрэй Юркевіч — маёнтак Бердыж.

Марцін Кучынскі — маёнтак Малынічы.

Канстанцін Жлоба — аколіца Вараноўшчына.

Базыль Жлоба, Павел Нестаровіч, Базыль Шостак, Базыль Вішнеўскі — маёнтак Вараноўшчына.

Рыгор Курака, Тэадор Курака, Базыль Курака, Пётр Курака, Стэфан Курака, Базыль Кунсевіч — маёнтак Мяховічы (Куракі).

Ян Кончыц, Ян Тэваровіч-Кончыц — маёнтак Сябравічы.

Канстанцін Тамашэвіч-Жлоба, Аляксандар Жлоба, Леан Жлоба, Сымон Губаровіч, Антоні Жлоба, Тэадор Шостак, Пётр Вішнеўскі, Мікалай Шостак, Рыгор Шостак, Пракоп Шостак, Мікалай Шостак, Базыль Шостак, Ян Жлоба, Эмануэль Жлоба — аколіца Вараноўшчына.

Габрыэль Нестэровіч, Мацей Нестаровіч, Міхаіл Нестаровіч, Ян Цішкоўскі — аколіца Янцы.

Ян Яновіч — аколіца Сябравічы.

Андрэй Грамыка, Базыль Грамыка, Давыд Грамыка, Францыск Рачкоўскі — аколіца Грамыкі.

Нашчадкі гэтых шляхцічаў і дасюль жывуць у Чачэрскім і Веткаўскім раёнах. Дарэчы, самы вядомы нашчадак чачэрскай каталіцкай шляхты — гэта знакаміты «містэр Не» — шматгадовы міністр замежных спраў СССР Андрэй Грамыка, які лічыў сябе рускім і пісаў, што паходзіць з сялянаў.

У 1772 г., пры першым падзеле Рэчы Паспалітай, Чачэрскае староства было канфіскавана ў вялікага гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага. Насельніцтва Чачэрска ў 1772 г. налічвала 859 чал. Спачатку Чачэрск — цэнтр павета ў Рагачоўскай правінцыі Магілёўскай губерні, потым мястэчка, у 1778—1796 гг. цэнтр воласці Рагачоўскага павета Магілёўскага намесніцтва, у 1796—1802 гг. у Беларускай губерні, а з 1802 г. зноў у Магілёўскай губерні. У 1774 г. Кацярына II падаравала Чачэрск беларускаму намесніку графу З.Р.Чарнышову.

Згодна з інвентаром 1726 г., у Чачэрску ў гэты час было 7 вуліц, якія сыходзіліся радыяльна да замка і гандлёвай плошчы, дзе размяшчаліся карчма і крамы. Ля замка на тэрыторыі старажытнага дзядзінца стаяў касцёл Святой Тройцы. У XVI—XVIII ст. Чачэрск быў абнесены сцяной з 3-мя брамамі: Замкавай, Вялікай і Падольнай. Паводле дадзеных інвентара, існавалі Уваскрэсенская, Мікалаеўская, Прачысценская і Спаская цэрквы, якія далі назвы вуліцам, сінагога на ўскраіне горада і 109 жылых дамоў.

Пасля таго як уласнікам Чачэрска стаў граф Чарнышоў, горад стаў цэнтрам павета, і пачалася маштабная перабудова Чачэрска ў адпаведнасці з новым рэгулярным планам, які прыпісваюць знакамітаму італьянскаму архітэктару Б.Растрэлі.[308] Як лічаць, ён жа

быў і аўтарам праекта новага Троіцкага касцёла.[309] Але тут ёсць няўвязка, бо Б.Растрэлі памёр у 1771 годзе, за 3 гады да таго, як Чачэрск стаў належыць Чарнышову. Таму гэту версію можна адкінуць і лічыць непраўдападобнай. Агульны план Чачэрска, хутчэй за ўсё, быў скампіляваны Чарнышовым з праектаў розных дойлідаў.[310]

Аб перабудове Чачэрска падрабязна напісаў Юрый Чантурыя[311].

Паводле Чантурыі, у 1787 г. на месцы старога Чачэрскага замка быў пабудаваны палац. Горад быў карэнным чынам рэканструяваны і атрымаў прамавугольную структуру вуліц. Усе вуліцы мелі шырыню 10 сажняў (21,3 м) і былі абсаджаны ліпамі. Згодна з класіцыстычнай канцэпцыяй ідэяльнага паселішча ў цэнтры горада была запраектавана вялізная плошча (302,5 × 294 м), абкружаная сіметрычнай адносна восі поўнач—поўдзень сістэмай кварталаў. На плошчы (у цэнтры) ў 1780 г. была пабудавана ратуша, якая захавалася і ў якой цяпер знаходзіцца гісторыка-краязнаўчы музей. Таксама на плошчы сіметрычна размяшчаліся Г-падобныя будынкі, якія ўключалі ў сябе 76 крамаў. Па перыметру плошчы былі высаджаны ліпавыя алеі.

На будынак ратушы арыентаваліся асноўныя вуліцы горада. Гэтая арыентацыя была фармальна ўзмоцнена роўнасцю даўжыні фасада квадратнай у плане ратушы шырыні вуліц. Ратуша задумвалася галоўным элементам у прасторы горада. Яе кампазіцыя грунтуецца на ступенчатай, пірамідальнай будове архітэктурных масаў. Асноўная частка будынка завершана высокім стылабатам. На ім узвышаецца трапецападобная драўляная вежа. Па вуглах асноўнага аб'ёму ратушы пастаўлены 4 малыя вежы (таксама з дрэва).

Вакол ратушы былі сіметрычна пабудаваны 4 храмы-ратонды (3 царквы і касцёл), якія мелі падобнае архітэктурнае аблічча. Па версіі, якая належыць В.Ф.Марозаву, 4 культавыя будынкі Чачэрска былі пабудаваны па праекту архітэкатара Дж.Кварнегі. У іх аснове ляжаў адзін і той жа праект храма-ратонды. Граф З.Р.Чарнышоў сам дасачыніў да праекта Кварнегі розныя дабаўленні: Праабражэнскай і Узнясенскай цэрквам ён дарысаваў прытвор і апсіду, а касцёлу Святой Тройцы і царкве Раства Багародзіцы — вежы на галоўным фасадзе.[312]

Праабражэнская і Узнясенская цэрквы знаходзіліся ў паўднёвай частцы горада на невялікіх плошчах. Узнясенская царква лічылася хатняй царквой графіні А.Р.Чарнышовай. Прынцып размяшчэння цэркваў у планіровачнай структуры горада аналагічны прынцыпу пастаноўкі ратушы — на дамінуючыя будынкі цэркваў арыентаваны па 4 вуліцы. Гэта давала магчымасць успрымаць будынкі з некалькіх

пунктаў, а таксама аглядаць 2 ці нават 3 дамінантных будынкі з аднаго відавага пункта, што садзейнічала візуальнай цэласнасці горада.

Царква Раства Багародзіцы (пабудавана ў 1787 г.) і Троіцкі касцёл размяшчаліся ў паўночнай частцы горада адно насупраць аднаго. Паміж імі праходзіла галоўная вуліца горада, якая вяла да палаца Чарнышова. Будынкі храмаў служылі своеасаблівым «парталам» пры пад'ездзе да палаца. Ды і ўвесь горад задумваўся як манументальная парадная кампазіцыя, якая папярэджвала ўезд у палац яго ўласніка пры руху з боку Гомеля. Першы этап руху пралягаў паміж Праабражэнскай і Узнясенскай цэрквамі, на другім этапе ён праходзіў паўз ратушу, на трэцім — праз «браму» касцёла і царквы Раства Багародзіцы.

Дарэчы, пры асвячэнні царквы Раства Багародзіцы прысутнічала Кацярына II.[313]

## 67.Цяпер у будынку ратушы знаходзіцца гісторыка-краязнаўчы музей.

Галоўным будынкам Чачэрска была ратуша, а не палац Чарнышова, што пацвярджаецца размяшчэннем ратушы ў цэнтры планіровачнай кампазіцыі з арыентацыяй на яе асноўных магістраляў. Агульная для класіцыстычнага горадабудавання XVIII—1-й паловы XIX ст. грамадзянская і дэмакратычная накіраванасці таксама сведчаць аб цэнтральнай ролі ратушы.

Аснову кампазіцыі ўсіх 4-х храмаў складала ратонда, завершаная вялікім купалам, які ўвенчваўся малым купалам на барабане. Згодна з праваслаўнай догмай аб арыентацыі алтарнай часткі храма на ўсход галоўным фасадам усіх цэркваў з'яўляўся заходні, дзе да ратонды прыбудоўваўся ўваходны прыдзел. Касцёл жа Святой Тройцы быў арыентаваны алтаром на захад. Гэта давала магчымасць для ўваходу з галоўнай вуліцы як у касцёл, так і ў Раждзественскую царкву, якая стаяла насупраць праз вуліцу. Звернутыя адно да аднаго галоўныя фасады храмаў мелі аднолькавую дзвюхвежавую кампазіцыю (у 1852 г. спічакі на вежах касцёла былі заменены галоўкамі (малымі купаламі), пра гэта гл. ніжэй).[314]

## 68.Чачэрскі касцёл.

69.Царква Раства Багародзіцы.

Узнясенская і Праабражэнская цэрквы мелі на галоўным фасадзе па адной вежы, увенчанай малым купалам. Амаль усе вышынныя часткі будынкаў увенчвалі прыгожыя дэкаратыўныя спічакападобныя навершы.

Пра палац, які быў размешчаны на Замкавай гары, звестак практычна не захавалася. Вядома, што будынак абкружаў роў, напоўнены вадой з ракі Чачоры. Праз роў быў перакінуты пад'ёмны мост на ланцугах. Унізе ў сажалках разводзілася рыба розных парод. Палац упамінаецца ў 1855 г., у гэты час ён знаходзіўся ў запусценні. Паводле апісання 1884 г. палаца ўжо не існавала, а яго месца займалі розныя пасадкі.

У канцы XVIII ст. па ініцыятыве графа Чарнышова быў разбіты парк, які дапоўніў прамавугольную структуру кварталаў і звязаў яе з навакольным прыродным краявідам. Парк, які быў плошчай 12 га, меў кампазіцыю пейзажнага тыпу з маляўнічай планіроўкай алей. Каля парка знаходзіўся фруктовы сад з аранжэрэямі. У канцы XIX—пачатку XX ст. парк згадваецца як зона адпачынку гараджан.[315]

70.Так цяпер выглядае Замкавая гара.

Першы касцёл Святой Тройцы быў драўляным. Не пазней як з 1744 г. належаў езуітам. У 1784 г. на яго месцы быў пабудаваны новы касцёл Святой Троіцы. Будоўлю фінансаваў сам генерал-губернатар Чарнышоў, які прыхільна ставіўся да езуітаў. У 1786 г. касцёл асвяціў беліцкі дэкан Аўгусцін Судорскі.[316]

У Чачэрску існавала езуіцкая рэзідэнцыя з парафіяй. Яна ахоплівала досыць вялікую тэрыторыю і ўключала ў сябе сённяшні Чачэрскі раён, частку Кармянскага і Веткаўскага раёнаў. Католікі пражывалі ў наступных мясцінах: Аношкі, Нямковічы, Рудня-Барталамееўская, Рудня-Дудзіцкая, Рудня-Нісімкавіцкая, Янцы, Бердыж, Малынічы, Сябравічы, Акшынка, Малынічы Слабодка, Янава, Матневічы, Жабін, Шапатовічы, Свяцілавічы, Жалезнікі, Вараноўшчына, Мяховічы (Куракі), Грамыкі і інш.

Рэзідэнцыя з парафіяй у 1744—1820 гг. належала да езуіцкага калегіума ў Магілёве, фундавалася спачатку шляхтай Рэчыцкага павету, а з 1783 г. графам З.Чарнышовым.[317] Правінцыял Ян Парэцкі ў 1754 г. далучыў рэзідэнцыю да фундацыі Бекельмана, якая знаходзілася на Мсціслаўшчыне, і пры касцёле ў Чачэрску заснаваў даміцылюм для 2-х місіянераў. Чачэрская парафія ў гэты час была

філіяй Гомельскай парафіі. Біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч стварыў тут каля 1777 г. самастойную парафію.

У 1796 г. парафія налічвала разам з дзецьмі 769 парафіян і мела працягласць 25 вёрст. Да 1787 г. пры касцёле працавалі 2 святары, потым — 3. Рэзідэнцыя не мела ніякіх фальваркаў і забяспечвалася з фундатарскага двара збожжам і рэчамі, а таксама грашыма (193 руб. у год). Але рэальна місія атрымлівала толькі палову ануаты і грашовага ўтрымання. Гэты фундуш быў павялічаны капіталам да 720 руб. серабром за кошт складкі абываццеляў Рагачоўскага павета і змешчаны ў 1794 г. у Дзерналовічаў з 5-м працэнтам[318] пры закладзе ў іх уладаннях. Таксама маёр Міхал Валовы завяшчаў рэзідэнцыі 800 руб. Грошы былі размешчаны ў Чачэрскай канторы, і з гэтай сумы рэзідэнцыя мела ў год 40 руб. працэнтаў. Утрыманне сакрысціі, касцельнага начыння і рамонт касцёла належалі да абавязкаў фундатара.

У 1818 г. было атрымана пэўнага дахода на суму 208 руб., няпэўнага — 752 руб.80 кап. Выдаткавана на ўтрыманне сакрысціі, начыння і касцёла 133 руб. 60 кап., на аплату хатніх і касцельных слуг — 92 руб. 40 кап., на ўтрыманне 2-х манахаў і чэлядзі — 608 руб. 3 кап., на рамонт місійнага дома і яго начыння — 126 руб. 10 кап., на міласціну жабракам — 6 руб. 60 кап. Агулам выдаткавана 966 руб. 73 кап.

Ксяндзы-езуіты ў той час жылі ў невялікім драўляным будынку. Граф З.Чарнышоў збіраўся пабудаваць для іх мураваны будынак, але да сваёй смерці не паспеў гэта зрабіць.

Захаваліся даныя аб выніках душпастырскай працы ў Чачэрску за 1796 і 1810 гг. У 1796 г. было 1120 споведзяў (з іх 567 вялікодных), 24 хрышчэнні, 9 шлюбаў, пахавана 15 памерлых, намошчана 82 хворых, было 92 казанні і рэлігійныя заняткі,[319] у 1810 г. — 2750 споведзяў, 30 хрышчэнняў, 56 казанняў і рэлігійных заняткаў.

Суперыёрамі (кіраўнікамі місіі і пробашчамі парафіяльнага касцёла) былі: Ян Багдановіч (1783—1786), Ян Лямпрэхт (1787—1792), Вінцэнт Шышка (1792—1799), Пётр Філіповіч (1799—1806), Клеменс Шпак (1806—1809), Ян Марцінкевіч (1809—1810), Вінцэнт Гурскі (1810—1815) і Андрэй Леановіч (1815—1820), які, верагодна, стаў першым дыяцэзіяльным пробашчам пасля таго, як езуіты ў 1820 г. вымушаны былі пакінуць межы Расійскай імперыі (ён застаўся на сваёй пасадзе і тым самым дэ-факта пакінуў ордэн).

Місіянерамі ў Чачэрску, між іншым, былі: Юзаф Іллініч (1753—1754 і 1767—1769), Ян Хадзькевіч (1754—1761), Ян Багдановіч (1759—1769) і Сімяон Тарлецкі (1768—1773).

У Чачэрску ў 1785 г. нарадзіўся езуіт Язафат Залеўскі (Залескі), прафесар права і гісторыі Полацкай акадэміі, які, хутчэй за ўсё, пачатковую адукацыю атрымаў у Чачэрскай езуіцкай школе.

Школа ў Чачэрску была адчынена ў 1788 г. Яна была адным з шасці калегіумаў, якія існавалі на далучанай да Расіі частцы Беларусі. З іх 3 (Полацкі, Віцебскі і Магілёўскі) былі вышэйшымі, гэта азначае, з курсам філасофіі і тэалогіі. Сярэднюю адукацыю давалі гімназіі ў Оршы і Мсціславе. Школа ў Чачэрску давала няпоўную сярэднюю адукацыю.

Ліквідацыя ордэну езуітаў у свеце і яго захаванне на Беларусі стала прычынай таго, што сюды сталі сыходзіцца найлепшыя інтэлектуальныя сілы з калегіумаў, зачыненых у Заходняй Еўропе: немцы і італьянцы, іспанцы і французы. Напрыклад, у 1789—1791 гг. у Чачэрскай школе на пасадзе прафесара працаваў італьянец Аўгусцін Маньяні, які паходзіў з Балоны. Тут жа, у Чачэрску, ён і памёр 21 красавіка 1791 г. Працаваў у Чачэрску і яго малодшы брат Ян Маньяні.

У 1796 г. у школе было 2 класы. У адным выкладаў свецкі настаўнік, які атрымліваў зарплату з Чачэрскай канторы, у другім — езуіт. У першым класе вучыліся чытаць і пісаць па-польску, па-руску і па-нямецку, пачыналі вывучаць лацінскую мову, катэхізіс, асновы арыфметыкі і геаграфіі. У другім класе вывучалі граматыку, лацінскую і нямецкую мовы, арыфметыку, геаграфію, біблейскую і агульную гісторыю. Вучняў было 40, у тым ліку 3 вучыліся за кошт рэзідэнцыі.[320] Напрыканцы 1802 г. у школе было 3 класы і 44 вучні, у тым ліку 8 вучыліся за кошт рэзідэнцыі. У 1803 г. у школе вучылася 56 вучняў. Школа была зачынена ў 1806 г.[321]

У 1818 г. у Чачэрску працавалі суперыёр Андрэй Леановіч і душпастыр Тадэвуш Хмялеўскі.

У пасляезуіцкі перыяд, з 1829 г. куратам касцёла быў Людвік Вікенцьевіч Багдановіч. Касцёл у гэты час ужо патрабаваў рамонту, як звонку, так і ўнутры. Патрабавала рамонту і спарахнелая драўляная плябанія. Ксёндз Багдановіч пры дапамозе Чачэрскай эканоміі перакрыў шалёўкай купал касцёла і карнізы вокнаў. Была заліта алебастрам вялікая трэшчына на муры з боку фасада касцёла і зроблены новы ганак. У 1833 г. касцёл перакрыты новай шалёўкай. Былі заменены кроквы і латы. На вежах зроблены новыя драўляныя спічакі, крытыя гонтай, і пастаўлены новыя жалезныя крыжы. Ксёндз Багдановіч за свой кошт пабудаваў хату з сенцамі для прыслугі, павець і пуню для сена.

Касцёл фундаваўся графіняй Чарнышовай. Чачэрская эканомія выдзяляла ў гэты час на аднаго ксяндза 64 руб. асігнацыямі, 12

чвэрцяў жыта, 8 ячменю, 12 аўса і 164 пуды сена. У 1833 г. даход з парафіі быў 93 руб. асігнацыямі.[322]

У 1840-я гг. пробашчам Чачэрскага касцёла быў ксёндз Ігнацы Браніслававіч Ставярэй.

Да 1848 г. куратам быў ксёндз Грынкевіч. У 1849 г. вікарыем Чачэрскага касцёла быў ксёндз Антоні Юновіч. Чачэрская парафія ў гэты перыяд (да 1850 г.) уваходзіла ў склад Быхаўска-Рагачоўскага дэканата. З 1850 г. яна ў складзе Беліцкага дэканата, які з 1854 г. называўся Гомельскім.

Да Чачэрскай парафіі ў 1850 г. было прыпісана 5 капліц: у вёсках Рудня-Нісімкавіцкая і Рудня-Барталамееўская, аколіцах Аношкі, Асоўе і Лукомскія Паплавы.

3 капліцы ў аколіцах Вараноўшчына, Шапатовічы і Малынічы ў той час ужо былі забраны і перададзены Праваслаўнай Царкве.

## 2. АДМІНІСТРАТАР ЯН ЮШКЕВІЧ

Пасля смерці ксяндза Грынкевіча, з 17 верасня 1848 г. адміністратарам парафіі быў ксёндз Ян Юшкевіч. Ён нарадзіўся ў 1798 г. на Жмудзі. Прымаў удзел у паўстанні 1831 г., пасля падаўлення якога, апасаючыся пераследу з боку расійскіх улад, мусіў выехаць у Заходнюю Еўропу. Доўгі час жыў у Францыі, а потым у Рыме. Але туга па радзіме перамагла, і Юшкевіч вярнуўся ў Расійскую імперыю.

Пасля разгляду ваенна-судовай справы аб ім, Юшкевіч мусіў быць пакараны згодна з тагачаснымі расійскімі законамі. Але імператар дараваў святару з тым, каб той быў пераведзены ў іншую, аддаленую ад мяжы дыяцэзію, пад пільны паліцэйскі нагляд. Міністр унутраных спраў Пяроўскі прапанаваў Рыма-каталіцкай духоўнай калегіі зрабіць распараджэнне аб прызначэнні ксяндза Юшкевіча ў тую частку Магілёўскай архідыяцэзіі, якая знаходзіцца ў Магілёўскай губерні, з даручэннем мясцоваму духоўнаму начальству мець над ім пільны нагляд. Што і было выканана.

Праз некалькі месяцаў працы ў Чачэрску Юшкевіч звярнуўся да магілёўскага арцыбіскупа Казіміра Дмахоўскага з просьбай перавесці яго ў Рыгу. Вось што ён пісаў:

*«Яго высокапраасвяшчэнству арцыбіскупу магілёўскаму, мітрапаліту ўсіх рыма-каталіцкіх касцёлаў у Расіі і кавалеру. Ад адміністратара Чачэрскага парафіяльнага касцёла ксяндза Іаана Юшкевіча прашэнне.*

*Ваша арцыпастырскае высокапрэпадобіе!*

*Па найміласэрнейшым дазволе 1847 г. я прыбыў з Рыма ў Расію і па некаторым часе распараджэннем вышэйшага начальства*

*(указам калегіі ад 11 сакавіка 1848 г. за № 1251) быў прысланы з Вільні ў губернскі Магілёў. Пражываў я спярша ў Магілёўскім бернардынскім кляштары, дзе, прабыўшы два месяцы, распараджэннем начальніка Магілёўскай дыяцэзіі, генеральнага вікарыя (указ калегіі ад 4 мая 1848 г. за № 1888) быў я прызначаны ў Бялыніцкі парафіяльны касцёл вікарыем. З цягам часу (на маё прашэнне і са згоды на тое магілёўскага грамадзянскага губернатара) тым жа начальнікам дыяцэзіі прызначаны 17 верасня 1848 г. пробашчам Чачэрскага парафіяльнага касцёла ў мястэчка Чачэрск, дзе і цяпер я знаходжуся.*

*Асмельваюся ўскласці да ступняў Вашага высокапраасвяшчэнства найпакорнейшую маю просьбу аб дазволе мне адлучыцца ў горад Рыгу для сямейных спраў і ў часе майго там знаходжання дазволе заняцца выкананнем духовых трэб тамашнім іншаземцам рыма-каталіцкага вызнання.*

*Адзінае дзеля таго толькі, каб уладкаваць няшчасную маю сям'ю, якая складаецца з дзвюх сёстраў і трох пляменніц маіх. Даючы ім сродкі да пражывання, вырашыў я вярнуцца ў сваю айчыну, уводзячы ў ёй фабрыку раблення штучных кветак, хоць і з вялікімі выдаткамі, як адзіны сродак па падтрыманні збяднелай маёй сям'і. Аб якой індустрыі вядома ўжо Найаўгусцейшаму Вялікасці Імператару і Ураду. Але, як вядома ўсялякаму, такая галіна прамысловасці нідзе лепшага кірунку і найвярнейшага заахвочвання атрымаць не можа, як толькі ў вялікім горадзе, то горад Рыга, які бліжэйшы да месца жыхарства маёй сям'і, здаецца найлепшым для гэтага месцам. А я, валодаючы шырокімі ведамі ў гэтым мастацтве, якое вывучаў, калі быў у Парыжы, зрабіўшы велізарныя выдаткі на набыццё і збіранне патрэбных механічных інструментаў, апаратаў і розных матэрыялаў, з вялікімі высілкамі і доўгачасовымі намаганнямі, жадаў бы перад смерцю ўмацаваць хоць колькі становішча маіх крэўных, пераказваючы ім мае веды ў гэтым мастацтве.*

*Пры гэтым, займаючыся ўладкаваннем маёй сям'і, да прывядзення ў патрэбны лад меркаванай фабрыкі, для яе дабрабыту, не забываю, што першы і найсвяшчэннейшы мой доўг — абяцанне служыць пастве Хрыстовай і да смерці клапаціцца аб выкананні святаўскладзенага на мяне абавязку, таму жадаў бы я яшчэ заняцца ў Рызе выкананнем абавязкаў святарскіх. Бо, як давялося чуць, прадбачыцца там цяпер вакацыя на аднаго ці двух святароў, для ўкамплектавання тамашняга рыма-каталіцкага духавенства, то я ахвотна мог бы аддацца выкладанню там духоўных трэб іншаземцам рыма-каталіцкага вызнання ці на нямецкай, ці на французскай, ці на італьянскай мове.*

*Калі б ужо не было патрэбы ў святарах для падобнага служэння, то я буду ўтрымлівацца ў Рызе на свой кошт, выконваючы доўг».*[323]

Магілёўская рыма-каталіцкая духоўная кансісторыя ў сваім рапарце арцыбіскупу Дмахоўскаму паведаміла, што паводзіны ксяндза Юшкевіча ў час знаходжання яго ў Магілёўскай дыяцэзіі цалкам заслугоўваюць ухвалення.[324] Магілёўскі арцыбіскуп, нягледзячы на гэта, адмовіў Юшкевічу ў просьбе.[325] Але Юшкевічу было дазволена наведаць Жмудзь і сустрэцца са свамі крэўнымі. У паездцы ён знаходзіўся 2 месяцы, з 26 ліпеня па 19 верасня 1851 г. Пасля вяртання ксёндз надалей заставаўся ў Чачэрску на пасадзе адміністратара Чачэрскай парафіі.

## 3. РАМОНТ ЧАЧЭРСКАГА КАСЦЁЛА 1852—1858 ГГ. [326]

Троіцкі касцёл, які існаваў ужо 65 гадоў, прыйшоў у крытычны стан. Дах з дошак працякаў так, што пачаў разбурацца падмурак. Тынкоўка, як звонку, так і ўнутры, уся патрэскалася і пачала адвальвацца. Лесвіцы на званіцах і ўсё драўлянанае начынне званіц згнілі. Алтары і абразы згубілі свой першапачатковы выгляд. Усё гэта патрабавала неадкладнага рамонту. У такім жа крытычным стане быў і апусцелы палац Чарнышова і суседняя царква Раства Багародзіцы. У касцёле, ад самай яго пабудовы, ніколі не было аргана, і Юшкевіч на свае сродкі купіў арган з Руднянскай капліцы Радужскай парафіі (магчыма, гаворка ідзе пра вёску Рудню-Дудзіцкую), якую забралі ў католікаў і перадалі праваслаўным.[327]

Ксёндз Юшкевіч, які, верагодна, згубіў надзею на пераезд у Рыгу, пачаў абдумваць, якім чынам прывесці касцёл у нармальны стан. Чачэрская парафія была не вельмі багатай. Асноўную масу парафіян складалі бедныя сяляне, а сярод мяшчан і шляхты заможных было вельмі мала. Жалаванне ксяндза, выплату часткі якога, да таго ж, увесь час затрымлівалі, таксама не дазваляла пачаць сур’ёзны рамонт. Таму 27 снежня 1849 г. Я.Юшкевіч звярнуўся з рапартам, у якім прадставіў каштарыс рамонту, да рагачоўска-быхаўскага дэкана. Юшкевіч прасіў дэкана аб далейшых распараджэннях на гэты конт. Але рагачоўска-быхаўскі дэкан Гойнці пакінуў справу без адказу.

У гэты час у Рагачоўскім павеце, у якім знаходзіўся касцёл, адсутнічаў штатны архітэктар, які мусіў скласці план касцёла. Можна было б прыцягнуць да гэтай справы нейкага прыватнага архітэктара, але не было гарантыі, што духоўнае начальства пагадзіцца з гэтым. Ксёндз Юшкевіч знаходзіўся ў вельмі складаных умовах і ўвесь час думаў, як вырашыць справу.

Праязджаючы ў 1849 г. праз Быхаў, чачэрскі адміністратар выпадкова сустрэў у горадзе штатнага архітэктара і прапанаваў таму прыехаць у Чачэрск для складання плана касцёла. Архітэктар згадзіўся скласці план толькі пры ўмове атрымання за гэту, не такую ўжо і складаную, працу, 100 руб. серабром. Але ў небагатага святара такой сумы не было. Таму 17 студзеня 1851 г. ён вырашыў звярнуцца праз беліцкага дэкана Баніфацыя Найневіча (Чачэрская парафія была ўжо ў Беліцкім дэканаце) з рапартам да арцыбіскупа Дмахоўскага. У рапарце Юшкевіч апісаў сітуацыю і выказаў меркаванне, што складанне плана касцёла не патрабуецца, бо рамонт не можа змяніць архітэктурны выгляд касцёла, а самая галоўная, неадкладная задача — зрабіць новы дах і атынкаваць касцёл звонку і ўнутры. А калі ўсё ж план, складзены штатным архітэктарам, будзе патрэбны, то Юшкевіч прасіў арцыбіскупа аб указанні магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі, каб тая *«распарадзілася аб гэтым праз знашэнне з кім належыць»*.

Ані Юшкевіч, ані дэкан Найневіч яшчэ не ведалі, што арцыбіскуп Казімір Дмахоўскі 11 студзеня памёр. Адказ на рапарт дэкана Найневіча і рапарт Юшкевіча прыйшоў ужо ад новага мітрапаліта арцыбіскупа Галавінскага. У адказе ад 9 лютага 1851 г. паведамлялася, што сродкаў на архітэктара, які мусіць скласці план касцёла, у дыяцэзійнага начальства няма, і што адміністратары самі мусяць дбаць аб садзейнічанні гэтаму сваіх парафіян. На рамонт касцёла можа быць выдадзена дапамога з сумы, якая штогод выдаткоўваецца ўрадам на рамонт касцёлаў, але хадайнічаць аб дапамозе трэба ва ўстаноўленым парадку, з прадстаўленнем плана і каштарыса магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі.

Атрымаўшы такі адказ, ксёндз Юшкевіч зразумеў, што ўсё ж прыйдзецца разлічваць перадусім на свае сілы. Таму ён прыклаў намаганні, каб сабраць ахвяраванні ад парафіян. Было сабрана 500 руб. серабром і некаторыя будаўнічыя матэрыялы. 24 чэрвеня 1851 г. Юшкевіч адправіў у магілёўскую кансісторыю рапарт, да якога ён прыклаў рэестр сабраных ахвяраванняў, план рамонту касцёла і каштарыс на рамонт. У рапарце Юшкевіч прасіў дазволіць яму пачаць рамонт, не чакаючы дапамогі з сумы, якая штогод выдаткоўваецца ўрадам на рамонт касцёлаў (згодна з каштарысам гэта сума мусіла складаць для Чачэрскага касцёла 1393 руб. серабром).

Каштарыс і план кансісторыя для праверкі адаслала ў магілёўскую будаўнічую камісію. Камісія парушэнняў не знайшла. Даў згоду на рамонт і магілёўскі грамадзянскі губернатар.

За гэты час Юшкевічам было сабрана яшчэ 100 руб. ахвяраванняў. 12 мая 1852 г. мітрапаліт у лісце да магілёўскай

кансісторыі даў згоду выкарыстаць сабраныя 600 руб. і будаўнічыя матэрыялы на рамонт касцёла, не чакаючы дапамогі з рамонтнага ўрадавага капіталу. За ходам працы мусіў наглядаць беліцкі дэкан Найневіч.

У маі 1852 г. ксёндз Юшкевіч, нарэшце, змог распачаць рамонт касцёла. Працу пачалі з даха. Аказалася, што на дзвюх званіцах драўляныя востраканцовыя спічакі цалкам згнілі. Зрабіць зноў такія ж аказалася вельмі цяжка, да таго ж такая востраканцовая канструкцыя была вельмі няўстойлівай, і пад час буры спічак мог быць скінуты са званіцы, як гэта здарылася ў 1847 г. са спічаком на суседняй праваслаўнай царкве Раства Багародзіцы. Таму Юшкевіч вырашыў замяніць спічакі галоўкамі (малымі купаламі), больш трывалымі, якія, да таго ж, мусілі абыйсціся больш танна. 18 ліпеня ён паслаў рапарт з просьбай аб гэтым і планам фасада ў кансісторыю, а тая — мітрапаліту. Згода была дадзена.

10 лістапада 1852 г. беліцкі дэкан Найневіч інфармаваў магілёўскую кансісторыю, што намаганнямі адміністратара Юшкевіча зроблены наступны рамонт касцёла: звонку ён нанава атынкаваны і пабелены; дах і вежы накрыты новай бляхай і пафарбаваны ў чырвоны колер, крыжы на іх вызалачаны; зроблены новы драўляны ганак. Унутраныя працы вырашана было пакінуць да вясны наступнага 1853 г.

У пачатку 1853 г. адміністратару Юшкевічу ўдалося атрымаць грошы, якія былі недаплачаныя Чачэрскаму касцёлу за некалькі гадоў, усяго 131 руб. 42 кап. Павялічылася да 756 руб. 15 кап. серабром сума добраахвотных ахвяраванняў чачэрскіх парафіян.

Кансісторыя запатрабавала, каб ахвяраванні і выдаткі былі запісаны ў прашнураваную прыхода-выдатковую кнігу. Яна была выдадзена яшчэ ў 1843 г. папярэдніку Юшкевіча ксяндзу Грынкевічу, але, верагодна, знікла, і таму Юшкевіч завёў новую кнігу і ў ліпені прадставіў яе ў кансісторыю. Кніга была прашнуравана, пранумеравана, замацавана пячаткай і вернута Юшкевічу.

Скарбнік Ендрашоўскі выдаў пад распіску ксяндзу грошы, якія Рыма-каталіцкая калегія ўказам ад 27 снежня 1852 г. асігнавала на рамонт касцёла. Грошы, усяго 1249 руб. серабром, мусілі быць запісаны ў прыхода-выдатковую кнігу.

26 жніўня 1853 г. мітрапаліт загадаў, каб пры Чачэрскім касцёле быў створаны камітэт з 2-х—3-х найбольш заможных парафіян-памешчыкаў, які б займаўся далейшым рамонтам касцёла. Старшынёй камітэта мусіў быць пробашч Юшкевіч. Камітэт павінен быў сачыць за выдаткам грошай, а таксама заключаць з рамеснікамі кантракты, выдаючы ім грошы толькі пад роспіс у прыхода-

выдатковай кнізе. Мітрапаліт таксама загадаў, каб камітэт, які будзе створаны, звярнуў сваю ўвагу і на плябанію.

У верасні мітрапаліт Галавінскі прапанаваў, каб пасля ўнутранага рамонта касцёла, калі застануцца грошы, зрабіць навокал касцёла мураваную агароджу са штыкетнікам.

У сярэдзіне кастрычніка 1853 г. камітэт па рамонце Чачэрскага касцёла быў сфарміраваны. У яго склад далі згоду ўвайсці наступныя асобы: упаўнаважаны па кіраванні ў Чачэрскім маёнтку граф Густаў Міхайлавіч Вяльгорскі; памешчык Чачэрскай парафіі Іосіф Антонавіч Жукоўскі; прыстаў 3-га стана Рагачоўскага павета Вінцэнт Іосіфавіч Лавянецкі.

Грошы, якія з 1851 г. сабралі парафіяне на рамонт касцёла — 756 руб. 15 кап. серабром (у тым ліку 51 руб. серабром неспагнаныя), былі аддадзены ў распараджэнне быламу наглядчыку Чачэрскага графства памешчыку Людвіку Случаноўскаму, які іх унёс у Чачэрскую эканамічную касу. Грошы на гэты час ужо былі выдаткаваны на рамонт Чачэрскага касцёла.

1249 руб., якія кансісторыя выдала Яну Юшкевічу, былі перададзены пад распіску сябру камітэта Г.Вяльгорскаму. Вяльгорскі іх унёс на захоўванне ў Чачэрскую эканамічную касу.

27 ліпеня 1854 г. камітэт зрабіў справаздачу аб ходзе рамонту і прыходзе-выдатку сродкаў мітрапаліту арцыбіскупу Галавінскаму. Да 27 ліпеня 1854 г. былі зроблены і ўстаноўлены на месца новы вялікі алтар і 2 маленькія. Чачэрская эканомія графа Чарнышова-Круглікава, у маёнтку якой былі і сяляне-католікі, за свой кошт зрабіла навокал касцёла мураваную з цэглы агароджу, якая на той момант яшчэ не была атынкавана. Таксама не была яшчэ зроблена брама і драўляны штыкетнік.

Эканомія за свой кошт будавала і драўляны 6-пакаёвы плябанскі дом, які на той момант быў узведзены да даха. Дом быў на падмурку з цэглы. Дах мусіў быць гонтавы на жалезных цвіках.

На рамонт касцёла камітэт меў агулам 2005 руб. 15 кап. серабром (з якіх 51 руб. быў яшчэ не атрыманы).

З гэтых грошай на закупку матэрыялаў і зарплату рамеснікам было выдаткавана: на закупку ў Гомеле ў чарнігаўскага купца Ішкова ліставога жалеза 265 пудоў 33 фунтаў — 885 руб. 20 кап.; шыннага і палоснага жалеза 12 пудоў 39 фунтаў на крукі, вілкі і падлакотнікі да труб і жолабаў і на клямары для званоў — 27 руб. 1 кап.; за цвікі для даха (3 пуды 9 фунтаў) —14 руб. 86 кап. Фарбаў у крамах Чачэрска куплена: муміі чырвонай — 4 пуды 3 фунты, бяліл свінцовых — 1 пуд 22 фунты, сурыку — 5 фунтаў, сажы галандскай — 3 фунты, усяго на 22 руб. 20 кап. На абіўку макавак на купале і 2-х званніцах і вызалачэнне крыжоў: бляхі англійскай 88 лістоў на 13

руб. 20 кап.; дрота жалезнага 7,5 фунта на 1 руб. 36 кап., а таксама золата, хрому і вохры на 26 руб. 96 кап.

Дахаўшчыку, беліцкаму мешчаніну Пятру Ражманаву за абіўку купала на касцёле ліставым жалезам і фарбаванне даха заплачана 122 руб.

Кавалю з Чачэрска, селяніну Кандрату Стэфанаву за выраб крукоў, вілак і падлакотнікаў для дахавых труб і жолабаў і на клямары для званоў заплачана 9 руб. 68 кап.

Тынкоўшчыку, злынкаўскаму мешчаніну Іосіфу Балотніну за выпраўленне вонкавай тынкоўкі касцёла і пабелку заплачана 75 руб.

Мулярам, злынкаўскім мяшчанам Ілью Худзякову і Макію Свірыдаву за будоўлю навокал касцёла мураванай агароджы са слупамі для штыкетніка выдадзена ў задатак 25 руб. Астатнія 97 руб. 81 кап. заплачаныя Чачэрскай эканоміяй.

Архітэктарам Чачэрскай эканоміі Фёдарам Жывапісцавым на паездку ў Гомель да вольнага архітэктра Гурскага для парады аб будоўлі алтара і атрымання плана патрачана 3 руб. 47 кап.

Майстру-цесляру Калужскай губерні Мяшчоўскага павета сяла Шчацініна селяніну памешчыка Арлінскага Уласу Ігнатаву за пабудову пры касцёле 2-х ганкаў з дубовага дрэва, аднаго параднага і аднаго бакавога з франтонам і ашалёўкаю, заплачана 70 руб.

Сталяру, аднадворцу Рагачоўскага павета, жыхару аколіцы Малынічы Аляксандру Доўгалю за выраб рам у вокны касцёла заплачана 15 руб. 50 кап., за выраб прытвора для ўваходных дзвярэй з рамамі для шклення, з філёнкамі да паловы і з 2-ма дзвярыма — 37 руб.

Сталяру Рагачоўскага павета мястэчка Журавічы, селяніну памешчыцы Хітзоўскай Ягору Філіпаву за пабудову ў касцёле 3-х алтароў заплачана 390 руб.

Грабару, ворнаму салдату Магілёўскай губерні Клімавіцкага павета сяла Загосціна Івану Восіпаву за спланаванне зямлі навокал касцёла, дзе знесена 46 кубічных сажняў зямлі, заплачана 25 руб. 30 кап.

Чачэрская эканомія графа Чарнышова-Круглікава на гэты час ахвяравала: 46750 штук цэглы, а таксама вапну на будаўніцтва агароджы навокал касцёла, будаўнічы дубовы і сасновы лес на ганкі, рамы і алтары, шкло і цагляны бут. Эканомія таксама бясплатна выдзеліла рабочых для дастаўкі пяску, вады і іншых матэрыялаў.

У 1854 г. з-за рамонта касцёла ўзнік канфлікт, які адбыўся ў часе правядзення 40-гадзіннага фэсту ў Чачэрскім касцёле. Касцёл не ўмяшчаў усіх удзельнікаў фэсту, і адна асоба, якая была вядома ва ўсёй ваколіцы сваім непрыемным характарам і якой верагодна не хапіла месца ў касцёле, напісала пасля фэсту мітрапаліту скаргу на

Юшкевіча. Граф Г.Вяльгорскі ў сваім лісце да мітрапаліта мусіў бараніць Юшкевіча.

10 верасня 1854 г. мітрапаліт арцыбіскуп Галавінскі напісаў ліст адміністратару Юшкевічу. У лісце ён выказаў падзяку Юшкевічу і членам камітэта па рамонце Чачэрскага касцёла і даў ім сваё пастырскае блаславенне. Мітрапаліт таксама папрасіў не спыняць працы, пакуль касцёл цалкам не будзе адрамантаваны.

У дадатак да гэтага ліста Галавінскі 17 верасня напісаў яшчэ адзін ліст Юшкевічу, у якім прасіў звярнуць увагу на парафіяльныя капліцы, якія знаходзяцца ў кепскім стане. Мітрапаліт пісаў, што загадаць зрабіць рамонт у капліцах ён не можа, бо гэта не ў яго кампетэнцыі, але пры дапамозе графа Г.Вяльгорскага можна паспрабаваць атрымаць дазвол на рамонт капліц у мясцовых улад.

9 кастрычніка 1854 г. Ян Юшкевіч раптоўна памёр. 12 кастрычніка ў Чачэрск прыязджаў пробашч суседняга Журавіцкага касцёла Дамінік Юшкевіч, які, верагодна, адпяваў Яна Юшкевіча. Дамінік Юшкевіч таксама ахрысціў тут некалькіх дзяцей.

З 6 верасня выконваючым абавязкі пробашча Чачэрскага касцёла быў прызначаны святар Міхаіл Феліцыянавіч Васілеўскі, які прыбыў у Чачэрск прыкладна ў сярэдзіне кастрычніка. З 1855 г. чачэрскім пробашчам і адначасова гомельскім дэканам стаў Мікалай Гіртовіч, а вікарыем да канца 1857 г. — Міхаіл Васілеўскі.

Мікалай Гіртовіч працягнуў пачаты Юшкевічам рамонт.

У 1854—1855 гг. з ахвяраваных Чачэрскай эканоміяй грошай (усяго 1463 руб. 1 кап.) было выдаткавана: 3 руб. майстру-муляру Макію Свірыдаву за зробленую ў касцёле цагляную сценку для ўсталявання алтара; 15 руб. яму ж за выпраўленне ўнутры касцёла тынкоўкі і 2-х трэшчын, а таксама за ачыстку купала;

425 руб. вольнаму майстру са Злынкі Ярмілу Аляб'яву за фарбаванне і пазалоту 3-х алтароў сваімі фарбамі і золатам; 2 руб. 79 кап. архітэктару Чачэрскай эканоміі Жывапісцаву за паездку ў Гомель да вольнага архітэктара Гурскага за парадай аб фарбаванні і пазалоце алтароў.

Унутраны рамонт касцёла замінаў набажэнствам, таму Мікалай Гіртовіч прыстасаваў для набажэнстваў 2 пакоі ў плябаніі, аб чым паведаміў 27 жніўня 1855 г. мітрапаліту Галавінскаму. Гіртовіч таксама папрасіў, каб мітрапаліт пасля сканчэння работ у касцёле прызначыў каго-небудзь для асвячэння касцёла. Але мітрапаліт быў ужо цяжка хворы. Калі Гіртовіч даведаўся аб гэтым, то ён паведаміў канцылярыі мітрапаліта, што ў нядзелю, 23 верасня, ён сам без блаславення мітрапаліта асвеціць Чачэрскі касцёл, аб чым абвясціў ужо сваім парафіянам.

Гіртовіч патлумачыў, што зацягваць асвячэння ніяк нельга, бо парафіяне не памяшчаюцца ў 2-х пакоях плябаніі, дзе адбываецца набажэнства, і частка з іх вымушаная слухаць імшу пад вокнамі, а на вуліцы ўжо халодная восеньская непагода. Ксёндз прасіў канцылярыю, каб аб гэтым паведамілі мітрапаліту і той прабачыў Гіртовічу за такое *«дерзновение»*.

7 кастрычніка 1855 г. памёр мітрапаліт Галавінскі, і дэкан Гіртовіч паведамляў пра рамонт ужо новаму кіраўніку Магілёўскага арцыбіскупства біскупу-інфулату Антонію Фіялкоўскаму. У рапарце ад 10 снежня 1855 г. Гіртовіч зазначыў, што засталося пабудаваць наступныя аб’екты: стайню, вазоўню, пуню для сена і быдла, 2 хлявы для дробнага быдла, павець для дроў і лядоўню. На гэта меліся сродкі, лясны матэрыял і рабочыя з Чачэрскай эканоміі.

На лістапад 1855 г. было сабрана на рамонт касцёла 947 руб. 45 кап. ахвяраванняў парафіян.

Штыкетнік на мураванай агароджы і 3 каліткі ў ім рабіў злынкаўскі цясляр Міхайла Макараў, якому за гэта было заплачана 44 руб. Сам цагляны мур пакрыў ліставым жалезам дахоўшчык са Злынкі Рыгор Пагодзін. Ён за гэта атрымаў 30 руб. Амбон, лаўкі, цымборыюм, пярэднюю арку да вялікага алтара і 2 ясеневыя канфесіяналы рабіў Ягор (Рыгор) Філімонаў, які ўжо быў не прыгонным, а вольным майстрам з мястэчка Журавічы. За гэтую працу ён атрымаў 183 руб. Фарбаваў касцёл унутры маляр Залман Блёх, які атрымаў за гэта 100 руб.

У 1856 г. было сабрана на рамонт касцёла 184 руб. 50 кап. ахвяраванняў парафіян.

21 чэрвеня 1858 г. Гіртовіч у рапарце на імя мітрапаліта Венцаслава Жылінскага паведаміў аб заканчэнні рамонту Чачэрскага касцёла. Выдаткі на гэта з 1852 па 1858 г. склалі 3435 руб. 46 кап. Так скончылася гэта вялікая справа, якую распачаў ксёндз Ян Юшкевіч. За час рэканструкцыі Чачэрскага касцёла памёр і Юшкевіч, і мітрапаліты Дмахоўскі і Галавінскі.[328]

Пры Мікалаю Гіртовічу з 1860 г. па 30 снежня 1861 г. вікарыем Чачэрскага касцёла быў Іван Антонавіч Даўгяла. У 1862—1863 гг. вікарыем у Чачэрскім касцёле быў ксёндз Ян Буген, які да гэтага працаваў вікарным ксяндзом у Гомельскім касцёле.

11 мая 1862 г. да магілёўскага губернатара звярнуўся галоўны аканом Чачэрскага маёнтка графа Чарнышова-Круглікава калежскі асэсар Фальцін з прашэннем. Фальцін паведаміў, што іншаземцы рыма-каталіцкага веравызнання, якія працуюць на Асінаўскай гуце (цяпер вёска Асінаўская Гута), колькасцю 40 сем'яў (125 душ), звярнуліся да яго з просьбай уладкаваць пры гуце драўляную

капліцу для адпраўлення ў ёй часовага набажэнства, а таксама ўладкаваць могілкі.

Гута знаходзілася ад мястэчка Чачэрск, у якім былі касцёл і каталіцкія могілкі, на адлегласці 40 вёрст, за ракою Сож. У вясенні і асенні час праезд з гуты ў Чачэрск быў надзвычай ускладнены, бо Сож разліваўся на 4 вярсты. Калі хто-небудзь з членаў сем'яў работнікаў гуты хварэў і жадаў выклікаць да сябе ксяндза для споведзі, то ксёндз у такі час мог прыехаць праз 3 дні, альбо тады, калі хворы ўжо паміраў. З-за адсутнасці на гуце капліцы памерлых пакідалі да пахавання ў дамах, і ў вясенні і летні час, калі нябожчыкі хутка пачыналі разлагацца, была вялікая верагоднасць заражэння жыхароў. Таму Фальцін і прасіў губернатара дазволіць яму ўладкаваць на гуце сталую драўляную капліцу і пры ёй могілкі.

Губернатар загадаў рагачоўскаму земскаму спраўніку сабраць звесткі па гэтай справе. Высветлілася, што месца, дзе аканом хацеў уладкаваць капліцу, знаходзілася ад Чачэрскага касцёла на адлегласці 45 вёрст, Журавіцкага — 50, Чэрыкаўскага — 70, Касцюкоўскага — 70, Рагачоўскага — 80 вёрст. На адлегласці 12 вёрст знаходзілася капліца ў Рудні, але майстры гуты, якія ўвесь час былі занятыя на працы, не маглі адлучыцца на набажэнства. Гута, дзе мусіла быць капліца, знаходзілася ў балоцістай і лясной мясцовасці, і дабрацца адтуль да бліжэйшых касцёлаў было надзвычай складана, асабліва ў вясенні і асенні час, калі Сож разліваўся. На гуце знаходзілася 124 іншаземцы мужскога полу, 122 жаночага, і яшчэ 100 душ католікаў знаходзілася ў ваколіцах. Духоўная кансісторыя дазваляла ўладкаванне капліцы і могілак.[329]

Магілёўскі губернатар 25 кастрычніка 1862 г. паслаў рапарт аб дазволе ўладкаваць капліцу ў Міністэрства ўнутраных спраў. У лютым 1863 г. ён атрымаў адказ, падпісаны віца-дырэктарам Дэпартамента духоўных спраў Шульцам. У дакуменце была просьба да губернатара, каб той паведаміў, ці ёсць на гуце і ў ваколіцах праваслаўнае і, у асаблівасці, былое уніяцкае насельніцтва. І калі ёсць, то якая яго колькасць? Ці маюць яны сваю царкву, а калі не маюць, то на якой адлегласці знаходзіцца бліжэйшая праваслаўная царква? І, нарэшце, ці не будзе каталіцкая капліца аказваць шкодны ўплыў на былых уніятаў?[330]

На гэта магілёўскі губернатар 5 кастрычніка 1863 г. адказаў, што пры патрабаванні ад вотчыннай канторы маёнтка графа Чарнышова-Круглікава гэтых звестак быў атрыманы адказ, што ва ўладкаванні капліцы неабходнасці ўжо не было.[331]

Цяжка сказаць, у чым была прычына таго, што справа аб уладкаванні капліцы ў Асінаўскай гуце была прыпынена самой Чачэрскай канторай.

У 1864 г. гомельскага дэкана Мікалая Гіртовіча як нядобранадзейнага ў палітычных адносінах выслалі з Чачэрска ў Томскую губерню. З 20 лістапада 1864 г. ён знаходзіўся ў Томску, з 3 чэрвеня 1866 г. у Кузнецку. Памёр у Томску 11 чэрвеня 1872 г.

## 4. ЧАЧЭРСКАЯ ПАРАФІЯ ПАСЛЯ 1863 Г.

У сярэдзіне XIX ст. парафіяне Чачэрскага касцёла пражывалі ў наступных населеных пунктах:

Вёскі: Макрэні, Навуховічы, Роўкавічы, Рудня-Барталамееўская, Рудня-Дудзіцкая, Рудня-Нісімкавіцкая, Фёдараўка, Халопенічы, Халотча, Чортава Гара, Шапатовічы.

Аколіцы: Аношкі, Асоўе, Бердыж, Дзербічы, Дуброўка, Жабін, Куракі, Лукомскія Паплавы, Малынічы, Малынічы Слабодка, Напутовіцкія Паплавы, Падасоўе, Паплавы, Рыслаўе, Сярэднія Малынічы, Шапатовічы.

Маёнтак Роўкавічы.

Слабодка Пустынкі.

Сяльцо Бердыж.

Фальваркі: Фаўстынаў, Юзін.

З 7 студзеня 1864 г. да пачатку 1896 г. адміністратарам Чачэрскай парафіі працаваў ксёндз Францыск Сямёнавіч Клаво.

Пры Клаво, з 16 мая 1868 г. па 16 жніўня 1869 г., вікарыем Чачэрскага касцёла быў ксёндз Дамінік Лятук. Пасля Лятука, у 1870 г. вікарыем працаваў ксёндз Віктар Радовіч. 9 студзеня 1871 г. за заганныя паводзіны ён быў змешчаны ў Аглонскі дамініканскі кляштар, дзе быў пазбаўлены сану. Пасля Радовіча вікарныя ксяндзы ў Чачэрскі касцёл больш не прызначаліся. Магчыма, справа была ў тым, што ў Магілёўскай архідыяцэзіі востра бракавала святароў. Так, з 1863 г. па 1873 г. у архідыяцэзіі ні адзін новы святар не прыняў сакраменту святарства, пры тым, што за гэтыя 10 гадоў памерла каля 150 святароў.[332]

У час, калі ў Чачэрску па нейкіх прычынах адсутнічаў ксёндз Клаво, на замену яму прысылаліся ксяндзы з суседніх парафій для адпраўлення Імшы, хрышчэння і адпявання. Так, мяркуючы па метрычных кнігах, у гэты час у Чачэрск прыязджаў гомельскі вікарый Аляксандр Тамашэўскі.

У канцы 1878 г. ксяндзом Клаво быў выкананы рамонт касцёла, а навокал зроблена новая мураваная агароджа. Сума рамонту склала 368 руб. 43,5 кап., з якіх 200 руб. былі ахвяраваныя парафіянамі, а астатняя сума выдзелена пробашчам Клаво.[333]

У Чачэрску ў 1880 г. налічвалася 1667 жыхароў, з іх 1100 чалавек — яўрэі. У мястэчку было 266 дамоў, два вучылішчы, 76 гандлёвых крам.

У 1880-я гг. Чачэрская парафія налічвала прыблізна 2 тыс. вернікаў. У 1885 г. да Чачэрскай парафіі належалі капліцы ў наступных населеных пунктах: Аношкі, Асоўе, Лукомскія Паплавы, Рудня-Барталамееўская, Рудня-Нісімкавіцкая, Ухова, Рудня-Шлягіна, Акшынка і Нямковічы.

18 студзеня 1889 г. ксёндз Клаво склаў візіту Чачэрскага касцёла за 1885—1888 гг.[334]

У візіце адзначалася:

«1) Касцёл мураваны, належыць беламу духавенству, пад тытулам Св. Тройцы, трохалтаравы, узведзены нябожчыкам фельдмаршалам графам Захарам Чарнышовым у 1784 г., а асвечаны ў 1786 г. беліцкім дэканам ксяндзом Судорскім.

Круглы, дыяметр 6 сажняў, з сакрысціяй, якая прыроблена ззаду касцёла, з купалам, пакрытым ліставым жалезам. 2 званіцы з абодвух бакоў ад вялікага ўвахода ў выглядзе мураваных вежаў, злучаных з касцёлам, невялікія купалы іх пакрыты ліставым жалезам. Крыжы на касцёле і вежах жалезныя, пакрыты бронзай. Франтон на 4-х калонах, дах над ім накрыты ліставым жалезам. Мураваны ганак зроблены ў 1865 г. Дзверы ў касцёл сталярнай работы, зроблены ў 1868 г. Уваход у сакрысцію ззаду касцёла праз драўляны ганак, ашаляваны, з вокнамі. Дзверы ў сакрысцію сталярнай работы, з унутраным замком. Дзверы на ганак сталярнай работы, на жалезных завесах, з вісячым замком.

2) Вокнаў вялікіх 2, малых пад купалам — 22, у сакрысціі — 3. Рамы дубовыя. Калон каменных навокал касцёла, якія падтрымліваюць карнізы — 8.

3) На званніцах 4 званы, важаць 9, 3, 1 пуд, 25 фунтаў. Арган 10-галосны з 3-ма мяхамі, уладкаваны ў 1875 г. Ва ўсім касцёле падлога з дошак, пафарбаваная алейнай фарбай. Па абовух баках 10 лавак сталярнай работы з ясяневага дрэва, пакрытыя лакам. Канфесіяналаў 2. Амбона з ясеневага дрэва сталярнай работы. Касцёл у 1888 г. абнесены мурам. У муру брама і 2 каліткі.».

1894 г. у Чачэрску з візітацыяй быў арцыбіскуп Францыск Альбін Сымон — магілёўскі суфраган, які перад гэтым візітаваў і іншыя парафіяльныя касцёлы Гомельскага дэканата: 14 ліпеня (чацвер) — Антушы, 16 ліпеня (субота) — Люшаў, 18 ліпеня (панядзелак) — Гомель.

У пачатку 1896 г. ксёндз Клаво пакінуў Чачэрск. Магчыма, ён больш не мог выконваць святарскія абавязкі з-за ўзросту. Чачэрская парафія больш, чым паўгода, заставалася без пробашча, таму 15

верасня парафіяне напісалі прашэнне мітрапаліту, у якім скардзіліся на тое, што набажэнствы ў касцёле спыніліся, і яны мусяць туляцца па суседніх аддаленых касцёлах, якія знаходзяцца на адлегласці 40 і 60 вёрст ад Чачэрска, не маюць задавальнення ў выконванні духоўных трэбаў, у выніку чаго шмат хто з 3-х тысяч парафіян паміpae без споведзі, а слабыя нованароджаныя немаўляты застаюцца без хрышчэння і так некаторыя з іх паміраюць. Парафіяне прасілі мітрапаліта памілаваць іх і прызначыць пробашча ў Чачэрскі касцёл.

Гэтае прашэнне падпісалі парафіяне (форма імёнаў і прозвішчаў захавана): дваранін Багуслаў Серафімовіч, А.Шымкевіч, Н.Серафімовіч, А.Маліноўскі, дваранін Апалон Дабравольскі, дваранін Іван Даманскі, землеўласнікі Іван Адамаў Чарняўскі, Антон Карлаў Чарняўскі, Васіль Мікалаеў Чарняўскі, Антон Чарняўскі, Станіслаў Станіславіч Жыгінеўскі, Вікенцій Васільеў Акінчынцыц[335], Іван Васільеў Акінцыц[336], Марцін Васільеў Акінчыц, Франц Вікенцьеў Чарняўскі, Антон Адамаў Чарняўскі, Лаўрэн Акінц[337], Станіслаў Акінчыц, Уладзіслаў Длугаш (за іх, непісьменных, па іх асабістай просьбе, а таксама за тых, хто не прысутнічаў, распісаўся дваранін Апалон Паўлаў Дабравольскі), землеўласнік Аўгусцін Іваноў Уздоўскі, Міхаіл Уздоўскі (за іх, непісьменных, распісалася Сафія Шымкевіч), Мікалай Антонаў Шымкевіч, дваранін Бонавентура Кубліцкі, дваранін Адам Кубліцкі (за яго, непісьменнага, распісаўся Аўгусцін Кубліцкі), Аўгусцін Кубліцкі, дваранін Вікенцій Кубліцкі, Іван Гурскі, Андрэй Ільін Гурскі.[338]

Мітрапаліт 23 верасня, адразу пасля атрымання прашэння, прызначыў пробашчам у Чачэрск крычаўскага філіяліста ксяндза Юліяна Якубоўскага. Канцылярыя мітрапаліта прасіла паліцэйскае ўпраўленне абвясціць аб гэтым парафіянам Чачэрскага касцёла.[339]

Ксёндз Якубоўскі працаваў пробашчам з 1896 г. па 1903 г. Ужо ў 1900 г. Якубоўскі моцна хварэў і не мог у поўнай меры выконваць свае абавязкі. Таму ён у чэрвені 1900 г. паслаў тэлеграму біскупу-суфрагану Недзялкоўскаму, у якой пісаў, *што «не ў сілах спавядаць шматлікіх багамольцаў на святога Антонія»* і прасіў прыслаць на дапамогу яму пробашча суседняй Журавіцкай парафіі (Быхаўскі павет).[340] Святары з іншых парафій прыязджалі на дапамогу Якубоўскаму і пазней. Захаваўся рапарт Якубоўскага да мітрапаліта Клапатоўскага, які датуецца 19 студзеня 1903 г., у якім ён просіць *«у сувязі з цяжкай хваробай дазволіць яму і святару, які зможа прыбыць у Чачэрск, вянчаць чачэрскіх парафіян пасля аднаго абвяшчэння пры заключэнні шлюбу»*. Такі дазвол быў дадзены.[341]

Паводле перапісу 1897 г. у Чачэрску пражывала 2,3 тыс. чалавек.

У канцы XIX—пачатку XX ст. Чачэрская парафія апрача парафіяльнага Троіцкага касцёла мела некалькі капліц, якія знаходзіліся на значнай адлегласці адна ад адной. Так, у 1889 г. парафіі належалі наступныя капліцы: у аколіцах Аношкі, Асоўе, Лукомскія Паплавы, вёсках Рудня-Барталамееўская (Бутрамееўская) і Рудня-Нісімкавіцкая. Клас парафіі быў 3-ці. Вернікаў налічвалася 2 тысячы з лішкам.

Вясной і восенню, калі Сож і іншыя рэкі разліваліся, большая частка парафіі станавілася адрэзанай ад парафіяльнага касцёла. Тады набажэнствы праводзіліся не толькі ў Чачэрскім касцёле, але і ў капліцах, да якіх пробашчу прыходзілася дабірацца праехаўшы не адзін дзесятак кіламетраў.

Найбольш заможнымі парафіянамі былі землеўласнікі: Дзерналовіч Уладзімір Сцяпанавіч (1686 дзес. у Роўкавічах), Богуш Фёкла Адамаўна (1048 дзес. у Янове), Галіноўскі Аўгусцін Андрэевіч (434 дзес. у Ніўках), Даманскі Іван Іванавіч (321 дзес. у Малынічах), Драбышэўскі Міхаіл Вінцэнтавіч (176 дзес. у Шапатовічах), Антушэвіч Вінцэнт Леанардавіч (105 дзес. у Бердыжы і Сярэдніх Малынічах).[342]

Апрача гэтых нешматлікіх зямян (буйных землеўладальнікаў) і дробнай шляхты, якая паступова рухалася па шляху спантаннай паланізацыі, значную частку (больш за 30 %) парафіян складалі сяляне-беларусы, якія ў асноўным пражывалі ў вёсках Рудня-Барталамееўская, Рудня-Дудзіцкая і Рудня Нісімкавіцкая. Пераважная большасць сялян-католікаў мела прозвішчы Гулевічы, Карачуны, Карчэўскія, Ключынскія, Лукомскія, Сабалінскія і Шкарапацкія (прозвішчы і імёны чачэрскіх парафіян XIX ст. гл. у дадатку 7). Мала хто з гэтых сялянаў быў пісьменны, што бачна з метрычных кніг, дзе за іх распісваліся іншыя асобы. Польскай мовы сяляне-католікі практычна не разумелі, таму святары ў капліцах прамаўлялі да іх выключна па-беларуску. Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што католік ва ўсходніх землях Беларусі — гэта абавязкова польскамоўны шляхціч, тыповы чачэрскі парафіянін быў беларускамоўным непісьменным селянінам (часцей за ўсё з прозвішчам Гулевіч).

71.Беларуская вёска (Магілёўская губерня). Прыкладна так выглядалі
і каталіцкія вёскі Чачэршчыны. «Живописная Россия».

З прычыны таго, што мясцовыя сяляне-католікі жылі разам з праваслаўнымі і не адрозніваліся ад іх ні па мове, ні па нацыянальнасці, а толькі па рэлігіі, наглядалася перапляценне звычаяў, традыцый, вераванняў і абрадаў. Пра гэта пісаў Я.Жыскар у кнізе «Nasze kościoły», у раздзеле, які прысвечаны Чачэрскай парафіі:

*«Праваслаўныя святары мелі тут клопат з выкараненнем лацінізмаў і адвучэннем людзей ад рэлігійных практык, перанятых ад папярэдніх пакаленняў. Нават у вёсках, дзе ўжо не заставалася ніводнага католіка, можна было пачуць мелодыі каталіцкіх рэлігійных песень, якія спяваліся па старых падзёртых кантычках.*

*Каталіцкія адпусты прыцягвалі вялікую колькасць праваслаўных сялян. Шмат хто з іх лічыў абавязковым хаця б раз на год наведацца ў касцёл са сваёй сціплай ахвярай у выглядзе васковай фігуркі альбо пяцікапеечнай свечкі. Але разам з тым наглядалася і адваротная з'ява, калі і праваслаўныя звычаі, прычым не заўсёды добрыя, уздзейнічалі на сялян-католікаў.*

*Адным з такіх звычаяў, з якім мусілі змагацца каталіцкія святары, была так званая «Мікольшчына». Святы Мікалай ушаноўваецца двойчы на год: увесну і ўзімку, 19 снежня. У Беларусі і Расіі Мікалая вельмі шануюць, таму большасць цэркваў называлі ў яго гонар, і на абразах у сялянскіх хатах Мікалай сустракаецца часцей за іншых святых. Ушаноўваецца Мікалай і Каталіцкім Касцёлам, дзе ён прызнаны святым. Яго абразы можна часта ўбачыць у алтарах беларускіх касцёлаў.*

*Як з кожнай добрай рэчы людзі могуць зрабіць кепскае, найпрыгажэйшую ідэю перавярнуць, так і тут — з цудоўнага свята людзі сталі рабіць нейкую оргію. 19 снежня, у дзень святога Мікалая, па вёсках збіраліся групы сялян і з велізарнай свечкай і абразом святога Мікалая пачыналі абыходзіць хаты суседзяў. Гэты звычай быў бы няшкодны, каб усё абмяжоўвалася чытаннем малітваў. Аднак хаджэнне па хатах спалучалася з найстрашнейшай п'янкай. Гаспадар, да якога прыходзіла такая «свечка», мусіў не скупіцца і частаваць гасцей гарэлкай, бо лічылася, што ад гэтага залежыць яго дабрабыт.*

*Ідучы ад хаты да хаты натоўп узрастаў, удзельнікі ў п'яным угары пачыналі дзікія скокі, потым пачыналіся бойкі, адным словам, пабожная пілігрымка ператваралася ў п'яную оргію. Часта гэта трывала цэлымі тыднямі і набывала жахлівыя памеры. Дарэмнымі аказваліся ўсялякія ўгаворванні святароў. Занадта зросся гэты звычай з жыццём людзей, завялікай была спакуса гарэлкі.*

*Але аднойчы ці не сам Пан Бог прышоў на дапамогу святарам, калі ў адной з парафій адбыўся такі факт, які садзейнічаў упадку*

*«Мікольшчыны». У адной вёсцы пад час навальніцы (ні маланкі, ні бура не маглі перашкодзіць удзельнікам «Мікольшчыны»), калі лілася гарэлка ракой у хаце пэўнага гаспадара, ударыў пярун і ў імгненне вока спаліў хату. На шчасце, усе людзі выратаваліся, але гэтага было дастаткова, каб яны працверазіліся і ў панічным страху разбегліся па сваіх хатах.*

*Натуральна, што святары скарысталіся з гэтага факта, маўляў, сам Пан Бог такім чынам выразіў свой гнеў і абурэнне. Вестка пра гэта разышлася па вёсках, і чаго не магла зрабіць праца ксяндзоў у канфесіяналах і на амбонах, зрабіў адзін гэты факт. З гэтага часу звычай «Мікольшчына» стаў паціху сыходзіць. Вельмі цяжкай была праца святароў у гэтых мясцінах, дзе не толькі з няверʼем мусілі яны змагацца, але таксама і з людскай цемрай».*[343]

Дарэчы, Жыскар не перабольшвае, калі піша пра перапляценне вераванняў і звычаяў. У 2006 г. у вёсцы Рудня-Стаўбунская аўтару гэтага тэкста мясцовыя жыхары-католікі распавядалі, што яны святкуюць Радаўніцу, але толькі паводле каталіцкага календара, гэта значыць, арыентуюцца на каталіцкі Вялікдзень.

Пасля ксяндза Якубоўскага 28 мая 1903 г. пробашчам быў прызначаны Вільгельм Ручынскі — былы вікарый Пецярбургскага касцёла Святога Станіслава.[344]

У кастрычніку 1903 г. ксёндз Ручынскі асвяціў кавалак поля ў вёсцы Рудня-Дудзіцкая, які жыхары вёскі адвялі для пашырэння вясковых могілак.[345]

З 11 красавіка 1906 г. па 1909 г. адміністратарам Чачэрскай парафіі працаваў Юліян Гронскі (адначасова адміністраваў і філію у Люшаве).

Кожны год Гронскі на працягу месяца збіраў у сябе ў плябаніі дзяцей для падрыхтоўкі іх да першай споведзі і святой камуніі. У 1908 г. ён вырашыў прысвяціць навучанню дзяцей некалькі месяцаў, бо пераканаўся, што аднаго месяца на гэтую справу мала. Для гэтага ён выпісаў з Польшчы практычны дапаможнік і знайшоў у Чачэрску памяшканне для школкі.

Але, як пісаў Гронскі, *«людзі злой волі»* сталі перашкаджаць гэтай справе. Відаць, былі зроблены даносы ў паліцыю, бо яна наведалася ў школу і завяла справу, якая была перададзена следчаму. Пасля выканання следства следчы накіраваў справу ў акружны суд. Незважаючы на ўсё гэта Гронскі працягваў заняткі з дзецьмі. Ён накіраваў ліст пралату з тым, каб той ведаў аб сітуацыі і, наколькі гэта магчыма, абараніў ад уладаў.[346]

Таксама Гронскі накіраваў ліст магілёўскаму губернатару, у якім пісаў, што 25 лістапада 1892 г. мітрапалітам Казлоўскім быў выдадзены цыркуляр з прадпісаннем пробашчам клапаціцца аб

навучанні дзяцей католікаў малітвам, прыказанням і асноўным правілам рыма-каталіцкай веры. Калі Гронскі адведваў сваіх парафіян, то прыкмеціў, што шмат хто з іх, асабліва дзеці і моладзь, не толькі не ведаюць асноўных правіл веры, але нават не ўмеюць чытаць штодзённай Панскай малітвы «Ойча наш» і хрысціцца па-каталіцку.

Менавіта гэтае *«сумнае становішча дзяцей католікаў пры бязвер'і, якое ўвесь час пранікае ў народныя масы»* прымусіла мітрапаліта Казлоўскага *«нагадаць парафіяльнаму духавенству неабходнасць належнага выканання 3-х пунктаў «De obligationibus parochorum»* (абавязкаў пробашчаў), якімі ўскладаецца на іх абавязак па выказаным прадмеце. Таму Гронскі, як пробашч каталіцкай парафіі, які абавязаны беспярэчна выконваць прадпісанні сваёй высокай духоўнай улады, мусіць згодна ўпамянутаму цыркуляру і ўвогуле патрабаванням Каталіцкага Касцёла паклапаціцца аб тым, каб дзеці вернікаў Чачэрскай парафіі вывучылі як трэба асновы рыма-каталіцкай веры. Не жадаючы мець ніякіх перашкод з боку ўладаў пры навучанні дзяцей католікаў асновам каталіцкай веры, Гронскі прасіў губернатара аб дазволе адчыніць пры Чачэрскім касцёле парафіяльную школу. А да атрымання дазволу, пісаў Гронскі, ён сабраў у Чачэрск дзяцей мясцовых і навакольных парафіян з мэтай падрыхтаваць іх да першай споведзі і камуніі.[347]

Пасля Гронскага, з 23 чэрвеня 1909 г. па 9 чэрвеня 1910 г., пробашчам быў Пётр Бараноўскі.

31 сакавіка 1910 г. дырэктар Дэпартамента духоўных спраў іншаземных веравызнанняў звярнуўся да біскупа Стэфана Данісевіча з лістом, дзе паведамляў аб ініцыятыве вялікага князя Мікалая Міхайлавіча, які *«изволил выразить желание собрать и издать копии со всех надписей в инославных и иноверных богослужебных зданиях России, на внутренних и внешних стенах, надгробных плитах и иных местах храма, а равно на могилах, помещенных на кладбище»*.

8 красавіка 1910 г. магілёўская кансісторыя пастанавіла: паведаміць усім службовым асобам Магілёўскай архідыяцэзіі і Мінскай дыяцэзіі прадставіць у найхутчэйшы час *«в консисторию буквальные копии с выше сказанных надписей»*. Назіранне за зборам звестак было ўскладзена на дэканаў, таксама было загадана паведамляць аб адсутнасці надпісаў.

Даволі хутка, у тым жа 1910 г., копіі надпісаў у двух экземплярах былі сабраны, аднак з нейкіх прычын так і не адасланы ў Пецярбург.[348]

Вось што паведамляў на гэты конт у сваім рапарце ў магілёўскую кансісторыю ад 15 чэрвеня 1910 г. ксёндз Пётр Бараноўскі:

*«Паведамляю, што ў Чачэрскім касцёле ёсць надпісы: у сярэдзіне касцёла над галоўным алтаром «Святы, Святы, Святы Бог Усемагутны» і знадворку на франтоне «Услаўляйце Госпада ўсе народы», а на могілках адзіны надпіс: «В.П. пробашч Чачэрскага касцёла Ян Юшкевіч, 1799 †9.10.1854 г.»*.[349]

9 чэрвеня 1910 г. выконваць абавязкі чачэрскага пробашча быў прызначаны Вінцэнт Ільгін. З 8 ліпеня 1910 г. ён — пробашч Чачэрскага касцёла. На гэтай пасадзе заставаўся да 1918 г.

72.Ксёндз Ільгін. «Нашы касцёлы».

Адпустовыя святамі ў Чачэрскім касцёле былі: Найсвяцейшай Тройцы і святога Антонія Падуанскага.

Касцёл меў прывілеі, дадзеныя мітрапалітам Шамбекам 5 красавіка 1905 г.[350]

Чачэрскі касцёл у гэты перыяд меў наступны выгляд. Дах касцёла быў пакрыты бляхай, пафарбаваны алейнай фарбай. На фасадзе быў крыж з пазалочанай фігурай Езуса Хрыстуса. Усе вокны касцёла мелі жалезныя краты. 8 калон падтрымлівалі знешнія карнізы. На вежы было 3 званы. Меўся новы арган. Падлога была з дошак. Касцёл быў абнесены ажурным цагляным мурам, накрытым бляхай.

У касцёле знаходзілася 5 алтароў. Галоўны алтар меў абраз Найсвяцейшай Панны Марыі ў сярэбранай рызе і кароне. Над галавой Божай Маці было 12 зорак, пад нагамі маладзік, па баках кленчылі св. Францыск і св. Антоні ў срэбраных рызах. На абразах было некалькі шнуркоў з пярлінамі нізкай якасці.

2-гі алтар быў з абразом св. Антонія, дзвюма гіпсавымі фігурамі Панны Марыі і св. Антонія.

3-ці алтар — з абразом Божай Маці Чанстахоўскай і запячатанай дошкай з мошчамі святых.

4-ы алтар — з Укрыжаваным Езусам Хрыстусам і абразом св. Мікалая. Фігура Збавіцеля мела сярэбраную карону. На чырвоным фоне пры Укрыжаваным Езусе Хрыстусе былі вывешаны 2 нагі, 2 рукі і сэрца з чыстага пазалочанага серабра. У касцёле была мармуровая дошка — апячатаны камень з рэліквіямі святых.

5-ы алтар быў з абразом Святой Тройцы, уверсе знаходзіўся абраз св. Ігнацыя альбо св. Алозія са св. Станіславам Косткам.

Стацый Крыжовай Дарогі Езуса Хрыстуса было 14 з 7-ю абразамі.

З іншых пабудоў была плябанія — драўляны дом на каменным падмурку, даўжынёй 27, шырынёй 13,5, вышынёй 4,5 аршынаў. Дом меў 6 пакоеў, быў пакрыты драніцай. Да дома была дабудавана галерэя і кухня з цагляным склепам. У 1903 г. увесь дом быў пафарбаваны. Таксама меліся стайня, вазоўня, хлеў для хатняй жывёлы, свінарнік, асобная пуня для сена, пакрытая саломай, амбар, свіран, пад ім ляднік. Дом для арганіста быў куплены 18 мая 1855 г., пры ім 13,5 × 22 сажняў зямлі. Меўся невялікі фруктовы сад, абнесены драўляным плотам.

Бібліятэка налічвала 169 кніг.

Ахвярадаўцамі былі: фельдмаршал граф Захар Чарнышоў, Ванда Сулістроўская, ксёндз Вільгельм Ручынскі, графіня Ганна Чарнышова, Мікалай Лукомскі, Люшаўскі, Станіслаў і Малгажата Акінчыцы, ксёндз Мікалай Гіртовіч, ксёндз Францыск Клаво, ксёндз Юшкевіч, Станіслава Неслухоўская, ксёндз Юліян Дубраўскі з Гомеля, ксёндз Пётр Бараноўскі, ксёндз Юліян Гронскі, Вінцэнт Кадлубак.[351]

Касцельны архіў утрымліваў метрычныя кнігі: хростаў з 1730 г. па 1880 г. і далей да 1903 г., шлюбаў з 1730 г. па 1880 г. і далей, аб памерлых з 1730 г. па 1903 г. і далей, а таксама кнігі дашлюбных экзаменаў з 1842 г. па 1903 г.

Да Чачэрскай парафіі ў пачатку ХХ ст. належалі наступныя населеныя пункты:

Анопаль, Аношкі, Асінаўка, Асоўе, Бердыж, Бярозаўка, Габраўка, Гарадоўка, Глухаўка, Гута, Дзербічы, Дуброўка, Жабін, Захарполь, Зацішша, Куракі, Курганы, Лесавая Буда, Ліпа, Лукомскія Паплавы, Маліноўскія Малынічы, Меркулавічы, Нісімкавічы, Ніўкі, Новыя Малынічы, Падасоўе, Плюсішча, Пустынкі, Роўкавічы, Рудня-Барталамееўская, Рудня-Дудзіцкая, Рудня-Нісімкаўская, Свяцілавічы, Фундамінка, Чарняўскія Малынічы, Чачэрск, Шапатовіцкія Паплавы, Шаламея, Шапатовічы, Шылавічы, Шырокае, Юзін.

У жніўні 1909 г. Чачэрскую парафію наведаў біскуп Данісевіч, які візітаваў парафіі Магілёўскай губерні. Ім быў пабежмаваны 321 вернік.

У 1916 г. у Чачэрску разам з пробашчам Ільгіным працавалі святары Сухецкі і Кавінскі. Ксёндз Сухецкі быў камандзіраваны для абслугоўвання ўцякачоў-католікаў кіраўніком Магілёўскай архідыяцэзіі біскупам Цепляком. У лісце біскупа пробашчу Ільгіну 4 лістапада 1915 г. гаварылася:

*«Пану пробашчу Чачэрскага касцёла. Рэгенс Сандамірскай рыма-каталіцкай кансісторыі і прафесар Сандамірскай дыяцэзіальнай семінарыі, ксёндз Станіслаў Сухецкі мной камандзіраваны ў Рагачоўскі павет, у распараджэнне мясцовых пробашчаў, для абслугоўвання рэлігійных патрэб уцекачоў-католікаў. Ставячы Вас аб тым у вядомасць, прапаную Вам праз месяц данесці мне аб колькасці ўцекачоў у даручанай Вам парафіі, на прадмет працягнення камандзіроўкі».*[352]

У 1916 г. парафіі належалі капліцы ў Аношках, Акшынцы, Асоўі, Лукомскіх Паплавах, Нямковічах, Рудні-Барталамееўскай, Рудні-Нісімкавіцкай і Ухове.[353]

## 5. ПАРАФІЯ ПРЫ САВЕТАХ

У час рэвалюцый 1917 г. Чачэрская парафія налічвала 1810 вернікаў. Мела капліцы ў Аношках, Лукомскіх Паплавах, Рудні-Барталамееўскай, Рудні-Нісімкавіцкай.

У 1917 г. у Чачэрску на свята Божага Цела працэсія адбылася публічна, па вуліцах мястэчка. Сучаснік, Аляксандр Дамарацкі, так апісваў гэтую падзею: *«Працэсія была ўрачыстай і карыснай для тутэйшага, адсталага ў рэлігійным сэнсе, простага люду, шмат хто з якога і маліцца па рэлігійных кнігах не мог* (бо кнігі былі польскамоўныя, а іншых рэлігійных кніг, напрыклад, беларускіх практычна не існавала, — У.В.)*, бо не існавала польскіх школ і нават хатняе навучанне польскай мове сурова каралася. Таму натуральна, што вырасла пакаленне, якое настолькі было знаёмае з рэлігійнымі кнігамі і мовай, наколькі гэта змагла прышчапіць маці, якая сама часта не ўмела ні чытаць, ні размаўляць па-польску».*[354]

У 1917 г. пробашч Ільгін быў выбраны дэлегатам на дыяцэзіяльны сход ад Гомельскага дэканата. Замяшчаў яго ў Чачэрску ксёндз капелан Дамінік Іваноў. У 1918 г. пробашч Ільгін быў прызначаны вікарыем у Харкаў.[355]

З красавіка 1919 г. выконваючым абавязкі пробашча быў Альбін Шаціла. 5 мая 1920 г. ён быў прызначаны біскупам Цепляком пробашчам. Акрамя таго, ксёндз Шаціла да 1922 г. загадваў Журавіцкім і Астроўскім касцёламі, якія ён у лістападзе 1922 г. перадаў пад загад рагачоўска-быхаўскаму дэкану ксяндзу Ігнату Бернатовічу.

72.1. Ксёндз Шаціла.

Мястэчка Чачэрск у гэты час уваходзіла ў Рагачоўскі павет Гомельскай губерні РСФСР. Згодна з рапартам ксяндза Шацілы да

мітрапалітальнай курыі ад 15 снежня 1921 г., у парафіі налічвалася 2 тыс. вернікаў, маральны стан якіх быў неблагі. Колькасць парафіян перастала змяншацца. Імшу ў нядзелю наведвала ў сярэднім 30—40 чалавек, абавязковыя святы — 100—150 чалавек, большасць якіх бывала на споведзі і камуніі. У год да першай споведзі і камуніі прыступала 30—40 дзяцей, якія навучаліся рэлігіі, наколькі гэта было магчыма ў тых умовах, у касцёле і некаторых вёсках. Налічвалася 4 мяшаныя сям'і (адзін з супругаў — католік), якія наведвалі касцёл, 2 мяшаныя сям'і хадзілі ў царкву.

Капліцы былі ў Аношках (10 вёрст ад Чачэрска), Лукомскіх Паплавах (12 вёрст), Рудні-Нісімкавіцкай (20 вёрст) і Рудні-Барталамееўскай (25 вёрст). Касцёл валодаў садам, які даваў у год каля 1 тыс. пудоў садавіны, і невялікім агародам. Касцельны камітэт быў фіктыўны, гэта значыць, існаваў толькі на паперы. Метрычных кніг у касцёле не было, а кнігі за 1918, 1919 і 1920 гг. былі адпраўлены гомельскаму дэкану для адаслання курыі.[356]

У 1923 г. настаді цяжкія часы для Чачэрскай парафіі. Вось што ўласнаручна пісаў аб гэтым ксёндз Шаціла:

*«Шаноўнаму ксяндзу сакратару. Вельмі прашу ласкава даць мне раду і даслаць як найхутчэй. Год цывільныя ўлады дамагаюцца падпісання дамовы на касцёл. Далей гэта справа доўжыцца не можа. Усе сродкі абароны ўжытыя. Застаецца або падпісаць, насуперак праву, або прыгаварыць касцёл быць зачыненым і ўжытым для іншай мэты. Нават ужо гатовы праект кінатэатра або клуба. Ужо ўсе цэрквы і сінагогі даўно падпісалі, што робіць цяжкім лёс касцёла. Падалі мы заяву, рэкамендаваную курыяй, але гэта не дапамагло. Горача малю аб малітве і радзе. Сакавік 1923 г. Чачэрск. Альбін Шаціла».*[357]

У другім лісце ксёндз Шаціла пісаў: *«Шаноўны ксёндз канонік! Справа падпісання дагавору ў Чачэрску пачалася ў сакавіку. Пачатак быў звычайны: сходы, агітацыя, людзі супраціўляліся. 22 красавіка ўвечары грамадзянскія ўлады разам з міліцыяй прышлі да касцёла і зрабілі спіс рэчаў і паставілі мне ультыматум: дайце распіску ў тым, што на набажэнстве ніколі не будзе больш за тры чалавекі. Я адмовіўся. Тады яны замкнулі і апячаталі касцёл. Пісаў курыі перад самым замыканнем і дасюль адказу не атрымаў.*

*З мэтай прымушэння вернікаў падпісаць дагавор забаранілі бываць на набажэнстве ў плябаніі і ў дамах прыватных у вёсках, капліцы пагражалі замкнуць. Супольныя майскія набажэнствы ў вёсках камуністы разагналі і забаранілі. Нельга было праводзіць катэхізацыю дзяцей. 18 жніўня пасланыя падаць заяву аб адамкненні касцёла і падаць падпіску, прысланую праз курыю, падпісалі дагавор, бо мясцовая ўлада рашуча адмовілася прыняць*

*распіску. У той жа дзень пячатку знялі, а 19-га ключ аддалі парафіянам. Так недарэчна і цьмяна скончылася справа. Маё становішча яшчэ больш недарэчнае. Воля арцыпастыра не выканана, частка вернікаў страціла да мяне давер, а я ў іх расчараваўся, у цывільнай улады вораг. Сцены, якія раней стараўся як найладней убіраць, цяпер мне нямілыя.*

*22 жніўня была зачыненая і апячатаная капліца на цвінтары ў Аношках. Такі самы лёс чакае рэшту капліц. Справу касцёла, капліц, сваю на суд шаноўнага ксяндза каноніка аддаю і вырак ахвотна прыму. Цалую руку шаноўнага ксяндза каноніка. Ксёндз Альбін Шаціла. 30 жніўня 1923 г.»*.[358]

Хутка пасля гэтага Шаціла (верагодна, па яго просьбе) перавялі ў Фашчаўку. У Чачэрск прыязджаў ксёндз Валынец, які да 1929 г. быў філіялістам Люшаўскага касцёла і па сумяшчальніцтве выконваў функцыі чачэрскага адміністратара. Верагодна, у другой палове 1920-х гг. Валынец пераважна пражываў у Чачэрску, а не ў Люшаве.

Як і ў 1921 г., у 1923 г. Чачэрская парафія акрамя парафіяльнага касцёла мела 4 капліцы ў аколіцах Аношкі і Лукомскія Паплавы, вёсках Рудня-Нісімкавіцкая і Рудня-Барталамееўская.

У пачатку 1926 г. меліся капліцы ў Аношках, Лукомскіх Паплавах, Асоўі, Рудні-Нісімкаўскай і Рудні-Барталамееўскай.

У 1927—1928 гг. капліца ў Лукомскіх Паплавах ужо не дзейнічала.[359]

Дзейнасць ксяндза Валынца была пад пільнай увагай супрацоўнікоў Польбюро Гомельскага акружнога камітэта КПБ(б), якія падрабязна фіксавалі ўсе факты, якія былі звязаныя з дзейнасцю святара. У 1929 г., па даных партыйных органаў, ксёндз Б.Валынец праводзіў агітацыю сярод сялянаў у вёсцы Рудня-Нісімкавіцкая за набыццё звона для капліцы. Улады таксама адсочвалі і фіксавалі ўсе рэлігійныя гурткі і касцельныя рады. І Польбюро, і ДПУ неаднаразова адзначалі, што такія існуюць амаль пры кожным касцёле, амаль у кожным польскім (каталіцкім) населеным пункце.

Асаблівая ўвага з боку ўлады ўдзялялася збору інфармацыі аб рэлігійнасці насельніцтва. У справаздачы пра працу польскай рухомай школы ў вёсцы Рудня-Нісімкавіцкая ў 1928 г. паведамлялася: «*У вёсцы мелі месца моцныя рэлігійныя настроі сярод жанчын і дзяўчын*».[360] Пры гэтым фіксавалася моцная рэлігійнасць і ў камсамольцаў. Аб гэтым гавораць шматлікія факты выключэння з шэрагаў арганізацыі за наведванне касцёла.

Савецкія ўлады не абмяжоўваліся адным зборам інфармацыі. Антырэлігійная праца праводзілася не спыняючыся на працягу ўсіх 1920-х гг. У розны час яна мела розную актыўнасць і была як

агітацыйна-прапагандысцкай, так і адміністрацыйна-рэпрэсіўнай. У сярэдзіне 1920-х гг. дамінавала агітацыйна-прапагандысцкая, якая выражалася ў правядзенні розных кампаній, гутарак, лекцыяў, распаўсюджванні прапагандысцкай літаратуры, далучэнні насельніцтва да гурткоў «Саюза бязбожнікаў» і г.д. У канцы 1920-х гг. на першы план выйшлі адміністрацыйна-рэпрэсіўныя метады, якія заключаліся ў закрыцці касцёлаў і капліц і рэпрэсіях супраць святароў і найбольш актыўных вернікаў. Гэты кірунак стаў асноўным пасля прыняцця ў 1929 г. пастановы УЦВК «Аб рэлігійных аб’яднаннях», якая адкрыла новую старонку ў гісторыі рэлігіі ў СССР.

Так, у 1930 г. сакратар Гомельскага Польбюро паведамляў у Мінск, што змяншэнне рэлігійных гурткоў тлумачыцца не толькі працай «Саюза бязбожнікаў», але і высылкай «некаторых контррэвалюцыйных элементаў» (святароў і актыўных вернікаў), а майскія набажэнствы 1929 г. спыніліся толькі ў сувязі з правядзеннем кампаніі арыштаў.

У 1929 г., у час пажару, у Чачэрску згарэў парафіяльны Троіцкі касцёл (магчыма, што пажар быў арганізаваны ўладамі). Аб гэтым гаворыцца ў лісце сакратара Польбюро Гомельскага Акружнога Камітэта КПБ(б) Мінейкі ў Польбюро ЦК КПБ(б): *«У цяперашні час з наяўных касцёлаў 7-мі і 2 капліц засталіся 2 касцёлы ў Гомелі і Рэчыцы і 1 капліца ў Рудні-Стаўбунскай, пры 1 ксяндзу ў Гомелі. З былых касцёлаў толькі 1 згарэў у час пажара ў Чачэрску, а астатнія згодна з абсалютнай большасцю каталіцкага насельніцтва перададзены пад школы, бальніцу і клубы. Званы аддадзены ў фонд індустрыялізацыі»*.

Месца, дзе знаходзіліся касцёл і цвінтар (у раёне сучасных вуліц Замкавай, Перамогі і Грышы Падабедава), было аддадзена пад прыватную забудову. Цяпер тут знаходзяцца хаты і агароды гараджан. Паводле расказаў мясцовых жыхароў, дасюль на агародах знаходзяць цагліны. У пасляваенны час быў канчаткова знішчаны і будынак суседняй царквы Раства Багародзіцы. На месцы царквы цяпер таксама знаходзяцца хаты і агароды. На агародах жыхары часам выкапваюць чалавечыя парэшткі.

73.На месцы гэтых дамоў знаходзіўся Троіцкі касцёл і цвінтар.
74.

У канцы XIX—пачатку XX ст. некаторыя з сялян-католікаў Гулевічаў і Шкурапацкіх перасяліліся ў Прыамур’е, дзе, верагодна, заснавалі вёску Рагачоўка. Пражывалі яны і ў вёсцы Серабранка.

Цяпер гэта Свабодненскі раён Амурскай вобласці.[361] Перасяленцам-сялянам у Прыамур'і на кожную сям'ю бесплатна выдзялялася 100 дзес. зямлі. Звыш таго, бедным сялянам урад аплачваў переезд і выдзяляў харчовую дапамогу.

І на Далёкім Усходзе чачэрскія католікі намагаліся прытрымлівацца каталіцтва, хрысціць дзяцей паводле каталіцкага абраду. Захаваліся некаторыя звесткі пра такія хросты. Так, 18 мая 1900 г., у вёсцы Рагачоўцы курат Адам Шпігановіч хрысціў хлопчыка Вікенція Гулевіча, які нарадзіўся 25 снежня 1899 г. у сялян Францыска і Урсулы Гулевічаў. Хроснымі былі Мікалай Гулевіч і Юзэфа Шкурапацкая. Таксама ксёндз Адам Шпігановіч пахрысціў дзяўчынку Сафію Гулевіч, якая нарадзілася ў гэты дзень у Івана і Вікторыі Гулевічаў. Хроснымі былі Антоні Шымкунас і Кацярына Шкурапацкая.

А ў 1907 г. у вёсцы Рагачоўцы на сродкі сялян-католікаў была пабудавана драўляная, пакрытая ліставым жалезам капліца. Будынак мог змясціць прыкладна 300 чалавек. У капліцы былі зроблены хоры, амбон, канфесіянал, пастаўлены 4 лаўкі. У 1912 г. на сродкі парафіяніна Гартунга пабудаваны алтар. Капліца належыла да Дабравешчанскай парафіі. Да гэтай жа парафіі належала і вёска Серабранка.[362]

У 1930-я гг. шмат хто з прыамурскіх Гулевічаў быў рэпрэсіраваны. Сярод іх:

Гулевіч Адам Іванавіч. Нарадзіўся ў 1880 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў цесляром у калгасе «14 гадоў Кастрычніка» у в. Серабранка Свабодненскага раёна. Арыштаваны 21 жніўня 1938 г. паводле арт. 58-2-11. Пастановай ад 14 мая 1939 г. справа спынена.

Гулевіч Уршуля Пятроўна. Нарадзілася ў 1877 г. у Магілёўскай губерні. Працавала ў калгасе ў в. Серабранка Свабодненскага раёна. Асуджаная «тройкай» УНКУС па Далёкаўсходнім краі[363] 29 красавіка 1938 г. да 10 гадоў канцлагеру.

Гулевіч Вікенцій Самуілавіч. Нарадзіўся ў 1883 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў загадчыкам крамы ў Дальгандлі ў г. Свабодным. Асуджаны Асобай нарадай пры НКУС СССР 30 снежня 1937 г. Расстраляны 17 сакавіка 1938 г.

Гулевіч Іван Іванавіч. Нарадзіўся ў 1888 г. у Магілёўскай губерні. Жыў у п. Суражаўка, селянін. Асуджаны Асобай нарадай пры НКУС СССР 4 студзеня 1938 г.

Гулевіч Іосіф Васілевіч. Нарадзіўся ў 1891 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў конюхам у г. Свабодным. Асуджаны камісіяй НКУС і Пракурора СССР 11 лістапада 1937 г. паводле арт. 58-11 КК РСФСР. Расстраляны 2 снежня 1937 г.

Гулевіч Іосіф. Нарадзіўся ў 1914 г. у в. Серабранка Свабодненскага раёна. Працаваў у калгасе «14 гадоў Кастрычніка». Арыштаваны 29 жніўня 1938 г. паводле арт. 58 КК РСФСР. Пастановай ад 14 мая 1939 г. справа спынена.

Гулевіч Казімір Якаўлевіч. Нарадзіўся ў 1874 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў у калгасе «Рагачоўка» Свабодненскага раёна. Асуджаны камісіяй НКУС 30 снежня 1937 г. Расстраляны.

Гулевіч Канстанцін Пятровіч. Нарадзіўся ў 1918 г. у в. Рагачоўка Свабодненскага раёна. Курсант Ленінградскага ваеннага вучылішча сувязі. Раней пражываў у г. Навасібірск. Арыштаваны 2 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 9 лістапада 1937 г. прыгавораны паводле арт. 58-6 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Ленінградзе 15 лістапада 1937 г. (паводле іншых даных, 12 лістапада).

Гулевіч Кузьма Іванавіч. Нарадзіўся ў 1878 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў у калгасе ў в. Рагачоўка Свабодненскага раёна. Асуджаны камісіяй НКУС 23 лютага 1938 г. Расстраляны.

Гулевіч Кузьма Паўлавіч. Нарадзіўся ў 1909 г. у в. Серабранка Свабодненскага раёна, працаваў у калгасе. Асуджаны камісіяй НКУС 30 снежня 1937 г. Расстраляны.

Гулевіч Леан Пятровіч. Нарадзіўся ў Магілёўскай губерні. Працаваў у арцелі «Чырвоны Усход» у в. Дуброўка Свабодненскага раёна. Арыштаваны 16 жніўня 1938 г. паводле арт. 58-2-6-9-11 КК РСФСР. Пастановай ад 11 мая 1939 г. справа спыненая.

Гулевіч Мікалай Іосіфавіч. 1884 г. нараджэння, ураджэнец в. Рудня Магілёўскай губерні. Пражываў у в. Серабранка Свабодненскага раёна. Працаваў цесляром у калгасе «14 гадоў Кастрычніка». Арыштаваны 21 жніўня 1938 г. паводле арт. 58-2, 58-6, 58-8, 58-11 КК РСФСР. 15 сакавіка 1939 г. крымінальная справа спыненая. Вызвалены з-пад варты.

Гулевіч Павел Сцяпанавіч. Нарадзіўся ў 1893 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў цесляром у калгасе «14 гадоў Кастрычніка» ў в. Серабранка Свабодненскага раёна. Арыштаваны 21 жніўня 1938 г. паводле арт. 58 КК РСФСР. Пастановай ад 14 мая 1939 г. справа спыненая.

Гулевіч Пётр Ягоравіч. Нарадзіўся ў 1886 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў цесляром у п. Суражаўка. Арыштаваны 15 жніўня 1938 г. паводле арт. 58-2-6-9-11 КК РСФСР. Пастановай ад 11 мая 1939 г. справа спыненая.

Гулевіч Пётр Іванавіч. Нарадзіўся ў 1882 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў кавалём у калгасе «14 гадоў Кастрычніка» ў в. Серабранка Свабодненскага раёна. Асуджаны камісіяй НКУС і

Пракурора СССР паводле арт. 58-10 КК РСФСР 30 снежня 1937 г. Расстраляны 28 студзеня 1938 г.

Гулевіч Станіслаў Пятровіч. Асуджаны на 8 гадоў як сацыяльна небяспечны элемент. З 12 жніўня 1948 г. у высылцы ў в. Іллічова Шушанскага раёна, у саўгасе імя Леніна. На 20 верасня 1951 г. быў загадчыкам сада 3-га аддзялення, старшым аграномам садаводства.

Гулевіч Сцяпан Аляксандравіч. Нарадзіўся ў 1912 г. у в. Серабранка Свабодненскага раёна, працаваў інспектарам наргасуліка. Асуджаны Асобай нарадай пры НКУС СССР 4 студзеня 1938 г. паводле арт. 58-10 КК РСФСР на 10 гадоў канцлагеру.

Гулевіч Сцяпан Рыгоравіч. Нарадзіўся ў 1879 г. у Магілёўскай губерні. Працаваў у калгасе «14 гадоў Кастрычніка» ў в. Серабранка Свабодненскага раёна. Асуджаны камісіяй НКУС 11 лістапада 1937 г. Расстраляны.

Гулевіч Сцяпан Сцяпанавіч. Нарадзіўся ў 1903 г., ураджэнец в. Серабранка Свабодненскага раёна. Пражываў у в. Серабранка. Працаваў кладаўшчыком у калгасе «14 гадоў Кастрычніка» ў в. Серабранка Свабодненскага раёна. Арыштаваны 21 жніўня 1938 г. 15 сакавіка 1939 г. крымінальная справа спыненая, вызвалены з-пад варты.

Гулевіч Юлія Пятроўна. 1917 г. нараджэння, месца нараджэння — Амурская вобласць. Беспартыйная, адукацыя няпоўная сярэдняя, без пэўных заняткаў. Арыштавана 9 кастрычніка 1937 г., выслана паводле арт. 58-6 на 5 гадоў.

У савецкі перыяд вялікая колькасць чачэрскіх католікаў была рэпрэсіраваная. Але і пасля знікнення касцёла католікі нейкі перыяд адпраўлялі Імшу ў прыватных дамах Чачэрска.

У канцы 1980-х гг. рэлігійнае жыццё ва ўсходняй Беларусі паволі пачало адраджацца. На тэрыторыі былога Гомельскага дэканата Магілёўскай архідыяцэзіі былі адроджаны Гомельская і Жлобінская парафіі. Чачэрская ж парафія да сённяшняга дня так і не паўстала (каталіцкае жыццё захавалася толькі ў вёсцы Рудня-Нісімкавіцкая). Адной з прычын з’яўляецца тое, што Чачэрскі раён моцна пацярпеў ад наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Вёскі, у якіх пражывалі католікі, былі альбо поўнасцю адселены, альбо іх жыхары атрымалі права на адсяленне, і значная колькасць людзей з’ехала ў іншыя раёны краіны (калі ў 1986 г. у раёне пражывала 30 тыс. чалавек, то ў 2005 г. — толькі 17 тыс.).

## 6. НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ, У ЯКІХ ІСНАВАЛІ КАПЛІЦЫ ЧАЧЭРСКАЙ ПАРАФІІ

АКШЫНКА

Вёска ў Свяцілавіцкім сельсавеце Веткаўскага раёна. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС вёска цалкам адселена і сёння не існуе. Знаходзілася за 27 км на поўнач ад Веткі, 49 км ад Гомеля. Вядома з XVIII ст. У 1785 г. налічвала 43 жыхары. Памешчык В.Шэлюта. У 1847 г. было 26 двароў, 181 жыхар, 1915 дзес. зямлі. У аднайменным фальварку Язерскіх у 1897 г. было 4 двары, 24 жыхары. Рыма-каталіцкая капліца.[364]

Першапачаткова паселішча, верагодна, называлася Акрынка. Менавіта такая форма сустракаецца ў попісе Рэчыцкага павета 1765 г., дзе Акрынка ўказваецца як уладанне Станіслава Бельскага, чашніка чарнігаўскага. Пад уплывам польскай мовы назва маёнтка стала вымаўляцца як Акшынка. У 1785 г. уладальнікам Акшынкі значыцца Восіп Шэлюта. Пазней належала Язерскім. Капліца ў маёнтку Язерскіх была пабудавана ў 1808 г. Асвяціў яе, па ўсёй верагоднасці, паміж 1820 і 1827 гг. пробашч Пашавіцкі, які адначасова з’яўляўся беліцкім віцэ-дэканам. Капліца была прыпісана да Радужскай парафіі.

У 1848 г. капліца была адрамантавана (хутчэй за ўсё, перабудавана). Знаходзілася на могілках за чвэрць вярсты ад гаспадарчых пабудоў, добра ўтрымлівалася, мела ўсё належнае начынне і была абкружаная ровам. Вясной і восенню, у час разліву Сожа і Бесядзі, сувязь з парафіяльным касцёлам практычна спынялася. Індульт на капліцу 13 снежня 1849 г. за № 1767 быў выдадзены мітрапалітам Казімірам Дмахоўскім на 6 гадоў, а 14 снежня 1855 г. прадоўжаны. Пасля ліквідацыі ў 1866 г.[365] Радужскай парафіі капліца належала да Чачэрскай парафіі.

31 сакавіка 1895 г. магілёўскі губернатар напісаў ліст міністру ўнутраных спраў, у якім паведамляў, што ўласнік маёнтку Акшынка, дваранін Рагачоўскага павета рыма-каталіцкага веравызнання Фаўстын Казіміраў Язерскі ў канцы 1894 г. без усялякага дазволу перакрыў рыма-каталіцкую капліцу, якая знаходзіцца ў яго маёнтку. Пры гэтым гонтавы дах замяніў новым, жалезным. Але пры выбыцці ў 1869 г. Магілёўскай губерні са складу «Паўночна-Заходняга краю» (г.зн., віленскага генерал-губернатарства) было загадана, каб і надалей для губерні заставалася ў моцы распаражэнне віленскага генерал-губернатара ад 29 чэрвеня 1864 г. аб абмежаванні пабудовы новых ці аднаўлення старых рыма-каталіцкіх касцёлаў, капліц і алтароў без папярэдняга дазволу генерал-губернатара.[366]

На запытанне, чаму рамонт здзейснены без вызначанага дазволу, пан Язерскі прад’явіў тлумачэнне і копію ўказа магілёўскай

рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі ад 21 жніўня 1842 г. за № 3527, згодна з якім ён лічыў не патрэбным прасіць дазвол на рамонт.

Тэкст тлумачэння Язерскага быў наступны:

*«Тлумачэнне. Рагачоўскага павета 4 стана ў маёнтку маім Акшынцы на могілках капліца, у якой пахаваны мае продкі і бацькі, у якую і цяпер уносяцца мёртвыя целы да прыбыцця святара. У капліцы ніякага рамонту зроблена не было, а толькі з-за дзіравага даха адзін толькі дах выпраўлены ў былым годзе. Алтар ёсць, і за памерлых бывае Імша з дазволу магілёўскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі ад 21 жніўня 1842 г. Прашу памілавання і дазволу васьмідзесяцітрохгадоваму старому губернскаму сакратару Фаўстыну Казіміравічу Язерскаму. 3 сакавіка 1895 г.».*[367]

Указ, які Язерскі прад'явіў паведамляў:

*«Указ Яго Імператарскай Вялікасці Самадзержца Усерасійскага з магілёўскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі. Радужскаму курату ксяндзу Ставярэю. Кансісторыі паведамлена: прашэнне памешчыка Магілёўскай губерні Рагачоўскага павета Фаўстына Язерскага ад 14 жніўня ў кансісторыю, у якім ён паведамляе, што ў маёнтку яго, які называецца Акшынка, знаходзіцца з даўніх часоў уладкаваная на могілках рыма-каталіцкая капліца, у якой пахаваныя целы памерлых яго бацькоў, прыпісаная да Радужскага парафіяльнага касцёла, якая патрабуе рамонту, а менавіта пераробкі падлогі, ганка, столі і перакрыцця, такі рамонт на падставе 12 тома Збору законаў артыкула 672 можа быць дазволены дыяцэзіяльным начальствам; а таму, жадаючы падтрымаць існаванне ўказанай Акшынскай капліцы, а тым самым выканаць волю блажэнных яго бацькоў, просіць гэтую кансісторыю на падставе вышэй прыведзеных узаканенняў дазволіць прыступіць да рамонту ўпамянутай капліцы, якая ляжыць за рэкамі Бесяддзю і Сожам у адлегласці 40 вёрст ад парафіяльнага касцёла і аб тым апавясціць прасіцеля.*

*А паводле даведкі аказалася, што ў снежні месяцы 1836 г. пан міністр унутраных справаў цыркулярна прадпісаў грамадзянскім губернатарам звярнуць увагу памешчыкаў грамадства на заснаванне капліц пры могілках для памерлых, якіх прывозяць у капліцы для чакання пахавання. А таму загадалі: з-за таго, што рамонт згаданай капліцы на падставе прыведзеных узаканенняў можа быць дазволены дыяцэзіяльным начальствам, то дазволіць прасіцелю прыступіць да рамонту капліцы, бо кансісторыя прызнае існаванне яе неабходна патрэбным для парафіян рыма-каталіцкага вызнання, якія жывуць побач. Аб нечыненні ніякіх перашкод рамонту капліцы з боку земскай паліцыі разам з гэтым звярнуцца да магілёўскага грамадзянскага губернатара. Жніўня 21 дня 1842 г.*

*Аўтэнтык падпісалі асэсар канонік Брынк, за сакратара Чахоўскі».*[368]

Магілёўскі губернатар прасіў не даваць гэтай справе хаду, бо Язерскі быў ужо вельмі стары, і рамонт зрабіў з-за непаразумення.[369]

Міністр Дурнаво напісаў магілёўскаму губернатару, каб той паведаміў Язерскаму аб тым, што надалей ён мусіць прытрымлівацца існуючых правілаў.[370]

У 1922 г. капліца была часткова раскрадзена: скралі падлогу, акно і частку даха. Валасны выканкам хацеў капліцу прадаць. Ксёндз Буйніцкі пісаў пра гэта з Масквы 9 мая 1922 г. арцыбіскупу (арцыбіскуп атрымаў ліст 15 мая). Ён паведамляў, што каталікі вёскі Утонька хочуць купіць капліцу і перавезці да сябе ў вёску. І лічыў, што гэта будзе слушным рашэннем, але пытаў біскупа аб яго рашэнні. Калі перамяшчэнне капліцы згодна з кананічным правам недапушчальнае, то Буйніцкі гатовы быў адразу паслаць афіцыйны пратэст валвыканкаму. Хутка пасля гэтага Буйніцкі быў арыштаваны ў Мінску і ўжо больш не мог займацца гэтай справай.[371] Таму віцэ-канцлер Дамінік Іваноў 12 ліпеня 1922 г. напісаў ліст новаму гомельскаму пробашчу ксяндзу Канстанціну Андрэкусу, які быў выконваючым абавязкі гомельскага дэкана.

У лісце гаварылася наступнае: *«Папярэднік ксяндза дэкана месяц таму паведаміў, што ў Акшынцы на цвінтары знаходзіцца капліца, якую валвыканкам вырашыў прадаць, але ўстрымаўся ад гэтага кроку па просьбе каталікаў вёскі Утонька, якія хацелі купіць капліцу і перавезці да сябе. Арцыбіскуп загадвае ксяндзу дэкану справу гэтую вывучыць на месцы і аб сваёй пазіцыі здаць справаздачу курыі»*.

## АНОШКІ

Аколіца Аношкі знаходзілася ля ракі Сож у Рагачоўскім павеце, за 10 вёрст ад Чачэрска, мела капліцу, якая належала да Чачэрскай парафіі.[372]

Капліца Св. Мікалая была драўляная, пабудавана шляхтай аколіцы ў 1808 г. Мела форму васьмівугольніка, вежа была з 2-ма званамі. Дазвол на набажэнствы быў дадзены 22 кастрычніка 1849 г. Капліца мела алтар, харугвы, 6 абразоў. Набажэнствы адбываліся 3—4 разы на год.

У 1880-х гг. капліца ў Аношках ужо спарахнела і патрабавала сур’ёзнага рамонту. Жыхары Аношак, а таксама суседніх Гарадоўкі і Падасоўя планавалі за свой кошт зрабіць новы падруб, замяніць у сценах гнілое бярвенне, зрабіць новую падлогу і дах. Яны пачалі

хадайнічаць, каб ім дазволілі зрабіць рамонт. Чачэрскі пробашч Клаво звярнуўся да дэкана Пятроўскага. Пятроўскі паведаміў аб гэтым кансісторыі, якая 30 кастрычніка 1884 г. напісала магілёўскаму губернатару. Губернатар адказаў толькі 22 чэрвеня 1885 г. і паведаміў, што ён не знаходзіць магчымым зрабіць выключэнне і дазволіць рамонт, бо ўсе падобнага роду просьбы ў Магілёўскай губерні вырашаюцца адмоўна. Тым больш, — пісаў губернатар, — што ў існаванні гэтай могілкавай капліцы няма патрэбы.[373]

18 жніўня 1885 г. жыхары Аношак ізноў напісалі прашэнне аб дазволе на рамонт капліцы. У прашэнні гаворка ішла, у прыватнасці, аб наступным: пры неіснаванні на могілках у Аношках капліцы старыя могуць памерці без споведзі, а мёртвыя целы да прыбыцця пробашча касцёла будуць знаходзіцца па тыдні ў дамах, ствараючы смурод і заразу, таму што без выканання трэб ніхто з жыхароў не пагадзіцца прыдаць трупы зямлі, баючыся праследавання паліцыі. А ў такім выпадку і зараза будзе непазбежная.

Прашэнне падпісалі наступныя жыхары (прыводзім тут увесь спіс): Кіпрыян Міхайлаў Лашкевіч, Андрэй Кіпрыянаў Лашкевіч, Леан Кіпрыянаў Лашкевіч, Сілівейстр Міхайлаў Лашкевіч, Іван Вікенцьеў Лашкевіч, Андрэй Вікенцьеў Лашкевіч, Людвіг Іваноў Лашкевіч, Станіслаў Мікалаеў Лавянецкі, Уладзіслаў Якаўлеў Лашкевіч, Іван Уладзіславаў Лашкевіч, Іван Францаў Лашкевіч, Людвіг Іванаў Лашкевіч, Міхайла Іванаў Лашкевіч, Фелікс Іванаў Лашкевіч, Пётр Іванаў Лашкевіч, Казімір Іванаў Лашкевіч, Іван Іванаў Лашкевіч, Ігнацы Міхайлаў Гавароўскі, Андрэй Міхайлаў Гавароўскі, Іаахім Андрэяў Гавароўскі, Франц Андрэяў Гавароўскі, Франц Ігнацьеў Гавароўскі, Франц Іванаў Гавароўскі, Павел Іванаў Лашкевіч, Франц Іванаў Лашкевіч, Васіль Паўлаў Лашкевіч, Аляксандр Паўлаў Лашкевіч, Іван Вікенцьеў Казапалянскі, Сцяпан Іванаў Казапалянскі, (Сцяпан) Аляксандр Іванаў Казапалянскі, Андрэй Міхайлаў Наркевіч, Пётр Міхайлаў Наркевіч, Вікенцій Францаў Лашкевіч, Іван Антонаў Лашкевіч, Франц Антонаў Лашкевіч, Іосіф Канстанцінаў Лавянецкі, Фердынанд Канстанцінаў Лавянецкі, Іосіф Вікенцьеў Хадановіч, Іван Вікенцьеў Хадановіч і Уладзіслаў Іосіфаў Хадановіч, а замест іх, непісьменных, па іх просьбе распісаўся і сам за сябе падпісаўся Адам Антонаў Даўгяла.

Таксама распісаўся Канстанцін Мікалаеў Лавянецкі.

Лаўрэнцій Фёдараў Горскі, Іван Лаўрэнцьеў Горскі, Іван Марцінаў Акушка, Казімір Марцінаў Акушка, Мацвей Марцінаў Акушка, Казімір Дыянісьеў Акушка, Франц Дыянісьеў Акушка, Альберт Фамін Горскі, Франц Фамін Горскі, Палікарп Восіпаў

Гавароўскі, а замест іх, непісьменных, па іх просьбе распісаўся і сам за сябе падпісаўся Адам Драбышэўскі.

Ігнат Фларыянаў Збарамірскі, Валяр'ян Фларыянаў Збарамірскі, Аляксандр Васільеў Ясінскі, Кіпрыян Мікалаеў Збарамірскі, Эдуард Мікалаеў Збарамірскі, Рыгор Міхайлаў Збарамірскі, Пётр Рыгораў Збарамірскі, Адам Рыгораў Збарамірскі, Лаўрэнцій Іванаў Збарамірскі, Франц Дзяменцьеў Курака, Фёдар Францаў Курака, Франц Восіпаў Язерскі, а замест іх, непісьменных, па іх просьбе распісаўся і сам за сябе падпісаўся Казімір Фларыянаў Збарамірскі.

Удава Кацярына Нявінская, удава Гільтруда Грамыка, Пётр Цімафееў Грамыка, Іван Цімафееў Грамыка, Мікалай Цімафееў Грамыка, а замест іх, непісьменных, па іх просьбе распісаўся і сам за сябе падпісаўся Станіслаў Іванаў Ясінскі.

Іван Драбышэўскі, Васіль Іванаў Ясінскі, Рафаіл Карлаў Гарыда, Цімафей Казапалянскі, Адам Міхайлаў Драбышэўскі, Марцін Акушка, Дыянісій Акушка, Фама Горскі, Станіслаў Адамавіч Даўгяла, Мікалай Збарамірскі.[374]

12 кастрычніка 1885 г. магілёўскі губернатар паслаў гэта прашэнне Дэпартаменту духоўных спраў замежных веравызнанняў. У суправаджальным лісце губернатар напісаў, што яшчэ ў кастрычніку 1884 г. магілёўская рыма-каталіцкая духоўная кансісторыя звярталася да яго з хадайніцтвам аб рэстаўрацыі капліцы ў Аношках. З дапамогай сабраных па гэтай справе звестак высветлілася, што:

1) капліца ў Аношках сапраўды патрабавала рамонту з-за спарахнеласці;

2) адлегласць ад Аношак да Чачэрскага касцёла 10 вёрст, а ад суседніх Гарадоўкі і Падасоўя, жыхары якіх таксама карысталіся капліцай, 11 і 15 вёрст;

3) набажэнствы ў капліцы адбываліся пераважна па вялікіх святах і ў дні памінання памерлых;

4) колькасць парафіян-католікаў, для якіх у капліцы адбываліся набажэнствы, складала 62 душы мужскога і 62 душы жаночага полу.

З прычыны гэтага і прымаючы пад увагу, па-першае, што вышэй указаная адлегласць не магла служыць істотнай нязручнасцю зносін парафіян названых аколіц у рэлігійных сваіх патрэбах з Чачэрскім парафіяльным касцёлам, а па-другое, гэты рамонт быў раўназначны будаўніцтву новай капліцы, што супярэчыла распараджэнню віленскага генерал-губернатара ад 29 чэрвеня 1864 г. аб абмежаванні наогул пабудовы новых ці аднаўлення старых рыма-каталіцкіх капліц, якое заставалася правамоцным і пасля аддзялення Магілёўскай губерні ад загадвання генерал-губернатара, магілёўскі губернатар 22 чэрвеня адхіліў хадайніцтва кансісторыі.

Але была і больш істотная прычына адмовы. Справа ў тым, што магілёўская праваслаўная духоўная кансісторыя хадайнічала аб забароне рамонту Аношкаўскай капліцы. Праваслаўная кансісторыя тлумачыла сваё хадайніцтва тым, што мясцовыя праваслаўныя сяляне пры аднаўленні гэтай капліцы, у якой на той перыяд набажэнствы з-за спарахнеласці не адбывалася, маглі захапіцца выглядам касцельнага набажэнства і сталі б рэдка наведваць сваю прыходскую царкву.

Таму і 12 кастрычніка 1885 г. магілёўскі губернатар адхіліў прашэнне парафіян аколіц Аношкі, Гарадоўка і Падасоўе аб рамонце Аношкаўскай могілкавай капліцы.[375]

Прозвішча магілёўскага губернатара, дарэчы, было Дэмбавецкі, Аляксандр Станіслававіч. Відавочна каталіцкага паходжання, аўтар «Опыта описания Могилевской губернии».

75.Аколіцы Аношкі і Асоўе засталіся толькі на старых картах.

АСОЎЕ

У былым аколіца ў складзе Рагачоўскага павета, за 20 вёрст ад Чачэрска. Мела драўляную капліцу Святой Тройцы. Капліца была пабудавана шляхтай аколіцы ў 1789 г. Бенедыктавана, верагодна, куратам Мікалаем Леановічам. Знаходзілася побач з каталіцкімі могілкамі. У акрузе ў сярэдзіне XIX ст. налічвалася каля 300 католікаў. Індульт выдадзены мітрапалітам І.Галавінскім (№ 625) 18 мая 1851 г. на 6 гадоў.[376] Аколіца не існуе.

БЕРДЫЖ

Вёска ў Ленінскім сельсавеце Чачэрскага раёна, на рацэ Сож. Раней — аколіца ў складзе Чачэрскай воласці Рагачоўскага павета з каталіцкай капліцай. За 8 вёрст ад Чачэрска. У канцы XIX ст. налічвала 28 двароў, 131 жыхара. Найбольшымі зямельнымі надзеламі ў Бердыжы валодалі Антушэвічы (разам з Сярэднімі Малынічамі 105 дзес.), Гарбатоўскія (195 дзес.), Міцкевічы (167 дзес.), Шэлюты (2 долі разам з Малынічамі 360 і 187 дзес.).[377]

Капліца Святой Тройцы была пабудавана шляхтай аколіцы ў 1817 г. (найбольш ахвяраваў Канюшэўскі) і асвечана святаром-езуітам (верагодна, чачэрскім куратам Андрэем Леановічам). Знаходзілася за чвэрць вярсты ад аколіцы на могілках і была агароджана. Парафіян налічвалася прыкладна 25 чалавек. Індульт № 2589 на 5 гадоў быў выдадзены пралатам Янам-Феліксам Шчытам

16 кастрычніка 1830 г. Капліца ў Бердыжы з’яўлялася цэнтрам невялікай філіі, у якую ўваходзіла капліца ў аколіцы Шапатовічы і капліца ў маёнтку Зянковіча ў Малынічах. Філіяй кіраваў уніяцкі парах з Малынічаў.

У 1840-х гг. капліца ўжо не дзейнічала. У 1849 г. мясцовыя дваране маёр Гарбачэўскі, капітан Міцкевіч і страпчы Шчыт звярнуліся з просьбай аб рэстаўрацыі капліцы. Быхаўска-рагачоўскаму дэкану было загадана атрымаць дазвол у мясцовых праваслаўных святароў на рэстаўрацыю капліцы. Але малыніцкі настаяцель, былы уніят Асмалоўскі даць дазвол адмовіўся. Ён аргументаваў гэта тым, што звон капліцы змяншаў пазвонны даход праваслаўнай Малыніцкай царквы. У 1855 г. у капліцы ўжо не было даху, а сцены пагражалі абваліцца.[378]

## ВАРАНОЎШЧЫНА

Цяпер вёска Ворнаўка — цэнтр аднайменнага сельсавета Кармянскага раёна. Раней аколіца Вараноўшчына ў складзе Расохскай воласці Рагачоўскага павета, на рацэ Горне. Мела каталіцкую капліцу. У канцы XIX ст. аколіца налічвала 68 двароў, 470 жыхароў. Існавала драўляная парафіяльная царква, вятрак.[379] У 1850 г. капліца была ўжо забрана і перададзена праваслаўным. Магчыма, што будынак капліцы быў перароблены ў царкву.

## ЛУКОМСКІЯ ПАПЛАВЫ

Вёска ў Роўкавіцкім сельсавеце Чачэрскага раёна. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС адселена.

Да рэвалюцыі аколіца (14 вёрст ад Чачэрска) ў складзе Рагачоўскага павета з каталіцкай капліцай Чачэрскай парафіі, якая існавала да 1920-х гг.[380]

Драўляная капліца Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай. Пабудавана Мікалаем Лукомскім у 1826 г. Знаходзілася на могілках за палову вярсты ад аколіцы. На ганку капліцы быў падвешаны звон. Дазвол на набажэнствы (індульт) № 1457 мітрапаліта Дмахоўскага на 6 гадоў быў выдадзены 22 кастрычніка 1849 г., 14 снежня 1855 г. прадоўжаны. У 1854 г. капліца была адрамантавана.[381]

## НЯМКОВІЧЫ (ВЯЛІКІЯ НЯМКІ)

Вялікія Нямкі — вёска, цэнтр Вяліканямкоўскага сельсавета Веткаўскага раёна, на р. Беседзь, за 38 км на паўночны ўсход ад Веткі, 68 км ад Гомеля, 216 гаспадарак, 520 жыхароў.[382] Да

рэвалюцыі вёска ў складзе Рагачоўскага павета з каталіцкай капліцай Чачэрскай (а таксама пэўны час — Радужскай) парафіі. Вядома з XV ст. як сяліба ў Мінскім ваяводстве. У 1471 г. упамінаецца як вёска Нямковічы ў валоданні Ю.Дрожджа. Каля 1589 г., паводле Метрыкі ВКЛ, нягродавае Нямковіцкае староства было вылучана з Чачэрскага староства. У склад Нямковіцкага староства ўваходзілі маёнткі Вялікія Нямковічы, Малыя Нямковічы і Сабунск. Нямковіцкім староствам валодалі: Нарковіч, Падвінскі, Пярхлінскі, Лашчовы, Грабоўскі, Канімеравы, Красіцкі, Кулеўскі, з 1699 г. Вішчынскія. 5 снежня 1765 г. Ганна Вішчынская з Хлусовічаў саступіла староства Казіміру Вішчынскаму, ротмістру Рэчыцкага павета.[383] У 1785 г. у валоданні Д.Маліноўскага. З 1789 г. дзейнічала праваслаўная царква Св. Пятра і Паўла. У канцы 1850—пачатку 1860-х гг. маёнткам Нямковічы валодаў палкоўнік Фрамандэр. 19 жніўня 1911 г. вёска значна пацярпела ад пажару.

Капліца была пабудавана ў 1819 г. Фундатары — Вішчынскія. Капліца асвечана беліцкім дэканам з дазволу мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча. Была ў адлегласці 45 вёрст ад парафіяльнага (Радужскага) касцёла. Знаходзілася на могілках, была агароджана. Індульт быў выдадзены пралатам Янам-Феліксам Шчытам. У 1852 г., у час навальніцы, ад удару маланкі згарэла вежа, а разам з ёй — індульт Шчыта. У 1853 г. капліца адрамантавана палкоўнікам Фрамандэрам. 8 кастрычніка 1855 г. пададзена прашэнне (№ 310) аб новым індульце.[384] Пасля скасавання Радужскай парафіі знаходзілася ў складзе Чачэрскай парафіі. Апошні раз капліца згадваецца ў 1917 г.[385]

76.Вялікія Нямкі і Глухаўка на дарэвалюцыйнай тапаграфічнай карце.

## РУДНЯ-БАРТАЛАМЕЕЎСКАЯ

Вёска ў Палескім сельсавеце Чачэрскага раёна

У мінулым вёска была ў складзе Рагачоўскага павета, Палескай воласці (30 вёрст ад Чачэрска). У 1887 г. налічвала 50 двароў, 287 жыхароў. У вёсцы быў вадзяны млын і сукнавальня. Уласнасць графа Чарнышова-Круглікава.[386]

Каталіцкая драўляная капліца Св. Мікалая Чачэрскай парафіі пабудавана жыхарамі ў 1816 г. (ці графіняй Ганнай Чарнышовай). Дазвол на набажэнства дадзены 16 кастрычніка 1830 г. Набажэнствы адбываліся 2 разы на год. Існавала да сярэдзіны 1920-х гг.

77.«Абрад пакланення крыніцам» у Рудні-Барталамееўскай. 14 жніўня 2001 г.

## РУДНЯ-ДУДЗІЦКАЯ

Вёска ў Роўкавіцкім сельсавеце Чачэрскага раёна.

У мінулым вёска была ў складзе Рагачоўскага павета, Дудзіцкай воласці. У 1887 г. налічвала 28 двароў, 143 жыхары. Існавала каталіцкая капліца.[387]

## РУДНЯ-НІСІМКАВІЦКАЯ

Вёска ў Нісімкавіцкім сельсавеце Чачэрскага раёна.

Да рэвалюцыі вёска была ў складзе Рагачоўскага павета (17 вёрст ад Чачэрска), Пакоцкай воласці. У 1887 г. вёска налічвала 76 двароў, 176 жыхароў. 16 жыхароў займаліся вырабам драўлянага начыння, па аднаму жыхару — вырабам рэчаў з кары і лыка, сталярствам, бондарствам, кавальствам, 16 адыходзілі на заробкі.[388]

Існавала драўляная капліца Св. Міхаіла, пабудаваная ў 1816 г. графіняй Ганнай Чарнышовай. Капліца была асвечана чачэрскім куратам Андрэем Леановічам. Знаходзілася на могілках, была агароджана. Адзін з індультаў выдадзены 16 кастрычніка 1830 г., другі (№ 1455) выдадзены 22 кастрычніка 1849 г. мітрапалітам Дмахоўскім на 6 гадоў. 14 снежня 1855 г. гэты індульт быў прадоўжаны.

У сярэдзіне XIX ст. у наваколлі было 360 католікаў. Восенню 1894 г. упаўнаважаныя ад жыхароў вёскі Адам Казіміравіч Гулевіч і Франц Леанавіч Гулевіч звярнуліся да магілёўскага губернатара з просьбай аб дазволе зрабіць рамонт капліцы. Планавалася замяніць дах і зрабіць на ім вежу для аднаго звана. 3 лістапада 1894 г. магілёўскі губернатар напісаў рапарт аб гэтым міністру ўнутраных спраў. У рапарце губернатар паведамляў, што капліца, якая знаходзіцца на могілках, была пабудавана ў 1828 г. Сам будынак капліцы быў даволі трывалы, але дах і ганак зусім лядашчыя. Даўжынёй капліца была 4 сажні, шырынёй 3 сажні 2 аршыны. Званіцы не было. Замест яе побач стаяў слуп са званом. Набажэнствы былі пад час хаўтур, у 3-ці тыдзень Вялікага посту, у маі ў дзень Евангеліста Марка, 29 верасня і 8 лістапада.

Губернатар таксама паведамляў, што з яго боку перашкод на рамонт няма.[389]

17 снежня дазвол ад міністэрства ўнутраных спраў на рамонт капліцы быў дадзены.[390]

Вясной 1901 г. упаўнаважаны ад жыхароў Адам Казіміравіч Гулевіч ізноў хадайнічаў аб рамонце капліцы. Рамонт на суму 90 руб. планавалася зрабіць за ўласны кошт. У спарахнелай капліцы мусілі ашаляваць сцены, каб захаваць іх ад гніення. Магілёўскі губернатар адразу ж даў дазвол на рамонт.[391]

У 1904 г. капліца была ашалявана. У ёй быў алтар з абразом св. Міхала Арханёла, імшал і іншае начынне.

Капліца існавала да 1920-х гг.

РУДНЯ-ШЛЯГІНА, гл. раздзел аб Радужскай парафіі

СТАРЫЯ МАЛЫНІЧЫ

Старыя Малынічы — вёска ў Залескім сельсавеце Чачэрскага раёна.

Да рэвалюцыі вёска, фальварак і маёнтак у складзе Чачэрскай воласці Рагачоўскага павета. Вёска налічвала 50 двароў, 163 жыхары. У вёсцы існавала праваслаўная царква (верагодна гэта быў будынак былой каталіцкай капліцы, якая ў 1850 г. ужо была перададзена праваслаўным).

Фальварак належаў Серафімовічам, налічваў 103 дзес.

Маёнтак з 1878 г. належаў Шымкевічам, налічваў 946 дзес. (544 дзес. лесу). У маёнтку была сукнавальня і млын.[392]

У 1556 г. маёнтак Малынічы (пазней распаўся на Старыя, Сярэднія, Новыя і Чарняўскія Малынічы) быў нададзены роду, які меў прозвішча Пятровічы-Малыніцкія (хутчэй за ўсё, род выгас). Потым частка маёнтка перайшла да Шэлютаў (двойчы ў пасаг — у пачатку і ў сярэдзіне XVII ст.), а другая частка патрапіла да Біспінгаў (Бішпінгаў), ад іх да Чарняўскіх, потым да Кучынскіх і Грушэцкіх. У 1676 г. падымнае з Малынічаў плацілі Шэлюта з Грушэцкім (1 дым) і Чарняўскі з Марачэўскім (1 дым). У 1690 г. з Малынічаў плацілі падымнае Чарняўскі з «учаснікамі» Беразецкім і Марачэўскім, Чарняўскі і Шэлюта. У 1765 г. на попісе Рэчыцкага павета з Малынічаў станавіліся Маліноўскія, Грушэцкія, Марачэўскія, Чарняўскія, Шымкевічы, Кучынскія; таксама ў Малынічах мелі ўладанні і Шэлюты, хаця яны і папісаліся з іншага маёнтка — Бердыжа.

УХОВА, гл. раздзел аб Радужскай парафіі

ШАПАТОВІЧЫ

Вёска ў Ленінскім сельсавеце Чачэрскага раёна. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС адселена.

У былым шляхецкая аколіца ў складзе Дудзіцкай воласці Рагачоўскага павета. У 1890-х гг. налічвала 83 двары, 521 жыхара.[393] Капліца ў 1850 г. ужо была передадзена праваслаўным.

## IV. ХАЛЬЧАНСКАЯ ЕЗУІЦКАЯ МІСІЯ. РАДУЖСКАЯ ПАРАФІЯ. ФІЛІЯ РУДНЯ-ШЛЯГІНА

Каталіцкае насельніцтва, якое жыло на тэрыторыі Веткаўшчыны ў XVII—XVIII стст., належала да Гомельскай парафіі, а з 1730-х гг. да 1820 г. — яшчэ да і Хальчанскай езуіцкай місіі. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г., была створана Радужская парафія, якая ахапіла ўсю тэрыторыю сучаснага Веткаўскага раёна.

Пасля ліквідацыі Радужскай парафіі ў 1860-я гг. яе меншая частка ўвайшла ў Гомельскую парафію, а большая, з капліцамі ў Рудні-Шлягіна, Ухове і Акшынцы — да Чачэрскай. У канцы XIX ст. тэрыторыя былой Радужскай парафіі знаходзілася ў складзе Гомельскай парафіі. У пачатку XX ст. была створана Рудня-Шлягінская філія.

### 1. ХАЛЬЧАНСКАЯ ЕЗУІЦКАЯ МІСІЯ

#### 1.1. МАЁНТАК ХАЛЬЧ

Маёнтак (двор) Хальч упершыню ўпамінаецца ў Метрыцы ВКЛ паміж 1440 і 1443 гг., калі віленскі ваявода Даўгірд падараваў яго праваслаўнаму баярыну Герману Радзівонавічу. Хальч на стагоддзі застаўся ў руках нашчадкаў Германа Радзівонавіча, ад якога пайшоў вядомы ў гісторыі Беларусі род паноў Халецкіх.[394] Паводле іншай версіі, маёнтак Хальч быў у 1437 г. атрыманы Паўлам Мішкавічам ад вялікага князя Свідрыгайлы замест горада Сноўска.[395]

Унукам Паўла Мішкавіча і сынам Яўстахія Халецкага быў наступны ўладальнік Хальча — Міхаіл Халецкі, пасол ВКЛ у Залатую Арду ў 1484—1501 гг. Магчыма, што існавалі два роды Халецкіх. Імёны нашчадкаў Міхаіла Халецкага беспамылкова ўстанавіць цяжка, але выглядае, што адным з іх быў Дзмітры Іванавіч Халецкі (жыў у першай палове XVI ст.), якога польскі

даследчык С.К.Касакоўскі і лічыў сапраўдным родапачынальнікам рода Халецкіх.[396]

У 1503 г. Гомельская воласць, у тым ліку і Хальч, перайшла да Маскоўскай дзяржавы.[397] Пад уладай Масквы Гомель і воласць заставаліся да 1535 г., калі яны былі вызвалены ў ходзе Старадубскай вайны (1534—1537 гг.). 27 сакавіка 1537 г. у Маскве было падпісана замірэнне на пяць гадоў. Маскоўскае княства адмовілася ад Гомельскай воласці. Ранейшым уладальнікам былі вернуты іх маёнткі. Хальч па рашэнні вялікага князя Жыгімонта Старога быў вернуты ўнукам Міхаіла Халецкага Язэпу і Яўстахію.

У 1685 г. праўнук Язэпа мазырскі староста Караль Казімір Халецкі запрасіў (ці дазволіў пасяліцца) у Хальч старавераў з Рускай дзяржавы, якія ратаваліся ад царскіх улад. Спачатку ў маёнтак прыбыла дэлегацыя старавераў на чале з папом Кузьмой. Халецкі выдзяліў стараверам востраў Ветку на рацэ Сож, побач з Хальчам. Дзякуючы яго намаганням, старaверы ў першыя гады пасля перасялення былі вызвалены ад падаткаў і прыроўнены ў правах да мясцовых вольных мяшчан. У канцы XVII ст. колькасць старавераў, якія пасяліліся на востраве, значна ўзрасла, і Халецкі выдзяліў ім лясісты левы бераг Сожа насупраць Хальча. Так і ўзнікла мястэчка Ветка — цэнтр раскольнікаў. Хутка насельніцтва Веткі і навакольных слабод склала каля 40 тыс. чалавек (для параўнання: насельніцтва Гомеля ў той час не перавышала 1,5 тыс. чалавек).

Пасля Караля Казіміра Халецкага Хальч перайшоў да яго адзінага сына Міхаіла Халецкага (1679—1715), абознага ВКЛ. Сярод суседзяў Міхаіла апынуўся наваградскі ваявода генерал-лейтэнант Мікалай Фаўстын Радзівіл (1688—1746), які вырашыў сілай захапіць маёнтак Хальч. У тыя часы такія шляхецкія войны, ці, як сказалі б цяпер, рэйдэрскія захопы, былі звычайнай справай (не ў апошнюю чаргу менавіта такія хатнія войны і прывялі Рэч Паспалітую да падзелаў). Радзівіл сабраў вялікі атрад, які складаўся ў асноўным з узброеных прыгонных сялян. Халецкі супрацьпаставіў Радзівілу свой атрад, які складаўся з старавераў. У рашаючай бітве халецкае войска старавераў перамагло радзівілаўскае сялянскае войска.

Дзе канкрэтна адбылася гэта бітва, невядома, але гістарычны дакумент паведамляў пра гэта так: «Стараверы заступіліся за свайго пана, учынілі страшэнную бойку і скончылі яе жахлівым праліццём крыві».[398] Перамога Халецкага над Радзівілам стала вядомай амаль усёй краіне.

Міхаіл Халецкі памёр не пакінуўшы нашчадкаў, і Хальч, хутчэй за ўсё, перайшоў да Антонія і Казіміра Халецкіх — сыноў яго дзядзькі Баляслава Аляксандра.

У сярэдзіне XVIII ст. Ганна Кунегунда Халецкая, дачка Казіміра Халецкага, рэчыцкага старосты, выйшла замуж за маршалка Трыбунала ВКЛ, генерал-лейтэнанта Альбрыхта Радзівіла, які быў сынам Мікалая Фаўстына Радзівіла. Ганна ўнёсла ў пасаг маёнткі Анопаль і Хальч. Цікава, што бацька Ганны, Казімір Халецкі, нават саступіў пасаду рэчыцкага старосты свайму зяцю Альбрыхту (1717—1790). Так Хальч перайшоў да Радзівілаў.

Між тым у суседняй Ветцы не ўсё было добра. Расійскія ўлады не хацелі мірыцца з наяўнасцю моцнага стараверскага цэнтра каля самай мяжы. Двойчы ў XVIII ст., у 1735 і 1764 гг., рускія войскі пераходзілі мяжу і разбуралі стараверскія пасяленні, а людзей выводзілі ў Сібір. Ветка і навакольныя слабоды зноў адраджаліся, але паступова квітнеючыя пасяленні занепадалі і станавіліся ўкрыццём для самага рознага кшталту ўцекачоў з Расіі, часта злачынцаў. У 1772 г. у Ветцы больш за тры месяцы пражыў Емяльян Пугачоў. Магчыма, што менавіта тут у яго нарадзілася думка выдаць сябе за цара Пятра III. Менавіта з Веткі Пугачоў і накіраваўся ў паход, які аказаўся для яго апошнім.

У канцы XVIII ст. Халецкія (Ігнацы Халецкі ці Ян Халецкі) прадалі мястэчка Ветку Міхаілу Станевічу. У пачатку XIX ст. Веткай валодала Ю.Радзівіл (у другім шлюбе Любамірская) — дачка Мікалая Радзівіла (пляменнік Альбрыхта Радзівіла) і Францішкі Бутлер.

Хальчам у канцы XVIII ст. стаў валодаць сын Казіміра Халецкага — Ян, маршалак мясцовай шляхты.

Менавіта ён пабудаваў у пачатку XIX ст. на ўскрайку Хальча на высокім мысе, што ўзвышаецца па-над Сожам на 10 метраў, палац у стылі класіцызм, які захаваўся да нашага часу.

Будынак з’яўляўся цэнтрам вялікага сядзібнага ансамбля. Уласна палац уяўляе сабой кампактны прамавугольны ў плане аб'ём, перакрыты вальмавым гонтавым дахам. Першы паверх будынка мураваны, апрацаваны ў выглядзе руста, другі паверх — з дрэва і атынкаваны. Цэнтральная частка палаца вылучана на галоўным фасадзе шасцікалонным іанічным порцікам, узнятым з дапамогай масіўных пілонаў на ўзровень другога паверха, у той час як на паркавым фасадзе — паўкруглай тэрасай з каланадай на першым паверху. Сіметрыю кампазіцыі крыху парушае аднапавярховая прыбудова з дадатковым уваходам, размешчаная з усходняга боку. Пад будынкам палаца маюцца вялікія скляпеністыя падвалы.[399] Спачатку палац быў белага колеру, пазней яго перафарбавалі ў чырвоны.

Перад палацам знаходзіўся вялікі адкрыты парадны двор-курданёр, утвораны двума сіметрычна размешчанымі драўлянымі

аднапавярховымі флігелямі з порцікамі на тарцах (флігелі не зберагліся). Да параднага двара вяла шырокая ліпавая алея, якая пачыналася яшчэ ад уезда ў маёнтак.

За палацам на адхоне сожскага берага, былі зроблены шэсць тэрасаў з кветкавымі клумбамі і дэкаратыўным хмызняком, умацаваныя бэзам. Зверху ўніз, да купальні і прыстані, праз усе тэрасы вялі каменныя прыступкі. З адной з тэрас вузкі праход вёў у штучную пячору, абкладзеную валунамі і асвятляемую паходнямі.

Навокал палацавага комплекса быў разбіты пейзажны парк, які займаў плошчу каля 15 га. Ён цягнуўся амаль на два кіламетры па высокім беразе Сожа. У глыбіні парка былі схаваны шматлікія гаспадарчыя пабудовы. Недалёк ад палаца меўся і сад.[400]

Па некаторых даных, у 1812 г. Халецкі з радасцю сустрэў навіну аб вайне. Ён сфарміраваў сялянскае апалчэнне, якое нападала на групы адступаючай рускай арміі. Але хутка руская армія пагнала французаў назад, і Халецкія, хутчэй за ўсё, вымушаны былі пакінуць радзіму. Маёнтак быў канфіскаваны і неўзабаве прададзены іншаму прадстаўніку мясцовай шляхты — Атону Войнічу-Сенажэцкаму.

Род Войнічаў-Сенажэцкіх меў беларускія карані і спачатку называўся толькі Войнічамі. Паводле адной з версій, Сенажэцкімі прадстаўнікі роду сталі называцца з-за таго, што ў іх маёнтках Старая Рудня і Турск было шмат лугоў.

78.Палац Войнічаў-Сенажэнцкіх у вёсцы Турск. Малюнак Н.Орды. 1877 г.

Паводле іншай версіі, больш праўдападобнай, назва пайшла ад каралеўскага маёнтка Сенажэнцы, які быў нададзены каралём Янам Казімірам аднаму з Войнічаў. Дакумент аб гэтым быццам бы захоўваўся ў архіве Войнічаў-Сенажэцкіх у Хальчы.

У XIX ст. Войнічы-Сенажэцкія сталі даволі заможным родам і мелі ўладанні не толькі ва ўсходняй Беларусі, але і ў Чарнігаўскай губерні (так, аднаму з Войнічаў-Сенажэцкіх належаў бровар у сяле Валакіціны Кусцічы каля Старадуба).[401]

79.Хальч на малюнку Н.Орды. 1877 г.

У 1877 г. у маёнтку Аляксандра (сына Атона) і Тэрэзы Войнічаў-Сенажэцкіх гасцяваў славуты беларускі мастак Напалеон Орда, які зрабіў малюнак з відам палаца і парка. Апошнім гаспадаром маёнтка Хальч быў сын Аляксандара Войніча-

Сенажэцкага Зыгмунт. Ён вёў арыстакратычны вобраз жыцця, любіў балі і паляванні, весткі аб якіх разляталіся па ўсёй усходняй Беларусі. Яшчэ і сёння мясцовыя жыхары могуць расказаць пра жаніцьбу Зыгмунта з дачкой аднаго з мясцовых памешчыкаў, якая на наступны дзень пасля шыкоўнага вяселля ўся ў слязах уцякла назад у бацькаўскі дом. Але Зыгмунта гэта не збянтэжыла, і ён выправіўся ў чарговую вандроўку, на гэты раз у ЗША. У Амерыцы ён купіў аўтамабіль, з якім і вярнуўся дамой. Аўтамабіль відаць быў адзіным на той час ва ўсім наваколлі (пра гэта ў 2006 г. аўтару расказала вартаўніца Хальчанскага палаца, — У.В.).

80.Хальчанскі палац

Пасля 1917 г. Зыгмунт назаўжды пакінуў Хальч і пасяліўся пад Гродна ў маёнтку сястры. У кастрычніку 1939 г. Зыгмунта Войніча-Сенажэцкага разам з сястрой Людвікай Валкавіцкай і шваграм Антоніем органы НКУС арыштавалі, а потым забілі ў Малой Бераставіцы.[402]

У 1920-я гг. будынак палаца аддалі пад дзіцячы дом, потым тут знаходзілася праўленне саўгаса. Была ў Хальчы да вайны і выхаваўча-працоўная калонія. Ёсць звесткі, што каля Хальча ў 1930-х гг. адбываліся масавыя расстрэлы «ворагаў савецкай улады».

У 1943 г. за Хальч ішлі крывапралітныя баі, але палац не быў знішчаны, згарэлі толькі бакавыя флігелі. Адразу пасля вайны тэрыторыю ўсяго палаца-паркавага комплекса абнеслі плотам з калючым дротам і размясцілі выхаваўча-працоўную калонію № 1. Тут знаходзіліся арыштаваныя маці з дзецьмі.

81.Так выглядае палац у нашы дні

## 1.2. ГІСТОРЫЯ ХАЛЬЧАНСКАЙ ЕЗУІЦКАЙ МІСІІ

У 1729 г. браты Казімір і Антоні Халецкія прапанавалі езуітам перанесці з Гомеля ў свой маёнтак Хальч езуіцкую місію, якая была заснавана ў Гомелі ў 1728 г. Адзіным місіянерам, які працаваў у Гомелі, быў Ян Дамброўскі. Трэба дадаць, што ў пачатку XVIII ст. на гэтых землях існавала вандроўная езуіцкая місія, у якой працаваў езуіт Язафат Сакалоўскі. Хальчанская місія да 1773 г. належала Бабруйскай рэзідэнцыі, потым, у 1773—1820 гг., калегіуму ў Магілёве.

З 1730 г. езуіцкая місія фундавалася Казімірам і Антоніем Халецкімі на ануаце, часткова збожжам, часткова грашыма (сума фундуша ў 1250 талераў у пачатку XIX ст. была размешчана ў Веткаўскім маёнтку княгіні Любамірскай). У пачатку XIX ст. місія штогод атрымлівала па 30 чвэрцяў жыта, аўса і ячменю, 20 вазоў сена, 160,5 руб. серабром і 10 руб. асігнацыямі. Апроч ануаты місія мела капітальную суму ў 200 чырвоных злотых. Гэтая сума верагодна была дадзена старадубскім старостам Янам Жабай з умовай, каб ксёндз з Хальча выязджаў штомесяц за Сож у Рудню-Шлягіна для правядзення набажэнства і навучання хрысціянскай навуцы сялян-католікаў. Грошы былі размешчаны ў Жукоўскага на Левічах з пятым працэнтам (верагодна пяць працэнтаў гадавых). У 1818 г. місіяй было атрымана пэўнага даходу на суму 750 руб., няпэўнага — 782 руб. 30 кап. У тым жа годзе выдаткавана на ўтрыманне сакрысціі і рамонт касцёла 27 руб. 70 кап., на віно, воск, алей і лямпы 218 руб. 80 кап., на пяцёх касцельных слуг 70 руб., на чатырох манахаў і чэлядзь 774 руб. 55 кап., на апаленне, начынне і рамонт дома — 93 руб. Агулам выдаткавана 1184 руб. 5 кап.

Драўляны, часткова на падмурку, а часткова на штандарах касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай, які знаходзіўся ў Радузе, побач з Хальчам, быў фундаваны Халецкімі і асвечаны ў 1768 г. Пры ім звычайна працавалі два місіянеры. Пасада для трэцяга місіянера, які працаваў пры касцёле ў Турчыне, была ўведзена ў 1738 г. Янам Жабай.

Касцёл добра ўтрымліваўся і быў абгароджаны штыкетнікам. Дах быў накрыты гонтамі. Касцёл меў дзве невялікія вежы, накрытыя бляхай. На адной вежы знаходзіўся звон-сігнатурка, на другой — гадзіннік, які ў 1817 г. ужо не працаваў. Справа ад касцёла стаяла пакрытая гонтамі званіца з трымя званамі. Навокал касцёла быў вялікі цвінтар. Касцёл быў непарафіяльны, святары-езуіты дапамагалі ў парафіяльным жыцці гомельскаму плябану. Метрычныя запісы адсылаліся ў Гомель.

Рэзідэнцыя была драўлянай, часткова на падмурку. Дах меў пакрыццё з гонты. У доме было дзевяць пакоеў. Справа ад рэзідэнцыі стаялі свіран і лядоўня, насупраць — стайня, вазоўня, бровар, стадола, злева — кухня і пякарня. Ззаду рэзідэнцыі знаходзіўся вялікі агарод і сад, яны былі абгароджаны.[403]

Суперыёрамі (кіраўнікамі) місіі былі: Антоні Дэрнатовіч (1729—1732), Казімір Багуцкі (1732—1733), Павел Мурыновіч (1733—1735), Адам Рушчыцкі (1735—1741), Казімір Тарлецкі (1741—1751), Якуб Галамбеўскі (1751—1752), Якуб Мярвінскі (1752—1753), Мікалай Леановіч (1756—1771), Марцін Струсінскі (1771—1772) і Фелікс Трацяк (1772—1773).

Пасля скасавання ордэна ў 1773 г. у місіі звычайна працавалі два, тры або чатыры місіянеры, між іншым: Мікалай Леановіч (суперыёр, 1783—1799), Тамаш Альшэўскі (1784—1801, з перапынкамі), Ян Вайшвіла (1797—1803), Францыск Бароўскі (суперыёр, 1803—1806), Ян Хамінскі (1810—1816), Караль Жулкеўскі (1811—1820) і Ян Марцінкевіч (суперыёр, 1813—1817).

У 1818 г. у Хальчанскай місіі працавалі: Стэфан Рэут (суперыёр), Караль Жулкеўскі (душпастыр), Пётр Боні (душпастыр), Ян Выжыкоўскі (наглядчык чэлядзі).

Вядомы імёны езуітаў, якія памерлі ў Хальчы: місіянер Казьма Даміан Амброк (19 красавіка 1748 г.), місіянер Ежы Глэмбоцкі (28 чэрвеня 1754 г.), душпастыр Івон Война (12 мая 1797 г.), суперыёр Вінцэнт Шышка (21 мая 1800 г.), місіянер Ян Хамінскі (4 жніўня 1816 г.).

Вынікі душпастырскай працы ў Хальчанскай місіі: споведзяў у 1796 г. — 416, у 1810 г. — 1283; хрышчэнняў у 1796 г. — пяць, у 1810 г. — два; казанняў і рэлігійных заняткаў у 1796 г. — 96, у 1810 г. — 195.[404]

Нядоўгі перыяд існавала езуіцкая місія ў Шарсціне (Веткаўскі раён), якая была звязана з місіяй у Хальчы.

Шарсцін упершыню ўпамінаецца ў дакументах Метрыкі ВКЛ паміж 1440 і 1443 гг., калі віленскі ваявода Даўгірд перадаў са складу Гомельскай воласці маёнтак (двор) Шарсцін ва ўласнасць пану-каталіку Міхаілу Монтаўту. У другой палове XVIII ст. Шарсцін належыў Дзерналовічам.

Місіянерам Шарсцінскай місіі быў Канстанцін Хлявінскі (1763—1764).[405]

## 2. РАДУЖСКАЯ ПАРАФІЯ

Вёска Радуга — цэнтр Радужскага сельсавета Веткаўскага раёна.

Да канца XIX ст. Радугай валодалі Халецкія. У канцы XIX ст. Радуга (Радог) — фальварак і сяло над Сожам у Веткаўскай воласці Гомельскага павета. Двараненне Харашуновы валодалі ў Радузе 414 дзес. зямлі. У вёсцы была царква (гэта былы мураваны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі). У 1887 г. налічвалася 139 дымоў, 247 жыхароў, з якіх два займаліся кавальствам, а 50 адыходзілі на заробкі.[406]

Апошнім суперыёрам Радужскай (Хальчанскай) езуіцкай місіі быў Караль Марцін Жулкеўскі, а душпастырам Мікалай Брыкман. 13 сакавіка 1820 г. быў абвешчаны ўказ імператара Аляксандра І, згодна з якім езуіты мусілі пакінуць Расію. Пасля ўказу паліцыя

акружала кляштары і зачытвала езуітам указ. Маёмасць апячатвалася. Пры гэтым езуітам пакідаліся іх уласныя рэчы. Суперыёру выдавалася 50 чырвонцаў, а звычайнаму манаху — 25. Праз некаторы час іх на паштовых экіпажах накіроўвалі на мяжу ў Радзівілаў, а адтуль — у Аўстрыйскую імперыю.

Місія з кляштарам з 4 красавіка 1820 г. стала парафіяльным касцёлам у складзе Беліцкага дэканата. Пробашчам у Радугу быў прызначаны кіеўскі канонік Адам Пашавіцкі. Яму для ўтрымання касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі было прызначана 45 руб. асігнацыямі і на 20 руб. збожжа. Аднак сродкаў на ўтрыманне касцёла не хапала, і Пашавіцкі скардзіўся ў магілёўскую рыма-каталіцкую духоўную кансісторыю на нястачу сродкаў. Ён пісаў, што на атрыманыя грошы ўтрымліваў чатырох езуітаў да іх ад'езду, а таксама чатырох служак з мясцовых людзей, і каб надалей утрымліваць сябе і чатырох служак, ён вымушаны быў забяспечваць сваім уласным коштам выдаткі ў надзеі на хуткую кампенсацыю ўладамі і штогадовы фундуш з Веткаўскай эканоміі княгіні Любамірскай. Пашавіцкі пісаў, што далей ён не ў стане ўтрымліваць касцёл і служак, а таксама не можа купіць дроў на ацяпленне, корм для быдла, коней і птушак, якія засталіся ад езуітаў.

Кансісторыя ў адказ загадала беліцкаму дэкану, каноніку і асэсару Пацэвічу, каб беліцкі дэкан сам адказаў Пашавіцкаму, што той мусіць пісьмова патрабаваць ад Веткаўскай эканоміі забеспячэнне належнага фундушу.

Да 1827 г. пробашч Пашавіцкі адначасова з'яўляўся беліцкім віцэ-дэканам.

У 1830-х гг. куратам Радужскага касцёла быў Ян Чаховіч. У гэты час да Радужскай парафіі былі прыпісаны чатыры капліцы: драўляныя ў Рудні-Шлягіна, Ухове і Нямковічах і мураваная ў Рудні (магчыма Рудня-Дудзіцкая, 39 вёрст ад касцёла). Да парафіі належала сем фальваркаў і пяць вёсак.[407]

У 1840—1850-х гг. пробашчам у Радузе быў ксёндз Ігнацы Браніслававіч Ставярэй, вікарыем — ксёндз Апалінар Казлоўскі.

Радужская парафія ў сярэдзіне XIX ст. была чацьвёртага класа, налічвала 1366 вернікаў.[408] Парафія мела чатыры драўляныя капліцы: у Рудні-Шлягіна з адным алтаром; у аколіцы Ухаў (Ухова) з трымя алтарамі, трымя лаўкамі і канфесіяналам; у вёсцы Акшынцы з адным алтаром; у вёсцы Нямковічах з трымя алтарамі (урывак з візітацыі касцёла за 1852 г. гл. у дадатку 8).

Захаваліся даныя аб рамонце касцёла ў 1855 г. З першага студзеня па першага лістапада 1855 г. радужскімі парафіянамі было сабрана 85 руб. 81 кап. ахвяраванняў на рамонт касцёла. Таксама

была ахвяравана 61 капа драніцы і 34 капы дошак для вырабу драніцы.

Пробашчам Ставярэем за 8 руб. 40 кап. было куплена тры пуды цвікоў. За 80 руб. для ўладкавання даху на парафіяльным жылым доме быў наняты гомельскі мешчанін Фёдар Іванаў Ганчароў. Яму быў дадзены аванс у 15 руб. Былі нанятыя людзі для вырабу з ахвяраваных дошак 34 копаў драніцы (па 22 кап. серабром за капу). Ім быў дадзены задатак у тры рублі.

Да першага лістапада 1855 г. была перароблена частка даху ў жылым парафіяльным доме. Заставалася яшчэ зрабіць другую частку даху на доме, дах на стайне і свіране, зруб пуні, пафарбаваць касцельны дах і агароджу і адрамантаваць арган. Аднак, як пісаў пробашч Радужскага касцёла ксёндз Ставярэй, сродкаў на гэтыя работы з-за беднасці парафіян не было.

Бедна жылі не толькі радужскія парафіяне, але і святары, побыт якіх быў даволі сціплы. Увогуле, пасля смерці пробашчаў Гомельскага дэканата ў спадчыну іх нашчадкам часцей заставаліся даўгі.[409]

Так, маёмасць ксяндза Ставярэя, які памёр у 1858 г. не пакінуўшы тэстамента, ацэньвалася ў 122 руб. 60 кап., у той час як плата за медычныя паслугі для яго і іншых дасягала 329 руб. 52 кап. серабром. Наяўных грошай у яго не знайшлі, а з прыхода-выдатковай кнігі касцёла высветлілася, што на патрэбы касцёла ксёндз выкарыстоўваў яшчэ і свае ўласныя сродкі.[410]

У 1856 г. вікарыем Радужскага касцёла працаваў ксёндз Апалінар Казлоўскі.

У 1864 г. куратам Радужскага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі быў Тамаш Сухоцкі, вікарыем — Фелікс Грахольскі, трэцім ксяндзом быў кармеліт Ян Чаховіч.

У 1864 г. вікарны ксёндз Радужскага касцёла Фелікс Грахольскі быў высланы ўладамі ў Наўгародскую губерню.

З 1864 па 1866 г., да самага закрыцця касцёла, вікарыем працаваў Аляксандр Тамашэўскі. Радужскі касцёл быў зачынены, верагодна, у 1866 г. Пасля таго, як 4 снежня 1866 г. Расія разарвала канкардат (дамову) з Ватыканам, да 1905 г. у Расійскай Імперыі было зачынена 170 парафій і каля 50 філій, а 120 касцёлаў (у тым ліку і Радужскі) былі перададзены праваслаўным.[411] Так Радужскі касцёл стаў праваслаўнай царквой.

82.Зачыненне касцёла. Артур Гротгер. 1861 г.

Цікава, што да нашага часу некаторыя жыхары суседніх з Радугай вёсак называюць яе «Польшчай», хаця моладзь Радугі нават не ведае, што ў іх вёсцы існаваў касцёл.

## 3. ФІЛІЯ РУДНЯ-ШЛЯГІНА

Філія Гомельскай парафіі Рудня-Шлягіна займала тэрыторыю двух валасцей Рагачоўскага павета — Рэчкаўскай і Стаўбунскай. У пачатку XX ст. гэтыя воласці ўваходзілі ў склад Гомельскага павета. Перад Першай сусветнай вайной філія налічвала 1894 вернікі.

Ксёндз Я.Жыскар пісаў: «Гэта невялікая парафійка, якая абслугоўваецца гомельскімі святарамі, бо на месцы няма нават плябаніі… Аднак людзі традыцыйна трымаюцца сваёй веры, і ніякія дамаганні не здолелі заставіць іх адрачыся ад каталіцтва. Калі святар наведвае вёскі, то людзі ахвотна збіраюцца на набажэнствы і выконваюць рэлігійныя абрады».[412]

Апроч капліцы ў Рудні-Шлягіна існавалі капліцы ў аколіцы Ухова і вёсцы Рудня-Стаўбунская.[413] Каталікі пражывалі яшчэ ў вёсцы Бесядзь, у Гарыстах, Рудні-Гулева, Утоньцы, Рэчкаўскіх Хутарах, Ухоўскіх Хутарах, Зарэччы, Стаўбуне, Рыслаўі,[414] у Новых Грамыках і некаторых іншых населеных пунктах.


Różne.

[illegible] hołdownik pod Imieniem twojém, je- [illegible] niedoskonały w tey Ś. cnocie; iż na [illegible] Bożą i na zbudowanie bliźniego, po- [illegible] doskonałości okazać nie mogę, a to [illegible] przez grzechy moje, postradałem Na- [illegible] łaskę Bożą: Ty przeto przyczyń się [illegible] wespół z naymilszą Matką Jego i [illegible] Swiętymi, abym ja dary łaski [illegible] mał, któreby mnie nauczały, co [illegible] wiedzieć i czynić według jego [illegible]. Przez miłość Jezusa Chry- [illegible] żyje i króluje na wieki wie- [illegible].

MODLITWA

Przede Mszą ś.

[illegible] twojéy pomocy, o Boże móy! abym [illegible] utracić nie mógł z tych łask, które [illegible] przedstawiasz w czasie świętéy, wspa- [illegible] i strasźliwéy ofiary, przy któréy ła- [illegible] dozwalasz mnie być przytomnym. O jakże to drogą ofiara! o jakże ona wielka jest w sobie! Bóg to jest co staje się ofiarą za mnie! Bóg to jest co sposobem niekrwa- [illegible] odnawia to wszystko, co przez miłość [illegible] ku nam ucierpiał na Krzyżu!

[illegible] w szczególnieyszym sposobie nad- [illegible] zapomnienie, iostygła względem tak [illegible] Tajemnicy okupu naszego obojęt- [illegible] ludzi światowych, łączę się z przytom- [illegible], o Zbawicielu móy! abym Ci uczynił, [illegible] być może: przyzwoitą nadgrodę i prze- [illegible], i abym Ci oddał hołd nayczystszey

83.Стары польскамоўны малітоўнік з Гарыстаў.

З 1910 па 1 лютага 1912 г. вікарыем філіі Рудня-Шлягіна быў Міхаіл Цакуль, якога пасля гэтага прызначылі вікарыем Гомельскага касцёла.

З 1918 г. па ліпень 1921 г. капеланам Рудня-Шлягінскага касцёла з'яўляўся Юзаф Лук'янін. У ліпені 1921 г. арцыбіскуп Цепляк прызначыў на пасаду капелана Рудня-Шлягінскага касцёла Леана Буйноўскага, да гэтага вікарыя Маскоўскага касцёла Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

84.Пячатка філіі Рудня-Шлягіна. 1920-я гг.

Пасля 1917 г. становішча Каталіцкага Касцёла, як і іншых канфесій, пагоршылася. Савецкая дзяржава вяла барацьбу з «рэлігійнымі перажыткамі», насаджэнне атэізму стала адным з прыярытэтных кірункаў у дзяржаўнай ідэялогіі. Вернікі невялічкай парафіі Рудня-Шлягіна хутка адчулі гэта на сабе. У сувязі з арыштамі і пераследам святароў, ужо ў 1923 г. пасада філіяліста была вакантнай, так як быў арыштаваны ксёндз Буйноўскі. Толькі час ад часу, адзін-два разы на год, філію наведваў гомельскі адміністратар і дэкан Канстанцін Андрэкус, які застаўся адзіным святаром на ўсю Гомельскую парафію і абслугоўваў і Рудня-Шлягінскую філію. Дзейнасць ксяндза Андрэкуса (як і дзейнасць люшаўскага і чачэрскага пробашча Баляслава Валынца) пільна адсочвалася партыйнымі функцыянерамі Польбюро, якія падрабязна фіксавалі практычна кожны яго крок. У адсутнасць ксяндза Андрэкуса ўсе абрады і набажэнствы, акрамя казанняў і літургіі, выконваў Цімафей Кацуба, а пасля, яго сын — Андрэй Кацуба. Рэдкую прысутнасць святара ў парафіі таксама кампенсавала і наяўнасць касцельных гурткоў. Іх удзельнікі збіраліся ў хаце аднаго з вернікаў і супольна маліліся.

Па некаторых звестках, некалькі разоў парафію наведаў ксёндз Лук'янін, які ў той час працаваў у Полацку. Ён прыязджаў да свайго брата В.Лук'яніна, які жыў у Рудні-Шлягіна, а пазней у Гомелі.

У другой палове 1920-х гг. улады пачалі весці шырокую антырэлігійную прапаганду. Асноўнымі кірункамі агітацыі былі разнастайныя лекцыі, антырэлігійныя гутаркі і вечары. Але прапаганда не давала жаданых вынікаў. І толькі ў 1930 г., пасля закрыцця капліц і арыштаў найбольш актыўных вернікаў, філія Рудня-Шлягіна афіцыйна перастала існаваць.

У міжваенны перыяд (з 1927 г.) на былой тэрыторыі філіі існавалі Рудня-Стаўбунскі і Рудня-Шлягінскі нацыянальна-польскія сельсаветы. Рудня-Шлягінскі сельсавет налічваў 1125 чалавек, з

якіх 820 чалавек (72,9 %) былі запісаныя палякамі. У Рудня-Стаўбунскім сельсавеце было 720 чалавек, з якіх 665 чалавек (92,4 %) былі запісаныя палякамі, а пяць чалавек (0,7 %) — беларусамі.[415]

У Рудні-Шлягіна, Рудні-Стаўбунскай і Утоньцы існавалі польскія школы.

## 3.1. РУДНЯ-ШЛЯГІНА

Рудня-Шлягіна — вёска ў Свяцілавіцкім сельсавеце Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, за 16 км на поўнач ад Веткі, 36 км ад Гомеля, на р. Нёманка (прыток Сожа).[416]. У XIX—пачатку XX ст. вёска была ў Рэчкаўскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні. У XIX ст. у Рудні-Шлягіна (а таксама ў Рэчках) зямельныя ўладанні мелі Шульцы. У вёсцы была сукнавальня (фолюш).[417]

85.Усё, што засталося ад маёнтка Шульцаў у Рэчках. У савецкі час у будынку размяшчаўся бровар (вінзавод). 2009 г.

У 1910 г. вёска налічвала 64 двары, 485 жыхароў. Сялянскае таварыства мела 860 дзес. зямлі, 1275 дзес. лесу.[418]

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС вёска была адселена і фактычна на сённяшні дзень не існуе.[419]

У 1819 г. Вярэйскімі ў Рудні-Шлягіна была пабудавана капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. З дазволу мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча капліцу перанеслі з двара Вярэйскіх на могілкі. Капліца была асвечана ў 1828 г. ксяндзом Янам Чаховічам з дазволу пралата Яна-Фелікса Шчыта. У 1853 г. адрамантавана і асвечана гомельскім дэканам Найневічам. Знаходзілася на могілках за чвэрць вярсты ад гаспадарчых пабудоў, у 15 вёрстах ад Радужскага касцёла. Капліца была абгароджана. Індульт выдадзены на дзесяць гадоў мітрапалітам Галавінскім 30 верасня 1852 г.[420]

У 1860 г. жыхарамі была пабудавана новая драўляная капліца, вядомая пад тытулам Сэрца Пана Езуса (у 1910-х гг. узамен яе, была пабудавана іншая драўляная капліца). Абслугоўвалася шлягінская капліца спачатку радужскімі святарамі, потым гомельскімі святарамі, а ў 1918—1922 гг. уласнымі капеланамі.

У сакавіку 1896 г. жыхары вёсак Рудня-Шлягіна і Рудня-Гулева звярнуліся да магілёўскага губернатара з просьбай аб рамонце капліцы ў вёсцы Рудня-Шлягіна. Рамонт мусіў быць выкананы коштам жыхароў вёсак на суму 165 руб. 4 красавіка губернатар

напісаў аб гэтай просьбе міністру ўнутраных спраў і паведаміў, што з яго боку перашкод для рамонту няма.[421] 3 мая дазвол быў дадзены.[422]

У Рудня-Шлягінскім народным вучылішчы, якое было адчынена ў 1906 г., выкладаўся закон Божы. Настаўніцай у вучылішчы пэўны час працавала Вяроўкіна-Шэлюта.

86.Шлягінскі католік А.П.Кацуба з сваёй сям’ёй. 1915 г.

У 1910 г. ў Рудні-Шлягіна пачалося будаўніцтва мураванага будынка, які меркавалася выкарыстоўваць, як касцёл. Будаўніцтва вялося пры дапамозе графа Менжынскага. Так як царскія ўлады непрыхільна ставіліся да будаўніцтва новых касцёлаў і капліц, то шлягінцы схітрылі, яны пачалі будаваць дом для пражывання ксяндза (плябанію), але мелі на ўвазе, што будынак будзе выкарыстоўвацца для набажэнстваў. Толькі гэта ўсё адно не выратавала шлягінцаў ад праследу. Як толькі быў зроблены фундамент, у вёску прыехаў станавы прыстаў і прыпыніў будаўніцтва.

Так гэты фундамент і прастаяў да Першай сусветнай вайны. А вернікі былі вымушаны пабудаваць на могілках невялікую капліцу (7 х 9 арш.).

Да пачатку 1915 г. будынак усё ж быў дабудаваны, але не была зроблена ўнутраная аддзелка. У 1915 г., калі ў вёску сталі прыбываць польскія бежанцы, у будынку размясціўся польскі бежанскі камітэт і дзіцячы інтэрнат. За кошт бежанскага камітэта зрабілі ўнутраную аддзелку.

У пачатку 1918 г. бежанцы выехалі ў Польшчу. Пры ўладзе гетмана Скарападскага (Рудня-Шлягіна, як і ўвесь Гомельскі павет у 1918 г. была акупавана і ўваходзілі ў Палескую губерню Украіны) у будынку была касцельная рада. З 1918 г. тут таксама жыў ксёндз Лук'янін з братам Вінцэнтам — арганістам капліцы, потым ксёндз Буйноўскі з сястрой. Сястра Буйноўскага жыла ў будынку яшчэ месяц пасля яго арышту. Пасля яе ад'езду ў будынку да 1924 г., па рашэнні грамады, жыў Іван Платонавіч Мохараў, які , на той час, не меў уласнага жылля.[423]

У 1923 г. старшыня сельсавету Марк Цімафеевіч Кацуба хацеў адабраць гэту камяніцу ў вернікаў і адчыніць у ёй хату-чытальню і ячэйку камсамола. Але натыкнуўся на супраціў вернікаў. На адным са сходаў было прапанована выкарыстоўваць будынак як капліцу. Вернікі падтрымалі ініцыятыву. У чэрвені 1923 г. касцельнае начынне з драўлянай капліцы было перанесена ў будынак, у якім для правядзення набажэнстваў прыйшлося зламаць грубку і перагародкі.

З чэрвеня 1923 г. будынак выкарыстоўваўся як капліца.

Набажэнствы спачатку адбываліся без усялякай дамовы, не плацілася ані арэнда ані страхоўка.

Толькі ў 1924 г. (27 жніўня) была заключана дамова на капліцу з Свяцілавіцкім валасным выканаўчым камітэтам. З гэтага часу касцельны камітэт плаціў арэндную плату за карыстанне капліцай і страхоўку.[424] Да Рудня-Шлягінскай парафіі (філіі) ў гэты час належалі вёскі Беседзь, Гарысты, Іванькава, Утонька, Рудня-Гулева, а таксама вёска Рудня-Стаўбунская і аколіца Ухова, у якіх былі капліцы.

Сярод іншых падзей 1924 г. выдзяляецца трагічнае здарэнне з настаўніцай Рудня-Шлягінскай польскай школы Серафімовіч. 10 лістапада яна была знойдзена ў становішчы агоніі каля аколіцы Падасоўе (прыкладна за 18 км ад Рудні-Шлягіна). На Серафімовіч была толькі лёгкая сукенка. Настаўніцу павезлі ў Падасоўе, але па дарозе яна памёрла ад пераахаладжэння і была пахаваная без агляду доктара. Сакратар гомельскага Польбюро Валешка ўгледзеў у гэтым трагічным здарэнні наўмыснае злачынства. Валешка быў упэўнены, што Серафімовіч «дапамаглі» памерці, бо «1) 9-10 лістапада тэмпература не была такой нізкай, каб чалавек мог замерзнуць; 2) супраць грамадзянкі Серафімовіч у Рудні-Шлягіна вялася агітацыя з боку касцельнага камітэту, які быў незадаволены тым, што настаўніца не хацела нелегальна выкладаць закон Божы; 3) Серафімовіч прыняла значны ўдзел у падрыхтоўцы святкавання 7-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі». Таму Валешка прасіў губернскага пракурора правесці эксгумацыю і ў выпадку пацверджання яго слоў распачаць крымінальны пераслед вінаватых асоб.[425] Але, судзячы па ўсім, падазрэнні Валешкі не пацвердзіліся.

У 1928 г. у касцельны камітэт Рудні-Шлягіна і Рудні-Гулева уваходзілі:

Старшыня — Петр Паўлавіч Кацуба.

Сакратар — Андрэй Цімафеевіч Кацуба.

Членамі камітэту былі таксама Павел Мацвеевіч Кацуба, Паўліна Мікалаеўна Кацуба, Іван Данілавіч Мохараў і Пётр Лук'янавіч Мохараў.

Касцельным актывістам быў і Аляксандр Паўлавіч Кацуба, які працаваў рабочым ліцейшчыкам у Гомелі, але пражываў з сям'ёй у Рудні-Шлягіна.

Існавалі некалькі касцельных гурткоў. Так, у Рудні-Шлягіна ў гуртку Ружанца ўдзельнічала 50 чалавек, у суседняй вёсцы Рудня-Гулева — 15 чалавек. Таксама існаваў гурток «тэрцыяраў», два гурткі Жывога Ружанца, у якіх удзельнічалі выключна мужчыны (адзін называўся гуртком св. Ізідора, другі — св. Юзафа), прыкладна

па 15 чалавек у кожным. Было і пяць жаночых гурткоў, у кожным з якіх удзельнічала таксама прыкладна па 15 чалавек.[426] Усяго ў гуртках удзельнічала 185 чалавек.

Кіраўнікамі гурткоў былі: Петр Паўлавіч Кацуба, Ганна Мохарава, Паўліна Мікалаеўна Кацуба, Юзэфа Ігнатаўна Саковіч, Павел Людвігавіч Мохараў, Анэля Паўлаўна Кацуба, Ганна Валенцінаўна Кацуба, Анастасія Іванаўна Мохарава, Анастасія Ігнатаўна Ключынская і Кацярына Андрэеўна Мохарава.[427]

Усімі гурткамі кіраваў сакратар касцельнага камітэту Андрэй Цімафеевіч Кацуба, а жаночымі — Паўліна Мікалаеўна Кацуба.

Гурткі ў Рудні-Шлягіна збіраліся ў хатах у Антолі Іванаўны Кацубы, Паўліны Мікалаеўны Кацубы, Пятра Ігнатавіча Мохара і Юзэфы Ігнатаўны Саковіч.

У Рудні-Гулева — у Івана Данілавіча Мохарава і Пятра Лук'янавіча Мохарава.[428]

Насельніцтва Рудні-Шлягіна у асноўным лічыла сябе палякамі, хаця па-польску маглі размаўляць толькі адзінкі з жыхароў вёскі.[429]

У 1928 г. улады Веткаўскага раёну з падачы сельскага савета Рудні-Шлягіна (старшынёй сельсавета ў гэты час быў Кузьма Леанавіч Мохараў, а сакратаром — Мікалай Кацуба-Сарокін) вырашылі адабраць у вернікаў будынак капліцы пад патрэбы сельсавета. 8 ліпеня ў вёску прыбылі намеснік пракурора па Веткаўскаму раёну Гукаў і начальнік раённай міліцыі Белавусаў з міліцыянерам. Яны ў катэгарычнай форме прапанавалі вызваліць памяшканне. Вернікам не заставалася нічога іншага, як вынесці касцельнае начынне з капліцы.[430]

Немалаважную ролю ў гэтым адабранні адыграў сакратар Гомельскага Польбюро Андрэй Адольфавіч Мінейка. На гэтую пасаду Мінейка быў прызначаны летам 1928 г., а да гэтага ён працаваў інструктарам Армавірскага сельскагаспадарчага саюза.

Мінейка нарадзіўся каля 1886 г. у Вільні. У часы Грамадзянскай вайны служыў у ЧК, быў рэзідэнтам савецкай разведкі ў Польшчы (пад прозвішчам Твардоўскі), начальнікам закардоннай разведкі 17-й дывізіі 16-й арміі. Пасля працаваў у ДПУ і на розных кіруючых пасадах на Паўночным Каўказе. 21 красавіка 1928 г. ён напісаў заяву ў Гомельскі Акружкам КП(б)Б з просьбай прыняць яго на працу. Сваё жаданне працаваць у Гомелі Мінейка матываваў тым, што сваякі яго жонкі жывуць у Гомелі, і жонцы з двумя дзецьмі будзе зручней жыць каля іх. Акрамя таго, Мінейка добра ведаў польскую і беларускую мовы, а таксама мясцовасць і быт насельніцтва.[431]

Менавіта Мінейка пачынаў праводзіць на Гомельшчыне калектывізацыю польскай вескі, аб чым сведчаць шматлікія

крыніцы. Ён даволі часта выязжаў у польскія нацсельсаветы каб правесці абследаванні, праверкі і рэвізіі. Таксама Мінейка быў загадчыкам антырэлігійнай секцыі Гомельскага Акружкама КП(б)Б.

Касцельны камітэт Рудня-Шлягінскай парафіі і яго актывісты Андрэй Цімафеевіч і Пётр Паўлавіч Кацубы пачалі барацьбу за капліцу. 17 ліпеня яны накіравалі скаргу Гомельскому Акружному пракурору. Пракурор скаргу прыняў і абяцаў хутка разабрацца, але прайшоў месяц, а ніякіх вынікаў не было. 19 жніўня Гомельскому Акружному пракурору была накіравана яшчэ адна заява. Пракурор перадаў яе на разгляд у Акрвыканкам і справа ізноў завязла. Тады 29 жніўня упаўнаважаныя ад Рудня-Шлягінскай філіі Андрэй Цімафеевіч і Пётр Паўлавіч Кацубы напісалі скаргу ў Акрвыканкам і прасілі паскорыць справу. Праз некаторы час у вёску выехала камісія Акрвыканкама ў складзе сакратара Польбюро Мінейка і прадстаўніка Акружкама ЛКСМ Ігнатовіча (яны правялі ў вёсцы ўсяго 15 хвілін). Пасля гэтага справа ізноў заціхла, а 2 лістапада ў Рудню-Шлягіна прыехаў сакратар Польбюро Мінейка, які сабраў агульны сход.[432] Мінейка абвесціў, што справа аб капліцы разглядалася ў Мінску і Маскве і што Пракуратура і Савецкая ўлада вырашылі «…заняць капліцу пад культурную установу, г.з. размесціць у ім школу, хату-чытальню, сельсавет». На сходзе было вырашана, што «..дом, дзе пражываў ксёндз, пры наяўнасці побач капліцы, заняты вернікамі неправільна, а таму з пастановай Акрвыканкама па замацаванні мураванага дома для культурна-асветніцкай мэты для нашай вёскі — пагадзіцца».[433]

21 лістапада старшыня сельсавета і жыхар суседняй вёскі залезлі на дах капліцы і адсеклі крыж на купале.

На наступны дзень Андрэй Цімафеевіч і Пётр Паўлавіч Кацубы напісалі скаргу сакратару ЦК КП(б)Б. [434]

5 снежня адбылося паседжанне Польбюро ЦК КПБ(б) на якім разглядалася справа аб Рудня-Шлягінскай капліцы. На паседжанні было вырашана, што капліца адбрана ў вернікаў правільна.[435]

23 снежня 1928 г. Андрэй Цімафеевіч і Пётр Паўлавіч Кацубы былі арыштаваны супрацоўнікамі Акружнога аддзела ДПУ. Супраць іх была узбуджана следчая справа і яны былі абвінавачаны паводле арт. 72-б КК БССР (антысавецкая агітацыя і прапаганда). Канкрэтна Андрэю Цімафеевічу і Пятру Паўлавічу Кацубам ставілі ў віну тое, што яны займаліся антысавецкай дзейнасцю сярод польскага насельніцтва, сарвалі кампанію «Абарона краіны», восеньскую пасяўную кампанію, стварылі групоўку, у якой былі контррэвалюцыйныя мэты, займаліся самагонаварэннем і распіццем самагона ў капліцы з ксяндзом Андрэкусам. Да таго ж, Андрэя

Цімафеевіча, які ў свой час служыў у войску фельдшарам, абвінавацілі ва ўрачаванні (арт. 111 КК БССР).[436]

Аднавяскоўцы як маглі змагаліся за вызваленне Андрэя Цімафеевіча і Пятра Паўлавіча. Так 21 студзеня 1929 г. 101 жыхар Рудні-Шлягіна падпісаў «Прыгавор» у якім гаварылася: «Мы, якія ніжэй падпісаліся, грамадзяне вёскі Рудня-Шлягіна Гомельскай Акругі, Веткаўскага раёна, …выдалі гэты прыгавор грамадзяніну Кацуба Андрэю Т. У тым, што ён ні ў якіх контррэвалюцыйных выступах не быў заўважаны…, пад судом і следствам не быў, а хадайнічаў перад Уладай аб пакіданні малітоўнага дома ў нашай вёсцы па нашаму даручэнні.

Просім правесці следства аб ім у шырокай масе нашай вёскі і вызваліць як мага хутчэй.

Грамадзяне вёскі Рудня-Шлягіна».[437]

Але хадайніцтва аднавяскоўцаў не дапамагло і 21 чэрвеня 1929 г. на паседжанні Калегіі АДПУ Пятра Паўлавіча Кацубу згодна арт. 58/10 КК РСФСР (антысавецкая агітацыя і прапаганда) асудзілі на шэсць месяцаў пазбаўлення волі.

86.1. Магіла Пятра Паўлавіча Кацубы на Шлягінскіх могілках.

Андрэя Цімафеевіча Кацубу згодна арт. 58/4 КК РСФСР (аказанне дапамогі міжнароднай буржуазіі) асудзілі на дзесяць гадоў пазбаўлення волі ў канцлагеры.[438]

Пасля закрыцця капліцы, паводле ўспамінаў ураджэнца вёскі Рудня-Шлягіна Пятра Паўлавіча Мохарава[439] (1930 г.н.), начынне капліцы, а менавіта: вялікі драўляны крыж, які выкарыстоўваўся ў час хрэсных хадоў і хаўтур, кнігі і абразы, мясцовыя жыхары разабралі па хатах. Крыж і тры абразы спачатку захоўваліся ў Пятра Кастанавіча Ключынскага. Пасля рэчы захоўвала яго дачка Софія (1905 г.н.). Пасля смерці Софіі Мохаравай (Ключынскай) у лістападзе 1989 г., яе пляменніца Ганна Калітанаўна Мохарава перадала крыж у Гомельскі касцёл ксяндзу Славаміру Ляскоўскаму. Адзін з трох абразоў захоўваецца ў сям'і Пятра Паўлавіча Мохарава, другі – у сям'і яго сястры Ганны Паўлаўны Мохаравай, трэці абраз – ва ўнукаў Ганны Калітанаўны Мохаравай.

87.Крыж з Шлягінскай капліцы.

Па звестках жыхароў Рудні-Шлягіна, драўляная капліца разбурана не была. У канцы 1943 г. (ці ў пачатку 1944 г.) капліца была разабрана салдатамі Чырвонай Арміі для пабудовы маста.

Мураваная капліца захавалася да нашых дзён. Гэты напаўразвалены будынак ды могілкі – усё, што напамінае аб існаванні адселенай вёскі.

87.1. Руіны Шлягінскай капліцы.

Ахвярамі сталінскіх рэпрэсій сталі некалькі дзясяткаў жыхароў Рудні-Шлягіна. Так вышэй згаданы Пётр Кастанавіч Ключынскі, які трымаў моцную гаспадарку, у якой працавала ўся яго сям'я (жонка, дочкі Софія і Марыя, сыны Фларыян і Калітан), быў арыштаваны разам са сваімі сынамі. Усе яны былі асуджаны і высланы ў Краснаярскі край. Пасля адбыцця пакарання Фларыян з маладой жонкай і Пётр Кастанавіч вярнуліся на радзіму (лёс Калітана пасля высылкі невядомы). Фларыян уладкаваўся ў Гомелі пажарным, але 18 ліпеня 1937 г. ізноў быў арыштаваны і 7 кастрычніка таго ж года расстраляны ў Гомелі.

88.Фларыян Ключынскі з жонкай.

Рэлігійнае жыццё ў вёсцы Рудня-Шлягіна працягвалася і пасля закрыцця капліцы. Вернікі зрабілі малельню ў хаце адной жыхаркі вёскі. Нават у 1970-х гг. у Рудні-Шлягіна людзі хрысцілі дзяцей паводле каталіцкага абраду (самі, бо святароў не было).

## 3.2. УХОВА

Ухова — вёска ў Свяцілавіцкім сельсавеце Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС была адселена.

Аколіца Ухова ў пачатку XX ст. была ў Рэчкаўскай воласці (10 вёрст ад Ухова). У канцы XVIII ст. землямі ў аколіцы валодалі шляхцічы Усціновічы.[440]

Побач з аколіцай быў аднайменны маёнтак, які ў канцы XIX ст. належаў братам Аляксандру, Антонію, Віктару і Фларыяну Драбышэўскім. Маёнтак быў падзелены на тры часткі: у частцы Віктара і Аляксандра было разам з Малкавым і Свяцілавічамі 106 дзес. зямлі (75 дзес. лесу, 20 дзес. раллі, 7 дзес. лугоў), у частцы Антонія было 1400 дзес. зямлі (1230 дзес. лесу, 60 дзес. раллі, 30 дзес. лугоў), і ў частцы Фларыяна — разам з Малкавым 151 дзес. зямлі (107 дзес. лесу, 18 дзес. раллі, 12 дзес. лугоў).[441]

У аколіцы быў размешчаны валасны склад запасаў збожжа.

Капліца пабудавана ў 1820 г. Драбышэўскімі. З дазволу мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча асвечана беліцкім дэканам. Знаходзілася на могілках за чвэрць вярсты ад гаспадарчых пабудоў, 20 вёрст ад Радугі. Была абгароджана. Індульт выдадзены пралатам Янам-Феліксам Шчытам, але згарэў у пажары ў сярэдзіне XIX ст.[442]

Спачатку да 1820-х гг. капліца была ў Гомельскай парафіі, потым у Радужскай, пасля яе закрыцця — у Чачэрскай парафіі. З 1917 г. у складзе Рудня-Шлягінскай філіі.

Вясной 1896 г. жыхары Ухова звярнуліся да магілёўскага губернатара з просьбай аб рамонце капліцы.[443] Капліцу планавалася адрамантаваць коштам жыхароў аколіцы на суму 182 руб. 4 красавіка губернатар напісаў аб гэтай просьбе міністру ўнутраных спраў і паведаміў, што з яго боку перашкод рамонту няма. 3 мая дазвол быў дадзены.[444]

У 1929 г. старшынёй касцельнага камітэту ў Ухове быў Аляксандр Драбышэўскі.

Капліца ў Ухове была зачынена прыкладна ў 1929 г.

## 3.3. РУДНЯ-СТАЎБУНСКАЯ

Рудня-Стаўбунская — вёска ў Стаўбунскім сельсавеце Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. У пачатку XXI ст. Рудня-Стаўбунская налічвае 20 гаспадарак, 39 жыхароў, пераважна сталага веку. У 1881 г. вёска налічвала 73 двары, 380 жыхароў, у 1897 г. — 119 двароў, 714 жыхароў, 95 % з якіх былі католікамі.

Пры абследаванні ў 1935 г. Рудня-Стаўбунскага сельсавета жыхар Рудні-Стаўбунскай Іван Андрэевіч Гулевіч, якому тады быў 91 год, так распавёў пра ўзнікненне вёскі: «Гадоў 300 таму[445] з вёскі Старая Рудня, якая знаходзілася паміж Свяцілавічамі і Стаўбуном[446], па дазволу графа Чарнышова на яго землі ў лясны масіў пераехала некалькі сем'яў. Іх прозвішча было Гулевічы. Яны раскарчавалі месца і заснавалі вёску Рудня-Стаўбунская».

Прыкладна 100 гадоў у лясной вёсцы Гулевічы плавілі балотную руду (ліманіт), вырабялі так патрэбнае мясцовым жыхарам жалеза.[447] З развіццём у Расійскай імперыі металапрамысловасці ў канцы XIX ст. саматужная вытворчасць жалеза спынілася. Патухла рудня і ў гэтай вёсцы, як і па ўсіх руднях Беларусі, але назва селішча так і засталася — Рудня-Стаўбунская.

Гулевічы — вядомы ва ўсходняй Гомельшчыне каталіцкі род.[448] Магчыма, што гомельскія Гулевічы паходзяць ад валынскіх Гулевічаў, якія славіліся пабожнасцю, а ў XVII ст. заняліся здабываннем жалезнай руды.

Капліца ў вёсцы Рудня-Стаўбунская існавала з 1874 г. і спачатку знаходзілася ў падпарадкаванні Гомельскага касцёла. Яна, як і большасць падобных капліц, стаяла на могілках.

У маі 1899 г. сяляне вёскі звярнуліся да магілёўскага губернатара з просьбай дазволіць ім зрабіць за ўласныя сродкі рамонт капліцы. Планавалася пашырыць капліцу і зладзіць новы дах. Рамонт ацэньваўся ў 216 руб. У гэты час католікаў у Рудні-Стаўбунскай налічвалася 716 чалавек, і яшчэ 23 католікі пражывалі ў суседніх вёсках. Набажэнствы ў капліцы адбываліся каля 20 разоў на год.

У студзені 1904 г. загадчык капліцы Іван Якаўлевіч Гулевіч прасіў магілёўскага губернатара дазволіць зрабіць за ўласны кошт з паўночна-заходняга боку капліцы чацвёртае акно, таму што пры набажэнстве не хапала святла. Такі дазвол яму быў дадзены.

26 лютага 1916 г. дэкан Ячэйка звярнуўся да біскупа Цепляка з просьбай выдаць новы індульт для капліцы ў Рудні-Стаўбунскай. 2 сакавіка біскуп выдаў індульт тэрмінам на 7 гадоў.[449]

У 1920-х гг. у вёсцы існавалі тры касцельныя гурткі. Адным з іх кіравала Магдаліна Ільінічна Гулевіч. Пасля яе ад’езду ў 1927 г. у Амурскую вобласць, гурток, якім яна кіравала, перастаў працаваць.

У 1928 г. у Рудні-Стаўбунскай працавалі два касцельныя гурткі Жывога Ружанца. Першым гуртком кіравала Марцэля Паўлаўна Гулевіч, якая жыла ў цэнтры Рудні-Стаўбунскай, другім — Пелагея Мікалаеўна Гулевіч (яна жыла ў канцы вёскі). У абодвух гуртках налічвалася прыкладна па 20 чалавек, у асноўным пажылыя жанчыны.

Касцельны камітэт Рудні-Стаўбунскай у 1928 г. узначальваў Антон Васільевіч Гулевіч — бацька старшыні сельскага савета. Сакратаром быў Іван Станіслававіч Гулевіч. У камітэт таксама ўваходзілі Адам Раманавіч Скарапацкі, Юзаф Раманавіч Скарапацкі (бацька сакратара сельскага савета) і Іван Паўлавіч Гулевіч.

Адам Раманавіч Скарапацкі быў, як пісалі ў савецкіх дакументах, «исправляющий религиозный культ», гэта значыць кіраваў у часе адсутнасці ксяндза набажэнствамі.

Камітэт падтрымліваў пісьмовую сувязь з гомельскім ксяндзом, які наведваў вёску адзін-два разы на год.

У 1928 г. камітэтам быў арганізаваны сход, на якім было пастаноўлена сабраць з кожнага жыхара вёскі па 10 кап. на рамонт (фарбаванне) даху капліцы. дах пафарбавалі, хаця цалкам грошы сабраць не ўдалося.[450]

У тым жа 1928 г. у вёсцы перад Вялікднём быў наладжаны антырэлігійны вечар. Аднак ніхто з беспартыйных сялян і моладзі не прымаў удзел у гульнях і танцах, бо быў перыяд Вялікага посту.

Капліца ў Рудні-Стаўбунскай праіснавала да 1930 г. Гэтая капліца і Гомельскі касцёл былі апошнімі дзеючымі каталіцкімі культавымі будынкамі на тэрыторыі Гомельскай парафіі.

Калектывізацыя ў вёсцы Рудня-Стаўбунская праходзіла марудна. Арганізатарам і першым старшынёй калгаса ў Рудні-Стаўбунскай быў Іосіў (Юзаф) Гулевіч. У 1930-м г. ён аддаў загад знішчыць капліцу.[451] Жыхарам удалося выратаваць некаторыя рэчы з капліцы. Адзін з абразоў схаваў у сябе на гарышчы бацька старшыні калгаса Антон Васільевіч Гулевіч.[452] Самога ж старшыню калгаса — Іосіфа Гулевіча, як перадавога камуніста, накіравалі падымаць калгасы на Украіну. Там ён і загінуў.

У 1933 г. з'явіліся першыя рэпрэсіраваныя і раскулачаныя. Усяго было арыштавана каля 30-40 чалавек. З іх у вёску пасля зняволення вярнуліся толькі трое. Астатніх амаль усіх расстралялі.

У ліку расстраляных і Варвара Іосіфаўна Гулевіч — жонка старшыні калгаса Іосіфа Гулевіча. Вось што расказвала яе дачка — Станіслава Іосіфаўна Гулевіч, заслужаная артыстка БССР: «Аўтамабіль, празваны ў народзе «чорны воран», тады ўжо добра прымільгаўся жыхарам вёскі. Рэдкі ў тыя гады ў нашых глухіх мясцінах, рокат матору спачатку выклікаў жывы інтарэс. Аднак хутка людзі сталі смяротна страшыцца з'яўлення гэтага «цуда савецкай тэхнікі», на якім вывозілі з вёскі людзей і яны знікалі назаўсёды. Пачуўшы шум рухавіка, хаваліся па хатах, зачынялі засоўкі, апускалі заслоны, хрысціліся нават няверучыя: «Божа пранясі!». Але страх не знікаў. Чужая бяда, хаця і аддаленая, усё роўна шчаміла сэрца.

У той дзень мама, брат і я былі ў бабулі. Ад бацькі з Данбасу, куды яго накіравалі на працу, даволі доўгі час не было звестак. Што ж здарылася? Мама хвалявалася. Уся яна панікла, змарнела, замкнулася ў сабе. Куды падзявалася яе добрая, шчырая ўсмешка? Нават голас, заўсёды звонкі і пявучы, стаў глухім і ціхім. На вачах часта з'яўляліся слёзы, на твары — страх. Мабыць, сэрцам прадчувала няўхільную бяду…

У дзень, калі ўзялі маму, сказалі: «Для паказанняў, як сведку на допыт», а звезлі назаўсёды.

Маме было ўсяго 37 гадоў. У калгасе «Новае жыццё» яна працавала даяркай, была актывісткай сельскага савета. Судзілі маму паводле надуманага і бязглуздага абвінавачвання. Расстралялі ў Гомелі 1 красавіка 1938 г.

З дому маму павялі два ўзброеныя салдаты. Толькі і паспела крыкнуць з парога: «Дзеці мае, дзеткі, родненькія… Гэта ўсё!».

Настаўніца, якая пазней вярнулася з няволі, расказала, як зневажалі і здзекаваліся з мамы следчыя, яны прымушалі яе

падпісаць імі ж сфабрыкаваныя паказанні. Надломленая маральнымі і фізічнымі катаваннямі, яна паверыла, што разам з «прызнаннямі» яе пакінуць у спакоі. Хуткі суд быў няўмольным. Прыгавор — расстрэл».[453]

Таксама расстралялі бацьку і брата Варвары Гулевіч — Іосіфа Раманавіча Скарападскага і Мікалая Іосіфавіча Скарападскага. Быў расстраляны і яе свёкар.

Ёсць і яшчэ сведчанні сучаснікаў аб рэпрэсіях у Рудні-Стаўбунскай. Так, на допыце 4 чэрвеня 1939 г. пэўны Хайкін, які выступаў у якасці сведкі незаконных дзеянняў НКУС, паказаў: «будучи под стражей во второй камере, в которой находилась группа арестованных колхозников из деревни Рудня-Столбунская, Светиловичского района, по фамилии Гулякевичи (так у тэксце, — У.В.) и Громыко, в количестве семи человек, а в соседних камерах сидело еще из их деревни, причем — они рассказывали, что из их колхоза привели около 40 чел. Всех их допрашивал следователь Кошкин, они говорили, что он их избивал, в результате чего получил от них ложные показания о якобы их принадлежности к к.р. организации […] «ПЛОВ», «ПОВ» («Польская Вайсковая Арганізацыя» — У.В.) и другие слова, не зная содержания, что это обозначает, и эти колхозники между собой ругались — почему они клеветали друг на друга».[454]

Пасля таго, як капліцу зачынілі, будынак разабралі і перанеслі ў іншае месца, прыкладна на некалькі сотняў метраў, перарабіўшы на польскую школу.[455]

У 1928 г. настаўніцай у школе працавала Р.Шаблоўская.[456]

Школа праіснавала да сярэдзіны 1930-х гг., а потым была зачынена. Цяпер на гэтым месцы пустыр.

89.Тут была польская школа.

Як распавядала ў 2006 г. старэйшая жыхарка Рудні-Стаўбунскай Францыска Гулевіч, якая вучылася ў гэтай школе, пасля закрыцця школы вучняў перавялі ў суседнюю беларускамоўную Стаўбунскую школу. На першым жа дыктанце практычна ўсе вучні былой польскай школы атрымалі нізкія адзнакі.

Ад былой капліцы сёння засталіся толькі валуны з падмурка, вакол якіх знаходзяцца пахаванні, бо могілкі значна разрасліся.

90.Валуны ад капліцы

У вёсцы ў пустуючай хаце ўладкаваная капліца, начынне якой — гэта часткова рэчы з даваеннай капліцы, якія жыхары хавалі некалькі дзесяцігоддзяў ад савецкіх уладаў.

91.Хата, у якой уладкаваная капліца.

Гэта было даволі небяспечна, бо за знойдзены каталіцкі польскамоўны малітоўнік можна было атрымаць турэмны тэрмін.

На святы да вяскоўцаў прыязджаюць святары з Гомеля, якія адпраўляюць набажэнствы.

92.Інтэр’ер капліцы.

93.Начынне капліцы (частка рэчаў паходзіць з разбуранай у 1930-я гг. старой капліцы).

94.Напрыклад, гэтыя падсвечнікі.

95.І Евангелле.

## V. ЛЮШАЎСКАЯ ПАРАФІЯ

### 1. ГІСТОРЫЯ ЛЮШАЎСКАЙ ПАРАФІІ

Люшаў — вёска ў Ліпініцкім сельсавеце Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці, за 16 км на поўнач ад Буда-Кашалёва, 64 км ад Гомеля. У 2004 г. налічвалася 11 гаспадарак, 14 жыхароў.[457]

Вёска Люшаў і аднайменны маёнтак уваходзілі ў Староруднянскую воласць (14 вёрст ад Люшава) Рагачоўскага павета. У 1858 г. у вёсцы было 26 двароў. У канцы XIX—пачатку XX ст. вёска налічвала 30 двароў, мела 200 жыхароў.

У былым Люшаўская парафія была філіяй Чачэрскай парафіі Гомельскага дэканата Магілёўскай архідыяцэзіі, а з пачатку XX ст. — філіяй Антушаўскай парафіі.

Маёнтак Люшаў доўгі час належаў Перасвет-Солтанам, якія мелі тут 1413 дзес. зямлі, з іх 888 дзес. лесу.[458]

96.Герб Перасвет-Солтанаў

У 1687 г. Перасвет-Солтанамі быў узведзены драўляны касцёл пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Цалкам верагодна, што ў канцы XVIII ст. касцёл належаў Чачэрскай парафіі, бо ў дакументах канца XVIII ст. згадваецца нехта Анацкі з *«вёскі Любовін Чачэрскай парафіі»*, які жыў у той час у Гомелі.[459] У 1800 г. на сродкі парафіян пабудаваны новы драўляны касцёл, які з дазволу магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі быў асвечаны ксяндзом Казімірам Квічынскім.[460] 6(18) студзеня 1803 г. беліцкі дэкан ксёндз Язафат Садко ў сваім рапарце паведаміў, што люшаўскі курат дамініканец Казімір Квічынскі адмовіўся ад выканання сваіх абавязкаў у сувязі з хваробай і ўзростам. Калятары касцёла Солтаны згадзіліся прызначыць на пасаду люшаўскага курата ксяндза Чэслава Бейнаровіча, які жыў непадалёк у Ладубе.[461]

97.Люшаў і ваколіцы на аўстрыйскай карце пачатку канца XIX — пачатка XX стст.

У пачатку—сярэдзіне XIX ст. Люшаўская парафія самастойная, потым ізноў уваходзіць у Чачэрскую парафію. Касцёл з плябаніяй стаялі за 2 км ад вёскі, у чыстым полі, на тэрыторыі маёнтка Перасвет-Солтанаў. Касцёл добра ўтрымліваўся. Каля яго знаходзіліся могілкі, якія таксама былі добра дагледжаныя. На могілках у пачатку XX ст. былі помнікі з наступнымі надпісамі:

1. «Пробашч Ян Юнкевіч, пам. 3 ліпеня 1863 г.».

2. «Фларыян і Юліяна з Кербедзяў Юнкевічы, нар. 8 жніўня 1841 г., пам. 1 чэрвеня 1849 г.».

3. «Міхаіл Перасвет-Солтан, пам. 18 кастрычніка 1876 г.».

4. «Эвеліна з Палонскіх Перасвет-Солтан, пам. 27 кастрычніка 1876 г.».

5. «Станіслаў Перасвет-Солтан, пам. 11 лістапада 1878 г.».

6. «Ігнацы Гурскі, пам. 22 студзеня 1885 г.».

7. «Януарый Казела, пам. 10 мая 1859 г., праж. 29 г.».

8. «Міхаіл Саблінскі, пам. 4 жніўня 1906 г., праж. 42 г.».

9. «Вікторыя з Сільвястровічаў Манкевіч, нар. у 1829 г. праж. 70 г.».

10. «Вацлаў Перасвет-Солтан, пам. 12 верасня 1899 г.».

11. «Кс. Антоні Вальчукевіч, пам. 22 ліпеня 1904 г.».

12. «Канстанцыя з Цеханавецкіх Перасвет-Солтан, нар. 1822 г., пам. 16 лютага 1883 г.».

13. «Рамуальд Ігнатовіч, пам. 14 красавіка 1887 г., праж. 65 г.».

14. «Францыск Хадкевіч, пам. 8 сакавіка 1851 г.».

15. «Аляксандр Парчэўскі, пам. 2 студзеня 1856 г.».

16. «Юзаф Перасвет-Солтан, пам. 18 студзеня 1846 г.».

17. «Тэрэза з Солтанаў Лісоўская, пам. 8 снежня 1891 г.».

18. «Станіслаў Перасвет-Солтан, нар. 27 сакавіка 1749 г., пам. 22 красавіка 1865 г.».

19. «Ян Перасвет-Солтан, нар. 1822 г., пам. 16 лютага 1883 г.».

20. «Цыпрыян Маскевіч, пам. 22 красавіка 1865 г.».

21. «Леан Хадкевіч, нар. 1822 г., пам. 29 ліпеня 1848 г.».

22. «Ян Перасвет-Солтан, нар. 6 ліпеня 1799 г., пам. 4 ліпеня 1838 г.».[462]

У 1803 г. калятарамі былі Солтаны і Сямкоўскія, куратам — Чэслаў Бейнаровіч (33 гады, 9 гадоў святарства, 1 год у мястэчку Люшаве), дамініканін. Пры касцёле меўся 1 касцельны служка. Капіталы складалі 500 руб. Пэўныя даходы былі 25 руб. 5 кап., няпэўныя — 5 руб. Аплата ксяндзу, служку і за грунты — 30 руб. Колькасць святой Імшы ў год — 52. Парафіян, здольных прымаць камунію, — 97, няздольных — 33, усяго 130. Ахрышчана хлопчыкаў — 1, дзяўчынак — 1. Памерлі 2 мужчыны, 1 жанчына. Пабралася шлюбам 1 пара.

У Вікторынскай капліцы, якая належала Люшаўскай парафіі, у 1803 г. калятарам быў Вінцэнт Дзерналовіч, маршалак і кавалер. Капеланам быў бернардынец Барталамей Міхалоўскі (32 гады, 9 гадоў святарства, 1 год у Вікторыне). Пры капліцы быў 1 касцельны служка. Пэўныя даходы складалі 50 руб. У 1808 г. Барталамей Міхалоўскі ўжо значыцца люшаўскім куратам.

Неўзабаве Люшаўская парафія была пераведзена з Беліцкага дэканата, верагодна, у Быхаўска-Рагачоўскі дэканат. У 1819 г. мітрапаліт Богуш-Сестранцэвіч сваім указам ад 22 жніўня перадаў у

валоданне Люшаўскага касцёла алтарную суму Гомельскага касцёла ў 5 тыс. польскіх злотых (750 руб.), якая была размешчана ў валоданнях Фелікса Фашча. З гэтай сумы Люшаўскай плябаніі прычытаўся 6-ы працэнт. Быхаўскі дэкан Бехлер, выконваючы загад мітрапаліта, 16 снежня 1819 г. асабіста паехаў у Люшаў, дзе паведаміў курату Лыку, што архіпастыр кансекраваў яму гомельскую алтарыю. Бехлер таксама зрабіў інвентар Люшаўскага касцёла і плябаніі.[463]

Люшаўскім куратам (пробашчам) прынамсі да 1827 г. быў ксёндз Лыка. У 1841 г. куратам быў прызначаны ксёндз Дамінік Юшкевіч. З 17 верасня 1848 г. адміністратарам парафіі быў чачэрскі адміністратар ксёндз Ян Юшкевіч, які раптоўна памёр 9 кастрычніка 1854 г. З сярэдзіны XIX ст. Люшаўская парафія была ў складзе Гомельскага дэканата. У 1880-х гг. яна стала філіяй Чачэрскай парафіі, а ў пачатку XX ст. — філіяй Антушаўскай парафіі.

18 кастрычніка 1852 г. адбылася візіта Люшаўскага касцёла, якую ўчыніў беліцкі дэкан Найневіч.

Тэкст візіты, між іншага, паведамляў: *«Стан касцёла Люшаўскага. Хаця ён і быў у занядбаным стане, пробашч Ян Юшкевіч прывёў у парадак. Абгарадзіў штыкетнікам, перакрыў дах, падмураваў, ашаляваў, звонку атынкаваў і пабяліў, унутры таксама выбяліў, дах пафарбаваў свінцовай фарбай.*

*Начынне касцёла складаецца з 3-х алтароў, на якіх рамы пазалочаныя цаной 75 руб., на якія пашчыраваў ксёндз Юшкевіч. Цымборыюм адноўлены.*

*Прыслуга складаецца з арганіста, сакрысціяніна і хлопца.*

*Ануаты не бяруцца. Сад на 300 дрэў.*

*Капліца ў вёсцы Вікторыне, драўляная на падмурку з агароджай. Мае 3 алтары і 6 лавак.*

*Цвінтароў у парафіі 2»*.[464]

У 1855—1863 гг. пробашчам Люшаўскага касцёла быў Ян Юнкевіч (памёр 3 ліпеня 1863 г.). Захаваліся падрабязныя запісы пра стан Люшаўскай парафіі ў гэты перыяд, якія зрабіў 22 сакавіка 1855 г. курат Ян Юнкевіч. У парафіі было 774 чалавекі, з іх 19 пражывала ў Люшаве. Саслоўны стан вернікаў быў такі: патомных дваран — 222 чалавекі; асабістых дваран — 403 чалавекі; белага духавенства — 1 чалавек; мяшчан — 36 чалавек; сялян — 87 чалавек (з іх 27 аднадворцаў); розных служачых — 17 чалавек; вайскоўцаў — 4 чалавекі; іншаземцаў — 4 чалавекі.

Люшаўскаму касцёлу належала зямель: ворных — 2 дзес. 1232 сажні; сенакосных — 1 дзес. 1430 сажняў; няўдобіц — 1403 сажні; нявызначаных — 11 дзес.; пад лесам — 1224 сажні.

У парафіі нарадзілася 17 дзяцей (6 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак), з іх 1 хлопчык пазашлюбны, 15 чалавек памерла. Былі заключаны 2 шлюбы.[465]

У 1855 г. у Люшаўскім касцёле была адрамантавана падлога. Капітал на рамонт падлогі не спатрэбіўся, бо матэрыялы і людзей выдзялілі ўладальнікі Люшава.

У 1855 г. былі сабраныя ахвяраванні ад парафіян у колькасці 234 руб. 93 кап. З гэтай сумы за купленыя ў Варшаве рэчы для касцёла было заплачана пану Венцкоўскаму: 120 руб. за 6 чыгунных падсвечнікаў з бронзавымі пазалочанымі фігуркамі; 21 руб. за бронзавы пазалочаны крыж з распяццем Хрыстуса на чыгунным пастаменце; 36 руб. за 3 каноны ў пазалочаных рамках са шклом; 18 руб. 33 кап. за перавоз гэтых рэчаў з Варшавы ў Люшаў; 1 руб. 20 кап. за 12 аршынаў мішурнага пазументу; 70 кап. за 7 аршынаў мішурнай бахрамы; 30 кап. за 6 лотаў сечкі; 15 кап. за 30 медных цвікоў для балдахіна; 12 руб. за імшал у скураным пераплёце; 6 руб. за лотку накладнога серабра; 6 руб. за крапіла; 7 руб 75 кап. за 6 васковых свечак вагой 15,5 фунта; 5 руб. 50 кап. за дастаўку гэтых рэчаў з Магілёва ў Люшаў; усяго 234 руб. 93 кап.

Да кастрычніка 1855 г. у Люшаўскім касцёле была перароблена з боку вуліцы агароджа цвінтара. Заставалася яшчэ перарабіць агароджу з 3-х іншых бакоў. Матэрыялы і людзі для рамонту чакаліся ад уладальнікаў Люшава. Гэта планавалася зрабіць пасля сканчэння палявых работ.

Пасля смерці Яна Юнкевіча ў 1863 г. адміністратарам быў прызначаны ксёндз Ян Чачот. Касцёл у гэты перыяд быў парафіяльным. Парафія была 4-га класа і налічвала ў 1864 г. 827 парафіян.[466] Каталікі парафіі жылі пераважна ў вёсцы (па-старому — асадзе) Любавін,[467] а таксама ў іншых вёсках, асадах і фальварках: Будзе-Люшаўскай[468] (з 1860 г. тут мелі: Ян Горскі — 196 дзес., Ігнацы Горскі — 524 дзес.; з 1881 г. Ніціеўскі — 342 дзес.), Вікторыне, Люшаве, Слабадзе-Люшаўскай,[469] Старой Рудні, Шутным[470] і іншых.

У 1885 г. парафія ўжо была філіяй Чачэрскай парафіі. Філіялістам быў Баніфацый Лукашэвіч. Парафіян налічвалася 513 чалавек. Такое рэзкае змяншэнне парафіян у параўнанні з 1863 г. (у гэтым годзе пачалося антырасійскае паўстанне на землях былой Рэчы Паспалітай), калі вернікаў налічвалася 827 чалавек, тлумачыцца верагодна тым, што пачаўся ціск на католікаў з боку ўладаў, і шмат хто з вернікаў адпаў ад Касцёла, перайшоўшы ў праваслаўе.

У Вікторыне ў маёнтку Дзерналовічаў і ў Старой Рудні ў маёнтку Сенажэцкіх існавалі філіяльныя капліцы.

У 1857—1859 і 1860—1862 гг. вікарыем Люшаўскага касцёла быў Фелікс Ігнацьевіч Заленскі. У 1897—1904 гг. люшаўскім філіялістам быў Антоні Вальчукевіч. Да гэтага ён працаваў адміністратарам Астраглядавіцкага касцёла і за супрацію русіфікацыі Касцёла быў сасланы ў Нясвіжскі кляштар,[471] а потым ужо трапіў у Люшаў.

Пасля маніфеста аб верацярпімасці ад 17 красавіка 1905 г., які дазваляў пераход з праваслаўя ў іншыя веравызнанні, у Любавіне ў каталіцтва вярнулася вялікая колькасць сем'яў, продкі якіх па розных прычынах вымушаны былі перайсці ў праваслаўе.[472]

У 1907—1908 гг. адміністратарам філіяла быў Юліян Гронскі, які адначасова быў і адміністратарам Чачэрскай парафіі і стала знаходзіўся пры Чачэрскім касцёле. Набажэнствы ў Люшаўскім касцёле адбываліся па нядзелях і святах. Казанні і спевы тут, як і ў большасці беларускіх касцёлаў, былі па-польску (пэўны перыяд па-лацінску).

У 1910—1911 гг. філіялістам пры Люшаўскім касцёле быў Ян Жаўрыд. Люшаўская філія у гэты час належала Антушаўскай парафіі. Вернікаў налічвалася 824 чал. Адпустовымі святамі ў парафіі былі: Беззаганнае Пачацце, Грамніцы, Звеставанне, Сэрца Езуса, Унебаўзяцце, Нараджэнне Панны Марыі, біскупа пакутніка Святога Станіслава, Пяцідзесятніца, Святых Пятра і Паўла.

Касцёл меў прывілеі, нададзеныя біскупам Данісевічам у 1908 г. для першых святаў, для астатніх — біскупам Ключынскім у 1910 г.

У касцёле знаходзіліся рэліквіі святога Філіпа Нярэйскага і пакутніка святога Вінцэнта.[473]

На сцяне ў касцёле знаходзілася табліца ў раме з надпісам: *«Юлія з Случаноўскіх Перасвет-Солтан, жонка маршалка Рагачоўскага павета, нарадзілася 27 лістапада 1798 г., пам. 19 снежня 1823 г.»*.

У касцёле каля сцяны стаяў помнік з надпісам: *«Марыя з Манкевічаў Перасвет-Солтан, нарадзілася 1 верасня 1833 г., пам. 1 студзеня 1857 г.»*.

Касцёл быў у даўжыню 7,5 сажняў, у шырыню 4,5 сажняў і ў вышыню 4 сажняў, на даху знаходзіліся драўляныя крыжы. Хоры былі драўляныя, на 4-х слупах, меўся арган на 4 рэгістры.

Агароджа вакол касцёла была драўляная, абшытая шалёўкай і накрытая гонтай, драўляная званіца касцёла мела 3 невялікія званы.

У касцёле былі 3 алтары. Галоўны быў сталярнай работы, з абразом Маці Божай з Дзіцяткам Езусам на руках, напісаным на палатне, убраны ў рызы з белай бляхі, месцамі пазалочанай, у драўлянай пазалочанай раме. Антэміс быў з мармуровага каменя з пячаткай мітрапаліта Дмахоўскага, цымборыюм — сталярнай

работы з чатырма невялікімі слупкамі, у некаторых месцах пазалочаны, рэліквіяр — медны, пасярэбраны.

Алтар з правага боку меў абраз Укрыжаванага Езуса Хрыстуса на палатне ў поўны рост, у драўлянай пазалочанай раме. Уверсе быў абраз Арханёла Міхаіла, на палатне, у драўлянай раме. Алтар быў драўляны, антэміс — з мармуровага каменя з пячаткай мітрапаліта Дмахоўскага, маленькі рэліквіяр — з мельхіёру.

3-ці алтар, з левага боку, пад тытулам св. Антонія, меў адпаведны абраз на палатне, у драўлянай пазалочанай раме і з пазалочанай рызай. Наверсе быў невялікі абраз св. Мікалая на палатне, у драўлянай раме. Пераносны алтарык быў з абразом Маці Божай у рызе з белай бляхі, а з другога боку знаходзіўся абраз Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, напісаны на палатне.

Партатывы з алтароў Хрыста Збавіцеля і св. Антонія, спаведніка, згодна загаду біскупа суфрагана Сымона аказаліся не па прызначэнні і неадпаведнымі статуту, і таму былі перададзены пры рапарце ад 13 жніўня 1894 г. за № 61 дэкану для адаслання па прыналежнасці.

Пры касцёле меліся наступныя гаспадарчыя пабудовы: касцельны дом, свіран, стайня, павець, склад для сена, хлявы для жывёлы, гумно, лазня, агароджа вакол касцельнага дома.

Касцельны архіў утрымліваў: метрычныя кнігі аб хростах, шлюбах, памерлых, кнігі перадшлюбных экзаменаў з 1844 г. па 1872 г., копію геаметрычнага спецыяльнага плана зямлі, якая належала Люшаўскаму касцёлу (зроблена 20 мая 1861 г. рагачоўскім павятовым землямерам М.Шыманскім). З дакументаў, перададзеных уласнікам эканоміі Люшаў Юліушам Міхайлавічам Солтанам, былі наступныя:

№ 1 — запісы Брыгіды Здановіч — 500 руб.

№ 2 — запісы Роберта Солтана — 150 руб.

№ 3 — запісы Мацвея і Роберта Солтанаў для спагнання — 2350 руб.

№ 4 — запісы Халецкага — 100 руб.

№ 5 — запісы Брыгіды Здановіч — 500 руб.

№ 6 — запісы Мікалая Солтана — 22 руб.

№ 7 — запісы Леана Солтана — 100 руб.

№ 8 — запісы Францыскі з Прушаноўскіх Солтан — 50 руб.

№ 9 — запісы Антонія і Марцыяны Солтанаў на касцёл — 50 руб.

№10 — копія пастановы 20-га дэпартамента галоўнага магілёўскага суда па справе з Парчэўскім аб прыналежнасці Люшаўскаму касцёла 220 руб. З дакументаў, атрыманых ад дэкана,

дзяржаўны 5-працэнтны білет у 150 руб. серабром за № 53260 з 1860 г. без купонаў.[474]

Да 21 красавіка 1914 г. філіялістам быў ксёндз Казімір Даўгяла, якога звольнілі з пасады па яго просьбе. Пасля філіялістам быў прызначаны вікарый Гомельскага касцёла ксёндз Павел Бірнік. У 1914—1917 гг. філіялістам працаваў ксёндз Пётр Грыб.

У 1917 г. Люшаўская парафія (філія) налічвала 925 вернікаў.

Да ліпеня 1921 г. філіялістам Люшаўскага касцёла быў ксёндз Мечыслаў Сабачынскі, якога пасля гэтага прызначылі ў Віцебск вікарыем касцёла Св. Антонія. На пасаду філяліста люшаўскага касцёла быў прызначаны былы выконваючы абавязкі пробашча Златавустаўскага касцёла Баляслаў Валынец, які быў адначасова і капеланам Жлобінскага касцёла, а пазней і адміністратарам Чачэрскай парафіі. У другой палове 1920-х гг. Валынец, верагодна, у асноўным пражываў у Чачэрску. Паводле ксяндза Адама Станкевіча, Гронскі, Грыб і Валынец былі звязаны з беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам.

20 кастрычніка 1929 г. пасля набажэнства ў Люшаўскім касцёле ксёндз Баляслаў Валынец публічна адмовіўся ад святарства. У газеце «Рабочий» 24 кастрычніка 1929 г. пра гэта было напісана наступнае: *«Ксёндз Валынец — пробашч Люшаўскага касцёла (Буда-Кашалёўскага раёна на Гомельшчыне) адрокся ад свайго сана. Пасля чарговага набажэнства ў касцёле ён звярнуўся да парафіян з прамовай: «Сёння я ў апошні раз выконваю свае святарскія абавязкі. На гэтым алтары я прынёс у ахвяру сваю маладосць. На працягу некалькіх гадоў я перажыў некалькі крывавых войнаў і бачыў іх найжахлівейшыя наступствы. Я бачыў людское гора, людскую кроў, я бачыў, што Бог ніводным цудам не давёў свайго існавання. Рэлігія, абяцаючы шчаслівае замагільнае жыццё, патрабуе ахвяр і пакут.*

*Пасля доўгага і пакутлівага роздуму я даведаўся аб тым, што аніякая рэлігія не прынесла чалавецтву справядлівасці, яна служыць пераважна інтарэсам багатых і прывілеяваных людзей. Я прыйшоў да пераканання, што рэлігія прыдумана для эгаістычных інтарэсаў і ні ў якім разе не для ўсяго абяздоленага насельніцтва. Рэлігія — ярмо для тых, хто верыць у яе. Кіруючыся ўсім гэтым, я добраахвотна пакідаю свой сан і складваю з сябе абавязкі святара. Вось ключы ад касцёла — рабіце, што хочаце, мне з вамі не па дарозе».*[475]

А ў газеце «Беларуская вёска» 23 снежня 1929 г. пра сітуацыю з каталіцтвам на Буда-Кашалёўшчыне і адрачэнне ксяндза Валынца было напісана наступнае:

*«З карэспандэнцыі аб разрыве з касцёлам калгаснікаў калгаса імя Дзяржынскага Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай акругі.*

*У апошнія часы Каталіцкая Царква, самая моцная ва ўсім свеце, траціць пад нагамі грунт. Вясковая бедната і калгаснікі парываюць з ёю сувязь. Напрыклад, у Буда-Кашалёўскім раёне калгаснікі ўступілі ў сацыялістычнае спаборніцтва па знішчэнні са свайго быту абразоў. Ксёндз касцёла, бліжэйшага да калгаса імя Дзяржынскага, зрабіўся «беспрацоўным» і адрокся ад сану. Касцёл пустуе. Калгаснікі ўзнялі пытанне аб перадачы касцёла пад бальніцу. Чутны галасы, каб касцельныя званы перадаць у распараджэнне Асінбуда*[476] *на патрэбу індустрыялізацыі… Замест абразоў калгаснікі ўпрыгожваюць свае памяшканні партрэтамі правадыроў рэвалюцыі, карцінамі савецкага і антырэлігійнага зместу».*[477]

У сярэдзіне 1920-х гг. на тэрыторыі Люшаўскай парафіі быў створаны польскі нацыянальны сельсавет з цэнтрам у Любавіне і арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. У склад польскага нацыянальнага сельсавета ўваходзілі населеныя пункты Любавін, Новы Любавін, Бычкі, Асінаўка, Шутнае і Дзеднае.[478]

Сітуацыю на тэрыторыі Люшаўскай парафіі ў паслярэвалюцыйныя часы апісвае Бранiслаў Юхневіч ( у 1937 г. — сакратар Любавінскага сельсавета) у сваім лісце-даносе у Буда-Кашалёўскі райвыканкам (арфаграфія захавана):

*«З 1919 года я, Юхневіч Браніслаў Сямёнаў, жыву ў Буда-Кашалёўскім раёне, з 1924 — у Любавінскім сельсавеце, дзе ў той час насельніцтва ў пераважнасці было польскае. На тэрыторыі маёнтка абшара Салтана, у 2-х км ад Любавіна знаходзіўся касцёл. Зараз на тэрыторыі Буда-Люшаўскага сельсавета, у якім да 1929 г. быў ксёндз, у тым жа гаду ксёндз Валынец публічна адрокся ад сана, касцёл быў закрыты. Насельніцтва Любавінскага сельсавета па пераважнасці заможнае (кулацкае). Былі гаспадаркі, якія мелі, па расказах старыкоў, прыгонных сялянаў, як, напрыклад, Крукоўскі Іосіф, які меў прыгоннага селяніна. Калі той ад яго ўцёк, то ён аддаў яго ў салдаты на 25 гадоў. У сучасны момант гэтага Крукоўскага сын Антон Іосіфавіч знаходзіцца ў калгасе «Орка»*[479] *членам калгаса. Дзе зараз знаходзіцца калгас «Орка», гэта зямля належала абшарніку Кузняцову. У 1924 г. там адбіты пасёлак Новы Любавінь, а таксама былы хутар Ляды, дзе мелась да 1929 г. паравая мельніца Цукінскага К., які да рэвалюцыі быў арандатарам хутара і мельніцы абшарніка Кузняцова. Пасля рэвалюцыі хутар і млын адышлі ў карыстанне Цукінскага К. У 1924 г. Цукінскі быў высланы як кулак. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі насельніцтва Любавінскага сельсавета не мела магчымасці адкрыта вучыцца па-польску, школы не было. Вучылі польскі язык чытаць скрытна па дамах. Па расказах старыкоў, калі даведваўся аб існаванні такой*

*школы ўраднік, то прыязджаў, адбіраў кнігі, школу разганяў. З часу рэвалюцыі была арганізаваная польская школа, дзе настаўнікам быў Міхайлоўскі Вацэк, пасля ўехаўшы ў Польшчу. Пасля Міхайлоўскага настаўнікам быў нейкі прафесар Парноўскі, які жыў у ксяндза Сабачынскага Мечыслава, у 1922 г. таксама выехаў у Польшчу. Настаўніцай заступіла Сталыпка Яніна (Ястражэмская), бежанка з Польшчы, якая ўчыцельствавала ў Любавінскай школе да 1929, яе муж Сталыпка Міхаіл высланы за межы БССР як контррэвалюцыянер…*

*Да 1926 г. у Любавіне быў сельсавет беларускі, пры перавыбарах у 1926 г. па ініцыятыве Крукоўскага Івана Іосіфавіча, Сенажэцкага Вікенція Стэфанавіча, Залескага Аляксандра і Антона Міхайлавіча, Сталыпка Ігната Міхайлавіча арганізаваны польскі нацыянальны Савет. Першы састаў склалі: старшыня — Сталыпка І.М., сакратар — Міхайлоўскі Іван Антонавіч, члены — Вярбоўскі Пётр, Залескі Антон, Сенажэцкі Аляксандр, Ніцыеўскі Дзмітрый, Успенскі Свірыд, з ліку якіх у даны момант высланы Сенажэцкі, Ніцыеўскі, Залескі. Сам старшыня сельсавета Сталыпка Ігнат, у чэрвені 1928 г. зняты з работы як праводзіўшы кулацкую лінію і засуджаны на 6 месяцаў прымусовай працы. Дзелапраізводства Любавінскага сельсавета, калі арганізоўваўся нацсавет, вялося на беларускай мове, за выключэннем пратаколаў пленумаў і прэзідыюма сельсавета, запісаў актаў грамадзянскага стану, таму што ў райвыканкаме не могуць чытаць па-польску, і патрэбна перапіску весці на беларускай мове. Насельніцтва вельмі мала ўжывала польскую мову, за выключэннем некалькіх гаспадарак.*

*Сучасная польская 7-ка ў Любавіне ўкамплектаваная наступным чынам: Рудзінская Вера Іванаўна — дырэктар школы калгаснай моладзі, скончыла Мінскі тэхнікум, харашо ўладае польскай мовай, Чэрнушэвіч Вацлаў, Рудзінскі Вэнэк скончылі Ленінградскі польпедтэхнікум, добра ўладаюць польскай мовай, Чарнышэвіч П., Сталыпка Косця — мясцовыя настаўнікі, скончылі 6-месячныя курсы пры педтэхнікуме, Навіцкая Геня таксама з курсаў, слаба падрыхтаваная да педпрацэсу. Апрача таго, Сталыпка К., Чарнушэвіч П. маюць высланых родзічаў».*[480]

Лёс самога Браніслава Юхневіча тыповы для таго часу — у 1937 г. ён быў арыштаваны і ў пачатку 1938 г. расстраляны ў Мінску.

20 сакавіка 1934 г. адбыўся сход грамадзян Любавінскага сельсавета. Прысутнічала 35 чалавек калгаснага актыву *«з групы аднесеных сельсаветам да катэгорыі палякаў»*, якія, тым не менш, карысталіся ў побыце беларускай мовай. Прызідыюм сходу склалі: Будзько — старшыня райвыканкама, Алесь Ясінскі, Паўліна Ясінская. Тэмай парадку дня была «Ленінская нацпалітыка і

правядзенне яе ў Любавінскім сельсавеце». З дакладам выступіў Будзько, які казаў, што партыя і савецкая ўлада ўсяляк заахвочваюць нацменшасці, якія былі прыгнечаны царскім урадам. На тэму даклада выказалася 10 чалавек, у тым ліку М.Вадзевіч, І.Казлоўскі, Г.Ясінская. Пастанова сходу выглядала так:

*«Агульны сход калгасаў імя Дзяржынскага і «Орка» аднагалосна адзначае, што абсалютная большасць насельніцтва Любавінскага сельсавета з'яўляецца беларусамі, і ў дамашнім быту і польскае насельніцтва ўжывае беларускую мову, і што ўся работа сельсавета праводзілася і праводзіцца на беларускай мове, і што арганізацыя польскай нацыянальнай школы, як і сельсавета, па сутнасці, была навязана меншасцю большасці заможнай часткай насельніцтва, якія, у асобным, усе высланы як кулакі з БССР, таму агульны сход просіць РВК* (райвыканкам — У.В.) *разглядзець гэта пытанне і рэарганізаваць наш Любавінскі сельсавет у беларускі, таму што насельніцтва з'яўляецца беларусамі, таксама просім рэарганізаваць польскую сямігодку ў беларускую школу, каб сапраўды вучыць нашых дзяцей на роднай беларускай мове».*[481]

На 1934 г. у Любавінскім сельсавеце было 40 «польскіх» гаспадарак у калгасе імя Дзяржынскага, 15 гаспадарак — у калгасе «Орка», 2 гаспадаркі — у калгасе «Шлях Леніна». На тэрыторыі сельсавета было яшчэ 25 аднаасобных «польскіх» гаспадарак. Такім чынаў, усяго ў сельсавеце налічвалася на той час 82 «польскія» гаспадаркі. Астатнія гаспадаркі сельсавета належалі беларусам-католікам і беларусам-праваслаўным, якія прыехалі з-за межаў Буда-Кашалёўшчыны. Праца сельсавета вялася на беларускай мове. Сярод вучняў польскай сямігодкі быў вялікі працэнт беларусаў, якія не ведалі польскай мовы.

Начальнік райаддзела УДБ НКУС Дулебаў так пісаў 19 жніўня 1934 г. пра становішча ў Любавінскім сельсавеце: *«У працэсе працы, г.зн. правядзення сходаў сярод насельніцтва палякаў, па нашых дадзеных, выступаць на сходзе ніхто не збіраецца, так як баяцца рэпрэсій, і палякі ўтойваюць сваю нацыянальнасць, усе жывуць пад маркай беларускай нацыянальнасці, але не выключаецца магчымасць правядзення работы нелегальным чынам з боку вернікаў-адзінак. Ясінская Антаніна, Ляўковіч Стэфанія, Крукоўскі Іосіф, Ясінскі Павел, былы старшыня сельпа, Чарнушэвіч Баніфацый — дадзеныя асобы могуць і нелегальна камандзіраваць з дадзеным пытаннем у Рагачоў для рады з ксяндзом і рапаўсюджання чутак аб ліквідацыі польскай нацыянальнасці. Указаных асоб просьба на сходзе не датыкацца, а праз актыў высветліць іх настрой».*

## 2. РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ ЛЮШАЎСКІХ КАТОЛІКАЎ

18 мая 1929 г. на тэрыторыі былой парафіі пачаліся масавыя арышты католікаў. У Любавіне, Шутным, іншых суседніх вёсках і аколіцах было арыштавана 17 чалавек. Іх абвінавацілі ў антысавецкай агітацыі і зрыве дзяржаўных кампаній. На працягу мая—чэрвеня да арыштаваных далучылі яшчэ 20 дарослых членаў іх сем'яў. Гэта былі Захар Іванавіч і Алена Станіславаўна Богушы, Аляксандр Пятровіч і Феліцыя Антонаўна Будкевічы, Іван Іосіфавіч, Вацлаў Іосіфавіч, Сцяпан Іосіфавіч і Тэадора Іосіфаўна Крукоўскія, Марыя Аляксандраўна Крукоўская, Марыя Вацлаваўна Крукоўская, Зянкевічы, Контаўты, Ніцыеўскія, Пукінскія, Іван Іванавіч, Францыска Іванаўна і Канстанцыя Іванаўна Сенажэцкія, Казімір Леанардавіч, Альбіна Міхайлаўна, Бернард Сцяпанавіч Сенажэцкія, Сакалоўскія, Цэханы, Марцін Францавіч Яцкевіч і іншыя.[482]

Канкрэтных доказаў антысавецкай дзейнасці арыштаваных не знайшлося. У віну ставіліся іх сацыяльнае паходжанне (з мясцовай шляхты), сацыяльнае становішча (кулакі), крытычныя выказванні ў адрас савецкай улады і адпаведныя настроі. Зыходзячы з таго, што ўсе яны былі сваякамі альбо суседзямі, іх кваліфікавалі як арганізаваную антысавецкую кулацкую групу. Сведкамі выступалі мясцовыя жыхары з ліку беднаты і прадстаўнікі сельскага савецкага актыву.

Асобныя прызнанні аб сваіх антысавецкіх настроях (але не аб дзейнасці) давалі і самі падследныя. Напрыклад, Марцін Францавіч Яцкевіч, былы садоўнік з панскага маёнтка, прызнаўся, што ён незадаволены пазбаўленнем яго выбарчых правоў *«за гандаль елкай. Да таго ж яшчэ бедната мяне злуе: яны працаваць не хочуць, а хочуць, каб ім нехта даў гатовае»*.[483]

11 чэрвеня 1929 г. следчы Гомельскага акруговага аддзела ДПУ склаў абвінаваўчае заключэнне ў адносінах да гэтай першай на Буда-Кашалёўшчыне групы арыштаваных. Асобая нарада пры Калегіі АДПУ ў тым жа месяцы прыняла рашэнне аб высылцы ў Сібір усіх 37 чалавек тэрмінам на 3 гады. Лёс аднаго з арыштаваных — Крукоўскага Сцяпана Іосіфавіча, 1888 г. нараджэння, ураджэнца вёскі Любавін — удалося высветліць. Ён да 1937 г. пражываў у пасёлку Каломінскія Грывы Чаінскага раёна. Паўторна арыштаваны ў 1937 г. і расстраляны.[484]

Далейшы лёс большасці арыштаваных губляецца на прасторах Краснаярскай і Томскай акругаў. Маёмасць высланых была канфіскаваная, а на іх землях пачалі ствараць калгас.

Летам 1929 г. Канстанцін Захаравіч Богуш з жонкай і 3 дзецьмі вярнуўся ў вёску Шутнае з Самахвалавіцкага раёна, дзе працаваў рахункаводам, у апусцелую хату свайго арыштаванага бацькі. Але

хата была канфіскаваная, а зямля перададзена калгасу. Таму ў сярэдзіне верасня 1929 г. К.З.Богушу было прапанавана выселіцца з бацькаўскай хаты.

24 верасня прэзідыюм Любавінскага сельсавета вынес рашэнне аб высяленні антысавецкіх элементаў як актыўна выступаючых супраць мерапрыемстваў савецкай улады, зрываючых землеўпарадкаванне і калектывізацыю ў вёсцы Шутнае. Сярод тых, каго належала выселіць, К.З.Богуш ішоў пад нумарам 5. 30 верасня, напярэдадні высялення, ён атрымаў распараджэнне Буда-Кашалёўскага сельскагаспадарчага таварыства з загадам хутчэй выкапаць бацькаўскую бульбу, бо ўжо замоўлены вагон для яе адпраўкі ў «закрома Родины». Хутчэй за ўсё, ён не паспеў выканаць гэты загад, бо праз дзень у ДПУ паступіла заява намесніка старшыні калгаса імя Дзяржынскага І.С.Казлоўскага аб тым, што вечарам 30 верасня на яго напаў Богуш з 2-ма саўдзельнікамі. Гэтыя звесткі пацвердзіў стрыечны брат Казлоўскага.

4 кастрычніка Богуш быў арыштаваны і абвінавачаны ў здзяйсненні тэрарыстычнага акта. Але сваёй віны ён не прызнаў. Следству не ўдалося ўстанавіць іншых 2-х чалавек, якія быццам бы прымалі ўдзел у нападзе. Нягледзячы на ўсё гэта гомельскія чэкісты прапанавалі прымяніць у адносінах да Богуша «вышэйшую меру сацыяльнай абароны — расстрэл». Тлумачылася гэта тым, што К.З.Богуш сапсаваў ім работу, якую яны правялі ў маі—чэрвені, калі была арыштавана «кулацка-шляхецкая групоўка» з 37 чалавек. Аднак Калегія АДПУ СССР не згадзілася з прапанаванай мерай пакарання і 3 снежня 1929 г. асудзіла К.З.Богуша на 5 гадоў канцлагеру на падставе артыкулаў 58-8 і 58-10 КК РСФСР. Праз 8 гадоў К.З.Богуш быў ізноў арыштаваны і на падставе быццам бы ўласнага прызнання прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

20 лютага 1930 г. Палітбюро ЦК ВКП(б) прыняло пастанову аб калектывізацыі і барацьбе з кулацтвам у нацыянальных раёнах. Гэтай пастановай прадугледжвалася выселенне з Беларусі і Украіны польскіх сялянскіх сем'яў. З Беларусі належала выселіць 3—3,5 тысячы польскіх, ці больш дакладна, каталіцкіх сем'яў. За 1930 г. у Буда-Кашалёўскім раёне было рэпрэсіравана больш за 80 чалавек, з іх 18 чалавек было прысуджана да расстрэлу. Сем'і расстраляных вывозілі ў аддаленыя раёны СССР. Бралі іх ноччу, заганялі ў грузавыя машыны і ставілі на калені. А на станцыях Буда-Кашалёўская, Уза, Салтанаўка іх ужо чакалі таварныя цягнікі. Людзей грузілі як быдла. Практычна ніхто з іх ужо назад не вярнуўся.

Маёмасць раскулачаных канфіскоўвалася і альбо перадавалася ў калгасы, альбо прадавалася калгасам ці насельніцтву. Напрыклад,

маёмасць Еўдакіма Адамавіча Галіцкага з Буда-Кашалёўскага сельсавета была ацэнена ў 5608 руб. (карова тады каштавала прыкладна 50 рублёў). У Марка Сцяпанавіча Пархнявецкага з хутара Мачулішча Дуравіцкага сельсавета канфіскавалі вятрак, які не здолелі ацаніць, і вагі. У Яўхіма Крукоўскага з вёскі Слабада-Люшаўская адных толькі яблыкаў канфіскавалі на 708 руб.

У 1933 г. у пераважна каталіцкім пасёлку (асадзе) Любавін былі арыштаваны як *«пралезшыя ў калгас імя Дзяржынскага кулакі»* А.А.Ляўковіч, В.І.Ляўковіч, Р.І.Ляўковіч, С.І.Крукоўскі, А.С.Сенажэцкі, К.Л.Сенажэцкі. Яны былі асуджаны «тройкай» пры паўнамоцным прадстаўніцтве АДПУ па БССР да зняволення ў ППЛ на тэрміны ад 3 да 8 гадоў.[485]

У пачатку 1930-х гг. гадоў органы ДПУ яшчэ не праяўлялі адназначнага падыходу да рэпрэсій супраць «палякаў». У другой палове дзесяцігоддзя ўжо было інакш. Польская нацыянальнасць альбо наяўнасць сваякоў у Польшчы аўтаматычна рабіла чалавека «небяспечным элементам». Хваля рэпрэсій 1937—1938 гг. накрыла Буда-Кашалёўшчыну. Першым сігналам набліжэння гэтай хвалі быў арышт у студзені 1936 г. жыхаркі вёскі Любавін Марыі Крукоўскай-Кшэсінскай. Ёй інкрымінавалася тое, што яна не паведаміла органам бяспекі аб сваім браце, які жыў у Польшчы, быццам бы супрацоўнічаў з польскай разведкай і шмат разоў выконваў яе заданні на тэрыторыі СССР. М.Крукоўская-Кшэсінская была асуджаная на 10 гадоў ППЛ. Калі ў жніўні наступнага года НКУС пачаў на тэрыторыі БССР аперацыю «па польскай, нямецкай і латвійскай агентуры», справа Крукоўскай-Кшэсінскай аказалася знаходкай для чэкістаў. Шматлікія знаёмыя і землякі Крукоўскай-Кшэсінскай былі арыштаваны і абвінавачаны ў тым, што яны былі завербаваны ёй для супрацоўніцтва з разведкай Польшчы.

Часам чэкісты наўмысна «рабілі» арыштаванага беларуса-католіка палякам. Гэта спрыяла абвінавачванню і вынясенню прыгавору. Напрыклад, К.З.Богуш па справе 1929 г. праходзіў як «беларус, з сялян», а па справе 1938 г. ён «паляк, буйны кулак». Ф.А.Язерскі, адвакат рагачоўскага нарсуда (нарадзіўся на Буда-Кашалёўшчыне), пры арышце 12 студзеня 1938 г. быў беларусам, а 20 студзеня ў прад'яўленым яму абвінавачанні стаў «палякам».

У выніку палявання за «польскімі шпіёнамі» ў 1937—1938 гг. было арыштавана шмат калгаснікаў з Любавіна і іншых вёсак Буда-Кашалёўшчыны. Яны быццам бы мелі заданні польскай разведкі збіраць звесткі пра калгасы раёна, падрыхтоўваць дыверсійныя акты і контррэвалюцыйныя паўстанцкія выступленні на выпадак вайны з Польшчай.

Пры гэтым чэкісты кіраваліся правілам «мэта апраўдвае сродкі». 25 жніўня 1937 г. быў арыштаваны жыхар вёскі Любавін Павел Іванавіч Ясінскі. У даведцы, якую склаў начальнік Буда-Кашалёўскага райаддзела НКУС Грундан, было адзначана, што Ясінскі ў 1918—1920 г. служыў у польскіх белагвардзейскіх часцях і варожа настроены да мерапрыемстваў партыі і ўрада. Але праз тыдзень следчаму паступіла даведка сельсавета, паводле якой П.І.Ясінскі паходзіць з беднякоў, адным з першых уступіў у калгас, брыгадзір. Да лістапада 1917 г. служыў як ваеннаабавязаны ў Белгародскім польскім палку (полк быў рэвалюцыйны і адразу перайшоў на бок савецкай улады), потым вярнуўся на радзіму ў Любавін. Нягледзячы на гэтую даведку, Ясінскі быў абвінавачаны ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі — «Польскай Вайсковай Арганізацыі» (якая ў 1930-я гг. на самой справе не існавала).

Але гэта абвінавачанне стане стандартным для тых, хто меў тую ці іншую сувязь з каталіцтвам ці Польшчай: «Следствам па справе выкрытай і ліквідаванай контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі «Польская Вайсковая Арганізацыя» ўстаноўлена, што ў дзейнасці паўстанцкай арганізацыі бралі ўдзел...» — гэтыя словы з пастановы на арышт былі не толькі ў справе Паўла Іванавіча Ясінскага, але і многіх тысяч палякаў і беларусаў, рэпрэсіраваных у Беларусі, Краснаярску, Маскве, Навасібірску, Пяцігорску, Томску і шмат якіх іншых вялікіх і малых паселішчах усяго былога Савецкага Саюза.[486]

Справа «Польскай Вайсковай Арганізацыі» (ПВА) — адна з самых масавых пасля спраў «Рускага агульнавайсковага саюза» і «Саюза вызвалення Расіі» — ёсць яскравым прыкладам лінейных арыштаў з прычыны нацыянальна-канфесійнай прыналежнасці. Філіі арганізацыі «ствараліся» органамі НКУС не толькі ў цэнтральных раёнах краіны, але і ў Заходнесібірскім краі, Усходняй Сібіры, на Урале. Тым больш, што складанасцей тут не было: працэнт палякаў і беларусаў (іх у першую чаргу ўлючалі ў расстрэльныя спісы), якія там жылі, быў дастаткова высокі — гэтаму спрыяла перасяленне іх у Сібір пры канцы ХІХ—пачатку ХХ ст.[487]

На наступным допыце П.І.Ясінскі прызнаўся ў прыналежнасці да ПВА (добра вядомы метады, якімі чэкісты выбівалі такія прызнанні: збіццё і катаванні), а праз некалькі тыдняў быў асуджаны да вышэйшай меры і расстраляны ў Гомелі.

Усяго па Буда-Кашалёўскаму раёну ў даваенны час было рэпрэсіравана каля 1 тыс. чалавек (176 чалавек расстраляна). Гэта без уліку іх сем'яў. А калі лічыць разам з сем'ямі, то прыкладна 5

тыс. чалавек. Для невялікага раёна з насельніцтвам 35 тыс. чалавек гэта велізарная лічба.[488]

Найбольш ад рэпрэсій на Буда-Кашалёўшчыне пацярпелі мясцовыя католікі. Мясцовая каталіцкая парафія, якая налічвала ў першыя гады савецкай улады прыкладна 1 тыс. вернікаў, за 2 дзесяцігоддзі была практычна цалкам знішчана.

## 3. ВІКТОРЫНСКАЯ КАПЛІЦА

Фальварак Вікторын знаходзіўся ў Рагачоўскім павеце побач з вёскай Вікторынская Рудня (цяпер вёска ў Кашалёўскім сельсавеце Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобл.). У 2004 г. тут была 21 гаспадарка, 39 жыхароў.

Фальварак (маёнтак) налічваў у 1909 г. 9282 дзес. зямлі, 3 двары, 36 жыхароў. У маёнтку была каталіцкая капліца Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі Люшаўскай парафіі. Капліца была пабудавана, верагодна, у пачатку XIX ст. Вінцэнтам Дзерналовічам. У 1805 г. па загаду мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча капліцу асвяціў рагачоўскі дэкан і сверменскі плябан Пётр Стажэнскі. Капліца знаходзілася за 1 вярсту ад двара і за 9 вёрст ад Люшава. У наваколлі налічвалася прыкладна 100 католікаў.

У самым пачатку XIX ст. капліца мела ўласнага святара — Барталамея Міхалоўскага. У сярэдзіне XIX ст. штомесяц Імшу ў капліцы праводзіў люшаўскі пробашч. Для капліцы былі выдадзены мітрапалітам Богушам-Сестранцэвічам 2 індульты (ад 6 верасня 1826 г. № 789 і № 790) з дараваннем грахоў у свята Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі паміж 1-м і 2-м нешпарамі (вячэрнямі).[489]

Верагодна, у 1825 г. Вінцэнт Дзерналовіч разам з дваром і палацам пабудаваў другую капліцу. Па загаду мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча гэтую капліцу асвяцілі ў 1825 г. Адзін індульт (№ 2194) быў выдадзены мітрапалітам Богушам-Сестранцэвічам у 1825 г. Другі індульт (№ 813) быў выдадзены на 6 гадоў мітрапалітам Дмахоўскім 20 мая 1849 г. У 1855 г. ён быў прадоўжаны.[490]

Драўляная капліца стаяла непадалёк ад сядзібы, каля дарогі. Яна была вытрымана, як і дом, у стылі класіцызму. Невялікі храм накрываў гонтавы дах. Галоўны ўваход змяшчаўся пад порцікам з калонамі і трохвугольным франтонам. Капліца служыла фамільнай пахавальняй Дзерналовічаў і мела мураваны склеп. У 1897 г. капліца адрэстаўравана Севярынам Дорыа-Дзерналовічам. У чэрвені таго ж года ён звярнуўся да магілёўскага арцыбіскупа з просьбай аб асвячэнні капліцы люшаўскім філіялістам Антоніем Вальчукевічам і аб пісьмовым дазволе на адпраўленне святой Імшы ў палацавай

капліцы, у якой доўгі час Імша не адпраўлялася, таму што пісьмовы дазвол быў згублены. На гэта яму быў дадзены адказ, што звяртацца з такой просьбай трэба найперш да мясцовых духоўных ці свецкіх улад.

Хутчэй за ўсё, Дзерналовіч так і зрабіў, бо ў красавіку наступнага 1898 г. ужо гомельскі дэкан Пятроўскі сам звярнуўся да арцыбіскупа з просьбай дазволіць яму або люшаўскаму філіялісту Вальчукевічу асвяціць Вікторынскую капліцу Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і алтар з тым, каб у ёй можна было адпраўляць Імшу на другі дзень Нараджэння Пана, на Пяцідзесятніцу (Спасланне Духа Святога), у нядзелю пасля свята Цела і Крыві Пана і ўсе дні, калі будзе патрэба ў адпраўленні Святой Імшы.[491] Капліца разам з сядзібай была знішчана ў гады Першай сусветнай вайны.

Маёнтак — спадчынае ўладанне Дзерналовічаў, разам з Броніцай налічваў 5351 дзес., з іх 623 дзес. ворыва, 260 дзес. лугоў, 3182 дзес. лесу. Існаваў вадзяны млын, сукнавальня і 4 карчмы.[492]

Паселішча Вікторын стала галоўнай сядзібай роду Дорыа-Дзерналовічаў гербу «Любіч» у другой палове XVIII ст., пасля таго, як у 1739 г. згарэла іх сядзіба ў Шарсціне. Першым уладальнікам паселішча Вікторын, якое тады, верагодна, насіла іншую назву, быў Францішак Казімір Дорыа-Дзерналовіч, рэчыцкі гродскі суддзя (памёр у 1742 г.). Верагодна, яго сын, рэчыцкі падкаморы Леан Юзаф (памёр у 1793 г.) у гонар сваёй жонкі Вікторыі Хлявінскай змяніў назву вёскі. Яму ж фамільнае паданне прыпісвае будаўніцтва сядзібы ў стылі класіцызму ў канцы XVIII ст. (больш верагодна, што сядзібу пабудаваў яго сын Вінцэнт у пачатку XIX ст.).

Пасля смерці Леана Юзафа Вікторын перайшоў да яго сына Вінцэнта (памёр у 1829 г.), жанатага на Канстанцыі Грабоўскай, а потым да сына Вінцэнта Тадэвуша Раймунда (1794—1862). З-за таго, што Тадэвуш Раймунд не меў сына, то маёнтак перайшоў у спадчыну да яго дачкі Евы (нарадзілася ў 1844 г.), якая выйшла замуж за свайго стрыечна-стрыечнага (чацвераюраднага) брата Севярына Дорыа-Дзерналовіча і такім чынам захавала маёнтак у родзе. Пасля смерці жонкі Севярын і яго сын Станіслаў сталі апошнімі ўладальнікамі маёнтка ў 13 тыс. дзес.

У пачатку XX ст. сядзібны дом Дзерналовічаў ў Вікторыне ўяўляў сабой аднапавярховы сіметрычны будынак, змешчаны на высокім падмурку з жылымі сутарэннямі. Цэнтральная частка пабудовы ўяўляла сабой двухпавярховы рызаліт афармлены ў выглядзе шасцікалоннага порціка, у якім 4 крайнія калоны вышынёй у 2 паверхі неслі на сабе антаблемент з трохвугольным франтонам, а

2 сярэднія падтрымлівалі балкон. Невялікія порцікі-ганкі афармлялі і ўваходы на тарцавых фасадах.

98.Вікторынская сядзіба. 1917 г.

Сцены дома былі неатынкаваныя, іх асноўны дэкор складалі рытмічна размешчаныя высокія прамавугольныя вокны, аздобленыя ліштвамі з невялікімі карнізамі-сандрыкамі. Увесь будынак быў накрыты гонтавым дахам – трохсхільным над бакавымі крыламі і двухсхільным над цэнтральнай часткай.

Мяркуючы па ўсяму, тыльная паркавая частка дома таксама змяшчала цэнтральны порцік.

Унутры дома налічвалася больш за 10 пакояў. Паўкруглы вестыбюль у цэнтральнай частцы вёў у размешчаную за ім прасторную бальную залю (яна выкарыстоўвалася і як сталовая), да якой далучаўся меншы салон. Адзін з пакояў займала галерэя фамільных партрэтаў і архіў, пачатак якому быў пакладзены ў XVI ст. Старасвецкая мэбля ў пакоях, мяркуючы па ўсяму, была мясцовай работы.

Перад галоўным фасадам дома знаходзілася ступеньчатая тэраса і шырокі круглы газон, па баках якога размяшчаліся 2 ідэнтычныя аднапавярховыя флігелі: адзін служыў кухняй, другі быў жылым. Побач з правым флігелем праходзіла дарога на станцыю Буда-Кашалёўская. Увесь маёнтак абкружаў вялізны англійскі парк, старыя пасадкі якога складаліся пераважна з італьянскіх тапаляў і ялін. Парк пераходзіў у лес, у якім было шмат розных звяроў, у тым ліку ласёў. Побач знаходзілася невялікае возера, дзе вадзіліся бабры.

Асноўная рэзідэнцыя Дзерніловічаў знаходзілася ў Польшчы, а Вікторынская сядзіба выкарыстоўвалася як летняя дача, у наваколлі якой можна было займацца паляваннем.

У пачатку XX ст. усе найбольш каштоўныя рэчы былі вывезены з Вікторына ў іншыя маёнткі Дзерналовічаў у Цэнтральнай Польшчы, дзе яны загінулі ў час Другой сусветнай вайны. Сядзіба ў Вікторыне была знішчана ў час Першай сусветнай вайны.[493]

## VI. АНТУШАЎСКАЯ ПАРАФІЯ

### 1. ГІСТОРЫЯ АНТУШАЎСКАЙ ПАРАФІІ

Антушы — вёска ў Рагачоўскім раёне. Раней аколіца ў складзе Рагачоўскага павету Магілёўскай губерні, Лукаўскай воласці, за 5 вёрст ад паштова-тэлеграфнай станцыі Чырвоны Бераг. Да 1962 г. уваходзіла ў склад Кармянскага раёна.

Першыя звесткі аб касцёле ў Антушах адносяцца да пачатку XIX ст. і звязаны з іменем ксяндза Канстанціна Антушэвіча. Ён нарадзіўся ў аколіцы Антушы каля 1744 г. Паходзіў з дробнай шляхты, вучыўся ў Віленскай семінарыі і ў Італіі (дзе менавіта — дакладна невядома). У 1800 г. фундаваў у Антушах касцёл, які ў 1802 г. асвечаны пад тытулам Унебаўшэсця Пана.[494]

99.Ваколіцы Антушаў на аўстрыйскай карце канца XIX — пачатку XX стст.

Касцёл у Антушах спачатку быў філіяльным у дачыненні да касцёла ў мястэчку Карпілаўцы (цяпер Карпілаўка знаходзіцца ў межах г. Жлобіна). У 1744 г. у Карпілаўскую парафію Бабруйскага дэканата Віленскай дыяцэзіі ўваходзілі наступныя населеныя пункты: Вірня, Высокае, Вярбічаў, Горваль, Дзяніскавічы, Жлобін, Забалоцце, Казловічы, Карпілаўка, Лукі, Любань, Плюсовічы, Побалава, Рагачоў, Рогінь, Рудня, Святое, Сенажаткі, Слабодкі, Стралкоўшчына, Стрэнькі, Стрэшын, Царкоўе, Чарцяж, Шацілкі.[495]

У 1843 г. касцёл у Антушах стаў парафіяльным. Гэта адбылося дзякуючы захадам пробашча Карпілаўскага касцёла Марціна Вашкевіча. У 1839 г. Карпілаўскі касцёл мусіў быць ліквідаваны, і Вашкевіч дамогся, каб парафіяльным касцёлам стаў касцёл у Антушах. Урадавы Сенат 12 красавіка 1838 г. даў міністру ўнутраных спраў такі дазвол (№ 2747).[496]

У 1841 г. стары касцёл у Антушах быў цалкам перабудаваны звонку, а ў 1843 г. і *«внутри совершенно конченный иждивением ксендза того ж прихода, парафиан и других благотворительных лиц»*.[497] З таго часу касцёл вядомы пад назваю Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Антушаўская парафія была 4-га класу і да 1882 г. уваходзіла ў Рагачоўска-Быхаўскі дэканат. Парафія межавала з Люшаўскай, Рагачоўскай, Бабруйскай і Рэчыцкай парафіямі.

У 1862—1872 гг. вікарыем Антушаўскага касцёла быў Фелікс Ігнацьевіч Заленскі.

У час паўстання 1863 г. Антушы, верагодна, былі спалены войскамі, бо частка жыхароў падтрымала паўстанне.

У 1910 г. святаром Аляксадрам Болтуцем быў капітальна адрамантаваны будынак касцёла, а ў 1911 г. касцёл як звонку, так і

ўсярэдзіне пафарбаваны алейнымі фарбамі. Адпустовымі святамі ў Антушаўскай парафіі былі:

1. Св. Станіслава, біскупа і пакутніка;
2. Дзень асвячэння касцёла;
3. Св. Пятра і Паўла;
4. Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі;
5. Усіх Святых;
6. Беззаганнага Пачацця Панны Марыі;
7. Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Касцёл меў прывілей, выдадзены біскупам Ключынскім 21 жніўня 1910 года за № 6281.

У касцёле знаходзіліся мошчы св. Яна Кантыя.

Колькасць парафіян у 1910 г. — 2400 чалавек. У гэты час у 2-х земскіх школах і чыгуначным вучылішчы (у Жлобіне) выкладаўся Закон Божы.[498]

Даўжыня касцёла складала 32 аршыны, шырыня 18 аршынаў, дах быў гонтавы, фасад у выглядзе порціка на 8-мі слупах, столь з дошак падтрымлівалася 4-ма слупамі.

У 1910-я гг. касцёл меў наступны выгляд: каля галоўнага ўваходу знаходзіліся хоры, дзе быў размешчаны стары арган і такая ж фісгармонія. Пад хорамі — тамбур з 3-ма дзвярыма, якія былі напалову са шкла (2-е бакавых і адны пярэднія). Уваход на хоры быў праз лесвіцу з дзвярыма. Вокнаў вялікіх налічвалася 6, малых — 5.

Алтароў, аддзеленых ад навы драўлянай балюстрадай, было 3: галоўны — бетонны, з 3-ма бетоннымі сходамі, у якіх размяшчаўся абраз Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў пазалочанай раме. 2 бакавыя алтары мелі падобную канструкцыі, але былі драўляныя. Той, што з правага боку, быў з абразом св. Антонія з Падуі, з левага — з абразом Збавіцеля. З прэсбітэрыюма праз невялікія двухстворчатыя дзверы быў уваход у сакрысціі направа і налева, у левай сакрысціі існаваў выхад на вуліцу.

Усе 3 алтары былі пафарбаваны пад мармур. На сценах касцёла па баках віселі 4 вялікія абразы св. Евангелістаў (з ліквідаванага Бялыніцкага касцёла) і 2 невялікія абразы ў авальных рамах: адзін — св. Станіслава, біскупа і пакутніка, другі — св. Роха. У наве былі размешчаны 14 стацый крыжовай дарогі Пана Езуса ў драўляных рамах. Амбон размяшчаўся ў прэсбітэрыюме злева.

Пад хорамі былі ўстаноўлены 2 драўляныя пафарбаваныя канфесіяналы, па адным з кожнага боку касцёла. У касцёле былі і лаўкі, 2 чатырохрадныя і 4 аднарадныя.

Касцёл з прыкасцельным дваром быў адгароджаны ад усёй сядзібы штыкетнікам, у левым рагу плота ўзвышалася драўляная двухпавярховая званніца, пафарбаваная мінеральнай фарбай.

Званніца была накрыта гонтай. На яе першым паверху была камора для захавання касцельнага інвентару, на другім паверху былі падвешаны 5 невялікіх званоў, 2 з якіх былі разбіты.

Антушаўскаму касцёлу належала сядзіба памерам 3 дзес. 700 квадратных сажняў. Пад касцёлам і цвінтаром было 847 квадратных сажняў. Пад парафіяльнымі могілкамі каля Антушаў было 1150 квадратных сажняў. Усяго касцельнай зямлі было 4 дзес. 297 квадратных сажняў, што было замацавана планам, складзеным у 1913 г. выканаўцамі работ па землеўпарадкаванні — камісіяй Тышкі.

Акрамя таго, каля ваколіцы Марусенка ляжаў кавалак зямлі, які быў завяшчаны Антушаўскаму касцёлу Антоніем Антушэвічам, памерам у 7 дзес., з якіх толькі 5 сапраўды належалі касцёлу, а 2 дзес. былі захоплены суседзямі, якім планавалася прад’явіць судовае абвінавачванне ў гэтым.

У мястэчку Жлобін уласнасцю касцёла была зямля пад капліцай, цвінтаром і плябаніяй, падараваная князем Друцкім-Сакалінскім, усяго 1203,52 квадратных сажняў.

Плябанія ў Антушах — драўляны дом, пабудаваны ў 1890 г. Быў накрыты гонтай, на цагляным падмурку, меў 8 пакоеў, вітальню і каморку. Даўжыня дома была 24 аршыны, шырыня 14 аршынаў. Вокнаў падвойных налічвалася 14, дзвярэй — 13, было 14 галандскіх печак і 1 руская печка з плітой. Звонку дом быў ашаляваны, унутры атынкаваны. Дах у некаторых месцах быў гнілы. Мелася стайня, карэтная, хлеў, сарай, свіран, ляднік — усе гэтыя пабудовы былі разваленыя, і таму конь і карова часова ўтрымліваліся ў фальварку Слабодка.

Плябаніі належаў таксама драўляны дом для арганіста, крыты гонтай, даўжынёй 15 аршынаў, шырынёй 8 аршынаў, які меў 2 пакоі і каморку.

У Антушаўскую парафію ўваходзілі наступныя населеныя пункты:

Мястэчкі: 1. Жлобін. 2. Карпілаўка.

Вёскі: 1. Барсукі. 2. Жальвін. 3. Кашара. 4. Ліскі.

Маёнткі: 1. Астарманск. 2. Забалоцце. 3. Малевічы.

Фальваркі: 1. Грабек. 2. Драхлін. 3. Лебядзёўка. 4. Праходцы.

Аколіцы: 1. Антушы. 2. Вярбічаў. 3. Дуброва. 4. Зялёнае Будзішча. 5. Зялёны Мох. 6. Марусенка. 7. Новы Мазалаў. 8. Сенажаткі. 9. Стары Мазалаў. 10. Чарцяж.

Хутар Лозкі.

Могілкі былі ў Антушах, Жлобіне, Марусенцы і Чарцяжы.

Архіў Антушаўскага касцёла ўтрымліваў: Метрычныя кнігі аб нараджэнні з 1843 па 1913 г., шлюбныя метрычныя кнігі з 1840 па 1913 г., кнігі перадшлюбных экзаменаў з 1892 па 1913 г., метрычныя

кнігі аб памерлых з 1843 па 1913 г., кнігі канверсантаў з 1905 г. (канверсанты — магчыма асобы, якія перайшлі ў каталіцтва), кнігі з цыркулярнымі распараджэннямі духоўнага начальства, кнігі са шлюбнымі дысперсіямі, кнігі з выпраўленнямі метрычных запісаў, кнігі аб касцельнай маёмасці, кнігі касцельных медных пячатак.

Архіў ліквідаванага Карпілаўскага касцёла ўтрымліваў: метрычныя кнігі аб нараджэннях з 1730 па 1843 г., метрычныя кнігі аб перадшлюбных экзаменах з 1816 па 1839 г., метрычныя кнігі аб шлюбах з 1721 па 1840 г., метрычныя кнігі аб памерлых з 1805 па 1842 г.[499]

Касцёл у Антушах не захаваўся. Пасля закрыцця ў ім быў дзіцячы дом, потым бальніца. Калі бальніцу перавялі ў вёску Побалава, будынак аказаўся закінуты. У канцы 1980-х—пачатку 1990-х гг. яго разабралі. Захаваліся толькі прыступкі касцёла.

100.Тут стаяў Антушаўскі касцёл. «Глобус Беларуси».

У 1917 г. парафія налічвала 2440 вернікаў. Аляксандр Болтуць быў пробашчам у 1909—1911 гг., Юзаф Уладзіслаў Серасек — пасля 1911 г. Пэўны час у Антушах працаваў ксёндз Юліян Матусевіч. Ксёндз Міхаіл Тамашэўскі быў адміністратарам у 1913—1914 гг.,[500] Казімір Мустэйкіс — з 1917 г. да сярэдзіны 1920-х гг.

У 1918 г. на тэрыторыі парафіі знаходзіліся польскія легіянеры з корпусу генерала Доўбар-Мусніцкага.

З мая 1920 г. да ліпеня 1921 г. капеланам Жлобінскай капліцы, якая ўваходзіла ў Антушаўскую парафію, быў Карл Лупіновіч, якога пасля прызначылі вікарыем Маскоўскага касцёла Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны.

Вельмі кароткі час у Антушаўскую парафію ўваходзіла Люшаўская філія.

## 2. АНТУШАЎСКАЯ ШЛЯХТА

На прыкладзе двух антушаўскіх родаў можна пабачыць механізмы «растварэння» і знікнення каталіцкай шляхты Гомельшчыны.

Згодна з легендай, Антушы атрымалі сваю назву ад імя літоўскага князя Антаса, якому вялікі князь падараваў маланаселеныя землі ў даліне ракі Дабосна. Існуе таксама больш праўдападобная версія, што Антушы ўзніклі ў часы Боны Сфорцы, калі падруцкія землі засяляліся дробнай шляхтай. Большая частка

жыхароў Антушаў мела прозвішча Антушэвічы. Антушэвічы карысталіся гербам «Крыўда». Шляхецтва ім было нададзена да 1650 г., потым пацверджана расійскімі ўладамі.

У сярэдзіне XIX ст. адзін з Антушэвічаў — праўдападобна, Леанард Вінцэнтавіч, купіў у Іосіфа Шэлюты зямлю ў Бердыжы каля Чачэрска. Жонкай Леанарда стала Тэкля Канюшэўская — мясцовая шляхцянка. У іх нарадзілася 7 дзяцей, усіх іх хрысцілі ў Чачэрскім касцёле. Аднаго з сыноў назвалі Вінцэнт. За жонку Вінцэнт узяў з аколіцы Куракі шляхцянку-каталічку Еву Казіміраўну Канусевіч. У Вінцэнта і Евы нарадзіліся 4 дзяцей: дочкі Францыска, Феліцыя, Людвіка і сын Адам (гл. дадатак 9).

101.Злева: Вінцэнт Леанардавіч Антушэвіч з цесцем.
Справа: Адам Вінцэнтавіч Антушэвіч з жонкай Эміліяй Мартынаўнай

102.Грабоўская (Антушэвіч) Феліцыя. 1918 г.

103.Барэйша (Антушэвіч) Людвіка з мужам Ігнаціем і дачкой Станіславай.

Лёс гэтай каталіцкай сям'і даволі тыповы для каталіцкіх сямей Гомельшчыны, бо шмат хто з яе членаў быў рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. Так Адам Вінцэнтавіч, які быў да рэвалюцыі паштмайстарам у Рагачове, а ў 1920-х гг. дэпутатам у Чачэрску, у пачатку 1930-х гг. быў высланы (разам з жонкай і малодшым сынам Вацлавам) на Далёкі Усход у пасёлак з дзіўнаватай назвай Паліна Асіпенка. Ён так і не вярнуўся назад на радзіму, у высылцы працаваў дырэктарам інтэрната для дзяцей аднаго з карэнных народаў Далёкага Усходу і памёр у 1950-х гг.

104.Адам Вінцэнтавіч разам з сынам Вацлавам. Пасёлак Паліна Асіпенка.

Яшчэ адзін сын Адама Вінцэнтавіча — Вінцэнт, быў рэпрэсіраваны ў Сталінградзе, дзе ён вучыўся ў інстытуце.

105.Вінцэнт Антушэвіч. Сталінград, 1931 г.

Дачка Адама Вінцэнтавіча — Антаніна пазбегла высылкі, але і яна двойчы была пад судом Выязной калегіі.

106.Антаніна Адамаўна Яўстраценка (Антушэвіч). Рэчыца, 1930 г.

Толькі старэйшы сын Адама Вінцэнтавіча — Леанард, які з'ехаў з радзімы ў Архангельск да сваякоў, пазбег рэпрэсій.

107.Леанард Антушэвіч (злева) з братам Вінцэнтам. 1927 г.

Таксама ў Антушах жылі шляхцічы Корзуны герба «Марскі кот».

108.Герб «Марскі кот»

Паводле перапісу 1795 г., у Антушах жылі дзеці рэчыцкага харужага Паўла Васілевіча Корзуна, а таксама сям’я яго брата Дамініка Васілевіча Корзуна. Сын Дамініка — Станіслаў Дамінікавіч Корзун і яго дзеці працягвалі жыць у Антушах. А вось нашчадкі брата Станіслава — Іосіфа Дамінікавіча, з часам пасяліліся ў Клінцах Чарнігаўскай губерні. Унук Іосіфа Дамінікавіча — Аляксандр Людвікавіч Корзун, як і шмат хто з прадстаўнікоў беларускай каталіцкай шляхты, быў па адукацыі інжынер-чыгуначнік.

109.Аляксандр Корзун з бацькам Людвікам і сынам Мікалаем

Пасля жаніцьбы ён служыў чыноўнікам на тэкстыльнай фабрыцы ў Клінцах у сваіх суседзяў — купцоў Барышнікавых.

## 110.Аляксандр Людвікавіч Корзун.

У Клінцах А.Л.Корзун ажаніўся з Васай Іванаўнай Сахаравай — стараверкай. Вянчаліся яны ў праваслаўнай царкве, па праваслаўным абрадзе былі ахрышчаны і іх сыны. На гэтым прыкладзе бачна, як адбывалася канфесійная трансфармацыя часткі беларускай шляхты.

Адзін з сыноў А.Л. Корзуна — Мікалай Аляксандравіч скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта і ўсё жыццё працаваў доктарам. Менавіта ён выпісаў пасведчанне аб смерці чырвонага камандзіра Шчорса.[501] Мікалай Аляксандравіч Корзун арганізаваў у Клінцах паліклініку, бібліятэку. Брат Мікалая Аляксандравіча — Аляксандр Аляксандравіч Корзун працаваў у Клінцоўскім тэкстыльным тэхнікуме (у 1930-х гг. называўся Ваўняны тэхнікум), дзе выкладаў матэматыку і лічыўся вельмі добрым спецыялістам. Пасля вайны ён быў рэпрэсіраваны і атрымаў «10 гадоў без права перапіскі».

## 111.Браты Аляксандр і Мікалай Корзуны

# 3. ЖЛОБІНСКАЯ ПАРАФІЯ

Гісторыя каталіцтва на тэрыторыі сучаснай Жлобіншчыны сягае ў XIV ст. У канцы гэтага стагоддзя (у 1399 г.) вялікі князь Вітаўт падараваў Віленскаму каталіцкаму біскупству маёнтак Стрэшын, які ўключаў у сябе *«землю березынскую»* паміж Рагачовам і Стрэшыным.

Больш падрабязныя звесткі аб каталіцтве на гэтых землях вядомы нам пакуль толькі з канца XVIII ст. У 1782 г. мястэчка Карпілаўку наведаў бабруйскі дэкан. Вопіс стану Карпілаўскай парафіі, зроблены ім, дае некаторую інфармацыю аб распаўсюджанні каталіцтва ў мястэчку і ваколіцах. Так, у Карпілаўцы будаваўся ў гэты час касцёл, які павінен быў быць асвечаны пад тытулым Божага Цела. Будынак касцёла паўстаў ужо ў 1781 г., але не меў яшчэ алтароў, апроч галоўнага, а таксама вокнаў.

Дэкан двойчы згадваў «стары» касцёл, пабудаваны з дрэва і размешчаны недалёка ад новага. Наколькі ён быў стары, можна меркаваць па тым, што нават сучаснікі не маглі сказаць пра час яго

пабудовы. Маюцца толькі дадзеныя, што стары касцёл фундавалі паны Юдзіцкія. Аднак, можна дапусціць, што Карпілаўская парафія была заснавана не пазней, чым у 1720-я гг., бо ёсць звесткі аб 2-х кнігах хрышчэнняў, датаваных 1723 г.[502]

Крыніцы даюць інфармацыю аб святарах, якія неслі пастырскую службу сярод карпілаўскіх вернікаў і іншых католікаў Рагачоўскага павета. На жаль, вядомы толькі некалькі карпілаўскіх святароў. Сярод іх ксёндз-езуіт Міхаіл Бародзіч, які ў 1782 г. узгадваецца як пробашч Карпілаўскага касцёла Божага Цела[503] і ксёндз Раман Шыманскі, які быў прызначаны ў Карпілаўку 17 лютага 1785 г., на замену ксяндза Міхаіла.

Усяго, па стану на 1805 г., у Карпілаўскай парафіі колькасць каталіцкага насельніцтва, як сведчыў магілёўскі арцыбіскуп, складала 950 чалавек, здольных прымаць камунію і 300 — не здольных.

У 1840 г. Карпілаўская парафія налічвала 1360 вернікаў. У Карпілаўцы і Жлобіне было 23 католікі. У Антушах — 228. У Астарманску — 7. У Вярбічаве — 129. У Малевічах — 29. У Марусенцы — 44. У Сенажатках — 405. У Чарцяжы — 495.

У Жлобіне ў гэты час існавала драўляная каталіцкая капліца, пабудаваная прыкладна ў 1775 г. У галоўным яе алтары знаходзіўся абраз святога Казіміра. У пачатку XIX ст. тут працаваў ксёндз Ян Булановіч. У капліцы меліся пахаванні пана Казіміра Халецкага і яго брата (верагодна, гэта Казімір і Антоні Халецкія, якія з 1730 г. фундавалі езуіцкую місію ў Хальчы[504] і пабудавалі місійны дом і касцёл). Пазней яна была перададзена Праваслаўнай Царкве.

Аднак, «Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага» ў 1886 г. указваў на існаванне ў Жлобіне рыма-каталіцкай капліцы.[505]

## 112.Жлобін на мяжы XIX-XX стст.

Доўгі час парафіяльным касцёлам для жлобінцаў быў касцёл у вёсцы Антушы.

У канцы XIX ст. Жлобін стаў важным чыгунаным вузлом. Насельніцтва Жлобіна ўвесь час павялічвалася і да 1905 г. дасягнула 4,5 тыс. чалавек. Паўстала пытанне аб адкрыцці ў мястэчку каталіцкага малітоўнага дома.

11 чэрвеня 1905 г. католікі Жлобіна напісалі прашэнне на імя мітрапаліта з просьбай аб дазволе на адкрыццё малітоўнага дома. У прашэнні гаварылася: *«Нас, католиков, до 500 душ… Просим Ваше Высокопреосвященство разрешить нам открыть дом молитвы при станции Жлобин, и ксендзу Гомельского костёла приезжать два*

*раза в месяц для совершения обрядов»*. Вернікі таксама пісалі, што яны гатовы ахвяраваць грошы на праезд ксяндза і бяруць на сябе выдаткі па ўтрыманні памяшкання.[506]

17 чэрвеня 1905 г. кансісторыя дала дазвол,[507] і 26 чэрвеня 1906 г. было нанята памяшканне для набажэнстваў.[508] Аднак ужо праз два месяцы 24 жніўня губернатар дакладваў у Дэпартамент замежных веравызнанняў, што малітоўны дом не адпавядае тэхнічным і санітарным нормам, а менавіта, перавышае ў даўжыню 12 сажняў, што забаронена артыкулам 199 Будаўнічага статуту.[509] 1 верасня гомельскі дэкан Пятроўскі асабіста правёў праверку, якая паказала, што абсалютна ніякіх парушэнняў існуючага заканадаўства тут няма.[510]

У пачатку XX ст. Жлобін часова знаходзіўся ў складзе Гомельскай парафіі, а перад Першай сусветнай вайной ён ізноў быў у складзе Антушаўскай парафіі. 24 мая 1909 г. вернікі вырашылі пабудаваць у Жлобіне сапраўдны касцёл. Быў арганізаваны камітэт, які ўзначаліў ксёндз Аляксандр Болтуць, пробашч Антушаўскага касцёла. Пачаўся збор ахвяраванняў. У гэты час у Рагачове парафіяне вырашылі будаваць новы касцёл, і жлобінцы выкупілі стары Рагачоўскі касцёл за 900 руб. З матэрыялаў, атрыманых пры разборцы старога касцёла ў Рагачове, і быў пабудаваны касцёл (капліца) у Жлобіне. Зямлю пад пабудову касцёла ў памеры 1203,52 кв. сажняў ахвяраваў князь Друцкі-Сакалінскі.[511]

Дзякуючы намаганням ксяндза Аляксандра Болтуця касцёл паўстаў у Жлобіне ў 1911 г. Ён быў асвечаны гомельскім дэканам ксяндзом Пятроўскім 18 лютага 1911 г. Даўжыня касцёла была 30 аршынаў, шырыня 14 аршынаў, пабудаваны ён быў на цагляным падмурку. Франтон падтрымліваўся 4-ма слупамі-калонамі. Касцёл і званіца (4-гранная вежа) былі накрыты дахам з ацынкаванага жалеза. Сцены звонку і ўсярэдзіне былі ашаляваныя. Меліся 3 часовыя алтары: 2 ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі і 1 — св. Казіміра. Сакрысціі размяшчаліся за галоўным алтаром.[512] Пробашчам быў ксёндз Юзаф-Уладзіслаў Серасек.

Да маёмасці Жлобінскага касцёла належаў і драўляны будынак плябаніі, крыты гонтай, даўжынёй 10 аршынаў, шырынёй 7 аршынаў, які меў 4 пакоі і кухню. Непадалёк ад дома быў драўляны сарай.[513]

Капеланам Жлобінскай капліцы з 26 лютага 1919 г. быў Ян Беняш-Кржывец[514], з 5 мая 1920 г. да ліпеня 1921 г. — Карл Лупіновіч.

113.Карл Лупіновіч

На месца Лупіновіча ў Жлобін быў пасланы былы выконваючы абавязкі пробашча Залатавустаўскага касцёла на Урале Баляслаў Валынец. Ксёндз Валынец адначасова з'яўляўся філіялістам Люшаўскага касцёла і месцам яго жыхарства быў прызначаны Люшаў. У 1923 г. Валынец стаў выконваючым абавязкі адміністратара Чачэрскага касцёла (ён заставаўся і люшаўскім філіялістам), таму выконваючым абавязкі адміністратара Жлобінскай капліцы стаў адміністратар Антушаўскай парафіі ксёндз Казімір Мустэйкіс. Акрамя Жлобіна і Антушаў Мустэйкіс абслугоўваў і каталіцкія паселішчы Рэчыцкага павета.

У справаздачы Польбюро Гомельскага Губкама за май—жнівень 1924 г. падаюцца словы аднаго з партыйных работнікаў, у якіх закранаецца дзейнасць ксяндза Мустэйкіса: *«Уплыў ксяндзоў, па-мойму, падмацоўваюць рэпрэсіі, якія ўжываюць карныя органы. Напрыклад, ксёндз з Жлобіна, які аб'язджаў польскія вёскі Рэчыцкага павета, падняў свой аўтарытэт тым, што адседзеў 3 месяцы ў турме і быў адпушчаны і не асуджаны. Ясна, што такія легкадумныя арышты і наогул механічныя сродкі сапсуюць нам усю працу, бо дзякуючы ім ксяндзы ператвараюцца ў пакутнікаў не толькі за веру, але і за нацыянальнасць. З мэтай прадухілення апошняга належыць арыштоўваць ксяндзоў толькі пры наяўнасці фактычнага праверанная абвінаваўчага матэрыялу, каб справа скончылася адданнем пад суд»*.[515]

Апошнім святаром, які нёс тут служэнне да вайны, быў ксёндз Тэадор Рыла, арыштаваны ў 1944 г. у Гродне і сасланы ў сталінскія лагеры, дзе памёр у 1950 г.[516]

Часы савецкай улады былі перыядам жорсткага выпрабавання для ўсіх канфесій. У 1934 г. Жлобінскі касцёл быў зачынены і на кароткі тэрмін узнавіў сваю дзейнасць толькі ў часе Другой сусветнай вайны, калі нямецкія ўлады дазволілі вернікам адчыняць забраныя храмы і ладзіць капліцы. Часта ў такіх культавых будынках вернікі-католікі карысталіся з паслуг вайсковых капеланаў акупацыйных войск. Так, Францыску і Стэфана Шацілаў з Жлобіна абвянчаў у часе вайны ў Жлобінскім касцёле італьянскі вайсковы капелан.[517]

У вёсцы Шчадрын Жлобінскага раёна ў часы акупацыі працавала каталіцкая капліца. У 1991 г. жыхары Шчадрына перадалі ксяндзу Яну Саламону фрагмент алтара. Яны патлумачылі, што гэтая рэч са Шчадрынскай капліцы, і што яе захоўвала іх маці, якая перад смерцю загадала ім перадаць яе ксяндзу, які тут з'явіцца.[518]

Пасля вайны ўлады ў другі раз адабралі Жлобінскую святыню і перарабілі яе на дзіцячы садок. У пачатку 1980-х гг. тут пасля

капітальнага рамонту адчыніўся гісторыка-краязнаўчы музей. Час ад часу ў Жлобін прыязджаў са Слуцка ксёндз Мечыслаў Малыніч.

114.Жлобінскі музей (былая капліца Св. Казіміра)

114.1.
114.2.

1990 г. стаў годам адраджэння каталіцкага жыцця ў Жлобіне. А на Вербную нядзелю 1991 г. сюды на сталую працу прыехаў ксёндз Ян Саламон (цяпер рэктар духоўнай семінарыі ў Пінску). 12 красавіка 1992 г. каля трохсот парафіян разам з ксяндзом Янам маліліся каля сцен музея, выказваючы так жаданне вяруць сабе Дом Божы. Аб гэтых падзеях пісала мясцовая газета «Новы дзень». Просьбы аб вяртанні святыні вернікі накіроўвалі ў Вярхоўны Савет на імя старшыні С.Шушкевіча. Улады, аднак, вырашылі перадаць католікам будынак крамы № 23, як толькі для яе будзе збудавана новае памяшканне.

Актыўная праца па адраджэнні каталіцтва пачалася з прызначэннем у 1996 г. пробашчам у Жлобін ксяндза Леанарда Акалатовіча. 23 чэрвеня 1996 г. будынак крамы № 23 перайшоў ва ўласнасць парафіі і быў з часам капітальна перабудаваны. Першы раз літургія тут адпраўлялася на вігілію Божага Нараджэння 24 снежня 1996 г. 13 верасня 1998 г. Жлобінскую парафію наведаў кардынал Казімір Свёнтак. 24 снежня 2001 г. тут упершыню загучаў касцельны звон.[519]

115.Сучасная капліца Св. Казіміра

115.1.
115.2.

## VII. ГРОСВЕРДЭРСКАЯ ПАРАФІЯ

Яшчэ 22 ліпеня 1763 г. Кацярына II зацвердзіла маніфест «Аб дазволе ўсім іншаземцам, якія ўязджаюць у Расію, пасяліцца ў губернях, у якіх яны пажадаюць». Перасяленцам гарантавалася на працягу 30-ці гадоў вызваленне ад падаткаў і ўсялякай вайсковай і цывільнай службы і, акрамя іншага, дазвалялася сяліцца калоніямі і мястэчкамі, будаваць цэрквы і званіцы, маючы патрэбную колькасць

святароў і іншых царкоўных служак, але забаранялася засноўваць кляштары.[520]

У 1767 г. 72 нямецкія сям'і заснавалі ў Белавежскім стэпе, які да гэтага належаў Маларасійскай генеральнай артылерыі, калонію з 6-ці паселішчаў[521]. Большасць каланістаў была з найбяднейшых пластоў нямецкага сялянства. Перасяленцы пасяліліся паводле канфесійнай прыналежнасці. Лютэране — выхадцы з ваколіц Франкфурта-на-Майне, а таксама немцы з Чэхіі і Венгрыі — заснавалі паселішчы Белая Вежа, Белавежскі Гарадок, Рудневізе і Кальчынаўку. Католікі — пераважна выхадцы з Прусіі — заснавалі Гросвердэр[522] і Кляйнвердэр.[523]

Названыя 6 вёсак размяшчаліся побач з былой сталіцай Гетманшчыны Батурын у Борзенскім павеце Чарнігаўскай губерні і былі першымі нямецкімі пасяленнямі на Левабярэжжы, што з’явіліся пасля рэформаў графа Румянцава.[524]

116.Касцёл у Гросвердэры

У калоніі Гросвердэр быў пабудаваны касцёл Маці Божай Ружанцовай (Rosarii BMV), а новастворaная парафія Пакрова Маці Божай была далучаная да Беліцкага дэканата, які пасля 1853 г. стаў называцца Гомельскім.

У пісьмовых крыніцах сустракаюцца розныя даты будаўніцтва касцёла. «Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага» ўказвае 1766 г., а «Памятная книжка Черниговской губернии за 1862 год» называе датай будаўніцтва 1821 г. Ксёндз Язафат Жыскар у сваім рукапісе «Успаміны пра пастырскую працу ў Гросвердэры ў 1905—1906 гг.»[525] указвае 1796 г.: «*Гэты будынак, які называецца Гросвердэрскім парафіяльным касцёлам, пабудаваны ў 1796 г. ксяндзом Вільмікам (Wilmikiet) з бярозавых калодаў на падмурку. Даўжыня касцёла 27 аршынаў, шырыня 12, вышыня 11*».

117.План касцёла, складзены архітэктарам-рэстаўратарам Аляксандрам Раманчанкам у 2001 г.

Украінскі даследчык Аляксандр Раманчанка таксама схіляецца да 1796 г.: «На наш погляд, найбольш верагоднай датай будаўніцтва храма ёсць якраз 1796 г. У 1766 г. ён наўрад ці быў пабудаваны, паколькі ад даты заснавання паселішча прайшло вельмі мала часу для таго, каб грамада змагла асіліць будаўніцтва такога досыць вялікага будынка. Разам з тым, у 1821 г. ужо дзейнічала афіцыйная

забарона на будаўніцтва культавых будынкаў у традыцыйных народных формах («в малороссийском вкусе»), якія знайшлі адбітак у архітэктуры храма».[526]

Але ў апісанні Беліцкага дэканата, у які ўваходзіла Гросвердэрская парафія, за 1803 г. напісана наступнае: *«Касцёл Бяломецкі ў мястэчку Бяломчу (маецца на ўвазе Гросвердэрскі касцёл, — У.В.). Драўляны, новы. Скончваюць мураваць з ахвяраванняў. Калятар — мітрапаліт Сестранцэвіч. Курат — Цэлесцін Сташэўскі (59 гадоў), дамініканін...»*.[527] Такім чынам, у 1803 г. касцёл быў недабудаваны і можна меркаваць, што ён яшчэ некалькі гадоў дабудоўваўся ксяндзом Сташэўскім.

Гросвердэрская парафія была адзінай у Магілёўскай архідыяцэзіі, дзе мовай дадатковых набажэнстваў была нямецкая.

У 1840-х гг. куратам Гросвердэрскага касцёла быў ксёндз дамініканін Зубрыцкі, у сярэдзіне XIX ст. — ксёндз Сімон Будрэвіч. Парафіян у 1856 г. налічвалася 812 чалавек.

17 сакавіка 1858 г. мітрапалітам Вацлавам Жылінскім куратам Гросвердэрскага парафіяльнага касцёла быў прызначаны Міхаіл Васілеўскі, які працаваў пробашчам да канца XIX ст. У 1861 г. пасада курата перайменавана ў пробашча парафіі.[528]

У 1866 г. Гросвердэрская парафія Пакрова Маці Божай ахоплівала калоніі Гросвердэр і Кляйнвердэр у Борзенскім павеце Чарнігаўскай губерні і калонію Хрaшчацік у Ромненскім павеце Палтаўскай губерні. Хрaшчацік знаходзіўся на адлегласці 80 вёрст ад Гросвердэра і меў уласную невялікую капліцу, пабудаваную мясцовай жыхаркай пані Багаеўскай. Насельніцтва Хрaшчаціка было змешаным каталіцка-лютэранскім.[529]

Парафіян у Гросвердэры было 233 асобы мужчынскага полу, 243 — жаночага. У калоніі налічваўся 61 двор.

У Кляйнвердэры парафіян было 107 асобаў мужчынскага полу, 100 — жаночага, 26 двароў. У Хрaшчаціку парафіян налічвалася 99 асоб мужчынскага полу і 96 жаночага, 25 двароў. У ваколіцах было яшчэ 70 мужчын-каталікаў і 89 жанчын-каталічак.

Усяго парафія налічвала ў 1866 г. 509 мужчын, 528 жанчын, агулам 1037 чалавек.

Курат Васілеўскі валодаў дамамі ў Гросвердэры і Хрaшчаціку, а таксама зямлёй у Гросвердэры (60 дзес.) і ў Хрaшчаціку (42 дзес.). Замест жалавання атрымліваў даходы з зямлі ў памеры 192 руб. у год. Ён таксама валодаў зберажэннямі ў суме 500 руб., якія захоўваліся ў Чарнігаўскім агульнага прызрэння прыказе.[530]

Пасля смерці Васілеўскага зямля ў Хрaшчаціку была захоплена немцамі-каланістамі, а капліца разрабавана. Аб гэтым з горыччу

пісаў ксёндз Я.Жыскар у кнізе «Nasze kościoły». І дадаваў, што звычкі немцаў Гросвердэра мала выяўляюць каталіцкага духу.

У рукапісе «Успаміны пра пастырскую працу ў Гросвердэры ў 1905—1906 гг.», які ілюстраваны некалькімі фатаздымкамі пачатку ХХ ст., ксёндз Язафат Жыскар так апісвае Гросвердэрскі касцёл:

*«Вандроўнік, якога не папярэдзілі, што перад ім касцёл, ніколі аб гэтым не здагадаецца. Яго вонкавыя абрысы нагадваюць праваслаўную царкву. Галоўны ўваход зарыентаваны не на дарогу, а на цвінтар. З боку вуліцы пастаўлена шырокая вежа, ад старасці нахіленая, якая засланіла сабой цэлы касцёл. Касцёл арыентаваны на ўсход, так, як будуюць праваслаўныя цэрквы (а іншых мясцовыя немцы і не бачылі). Таксама маем тыя ж два купалы, якія звычайна бачым над праваслаўнай царквой. А каб дапоўніць падабенства касцёла да царквы, мой папярэднік-пробашч пафарбаваў дах у зялёны колер з залатымі зоркамі. Калі зойдзем у касцёл, то ўсе выявы з вобразам Ціхвінскай Маці Божай, абвітым золатам, ужо перамянілі ў царкоўным духу. Усё так не па-каталіцку, не «po-swojsku».*

*Час ужо паклаў сваю цяжкую руку на касцёл. Я быў бы найшчаслівым у свеце, калі б не было на зямлі гэтай сумнай памяткі. Калоды, пакладзеныя проста на падмурак ужо спарахнелі, а доўгія рамонты 1827, 1857, 1883, 1885, 1868 гг. і, нарэшце, няўдалы і без густу выкананы рамонт майго папярэдніка ў 1904 г. выратавалі касцёл ад поўнага заняпаду. Аднак, то было цыраванне старога мяшка новымі латкамі, марнаванне значных сум і адцягванне хвіліны сканання. Калі ўдасца вырваць сабраныя 7000 руб., выкарыстаць іншыя крыніцы, добра было б з часам пабудаваць новы касцёл»*.

Гэтае досыць падрабязнае апісанне касцёла падмацавана ілюстрацыямі ў выглядзе трох здымкаў, датаваных 1905 г.

На першым здымку бачная група парафіян на фоне заходняга фасада касцёла з двух’яруснай званіцай, увенчанай купалам у стылі «епархіяльнай архітэктуры». Другі ярус званіцы абапіраецца на цагляныя пілоны, утвараючы паддашак галоўнага ўваходу. Як мяркуе даследчык Аляксандр Раманчанка, званіца была прыбудавана да асноўнага аб’ёму пазней.[531] Здымак падпісаны: *«Касцёл у Гросвердэры. Выгляд ад цвінтара з боку галоўнага ўваходу»*.

118.

Другі здымак мае такі подпіс: *«Касцёл з боку вуліцы»*. Тут паказаны паўднёвы фасад і алтарная частка. Званіцы амаль не бачна.

Добра праглядаецца гранёная апсіда, якая перарастае па вышыні ў васьмерык з надалтарным купалам.

119.

На трэцім здымку, які падпісаны *«Сучасны выгляд касцёла ўсярэдзіне»*, зафіксаваны галоўны алтар, які бачны праз праём так званай *«аркі тэньчовай»*. Добра праглядаецца згаданы абраз Ціхвінскай Божай Маці.

120.

Архітэктурныя формы галоўнага алтара бачны толькі фрагментарна. Бакавыя алтары драўляныя, разныя, з пазалотай. Выкананы ў класічнай форме з элементамі ампіру. Столь, якая абшыта дошкамі, імітуе мураваны склеп. Разныя рыгелі-зацяжкі канструкцыйна звязаны з надалтарнай вежай. Дадатковае асвятленне алтарнай часткі, хутчэй за ўсё, забяспечвалася праходам святла праз аконныя праёмы верхніх ярусаў.

Арыгінальным з’яўляецца канструкцыйнае вырашэнне надалтарнай вежы. Зыходзячы з наяўнай іканаграфіі і матэрыялаў абмераў, падаецца, што вежа, абапіраючыся паловай свайго аб’ёму на сцены апсіды, другой паловай пры дапамозе досыць складанай сістэмы рыгельных бэлек абапіраліся на слупы, якія падзялялі інтэр’ер на нефы. Пры гэтым, знаходзячыся на мяжы апсіднай і зальнай часткі, вежа, хутчэй за ўсё, была раскрыта на ўсю вышыню толькі ў межах алтарнай часткі з мэтай дадатковага асвятлення.

Улічваючы шырыню касцёла — каля 9 м, інтэр’ер, хутчэй за ўсё, быў падзелены радамі слупоў ці калонаў на 3 нефы. У малітоўнай залі над уваходам традыцыйна быў уладкаваны арган, паколькі ў архіўных дакументах ёсць звесткі пра арган і арганіста.[532]

У 1906 г. ксёндз Я.Жыскар у нататцы на імя кіраўніка Магілёўскай архідыяцэзіі адзначаў, што касцельныя будынкі і гаспадарка ў занядбаным і цяжкім стане. Дах касцёла цячэ, званіца пагражае абвалам.[533]

З 6-га кастрычніка 1912 г. па 9-га чэрвеня 1923 г. адміністратарам парафіі Гросвердэр быў ксёндз Вінцэнт Дэйніс.[534]

У 1914 г. выдатны гомельскі інжынер С.Д.Шабунеўскі зрабіў праект новага мураванага касцёла, аднак вайна і рэвалюцыі перашкодзілі будаўніцтву.

У дакуменце, датаваным 1921 г., гаворыцца аб тым, што будынак касцёла Маці Божай Ружанцовай вельмі стары, але яшчэ прыдатны. У тым жа годзе яго адрамантавалі — замянілі аконныя рамы. Касцельная грамада (каля 1200 вернікаў) планавала пафарбаваць касцёл. Далей у дакуменце характэрная для часоў канфіскацыі літургічных рэчаў прыпіска: *«з касцельнага начыння і інвентара нічога не забралі»*.

З 1923 г., пасля пераводу ксяндза Дэйніса ў Ямбург, набажэнствы адбываліся час ад часу, калі прыязджаў святар, які заведваў былымі касцёламі Гомельскага дэканата ў Нежыне і Ромнах.

121.Бакавы фасад касцёла ў Гросвердэры. Рэканструкцыя А.Д.Раманчанкі.

Аднымі з апошніх дакументаў па гісторыі Гросвердэрскай парафіі з'яўляюцца матэрыялы экспедыцыі гісторыка і этнографа В.М.Жырмунскага ў нямецкія калоніі Канатопскай акругі ў 1927 г. Жырмунскі наведаў Гарадок (Белавежскі Гарадок), Белыя Вежы, Кальчынаўку, Рудневізе, Гросвердэр і Кляйнвердэр. У выніку даследванняў было высвятлена, што пасяленцы каталіцкіх калоній Гросвердэр і Кляйнвердэр амаль не збераглі роднай мовы і размаўляюць пераважна па-украінску.

121.1.Гросвердэрскія дзяўчаты.

121.2.Тыпы гросвердэрскіх немцаў.

У галіне ж матэрыяльнай культуры высвятлена, што ў форме будынкаў і планіроўкі двароў збераглiся асаблівасці нямецкага сялянскага жылля ў спалучэнні з мясцовымі украінскімі формамі.[535]

Летам 1941-га г., перад прыходам нямецка-фашысцкіх войск, жыхароў гэтых нямецкіх вёсак дэпартавалі ў Казахстан.

Гросвердэр быў перайменаваны. Цяпер гэта сяло Зелянёўка Бахмацкага раёна Чарнігаўскай вобласці Украіны.

Так скончылася амаль двухсотгадовая гісторыя каталіцкай парафіі Гросвердэр Гомельскага дэканата Рыма-каталіцкага Касцёла.

Як ні дзіўна, у адрозненне ад большасці касцельных будынкаў Гомельскага дэканата, Гросвердэрскі касцёл захаваўся да нашых дзён і яшчэ існаваў у 2001 г.

Касцёл стаіць у цэнтры невялікага сяла на перакрыжаванні галоўных вуліц. Арыентаваны галоўным алтаром на ўсход, на ўзор праваслаўнай царквы. Будынак амаль цалкам захаваўся, за выключэннем надалтарнай вежы і другога яруса званіцы. Унутры зроблена перапланіроўка, бо ў будынку знаходзіцца сельскі клуб. Звонку ён вертыкальна абшаляваны. Ніжнія брусы, пакладзеныя на падмурак, значна пашкоджаны, стан вышэйшых брусоў здавальняючы. Захаваўся завяршальны карніз, які, без сумненняў, належыць да першага будаўнічага перыяду касцёла. А фігурныя ліштвы аконных і дзвярных праёмаў, хутчэй за ўсё, выкананы ў час аднаго з пазнейшых рамонтаў — «няўдалых і без густу выкананых». Арыгінальна зроблены вокны алтарнай чаткі. Іх вертыкальная вось сіметрыі супадае з рысай пералому граняў алтарнай часткі. Відавочна, што гэта звязана з патрэбай уладкаваць галоўны алтар непасрэдна пры сцяне апсіды.

122.Агульны выгляд касцёла з боку званіцы. 2001 г.

## VIII. ПАРАФІІ, ДАЛУЧАНЫЯ ДА ГОМЕЛЬСКАГА ДЭКАНАТУ ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

### 1. РАГАЧОЎСКАЯ ПАРАФІЯ

Беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч сцвярджаў, што касцёл быў у Рагачове ўжо ў першай палове XVI ст. У сваёй аповесці «Ладдзя роспачы» ён напісаў наступнае: *«У той час аб'язджала свае землі літасцівая каралева Бона з роду Сфорца, жонка яго каралеўскае мосці Цыкмуна. Завітала яна і ў свой рагачоўскі замак, якому столькі прывілеяў давала і фундатарам касцёла ў якім была»*.[536]

Але першыя дакументальныя звесткі пра касцельныя структуры ў Рагачове адносяцца да 1741 г., калі ў Рагачове была заснавана езуіцкая місія Бабруйскай рэзідэнцыі. Рагачоўская езуіцкая місія існавала да 1750 г.

Захаваліся імёны месіянераў-езуітаў. Першым місіянерам, у 1741-1742 гг., быў Міхаіл Качаноўскі, які таксама быў місіянерам фундацыі Памарніцкіх на Украіне.

У 1742-1743 г. місіянерам у Рагачове быў Юзаф Красоўскі.

У 1743-1744 гг. — Станіслаў Гедройц.

У 1744-1747 гг. — Мікалай Грынявіцкі.

У 1747-1749 гг. — Казімір Гадлеўскі.

У 1749-1750 гг. — Юзаф Сташкевіч.

У 1783 г. быў пабудаваны драўляны касцёл у гонар Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Рагачоў стаў цэнтрам Рагачоўскага дэканата. Дэканам у 1810 г. быў ксёндз Пётр Стажэнскі.[537]

Пазней Рагачоўскі дэканат быў аб'яднаны з Быхаўскім дэканатам і стаў называцца Рагачоўска-Быхаўскім (альбо Быхаўска-Рагачоўскім).

57.Касцёл Св. Антонія Падуанскага

Мураваны касцёл пад тытулам Св. Антонія Падуанскага быў пабудаваны ў 1911—1913 гг. У той перыяд пробашчам быў Зыгмунт Хадасоўскі. У гэты час у Рагачоўскай парафіі існавала драўляная капліца Св. Яна. Капліца знаходзілася ў вёсцы Дварэц.

У 1918 г. пробашчам Рагачоўскага касцёла і дэканам быў Стэфан Война. У 1923 г. — Ігнацы Бярнатовіч.

У сярэдзіне 1920-х гг. адміністратарам Рагачоўскай парафіі быў ксёндз Казімір Мустэйкіс.

З 1934 г. пробашчам працаваў Уладзіслаў Кунда. 5 снежня 1935 г. ён быў арыштаваны ў Рагачове як *«кіраўнік контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай групы палякаў-католікаў»*. З ім было арыштавана яшчэ 8 чалавек (гл. дадаткі 4, 5, 6.)

Пасля закрыцця касцёла ў будынку размяшчалася цэх па вырабу напояў і марожанага артэлі «Чырвоны пекар». Улетку 1940 г. у цэху ўзнік пажар, які цалкам знішчыў усе драўляныя элементы будынка.[538]

Рэлігійнае жыццё парафіі Антонія Падуанскага адрадзілася ў 1990-я гады. Будынак касцёла ізноў стаў уласнасцю парафіі. Пад кіраўніцтвам пробашча ксяндза Леанарда Акалатовіча ў ім вядуцца рэстаўрацыйныя працы.

58.Капліца на могілках у Рагачове.
Мяркуецца, што гэта каталіцкая капліца, якая пабудавана ў другой палове XIX ст.

## 2. РЭЧЫЦКАЯ ПАРАФІЯ[539]

У 1634 г. мінскім ваяводам Аляксандрам Слушкам у мястэчку Рэчыцы быў пабудаваны драўляны касцёл Святой Троіцы і заснаваны кляштар дамініканцаў. Так у Рэчыцы ўзнікла рыма-каталіцкая парафія.

Парафія належала да Віленскага біскупства і абслугоўвалася дамініканцамі — Братамі Прапаведнікамі (*Ordo Fratrorum Praedikatorum, OP*)[540] Рускай правінцыі Св. Яцэка.[541] Пры кляштары ўзнікла і першая ў Рэчыцы бібліятэка, якая налічвала 270 кніг.

Верагодна, пры кляштары была і школа. Таксама можна меркаваць, што асобныя вернікі парафіі ўваходзілі ў трэці дамініканскі ордэн.

У 1793 г. у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай Рэчыца апынулася ў складзе Расійскай імперыі і стала павятовым цэнтрам Мінскай губерні.

Пасля падаўлення лістападаўскага паўстання 1831 г. пачалася ліквідацыя каталіцкіх кляштараў. Праект касацыі кляштараў на Літве і Русі падрыхтаваў уніяцкі біскуп Іосіф Сямашка. У выніку было зачынена больш за 200 рыма-каталіцкіх і уніяцкіх кляштараў.[542] Сярод іх і Рэчыцкі дамініканскі кляштар, які спыніў сваё існаванне ў 1832 г. З гэтага часу парафіяй кіруюць дыяцэзіяльныя святары.

Заможныя рэчыцкія парафіяне намагаліся ўсяляк падтрымліваць касцёл і ахвяравалі яму значныя сумы грошай. Так, да прыкладу, 26 чэрвеня 1838 г. парафія атрымала 300 руб., якія ахвяраваў Баніфацы Якімовіч. Вядома, што з гэтай сумы на 1 студзеня 1852 г. парафіі «набегла» 54 руб. працэнтаў.

У канцы 1850-х гг. драўляны рэчыцкі касцёл быў ужо лядашчы і таму ўзнікла пытанне аб узвядзенні ў Рэчыцы новага — мураванага касцёла. Старшынёй камітэта будаўніцтва касцёла быў выбраны памешчык Рэчыцкага павета Мікалай Ігнацьевіч Ланеўскі-Воўк. Праект касцёла быў зацверджаны ў 1861 г.

59.План праекту рэчыцкага касцёла. 1861 г.

У 1862 г. стары драўляны касцёл згарэў і пачалося будаўніцтва новага мураванага касцёла. Неўзабаве, верагодна з-за паўстання 1863 г., улады адабралі недабудаваны касцёл у католікаў і перадалі будынак праваслаўным, перарабіўшы ў царкву.[543]

Вось што пра гэта пісаў у 1888 г. у рапарце міністру МУС мінскі губернатар Трубяцкой: *«Пытанне аб пабудове каталіцкага касцёла ў г. Рэчыцы ўзбуджалася яшчэ ў шасцідзесятых гадах і тады ж пабудова гэта была прызнана залішняй, так што і касцёл, які ўжо пачалі будаваць, з дазволу Міністэрства Унутраных Спраў,*

*перададзены ў праваслаўнае ведамства і ператвораны ў праваслаўную царкву».*[544]

У 1888 г. М.І.Ланеўскі-Воўк, які ў 1860-я гг. быў старшынёй камітэта будаўніцтва касцёла, паспрабаваў скончыць справу свайго жыцця. Ён папрасіў мінскага губернатара Трубяцкога дазволіць пабудаваць цалкам за свой кошт новы мураваны касцёл.

Ланеўскі-Воўк меркаваў узвесці яго на месцы існаваўшага ў той час у Рэчыцы каталіцкага маліто̆ўнага дома. Касцёл мусіў быць узведзены ў памяць цудоўнага збавення Іх Імператарскіх Мосцяў і Найаўгусцейшых дзяцей 17 кастрычніка 1888 г.[545] Аб гэтым паведамляе ўжо згаданы вышэй рапарт губернатара Трубяцкога міністру МУС. З рапарта становяцца вядомымі і матывы, з-за якіх Трубяцкой прызнае хадайніцтва не заслугоўваючым здавальнення:

*«1. У Рэчыцкай рыма-каталіцкай парафіі парафіян налічваецца няпоўных 2 тысячы, у самым жа горадзе Рэчыцы такіх пражывае да 350 чалавек.*

*2. Дадатковыя набажэнствы у названым касцёле адбываюцца на польскай мове…*

*4. Запытаны мной біскуп Мінскі і Тураўскі паведаміў, што хадайніцтва п. Ланеўскага-Ваўка, як з-за нязначнай лічбы парафіян Рэчыцкага касцёла, так і з-за інтарэсаў праваслаўя ў краі наогул, ён меркаваў бы пакінуць без наступстваў… тым больш, што і сама Магілёўская рыма-каталіцкая духоўная кансісторыя вельмі клапаціцца аб падтрымцы касцёлаў, у якіх дадатковыя набажэнствы адбываюцца на польскай мове, ва ўрон каталіцкім касцёлам, дзе ўведзены рускі трэбнік».*[546]

Міністр МУС 13 студзеня 1891 г. рашэннем №493 не дазволіў будаўніцтва касцёла ў Рэчыцы.[547]

Мікалай Ланеўскі-Воўк, які чакаў гэты адказ больш за 2 гады, папрасіў вярнуць яму план і чарцяжы, якія былі прыкладзены да прашэння.

У 1896 г. пробашчам у Рэчыцу быў прызначаны малады святар ксёндз Казімір Ліпінскі. У 1899 г. ён звярнуўся да біскупа з прапановай пабудаваць новы касцёл. Біскуп падтрымаў гэту прапанову ксяндза Ліпінскага і звярнуўся да мінскага губернатара з праектам будаўніцтва ў Рэчыцы мураванага касцёла. Новы касцёл меркавалася пабудаваць на месцы прыватнага дома, у якім адбываліся набажэнствы.

Губернатар звярнуўся ў МУС і 14 верасня 1899 г. атрымаў адказ №4225, у якім паведамлялася, што *«…трэба разгледзець праект пабудовы ў г.Рэчыцы рыма-каталіцкага касцёла толькі ў тэхнічным плане, таму што дазвол самой пабудовы … залежыць ад дыяцэзіяльнай улады».*

Неўзабаве быў створаны камітэт будаўніцтва новага касцёла ў Рэчыцы. Пачатак будаўніцтва запланавалі на сярэдзіну красавіка 1901 г., таму мозырска-рэчыцкі дэкан Уладзіслаў Ісаевіч у лісце да мітрапаліта №194 ад 22 сакавіка 1901 г. прасіў дазволу на абрад *impositus benedietusque est lapis marius Ecclesie* (абрад асвячэння і закладкі краевугольнага каменя).[548] Дазвол ад мітрапаліта быў атрыманы і 25 красавіка 1901 г. абрады асвячэння і закладкі краевугольнага каменя былі выкананы, аб чым і быў складзены акт на лацінскай мове.[549] З акту таксама вядома, што касцёл быў пабудаваны па праекту варшаўска-віленскага архітэктара Юзафа Дзеконскага, які, хутчэй за ўсё, проста крыху перарабіў ранейшы праект непабудаванага рэчыцкага касцёла.

Пасля пабудовы касцёла ў Рэчыцы праект Дзеконскага быў перададзены парафіі ў Лагішыне, дзе быў пабудаваны касцёл — блізнец рэчыцкага касцёла. Магчыма гэта было зроблена з-за браку сродкаў на новы праект для Лагішынскага касцёла.[550]

Паводле ўспамінаў Ядзвігі Адамаўны Каўнацкай, дзед якой, фельдшар Іван Вікенцьевіч Зелянкевіч, прымаў удзел у будаўніцтве, касцёл будаваўся на святых камянях, прывезеных з Ерусаліма. Камяні былі пакладзеныя ў фундамент каля алтара і кожнай калоны, а таксама каля ўвахода.[551]

У 1903 г. касцёл быў пабудаваны. Пробашч Казімір Ліпінскі звярнуўся да мозырска-рэчыцкага дэкана з просьбай атрымаць дазвол кіраўніка Мінскай дыяцэзіі пралата Данісевіча на асвячэнне пабудаванага касцёла. Гэтая ўрачыстасць мусіла адбыцца 20 красавіка.[552] Ксёндз Ліпінскі таксама прасіў атрымаць ад улад дазвол на ўдзел у ёй бабруйскага дэкана Красоўскага і законанастаўніка з Гомеля ксяндза Маеўскага.

Але гэтая ўрачыстасць была адкладзена ў сувязі з тым, што кіраўнік дыяцэзіі не атрымаў дазволу мінскага губернатара. На заяве ксяндза Ісаевіча знаходзіцца рэзалюцыя: *«не имея разрешения на счет Минской Губернии не могу разрешить. Индульт выдать 24 апреля 1903 № 1539»*.[553] Аб гэтым дэкану Ісаевічу было паведамлена лістом №1228 ад 21 сакавіка 1903 г.[554]

Праз 2 месяцы рэчыцкі пробашч ізноў паўтарае сваю просьбу дазволіць асвяціць касцёл. Ён прапаноўвае дату 1 чэрвеня таго ж года. У сваю чаргу і дэкан звярнуўся да кіраўніка дыяцэзіі пралата Данісевіча з такой жа просьбай і папрасіў дазволу на прысутнасць на асвячэнні пробашчаў бліжэйшых парафій: бабруйскага пробашча Красоўскага і глускага пробашча Іваноўскага, а таксама гомельскага ксяндза Маеўскага.[555] На гэты раз улады далі свой дазвол і ксёндз Уладзіслаў Ісаевіч, які атрымаў ад пралата Данісевіча паўнамоцтвы, асвяціў рэчыцкі касцёл Найсвяцейшай Тройцы.

8 верасня 1913 г. магілёўскі арцыбіскуп Вінцэнт Ключынскі кансекраваў касцёл і алтар у ім.[556]

На будаўніцтва касцёла было ахвяравана 24 тыс. руб. Аб гэтым вядома з Інвентарнага вопісу, які быў складзены 18 верасня 1915 г.[557]

З гэтага ж вопісу вядома, што ў сакавіку 1896 г. парафіяй было атрымана 1577 руб. Гэтыя грошы, якія паступілі ад продажу маёмасці, завешчанай касцёлу Іванам Францавічам Шумскім, былі размешчаны ў Рэчыцкай Дзяржаўнай Ашчаднай касе для *«совершания за % с них его поминовения»*.[558] Летам таго ж 1896 г. 1 тыс. руб. ахвяраваў на будаўніцтва касцёла ксёндз Ігнатовіч.[559] У 1910 г. Іван Мікалаевіч Канаржэўскі завяшчаў парафіі 316 руб. 52 кап. для *«поминавения его и матери Агнещки»*.[560]

Інвентарны вопіс 1915 г. дае нам уяўленне і аб матэрыяльным становішчы парафіі. Касцёл — мураваны будынак, пабудаваны ў неагатыцкім стылі, з элементамі эклектыкі. Да касцёла была прыбудавана цагляная сакрысція. Касцёл меў адну вежу. Дах быў зроблены з ацынкаванага жалеза. Галоўны ўваход касцёла быў выкананы ў неараманскім стылі.

Даўжыня касцёла складала 13 сажняў, шырыня — 6 сажняў. Таўшчыня сцен была 20 вяршкоў.

Галоўны алтар на 4 мураваных слупах і цагляным падмурку з верхняй дошкай з мармуру каштаваў 500 руб. Дошка была таўшчынёй 1 ½ цалі, шырынёй 14 ¼ вяршка, даўжынёй 3 аршыны 3 ½ вяршка. У алтары знаходзіўся абраз Найсвяцейшай Панны Марыі з дзіцяткам Езусам у сярэбраных і пазалочаных рызах з каронамі. Даўжыня абраза складала 1 ¾ аршына, шырыня — 1 ¼ аршына. Кошт рыз і карон — 3 тыс. руб.  Верагодна гэты абраз ушаноўваўся як цудадзейны.

Таксама ў алтары знаходзіўся абраз святой Ганны з Найсвяцейшай Паннай Марыяй, такіх жа памераў, як і першы.

У касцёле акрамя галоўнага алтара знаходзіліся яшчэ 2 меншыя бакавыя алтары з абразамі  Укрыжаванага Езуса і святога Антонія. Акрамя гэтага ў храме было яшчэ 10 іншых  святых выяў: Серца Езуса, святога Роха, Хрыстуса ў цярновым вянку, Маці Божай Ружанцовай, Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, Найсвяцейшай Панны Марыі з дзіцяткам Езусам, абразы святога Юзафа, святога Дамініка, святога Станіслава Косткі і абраз Маці Божай, памер якога складаў 18х15 вяршкоў. Верагодна гэты апошні абраз (Маці Божай Балеснай) з'яўляецца адзіным, які захаваўся да нашых дзён. Ён знаходзіцца ў аднаго з жыхароў горада.

60.Абраз Маці Божай Балеснай.

Агульны кошт касцельнай маёмасці (начынне, сельскагаспадарчая зямля, зямля пад будынкамі касцёла і плябаніі) у 1915 г. складаў 44996 руб.

У вежы касцёла знаходзіліся 3 званы. 11 лістапада 1915 г. загадам мінскага губернатара (з дазволу магілёўскага біскупа) іх вывезлі з горад Мцэнск Арлоўскай губерні.[561]

У 1932 г. касцёл быў зачынены і выкарыстоўваўся як склад, музей, піўны бар.

Парафія Найсвяцейшай Тройцы адрадзілася ў 1992 г. Ад 1998 г. пробашчам у Рэчыцы працаваў ксёндз Гжэгаж Худэк. У верасні 1999 г. пасля доўгай барацьбы за вяртанне святыні, касцёл зноў стаў належыць парафіі. Вядзецца рэстаўрацыя святыні. У канцы 2007 г. пробашч Худэк быў высланы з Беларусі за выступленне ў польскім друку па праблемах маральнага стану жыхароў РБ.

61.Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

## 3. СВЕТЛАГОРСКАЯ ПАРАФІЯ.

Першы касцёл у вёсцы Шацілкі (цяпер горад Светлагорск) быў пабудаваны ў 1638 г. Ён быў драўляны, асвечаны пад тытулам Святога Крыжа. Гэты касцёл быў спалены ў часе вайны 1812 г. Новы драўляны касцёл быў узведзены ў 1818 г., некалькі разоў яго перабудоўвалі. Шацілкаўскі касцёл быў філіяльным і ўваходзіў у склад Бабруйскай парафіі Бабруйскага дэканату.

У 1936 г. савецкія ўлады зачынілі касцёл. У 1939 г. будынак касцёла быў разбураны і перароблены на клуб.

Пасля закрыцця касцёла шацілкаўскія католікі збіраліся нелегальна. Самыя актыўныя з іх, тыя, якія мелі мужнасць супраціўляцца, былі рэпрэсіраваны савецкімі ўладамі. У наш час ахвярам савецкіх рэпрэсій пастаўлены крыж на Шацілкаўскіх могілках.

Парафія адрадзілася ў 1990 г, калі сход светлагорскіх вернікаў-католікаў пастанавіў аднавіць парафію і пабудаваць касцёл. 26 чэрвеня 1990 г. у Светлагорск першы раз прыехаў ксёндз Славамір Ляскоўскі. Ксёндз Славамір пасля свайго першага прыезду рэгулярна 1-2 разы ў месяц наведваў Светлагорск.

17 катрычніка 1990 г. мясцовыя ўлады выдзелілі месца для будаўніцтва святыні па адрасу вуліца Савецкая 76А. На Вербную

нядзелю 24 сакавіка 1991 г. першы раз набажэнства правёў ксёндз Ян Саламон, які прыбыў у Беларусь з Улоцлаўскай дыяцэзіі Польшчы.

25 кастрычніка 1991 г. біскуп Казімір Свёнтак асвяціў месца для будаўніцтва светлагорскага касцёла Узвышэння Святога Крыжа. 21 красавіка 1992 г. парафія атрымала дзяржаўную рэгістрацыю, як «Рыма-каталіцкае рэлігійнае таварыства касцёла Узвышэння Крыжа Святога». У жніўні 1992 г. пад кіраўніцтвам пробашча ксяндза Яна Саламона пачалося будаўніцтва святыні. 6 верасня 1997 г. касцёл быў асвечаны кардыналам Казімірам Свёнткам.

62.Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Разам з ксяндзом Янам Саламонам душпастырствам у парафіі пачынаюць займацца 2 сястры ордэна «Сясцёр супольнай працы ад Беззаганнага Сэрца Марыі», якіх пробашч запрасіў у Свелагорск у верасні 1996 г. Сёстры адведваюць хворых, займаюцца ў нядзельнай школцы з дзяцьмі і моладдзю, даглядаюць касцёл, дапамагаюць малазабяспечаным сем'ям і бедным людзям. Улетку дзеці і моладзь з парафіі адпачываюць у Беларусі і за мяжой.

У жніўні 2002 г. ксёндз Ян Саламон пачаў будаўніцтва касцёла ў гарадскім пасёлку Акцябрскі (раней Рудабелка).

63.Акцябрскі касцёл Св. Міхаіла Арханёла.

Летам 2003 г. рашэннем кардынала Казіміра Свёнтэка ксёндз Ян Саламон стаў рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску, а месца пробашча светлагорскай парафіі заняў ксёндз Тадэуш Саморэк, які да гэтага працаваў вікарыем у Гомелі. Ксёндз Тадэуш прыбыў у Беларусь з Люблінскай дыяцэзіі Польшчы.

З новай Светлагорскай парафіі паходзіць ксёндз Эдуард Мігай, які працуе ў Пінскай дыяцэзіі.

## IX. ГРЭКА-КАТАЛІЦТВА НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

Як вядома, хрысціянства на беларускія землі прыйшло з Візантыі ў той час, калі існавала адзіная, непадзеленая Царква. Але нават пасля падзелу ў 1054 г. на заходнюю і ўсходнюю, Праваслаўная Царква на Беларусі яшчэ доўга падтрымлівала сувязь і з Канстанцінопалем і з Рымам.

У 1596 г. у Брэсце была падпісана царкоўная унія з Рымам. Менавіта з гэтага часу і бярэ пачатак Уніяцкая царква.

Паводле ўмоваў Уніі на Уніяцкую Царкву і яе іерархаў распаўсюджваліся ўсе правы, якія мелі ў Рэчы Паспалітай рыма-каталікі. Цалкам захоўваўся ўсходні царкоўны абрад з усімі яго багаслоўскімі і літургічнымі асаблівасцямі. Таксама захоўвалася царкоўная іерархія, незалежная ад лацінскай іерархіі.

15 чэрвеня 1621 г. полацкі архіепіскап Іасафат Кунцэвіч перадаў грэка-католікам (уніятам) Гомельскую замкавую праваслаўную царкву Св. Мікалая.[562] Дапамог яму ў гэтым гомельскі староста Павел Стэфан Сапега. Але спробы далучыць жыхароў Гомеля да уніі ў першай палове XVII ст. аказаліся безвыніковымі, і царква Св. Мікалая праз нейкі час ізноў стала належыць праваслаўным. У 1701 г. Мікольская царква згарэла. Каб яе адбудаваць, гомельскія праваслаўныя вернікі вымушаны былі збіраць грошы на будаўніцтва ў Расіі, бо ў Гомелі было мала ахвотных адбудоўваць праваслаўную царкву.

У першыя дзесяцігоддзі XVIII ст. гомельскія ўлады пры падтрымцы каталіцкага духавенства зноў пачалі захады па далучэнні гомельцаў да грэка-каталіцтва. Так, у 1717 г., у час кіравання Гомелем старостам Тамашам Красінскім, Мікольская царква, якая знаходзілася на тэрыторыі замка, і царкоўная маёмасць былі забраныя ў праваслаўных, а протаіерэй Панкевіч быў выгнаны з Гомеля. Як лічыцца, гэта было зроблена Красінскім пад уплывам сваёй другой жонкі Алены Грахольскай, пабраўшыся шлюбам з якой, Тамаш Красінскі перайшоў у каталіцтва.[563]

Магчыма, што гэтыя падзеі адбываліся ўжо пры кіраванні іншага гомельскага старосты — сына Тамаша Красінскага Мікалая Красінскага (Тамаш Красінскі памёр прыкладна ў 1717 г.). Царква і маёмасць, захопленыя Аленай Грахольскай і яе служкамі, былі перададзены езуіту Язафату Сакалоўскаму. Сакалоўскі ў гэты час (1715—1717 гг.) працаваў у вандроўнай місіі на памежных з Расіяй землях.[564] 7 лютага 1717 г. Я.Сакалоўскі адслужыў у царкве Імшу і запячатаў будынак.

Гомельскія праваслаўныя жыхары паскардзіліся на дзеянні А.Грахольскай расійскаму імператару Пятру І. У выніку гэтай скаргі ў 1720 г. каралю Аўгусту ІІ Моцнаму быў прад'яўлены мемарандум *«аб спыненні гвалту»*. Пачалося следства аб Мікольскай царкве, якое вёў ксёндз Анкуда Антыпатрэнскі. Суддзёй быў віленскі біскуп. Следства вялося вельмі доўга. У рэшце рэшт Мікольская царква засталася ў валоданні уніятаў.[565]

Тады праваслаўныя вырашылі пабудаваць новую царкву і атрымалі на гэта прывілей князёў Нойбургскіх.[566] Пробашч

Гомельскага касцёла, які быў духоўнікам Красінскіх і меў на іх уплыў, зрабіў немагчымым выкананне гэтага намеру. Пазней пры Мікольскай царкве пасяліліся манахі уніяцкага базыльянскага ордэну.

Гомель у гэты час быў цэнтрам Гомельскага грэка-каталіцкага дэканата. Кляштар базыльян у Гомелі праіснаваў да 1804 г., пасля якога неўзабаве быў зачынены.[567]

Уначы 2 верасня 1737 г. у доме мяшчанкі Сямёнавай, якая жыла на Троіцкай вуліцы, пачаўся пажар. У выніку згарэла большая частка горада, у тым ліку касцёл і ўсе 3 праваслаўныя цэрквы: Спаская, Троіцкая і Прачысценская. Ацалеў толькі замкавы Мікольскі сабор, пры якім быў базыльянскі кляштар. Езуіт Адам Рушчыцкі, які ў гэты перыяд (1736—1741 гг.) працаваў місіянерам у Хальчанскай місіі, прыклаў намаганні, каб не дапусціць пабудовы новых праваслаўных цэркваў. Яго ў гэтым падтрымаў староста Міхаіл Чартарыйскі. Землі, якія да гэтага належалі Троіцкай царкве, таксама былі канфіскаваны Рушчыцкім.[568] Цалкам верагодна, што менавіта Адам Рушчыцкі паспрыяў перадачы грэка-католікам цэркваў у Барталамееўцы, Навасёлках, Радузе і Шарсціне ў 1737 г., на свята Пятра і Паўла. У 1738 г. была перададзена грэка-католікам і Хальчанская царква.

У Гомельскім старостве з 1738 па 1749 г. была толькі 1 праваслаўная царква. Яна знаходзілася ў сяле Кузьмінічы, якое ляжыць на ўсход ад Церахоўкі. Астатнія цэрквы былі на той час ужо уніяцкімі ці стараабрадскімі.[569] У 1749 г. Кузьмініцкая царква таксама была перададзена уніятам, і ўсходняя Гомельшчына на некалькі гадоў стала пераважна уніяцкай, застаўшыся без праваслаўных цэркваў.

У Гомелі ўладам не ўдалося стварыць значную уніяцкую парафію. У 1756 г. гомельскія праваслаўныя атрымалі дазвол на пабудову 3-х цэркваў: Прачысценскай, Праабражэнскай і Троіцкай. Мясцовыя ўлады пайшлі на гэта пад ціскам з боку суседняй Расіі.

Пасля далучэння ў 1772 г. усходняй Гомельшчыны да Расійскай імперыі Гомельскім і Рагачоўскім дэканатамі Грэка-каталіцкай царквы кіраваў Полацкі арцыбіскуп Ясон Смагаржэўскі (з 1773 г.), які прысягнуў на вернасць Расіі. Інстыгатарам Гомельскага дэканату ў гэты час быў Чабатовіцкі парах ксёндз Ёна Маркоўскі.

Урад Кацярыны II царскім указам ад 14 снежня 1772 г. зацвердзіў Я.Смагаржэўскага арцыбіскупам беларускіх уніятаў.

Ясон Смагаржэўскі нарадзіўся каля 1714 г., памёр 1 лютага 1788 г., паходзіў з Ваўкавыскага павета.

Каля 1731 г. Смагаржэўскі ўступіў ва уніяцкі ордэн базыльян, хаця сам быў рыма-католікам. З 1734 па 1740 г. вывучаў тэалогію і

філасофію ў Грэчаскім калегіуме ў Рыме. У 1740 г. прыняў сакрамент святарства. З 1747 г. быў генеральным афіцыялам і вікарыем Кіеўскай мітраполіі. Каля 1752—1758 гг. знаходзіўся ў Рыме. У 1762—1780 гг. быў арцыбіскупам полацкім. Абараняў пазіцыі Уніяцкай Царквы ад спроб пераводу вернікаў як у праваслаўе, так і ў рыма-каталіцтва. Спрабаваў абмежаваць дзейнасць праваслаўнага епіскапа Віктара Садоўскага. Імкнуўся забараніць святарам з Расіі працаваць у парафіях, намагаўся вярнуць парафіі, якія прынялі праваслаўе.

У 1774 г. дамогся ад рымскай курыі пацвярджэння пастановы 1624 г. аб забароне уніятам пераходзіць у лацінскі абрад. У 1780—1788 гг. мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. Імкнуўся захаваць за сабой і пасаду полацкага арцыбіскупа, але 2 ліпеня 1780 г. імператрыцай Кацярынай II быў пазбаўлены арцыбіскупства і расійскага падданства. Выехаў у Рэч Паспалітую, жыў у рэзідэнцыі ў Радамыслі.[570]

У 5-м пункце трактата, што зацвярджаў першы падзел тэрыторыі Рэчы Паспалітай, заключанага 7(18) верасня 1773 г. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, гаварылася аб захаванні на тэрыторыі ўсходняй Беларусі Каталіцкага Касцёла абодвух абрадаў, гэта значыць, лацінскага і уніяцкага, усёй уласнасці, маёмасці, правоў і прывілеяў, якія належалі ёй у часы Рэчы Паспалітай. Але разам з тым дзейнасць Каталіцкага Касцёла і Уніяцкай Царквы абмяжоўвалася.

Нягледзячы на артыкул трактата 1773 г., расійскі ўрад адразу ж пачаў перадаваць будынкі уніяцкіх цэркваў Праваслаўнай Царкве. Ужо да канца 1774 г. у 5-ці беларускіх правінцыях Пскоўскай і Магілёўскай губерняў — Аршанскай, Віцебскай, Мсціслаўскай, Полацкай і Рагачоўскай — 429 цэркваў былі перададзены ад Уніяцкай Царквы да Праваслаўнай, а з уніі ў праваслаўе пераведзена 688 чалавек. Да таго ж у рыма-каталіцтва перайшло яшчэ 486 дарослых.

Загадам Кацярыны II на імя графа З.Р.Чарнышова ад 2 ліпеня 1780 г. уніяцкаму мітрапаліту ў Рэчы Паспалітай Я.Смагаржэўскаму (куды ён пераехаў з Полацкай архіепархіі) забаранялася кіраваць справамі Уніяцкай Царквы на тэрыторыі Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў імперыі.[571]

У 1839 г. уніяцтва на Гомельшчыне было цалкам ліквідавана. Адрадзілася яно толькі праз 150 гадоў — у 1989 г., калі гомельскія грэка-католікі пачалі збірацца на супольную малітву.

У 1991 г. (паводле іншых крыніц — у кастрычніку 1990 г.) была зарэгістравана парафія ў гонар Трох святцiцеляў (Рыгора Багаслова, Яна Залатавуснага і Базыля Вялікага). На жаль, парафія не мае

ўласнага храма і вернікі збіраюцца на набажэнствы ў Гомельскім касцёле[572]. Набажэнствы адпраўляюць святары з іншых парафій (у прыватнасці набажэнствы адпраўляў ксёндз Пахом з Полацку, ксёндз Казімір Ляховіч з Мінску і ксёндз Андрэй Крот).

Трэба адзначыць, што гісторыя грэка-каталіцтва на Гомельшчыне дасюль з'яўляецца малавядомай і патрабуе асобнага даследвання.

ЧАСТКА II

# I. КАТАЛІЦКІЯ СВЯТАРЫ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

## 1. СВЯТАРЫ-ЕЗУІТЫ ГОМЕЛЯ, ХАЛЬЧА, ЧАЧЭРСКА І ШАРСЦІНА[573]

### АЛЬШЭЎСКІ ТАМАШ

Нарадзіўся 20 снежня 1734 г. на Падляшшы. У ордэн уступіў 18 жніўня 1760 г. у Полацку. Памёр 19 кастрычніка 1808 г. у Віцебску. Місіянер у Сакольніках у 1767—1769 гг., Лагішыне ў 1770—1771 гг., Пагосце ў 1771—1773 гг., Хальчы ў 1784—1797 гг. і Кадзіне ў 1797—1798 гг., прэфект бурсы ў Мсціславе ў 1798—1800 гг., суперыёр у Хальчы ў 1800—1801 гг., прэфект бурсы ў Магілёве ў 1804—1805 гг., а таксама духоўнік дома ў Віцебску ў 1805—1808 гг.

### АМБРОК КАЗЬМА ДАМІАН

Нарадзіўся 19 верасня 1709 г. у Мсціслаўскім ваяводстве. У ордэн уступіў 8 жніўня 1727 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 4 студзеня 1739 г. у Пінску. Памёр 19 красавіка 1748 г. у Хальчы. Прэфект школ у Оршы ў 1743—1744 гг. Місіянер у Хальчы ў 1745—1748 гг. Паводле некралога, добры матэматык. Меў хобі: маляванне і рамонт гадзіннікаў.[574]

### АРАКЕЛОВІЧ РЫГОР

Нарадзіўся 14 жніўня 1732 г. у Львове, у ордэн уступіў 1 жніўня 1749 г. у Кракаве. Сакрамент святарства прыняў у 1758 г. у Львове. Памёр 15 чэрвеня 1798 г. у Дынабургу. Сын Тэадора і Еўфразіны. Прафесар рыторыкі ў Станіслававе ў 1768—1769 гг. і Яраславе ў 1762—1763 гг., філасофіі ў Перамышлі ў 1764—1768 гг. і Любліне ў 1769—1771 гг., маральнай тэалогіі ў Крамянцы ў 1768—1769 гг., потым місіянер у Сандамірскім ваяводстве ў 1771—1772 гг. і на Валыні ў 1772—1773 гг. Каля 1782 г. прыбыў на Беларусь і працаваў у Віцебску ў 1784—1785 гг., Мсціславе ў 1785—1786 гг., Хальчы ў 1787—1789 гг. і Дынабургу ў 1789—1798 гг., галоўным чынам як душпастыр.

Выдаў «Propositiones selectae ex universa philosophia» (Перамышль, 1768) і «De mundi systemate dissertatio cosmologica» (Перамышль, 1768), у якіх аб'ядноўваў прынцыпы схаластычнай філасофіі з дасягненнямі прыродазнаўчых навук і тым самым прымірыў веру з новымі дасягненнямі навукі. Выступаў за алегарычную інтэрпрэтацыю Святога Пісьма, сцвярджаючы, што яно, згодна з навукай Айцоў Касцёла, ёсць тэалагічным доказам у

справах веры і нораваў, а не фізічных і астранамічных навук. Не быў рашучым прыхільнікам тэорыі Каперніка, але рэкамендаваў яе як прымальную гіпотэзу пры вытлумачэнні астранамічных з'яў, таму што яна абапіраецца на законы фізікі.[575]

АСЯЕЎСКІ АЛЯКСАНДР

Нарадзіўся 29 верасня 1700 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 29 жніўня 1720 г. у Вільні. Памёр 13 студзеня 1777 г. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Бабруйску ў 1733—1734 гг., місіянер у Гарбачове ў 1734—1735 гг. і 1736—1737 гг., а таксама Хальчы ў 1735—1736 гг. і 1737—1740 гг., прэфект школ у Бабруйску ў 1736—1737 гг., дворны місіянер мсціслаўскага падкаморыя ў 1740—1744 гг., прэфект будаўніцтва і бурсы ў Бабруйску ў 1744—1747 гг. і Оршы ў 1747—1748 гг., рэгент Семінарыі Клакоцкага ў Слуцку ў 1748—1758 гг., суперыёр у Бабруйску ў 1759—1765 гг., а таксама дворны місіянер Дзерналовічаў у 1767—1771 гг. Лёс пасля скасавання ордэна невядомы.[576]

БАГДАНОВІЧ ЯН ІГНАЦЫ

Нарадзіўся 2 ліпеня 1714 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 13 жніўня 1733 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 3 лютага 1744 г. у Полацку. Памёр 4 ці 29 красавіка 1787 г. у Чачэрску. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Жодзішках у 1746—1747 гг., місіянер у Дворышчах у 1747—1748 гг., у Касцяневічах у 1748—1751 гг., у Фаўставе ў 1751—1758 гг. і 1760—1761 гг., у Чачэрску ў 1759—1760 гг., 1762—1769 гг. і 1771—1783 гг.[577]

БАГДЗЕЙ СТАНІСЛАЎ

Нарадзіўся 15 чэрвеня 1708 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 29 ліпеня 1726 г. у Вільні. Памёр 23 мая 1766 г. у Бабруйску. Народны місіянер у Высоцку ў 1737—1739 гг., Асвеі ў 1740—1741 гг. і 1744—1752 гг., Веліжу і Усвяце ў 1741—1743 гг., у Смаленскай дыяцэзіі ў 1750—1751 гг., дворскі місіянер мінскага ваяводы Яна Жабы ў 1752—1753 гг., зноў народны місіянер у Хальчы ў 1756—1761 гг., Турчыне ў 1762—1765 гг. і Халуі ў 1765—1766 гг.[578]

БАГУЦКІ КАЗІМІР

Нарадзіўся 1 сакавіка 1686 г. на Падляшшы. У ордэн уступіў 25 жніўня 1704 г. у Вільні. Памёр 15 сакавіка 1752 г. у Вільні. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Мінску ў 1717—1718 гг. і Віцебску ў 1718—1719 гг., прэфект школ у Віцебску ў 1719—1723 гг., Полацку ў 1723—1724 гг., Мінску ў 1724—1726 гг., Бабруйску ў 1731—1732 гг.

і Драгічыне ў 1735—1736 гг., суперыёр у Хальчы ў 1732—1733 гг. і ў Мышынцу ў 1739—1741 гг. Прапаведнік і місіянер.[579]

БАРОДЗІЧ МІХАІЛ

Нарадзіўся 30 верасня 1731 г. у Ашмянскім павеце. У ордэн уступіў 15 жніўня 1747 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 20 лютага 1758 г. Місіянер у Сакольніках у 1762—1763 гг., прэфект школ у Магілёве ў 1764—1766 гг., місіянер на Беларусі ў 1768—1772 гг., прэфект школ у Мінску ў 1772—1773 гг. У 1779 г. атрымаў пенсію з касы Адукацыйнай камісіі. У 1782 г. узгадваецца як пробашч Карпілаўскага касцёла Божага Цела. Памёр пасля 1803 г.[580]

БАРОЎСКІ ФРАНЦЫСК (МАЛОДШЫ)

Нарадзіўся на Беларусі 1 лістапада 1743 г. У ордэн уступіў 26 снежня 1759 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў у 1771 г. у Варшаве. Памёр 15 сакавіка 1817 г. у Полацку. Пад час навучання тэалогіі ў Варшаве быў настаўнікам геаметрыі ў публічных школах. Пасля скасавання ордэна застаўся ў варшаўскіх школах Адукацыйнай камісіі і выкладаў красамоўства і гісторыю, а таксама выконваў абавязкі прапаведніка ў калегіяце. У 1776 г. атрымаў у Віленскай акадэміі ступень доктара тэалогіі. Касцельны бенефіцыюм атрымаў у луцкага біскупа А.Нарушэвіча, які накіраваў яго на вывучэнне кананічнага права ў Рым і Парыж. Пасля вяртання перабываў у асноўным у Варшаве.

Супрацоўнік часопіса «Zabawy Przyjemne i Pożyteczne», аўтар «Mów za prawem Chrystusowym» (Вільня, 1776), а таксама казання «O wzajemnych obowiązkach panów i pospólstwa» (1787). Пробашч у Мнішаве да 1794 гг. Пасля паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі і ўваходу расійскага войска ўцёк з Мнішава, згубіў усю сваю маёмасць. На працягу шасці гадоў выконваў абавязкі прарэктара Беластоцкай школы. Канонік кіеўскі і інфлянцкі. У 1801 г. прыехаў да езуітаў на Беларусь і быў рэгентам канвікта ў Полацку ў 1801—1802 гг. і Віцебску ў 1802—1803 гг., сакратаром Полацкай акадэміі ў 1814—1817 гг., а таксама суперыёрам у Хальчы ў 1803—1806 гг. У гэты час апублікаваў «Zebranie historii świętej w księgach Starego Testamentu» (Полацк, 1799).[581]

БЕРБАШ (БІРБУШ) АНТОНІ ІГНАЦЫ

Нарадзіўся 15 снежня 1716 г. на Беларусі. Уступіў у ордэн 14 жніўня 1734 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 23 чэрвеня 1746 г. у Вільні. Памёр 14 верасня 1757 г. у Оршы. Місіянер у двары Турчын (місія Хальч) у 1748—1749 гг., прафесар этыкі і логікі ў

Слоніме ў 1754—1755 гг. і місіянер у Оршы ў 1756—1757 гг. Прапаведнік.[582]

БОНІ ПЁТР

Нарадзіўся 21 лютага 1779 г. у Францыі. У ордэн уступіў 26 ліпеня 1806 г. у Дынабургу. Сакрамент святарства прыняў у 1813 г. У ордэн уступіў пасля вывучэння тэалогіі. У 1808—1810 гг. вывучаў філасофію ў Полацку. Выхавальнік у канвікце (інтэрнаце) ў Пецярбургу ў 1810—1816 гг., потым у Полацку ў 1816—1817 гг., віцэ-рэгент канвікта ў Магілёве ў 1817—1818 і душпастыр у Хальчы ў 1818—1819 гг., прапаведнік. Па выгнанні езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г. выехаў у Францыю, дзе праз 5 гадоў пакінуў ордэн.[583]

БРЫКМАН МІКАЛАЙ

Нарадзіўся 16 красавіка 1786 г. у Рэсіцы ў Латвіі. У ордэн уступіў 21 лістапада 1802 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1813 г. у Полацку. Памёр 22 сакавіка 1841 г. у Лічкоўцах. Місіянер і прэфект школ у Адзесе ў 1814—1816 гг., прафесар школ у Раманаве ў 1816—1817 гг., душпастыр у Магілёве ў 1817—1819 гг. і Хальчы ў 1819—1820 гг. Па выгнанні езуітаў з Расійскай імперыі працаваў у душпастырстве і як народны місіянер у Тарнопалі, Падкаменні, Баршчове, Надворнай, Косаве, Пістыні, Ябланаве, Пеняках і Лічкоўцах.[584]

БУЛГАК ФРАНЦЫСК

Нарадзіўся 24 чэрвеня 1724 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 11 жніўня 1740 г. у Вільні. Памёр пасля 1773 г. Місіянер у Снядыні ў 1759—1760 гг., прэфект будаўніцтва і бурсы ў Бабруйску, а таксама місіянер, які ездзіў у Гарбацэвічы ў 1760—1761 гг., місіянер у Халуі ў 1762—1763 гг., Ліпску ў 1764—1766 гг., Хальчы ў 1768—1769 гг., Гарбацэвічах у 1770—1771 гг. і Чарнігаве ў 1772—1773 гг. Лёс пасля скасавання ордэна невядомы.[585]

ВАЙШВІЛА ЯН

Нарадзіўся 20 кастрычніка 1766 г. у Цішэйках у Літве. У ордэн уступіў 12 жніўня 1784 г. у Полацку. У 1795 г. у Полацку прыняў сакрамент святарства. Памёр 7 ліпеня 1842 г. у Тарнопалі. Прафесар школ у Мсціславе ў 1791—1792 гг. і ў Чачэрску ў 1792—1793 гг., душпастыр у Хальчы ў 1797—1803 гг. і ў Расонах у 1803—1804 гг., прапаведнік, прэфект школ і бібліятэкі ў Дынабургу ў 1804—1805 гг., суперыёр у Астрахані ў 1805—1807 гг. і ў Маздоку на Каўказе ў 1807—1827 гг. Працаваў сярод армян, на велізарнай

тэрыторыі. Пабудаваў у Маздоку касцёл і шпіталь. Дзеля гэтага сабраў 25 тыс. рублёў. Раздаваў хворым лекі. Пакінуў Маздок у 1827 г. У Галіцыі прапаведнік і душпастыр у Тарнопалі ў 1827—1831 гг., у Лічкоўцах і Сідараве ў 1831—1837 гг. і ў Тарнопалі ў 1837—1842 гг.[586]

ВОЙДАГ (ВОЙДАК) АНДРЭЙ

Нарадзіўся 1 снежня 1742 г. у Літве. Уступіў у ордэн 12 ліпеня 1767 г. у Вільні. Памёр 11 лістапада 1814 г. у Віцебску. Памочнік прэфекта друкарні ў Вільні ў 1770—1773 гг. У Беларускай правінцыі з 1802 г. Душпастыр у Полацку ў 1802—1803 гг., у Гразіне ў 1803—1804 гг., у Фашчаўцы ў 1804—1805 гг., у Хальчы ў 1805—1806 гг. і Ужвалдзе ў 1806—1807 гг., духоўнік дома ў Дынабургу ў 1807—1809 гг. і ў Віцебску ў 1809—1814 гг.[587]

ВОЙНА ІВОН

Нарадзіўся 13 лістапада 1766 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 29 ліпеня 1781 г. у Полацку. Памёр 12 мая 1797 г. у Хальчы. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Дынабургу ў 1790—1791 гг., душпастыр у Расне ў 1793—1795 гг. і ў Хальчы ў 1795—1797 гг.

ГАДЛЕЎСКІ ТАМАШ

Нарадзіўся 19 снежня 1728 г. на Мазоўшы. У ордэн уступіў 23 верасня 1749 г. у Вільні. Памёр 15 снежня 1800 г. у Мсціславе. Прафесар рыторыкі і гісторыі ў Мінску ў 1759—1761 гг., місіянер у Хальчы ў 1762—1763 гг., прафесар філасофіі ў Мінску ў 1763—1765 гг., місіянер у Фашчаўцы ў 1765—1766 гг., прафесар філасофіі ў Віцебску ў 1767—1769 гг., місіянер у Хальчы ў 1771—1773 гг. Пасля скасавання ордэна застаўся на Беларусі. Місіянер і суперыёр у Лазавіцы (да 1789 г.), а таксама духоўнік дома ў Мсціславе ў 1790—1800 гг.[588]

ГАЛАМБЕЎСКІ ЯКУБ

Нарадзіўся 15 ліпеня 1707 года на Мазоўшы. У ордэн уступіў 3 верасня 1731 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 6 студзеня 1740 г. у Вялікіх Ачах. Памёр 17 красавіка 1781 г. у Слуцку. Місіянер на Украіне ў 1742—1743 гг., прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Мсціславе ў 1743—1744 гг., Оршы ў 1744—1745 гг. і Віцебску ў 1745—1746 гг., місіянер у Фашчаўцы ў 1747—1748 гг., прэфект школ у Бабруйску ў 1748—1751 гг., місіянер у Хальчы ў 1751—1752 гг., Загацці і Плісе ў 1753—1754 гг., Расоне ў 1756—1757 гг. і ў 1759—1764 гг., а таксама Сакольніках у 1757—1758 гг., прэфект будаўніцтва бурсы і канвікта ў Полацку ў 1764—1766 гг., суперыёр

у Мсціславе ў 1766—1768 гг. і Бабруйску ў 1768—1771 гг., а таксама місіянер у Лагічыне ў 1771—1773 гг. Лёс пасля скасавання ордэна невядомы.[589]

ГЕДРОЙЦ СТАНІСЛАЎ

Нарадзіўся 7 мая 1704 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 13 жніўня 1724 г. у Вільні. Памёр 4 мая 1771 г. у Пашаўшы. Місіянер у Крывошыне ў 1737—1739 гг., у Хальчы ў 1741—1743 гг., на Украіне ў 1743—1744 гг., у Сакольніках у 1747—1750 гг. і ў Загацці ў 1750—1751 гг., дворны місіянер віцебскага кашталяна ў 1752—1754 гг., місіянер у Расне ў 1756—1758 гг.

ГІЗБЕРТ МІХАІЛ

Нарадзіўся 29 верасня 1707 г. у Літве. Уступіў у ордэн 11 жніўня 1730 г. у Вільні. Сакрамент святарства атрымаў 1 студзеня 1739 г. у Вільні. Памёр 15 чэрвеня 1762 г. у Бабруйску. Місіянер у Тураве ў 1740—1744 гг., у Снядыні ў 1744—1745 гг., у Блоні ў 1746—1747 гг. і ў Хальчы ў 1748—1755 гг., дворны місіянер рэчыцкага сакратара ў 1756—1761 гг.

ГЛЭМБОЦКІ ЕЖЫ

Нарадзіўся 22 красавіка 1705 г. на Беларусі. Уступіў у ордэн 17 ліпеня 1723 г. у Вільні. Памёр 28 чэрвеня 1754 г. у Хальчы. Прафесар рыторыкі ў Бабруйску ў 1736—1737 гг., місіянер у Хальчы ў 1740—1743 гг., а таксама дворны місіянер у Дзерналовічаў у 1744—1754 гг.[590]

ГУРСКІ ВІНЦЭНТ

Нарадзіўся на Беларусі 27 верасня 1767 г. У ордэн уступіў 13 жніўня 1785 г. у Полацку. Памёр 10 жніўня 1815 г. у Чачэрску. Прафесар школ у Оршы ў 1792—1793 гг., у Полацку ў 1793—1794 гг. і ў Дынабургу ў 1794—1795 гг. Прапаведнік і душпастыр у Дагдзе ў 1800—1801 гг., у Дынабургу ў 1801—1802 гг. і ў Магілёве ў 1802—1803 гг. Прапаведнік і прэфект школ у Мсціславе ў 1803—1805 гг. і ў Віцебску ў 1805—1806 гг. Пракуратар маёнтка ў Фашчаўцы ў 1807—1810 гг., а таксама суперыёр у Чачэрску ў 1810—1815 гг.

ДАМБРОЎСКІ ЯН

Нарадзіўся 18 кастрычніка 1687 г. на Падляшшы. У ордэн уступіў 17 жніўня 1710 г. у Вільні. Памёр 2 мая 1739 г. у Магілёве. Місіянер у Янове ў 1717—1718 гг. і ў Тураве ў 1718—1719 гг., прэфект школ у Мсціславе ў 1720—1721 гг., місіянер у Гарбацэвічах

у 1723—1728 гг. і ў 1732—1734 гг., у Гомелі ў 1728—1729 гг., у Хальчы ў 1729—1732 гг. і ў Фашчаўцы ў 1734—1739 гг. (удзельнічаў у місіі Бекельмана).[591]

ДЗЕРНАЛОВІЧ АНТОНІ ЮЗАФ

Нарадзіўся 27 кастрычніка 1682 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 24 чэрвеня 1700 г. у Вільні. Памёр 21 верасня 1735 г. у Наваградку. Прафесар рыторыкі ў Гродне ў 1713—1714 гг., у Полацку ў 1714—1715 гг. і ў Віцебску ў 1715—1716 гг., прэфект школ у Пінску ў 1721—1722 гг. і ў Нясвіжы ў 1722—1723 гг., суперыёр у Слоніме ў 1723—1726 гг., у Бабруйску ў 1727—1729 гг. і ў Хальчы ў 1729—1732 гг.

ДРАЎНОЎСКІ ШЫМОН

Нарадзіўся 24 кастрычніка 1700 г. на Мазоўшы. У ордэн уступіў 14 жніўня 1722 г. у Вільні. Памёр 9 мая 1749 г. у Бабруйску. Прафесар рыторыкі і прэфект школ у Ілукшце ў 1732—1733 гг., місіянер у Кадзіне ў 1733—1737 гг., прэфект школ і бібліятэкі ў Бабруйску ў 1738—1739 гг. і 1741—1742 гг., а таксама ў Магілёве ў 1739—1740 гг., місіянер у Хальчы ў 1740—1741 гг. і ў Дворышчах у 1744—1745 гг.[592]

ЖУЛКЕЎСКІ КАРАЛЬ МАРЦІН

Нарадзіўся 30 кастрычніка 1740 г. у Сандамірскім ваяводстве. Уступіў у ордэн 18 кастрычніка 1756 г. у Кракаве. Сакрамент святарства прыняў у 1767 г. у Кракаве. Памёр 24 жніўня ў Старой Весі. Сын Юзафа і Хелены. Вывучаў філасофію ў Калішу ў 1759—1762 гг. і тэалогію ў Кракаве ў 1764—1768 гг. Прафесар рыторыкі ў Гданьску ў 1769—1770 гг., філасофіі ў Торуні ў 1770—1772 гг. і ў Калішу ў 1772—1773 гг. Пасля скасавання ордэна ў Польскім каралеўстве быў да 1780 г. прафесарам тэалогіі ў езуітаў Прусіі. Пасля — вайсковы капелан і прапаведнік. На Беларусь прыбыў з Каліша 9 лютага 1806 г. Душпастыр у Чачэрску ў 1806—1808 гг., Лазавіцы ў 1808—1811 гг. і ў Хальчы ў 1811—1820 гг. Па выгнанні з Расійскай імперыі ў 1820 г. прыбыў у Галіцыю і лячыўся ў Падкаменні ў 1821—1822 гг. і Старой Весі ў 1822—1829 гг.

Апублікаваў «Kazania ku religii prawdziwej utwierdzeniu» (Каліш, 1779), «Kazania o męce Pańskiej» (Каліш, 1779). Пакінуў рукапіс «Ritus sacrificii missae» — драму пра святога Алаіза.[593]

ЖЫГЛІНСКІ ФЕЛІКС

Нарадзіўся 9 лютага 1774 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 13 жніўня 1792 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1799 г. у

Полацку. Памёр 18 лютага 1811 г. у Магілёве. Прафесар школ і душпастыр у Лазавіцы ў 1800—1801 гг., душпастыр у Хальчы ў 1801—1803 гг., у Чачэрску ў 1803—1804 гг., у Расне ў 1804—1805 гг., у Лазавіцы ў 1805—1807 гг., у Рызе ў 1807—1809 гг., у Аўлі ў 1809—1810 гг. і ў Магілёве ў 1810—1811 гг.[594]

ІЛЛІНІЧ ЮЗАФ

Нарадзіўся 4 кастрычніка 1718 г. у Мсціслаўскім ваяводстве. У ордэн уступіў 12 жніўня 1744 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 25 чэрвеня 1752 г. у Полацку. Памёр 12 чэрвеня 1774 г. у Полацку. Місіянер у Чачэрску ў 1753—1754 гг., прафесар рыторыкі і гісторыі ў Магілёве ў 1754—1755 гг., місіянер на Беларусі (місія Бекельмана) ў 1756—1768 гг., а таксама прэфект касцёла ў Экімані ў 1768—1769 гг.[595]

КАГНАВІЦКІ КАЗІМІР

Нарадзіўся 10 лютага 1746 г. у Ланчанаве Ковенскага павета. У ордэн уступіў 15 жніўня 1764 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 31 студзеня 1774 г. у Гродне. Памёр 22 сакавіка 1825 г. у Пшэворску. Сын Яна і Н.Станкевічоўны. Прафесар рыторыкі, паэтыкі і матэматыкі ў Мерачы ў 1779—1772 гг. Пасля скасавання ордэна — настаўнік у школах Адукацыйнай камісіі ў Гродне ў 1774—1781 гг.

Пасля 1783 г. на трыбунальскай амбоне ў Гродне, але ў 1789 г. перайшоў на двор Сапегаў і прысвяціў сябе напісанню гісторыі іх рода. З запланаваных шасці тамоў выдаў першыя 3 пад назвай «Życia Sapiehów» (Вільня, 1790—1792), астатнія засталіся ў рукапісах.

У 1805 г. прыехаў да езуітаў на Беларусь, быў намеснікам рэктара ў Дынабургу ў 1805—1809 гг. і ў Полацку ў 1809—1811 гг., суперыёрам у Хальчы ў 1811—1814 гг. Пасля выгнання ў 1820 г. езуітаў з Расійскай імперыі выехаў у Італію, адкуль у хуткім часе прыбыў у Галіцыю. У апошнія гады жыцця быў капеланам шпіталя сясцёр шарытак у Пшэворску ў 1821—1825 гг.[596]

КАМІНСКІ ПЁТР

Нарадзіўся 29 чэрвеня 1700 г. у Літве. Уступіў у ордэн 14 мая 1723 г. у Вільні. Памёр 1 чэрвеня 1762 г. у Мінску. Місіянер з фундацыі Жабы ў Хальчы ў 1733—1762 гг.

КАРЫЁТ ВАЎРЫНЕЦ

Нарадзіўся 27 верасня 1712 г. у Рэшлі. У ордэн уступіў 26 жніўня 1732 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 6 студзеня

1740 г. у Вялікіх Ачах. Памёр 22 ліпеня 1772 г. у Відзах. Місіянер у Хальчы ў 1742—1747 гг., прэфект школ у Магілёве ў 1748—1750 гг., місіянер у Шведскіх Інфлянтах у 1752—1753 гг., прэфект школ і польскі прапаведнік у Мітаве ў 1753—1754 гг., прэфект і прафесар школ, а потым суперыёр у Відзах у 1754—1772 гг.[597]

КАРЫЦКІ ЮЗАФ

Нарадзіўся 31 мая 1712 г. на Беларусі. Уступіў у ордэн 29 жніўня 1725 г. у Вільні. Памёр 24 снежня 1767 г. у Полацку. Прафесар рыторыкі ў Плоцку ў 1738—1739 гг., місіянер у Астрове і Пачапаве ў 1739—1740 гг., у Кадзіне ў 1742—1743 гг., у Расткове ў 1744—1745 гг., у Тураве ў 1751—1755 гг., у Хальчы ў 1756—1760 гг. і 1765—1766 гг., у Карневе ў 1760—1761 гг. і ў Лагічыне ў 1762—1765 гг.[598]

КАША ЛЕАН

Нарадзіўся 10 красавіка 1765 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 12 жніўня 1786 г. у Полацку. Сакрамент святарства атрымаў у 1798 г. у Полацку. Выйшаў з ордэна ў 1817 г. у Мсціславе. Прапаведнік у Магілёве, Мсціславе, Віцебску і Хальчы ў 1808—1810 гг., суперыёр у Лазавіцы ў 1811—1812 гг., душпастыр у Кадзіне і Кулікове ў 1812—1816 гг., а таксама ў Аўлі ў 1816—1817 гг.

КЛЮЧЫНСКІ ЮЗАФ СТАНІСЛАЎ

Нарадзіўся 19 сакавіка 1744 г. у Літве. У ордэн уступіў 8 жніўня 1763 г. у Нясвіжы. Сакрамент святарства прыняў у 1776 г. у Полацку. Памёр 1 лістапада 1810 г. у Полацку. Прафесар матэматыкі і прэфект школ у Мсціславе ў 1784—1785 гг., прафесар матэматыкі і прэфект будаўніцтва ў Оршы ў 1785—1786 гг., місіянер у Хальчы ў 1787—1788 гг., у Чачэрску ў 1788—1791 гг., у Лазавіцы ў 1791—1795 гг. і ў Расонах у 1795—1809 гг. Лекар падданага кляштарнага насельніцтва. Вырабляў таксама ўкрыжаванні.[599]

ЛАМІНСКІ МІХАІЛ

Нарадзіўся 5 жніўня 1715 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 5 жніўня 1731 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 21 снежня 1743 г. у Вільні. Пакінуў ордэн у 1774 г. у Оршы. Прэфект бурсы ў Пінску, а таксама місіянер у Янове ў 1752—1754 гг., прэфект школ у Оршы ў 1759—1760 гг., місіянер у Фашчаўцы ў 1760—1761 гг., міністр і прэфект будаўніцтва ў Слуцку ў 1762—1764 гг., місіянер у Расонах у 1764—1766 гг., у Хальчы ў 1767—1768 гг., у Кадзіне ў 1768—1769 гг. і ў Расонах у 1770—1771 гг. Пасля скасавання ордэна

застаўся на далучаных да Расіі беларускіх землях. Перайшоў у дыяцэзіяльнае духавенства.[600]

ЛАШКЕВІЧ ВІНЦЭНТ

Нарадзіўся 26 жніўня 1771 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 14 жніўня 1796 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1806 г. у Полацку. Памёр 1 красавіка 1850 г. у Старой Весі. Душпастыр у Чачэрску ў 1808—1810 гг. і місіянер у Іркуцку ў 1812—1820 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г. выехаў на Захад. У Галіцыю прыбыў у 1821 г. Адміністратар парафіі ў Паляне ў 1821—1834 гг., міністр у Новым Сончы ў 1834—1835 гг. і ў Старой Весі ў 1835—1838 гг., душпастыр у Тухаве ў 1838—1843 гг. і ў Мілятыне ў 1843—1846 гг., а таксама міністр у Старой Весі ў 1846—1848 гг.[601]

ЛЕАНОВІЧ (ЛЕВАНОВІЧ) МІКАЛАЙ

Нарадзіўся 7 снежня 1718 г. у Расіі. У ордэн уступіў 21 жніўня 1739 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 18 мая 1749 г. у Вільні. Памёр 27 жніўня 1807 г. у Полацку. Прафесар рыторыкі і гісторыі ў Мінску ў 1751—1752 гг., місіянер і суперыёр у Хальчы ў 1756—1799 гг., прэфект Кангрэгацыі Добрай Смерці ў Полацку ў 1799—1807 гг.[602]

ЛЕВАНОВІЧ (ЛЕАНОВІЧ) АНДРЭЙ

Нарадзіўся на Беларусі 29 лістапада 1774 г. У ордэн уступіў 14 жніўня 1792 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1804 г. у Полацку. Пакінуў ордэн у 1820 г. у Хальчы. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Оршы ў 1800—1801 гг., а таксама філасофіі і матэматыкі ў Віцебску ў 1807—1808 гг., місіянер у 1813—1815 гг., а потым суперыёр у 1815—1820 гг. у Чачэрску. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі застаўся на сваёй пасадзе, тым самым апынуўся па-за ордэнам.

ЛІНЕВІЧ (ЛЕНЕВІЧ) ЮЗАФ

Нарадзіўся 30 сакавіка 1770 г. у Полацку. У ордэн уступіў як святар 30 красавіка 1803 г. у Полацку. Памёр 9 верасня 1837 г. у Галора ў Італіі. Душпастыр у Пушы ў 1804—1808 гг., у Лазавіцы ў 1808—1810 гг. і 1819—1820 гг., у Фашчаўцы ў 1810—1811 гг., у Чачэрску ў 1811—1812 гг., у Расонах у 1813—1818 гг. і ў Пагосце ў 1818—1819 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі выехаў у Італію і заставаўся ў Рымскай правінцыі ордэна да канца жыцця.[603]

ЛІСЕЦКІ (ЛЕСЕЦКІ) АДАМ

Нарадзіўся 23 снежня 1779 г. у Оршы. У ордэн уступіў 12 жніўня 1800 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1808 г. у Полацку. Памёр 4 жніўня 1847 г. у Ніцы ў Італіі. У Полацку вывучаў філасофію ў 1803—1805 гг., а таксама тэалогію ў 1806—1807 гг. Душпастыр у Хальчы ў 1810—1811 гг., у Лазавіцы ў 1811—1815 гг. і ў Чачэрску ў 1815—1817 гг., прапаведнік і рэкалекцыяніст. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі выехаў у Італію і працаваў у Турынскай правінцыі ордэна.[604]

ЛЫКА АНТОНІ

Нарадзіўся 16 студзеня 1786 г. у Корані каля Оршы. У ордэн уступіў 12 жніўня 1800 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1813 г. у Полацку. Памёр 1 жніўня 1836 г. у Лічкоўцах. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Оршы ў 1809—1810 гг., душпастыр у Хальчы ў 1817—1818 гг., у Расоне ў 1818—1819 гг. і ў Шацілаве ў 1819—1820 гг. Пасля выгнання з Расійскай імперыі ў 1820 г. душпастыр у Мельцу ў 1820—1821 гг., у Тлустым у 1821—1824 гг., у Маркавай у 1824—1825 гг., а таксама ў Лічкоўцах і Сідараве ў 1825—1836 гг.[605]

ЛЯМПРЭХТ ЯН

Нарадзіўся 30 чэрвеня 1736 г. у Прусіі. У ордэн уступіў 28 кастрычніка 1760 г. у Нясвіжы. Памёр 25 чэрвеня 1806 г. у Дынабургу. Місіянер у Пагосце ў 1768—1769 гг., прафесар рыторыкі і гісторыі ў Ломжы ў 1770—1771 гг., прэфект бурсы ў Оршы ў 1784—1786 гг., суперыёр у Чачэрску ў 1787—1792 гг., прэфект бурсы і касцёла ў Віцебску ў 1792—1796 гг., прафесар маральнай тэалогіі ў Дынабургу ў 1796—1797 гг., інструктар трэцяй прабацыі ў Дынабургу ў 1797—1798 гг. і 1799—1801 гг.[606]

ЛЯСКОЎСКІ ФЕЛІКС

Нарадзіўся 9 чэрвеня 1749 г. у Літве. У ордэн уступіў 12 жніўня 1766 г. у Нясвіжы. Памёр 2 сакавіка 1800 г. у Чачэрску. Прафесар рыторыкі ў Мсціславе ў 1784—1785 гг., суперыёр у Расне ў 1790—1797 гг., душпастыр у Расне ў 1797—1799 гг. і ў Чачэрску ў 1799—1800 гг.

МАНЬЯНІ АЎГУСЦІН

Нарадзіўся 28 жніўня 1746 г. у Балоны. У ордэн уступіў 12 кастрычніка 1762 г. у правінцыі Венецыя. Памёр 21 красавіка 1791 г. у Чачэрску. На Беларусі з 1782 г. Памочнік майстра навіцыята ў Полацку ў 1784—1786 гг., прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Магілёве ў 1787—1789 гг., прафесар школ у Чачэрску ў 1789—1791 гг.[607]

МАНЬЯНІ ЯН НАТАЛІС

Нарадзіўся 25 снежня 1747 г. у Балонні. Малодшы брат Аўгусціна Маньяні. У ордэн уступіў 29 кастрычніка 1763 г. у правінцыі Венецыя. Памёр даглядаючы заразных хворых 22 кастрычніка 1794 г. у Полацку. Прафесар этыкі і права ў Полацку ў 1784—1785 гг., гісторык правінцыі ў Полацку ў 1785—1786 гг., выхавальнік сына губернатара Паска ў Магілёве ў 1787—1788 гг., прафесар французкай мовы ў Магілёве ў 1788—1789 гг., прафесар філасофіі і матэматыкі ў Полацку ў 1789—1793 гг., сакратар правіцыяла ў Оршы ў 1793—1794 гг. Перакладчык. Таксама працаваў прафесарам этыкі ў Чачэрску.[608]

МАРЦІНКЕВІЧ ЯН

Нарадзіўся 26 сакавіка 1772 г. у Інфлянтах. У ордэн уступіў 14 жніўня 1786 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў 18 лістапада 1800 г. у Полацку. Памёр 21 ліпеня 1830 г. у Тынцу. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Мсціславе ў 1795—1796 гг., Дынабургу ў 1796—1797 гг., а таксама ў Віцебску ў 1801—1802 гг., душпастыр у Дынабургу ў 1806—1807 гг., прэфект школ у Мсціславе ў 1807—1808 гг. і ў Оршы ў 1808—1809 гг., суперыёр у Чачэрску ў 1809—1810 гг. і ў Хальчы ў 1813—1817 гг., рэктар у Віцебску ў 1817—1820 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г. віцэ-рэктар у Падкаменні ў 1821—1822 гг., душпастыр у Пеняках у 1822—1828 гг., у Тарнопалі ў 1828—1829 гг. і ў Тынцу ў 1829—1830 гг.[609]

МАШЭЎСКІ ТАДЭВУШ

Нарадзіўся 3 красавіка 1781 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 22 жніўня 1795 г. у Полацку. Памёр 27 студзеня 1843 г. у Тухаве. Душпастыр у Магілёве ў 1808—1809 гг., у Хальчы ў 1809—1810 гг. і ў Аўлі ў 1810—1811 гг. З 1811 г. місіянер у Іркуцку. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г. працаваў душпастырам у Лежайску ў 1821—1823 гг., у Радзяхове і Віткове ў 1823—1827 гг., у Надворнай і Косаве ў 1828—1829 гг., у Тарнопалі ў 1829—1830 гг., у Маркавай у 1830—1832 гг., ізноў у Надворнай і Косаве ў 1832—1833 гг., у Тарнопалі ў 1833—1839 гг. і ў Тухаве ў 1839—1843 гг. У «Miesięczniku Połockim» апісаў сваё сібірскае падарожжа.[610]

МІНКОЎСКІ МІКАЛАЙ

Нарадзіўся 2 снежня 1710 г. у Літве. У ордэн уступіў 14 верасня 1729 г. у Вільні. Памёр 13 лютага 1771 г. у Бабруйску. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Магілёве ў 1744—1745 гг. і ў Мсціславе ў 1745—1746 гг., місіянер у Хальчы ў 1747—1748 гг., у Загацці ў

1748—1750 гг. і ў Спасе ў 1750—1751 гг., прэфект школ у Бабруйску ў 1752—1753 гг. і ў Жодзішках у 1753—1754 гг., прафесар філасофіі ў Жодзішках у 1756—1757 гг. і ў Пінску ў 1757—1758 гг., прэфект бурсы і шпіталя ў Пінску ў 1759—1761 гг., місіянер у Гарбачове ў 1767—1768 гг.[611]

МУРЫНОВІЧ ПАВЕЛ

Нарадзіўся 9 кастрычніка 1697 г. у Плоцкім ваяводстве. У ордэн уступіў як святар 26 жніўня 1722 г. у Вільні. Памёр 10 студзеня 1757 г. у Бабруйску. Прафесар паэтыкі і рыторыкі ў Слоніме ў 1725—1726 гг., місіянер у Хальчы ў 1732—1735 гг., у Сакольніках у 1737—1747 гг., на Украіне ў 1752—1754 гг. і ў Гарбачове ў 1754—1757 гг.[612]

МЯРВІНСКІ ЯКУБ

Нарадзіўся 15 лютага 1711 г. на Падляшшы. У ордэн уступіў 14 жніўня 1731 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 2 лютага 1742 г. у Пінску. Памёр 7 лютага 1766 г. у Журоміне. Місіянер у Хальчы ў 1749—1755 гг., у Расткове ў 1759—1760 гг. і ў Журоміне.[613]

ПАЎЛОЎСКІ ЯН

Нарадзіўся 9 ліпеня 1731 г. на Мазоўшы. Уступіў у ордэн 2 верасня 1752 г. у Вільні. Памёр 1 лістапада 1791 г. у Мсціславе. Місіянер у Хальчы ў 1767—1768 гг. і ў Лазавіцы ў 1768—1772 гг. Місіянер у Мсціславе і навакольных маёнтках у 1784—1791 гг.

ПАШЫЦ КАЭТАН

Нарадзіўся 16 лютага 1724 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 8 жніўня 1741 г. у Вільні. Памёр 14 студзеня 1793 г. у Лазавіцы. Дворны місіянер наваградскага кашталяна ў 1756—1757 гг., прэфект школ у Слуцку ў 1757—1758 гг., місіянер у Хальчы ў 1760—1761 гг., прэфект школ у Віцебску ў 1762—1763 гг., прэфект бібліятэкі Залускіх у 1764—1765 гг., прэфект школ у Мсціславе і місіянер у Гарадку ў 1767—1769 гг., місіянер у Лазавіцы ў 1770—1771 гг., суперыёр у Лазавіцы ў 1771—1773 гг., місіянер у Чачэрску ў 1784—1785 гг., у Дынабургу ў 1785—1786 гг., у Віцебску ў 1787—1788 гг., у Оршы ў 1788—1789 гг. і 1790—1791 гг. і ў Лазавіцы ў 1789—1790 гг., потым суперыёр у Лазавіцы ў 1791—1793 гг.[614]

ПЭРКОЎСКІ ЮЗАФ

Нарадзіўся 14 снежня 1754 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 3 жніўня 1771 г. у Нясвіжы. Сакрамент святарства прыняў у 1785 г. у Полацку. Памёр 2 ліпеня 1823 г. у Міклашэвічах каля Бохні.

Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Віцебску ў 1787—1789 гг., у Воршы ў 1789—1790 гг. і ў Віцебску ў 1790—1791 гг., місіянер у Кадзіне ў 1791—1792 гг. і ў Чачэрску ў 1792—1793 гг., душпастыр у Фашчаўцы ў 1794—1799 гг., суперыёр у Расне ў 1799—1806 гг. і ў Хальчы ў 1806—1808 гг., міністр і прэфект бурсы ў Мсціславе ў 1808—1809 гг., духоўнік дома ў Оршы ў 1809—1812 гг., міністр у Мсціславе ў 1813—1815 гг. і ў Віцебску ў 1815—1816 гг., духоўнік дома ў Полацку ў 1816—1820 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі быў суперыёрам у Пшэворску ў 1820—1821 гг., духоўнікам дома ў Старой Весі ў 1821—1822 гг. і душпастырам у Міклашэвічах у 1822—1823 гг.[615]

ПЯТРОЎСКІ ВАЎРЫНЕЦ

Нарадзіўся 10 жніўня 1738 г. на Падляшшы. У ордэн уступіў 14 жніўня 1762 г. у Нясвіжы. Памёр 27 лістапада 1793 г. у Пагосце. Місіянер у Высоцку ў 1770—1772 гг., у Хальчы ў 1772—1773 гг., у Лазавіцы ў 1787—1791 гг. і ў Гразіне ў 1791—1793 гг.

РАТАНШТАЙНАР ЕЖЫ

Нарадзіўся 3 мая 1766 г. У ордэн уступіў 1 ліпеня 1789 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1793 г. у Полацку. Памёр 19 студзеня 1808 г. у Пецярбургу. Прэфект школ у Чачэрску ў 1795—1800 гг., прафесар філасофіі і матэматыкі ў Віцебску ў 1800—1801 гг. і прафесар нямецкай мовы ў Пецярбургу ў 1801—1808 гг.[616]

РУШЧЫЦКІ АДАМ

Нарадзіўся 29 верасня 1698 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 18 ліпеня 1718 г. у Вільні. Памёр 5 ліпеня 1752 г. у Нямковічах. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Слоніме ў 1732—1733 гг., прэфект школ і бібліятэкі ў Слоніме ў 1733—1735 гг. і ў Бабруйску ў 1735—1736 гг., місіянер у Хальчы ў 1736—1741 гг., у Фашчаўцы ў 1741—1742 гг., у Кадзіне ў 1742—1743 гг. і ў місіі Бекельмана ў 1743—1744 гг. і 1746—1752 гг.[617]

РЭУТ СТЭФАН

Нарадзіўся 3 жніўня 1772 г. у Купінцах у Літве. У ордэн уступіў 14 жніўня 1792 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1801 г. у Полацку. Памёр 30 сакавіка 1844 г. у Пеняках. Прафесар рыторыкі ў Мсціславе ў 1798—1799 гг., рэгенс канвікта і прафесар французскай мовы ў Мсціславе ў 1801—1802 гг. і 1803—1807 гг., душпастыр у Лазавіцы ў 1807—1808 гг., рэгенс канвікта і прэфект школ у Магілёве ў 1808—1816 гг., прэфект бурсы ў Віцебску ў 1816—1818 гг. і суперыёр у Хальчы ў 1818—1820 гг. Пасля

выгнання езуітаў з Расійскай імперыі душпастыр у Сідараве ў 1821—1828 гг., у Пеняках у 1828—1834 гг. і 1836—1844 гг., у Лічкоўцах і Сідараве ў 1834—1835 гг., у Тарнопалі ў 1835—1836 гг.[618]

САКАЛОЎСКІ ЯЗАФАТ

Нарадзіўся 10 кастрычніка 1676 г. на Мазоўшы. У ордэн уступіў 14 жніўня 1692 г. у Вільні. Памёр 25 жніўня 1752 г. у Пінску. Прэфект школ і бібліятэкі ў Магілёве ў 1706—1707 гг., місіянер у Шчорсах у 1708—1709 гг., прэфект школ у Плоцку ў 1711—1712 гг. і ў Слуцку ў 1712—1714 гг., дворны місіянер ваяводы Яна Радзівіла ў 1714—1715 гг. і 1717—1719 гг., місіянер на памежжы з Расіяй у 1715—1717 гг. (на Гомельшчыне), рэктар у Гродне ў 1722—1725 гг., міністр у Слуцку ў 1725—1726 гг., а таксама дворны місіянер наваградскага кашталяна Яна Незабітоўскага ў 1729—1739 гг. Прапаведнік.[619]

САКЕЛЬ ФРАНЦЫСК КСАВЕРЫЙ

Нарадзіўся 3 кастрычніка 1756 г. на Жмудзі. Уступіў у ордэн 14 жніўня 1780 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1789 г. у Полацку. Выйшаў з ордэна 1 верасня 1802 г. у Дынабургу. Рэгенс канвікта ў Мсціславе ў 1790—1791 гг., душпастыр у Чачэрску ў 1791—1792 гг., у Дагдзе ў 1792—1800 гг. і ў Аўлі ў 1800—1802 гг. Пасля выхаду з ордэна служыў дыяцэзіяльным ксяндзом.[620]

СЛІВОЎСКІ БЯРНАРД

Нарадзіўся 10 жніўня 1710 г. на Падляшшы. У ордэн уступіў 14 жніўня 1731 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 4 студзеня 1739 г. у Пінску. Памёр 5 лістапада 1760 г. у Мсціславе. Місіянер у Хальчы ў 1741—1742 гг., прэфект школ у Бабруйску ў 1742—1743 гг. і ў Мсціславе ў 1743—1747 гг., суперыёр у Лазавіцы ў 1753—1755 гг., місіянер у Кадзіне ў 1756—1758 гг. і суперыёр у Мсціславе ў 1760 г.[621]

СТРУСІНСКІ МАРЦІН

Нарадзіўся 20 лістапада 1735 г. у Гродзенскім ваяводстве. Уступіў у ордэн 2 жніўня 1753 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў у 1764 г. у Янаве. Памёр 23 сакавіка 1809 г. у Полацку. Прэфект школ і бібліятэкі ў Бабруйску ў 1768—1771 гг., місіянер у Хальчы ў 1771—1772 гг. і ў Расне ў 1772—1773 гг., рэктар у Мсціславе ў 1783—1803 гг. і адманітор генерала ордэна ў Полацку ў 1805—1809 гг.[622]

СТАШКЕВІЧ ЮЗАФ

Нарадзіўся 17 сакавіка 1712 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 26 верасня 1730 г. у Вільні. Памёр 26 жніўня 1753 г. у Полацку. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Наваградку ў 1743—1744 гг., місіянер у Хальчы ў 1744—1745 гг., прафесар філасофіі ў Оршы ў 1745—1747 гг., місіянер у Фашчаўцы ў 1747—1748 гг., на Украіне ў 1749—1750 гг. і 1751—1752 гг., у Хальчы ў 1750—1751 гг., у Загацці і Плісе ў 1752—1753 гг. Прапаведнік.[623]

СТЭФАНСКІ ЮЗАФ ЁАХІМ

Нарадзіўся 6 снежня 1712 года на Мазоўшы. У ордэн уступіў 6 кастрычніка 1730 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 2 лютага 1742 г. у Пінску. Памёр 29 мая 1771 г. у Жодзішках. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Пашаўшу ў 1744—1745 гг. і ў Дынабургу ў 1745—1746 гг., філасофіі ў Коўне ў 1747—1749 гг., прэфект школ у Мінску ў 1749—1751 гг., місіянер у Хальчы ў 1751—1755 гг., прапаведнік і прэфект бібліятэкі ў Бабруйску ў 1756—1757 гг. і ў Слуцку ў 1757—1758 гг.[624]

СЯНКЕВІЧ ФРАНЦЫСК

Нарадзіўся 17 сакавіка 1787 г. у Полацку. У ордэн уступіў 4 жніўня 1806 г. у Дынабургу. Сакрамент святарства прыняў у 1817 г. у Полацку. Памёр 30 сакавіка 1839 г. у Тарнопалі. У Полацку вывучаў у 1809—1811 гг. філасофію, у 1815—1819 гг. — тэалогію. Прафесар нямецкай мовы ў Краславе ў 1811—1813 гг. і ў Пецярбургу ў 1814—1815 гг., душпастыр у Чачэрску ў 1819—1820 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі ў 1820 г. душпастыр у Тлустым у 1821—1824 гг., у Лічкоўцах у 1824—1826 гг., у Ябланаве ў 1826—1828 гг., у Гуры Гумора, Карлсбергу і Фюрстэнгалі ў 1828—1831 гг., у Якабенах і Луісентгалі ў 1831—1832 гг., у Тарнопалі ў 1832—1834 гг. і 1838—1839 гг., у Пеняках у 1834—1835 гг., у Косаве і Надворнай у 1835—1837 гг., у Сідараве ў 1837—1838 гг.[625]

ТАРЛЕЦКІ КАЗІМІР

Нарадзіўся 4 сакавіка 1707 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 14 жніўня 1725 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 13 сакавіка 1738 г. у Вільні. Памёр у 1774 г. Місіянер на Украіне ў 1740—1741 гг. і ў Хальчы ў 1741—1751 гг., міністр, прэфект будаўніцтва і бурсы ў Бабруйску і місіянер у Гарбацэвічах у 1751—1752 гг., міністр, прэфект касцёла і будаўніцтва ў Пінску ў 1756—1758 гг., рэктар у Рэшлю ў 1759—1764 гг.[626]

ТАРЛЕЦКІ СІМЯОН

Нарадзіўся 24 лютага 1726 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 9 жніўня 1743 г. у Вільні. Пакінуў ордэн у 1776 г. у Мсціславе. Памёр у 1778 г. у Гродне. Місіянер у Блоні ў 1757—1758 гг., у Радашкаве ў 1759—1760 гг., на Беларусі ў 1760—1761 гг., у Загацці ў 1763—1764 гг, Лазавіцы ў 1764—1768 гг. і Чачэрску ў 1768—1773 гг. Пасля скасавання ордэну працаваў у Гродне.[627]

ТРАЦЯК ФЕЛІКС

Нарадзіўся 1 чэрвеня 1724 г. на Мазоўшы. У ордэн уступіў 28 верасня 1751 г. у Вільні. Памёр у 1793 г. Місіянер у Чарнігаве ў 1754—1757 гг., у Крывошыне ў 1759—1769 гг. і ў Хальчы ў 1771—1773 гг. Пасля скасавання ордэна прэпазіт (суперыёр) у Карпаве.[628]

ФІЛІПОВІЧ ПЁТР

Нарадзіўся 25 чэрвеня 1751 г. у Оршы. У ордэн уступіў 9 жніўня 1765 г. у Нясвіжы. Сакрамент святарства прыняў у 1776 г. у Полацку. Памёр 21 лютага 1830 г. у Старой Весі. Прафесар рыторыкі ў 1784—1785 гг. і прэфект школ у 1785—1788 гг. у Дынабургу, місіянер у Аўлі ў 1788—1790 гг., у Лазавіцы ў 1790—1793 гг. і ў Чачэрску ў 1793—1799 гг., суперыёр у Чачэрску ў 1799—1806 гг., пракуратар маёнткаў у Полацку ў 1806—1815 гг., прэфект касцёла і бурсы ў Мсціславе ў 1815—1820 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі быў капеланам сясцёр міласэрнасці і душпастырам у Пшэворску ў 1820—1828 гг. і ў Ланьцуце ў 1828—1829 гг.[629]

ХАДЗЬКЕВІЧ ЯН

Нарадзіўся 24 ліпеня 1696 г. у Мсціслаўскім ваяводстве. У ордэн уступіў як святар 26 сакавіка 1727 г. у Вільні. Памёр 15 лютага 1774 г. у Магілёве. Місіянер у Лежаніцах у 1739—1744 гг., у Чарнігаве ў 1730—1739 гг. і 1744—1746 гг., у Дабосні ў 1746—1753 гг., у Турчу ў 1753—1754 гг., у Чачэрску ў 1754—1758 гг. і 1760—1761 гг., у Турчыне ў 1759—1760 гг., у Расне ў 1762—1764 гг. і ў Фашчаўцы ў 1764—1765 гг., міністр і прэфект будаўніцтва ў Магілёве ў 1765—1768 гг.[630]

ХАМІНСКІ ЯН

Нарадзіўся на Беларусі 16 лютага 1750 г. У ордэн уступіў 16 жніўня 1766 г. у Нясвіжы. Сакрамент святарства прыняў у 1776 г. Памёр 4 жніўня 1816 г. у Хальчы. Прэфект школ у Оршы ў 1787—1788 гг. і ў Дынабургу ў 1789—1793 гг., суперыёр у Лазавіцы ў

1795—1799 гг., місіянер у Кадзіне ў 1800—1802 гг. і ў Хальчы ў 1810—1816 гг. Прапаведнік.[631]

ХАЎГРУНТ АНДРЭЙ

Нарадзіўся 19 лютага 1718 г. у Караляўцы (Кёнігсберг). У ордэн уступіў 15 жніўня 1733 г. у Вільні. Сакрамент святарства прыняў 23 чэрвеня 1746 г. у Вільні. Памёр 17 красавіка 1781 г. у Вільні. Прафесар рыторыкі ў Магілёве ў 1748—1749 гг., місіянер у Хальчы ў 1749—1751 гг., прэфект школ у Бабруйску ў 1751—1752 гг., місіянер у Асвеі ў 1752—1755 гг., прафесар філасофіі ў Варшаве ў 1756—1758 гг. і ў Наваградку ў 1758—1761 гг., місіянер у Глушыне ў 1763—1764 гг., суперыёр у Блоні ў 1769—1771 гг. Лёс пасля скасавання ордэна невядомы.[632]

ХЛЯВІНСКІ КАНСТАНЦІН

Нарадзіўся 3 сакавіка 1733 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 12 жніўня 1750 г. у Вільні. Памёр 23 сакавіка 1778 г. у Алькеніках. Місіянер на Беларусі ў 1762—1763 гг., у Хальчы і Шарсціне ў 1763—1764 гг., у Кулікове ў 1764—1765 гг. і ў Расне ў 1767—1769 гг.[633]

ЦІШЭЙКА ЯН

Нарадзіўся 7 кастрычніка 1776 г. у Латвіі. У ордэн уступіў 26 жніўня 1792 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1802 г. у Полацку. Памёр 20 чэрвеня 1841 г. у Новым Сончу. Прапаведнік у Расне, Віцебску і Магілёве, рэгент канвікта ў Магілёве ў 1806—1807 гг., душпастыр у Фашчаўцы, Рызе, Полацку, Оршы, Магілёве і Мсціславе, прэфект бурсы ў Магілёве ў 1815—1817 гг., суперыёр у Хальчы ў 1817—1818 гг., у Фашчаўцы ў 1818—1819 гг. і ў Лазавіцы ў 1819—1820 гг. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі прапаведнік і народны місіянер у Львове, Ланьцуце, Тухаве, Тынцу і Новым Сончу.[634]

ШПАК КЛЕМЕНС

Нарадзіўся 26 снежня 1771 г. на Беларусі. Уступіў у ордэн 14 жніўня 1788 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1800 г. у Полацку. Памёр 17 студзеня 1812 г. у Маскве. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Полацку ў 1795—1797 гг., душпастыр у Фашчаўцы ў 1801—1802 гг. і ў Пагосце ў 1802—1803 гг., пракуратар маёнткаў у Полацку ў 1803—1806 гг., суперыёр у Чачэрску ў 1806—1809 гг., міністр і прэфект бурсы ў Мсціславе ў 1809—1810 гг. і ў Магілёве ў 1810—1811 гг. У 1811 г. вырушыў як суперыёр місіі да Іркуцка, але памёр у Маскве пад час падарожжа.[635]

ШЫШКА ВІНЦЭНТ

Нарадзіўся 8 кастрычніка 1751 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 26 жніўня 1769 г. у Нясвіжы. Сакрамент святарства прыняў у 1782 г. у Полацку. Памёр 21 мая 1800 г. у Хальчы. Місіянер і прафесар школ у Чачэрску ў 1785—1788 гг., душпастыр у Расонах у 1788—1790 гг., суперыёр і прэфект школ у Чачэрску ў 1790—1799 гг. і ў Хальчы ў 1799—1800 гг.

ЯЛОЗА ЭРАЗМ

Нарадзіўся 1 жніўня 1772 г. на Беларусі. У ордэн уступіў 14 жніўня 1789 г. у Полацку. Сакрамент святарства прыняў у 1796 г. у Полацку. Памёр 22 красавіка 1819 г. у Раснай. Душпастыр у Дагдзе ў 1798—1799 гг. і 1800—1803 гг., у Фашчаўцы ў 1799—1800 гг. і 1807—1810 гг., у Лазавіцы ў 1803—1804 гг., у Чачэрску ў 1804—1806 гг. і 1810—1811 гг., у Аўлі ў 1806—1807 гг., у Раснай у 1811—1819 гг.

## 2. СВЯТАРЫ ІНШЫХ ОРДЭНАЎ І ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ СВЯТАРЫ XIX СТ.

БАГДАНОВІЧ ЛЮДВІК

Людвік Вікенцьевіч Багдановіч. З дваран Магілёўскай губерні, Копыскага павета, Смалянскай парафіі. Нарадзіўся 25 снежня 1797 г. у мястэчку Смалянах. З 1810 па 1814 г. вучыўся ў Шклоўскім дамініканскім парафіяльным вучылішчы. Вывучаў рускую, польскую і лацінскую мовы, арыфметыку, геаграфію, гісторыю, катэхізацыю, мараль. Пасля ўступлення ў духоўнае званне з 1814 па 1820 г. вывучаў лацінскую мову, Святое Пісьмо, царкоўную гісторыю, катэхізацыю і маральнае багаслоўе. У духоўнае званне ўступіў 8 верасня 1814 г. у Рускай правінцыі дамініканскага ордэна, у мястэчку Шклове. У снежні 1820 г. у Шклове прыняў сакрамент святарства ад біскупа Валяр’яна Каменкі.

У 1824 г. быў прапаведнікам Чашніцкага касцёла, з 1824 па 1825 г. — прапаведнікам Галоўчынскага касцёла Магілёўскага павета, з 1825 па 1826 г. — прапаведнікам Смалянскага касцёла, з 1826 па 1827 г. — прапаведнікам Дудакоўскага касцёла Магілёўскага павета, з 1827 па 1829 г. — вікарыем Варадзькоўскага касцёла Чэрыкаўскага павета, з 1829 г. — куратам Чачэрскага касцёла. На гэтай пасадзе працаваў мінімум да 1836 г. Атрымліваў ад Чачэрскай эканоміі

графіні Чарнышовай 64 руб. асігнацыямі, 12 чвэрцяў жыта, 8 чвэрцяў ячменю, 12 чвэрцяў аўса і 164 пуды сена.[636]

БАГУШЭЎСКІ РОХ

Рох Антонавіч Багушэўскі. З дваран Бельскага павета Гродзенскай губерні. Нарадзіўся ў 1840 г. З 1858 па 1860 г. вучыўся ў Драгічынскім дваранскім 5-класным вучылішчы. 1 верасня 1860 г. паступіў у Мінска-Магілёўскую рыма-каталіцкую духоўную семінарыю. 7 ліпеня 1864 г. атрымаў атэстат 1-й ступені № 198. 24 чэрвеня 1864 г. атрымаў сакрамент святарства ад мінскага біскупа Адама Вайткевіча.

30 верасня 1864 г. прызначаны біскупам Станеўскім на пасаду вікарыя Гомельскага касцёла. 22 снежня 1869 г. прызначаны выконваць абавязкі пробашча і гомельскага дэкана. 25 сакавіка 1870 г. прызначаны адміністратарам Івандарскага касцёла. 7 ліпеня 1893 г. прызначаны арцыбіскупам Казлоўскім на пасаду пробашча Чэрыкаўскага касцёла і чэрыкава-чавускім дэканам. Атрымліваў утрымання 400 руб. у год.[637]

ВАЙШВІЛА БАЛЯСЛАЎ

Баляслаў Іосіф Марцінавіч Вайшвіла. З дваран. Нарадзіўся ў 1865 г. У 1878 г. паступіў у 1-ы клас Віленскай прагімназіі, скончыў курс 6-ці класаў у 2-й Віленскай гімназіі. З 1885 г. вучыўся ў Пецярбургу ў Мітрапалітальнай духоўнай семінарыі, адкуль у 1888 г. накіраваны ў Рыма-каталіцкую духоўную акадэмію і там вывучаў духоўныя навукі па 1891 г. У духоўны стан уступіў у Пецярбургу 27 кастрычніка 1885 г. 8 і 16 снежня 1890 г. высвечаны ў іпадыяканы і дыяканы, 15 чэрвеня 1891 г. — у іерэі.

1 лістапада 1891 г. прызначаны ўладамі законанастаўнікам пры гомельскіх мужчынскай і жаночай прагімназіях. Узнагарод ці павышэння па службе не меў. Атрымліваў ад Гомельскай прагімназіі ўтрыманне 425 руб. серабром. Па прычыне хваробы выконваць абавязкі надалей не мог. Памёр 28 лютага 1893 г. Пахаваны ў Гомелі на навабеліцкіх могілках.[638]

ВАСІЛЕЎСКІ МІХАІЛ

Міхаіл Феліцыянавіч Васілеўскі. З дваран Мінскай губерні Мінскага павета. Нарадзіўся ў 1821 г. Вучыўся ў Мінскай

губернскай гімназіі. 1 верасня 1846 г. паступіў у Мінска-Магілёўскую духоўную семінарыю, дзе вучыўся на працягу 4-х гадоў. 24 ліпеня 1850 г. прыняў сакрамент святарства ад біскупа Жылінскага ў Вільні. 2 жніўня 1850 г. атрымаў 2-ю ступень студэнта па разрадным спісе і атэстат № 189.

Па распараджэнні мітрапаліта Казіміра Дмахоўскага прызначаны ў Бялыніцкі парафіяльны касцёл вікарыем. 6 верасня 1854 г. камандзіраваны ў Чачэрск для часовага выканання абавязкаў адміністратара. Пазней працаваў чачэрскім вікарыем. 17 сакавіка 1858 г. мітрапалітам Вацлавам Жылінскім прызначаны куратам Гросвердэрскага парафіяльнага касцёла. У 1861 г. пасада курата перайменавана ў пробашча парафіі. 24 мая 1857 г. у памяць аб вайне 1853 і 1855 гг. узнагароджаны бронзавым наперсным крыжам на ўладзімірскай стужцы і пры ім медалём на андрэеўскай стужцы. Гадавое ўтрыманне атрымліваў з зямлі Гросвердэрскага касцёла (260 руб. серабром).[639]

ГЛІНДЗІЧ ІОСІФ

Іосіф Іосіфавіч Гліндзіч. З дваран Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні. Нарадзіўся ў 1837 г. З 1850 па 1853 г. вучыўся ў Свіслацкай гімназіі ў першых 3-х класах, з 1853 па 1857 г. — у Гродзенскай гімназіі ў вышэйшых 4-х класах. Скончыў поўны гімназічны курс навук з правам на чын. У 1857 г. уступіў у белае духавенства ў Вільні. У 1860 г. знаходзіўся ў Мінску. 18 чэрвеня 1861 г. у Мінску прыняў сакрамент святарства ад біскупа Мінскай дыяцэзіі Адама Вайткевіча.

У 1861 г. прызначаны вікарыем у Крычаўскую парафію, у 1863 г. — вікарыем у Гомельскую парафію, у 1864 г. — вікарыем у Гарбачова-Абітокскую парафію. Атрымліваў гадавога жалавання 80 руб. серабром.[640]

ГРАДЗІЦКІ СТЭФАН

Стэфан Антонавіч Градзіцкі. Нарадзіўся ў 1859 г. З дваран Камянец-Падольскай губерні. У 1876 г. скончыў 4 класы Жытомірскай мужчынскай класічнай гімназіі. 21 лістапада 1879 г. паступіў у Пецярбургу ў Мітрапалітальную духоўную семінарыю. 12 чэрвеня 1883 г. атрымаў 4 меншыя ступені святарства і іпадыякана, 16 чэрвеня высвечаны на дыякана. 29 студзеня 1884 г. прыняў сакрамент святарства ў Пецярбургу ад мітрапаліта Аляксандра-Казіміра Гінтаўта.

З 21 сакавіка 1884 г. па 14 чэрвеня 1885 г. працаваў вікарыем Гомельскага касцёла. 14 чэрвеня 1885 г. прызначаны адміністратарам Коржанскага касцёла ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні. Атрымліваў 98 руб. 66 кап. у год з Барысаўскага павятовага казначэйства.[641]

## ДАЎГЯЛА ІВАН

Іван Антонавіч Даўгяла. З патомных дваран. З 1847 па 1852 г. вучыўся ў Расіенскім павятовым дваранскім 5-класным вучылішчы Ковенскай губерні. 1 верасня 1852 г. уступіў у духоўнае званне ў Мінскай рыма-каталіцкай духоўнай семінарыі, якую скончыў 16 чэрвеня 1856 г. Прыняў сакрамент святарства 12 лютага 1857 г. ад мітрапаліта Жылінскага ў Пецярбургу і быў прызначаны вікарыем Магілёўскага архікатэдральнага касцёла.

У 1860 г. па распараджэнні мітрапаліта прызначаны вікарыем у Чачэрскі касцёл, а 30 снежня 1861 г. — у Мсціслаўскі касцёл. 18 жніўня 1864 г. біскупам Станеўскім прызначаны адміністратарам Лазавіцкага парафіяльнага касцёла. У 1872 г. указам Магілёўскай духоўнай кансісторыі прызначаны законанастаўнікам Клімавіцкага павятовага вучылішча. У дзень мясцовага свята 21 красавіка 1891 г. узнагароджаны імператарам наперсным крыжам. Атрымліваў ад Клімавіцкага павятовага казначэйства на ўтрыманне касцёла і сябе 275 руб. серабром у год.[642]

## ДУБРАЎСКІ ЮЛІЯН

Юліян Дзяменьцевіч Дубраўскі нарадзіўся 29 лістапада 1805 г. у вёсцы Галянішчава Ляцічаўскай парафіі Камянец-Падольскай губерні (цяпер с. Галянішчава Ляцічаўскага раёна Хмяльніцкай вобласці Украіны), паходзіў з дваран Камянец-Падольскай губерні, Вінніцкага павета, Браілаўскай парафіі, з палякаў.

З 1815 г. па 1821 г. вучыўся ў Вінніцкай гімназіі. Вывучаў рускую, польскую і лацінскую мовы, арыфметыку, фізіку, матэматыку, славеснасць, гісторыю, вершаскладанне і іншыя дысцыпліны. Пасля ўступлення ў духоўнае званне з 1822 па 1824 г. вывучаў Святое Пісанне, дагматычнае і маральнае багаслоўе. З 1824 г. па 1829 г. вучыўся ў Галоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце. Вывучаў Святое Пісанне, царкоўную гісторыю, кананічнае права, катэхізацыю, царкоўныя абрады, філасофію, польскую і лацінскую літаратуры. У 1828 г. атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. Скончыў семінарыю ў 1829 г. У тым жа годзе прыняў сакрамент святарства.

З 1830 г. працаваў вікарыем у Гомелі, з 1832 г. беліцкі дэкан.

ЗАЛЕНСКІ ФЕЛІКС

Фелікс Ігнацьевіч Заленскі. Нарадзіўся ў 1828 г. З дваран. З 1843 па 1848 г. вучыўся ў Лепельскім дваранскім павятовым вучылішчы, з 1848 па 1850 г. — у Мінскай гімназіі. У 1852 г. паступіў у Мінскую рыма-каталіцкую духоўную семінарыю, у якой вучыўся да 1856 г. У 1857 г. прыняў сакрамент святарства і быў прызначаны вікарыем у Люшаўскі парафіяльны касцёл.

У 1859 г. пераведзены вікарыем у Гомельскі касцёл, у 1860 г. — назад у Люшаў. У 1862 г. прызначаны вікарыем у Антушаўскі касцёл, у 1872 г. — вікарыем у Палтаўскі касцёл, у якім працаваў, як мінімум, да 1887 г.[643]

КАМІНСКІ АДАМ

Адам Ян Каэтанавіч Камінскі. Нарадзіўся 25 кастрычніка 1802 г. у Навагрудку. З дваран Навагрудскага павета Гродзенскай губерні. З 1812 г. па 1823 г. вучыўся ў Навагрудскім павятовым вучылішчы.

Вывучаў польскую і лацінскую мовы, граматыку, арыфметыку, геаграфію, славеснасць, матэматыку, гісторыю, фізіку, рыторыку, заалогію, батаніку, мінералогію, алгебру, вершаскладанне.

Пасля заканчэння навучання і ўступлення 1 верасня 1823 г. у духоўнае званне па 1827 г. вучыўся ў Галоўнай Віленскай семінарыі. Вывучаў Святое Пісьмо, царкоўную гісторыю, кананічнае права, катэхізацыю, рыторыку, царкоўныя абрады, багаслоўе, логіку, заалогію, астраномію, лацінскую, польскую, рускую літаратуры, лацінскую і рускую мовы. У 1826 г. у Віленскім універсітэце атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. 28 мая 1827 г. прыняў у Вільні ад біскупа Тадэвуша Кундзіча сакрамент святарства.

У 1827 г. прызначаны вікарыем у Гомельскі касцёл, у сакавіку 1829 г. — беліцкім віцэ-дэканам і дэпутатам. Атрымліваў ад фундушавага маёнтка Гомельскай плябаніі жалавання 300 руб. асігнацыямі ў год і харчаванне.[644]

КАШЭЎСКІ ІГНАЦЫ

Ігнацы Ян Ксавер’евіч Кашэўскі. З дваран Сенненскага павета Магілёўскай губерні. Нарадзіўся 31 ліпеня 1803 г. у мястэчку Беразіно Мінскай губерні. З 1816 г. вучыўся ў вучылішчах Віцебска. Вывучаў рускую, польскую, лацінскую і французскую мовы, арыфметыку, геаграфію, гісторыю, рыторыку і вершаскладанне. 19

верасня 1818 г. уступіў у духоўнае званне (верагодна, быў у ордэне базыльянаў) і скончыў курс вышэйшых навук у Полацку, дзе вывучаў логіку, матэматыку, фізіку, філасофію, астраномію, багаслоўе і кананічнае права. У 1830 г. вярнуўся ў рыма-каталіцкі абрад на падставе дазволу мітрапаліта Каспера Цецішоўскага. Перайшоў у белае духавенства.

11 ліпеня 1832 г. прызначаны вікарыем у Гомельскі касцёл.[645]

КЕЛПШ ПАВЕЛ

Павел Якуб Лаўрэнцьевіч Келпш. З дваран. Нарадзіўся ў 1804 г. З 1815 па 1822 г. вучыўся ў Краянскай гімназіі. У 1827 г. уступіў у манаства ў Цітавянскім кляштары. У 1836 г. прыняў сакрамент святарства ў Вільні.

У 1837 г. прызначаны прапаведнікам Цяншэўскага касцёла, у 1848 г. — куратам Магілёўскага бернардынскага касцёла. У тым жа 1848 г. быў на пасадзе адміністратара Гомельскага касцёла. У 1849 г. перайшоў у белае духавенства і быў прызначаны адміністратарам Вядзецкага касцёла (Сенненскі павет). У 1850 г. вікарый Талочынскага касцёла. У 1852 г. прызначаны вікарыем Магілёўскага фарнага касцёла. У 1853 г. вікарый Невельскага касцёла і законанастаўнік Невельскіх павятовых вучылішчаў. 13 верасня 1855 г. прызначаны адміністратарам Невельскага касцёла, 13 верасня 1856 г. — вікарыем Невельскага касцёла і законанастаўнікам Невельскіх павятовых вучылішчаў. У 1862 г. узнагароджаны наперсным крыжам. Атрымліваў 40 руб. жалавання ў год.[646]

КЕРСНОЎСКІ РЫГОР

Рыгор Войцехавіч Керсноўскі. З дваран Бельскага павета Гродзенскай губерні. У 1847 г. паступіў у Драгічынскае 5-класнае вучылішча. Скончыў курс навук у 1851 г. У тым жа годзе паступіў у Мінска-Магілёўскую рыма-каталіцкую духоўную семінарыю і скончыў курс навук у 1856 г. Прыняў сакрамент святарства ад мітрапаліта Вацлава Жылінскага 2 лютага 1857 г. у Пецярбургу.

Прызначаны вікарыем у Лепельскі касцёл. 15 сакавіка 1858 г. пераведзены вікарыем у Бялыніцкі касцёл. Прызначаны законанастаўнікам у Гомельскае 3-класнае вучылішча 21 лютага 1859 г. На такой жа пасадзе ў Гомельскай 6-класнай прагімназіі з 1864 г. Звольнены з пасады законанастаўніка па прашэнні 18 сакавіка 1889 г. Па найвышэйшым загадзе за выдатную старанную службу ўзнагароджаны крыжом 24 красавіка 1888 г. Атрымліваў

дапамогу ад урада ў суме 400 руб. Памёр у 1897 г. Пахаваны ў Гомелі.[647]

КЛАВО ФРАНЦЫСК

Францыск Сямёнавіч Клаво. З дваран Цельшаўскага павета Ковенскай губерні. Нарадзіўся ў 1834 г. У 1854 г. скончыў Цельшаўскае 5-класнае павятовае вучылішча. З 1855 па 1859 г. вучыўся ў Мінска-Магілёўскай духоўнай семінарыі, дзе вывучаў лацінскую мову і іншыя навукі. 21 ліпеня 1859 г. уступіў у белае духавенства і прыняў сакрамент святарства ад мітрапаліта Вацлава Жылінскага.

Працаваў вікарыем пры Дынабургскім касцёле. У жніўне 1860 г. прызначаны на пасаду вікарыя ў Магілёўскі архікатэдральны касцёл. 7 студзеня 1864 г. біскупам Максімільянам Станеўскім быў прызначаны адміністратарам Чачэрскага касцёла. Працаваў на гэтай пасадзе да пачатку 1896 г. Атрымліваў 400 руб. серабром у год.[648]

ЛЯТУК ДАМІНІК

Дамінік Іосіфавіч Лятук. З дваран Цельшаўскага павета Ковенскай губерні. Вучыўся ў Цельшаўскім дваранскім 5-класным вучылішчы з 1852 па 1856 г. З 1 верасня 1856 г. па 1860 г. вучыўся ў Мінска-Магілёўскай духоўнай семінарыі. Пасля сканчэння семінарыі прыняў сакрамент святарства ў Талачынскім парафіяльным касцёле.

11 ліпеня 1860 г. мітрапалітам Жылінскім быў прызначаны вікарыем Касцюковіцкага касцёла. Па распараджэнні магілёўскай духоўнай кансісторыі 25 студзеня 1864 г. прызначаны выконваючым абавязкі адміністратара Крычаўскага касцёла. Па распараджэнні кансісторыі з сакавіка 1866 г. пакінуты вікарыем пры тым жа касцёле. Па распараджэнні мітрапаліта 16 мая 1868 г. з дазволу магілёўскага губернатара прызначаны на пасаду вікарыя Чачэрскага касцёла. 16 жніўня 1869 г. прызначаны адміністратарам Расінскага філіяльнага касцёла.[649]

МАЕЎСКІ МІХАІЛ

Міхаіл Эразмавіч Маеўскі. Нарадзіўся ў 1872 г. З дваран Плоцкай губерні. У 1889 г. скончыў рэальнае вучылішча ў горадзе Пльзень. У 1890 г. паступіў у рыма-каталіцкую духоўную семінарыю ў Пецярбургу, якую скончыў у 1894 г. 18 сакавіка 1895 г.

прыняў сакрамент святарства ад магілёўскага суфрагана Альбіна Сымона.

У снежні 1895 г. прызначаны законанастаўнікам гомельскіх мужчынскай і жаночай прагімназій, а 6 лютага 1897 г. — законанастаўнікам у Гомельскае тэхнічнае чыгуначнае вучылішча. Атрымліваў 500 руб. у год ад мужчынскай і жаночай гімназій і 90 руб. ад тэхнічнага вучылішча.[650]Пазней быў пробашчам касцёла Св. Тройцы на Залатой Горцы ў Мінску.[651]

У 1917 г. уваходзіў у Выканаўчы камітэт Польскай рады Мінскай зямлі.[652] У 1930-х гг., служыў у Пінскай дыяцэзіі, з 1935 г. працаваў разам з ксяндзом Янкоўскім у Мінойтах на Лідчыне. Жылі ксяндзы ў маёнтку Гадачэўскіх.

У 1939 г., пасля прыходу «саветаў», у Гадачэўскіх была адабрана маёмасць. Міхаіл Маеўскі разам з Чаславам Янкоўскім непрацяглы час, яшчэ жылі ў доме Гадачэўскіх, але ў ліпені 1940 г. ўлады загадалі, каб ксяндзы на працягу 24 гадзін пакінулі маёнтак, дзе размясціўся дом састарэлых. Мясцовыя вернікі, запалоханыя савецкай уладай, баяліся браць на кватэру ксяндзоў. Таму святарам прыйшлося пераехаць у Паддубна да паноў Змітровічаў. Каб паспець выканаць загад да вызначанай гадзіны, небагаты скарб ксяндзоў давялося перавозіць уначы.

У 1941 г., перад заняццем Ліды нямецкімі войскамі, да Змітровічаў прыехалі супрацоўнікі НКУС. Яны забралі з сабой ксяндзоў Маеўскага і Янкоўскага, а таксама гаспадара дома І. Змітровіча, некалькіх суседзяў і ўцекачоў, якія сюды прыехалі, калі пачаліся першыя бамбаванні Ліды. Іх усіх абшукалі і павезлі да кар’ераў каля вёскі Шайбакі. Нкусаўцы падазравалі, што мясцовыя жыхары разам з ксяндзамі былі нямецкімі шпіёнамі. Арыштаваных дапытвалі. І хоць падцверджання падазрэнням знайсці не ўдалося, было вырашана арыштаваных расстраляць. Іх падвялі да кар’ераў і паставілі ў адну лінію. Але ў апошні момант пад’ехаў нейкі начальнік, які загадаў пагрузіць арыштаваных назад у «варанок» і везці далей. Іх павезлі ў мястэчка Пудзіна і замкнулі ў велізарным гаспадарчым будынку. Ксяндзы, адчуваючы набліжэнне трагічнай развязкі, пачалі праводзіць апошнюю споведзь. Але нкусаўцы не з’яўляліся. На наступны дзень гаспадыня будынка, у якім трымалі арыштаваных, адчыніла вароты і паведаміла, што «саветы» ўжо ўцяклі, а ў мястэчку стаяць немцы. Так выпадковая акалічнасць уратавала жыццё людзям.

Святары вярнуліся да Змітровічаў у Паддубна. Да ксяндзоў у госці неаднойчы наведваліся нямецкія жаўнеры. Але ворагі – ёсць ворагі. Ксяндзам даводзілася быць асцярожнымі, бо да іх у тыя часы

прыйходзілі на споведзь ці па іншых справах не толькі парафіяне, але і акаўцы, і савецкія партызаны.

Пасля Другой сусветнай вайны ксёндз Міхал Маеўскі выйшаў на пенсію і жыў у Лідзе. Памёр 25 лістапада 1949 г.[653]

ПЯТРОЎСКІ ФРАНЦЫСК

Францыск Іосіфавіч Пятроўскі нарадзіўся ў 1827 г. на Падляшшы, паходзіў з дваран. Спачатку вучыўся ў павятовым Драгічынскім вучылішчы, якое скончыў у 1847 г. У тым жа годзе паступіў у Беластоцкую гімназію. Праз 2 гады, 29 мая 1849 г. скончыў поўны курс навук і рэальнае аддзяленне, атрымаў атэстат № 220. У тым жа годзе паступіў у Гродзенскую гімназію, якую скончыў праз год, 12 чэрвеня 1850 г. 1 верасня 1851 г. паступіў у Мінска-Магілёўскую духоўную семінарыю, а праз 2 гады, у 1853 г., — у рыма-каталіцкую духоўную акадэмію. 19 снежня 1853 г. мітрапалітам Галавінскім пасвечаны ў 4 меншыя ступені святарства. 13 лютага 1855 г. высвечаны мітрапалтам Галавінскім у іпадыяканы, а 22 снежня 1856 г. мітрапалітам Жылінскім — у дыяканы. 25 чэрвеня 1856 г. атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. 23 сакавіка 1857 г. прыняў ад мітрапаліта Жылінскага сакрамент святарства. 19 чэрвеня 1857 г. атрымаў ступень магістра багаслоўя.

19 ліпеня 1857 г. прызначаны законанастаўнікам Мсціслаўскага павятовага дваранскага вучылішча, 22 студзеня 1860 г. — пробашчам Касцюковіцкага парафіяльнага касцёла, 9 верасня 1865 г. па распараджэнні біскупа Станеўскага за № 1186 — пробашчам Бобрскага касцёла. 14 сакавіка 1870 г. Пятроўскі стаў гомельскім пробашчам і дэканам. 27 сакавіка 1877 г. узнагароджаны наперсным крыжам. На ўтрыманне касцёла атрымліваў 400 руб. серабром у год.[654] Памёр 21 верасня 1911 г. Пахаваны ў Гомелі.

ТАМАШЭЎСКІ АЛЯКСАНДР

Аляксандр Адамавіч Тамашэўскі. З дваран Цельшаўскага павета Ковенскай губерні. Нарадзіўся ў 1841 г. З 1 жніўня 1853 г. па 1858 г. вучыўся ў Цельшаўскім павятовым 5-класным дваранскім вучылішчы. Скончыў 5 класаў і атрымаў атэстат 24 чэрвеня 1858 г. 1 верасня 1860 г. паступіў у Мінска-Магілёўскую семінарыю. Скончыў поўны курс і атрымаў атэстат 20 чэрвеня 1864 г. 21 чэрвеня 1864 г. прыняў сакрамент святарства ў Мінску ад біскупа Вайткевіча.

30 чэрвеня 1866 г. прызначаны біскупам Станеўскім на пасаду вікарыя ў Радугу. 1 сакавіка 1866 г., пасля закрыцця Радужскага касцёла, прызначаны біскупам Станеўскім вікарыем у Гомельскі касцёл. Атрымліваў у год 50 руб. жалавання.[655]

ШЫМАНСКІ РАМАН

Нарадзіўся ў 1735 г. Скончыў школу піяраў у Шчучыне і духоўную семінарыю ў Вільні. Сакрамент святарства прыняў у 1770 г. 17 лютага 1785 г. быў прызначаны пробашчам у Карпілаўку.[656]

## 3. УДЗЕЛЬНІК ПАЎСТАННЯ 1831 Г. ЯН ЮШКЕВІЧ

ЮШКЕВІЧ ЯН

Нарадзіўся на Жмудзі 22 чэрвеня 1798 г. Быў аканомам Драгічынскага францысканскага кляштара. Прымаў удзел у паўстанні 1830—1831 гг. — быў капеланам у атрадзе Ц.Пуслоўскага, а пасля змагаўся на Жмудзі. 4 кастрычніка 1831 г. быў узнагароджаны залатым крыжам. Пасля падаўлення паўстання, апасаючыся пераследу з боку расійскіх улад, мусіў эмігрыраваць у Францыю. 2 гады вывучаў у Манпелье дакладныя навукі, у 1836 г. пераехаў у Страсбург, дзе вывучаў медыцыну. Пасля доўгі час жыў у Парыжы, потым у Рыме. Рашэннем Гродзенскай губернскай следчай камісіі ад 24 жніўня 1832 г. быў аднесены да 2-га разраду «злачынцаў» (што прадугледжвала і канфіскацыю маёмасці)[657].

У 1847 г. вярнуўся ў Расійскую імперыю. Быў накіраваны ў Магілёў. Пражываў у Магілёўскім бернардынскім кляштары. 4 мая 1848 г. быў прызначаны ў Бялыніцкі парафіяльны касцёл вікарыем. З 17 верасня 1848 г. — адміністратар Чачэрскай і Люшаўскай парафій. Памёр раптоўна 9 кастрычніка 1854 г.[658] Пахаваны ў Чачэрску.

## 4. КСЯНДЗЫ, РЭПРЭСІРАВАНЫЯ ЗА ЎДЗЕЛ У ПАЎСТАННІ 1863—1864 ГГ.

БУГЕН ЯН (ВЕНЦКУС ЯН)

Згодна з афіцыйнай біяграфіяй, ксёндз Буген нарадзіўся каля 1838 г. і паходзіў са шляхты Ковенскай губерні. Да 1862 г. працаваў вікарыем Гомельскага касцёла. У 1862—1863 гг. вікарый у Чачэрскім касцёле.

Калі пачалося паўстанне 1863 г., ксёндз Буген без дазволу ўладаў пакінуў Чачэрск і далучыўся да паўстанцаў. Праз нейкі час быў арыштаваны. Пры арышце аказаў узброенае супраціўленне. Бугена, які, верагодна, назваўся не Янам, а Бенядзіктам Іванавічам,

асудзілі, як пісалася ў абвінавачанні, «за адлучку без дазволу з месца жыхарства, прыняцце ўдзелу ў былым паўстанні, правоз для гэтага агнястрэльнай зброі, набояў і ўзброенае супраціўленне пры арышце». Таксама ён быў пазбаўлены духоўнага сану, усіх правоў і высланы на пасяленне ў Сібір, куды прыбыў 2 верасня 1864 г. Праз месяц яго выслалі на пасяленне ў Клапільцейскую воласць, дзе ён знаходзіўся да пачатку 1866 г. 1 студзеня 1866 г. на падставе «высочайшего повеления» Бугена перавялі ў разрад высланых на «жыццё» (пасяленне) і накіравалі ў Тунку, а потым пад надзор паліцыі ў Архангельск. Але Архангельск таксама быў не апошнім месцам пражывання Бугена. З кастрычніка 1872 г. ён адбываў пакаранне ў Пінезе. Праз 2 гады яго вызвалілі з-пад надзору паліцыі.

Буген вырашыў перабрацца на радзіму ў Ковенскую губерню, аб чым і падаў прашэнне. Але ковенскі губернатар яму ў гэтым адмовіў. Высветлілася, што Бенядзікт Іванавіч Буген — гэта Ян Венцкус, селянін маёнтка Рэтава Расіенскага павета. Венцкус у 1846 г. служыў пісарам у маёнтку Рэтава і з-за нечага пасварыўся з аканомам — адстаўным капітанам Эймантам. У 1847 г. Венцкуса арыштавалі, але ён пад час следства ўцёк, падпільнаваў Эйманта на дарозе і адпомсціў, забраўшы ў капітана ўсе грошы. Асудзіць Венцкуса за гэта так і не змаглі, бо пошук яго аказаўся безвыніковым.

Пасля таго, як высветліліся гэтыя факты, за Бугенам-Венцкусам у Архангельску быў устаноўлены негалосны нагляд паліцыі. Праз 5 гадоў, у 1883 г., Буген пераехаў у Пскоў і пачаў хадайнічаць аб дазволе выконваць свае святарскія абавязкі. Але і ў гэтым яму адмовілі. Далейшы лёс былога гомельскага і чачэрскага вікарыя невядомы.[659]

ГІРТОВІЧ МІКАЛАЙ

З 1855 г. чачэрскі пробашч і адначасова гомельскі дэкан. У 1864 г. яго, як нядобранадзейнага ў палітычных адносінах, выслалі з Чачэрска на сталае жыхарства пад пільны паліцэйскі нагляд у Томскую губерню. З 20 лістапада 1864 г. знаходзіўся ў Томску, з 3 чэрвеня 1866 г. — у Кузнецку. Памёр у Томску 11 чэрвеня 1872 г. [660]

ГРАХОЛЬСКІ ФЕЛІКС

У 1864 г. вікарны ксёндз Радужскага касцёла, быў высланы ўладамі ў Наўгародскую губерню, бо «ў размовах неаднаразова выяўляў крайняе сваё незадавальненне да ўрада і выказваў надзею на поспех палякаў у справе іх паўстання». Быў пазбаўлены галоўнай справы свайго жыцця — яму было забаронена богаслужэнне ў касцёлах.[661]

## 5. КСЯНДЗЫ, РЭПРЭСІРАВАНЫЯ САВЕЦКІМІ ЎЛАДАМІ

### АНДРЭКУС КАНСТАНЦІН АНТОНАВІЧ

Нарадзіўся ў 1875 г. (па іншых дадзеных у 1870 г.) у вёсцы Каўколікі Целяшоўскага павету ковенскай губерні. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1902 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1904—1905 гг. быў вікарыем Краснаярскай парафіі ў Сібіры, пазней (1906—1911 гг.) адміністратарам, а потым пробашчам Івандарскай парафіі ў Чэрыкава-Чавускім дэканаце. У 1911—1917 гг., а магчыма і пазней, працаваў як адміністратар Лазавіцкай парафіі ў Клімавіцка-Мсціслаўскім дэканаце. У сакавіку 1922 г. прызначаны выконваючым абавязкі пробашча Гомельскага касцёла і гомельскага дэкана, а потым і афіцыйна, гомельскім дэканам і пробашчам.

5 чэрвеня 1933 г. арыштаваны і абвінавачаны ў стварэнні ў Гомелі з веруючых палякаў контррэвалюцыйнай арганізацыі ПВА («Польскай вайсковай арганізацыі»). Разам з ім былі арыштаваныя 54 чалавекі з ліку парафіян. Па пастанове «тройкі» ад 24 лютага 1934 г. заключаны ў лагер на 10 гадоў.[662] У 1933 г. унесены Польскім Чырвоным Крыжам у спіс палітычных вязняў на абмен з Літвой, але ў абмене было адмоўлена, і прозвішча ксяндза Андрэкуса не аказалася ў спісе 11 абмененых літоўскіх ксяндзоў.

25 жніўня 1937 г. на падставе арт. 66 і 68 КК БССР (паводле іншых звестак, на падставе арт. 64, 68 і 72) пастановай калегіі УНКУС БССР Андрэкус быў асуджаны на смяротнае пакаранне і 27 жніўня 1937 г. расстраляны ў турме НКУС у Мінску разам з 4-ма іншымі каталіцкімі святарамі: Пятром Аўглам, Янам Баравіком, Пятром Януковічам і Станіславам Райко.[663]

### БАРАНОЎСКІ ПЁТР АЎГУСЦІНАВІЧ

Нарадзіўся 21 сакавіка 1882 г. у Оршы. Шляхціч. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1906 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1908—1909 гг. быў вікарыем у Нясвіжы (Слуцкі дэканат), а пазней, з 23 чэрвеня 1909 г. па 9 чэрвеня 1910 г., адміністратарам Чачэрскай парафіі ў Гомельскім дэканаце, пасля чаго састаяў пры касцёле Св. Станіслава ў Пецярбургу. 5 гадоў (1912—1917) працаваў адміністратарам Нежынскай парафіі (800 вернікаў) у Гомельскім дэканаце. У 1917 г. зноў стаў вікарыем Нясвіжскай парафіі. У 1922—1924 гг. працаваў пробашчам парафіі святой Барбары і дэканам у Віцебску, а ў 1925 г. — адміністратарам Чарнігаўскай

парафіі Харкаўскага дэканата. З 1926 г. зноў быў адміністратарам Нежынскай парафіі.

Быў арыштаваны 26 красавіка 1929 г. 20 верасня пастановай «тройкі» калегіі АДПУ паводле арт. 58-4 зняволены на 10 гадоў у канцлагеры. Накіраваны на Салаўкі, куды прыбыў 16 кастрычніка 1929 г. У першай палове 1930 г. пераведзены на востраў Анзер (г. Кем, 4-е аддзяленне СЛОН, пункт Анзер, Троіцкая камандзіроўка). У 1932 г. арыштаваны тут у ліку 32 святароў па групавой справе каталіцкага духавенства, якое абвінавачвалася ў стварэнні «антысавецкай групоўкі, якая вяла антысавецкую агітацыю, тайна адпраўляла багаслоўскія і рэлігійныя абрады і здзяйсняла нелегальную сувязь з воляй для перадачы за мяжу звестак шпіёнскага характару пра становішча католікаў у СССР». Следства хадайнічала аб яго «пераводзе ў Яраслаўскі палітізалятар і ўтрыманні асобна ад усіх». Вывезены з Салаўкоў у Кем. Потым ізноў вернуты на Салаўкі. 21 лютага 1937 г. пераведзены на турэмны рэжым.

9 кастрычніка 1937 г. пастановай асобай «тройкі» УНКУС па Ленінградскай вобласці прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. 3 лістапада 1937 г. расстраляны ва ўрочышчы Сандармах каля Мядзведжагорска.[664]

БІРНІК ПАВЕЛ БЯРНАРДАВІЧ

Нарадзіўся 30 красавіка 1889 г. Належыў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю і духоўную акадэмію ў Пецярбургу. У 1912 г. прыняў сакрамэнт святарства.

23 лістапада 1912 г. прызначаны вікарыем у Гомель на месца ксяндза Сямашкі. Бірнік прыбыў у Гомель 9 снежня. На гэтай пасадзе працаваў да 21 красавіка 1914 г., калі быў прызначаны філіялістам Люшаўскага касцёла. У 1915 г. працаваў пробашчам касцёла ў аколіцы Асавая Пінскага дэканата, а ў 1916 г. быў душпастырам у Лунінцы. Пазней працаваў законанастаўнікам у Гомелі. 25 лютага 1919 г. Бірніку было прапанована ў адсутнасці гомельскага дэкана Антонія Ячэйкі часова заняць пасаду пробашча Гомельскага касцёла і дэкана.

У ліпені 1919 г. Бірнік быў арыштаваны ЧК па справе ПВА. Разам з ім былі арыштаваны і 2-е парафіян: Адам Маркоўскі і Вікенцій Бальчэўскі. Ксёндз Бірнік быў расстраляны 11 жніўня 1919 г. у Гомелі.[665]

БУЙНОЎСКІ ЛЕАН

Нарадзіўся 16 чэрвеня 1891 г. у Альшанцы каля Сокаля. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі, пазней Пінскай дыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1912 г. прыняў сакрамент святарства.

Працаваў вікарыем Маскоўскага касцёла Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У ліпені 1921 г. прызначаны капеланам Рудня-Шлягінскай капліцы ў Гомельскім дэканаце. Пазней таксама фактычна выконваў абавязкі пробашча і дэкана ў Гомелі. У 1922 г. пераследваўся ЧК у сувязі з супраціўленнем канфіскацыі літургічных рэчаў з Гомельскага касцёла. З гэтай прычыны 23 красавіка 1922 г. быў вымушаны перайсці на нелегальнае становішча і хавацца пад чужым прозвішчам. Каб дапамагчы 10 арыштаваным у Гомелі парафіянам, пад чужым прозвішчам прыязджаў у маі 1922 г. у Маскву, дзе перадаў рапарт аб рэпрэсіях супраць гомельскіх католікаў у рукі польскаму паслу. 19 мая ў польскай камісіі па рэпатрыяцыі Буйноўскага папярэдзілі, што ён мусіць быць асцярожным і раілі выехаць праз Мінск у Польшчу. Буйноўскі быў арыштаваны ў Мінску ў канцы мая 1922 г.

Шляхам абмены палітычных вязняў у 1924 г. апынуўся ў Заходняй Беларусі. У 1925—1932 гг. быў пробашчам парафіі Міхаіла Арханёла ў Івянцы і візітатарам школ катэхізацыі ў Пінскай дыяцэзіі. На пераломе 1933 і 1934 гг. застаўся, відаць, без пасады ў дыяцэзіі. У 1939—1943 гг. быў выконваючым абавязкі пробашча Мядзведзіцкай парафіі[666] і рэктарам касцёла ў Сіняўцы, дзе 27 чэрвеня 1942 г. арыштаваны акупацыйнымі нямецкімі ўладамі і зняволены ў Баранавічах. 13 ліпеня 1943 г. разам з 14 іншымі мясцовымі святарамі расстраляны на гарадскіх могілках. Як лічыцца, пры дапамозе беларускай паліцыі святары былі арыштаваныя ў сувязі з невыкананнем загаду аб увядзенні ў касцёл беларускай мовы.[667]

Больш праўдзівай з'яўляецца версія пра яго смерць у нямецкім канцлагеры ў Калдычаве каля Баранавіч, дзе былі замучаны і пахаваны ў брацкай магіле каля 40 святароў. Але толькі 10 з іх былі апазнаныя:

1. ксёндз Леан Буйноўскі — рэктар касцёла ў Сіняўцы, парафія Мядзведзічы;
2. ксёндз Юзэф Бартушэк — пробашч, Заастравечча;
3. ксёндз Баляслаў Брычкоўскі;
4. ксёндз Казімір Дамброўскі — пробашч, Дарэва;
5. ксёндз Казімір Каўрэцкі — пробашч, Паланэчка;
6. ксёндз Антоній Леўш — вікарый, Стоўбцы;
7. ксёндз Антоній Мацкевіч — пробашч, Мір;
8. ксёндз Вацлаў Наймак — пробашч, Новы Свержань;

9. ксёндз Альфонс Аляшчук — пробашч, Новая Мыш;
10. ксёндз Ян Язерскі — пробашч, Гарадзішча.[668]

ВАЛЫНЕЦ БАЛЯСЛАЎ

Нарадзіўся 2 кастрычніка 1884 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. Па прыняцці ў 1909 г. сакраменту святарства працаваў вікарыем парафіі ў Віцебску да 1912 г.

Пазней, з ліпеня 1912 г. да 1916 г., быў выконваючым абавязкі пробашча ў Благавешчанскай парафіі Амурскай правінцыі на Далёкім Усходзе і катэхізатарам у мясцовай гімназіі для хлопцаў і дзяўчынаў. У 1916 г. пераведзены на пасаду выконваючага абавязкі адміністратара Златавустаўскай парафіі, а ў ліпені 1921 г. прызначаны на пасады філіяліста Люшаўскага касцёла і капелана Жлобінскай капліцы ў Гомельскім дэканаце. Месцам пражывання Валынца была прызначана вёска Люшаў. З 1924 г. абслугоўваў яшчэ і Чачэрскую парафію.

20 кастрычніка 1929 г., пасля набажэнства ў Люшаўскім касцёле, Валынец публічна адмовіўся ад святарства. Далейшы лёс невядомы.[669]

ВОРСЛАЎ ЮЗАФ

Нарадзіўся 28 жніўня 1886 г. Належаў да Магілёўскай архіядыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1910 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1914 г. працаваў вікарыем Барысаўскай парафіі. 27 верасня 1914 г. прызначаны вікарыем Гомельскага касцёла. Працаваў у Гомелі да 26 лютага 1919 г., пасля чаго пераведзены ў Віцебск на пасаду вікарыя Віцебскага касцёла Св. Антонія. У 1923 г. працаваў пры капліцы Найсвяцейшага Сэрца ў Петраградзе. Паводле спісаў Магілёўскай архідыяцэзіі, да 1932 г. знаходзіўся ў СССР. Далейшы лёс невядомы.[670]

ГРОНСКІ ЮЛІЯН МІХАЙЛАВІЧ

Адміністратар Апостальскага вікарыята Заходняй Сібіры. Нарадзіўся ў 1877 г. у вёсцы Чапялі Ковенскай губерні. Належаў да Магілёўскай архіядыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1903 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1906 г. быў выконваючым абавязкі адміністратара Талочынскай парафіі ў Аршанскім дэканаце. З 11 красавіка 1906 г. па чэрвень 1909 г. адміністраваў Чачэрскую парафію. У 1911—1912 гг. рэзідэнт у парафіі святога Альберта ў Рызе, а пазней (1912—1915

гг.) вікарый Рыжскай парафіі Маці Божай Пакутнай. З 1915 па 1917 г. на пасадзе вайсковага капелана пры штабе 5-й рускай арміі. У 1917 г. стаў рэзідэнтам пры капліцы ў вёсцы Рэмні Віцебскага дэканата. У наступным годзе прызначаны арцыбіскупам Эдвардам Ропам пробашчам Іркуцкай парафіі (у 1917 г. налічвала 5 тыс. вернікаў).

З-за перашкодаў, звязаных з Грамадзянскай вайной, прыбыў у Іркуцк толькі ў 1920 г. Неўзабаве пераехаў у Томск, дзе не было душпастыра (у 1917 г. парафія ў Томску налічвала 10 тыс. католікаў). У 1923 г. пераехаў у Андрэеўскі пасёлак каля Томска, дзе была каталіцкая капліца. Пасля зноў пераехаў у Томск і 1 лістапада 1926 г. стаў адміністратарам Апостальскага вікарыята Заходняй Сібіры. За ім быў устаноўлены нагляд ДПУ. Пад канец 1920-х гг. ДПУ зрабіла амаль немагчымым выконванне Гронскім душпастырскай працы па-за межамі Томска і ваколіц. У лютым 1929 г. выязджаў з Томска ў Беластоцкі пасёлак (Беласток), дзе была капліца, і 2 лютага бласлявіў у ёй шлюбы мясцовых католікаў.

Арыштаваны 25 красавіка 1931 г. у сваёй томскай кватэры на вул. Бакуніна 17, упаўнаважаным томскага АДПУ Раманавым. Разам з ім былі арыштаваны некалькі чалавек з мясцовай «дваццаткі», у тым ліку арганіст Станіслаў Бах. Таксама былі праведзеныя арышты ў іншых населеных пунктах, куды наведваўся Гронскі: Барнауле, Омску, Навасібірску, Андрэеўскім пасёлку, Беластоцкім пасёлку. На допытах ад арыштаваных патрабавалі, каб яны далі паказанні, што ў часе сваіх падарожжаў ксёндз агітаваў супраць калектывізацыі, захоўваў золата. Гронскі быў абвінавачаны ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, шпіянажы на карысць Польшчы, варожай агітацыі і захоўванні золата. Пасля амаль гадавога следства 7 сакавіка 1932 г. быў асуджаны на 10 гадоў лагера і 1 верасня гэтага ж года дастаўлены на Салаўкі. Быў вызвалены дзякуючы намаганням літоўскіх уладаў і 22 студзеня 1933 г. пакінуў СССР.

У пачатку 1934 г. знаходзіўся ў Рыме, адкуль вярнуўся ў Літву. У 1936—1939 гг. працаваў у Ковенскай дыяцэзіі душпастырам з правамі пробашча (curatus) у мясцовасці Панатарай у Жайменскім дэканаце, дзе існавала філія Сясішкінскай парафіі. Быў віцэ-дэканам у Кракес.[671]

ЖАЎРЫД ЯН РАЙМУНДАВІЧ

Нарадзіўся 28 сакавіка 1885 г. у Бабруйску. Належаў да Мінскай дыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1908 г. прыняў сакрамент святарства.

З 1910 г. выконваў абавязкі філяліста ў Люшаўскім касцёле. У 1912—1915 гг. філіяліст пры Лельчыцкім касцёле (філія

Петрыкаўскай парафіі, 2 тыс. вернікаў) у Мозырска-Рэчыцкім дэканаце. З 1915 г. быў першым вікарыем парафіі Найсвяцейшай Тройцы—Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі—святога Роха ў Мінску, якая ў 1917 г. налічвала 13 тыс. вернікаў. У 1922—1923 гг. адміністратар Мозырскай і Бабруйскай парафій.

У Бабруйску заставаўся да арышту 2 жніўня 1928 г. 25 сакавіка 1929 г. на падставе арт. 58-6 КК СССР асуджаны Калегіяй АДПУ на 10 гадоў канцлагера. Накіраваны на Салаўкі, куды прыбыў 4 ліпеня 1929 г. Адбываў пакаранне на востраве Анзер. Консульскі дэпартамент МЗС Польшчы ў лісце да прымаса Польшчы ад 20 снежня 1929 г., у якім быў прадстаўлены спіс ксяндзоў, якія яшчэ заставаліся на волі ў БССР, інфармаваў аб арышце ксяндза, перадаваў яго просьбу аб дапамозе і называў адрас: Салаўкі, 2-е аддзяленне, Камандзіроўка Бялужая.

У 1932 г. арыштаваны ў ліку 32 святароў па групавой справе каталіцкага духавенства, якое абвінавачвалася ў стварэнні «антысавецкай групоўкі, якая вяла антысавецкую агітацыю, тайна адпраўляла багаслоўскія і рэлігійныя абрады і здзяйсняла нелегальную сувязь з воляй для перадачы за мяжу звестак шпіёнскага характару пра становішча католікаў у СССР». Следства 9 ліпеня 1932 г. прыняло рашэнне: трымаць Жаўрыда на астравах у ізаляцыі ад астатніх святароў да канца тэрміну зняволення. Паводле ліста А.Панінскага (сакавік 1937 г.), Жаўрыд па-ранейшаму заставаўся на Салаўках. Ізноў арыштаваны там 14 кастрычніка 1937 г.

«Тройкай» УНКУС па Ленінградскай вобласці прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. 1 лістапада 1937 г. расстраляны ў Салавецкай турме.[672]

123.Ян Жаўрыд

ІВАНОЎ ДАМІНІК АДОЛЬФАВІЧ

Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Нарадзіўся 22 мая 1883 г. (паводле іншай крыніцы, 22 лістапада 1880 г.) у Пецярбургу ў дваранскай сям’і Адольфа і Марыі (у дзявоцтве Малецкай). Паляк. Унук Дамініка Іванова, які, сасланы ў Сібір, памяняў родавае прозвішча Сталбінскі на Іваноў. У Пецярбургу скончыў гімназію, а пасля — мітрапалітальную духоўную семінарыю. 2 гады вучыўся ў духоўнай акадэміі, якую не скончыў з-за пагрозы туберкулёзу. У 1907 г. прыняў сакрамент святарства.

Паўгода заставаўся без абавязкаў, пазней быў вікарыем пры касцёле Маці Божай Пакутнай у Рызе і законанастаўнікам у

мясцовых школах. З 1909 г. па 1918 г. працаваў законанастаўнікам у Гомелі. Перад Першай сусветнай вайной летам 1914 г. выехаў у Заходнюю Еўропу. Не змог да пачатку вайны перасячы расійскую мяжу і на год быў затрыманы ў Германіі, спярша ў турме, а потым пад наглядам паліцыі.

Пасля вяртання ў Гомель быў душпастырам мясцовай парафіі і працаваў у гомельскіх польскіх арганізацыях: Таварыстве дабрачыннасці, Чытацкім таварыстве, Харцэрскім таварыстве, «Польскай Вайсковай Арганізацыі» (паводле аўтабіяграфіі, якую напісаў у маскоўскай турме 15 чэрвеня 1923 г.). Арганізоўваў летнікі для дзяцей (у 1917 г. у Гомелі было 4700 парафіян).

Са жніўня 1918 г. да зняволення ў Маскве ў сакавіку 1923 г. быў віцэ-сакратарам магілёўскай мітрапалітальнай курыі ў Петраградзе. Чытаў апалагетычныя лекцыі для моладзі ў касцёле Святога Казіміра. З верасня да канца 1920 г. адміністраваў парафію Святога Станіслава ў Петраградзе (пасля зняволення пробашча Вітольда Івіцкага). У 1922—1923 гг. выкладаў у падпольнай духоўнай семінарыі ў Петраградзе катэхізм, біблейскую археалогію, Святое Пісьмо і кананічнае права.

Арыштаваны, праходзіў па вядомаму маскоўскаму Працэсу 14-ці петраградскіх святароў на чале з арцыбіскупам Янам Цепляком. На падставе арт. 40, 68, 69-1, 119 і 121 КК РСФСР 25 сакавіка 1923 г. асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі і страту грамадзянскіх правоў на гэты ж тэрмін. Тэрмін адбываў у Лефортаўскай і Сакальніцкай турмах.

У студзені 1925 г. вызвалены, вярнуўся ў Ленінград. З 1925 г. пачаў працу як вікарый парафіі Святой Кацярыны ў Ленінградзе. 13 жніўня 1926 г. быў адным з двух сведкаў канспіратыўнай кансекрацыі на біскупа Антонія Малецкага з Ленінграда, якую выканаў за зачыненымі дзвярыма ў касцёле Парыжскай Маці Божай пасланнік папы біскуп Мішэль д’Эрбіні. З 1926 па 1927 г. інспектар падпольнай семінарыі. Выкладаў лацінскую мову і філасофію. 1 лютага 1927 г. зноў арыштаваны разам з двумя іншымі святарамі з Ленінграда — Паўлам Хомічам і Янам Тройгам. Абвінавачаны ў арганізацыі духоўнай семінарыі, сувязі з езуітамі і хаванні польскіх шпіёнаў. Да сярэдзіны 1927 г. быў у зняволенні на вуліцы Шпалернай. 29 чэрвеня 1927 года калегія АДПУ Ленінградскай ваеннай акругі на падставе арт. 58-10 КК РСФСР прыгаварыла яго да 5 гадоў лагера.

У лістападзе 1928 г. дастаўлены ў лагер на Салавецкіх астравах. Тут у яго адразу скралі абутак і адзенне. Консул Польшчы ў Ленінградзе Хеліадар Штарк даслаў яму з запасаў Польскага Чырвонага Крыжа цёплую бялізну і 10 руб. дапамогі. У чэрвені 1931

г., пасля адбыцця тэрміну зняволення, быў высланы на вольнае пасяленне ў Анежскі раён Архангельскай акругі. Вясной 1932 г. арыштаваны і вывезены з Архангельскай у Бутырскую турму. 4 чэрвеня 1932 г. асуджаны на 3 гады.

Дзякуючы абмену вязнямі паміж Польшчай і СССР, які адбыўся 15 верасня 1932 г., прыбыў у Польшчу разам з 17 іншымі святарамі. Схема Магілёўскай архідыяцэзіі за 1929 г. памылкова паведамляе пра яго трагічную смерць ад абмаражэння ў снежні 1929 г. у Салавецкім лагеры.[673]

ІЛЬГІН ВІНЦЭНТ АДАМАВІЧ

Апостальскі адміністратар у Харкаве. Нарадзіўся 19 студзеня 1886 г. у мястэчку Дзвінюча каля Дзвінска Віцебскай губерні ў польскамоўнай сям'і. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. Там жа ў 1909 г. прыняў сакрамент святарства.

Пасля прыняцца сакраменту святарства працаваў вікарыем у Пінску. Паводле запісаў ксяндза Адама Станкевіча, браў удзел у беларускім нацыянальна-рэлігійным руху. 9 чэрвеня 1910 г. прызначаны выконваючым абавязкі чачэрскага пробашча. З 8 ліпеня 1910 г. пробашч Чачэрскага касцёла. На гэтай пасадзе заставаўся да канца 1918 г. У 1919—1926 гг. быў адміністратарам парафіі і дэканам у Харкаве, дзе адзначыўся ахвярнай працай у грамадскіх арганізацыях, якія апекаваліся мясцовымі католікамі (у 1917 г. мясцовая парафія налічвала 9 тыс. вернікаў). У 1924 г. і, верагодна, пазней меў пад апекаю Чарнігаўскую парафію. 15 жніўня 1926 г. пасланнікам папы Пія XI у СССР, біскупам Мішэлем д'Эрбіны быў прызначаны апостальскім адміністратарам для паўднёвай часткі Магілёўскай архідыяцэзіі з рэзідэнцыяй у Харкаве.

26 кастрычніка 1926 г. арыштаваны ДПУ УССР за «адпраўленне рэлігійных абрадаў без рэгістрацыі ў ЗАГС», а таксама за наяўнасць замежных газет. У лістападзе 1926 г. яго справу пачаў весці пракурор УССР. 7 студзеня 1927 г. Ільгін асуджаны на 3 гады лагера. Накіраваны на Салаўкі. Пасля адбыцця тэрміну накіраваны на 3 гады на вольнае пасяленне ў Пінегу (250 кіламетраў на ўсход ад Архангельска). Разам з грузінскім каталіцкім святаром Канстанцінам Сепарышвілі мусіў у лютым 1930 г. у мароз прайсці пешкі 200 км.

Прымас Польшчы А.Глёнд хадайнічаў аб унясенні Ільгіна ў спіс абмену вязнямі. З гэтай просьбай да прымаса звяртаўся былы парафіянін і супрацоўнік Ільгіна ў Харкаве Голіч. У лісце ад 24 лістапада 1929 г. ён пісаў: «*Быў сапраўдным айцом і апекуном сваіх парафіян, не жадаючы іх пакідаць у той час, калі ўсе ўцякалі ў Польшчу. Ён застаўся. Няма сям'і, якая б не памятала пра яго*».

19 лютага 1933 г. Ільгін быў вызвалены, але да 27 мая заставаўся ў Пінезе, бо не было грошай на выезд. Па прыездзе ў Маскву Ільгін сустрэўся з біскупам Нявё. Той параіў яму выехаць на Каўказ да апостальскага адміністратара ў Краснадары, каб у адной з мясцовых парафій Ільгін мог адпачнуць і набрацца сіл. У чэрвені 1933 г. Ільгін выехаў у Краснадар, дзе быў пробашчам у Стаўрапалі. Праз месяц быў вымушаны з'ехаць і па парадзе біскупа Нявё пасяліўся ў Калузе. 26 жніўня 1933 г. арыштаваны, пасля перавезены ў Маскву (апошняе месца зняволення — Лубянская турма).

Дзякуючы абмену вязнямі паміж Літвой і СССР (19 кастрычніка 1933 г.) у студзені 1934 г. выехаў у Латвію. 2 месяцы жыў у сваёй сястры ў Дзвінску (Даўгаўпілсу), потым пераехаў у Польшчу. Здароўе яго было падарванае. У 1936 г. быў капеланам у кляштары сясцёр сям'і Марыі ў Кастаўцы каля Варшавы, а пазней, у 1936—1937 гг., вікарыем парафіі Маці Божай Ларэтанскай у Празе (Варшава). Памёр ад інфаркту 24 жніўня 1937 г. Пакінуў успаміны аб жыцці ў Расіі і СССР.[674]

124.Вінцэнт Ільгін

КУНДА УЛАДЗІСЛАЎ ЦЯРЭНЦЬЕВІЧ

Нарадзіўся 12 ліпеня 1887 г. у вёсцы Яміны Сувалскай губерні. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. 13 красавіка 1914 г. прыняў сакрамент святарства.

Вікарый касцёла Святых Пятра і Паўла ў Ноўгарадзе з 1914 па 1915 г. (3 тыс. вернікаў). З 1915 па 1917 г. вікарый Омскай парафіі. З 1922 г. адміністратар Свяцілавіцкай парафіі каля Магілёва. У верасні 1924 г. стаў адміністратарам Самарскай парафіі, а таксама капеланам у капліцах Гафенталь, Рэйнсфельд і Арэнбург. У 1930 г. (паводле іншых звестак, у 1934 г.) вярнуўся ў Беларусь. Быў пробашчам у Рагачове і адначасова ў Гомелі.

5 снежня 1935 г. арыштаваны ў Рагачове як «кіраўнік контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай групы палякаў-католікаў» (разам з ім было арыштавана яшчэ 8 чалавек). 20 мая 1936 г. пастановай выязной сесіі Судовай калегіі Вярхоўнага суда БССР асуджаны на 8 гадоў лагера. Накіраваны ў Цемнікоўскі ППЛ (Мардоўская АССР). У 1937 г. арыштаваны ў лагеры па абвінавачванні ў «сістэматычнай паўстанцкай антысавецкай агітацыі сярод зняволенных».

22 жніўня 1937 г. пастановай «тройкі» НКУС Мардоўскай АССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 31 жніўня 1937 г.[675]

ЛУК'ЯНІН ЮЗАФ СТАНІСЛАВАВІЧ

Нарадзіўся ў 1888 г. у пас. Казарма №52 Дзвінскага павета Віцебскай губерні ў сям'і чыгуначнага служачага. Беларус. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Увосень 1909 г. паступіў у мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу, якую скончыў у 1914 г. 13 красавіка таго ж года прыняў сакрамент святарства.

З ліпеня 1914 г. да сакавіка 1915 г. быў вікарыем і катэхізатарам у пачатковых школах Пінска. З 1915 да снежня 1917 г. вайсковы капелан у Дунайскай арміі ў Бесарабскай губерні і душпастыр у вёсцы Белград.

Пазней працаваў адміністратарам Рудня-Шлягінскай парафіі Гомельскага дэканата. З ліпеня 1921 г. вікарый у Полацку, потым адміністратар Гарбачоўска-Абітокскай парафіі ў Полацкім дэканаце.

Неаднаразова затрымліваўся ЧК. Арыштаваны ў Полацку разам з мясцовым пробашчам Юзафам Дзям'янам за адмову ўдзельнічаць у раскрыцці мошчаў святога Андрэя Баболі. З 7 ліпеня да 12 верасня 1922 г. знаходзіўся пад следствам. Пасля прыгавору накіраваны ў Віцебскую турму. Парафіяне рабілі захады, каб яго вызваліць. 12 кастрычніка 1922 г. выпушчаны пад падпіску аб нявыяздзе. 3—4 верасня 1923 г. апраўданы губернскім судом. У 1925 г. выконваў абавязкі душпастыра ў Занеўскай капліцы Ленінграда. Лячыўся ад неўрастэніі. З 16 верасня 1928 г. (паводле іншых звестак, у 1927 г.) быў адміністратарам Чавускай, Чэрыкаўскай і Зембінскай парафій.

Арыштаваны 30 верасня 1929 г. у Юркавічах (паводле іншых звестак, у Чавусах). На падставе арт. 72-Б і 76 КК БССР (арт. 58-10 КК РСФСР) абвінавачваўся ў «сістэматычнай антысавецкай агітацыі ў казаннях, настройванні вернікаў супраць савецкай улады, заклікаў іх да аб'яднання супраць бязбожнікаў». Прычынай абвінавачання было яго казанне, прамоўленае ў Юркавіцкай парафіі, якое датычыла адмовы ад святарства ксяндза Станіслава Жамайцюка, які публічна зрабіў гэта ў Юркавіцкім касцёле. Арышту папярэднічалі атакі ў прэсе, у якіх яго абвінавачвалі ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, і ў якіх заклікалі да пакарання ксяндза (артыкул «Контррэвалюцыйная вылазка юркавіцкага ксяндза Лук'яніна» ў газеце «Звязда», 2 кастрычніка 1929 г., № 225). Следства з удзелам шматлікіх сведкаў праводзілася ў Магілёве і Мінску на падставе арт. 84-А і 110 КК БССР.

3 лютага 1930 г. пастановай асобай нарады пры калегіі АДПУ было вынесена хадайніцтва аб пазасудовым прыгавору. 28 лютага пастановай Прэзідыюма УЦВК хадайніцтва задаволенае. 13 сакавіка 1930 г. пастановай калегіі АДПУ асуджаны згодна з арт. 58-10 КК РСФСР на 10 гадоў канцлагера.

Накіраваны ў Сызранскі ВПЛ, а пазней на Салаўкі, куды прыбыў 16 чэрвеня 1931 г. Працуючы ў лагеры на так званым «крамлі», спрабаваў наладзіць кантакт з консульствам Польшчы. Таксама спрабаваў звязацца са святарамі, якія знаходзіліся на галоўным востраве Салаўкоў (Савацеўскі ізалятар). Пасля выкрыцця ДПУ гэтых намаганняў яго становішча ў лагеры значна пагоршылася.

У 1932 г. арыштаваны ў ліку 32 святароў па групавой справе каталіцкага духавенства, якое абвінавачвалася у стварэнні «антысавецкай групоўкі, якая вяла антысавецкую агітацыю, тайна адпраўляла багаслоўскія і рэлігійныя абрады і здзяйсняла нелегальную сувязь з воляй для перадачы за мяжу звестак шпіёнскага характару пра становішча католікаў у СССР». Следства хадайнічала аб яго пераводзе ў Яраслаўскі палітізалятар і ўтрыманні асобна ад усіх. На Салаўках заставаўся да восені 1937 г.

Ізноў арыштаваны 9 кастрычніка 1937 г. і пастановай асобай «тройкі» УНКУС па Ленінградскай вобласці прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. 3 лістапада 1937 г. расстраляны ў Салавецкай турме. Рэабілітаваны 22 жніўня 1989 г. на падставе арт. 1 пастановы Прэзідыюма ВС СССР ад 16 студзеня 1989 г.[676]

## ЛУПІНОВІЧ КАРЛ-АЛЯКСАНДР КАРЛАВІЧ

Нарадзіўся 14 ліпеня 1891 г. у г. Докшыцы Мінскай губерні. Паходзіў з сям'і беларусаў-католікаў. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. У 1914 г. скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. З 1914 па 1917 г. вучыўся ў Петраградскай рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі. З восені 1914 г. быў членам беларускага гуртка студэнтаў акадэміі. У 1915 г. прыняў сакрамент святарства (паводле іншых звестак, у 1913 г.).

125.Беларускі гурток студэнтаў акадэміі. (Лупіновіч другі злева).

Душпастырскую дзейнасць пачаў на пасадзе вікарыя ў Мінску. Прымаў удзел у беларусізацыі нацыянальна-рэлігійнага жыцця. Выступаў перад вернікамі з беларускімі казаннямі. У 1919 г. арыштаваны ў Мінску як закладнік. Быў абменены на палоннага камуніста. Выконваў абавязкі пробашча Магілёўскага касцёла Св. Казіміра.

10 кастрычніка 1919 г. біскуп Цепляк прадпісаў Лупіновічу здаць справы магілёўскаму дэкану і накіравацца ў Гомель на пасаду гомельскага пробашча і дэкана. Але выезд Лупіновіча ў Гомель зацягнуўся. 10 студзеня 1920 г. біскуп Цепляк прызначыў Лупіновіча ўжо не пробашчам, а вікарыем у Гомельскі касцёл і выпісаў пасведчанне на яго імя. Пасля нядоўгага побыту ў Гомелі, у маі 1920 г., Лупіновіч выехаў у Жлобін на пасаду капелана Жлобінскай капліцы Антушаўскай парафіі. У ліпені 1921 г. вызвалены ад гэтай пасады і прызначаны вікарыем Маскоўскага касцёла Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1922—1923 гг. адміністратар Рэчыцкай парафіі Мазырска-Рэчыцкага дэканата. З 1924 г. працаваў пробашчам касцёла Пятра і Паўла ў Маскве. Абслугоўваў таксама капліцу ў Разані. З 1926 г. генеральны вікарый Маскоўскага дэканата, фактычна апостальскі адміністратар у Маскве.

20 лютага 1929 г. арыштаваны ў Маскве па падазрэнні ў шпіянажы і ўдзелу ў контррэвалюцыйнай арганізацыі. Неўзабаве быў вызвалены, даўшы падпіску аб супрацоўніцтве з органамі ДПУ. Паведаміў пра падпіску біскупу Пію (Нявё). 18 лютага (паводле іншых звестак, у ноч на 16 лютага) 1931 г. зноў арыштаваны.

18 лістапада 1931 г. пастановай калегіі АДПУ прыгавораны на падставе арт. 58-6, 10 і 11 КК РСФСР да 3 гадоў высылкі ў Казахстан. У снежні 1933 г. арыштаваны ў высылцы і этапаваны ў Мінск для прыцягнення да следства за шпіянаж. 29 сакавіка 1934 г. пастановай «тройкі» калегіі АДПУ па БССР прыгавораны да 3 гадоў высылкі. Накіраваны ў Казахстан. У чэрвені 1936 г. арыштаваны ў высылцы. 9 студзеня 1937 г. пастановай спецкалегіі Казахскага аддзялення Вярхоўнага суда РСФСР прыгавораны да 10 гадоў ППЛ. 11 снежня 1937 г. па Пастанове Камісіі НКУС прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны.[677]

126.Карл Лупіновіч у лагеры

МАЛЫНІЧ-МАЛІЦКІ МЕЧЫСЛАЎ

Нарадзіўся ў 1888 г. Шляхціч. У 1908 г. паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. З 1916 па 1923 г. — пробашч парафіі ў Моньках на Беласточчыне. Да яго першых абавязкаў належала будоўля парафіяльнага касцёла, які мусіў стаяць на ахвяраванай жыхарамі зямлі. Усяго было ахвяравана 20,23 га зямлі, на якой пазней быў размешчаны і цвінтар. Будоўля была пачата ў 1916 г., а 13 чэрвеня 1931 г. касцёл быў асвечаны.

У 1944 г. пераведзены віленскім біскупам Яблжыкоўскім з Бераставіцы ў Магілёў, дзе заняў пасаду пробашча кафедральнага касцёла. Восенню 1944 г. арыштаваны. У 1947 г. асуджаны. Пасля вызвалення пасяліўся ў 1954 г. у Слуцку, дзе, так і не атрымаўшы дазвол на рэгістрацыю, праводзіў набажэнствы ў адным з пакоеў свайго дома. Яшчэ ў ссылцы ўсталяваў сувязі з членамі касцельных камітэтаў Магілёва і Бабруйска, меў з імі перапіску, абнадзейваў хуткім вяртаннем на Магілёўшчыну.

Ксёндз Малыніч характарызаваўся ўладамі як *«махровый ярый реакционист, ватиканец, тонкий аферист и пройдоха, фанатик католицизма, ненавидящий Советский строй и коммунистическое мировоззрение»*. 26 кастрычніка 1956 г. упаўнаважаны па справах рэлігійных культаў К.Вярбіцкі выклікаў Малыніча, каб растлумачыць яму заканадаўства аб рэлігійных культах. На што Малыніч заявіў, што, нягледзячы ні на што і ня лічачыся ані з чым, да канца сваіх дзён ён будзе праводзіць ускладзеную на яго місію па падтрымцы і прапаведванні рэлігіі.

Ксёндз Малыніч атрымаў рашучае папярэджанне не праводзіць у Магілёўскай вобласці рэлігійную дзейнасць і не з’яўляцца на тэрыторыі вобласці па гэтых пытаннях. Малыніча гэта не напалохала, ужо 5 лютага 1957 г. ён ізноў прыехаў у Магілёў і быў затрыманы органамі міліцыі на чыгуначнай станцыі. У яго былі канфіскаваны свечкі і тэксты малітваў, раздрукаваныя на машынцы.

Перад Вялікаднём Малыніч ізноў прыехаў у Магілёў, каб адслужыць Імшу і асвяціць соль, якая потым разводзілася вадой і выкарыстоўвалася вернікамі для асвячэння вялікоднай ежы. Уладамі адзначалася высокая яўка вернікаў, а таксама прысутнасць матак з дзецьмі і моладзі. Вярбіцкім неаднойчы ставілася пытанне перад Саветам па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР каб Малыніча *«або зарэгістраваць у які-небудзь касцёл у заходніх абласцях, або прыняць меры па яго ізаляцыі»*.

Малыніч не спыняў спроб законна замацавацца ў Магілёве. Спачатку ён атрымаў часовую прапіску, пасля чаго стаў прыязджаць часцей. Потым 22 верасня 1958 г. аформіў куплю ў Юліі Сцяпанавай палову домаўладання за 8 тыс. руб. Дамова была зарэгістравана ў бюро тэхнічнай інвентарызацыі. У хаце быў усталяваны алтар, праводзіліся набажэнствы. Улады гэтым былі вельмі занепакоены і шукалі юрыдычныя падставы для апратэставання дагавору куплі-продажу праз суд. Адной з прычын скасавання дагавору было тое, што ксёндз знаходзіўся працяглы час у зняволенні, таму ў яго «не магло быць 8 тыс. руб. для такой пакупкі». Абласны суд 25 сакавіка 1959 г. прызнаў дагавор куплі-продажу несапраўдным. У другой

палове 1960 г. Малыніч быў затрыманы ў Асіповічах, пасля ў Магілёве і высланы за межы Магілёўскай вобласці.

На працягу 1960-х гг. Малыніч таемна прыязджаў у Гомель, Жлобін, Бабруйск, Грушаўку, Магілёў, Светлагорск, хрысціў, вянчаў, адпяваў. У апошнія гады жыцця ксёндз Малыніч яўна не пераследаваўся. Памёр у 1969 г., маючы 82 гады.[678]

МУСТЭЙКІС КАЗІМІР

Нарадзіўся ў 1874 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1899 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1901—1902 гг. быў вікарыем Ландскаронскай парафіі ў Люцынскім дэканаце (зараз – Латвія), у 1904 г. — вікарыем Казанскай парафіі, у гэтым жа годзе катэхізатарам у рэальным вучылішчы ў Ноўгарадзе, у 1906 г. — вікарыем Табольскай парафіі. У 1907—1908 гг. працаваў духоўнікам парафіі ў Спаскім Томскага дэканата (у 1917 г. налічвала 4 тыс. вернікаў). З 1909 да 1917 г. быў пробашчам Пермскай парафіі (1500 парафіян) і катэхізатарам рэальнага вучылішча.

З 1917 г. працаваў адміністратарам Антушаўскай парафіі ў Гомельскім дэканаце (у 1917 г. налічвала 2440 вернікаў). У сярэдзіне 1920-х гг. быў, акрамя таго, адміністратарам Рагачоўскай і Жлобінска-Карпілаўскай парафій.

У 1927 г., калі працаваў на пасадзе адміністратара Бабруйскай парафіі, на падставе сведчання камсамольскага актывіста быў абвінавачаны ў згвалтаванні маладой кабеты і схіленні яе пазней да аборту. Насуперак пратэстам вернікаў быў асуджаны на 4 гады зняволення і выплату аліментаў, аб чым было паведамлена ў газетах. У канцы 1929—пачатку 1930 г. яшчэ працаваў у Бабруйску. Паўторна арыштаваны, зняволены і ў пачатку 1930-х гг. асуджаны на 3 гады лагераў.

Праз год быў вызвалены дзякуючы намаганням літоўскіх уладаў і ў 1933 г. прыехаў у Літву. Яго брат быў міністрам ва ўрадзе Літвы і гэты факт дапамог вызваленню. Напярэдадні выезду вымушаны быў напісаць абавязацельства, што не вернецца ў СССР. У Літве працаваў святаром у Шаўляі ў калоніі для непаўналетніх злачынцаў. У 1933—1939 гг. быў рэктарам публічнай капліцы ў Юрдацяі (парафія Скайсгірыс Ковенскай дыяцэзіі).[679]

ПРЖАМОЦКІ ХРЫЗАГОН ЦЯРЭНЦЬЕВІЧ

Нарадзіўся ў 1863 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю і духоўную

акадэмію ў Пецярбургу, дзе атрымаў ступень магістра тэалогіі. Сакрамент святарства прыняў у 1886 г.

У 1889 г. стаў ад'юнктам-прафесарам біблійнай археалогіі ў духоўнай акадэміі і мітрапалітальнай духоўнай семінарыі. З 1894 г. вікарый парафіі Св. Кацярыны ў Пецярбургу. У 1897—1900 гг. пробашч і дэкан у Чэрыкаве, у 1900—1904 гг. адміністратар Быхаўскай парафіі, у 1904—1906гг. і 1910—1911 гг. адміністратар парафіі Св. Барбары ў Віцебску, у 1906—1907 гг. адміністратар Нясвіжскай парафіі і слуцкі дэкан, у 1908—1909 гг. адміністратар парафіі ў Дзвінску.

12 снежня 1911 г. прызначаны пробашчам Гомельскага касцёла і гомельскім дэканам, часова замяніў выконваючага абавязкі пробашча і дэкана Антонія Ячэйку. На гэтай пасадзе працаваў да 10 лістапада 1912 г., калі па яго просьбе яго перавялі пробашчам у Росіцкую парафію Віцебскай губерні. З 1914 г. працаваў пробашчам і дэканам у Омску. Два разы караўся царскімі ўладамі высылкай і зняволеннем.

У пачатку 1920-х гг. быў дэканам у Смаленску. Схемы Магілёўскай архідыяцэзіі за 1925—1927 гг., якія выдаваліся ў Польшчы, называюць яго святаром у Рослаўскай парафіі Смаленскага дэканата і Арлоўскай парафіі Харкаўскага дэканата. Таксама абслугоўваў касцёл Св. Пятра і Паўла ў Туле.

Быў арыштаваны 29 чэрвеня 1927 г. 22 красавіка 1930 г. асуджаны смаленскім судом на 5 гадоў лагера і 3 гады высылкі на падставе арт. 58-10 КК РСФСР *«за дыскрэдытацыю савецкай улады, якая заключалася ў тым, што не дазваляў дзецям уступаць у камуністычныя саюзы моладзі»*. Пржамоцкаму было тады ўжо 65 гадоў. Знаходзіўся ў цяжкім маральным і фізічным стане і ляжаў у турэмным шпіталі, у якім панаваў голад. Мясцовыя парафіяне звярталіся з просьбамі аб матэрыяльнай дапамозе для яго ў Польскі Чырвоны Крыж у Маскву. Звярталіся таксама ў мясцовае ДПУ, каб да яго дапусцілі святара для споведзі. Пасля ўмяшальніцтва дэлегацыі Польскага Чырвонага Крыжа гэта было дазволена.

Былі просьбы парафіян і аб тым, каб Пржамоцкага вызвалілі з прычыны яго хваробы і адпусцілі ў Рослаў на ўтрыманне парафіян. Гэта просьба засталася без адказу. Уладамі планавалася адправіць Пржамоцкага на Салаўкі, але 8 верасня (паводле іншых дадзеных, 10 верасня) 1930 г. ён памёр у Смаленскай турме. Пахаваны на парафіяльных могілках Смаленска. У Смаленскай капліцы захаваўся яго надмагільны помнік з прозвішчам (імя зацёрта) і датай смерці.[680]

РЫЛА ТЭАДОР ЛЮДВІКАВІЧ

Нарадзіўся ў 1884 г. Належаў да Магілёўскай архіядыяцэзіі, пазней Мінскай дыяцэзіі. У 1910 г. прыняў сакрамент святарства.

З 14 лютага 1911 г. працаваў у Харкаве ў якасці 5-га вікарыя. З 1 красавіка 1915 г. пробашч Алтушскай парафіі Сумскага павета. Быў законанастаўнікам дзяцей-католікаў у Сумскай Аляксандраўскай мужчынскай гімназіі, рэальным вучылішчы, 1-й і 2-й жаночых гімназіях, кадэцкім корпусе, Лебядзінскай мужчынскай гімназіі.

Пасля 1918—1919 г. працаваў на тэрыторыі Мінскай дыяцэзіі. Паводле спіса каталіцкага духавенства Мінскай дыяцэзіі за 1922 г., быў адміністратарам Бабруйскай парафіі і адміністратарам Свіслацкай парафіі Бабруйскага павета. Апошні даваенны святар, які нёс служэнне ў Жлобіне.

У 1930-х гг. жыў у Гродне. У сярэдзіне 1942 г. разам з групай каталіцкіх святароў там жа быў арыштаваны нацыстамі. У гэты час ён быў ужо пенсіянерам. Праз 2 месяцы святароў вызвалілі. Другі раз гродзенскія святары былі арыштаваны ў 1943 г. У снежні 1944 г. Рыла быў арыштаваны ў Гродне НКУС «за сувязь з гестапа». Асуджаны да 15 гадоў лагеру з канфіскацыяй маёмасці. І хоць даказаць сувязь з нацыстамі спецслужбы не змаглі, для асуджэння аказалася дастаткова таго, што нацысты не расстралялі, а толькі збілі ксяндза і пэўны час пратрымалі ў турме, а потым выпусцілі. Быў адпраўлены ў лагер, дзе памёр у 1950 г.[681]

САБАЧЫНСКІ МЕЧЫСЛАЎ ФЕЛІКС ЮЗАФАВІЧ

Нарадзіўся ў 1886 г. Належаў да Улацлаўскай дыяцэзіі. Скончыў духоўную семінарыю ва Улацлаўку. У 1909 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1913—1917 гг. вучыўся ў духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Да ліпеня 1921 г. быў філіялістам Люшаўскага касцёла. Пасля прызначаны ў Віцебск вікарыем касцёла Св. Антонія. У 1922—1930 гг. быў адміністратарам Слуцкай парафіі і апекаваў капліцу ў Замошшы Докшыцкай парафіі Барысаўскага дэканата.

У 1930 г. арыштаваны. У 1933 г. ізноў арыштаваны. Па пастанове «тройкі» ад 24 лютага 1934 г. заключаны ў лагер на 10 гадоў. У 1937 г. быў вязнем лагера ў Тэміртау. Далейшы лёс невядомы.[682]

СВЯТАПОЛК-МІРСКІ ЯЎГЕН

Нарадзіўся ў 1876 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1896 г. прыняў сакрамент святарства.

З 1902 г. па 1904 г. быў вікарыем у Табольскай парафіі, потым рэктарам касцёла ў Краснаярску. У 1906—1908 гг. законанастаўнік у гімназіі і іншых навучальных установах Гомеля, заснавальнік Гомельскага каталіцкага таварыства дабрачыннасці. У 1910 г. вярнуўся ў Краснаярск. У 1912 г. пробашч прыкатэдральнага сабора ў Пецярбургу і законанастаўнік у пецярбургскай французкай жаночай гімназіі Reville-Capronier. У тым жа годзе стаў пробашчам катэдральнай парафіі Магілёва (у 1918 г. налічвала 3030 вернікаў) і магілёўскім дэканам. Паводле меркаванняў сучаснікаў, па сваім характары і здольнасцях быў кандыдатам у біскупы.

8 лютага 1918 г. арыштаваны ў Магілёве па загаду 3-х магілёўскіх народных камісараў: Аронава, Гольдберга і Гольдмана. Яму інкрымінавалася контррэвалюцыйная дзейнасць, спрыянне польскаму войску, прыналежнасць да Польскай Вайсковай Арганізацыі і хаванне польскіх жаўнераў.

28 лютага 1918 г. рэвалюцыйным трыбуналам прысуджаны да расстрэлу. Парафіяне, што былі ў гэты момант у залі суда, сталі яго бараніць. Чырвонаармейцы пачалі страляць, паранілі і забілі некалькі чалавек, у тым ліку 2-х маладых полек. Святаполка-Мірскага і двух хлопцаў, аднаго з якіх звалі Альфонс Прускі, бальшавікі ў той самы дзень вывезлі за горад і пасля жорсткіх шматгадзінных катаванняў забілі.

Паводле слоў магілёўскіх католікаў, пад час катаванняў бальшавікі патрабавалі, каб ксёндз засведчыў, што не верыць у Бога ці што Бога няма. На гэта ксёндз адказаў: «Можаце забіць цела, але душу не заб’еце». На наступны дзень парафіяне знайшлі цела пастыра з 5 агнястрэльнымі і 4 нажавымі ранамі, разбітай галавой і зламанымі рукамі. Улады забаранілі абрад пахавання, дазволіўшы толькі пахаваць цела на месцы гібелі.

Пасля прыходу ў горад польскіх войск генерала Я.Доўбар-Мусніцкага целы ксяндза і хлопцаў былі эксгумаваныя і з пашанаю пахаваныя на каталіцкіх могілках з удзелам войска і вялікай колькасьці вернікаў. На 6-конных гарматных лафетах труны з закатаванымі, накрытыя бела-чырвонымі сцягамі, былі прывезены на каталіцкія могілкі Магілёва.

127.Фота з мяркуемага пахавання ксяндза Мірскага.

Магіла ксяндза Святаполка-Мірскага захавалася да нашых дзён.[683]

128.Магіла Я. Святаполка-Мірскага.

СКАРУПКА ІГНАЦЫ ЯН

Нарадзіўся 19 ліпеня 1893 г. у Варшаве. Належаў да Варшаўскай архідыяцэзіі. Скончыў Варшаўскую духоўную семінарыю. Пасля сканчэння семінарыі быў накіраваны ў Петраградскую рыма-каталіцкую духоўную акадэмію. 26 студзеня 1916 г. прыняў сакрамент святарства з рук біскупа Яна Цепляка.

Апекаваўся сям'ёй і хворай маці, якія знаходзіліся ў Петраградзе ў эвакуацыі. З-за гэтага не здаў экзаменаў. Скарупка перарваў навучанне і цалкам аддаўся душпастырскай працы сярод уцекачоў з Польшчы. Некалькі мясяцаў працаваў у Багародску (цяпер Нагінск) пад Масквой. Потым, з верасня 1917 г. — у Клінцах каля Гомеля (цяпер Бранская вобласць Расіі), дзе адчыніў школу для дзяцей польскіх уцекачоў. Па неправераных звестках пазбегнуў арышту бальшавікамі і вымушаны быў некалькі месяцаў знаходзіцца ў падполлі. Завочна яму быў вынесены смяротны прысуд.

4 верасня 1918 г. змог дабрацца да Варшавы. Быў накіраваны на пасаду вікарыя ў Лодзь. У ліпені 1919 г. вярнуўся ў Варшаву, дзе атрымаў пасаду натарыюса і архівіста ў Варшаўскай мітрапалітальнай курыі. Працаваў таксама капеланам прытулку для бяздомных, а таксама катэхізатарам у дзвюх варшаўскіх сярэдніх школах.

У ліпені 1920 г. быў прызначаны варшаўскім арцыбіскупам Аляксандрам Какоўскім капеланам для вайсковых частак, якія накіроўваліся на польска-савецкі фронт. Пасля быў капеланам 236 дабраахвотнага палку ветэранаў Студзеньскага паўстання. На фронт вырушыў у званні капітана. Загінуў у бітве пад Асовам 14 жніўня 1920 г. Пасмяротна яму было нададзена званне маёра і ўзнагарода — крыж «Віртуці Мілітары».[684]

ТАМАШЭЎСКІ МІХАІЛ ЮР'ЕВІЧ

Нарадзіўся 6 красавіка 1876 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі, пазней Пінскай дыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1906 г. прыняў сакрамент святарства.

Спачатку, з 1907 г., быў часовым вікарыем (pro tempore) Полацкай парафіі. Пазней, з 1910 па 1912 г., служыў капеланам пры касцёле ў Курску. У 1912 г. адміністратар Прыдруйскай парафіі, з 1913 да 1915 г. — Антушаўскай парафіі. У 1915 г. адміністратар Лужскай парафіі ў Петраградскім дэканаце. Пасля аднаўлення ў 1917 г. Мінскай дыяцэзіі працаваў на яе тэрыторыі і ў 1919 г. быў рэктарам капліцы ў Халяўшчыне Мінскага дэканата, пазней рэктар касцёла Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыі ў Мінску.

Быў арыштаваны і асуджаны Вышэйшым рэвалюцыйным трыбуналам БССР у маі 1922 г. разам з 2-ма іншымі ксяндзамі (Адамам Лісоўскім і Янам Васілеўскім), а таксама групай парафіян за супраціўленне пры канфіскацыі касцельных і літургічных рэчаў. Старшыня (Мар’ян Стакоўскі) і члены трыбунала (Ян Кепе, Адам Славінскі, Ян Шашкевіч), а таксама 2 абвінаваўцы (Юліян Ляшчынскі і Станіслаў Пястковускі) былі палякамі-камуністамі. Працэс адбываўся на польскай мове. Тамашэўскі быў асуджаны на 4 гады зняволення з прымяненнем прымусовай працы. Утрымліваўся ў Маскве ў Бутырцы.

28 красавіка 1924 г. шляхам абмену вязняў прыбыў у Польшчу. З 1926 г. рэктар філіяльнага касцёла ў Орлі Бельска-Падляскай парафіі Пінскай дыяцэзіі. Пазней (1929 г.) быў пробашчам Морацкай парафіі ў Пінскім дэканаце. З 1928 г. член і сакратар дыяцэзіяльнай рады, а таксама натарыюс біскупскага суда ў Пінску. Памёр у Пінску 19 лютага 1934 г.[685]

ЦАКУЛЬ МІХАІЛ ХРЫСТАФОРАВІЧ

Нарадзіўся 23 кастрычніка 1885 г. у Рэвелі (Таліне). Латыш. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1908 г. прыняў сакрамент святарства.

З 20 студзеня 1909 г. вікарый у Гомелі, займаўся абслугоўваннем капліц Гомельскай парафіі. У тым жа годзе прызначаны на пасаду вікарыя Іркуцкага касцёла. 31 ліпеня 1909 г. зноў прызначаны вікарыем у Гомельскі касцёл, пазней (1910 г.) вікарый Рудня-Шлягінскай парафіі Гомельскага дэканата.

1 лютага 1912 г. празначаны вікарыем Гомельскага касцёла, 26 кастрычніка 1912 г. — пробашчам Чыцінскай парафіі. Пазней быў пробашчам у Сімбірску. У 1914—1917 гг. апекаваў уцекачоў з Польшчы ў Сімбірску (1195 католікаў). У 1919 г. адміністратар парафіі Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі «на Грузінах» у Маскве. У 1925 г. і, напэўна, пазней, быў дэканам у Полацку, а таксама часова адміністратарам упамянутай парафіі ў Маскве.

Першы раз быў арыштаваны ў Маскве 26 сакавіка 1924 г. і праз тыдзень (3 красавіка) вызвалены. 6 снежня 1924 г. справа супраць яго была спынена. У другі раз арыштаваны ў Маскве 14 лютага 1927 г., вызвалены праз 3 гадзіны. У трэці раз арыштаваны 12 лютага 1929 г. (паводле следчай анкеты, 20 лютага). 12 сакавіка 1929 г. абвінавачаны на падставе арт. 58-6, 58-10 і 58-11 КК СССР (цяжкія палітычныя злачынствы), але 3 мая 1929 г. вызвалены пад падпіску. За ім быў устаноўлены нагляд. Чарговы раз арыштаваны 14

красавіка 1931 г. у Маскве і абвінавачаны ў тым, што «на працягу некалькіх гадоў праводзіў разнародную контррэвалюцыйную і антыдзяржаўную дзейнасць, а таксама прапольскую агітацыю».

Ксёндз Цакуль, а таксама ксёндз К.Лупіновіч, пробашч парафіі Св. Пятра і Паўла ў Маскве, на падставе арт. 58-6, 58-10 і 58-11 КК СССР былі абвінавачаны ў тым, што «у час ліквідацыі шпіёнскіх, контррэвалюцыйных і антысавецкіх нацыяналістычных польскіх груп з асяродку парафіян маскоўскіх касцёлаў Пятра і Паўла ў Мілюцінскім завулку і Беззаганнага Пачацця на Грузінах удзельнічалі ў арганізаванні нелегальнай дапамогі арыштаваным; касцельнага хору; групы нелегальнага кляштара; контррэвалюцыйнай групы тэрцыяраў; групы католікаў усходняга абраду і іншых».

У выніку аперацыйных дзеянняў і следства ад Цакуля было атрыманае прызнанне, быццам бы ён «вёў контрразведвальную работу на карысць Польшчы ў перыяд з 1920 да 1926 г.; выкарыстоўваў касцёл для контррэвалюцыйных мэтаў і антысавецкай дзейнасці ў форме казанняў, антысавецкай агітацыі і арганізацыі нелегальных гурткоў тэрцыярак; удзельнічаў у арганізацыі контррэвалюцыйных груп вучняў і студэнтаў у перыяд з 1919 да 1923 г., актыўнай дапамогі католікам усходняга абраду (экзарх Салаўёў і інш.)

Далейшыя прызнанні ксяндза Цакуля ўтрымлівалі вельмі падрабязны вопіс быццам бы здзейсненых ім і іншымі асобамі цяжкіх палітычных злачынстваў. 18 лістапада 1931 г. ён быў прыгавораны да 3-х гадоў высылкі «мінус 12» (забарона пражываць у 12-ці буйнейшых гарадах СССР), з загадам пасяліцца ў Тамбове. Пачаткам пасялення вызначана 14 красавіка 1931 г. У студзені 1932 г. вернікі з касцёла Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Маскве звярнуліся да пасла Польшчы з тым, каб ён умяшаўся і садзейнічаў вызваленню ксяндза Цакуля, які на працягу года ўтрымліваўся без прыгавору пад арыштам. Рапарты пасольства Польшчы ў Маскве гавораць аб яго калабарацыі з ДПУ. У снежні 1933 г. прыгавор аб высылцы быў адменены, і ксёндз Цакуль атрымаў дазвол на пражыванне ў Маскве і выкананне ім абавязкаў пробашча парафіі Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама парафіі Св. Пятра і Паўла, пробашч якой К.Лупіновіч утрымліваўся ў зняволенні.

Ізноў арыштаваны 3 мая 1937 г. за адпраўленне святой Імшы з нагоды нацыянальнага свята Польшчы, якую здзейсніў па просьбе пасла Польшчы Вацлава Гжыбоўскага. Разам з ім былі арыштаваны і высланы ў лагеры арганіст і жонка касцельнага (вартаўніка). Пасля

некалькіх месяцаў, праведзеных у Бутырцы, быў асуджаны да працы ў лагерах.

Пастановай асобай нарады НКУС прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны. Цакуль быў апошнім польскім душпастырам у Маскве ў міжваенны перыяд.[686]

ЧАЕЎСКІ ІГНАЦЫ КАРЛАВІЧ

Нарадзіўся ў 1868 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Сын адстаўнога унтэр-афіцэра. У 1881 г. скончыў Пецярбургскае павятовае вучылішча, у 1885 г. — Пецярбургскую Пятую гімназію. У 1885 г. паступіў у рыма-каталіцкую духоўную семінарыю, пасля сканчэння 4-х курсаў якой пераведзены для далейшай адукацыі ў рыма-каталіцкую духоўную акадэмію. Скончыў яе ў 1893 г. Пастановай акадэмічнай канферэнцыі, якая адбылася 8 чэрвеня 1892 г., удастоены ступені кандыдата, а пастановай 5 ліпеня 1893 г. — ступені магістра багаслоўя. 4 меншыя ступені святарства прыняў у 1887 г. ад магілёўскага мітрапаліта Гінтаўта. У вышэйшыя ступені пасвячоны магілёўскім суфраганам біскупам Сымонам, а менавіта: на іпадыякана 14 чэрвеня 1892 г., на дыякана 23 жніўня таго ж года і на святара 20 лютага 1893 г.

Прызначаны на пасаду законанастаўніка гомельскіх мужчынскай і жаночай прагімназій 1 жніўня 1893 г. 16 верасня 1893 г. пераведзены на пасаду вікарыя касцёла Св. Кацярыны ў Пецярбургу. У 1894—1897 гг. быў вікарыем і законанастаўнікам у Кацярынбургу, у 1903—1911 гг. пробашчам у Харкаве. У 1911—1916 гг. пробашч парафіі Св. Пятра і Паўла ў Маскве і маскоўскі дэкан. З 1916 г. працаваў сакратаром мітрапалітальнай курыі ў Петраградзе, а пазней законанастаўнікам мужчынскай гімназіі пры касцёле Св. Кацярыны.

У красавіку 1920 г. арыштаваны ў Петраградзе. Вызвалены праз 2 тыдні праз цяжкую хваробу. Выехаў у Польшчу. Памёр у Варшаве 19 студзеня 1922 г.[687]

ЧЫРСКІ ФРАНЦ ТАМАШАВІЧ

Нарадзіўся ў 1882 г. у Ярмолінцах на Падоллі.[688] Належаў да Камянецкай дыяцэзіі. Скончыў духоўную семінарыю ў Жытоміры. Сакрамент святарства прыняў у 1905 г.

У 1906 г. быў вікарыем Валочыскай парафіі Крэменецкага дэканата,[689] а ў наступным 1907 г. — адміністратарам Птычскай парафіі ў Дубненскім дэканаце. У 1910 г. адміністратар Арынінскай парафіі і пробашч касцёла Св. Тройцы ў Камянецка-Падольскім дэканаце. У 1914 г. вікарый катэдры ў Жытоміры. У 1917—1918 гг.,

а магчыма, і пазней, быў пробашчам Арынінскай парафіі (3310 вернікаў). У 1920-х гг. пробашч Ярмолінскай парафіі.

Арыштаваны 28 чэрвеня 1922 г. на свята Пятра і Паўла конным атрадам ЧК. У час гэтай акцыі чэкісты стралялі і білі нагайкамі вернікаў, якія маліліся. На ксяндзоў, якія апынуліся ў руках чэкістаў, была накладзена кантрыбуцыя. У час судовага працэсу, які адбыўся пасля гэтай акцыі, ксёндз Чырскі быў абвінавачаны ў контррэвалюцыі. У 1922 г. апекаваў Фельштынскую парафію (цяпер Гвардзейскае, касцёл Св. Войцеха) у Пласкіраўскім дэканаце.

16 студзеня 1930 г. ізноў арыштаваны ДПУ УССР. Разам з ім былі кінуты за краты 30 ксяндзоў і актывістаў Жытомірскай і Камянец-Падольскай дыяцэзій, сярод якіх былі апостальскі адміністратар Я.Свідэрскі, дэканы Я.Лявінскі і Я Ладыга. Большасць з іх у маі—чэрвені 1930 г. былі асуджаны спецкалегіямі аблсудоў і ДПУ да шматгадовых тэрмінаў у канцлагерах. Матэрыялы следства, якія тычыліся 31 абвінавачанага (20 касцельных актывістаў і 11 іх душпастыраў — Ф.Чырскага, Я.Свідэрскага, Я.Лявінскага, І.Медушэўскага, К.Наскрэнцкага, Ф.Забускага, А.Скальскага, Я. Ладыгі, С.Кваснеўскага, Р.Шышкі і Ф.Андрушэвіча) былі аб’яднаны ў адну «Справу пра польскую контррэвалюцыйную і шпіёнскаю арганізацыю на Правабярэжнай Украіне», разгледжаную за зачыненымі дзвярыма надзвычайнай сесіяй Вярхоўнага Суда УССР 21—27 чэрвеня 1930 г.

Пад час следства Ф.Чырскі знаходзіўся пад арыштам у Пласкіраве, Харкаве, Кіеве і зноў у Харкаве (з 15 чэрвеня 1930 г.). Усім абвінавачаным інкрымінаваліся злачынствы, прадугледжаныя першым раздзелам спецчасткі КК УССР. Пад назвай «Контррэвалюцыйныя злачынствы» аб’ядноўваліся артыкулы ад 54-1 да 54-14, якія прадугледжвалі пакаранні да 10 гадоў пазбаўлення волі, а таксама «вышэйшую меру сацыяльнай абароны» — расстрэл.

Ксяндзам было прад’яўленае абвінавачанне ў арганізацыйнай дзейнасці, скіраванай на звяржэнне, падрыў альбо аслабленне ўлады. Амаль усім ставіліся ў віну таксама *«зносіны з контррэвалюцыйнай мэтай з іншаземнай дзяржавай альбо асобнымі яе прадстаўнікамі»* (арт. 54-3), *«дапамога ўсялякім спосабам той частцы міжнароднай буржуазіі, якая, не прызнаючы раўнапраўя камуністычнай сістэмы, што прыходзіць на змену капіталістычнай сістэме, прагне яе звергнуць»* (арт. 54-4), *«падбухторванне іншаземнай дзяржавы ці нейкіх яе грамадскіх груп… да абвяшчэння вайны, да збройнага ўмяшання ў справы Саюза ССР»* (арт.54-5), шпіёнства (арт. 54-6) і антысавецкая прапаганда і агітацыя (арт. 54-10).

Нягледзячы на сціслыя тэрміны следства, оперупаўнаважаныя ДПУ, якія паспелі набіць руку на такіх справах, здолелі напрацаваць

і накіраваць у суд каля 90 аб’ёмных тамоў матэрыялаў (анкеты арыштаваных, пратаколы допытаў, вобыскаў, вочных ставак і г.д.). Маштабы справы і цяжкасць абвінавачанняў не перашкодзілі больш чым аператыўнаму яе разгляду: судовы працэс у Харкаве працягваўся ўсяго тыдзень і скончыўся вынясеннем суворага выраку практычна ўсім абвінавачаным. Ф.Чырскі быў прыгавораны да 7 гадоў лагераў і 5 гадоў пазбаўлення ў правах без канфіскацыі маёмасці (арт. 29 КК УССР).

Памылкова разам з 10 іншымі ксяндзамі высланы ў лагер у Котлас, адкуль праз 2 тыдні ўсе былі накіраваны ў палітізалятар у Яраслаўлі. У другой палове 1930 г. Ф.Чырскі сядзеў разам з ксяндзом Антоніем Куроўскім, а пазней у адзіночнай камеры. З 25 лістапада 1930 г. да верасня 1935 г. знаходзіўся на Салаўках (у верасні 1933 г. быў у лагеры Кем). Яго родны брат 28 студзеня 1936 г. звяртаўся да прымаса Польшы з просьбай аб унясенні Чырскага ў спіс абмену вязнямі (абмены вязнямі паміж Польшчай і СССР скончыліся ў 1932 г.). 20 студзеня 1937 г. быў у ссылцы ў Мцэнску (цяпер Арлоўская вобласць), а ў лютым—сакавіку ў Карачаве (цяпер Бранская вобласць). Яго астатні ліст да Польскага Чырвонага Крыжа ў Маскве быў адпраўлены з Бранска.

У другой палове 1937 г. знаходзіўся ў Гомелі. Быў пробашчам Гомельскага касцёла. Арыштаваны 6 лістапада 1937 г. Па пастанове камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 22 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 лістапада 1937 г. у Гомелі. Рэабілітаваны 16 студзеня 1989 г. Вядома, што перад вайной яго маці, сястра і брат жылі ў Валачысках Пласкіраўскага павета.[690]

ШАЦІЛА АЛЬБІН АЛЬБІНАВІЧ

Нарадзіўся 2 студзеня 1887 г. на Беларусі. Належаў да магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1917 г. прыняў сакрамент святарства

У 1919—1924 гг. працаваў спачатку выконваючым абавязкі, а з 5 мая 1920 г. адміністратарам Чачэрскай парафіі ў Гомельскім дэканаце. Да лістапада 1922 г. адначасова быў загадчыкам Журовіцкага і Астроўскага касцёлаў. З 1924 г. адміністратар Фашчаўскай парафіі і іншых навакольных парафій, якія не малі душпастыра, у Магілёўскім дэканаце.

Арыштаваны ў жніўні 1929 г. Кіраўнік генеральнага консульства Польшчы ў Мінску Г.Янкоўскі даносіў 26 верасня 1929 г. польскаму пасольству ў Маскве пра месячны арышт Шацілы і вызначаў яго як пробашча ў Койданаве (Дзяржынску). У пачатку 1930 г. быў яшчэ ў зняволенні. Па вызваленні меў дазвол на

адпраўленне набажэнстваў на ўсёй тэрыторыі БССР. Восенню 1930 г. быў адміністратарам парафіі Святых Сымона і Алены ў Мінску. Знайшоў магчымасць пабачыцца з арыштаваным і часова перабываючым у Мінскім папраўчым доме апостальскім адміністратарам у Беларусі біскупам Балеславам Слоскансам. Інфармаваў яго аб высокіх падатках на касцёл (5 тыс. руб.) і асабістых падатках (7 тыс. руб.), якія святары не маглі заплаціць, аб правакацыях і ўціску, нечуваных абмежаваннях у душпастырскай працы і пагрозе арыштаў. Адзначыў, што жыццё ў лагеры на Салаўках было б значна лягчэйшым. Ізноў быў арыштаваны ў студзені 1932 г. у Мінску. 14 снежня 1932 г. за «контррэвалюцыйнаю дзейнасць і шпіянаж» асуджаны на 10 гадоў лагера і высланы на Салаўкі. У тым жа годзе быў зняволены ў лагеры на востраве Анзер.

Быў арыштаваны ў лагеры і 9 кастрычніка 1937 г. пастановай асобай «тройкі» УНКУС па Ленінградскай вобласці прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 3 лістапада 1937 г. у Салавецкай турме.[691]

ШУКЕЛЬ ІГНАЦЫ

Нарадзіўся ў 1877 г. Належаў да Магілёўскай архідыяцэзіі. Скончыў мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1903 г. прыняў сакрамент святарства.

У 1905—1909 гг. працаваў адміністратарам Нежынскай парафіі ў Гомельскім дэканаце. У 1909—1928 гг. быў адміністратарам Станькаўскай парафіі ў Віцебскім дэканаце. З паловы 1920-х гг. пад яго апекай знаходзіліся таксама іншыя парафіі, якія засталіся без святароў. З 1930 г. — пробашч парафіі Св. Антонія ў Віцебску.

У 1932 г. быў арыштаваны ДПУ і абвінавачаны ў прыналежнасці да ПВА. Асуджаны і накіраваны ў Салавецкі лагер. Памёр у лагеры ў 1935 г.[692]

ЯЧЭЙКА АНТОНІ ІГНАЦЬЕВІЧ

Нарадзіўся ў 1873 г. у Мінскай губерні. Належаў да Магілёўскай архіядыяцэзіі. З сялян. З 1886 па 1892 г. вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. У 1892 г. паступіў у мітрапалітальную духоўную семінарыю ў Пецярбургу, якую скончыў у 1896 г. У снежні таго ж года ад магілёўскага суфрагана біскупа Францыска Альбіна Сымона прыняў сакрамент святарства.

У лютым 1897 г. быў прызначаны вікарыем Гомельскай парафіі. З 24 верасня 1911 г. да 12 снежня 1911 г. выконваў абавязкі пробашча касцёла і гомельскага дэкана, а пасля працаваў пробашчам Віцебскага касцёла Св. Барбары. 10 лістапада 1912 г. прызначаны

гомельскім дэканам і пробашчам, змяніўшы на гэтых пасадах ксяндза Пржамоцкага. Уступіў на пасаду 6 снежня. З 1919 г. знаходзіўся ў Сноўску (Шчорс), толькі намінальна застаючыся гомельскім дэканам і пробашчам Гомельскага касцёла. Абавязкі гомельскага дэкана і пробашча ў час яго адсутнасці па чарзе выконвалі Павел Бірнік, Міхаіл Шчэнх, Леан Буйноўскі, Канстанцін Андрэкус. У сярэдзіне 1922 г. афіцыйна вызвалены з пасадаў гомельскага дэкана і пробашча Гомельскага касцёла і прызначаны загадчыкам Сноўскага касцёла. 2 кастрычніка 1922 г. вызвалены з пасады капелана Сноўскага касцёла і прызначаны выконваючым абавязкі пробашча Каралішчаўскага касцёла ў Мінскім дэканаце.

Апостальскі адміністратар у Маскве біскуп Нявё ў спісе 45 ксяндзоў, якія працавалі ў Беларусі і Украіне ў пачатку 1933 г., таксама называе яго як душпастыра ў Каралішчавічах. Паводле ліста генеральнага консульства Польшчы ў Мінску ад 22 лютага 1934 г. у пасольства Польшчы ў Маскве, у якім гаворка ішла між іншым аб арышце ў 1933 г. у Беларусі 6 ксяндзоў (Адама Пушкар-Хмялеўскага з Мінска, Юзафа Пяткевіча з Капыля, Мечыслава Сабачынскага з Слуцка, Адольфа Крывіцкага з Барысава, Яна Мацяёўскага з Блоні і Мікалая Канцэвіча з Полацка), заставаўся надалей у Каралішчавічах. Арыштаваны і расстраляны ў 1938 г.[693]

## II. АСОБЫ КАТАЛІЦКАГА І ПОЛЬСКАГА ПАХОДЖАННЯЎ, РЭПРЭСІРАВАНЫЯ САВЕЦКІМІ ЎЛАДАМІ[694]

### 1. ГОМЕЛЬ

Акунеўскі Каспер Касперавіч

Нарадзіўся ў 1884 г. у Варшаве. Жыў у Гомелі, працаваў кухарам у рэстаране парка. Арыштаваны 3 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 27 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Акушка Сямён Мацвеевіч

Нарадзіўся ў 1908 г. у Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў на лесакамбінаце імя Гікалы. Арыштаваны 5 жніўня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 17 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Альшэўскі Васіль Адамавіч

Нарадзіўся ў 1903 г. у Магілёўскай вобласці. Жыў у пасёлку Касцюкоўка, працаваў майстрам на шклозаводзе. Арыштаваны 18

лістапада 1937 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 10 снежня 1937 г. зняволены на 10 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Аляшкевіч Эмілія Юлісаўна.

Нарадзілася ў 1901 г. у Днепрапятроўску. Жыла ў Гомелі, працавала старшым камендантам у школе ФЗН № 2. Арыштавана 28 лютага 1945 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 19 ліпеня 1947 г. выслана ў Краснаярскі край на 5 гадоў. Вызвалена 27 лютага 1950 г.

Андрыевіч Юрый Францавіч

Нарадзіўся ў 1887 г. у маёнтку Рачное ў Латвіі. Жыў у Гомелі, працаваў сталяром у арцелі «Прагрэс». Арыштаваны 22 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 24 студзеня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Арліцкі Станіслаў Браніслававіч (Баляслававіч)

Нарадзіўся ў 1911 г. у Полацкім раёне Віцебскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў бракёрам на кандыцерскім камбінаце «Спартак». Арыштаваны 27 жніўня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 30 лістапада 1937 г. зняволены на 10 гадоў у лагеры. Вызвалены ў 1947 г.

Арлоўскі-Астроўскі Вальдэмар (Іосіф) Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1921 г. у Гродне. Жыў у Гомелі. Навучэнец курсаў электразваршчыкаў суднарамонтнага завода. Арыштаваны 10 лютага 1940 г. Пастановай асобай нарады пры наркаме ўнутраных спраў СССР ад 25 чэрвеня 1940 г. зняволены на 5 гадоў у лагеры. Пакаранне адбываў у Архангельскай вобласці. Далейшы лёс невядомы.

Аскерка Міхаіл Вікенцьевіч.

Нарадзіўся ў 1898 г. у Барысаве. Жыў у Навабеліцы, працаваў рабочым на фабрыцы «Везувій». Арыштаваны 30 чэрвеня 1941 г. Пастановай ваеннага трыбунала Беларускай чыгункі ад 6 ліпеня 1941 г. прыгавораны да 8 гадоў зняволення ў ППЛ[695].

Бараноўскі Васіль Ігнатавіч.

Нарадзіўся ў 1900 г. у в. Малінаўка Жытомірскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў рабочым на заводзе імя Кірава. Арыштаваны 31 снежня 1944 г. Пастановай асобай нарады пры МДБ СССР ад 18 студзеня 1947 г. высланы ў Цюменскую вобласць на 5 гадоў.

Асташкевіч Валерыя Антонаўна

Нарадзілася ў 1904 г. у горадзе Ціхвін Ленінградскай вобласці. Жыла ў Гомелі, працавала настаўніцай школы 7-га дывізіёна міліцыі. Арыштавана 27 жніўня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 г. зняволена на 6 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Астроўская Антаніна Юльянаўна

Нарадзілася ў 1880 г. у Краснапольскім раёне Магілёўскай вобласці. Жыла ў Гомелі, працавала рабочай у парку імя Луначарскага. Арыштавана 5 снежня 1935 г. Па пастанове Вярхоўнага суда БССР ад 20 мая 1936 г. зняволена на 5 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Астроўскі Антон Казіміравіч

Нарадзіўся ў 1885 г. у Мінску. Жыў у Гомелі, працаваў майстрам на чыгунцы. Арыштаваны 10 чэрвеня 1938 г. Пастановай нарады НКУС СССР ад 16 мая 1938 г. зняволены на 10 гадоў у лагеры. Загінуў у месцы адбыцця пакарання 3 студзеня 1943 г.

Астроўскі Браніслаў Казіміравіч

Нарадзіўся ў 1905 г. у вёсцы Насовічы Добрушскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў радыстам-тэлеграфістам канторы сувязі. Арыштаваны 8 жніўня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 года зняволены на 8 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Астроўскі Фелікс Мікалаевіч

Нарадзіўся ў 1884 г. у Польшчы. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам на гарадской электрастанцыі. Арыштаваны 5 снежня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 5 студзеня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 11 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Багдановіч Сігізмунд Францавіч

Нарадзіўся ў 1884 г. у вёсцы Халаднікі Дзяржынскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў у лазні цагельнага завода. Арыштаваны 2 верасня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 28 верасня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 7 кастрычніка 1937 г. у Гомелі.

Баркоўскі Іосіф Юльянавіч

Нарадзіўся ў вёсцы Дамашы Лагойскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў грузчыкам на базе металалому. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 19 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Бароўскі Пётр Феліксавіч

Нарадзіўся ў 1885 г. у Латвіі. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам на заводзе «Гомсельмаш». Арыштаваны 11 лютага 1938 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 16 мая 1938 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Барткевіч Эдуард Пятровіч.

Нарадзіўся ў 1900 г. у Латвіі. Жыў у Гомелі, працаваў настаўнікам. Арыштаваны 22 ліпеня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 3 студзеня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 11 верасня 1938 г.

Барткова Казіміра Іванаўна

Нарадзілася ў 1885 г. у в. Яшкевічы Мінскай вобласці. Жыла ў Гомелі, працавала санітаркай у паліклініцы воднікаў. Арыштавана 5 снежня 1935 г. Пастановай Вярхоўнага суда БССР ад 20 мая 1935 г. зняволена на 3 гады ў ППЛ.

Беразоўскі Іван Яўстафіевіч

Нарадзіўся ў 1911 г. у в. Зажэвічы Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў загадчыкам склада аб’яднання «Белкамунбуд». Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 5 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Бончык Іосіф Іванавіч

Нарадзіўся ў 1897 г. у Люблінскім ваяводстве, Польшча. Жыў у Гомелі, працаваў кацельшчыкам на паравозарамонтным заводзе. Арыштаваны 8 чэрвеня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 18 ліпеня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Брадоўскі Антон Юльянавіч

Нарадзіўся ў 1906 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў інспектарам у гарфінаддзеле. Арыштаваны 8 ліпеня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 19 кастрычніка 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.

Буйноўскі Казімір Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1911 г. у г. Шаўляй, Літва. Жыў у Гомелі, працаваў культработнікам. Арыштаваны 3 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 11 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 кастрычніка 1938 г.

Бучукас Іван Адамавіч (Надварас Антон Юр’евіч)

Нарадзіўся ў 1893 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў упаўнаважаным камітэта нарыхтовак. Арыштаваны ў 1937 г. Пастановай наркама НКУС СССР і пракурора СССР ад 9 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 лютага 1938 г. у Мінску.

Быкоўскі Дамінік Антонавіч

Нарадзіўся ў 1895 г. у Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў на крупазаводзе. Арыштаваны 19 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 19 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 снежня 1937 г. у Оршы.

Бырскі Іван Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1901 г. у Кракаўскім ваяводстве, Польшча. Жыў у Нававеліцы, працаваў пажарным. Арыштаваны 22 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Бялінскі Іван Антонавіч

Нарадзіўся ў 1877 г. у Віцебскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў на чыгунцы. Арыштаваны 12 мая 1931 г. Пастановай асобай нарады пры калегіі АДПУ СССР ад 23 ліпеня 1931 зняволены на 3 месяцы. Зноў арыштаваны 4 верасня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 2 снежня 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Загінуў у месцы адбыцця пакарання ў Казахстане 10 студзеня 1938 г.

Вайцкевіч Вацлаў Баляслававіч

Нарадзіўся ў 1901 г. у г. Пінск Брэсцкай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў на будоўлі. Арыштаваны 9 верасня 1930 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БВА ад 26 студзеня 1930 г. высланы ў Сібір.

Васілеўскі Антон Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1885 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў рахункаводам у канторы «Белхарчгандаль». Арыштаваны 1 верасня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 20 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Васілеўскі Рыгор Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1887 г. у г. Смаргонь Гродзенскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў пажарным на тлушчавым камбінаце. Арыштаваны ў 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 30 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Вацык Міхаіл Андрэевіч

Нарадзіўся ў 1882 г. у Польшчы. Жыў у Гомелі (пас. Чырвоны Кастрычнік), працаваў у ваенізаванай ахове завода «Гомсельмаш». Арыштаваны 3 сакавіка 1938 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 25 мая 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 жніўня 1938 г.

Вількін Вікенцій Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1897 г. Працаваў бухгалтарам на заводзе «Гомсельмаш». Арыштаваны 25 ліпеня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 23 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Вількін Ігнат Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1899 г. Працаваў сталяром-мадэльшчыкам на заводзе «Пралетарый». Арыштаваны 6 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 20 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Вількін Казімір Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1892 г. Працаваў майстрам ліцейнага цэха вагонарамонтнага завода. Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 26 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Вількіна-Дзівейкіс Люцыя Антонаўна

Нарадзілася ў 1901 г. Арыштаваная 26 верасня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 зняволена на 5 гадоў.

Вінглоўскі Іван Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1894 г. у с. Старая Рудня Жытомірскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў рабочым на заводзе «Гомсельмаш». Арыштаваны 6 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 6 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 снежня 1937 г. у Гомелі.

Віршыч Анатоль Іванавіч

Нарадзіўся ў 1895 г. у Віленскай губерні. Жыў у Гомелі, працаваў старшым агентам перавозкі грузаў гомельскага порта. Арыштаваны 29 красавіка 1938 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 11 верасня 1939 г. зняволены на 3 гады ў ППЛ.

Войніч Адам Мартынавіч

Нарадзіўся ў 1902 г. у в. Масевічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў рабочым на заводзе «Рухавік рэвалюцыі». Арыштаваны 10 сакавіка 1938 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 11 верасня 1938 г. зняволены на 5 гадоў у ППЛ.

Вольскі Сцяпан Эдуардавіч

Нарадзіўся ў 1885 г. у Мінску. Жыў у Гомелі, працаваў загадчыкам таварнай станцыі Гомель. Арыштаваны 28 чэрвеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г. у Мінску.

Вуйцык Іван Мацвеевіч

Нарадзіўся ў 1894 г. у Люблінскім ваяводстве. Жыў у Гомелі, працаваў упаўнаважаным гараддзялення крымінальнага вышуку. Арыштаваны 15 лютага 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 20 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 верасня 1938 г.

Вуйчык Андрэй Міхайлавіч

Нарадзіўся ў Польшчы. Жыў у Гомелі, працаваў лякальшчыкам на заводзе «Пралетарый». Арыштаваны 7 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 19 кастрычніка 1937 г.

прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.

Выганоўскі Павел Сільвестравіч
Нарадзіўся ў 1904 г. у Люблінскім ваяводстве. Жыў у Гомелі (пас. Чырвоны Кастрычнік). Кіраўнік хору 32-га механізаванага палка. Арыштаваны 22 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 5 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Вяржыкоўскі Станіслаў Ігнатавіч
Нарадзіўся ў 1884 г. у Польшчы. Жыў у в. Прудок. Арыштаваны 9 сакавіка 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 14 сакавіка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 2 красавіка 1938 г. у Гомелі.

Вярсоцкі Казімір Венядзіктавіч
Нарадзіўся ў 1908 г. Працаваў старшым дыспетчарам Гомельскага эксплуатацыйнага аддзялення службы руху Беларускай чыгункі. Арыштаваны 16 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 20 снежня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 снежня 1937 г.

Вярцінскі Пётр Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1875 г. у Брэсцкай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў вартаўніком у школе. Арыштаваны 3 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г. у Мінску.

Галавацкі Іван Антонавіч
Нарадзіўся ў 1889 г. Працаваў возчыкам гомельскага аддзялення Белдзяржтранса. Арыштаваны 20 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 2 лістапада 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 лістапада 1938 г. у Гомелі.

Галікевіч Казімір Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1891 г. у в. Юхнавічы Дзяржынскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў шаўцом ботаў у арцелі «Каапрамонт». Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 2 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 лістапада 1938 г. у Мінску.

Ганісеўскі Іван Браніслававіч

Нарадзіўся ў 1896 г. у Смалявіцкім раёне Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў ліцейшчыкам на фабрыцы па вырабе ложкаў. Арыштаваны 10 красавіка 1938 г. Пастановай наркама НКУС СССР і пракурора СССР ад 26 мая 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 жніўня 1938 г.

Ганусевіч Адольф Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1910 г. Працаваў слесарам на электратэхнічным заводзе. Арыштаваны 22 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 5 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Гарасевіч Іосіф Канстанцінавіч

Нарадзіўся ў 1902 г. у Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў машыністам паравоза. Арыштаваны 16 сакавіка 1944 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 28 жніўня 1944 г. зняволены на 8 гадоў у ППЛ. Вызвалены 4 лістапада 1951 г.

Гараўскі Уладзімір Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1910 г. Жыў у г. Навабеліца, працаваў грузчыкам на заводзе «Ізапліт». Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 15 лістапада 1938 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Гарбатоўскі Людвіг Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1882 г. у Добрушскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў старшым бухгалтарам канторы сталовых і рэстаранаў. Арыштаваны 25 лютага 1938 г. Пастановай калегіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 26 мая 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 жніўня 1938 г. у Віцебску.

Гардзіевіч Баляслаў Францавіч

Нарадзіўся ў 1898 г. у Люблінскім ваяводстве, Польшча. Жыў у Гомелі, працаваў цесляром на заводзе імя Кірава. Арыштаваны 28 кастрычніка 1935 г. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 13 сакавіка 1936 г. зняволены на 15 гадоў у ППЛ. Вызвалены ў 1940 г. Але неўзабаве быў арыштаваны і зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Памёр 17 чэрвеня 1942 г. у турме г. Самарканда.

Гаша Станіслаў Францавіч

Нарадзіўся ў 1911 г. у Гомелі. Жыў у Жлобінскім раёне, узначальваў трактарную брыгаду МТС. Арыштаваны 23 чэрвеня 1938 г. Загінуў у Гомельскай турме 15 лістапада 1938 г.

Гедроўд Станіслаў Антонавіч

Нарадзіўся ў 1881 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў на паравозарамонтным заводзе. Арыштаваны 3 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г.

Горскі Антон Рыгоравіч

Нарадзіўся ў 1901 г. у Веткаўскім раёне. Жыў у в. Прудок, працаваў рабочым на конезаводзе. Арыштаваны 22 снежня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 21 студзеня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Горскі Леанід Карлавіч

Нарадзіўся ў 1904 г. у г. Санкт-Пецярбург. Жыў у Гомелі, працаваў майстрам Гомельскага вагоннага ўчастка Беларускай чыгункі. Арыштаваны 28 студзеня 1938 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 лютага 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 31 сакавіка 1938 г.

Грахоўскі Браніслаў Уладзіслававіч

Нарадзіўся ў 1881 г. у в. Рудня Рагачоўскага раёна Гомельскай вобл. Жыў у Гомелі, працаваў на станцыі Гомель. Арыштаваны 4 сакавіка 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 27 красавіка 1933 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Грахоўскі Люцыян Сцяпанавіч

Нарадзіўся ў 1878 г. у Буда-Кашалёўскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам-кампрэсаршчыкам на заводзе «Гомсельмаш». Арыштаваны 7 красавіка 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 21 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 верасня 1938 г. у Мінску.

Гротус Станіслаў Карлавіч

Нарадзіўся ў Слуцкім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў рахункаводам на шклозаводзе. Арыштаваны 12 снежня 1930 г.

Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БВА ад 26 лютага 1931 г. высланы ў Сібір на 3 гады.

Гулевіч Антон Васільевіч

Нарадзіўся ў 1867 г. у в. Рудня-Стаўбунская Веткаўскага раёна. Жыў у Гомелі. Арыштаваны 26 верасня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 г. зняволены на 8 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Гулевіч Бенядзікт Адамавіч

Нарадзіўся 21 мая 1917 г. у в. Рудня-Нісімкавіцкая Чачэрскага раёна. У 1930-я гг. працаваў настаўнікам у польскіх школах Гомельшчыны. У 1937—1940 гг. вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя Кірава ў Мінску. У пачатку 1940-х гг. займаў пасады ў ЛКСМБ у Гродне. У 1944—1949 гг. працаваў у дзяржаўных установах Польшчы, у апараце Польскай Рабочай Партыі. Меў польскія ваенныя ўзнагароды. У 1949—1956 гг. знаходзіўся на тэрыторыі ФРГ (Мюнхен) як перамешчаная асоба. Утрымліваўся ў англійскай турме. 8 красавіка 1956 г. вярнуўся з сям’ёй у Гомель. Працаваў дырэктарам крамы «Дзіцячы свет». У 1961 г. па сфабрыкованым абвінавачванні быў асуджаны «за здраду Радзіме». У 1961—1966 гг. адбываў пакаранне ў Мардоўскай АССР. Перад выхадам на пенсію працаваў адміністратарам крамы «Старт». Да апошніх дзён жыцця знаходзіўся пад пільным наглядам уладаў. Памёр 10 студзеня 1994 г. у Гомелі.

129.

Гулевіч Ганна Іосіфаўна

Нарадзілася 12 красавіка 1894 г. у Люблінскім ваяводстве, Польшча. Жыла ў Гомелі, працавала дворнікам у інтэрнаце воднікаў. Арыштавана 10 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 9 снежня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 19 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Любоў Адольфаўна

Нарадзілася ў 1919 г. у Навабеліцы. Пастановай асобай нарады пры НКУС СССР ад 4 ліпеня 1945 г. выслана ў Краснаярскі край на 3 гады.

Гурыновіч Антон Эдуардавіч

Нарадзіўся ў 1892 г. у Дзяржынскім раёне. Жыў у Навабеліцы, працаваў фрэзероўшчыкам на дрэваапрацоўчым камбінаце.

Арыштаваны 24 ліпеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 25 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Далангоўскі Мар’ян Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1905 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў выкладчыкам у Доме партактыву. Арыштаваны 5 ліпеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 26 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Дамарацкі Франц Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1894 г. Працаваў грузчыкам на Навабеліцкім маргарынавым заводзе. Арыштаваны 17 верасня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 г. зняволены на 8 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Дамарацкі Франц Францавіч

Нарадзіўся ў 1915 г. Працаваў рабочым па пляценні кошыкаў. Арыштаваны 17 верасня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 г. зняволены на 5 гадоў. У 1937 г. пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 лістапада 1937 г.

Дамбе Аляксандр Эдуардавіч

Нарадзіўся ў 1889 г. у в. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў кантралёрам на станцыі Гомель. Арыштаваны 19 студзеня 1936 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 26 мая 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Данкевіч-Данілаў Павел Яўстафіевіч

Нарадзіўся ў 1901 г. у в. Насілава Віленскай губерні. Жыў у Гомелі. У 1936 г. зняволены на 3 гады. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 15 лютага 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 лютага 1938 г.

Дзедзяркові Казімір Карлавіч

Нарадзіўся 4 студзеня 1895 г. у Мінску. Жыў у Гомелі, працаваў інспектарам гомельскага пункта «Плодаагародніна». Арыштаваны 7 сакавіка 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 22 верасня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 30 верасня 1937 г.

Дзедзярковіч Станіслаў Карлавіч

Нарадзіўся 7 мая 1888 г. у Вільні. Жыў у Гомелі. Арыштаваны 7 сакавіка 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 22 верасня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 30 верасня 1937 г.

Дзерваед Станіслава Якаўлеўна

Нарадзілася ў 1896 г. у Польшчы. Жыла ў Гомелі, працавала сакратаром-машыністкай у камбінаце глуханямых. Арыштавана 18 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 снежня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 5 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Дзерваед-Кейль Браніслава Якаўлеўна

Нарадзілася ў 1894 г. у Польшчы. Жыла ў Гомелі, працавала бухгалтарам аддзялення Дзяржбанка. Арыштавана 18 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 снежня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 5 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Драбышэўская-Лапіцкая Марфа Міхайлаўна

Нарадзілася ў 1899 г. у Веткаўскім раёне. Жыла ў Гомелі, працавала тэхнічкай у СШ № 5. Арыштавана 2 верасня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 22 верасня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 29 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Драбышэўскі Іван Канстанцінавіч

Нарадзіўся ў 1909 г. у Веткаўскім раёне. Жыў у Гомелі. Працаваў на цагельным заводзе № 17. У 1933 г. зняволены на 5 гадоў. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 19 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Драбышэўскі Іван Мікалаевіч

Нарадзіўся ў 1913 г. у Буда-Кашалёўскім раёне. Жыў у пас. Касцюкоўка, працаваў рабочым на шклозаводзе. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 23 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Драбышэўскі Сцяпан Паўлавіч

Нарадзіўся ў 1909 г. у Веткаўскім раёне. Жыў у Навабеліцы, працаваў вадаправодчыкам аб'яднання «Гомельсантэхбуд». Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 22 жніўня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 5 верасня 1937 г. у Гомелі.

Драздовіч Франц Юльянавіч

Нарадзіўся ў 1907 г. у в. Зялёны Ручай Мінскай вобласці. Жыў у Навабеліцы, працаваў рабочым на заводзе «Чырвоны хімік». Арыштаваны 4 верасня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 17 верасня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 верасня 1937 г. у Гомелі.

Драздоўская Ніна Карлаўна

Нарадзілася 10 ліпеня 1902 г. Працавала машыністкай. Арыштавана 2 верасня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 17 лістапада 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 23 лістапада 1937 г.

Драздоўскі Юрый Уладзіслававіч

Нарадзіўся ў 1898 г. у Варшаўскім ваяводстве, Польшча. Жыў у Гомелі, працаваў інструктарам фізкультуры шклозавода. Арыштаваны 5 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 5 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Дубовік Антон Аляксандравіч (Ліхадзіеўскі Уладзімір Казіміравіч)

Нарадзіўся ў 1880 у в. Канстанцінаўка Бабруйскага раёна. Жыў у Навабеліцы, працаваў рабочым на дрэваапрацоўчым камбінаце. Арыштаваны 4 студзеня 1935 г. Пастановай спецыяльнай судовай калегіі Вярхоўнага суда БССР ад 5 мая 1935 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Дубовік Аркадзь Антонавіч

Нарадзіўся ў 1912 г. у Слуцкім раёне. Жыў у Навабеліцы, працаваў рабочым на тлушчавым камбінаце. Арыштаваны 6 жніўня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 17 верасня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 верасня 1937 г. у Гомелі.

Дубовік Уладзімір Антонавіч

Нарадзіўся ў 1917 г. у Слуцкім раёне. Жыў у Навабеліцы, працаваў слесарам на дрэваапрацоўчым камбінаце. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 22 жніўня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Дучыц Фелікс Адамавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Бярозаўка Віленскай губерні. Жыў у Навабеліцы, працаваў у ахове Гомельскага дзяржархіва. Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 11 лістапада 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 26 лістапада 1938 г. у Мінску.

Ермаковіч Аляксандр Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Мархачоўшчына Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў дыспетчарам на чыгунцы. Арыштаваны 13 ліпеня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 31 кастрычніка 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Жалігоўскі Эміль Іосіфавіч
Нарадзіўся 22 чэрвеня 1895 г. у г. Мазыр. Жыў у Навабеліцы, працаваў настаўнікам. Арыштаваны 3 чэрвеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г. у Мінску.

Жалцінскі Іосіф Іванавіч
Нарадзіўся ў 1884 г. у Польшчы. Жыў у Навабеліцы, працаваў рабочым тарнага цэха тлушчавага камбіната. Арыштаваны 26 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 2 лістапада 1938 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Жураўскі Адам Андрэевіч
Нарадзіўся ў 1903 г. у Петрыкаўскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў цесляром на станцыі Гомель. Арыштаваны 4 верасня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 19 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Далейшы лёс невядомы.

Жураўскі Іосіф Вячаслававіч
Нарадзіўся ў 1908 г. у Жыткавіцкім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў малатабойцам на дрэваапрацоўчым камбінаце.

Арыштаваны 6 сакавіка 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 16 верасня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Журомскі Іван Вікенцьевіч
Нарадзіўся ў 1904 г. у Латвіі. Жыў у Гомелі, працаваў загадчыкам стадыёна «Лакаматыў». Арыштаваны 28 кастрычніка 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 20 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Жывіца Адольф Іванавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Ляднікі Дзяржынскага раёна. Жыў у Навабеліцы, працаваў бондарам у арцелі імя Калініна. Арыштаваны 25 чэрвеня 1938 г. Пастановай «тройкі» НКУС БССР ад 22 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 1 кастрычніка 1938 г.

Жыдовіч Фелікс Феліксавіч
Нарадзіўся ў 1904 г. у Мінску. Жыў у Гомелі, працаваў шафёрам у рэдакцыі «Полесской правды». Арыштаваны 7 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 11 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 кастрычніка 1938 г. у Гомелі.

Загорскі Юліян Усцінавіч
Нарадзіўся ў 1890 г. у Латвіі. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам на чыгунцы. Арыштаваны 24 чэрвеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Загінуў у месцы адбыцця пакарання.

Закржэўскі Пётр Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1890 г. у Віцебскай вобласці. Жыў у Навабеліцы, працаваў настаўнікам пачатковай школы ў в. Прыбар Гомельскага раёна. Арыштаваны 7 жніўня 1938 г. Пастановай «тройкі» НКУС БССР ад 27 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Закржэўскі Эдуард Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1887 г. у Польшчы. Жыў у Гомелі, працаваў кухарам у сталоўцы № 3. Арыштаваны 14 ліпеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны

да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1937 г. у Гомелі.

Закрута Мікалай Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. у в. Заполле Нясвіжскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў агентам па забеспячэнні цагельнага завода № 17. Арыштаваны 31 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 23 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Залескі Міхаіл Отавіч
Нарадзіўся ў 1906 г. у Буда-Кашалёўскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў на заводзе «Пралетарый». Арыштаваны ў верасні 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 г. зняволены на 5 гадоў.

Залескі Станіслаў Отавіч
Нарадзіўся 22 ліпеня 1899 г. у Буда-Кашалёўскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў бухгалтарам-касірам на кандытарскім камбінаце «Спартак». Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 14 кастрычніка 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. у Гомелі.

Залеўскі Іван Вайцехавіч
Нарадзіўся ў 1892 г. у Варшаўскім ваяводстве. Жыў у Гомелі, працаваў старшым бухгалтарам упраўлення кадраў Беларускай чыгункі. Арыштаваны 29 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 29 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Залівака Франц Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1879 г. Працаваў вартаўніком у арцелі «Фотапраца». Арыштаваны 15 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г. у Мінску.

Захарэвіч Вільгельм Браніслававіч
Нарадзіўся ў 1897 г. у Пухавіцкім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў бухгалтарам на малочным заводзе. Арыштаваны 26 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 27 верасня 1938

г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Зелянкоўскі Іван Антонавіч
Нарадзіўся ў 1896 г. у Віленскай губерні. Жыў у Гомелі, працаваў нарміроўшчыкам на паравозарамонтным заводзе. Арыштаваны 20 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 21 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Зяньневіч Іосіф Уладзіміравіч
Нарадзіўся ў в. Баброва Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі. Студэнт 2-га курса Гомельскага тэхнікума рачнікоў. Арыштаваны 19 красавіка 1940 г. Пастановай Гомельскага абласнога суда ад 22 ліпеня 1940 г. зняволены на 4 гады ў ППЛ. Вызвалены 19 красавіка 1944 г.

Зінкевіч Феліцыян Феліцыянавіч
Нарадзіўся ў 1908 г. у Мінску. Жыў у Гомелі, працаваў рабочым на млыне № 8. Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 19 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ.

Зянковіч Казімір Рыгоравіч
Нарадзіўся ў 1896 г. у в. Пячкоўка Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці (паводле іншых даных, у в. Старае Магілёўскага раёна). Беларус. Жыў у Гомелі, працаваў рахункаводам. Арыштаваны 9 мая 1932 г. Пастановай асобай нарады пры калегіі АДПУ БССР ад 9 жніўня 1932 г. высланы ў Сібір на 3 гады. Пазней жыў у Мурманску (вул. Міліцэйская, д. 27, кв. 6), працаваў бухгалтарам у Мурманскім тралавым флоце. Арыштаваны 17 лютага 1938 г. па арт. 58-1а, 8, 9, 11. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 чэрвеня (або ліпеня) 1938 г. у Ленінградзе.

Іанічэнка Станіслава Антонаўна
Нарадзілася ў 1898 г. у г. Лібава. Жыла ў Гомелі. Арыштавана 27 верасня 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 13 снежня 1933 г. зняволена на 5 гадоў. Арыштавана зноў 6 лістапада 1937 г. Пастановай калегіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 6 снежня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 29 снежня 1937 г. у Гомелі.

кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г.

Чулоўскі Адольф Валянцінавіч
Нарадзіўся ў 1892 г. у Віленскай губерні. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам на суднарамонтным заводзе. Арыштаваны 4 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 30 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Шандзерскі Станіслаў Іванавіч
Нарадзіўся ў 1897 г. у в. Альбярцін Гродзенскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам-механікам на млынкамбінаце. Арыштаваны 3 ліпеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 27 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Шандзерскі Казімір Емяльянавіч
Нарадзіўся ў 1890 г. у Гомелі. Жыў у Рэчыцы, працаваў сталяром на лесазаводзе. Арыштаваны 21 ліпеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 26 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Шаракоўскі Леанід Леанідавіч
Нарадзіўся ў 1909 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў касірам-інкасатарам. Арыштаваны 9 ліпеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 22 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 1 кастрычніка 1938 г. у Мінску.

Шаўко Уладзімір Францавіч
Нарадзіўся ў 1900 г. у в. Ліхасельцы Брэсцкай вобласці. Жыў у Навабеліцы, працаваў у арцелі інвалідаў «Хімбуд». Арыштаваны ў 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 27 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Шаціла Іосіф Антонавіч
Нарадзіўся ў 1916 г. у Жлобінскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў цырульнікам. Арыштаваны 1 сакавіка 1933 г. Пастановай «тройкі» пры ПП АДПУ па БССР ад 27 красавіка 1933 г. зняволены на 5 гадоў.

Шаціла Сцяпан Антонавіч

Нарадзіўся ў 1902 г. у Жлобінскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў слесарам на станцыі Гомель-Гаспадарчы. Арыштаваны 18 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 снежня 1937 г.

Шведава Браніслава Казіміраўна

Нарадзілася ў 1901 г. у в. Юркевічы Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Жыла ў Гомелі, працавала рабочай. Арыштавана 15 ліпеня 1941 г. Пастановай ваеннага трыбунала Беларускай чыгункі ад 20 ліпеня 1941 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 24 ліпеня 1941 г.

Шуберт-Янчэўская Разалія Францаўна

Нарадзілася ў 1889 г. Працавала рахункаводам на суднарамонтным заводзе. Арыштавана 19 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 17 снежня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 29 снежня 1937 г. у Гомелі.

Шумейка Мікалай Антонавіч

Нарадзіўся ў 1891 г. у г. Лодзь, Польшча. Жыў у Гомелі, працаваў выкладчыкам тэхнікума чыгуначнікаў. Арыштаваны 28 красавіка 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г.

Шунейка Юльян Карлавіч

Нарадзіўся ў 1894 г. на хут. Града Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў у гандлі. Арыштаваны 15 мая 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 23 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 23 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Шыдлоўскі Мікалай Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1902 г. у в. Сёмкава Мінскага раёна. Жыў у Навабеліцы, працаваў дыспетчарам на чыгунцы. Арыштаваны 24 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 20 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 снежня 1937 г.

Шыдлоўскі Фларыян Ігнацьевіч

Нарадзіўся ў 1893 г. у Заслаўскім раёне Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў цесляром. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 19 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Вызвалены ў 1947. У 1949 высланы на спецпасяленне ў Казахстан.

Шыманскі Антон Іванавіч
Нарадзіўся ў 1899 г. у в. Трасцянец Мінскага раёна. Жыў у в. Прудок, працаваў рабочым на цагельным заводзе. Арыштаваны 19 чэрвеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 25 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Шымкевіч Леанід Антонавіч
Нарадзіўся ў 1888 г. Працаваў старшым бухгалтарам трэста «Заготлён». Арыштаваны 6 чэрвеня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 30 верасня 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Шыцько Васіль Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1889 г. у Чэрвенскім раёне Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў тэхнікам-будаўнікам на чыгунцы. Арыштаваны 18 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 14 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 20 снежня 1937 г. у Гомелі.

Шэлюта Іван Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1912 г. у Веткаўскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў цесляром у «Вадаканале». Арыштаваны 8 чэрвеня 1940 г. Пастановай Гомельскага абласнога суда ад 30 верасня 1940 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца расстрэлу невядомы.

Юдзейкіс Франц Францавіч
Нарадзіўся 2 лютага 1885 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў сталяром на паравозарамонтным заводзе. Арыштаваны 4 жніўня 1938 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 10 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1938 г.

Юрчык Вольга Іосіфаўна
Нарадзілася ў 1898 г. у г. Мікашэвічы Брэсцкай вобласці. Жыла ў Гомелі. Арыштавана 5 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС

СССР і пракурора СССР ад 6 снежня 1937 г. прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 29 снежня 1937 г. у Гомелі.

Юхневіч Андрэй Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1890 г. у Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў механікам на клінкерным заводзе. Арыштаваны 18 лістапада 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР І Пракурора СССР ад 9 снежня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 26 снежня 1937 г. у Гомелі.

Юшкевіч Аляксандр Вікенцьевіч
Нарадзіўся ў 1900 г. у Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў рабочым на суднарамонтным заводзе. Арыштаваны 22 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 14 жніўня 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 21 жніўня 1937 г.

Яблонскі Канстанцін Пятровіч
Нарадзіўся ў 1880 г. у в. Насовічы Добрушскага раёна. Жыў у Гомелі, працаваў галоўным кандуктарам станцыі Гомель-Гаспадарчы. Арыштаваны 10 мая 1931 г. Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 23 ліпеня 1931 г. пазбаўлены права пражывання ў 12 пунктах краіны тэрмінам на 3 гады.

Ядзвінскі Вацлаў Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1887 г. Працаваў токарам на паравозарамонтным заводзе. Арыштаваны 7 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 19 кастрычніка 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.

Язерскі Пётр Рыгоравіч
Нарадзіўся ў 1901 г. у Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў настаўнікам. Арыштаваны 5 жніўня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 30 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ. Вызвалены 5 жніўня 1947 г.

Якубаў Логвін Рыгоравіч
Нарадзіўся ў 1905 г. у Чачэрскім раёне. Жыў у Гомелі, працаваў сакратаром Гомельскай абласной пракуратуры. Арыштаваны 26 жніўня 1940 г. Пастановай Гомельскага абласнога суда ад 5 лістапада 1940 г. зняволены на 8 гадоў у ППЛ. Загінуў у месцы адбыцця пакарання ў Куйбышаве 18 снежня 1943 г.

Якубовіч Еўфрасіння Адамаўна

Нарадзілася ў 1866 г. у Веткаўскім раёне. Жыла ў Гомелі, працавала прыбіральшчыцай. Арыштавана 11 сакавіка 1936 г. Пастановай Ваеннага трыбунала БВА ад 10 ліпеня 1936 г. зняволена на паўтара гады ў ППЛ. Неўзабаве была вызвалена.

Якштас Леан Казіміравіч

Нарадзіўся ў 1904 г. у Літве. Жыў у Гомелі, працаваў інжынерам паравознай службы ўпраўлення Беларускай чыгункі. Арыштаваны ў ліпені 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 19 кастрычніка 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.

Яноўскі Пратас Антонавіч

Нарадзіўся ў 1900 г. у Мінскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў кавалём на заводзе «Гомсельмаш». Арыштаваны 23 ліпеня 1937 г. Пастановай асобай «тройкі» НКУС БССР ад 19 кастрычніка 1937 г. зняволены на 10 гадоў у ППЛ.

Янчэўскі Валянцін Феліксавіч

Нарадзіўся ў верасні 1903 г. у Талачынскім раёне Віцебскай вобласці. Жыў у Гомелі, працаваў памочнікам начальніка млына № 8. Арыштаваны 12 верасня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 5 лістапада 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Яцкевіч Іосіф Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1886 г. у Брэсцкай вобласці. Жыў у Гомелі. Арыштаваны 6 жніўня 1937 г. Пастановай камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 14 кастрычніка 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 лістапада 1937 г. у Гомелі.

Яшчыкоўскі Рыгор Пятровіч

Нарадзіўся ў 1897 г. у Петрыкаўскім раёне. Жыў у Гомелі. Арыштаваны 27 красавіка 1929 г. Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 21 чэрвеня 1929 г. зняволены на 5 гадоў у канцлагер.

## 2. БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН

### Буда-Люшаўскі сельсавет

Вёска Асінаўка

Контаўт Пётр Антонавіч

Нарадзіўся ў 1890 г. Калгаснік. Арыштаваны 6 снежня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Сенажэцкая Канстанцыя Іванаўна

Нарадзілася ў 1910 г. Сялянка. У 1929 г. выслана ў Сібір на 3 гады.

Сенажэнцая Францыска Іванаўна

Нарадзілася ў 1904 г. Сялянка. Асуджана ў 1929 г. Выслана ў Сібір на 3 гады.

Сенажэцкі Аляксандр Сцяпанавіч

Нарадзіўся ў 1899 г. Выключаны з калгаса. Меў трое дзяцей. Арыштаваны 18 красавіка 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Сенажэцкі Бярнард Сцяпанавіч

Нарадзіўся ў 1901 г. Калгаснік. Арыштаваны 18 кастрычніка 1932 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены 3 лістапада 1936 г.

Сенажэцкі Вікенцій Сцяпанавіч

Нарадзіўся ў 1890 г. Пчаляр калгаса імя Дзяржынскага. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 снежня 1937 г. у Гомелі.

Сенажэцкі Іван Іванавіч

Нарадзіўся ў 1871 г. Аднаасобнік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Высланы на 3 гады ў Сібір.

Вёска Бычкі

Верашчагін (Верашчака) Франц Канстанцінавіч

Нарадзіўся ў 1899 г. Працаваў фельчарам. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 2 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Дамарацкі Антон Валянцінавіч

Нарадзіўся ў 1892 г. Аднаасобнік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 4 лютага 1930 г. Высланы ў Паўночны край.

Дамарацкі Мікалай Вікенцьевіч

Нарадзіўся ў 1885. Калгаснік. Арыштаваны 9 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да расстрэлу.

Зінковіч Бенядзікт Вітольдавіч

Нарадзіўся ў 1892 г. Ветэрынарны фельчар. Арыштаваны 17 жніўня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Зянкевіч Антон Антонавіч

Нарадзіўся ў 1912 г. Асуджаны 12 ліпеня 1929 г. Прыгавораны на 3 гады высылкі ў Сібір.

Зянкевіч Антон Мікалаевіч

Нарадзіўся ў 1882 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 26 мая 1929 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Сібір.

Крукоўская Марыя Аляксандраўна

Нарадзілася ў 1884 г. Аднаасобніца. Асуджана 20 чэрвеня 1929 г. Прыгаворана да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Цэхан Іван Іванавіч

Нарадзіўся ў 1872 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 26 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Цэхан Станіслаў Уладзіміравіч

Нарадзіўся ў 1907 г. Сакратар праўлення калгаса «Камінтэрн». Арыштаваны 9 студзеня 1933 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 16 лютага 1933 г.

Цэхан Сямён Уладзіміравіч

Нарадзіўся ў 1898 г. Без пэўных заняткаў. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Меў 4 дзяцей. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 5 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Хутар Бычкі.

Вярбоўскі Апалінар Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1909 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Вярбоўскі Іван Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1907 г. Сталяр. Арыштаваны 17 жніўня 1938 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Вярбоўскі Пётр Мартынавіч
Нарадзіўся ў 1889 г. Калгаснік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Зіньковіч Адам Браніслававіч
Нарадзіўся ў 1896 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Зіньковіч Браніслаў Вітольдавіч
Нарадзіўся ў 1896 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Зіньковіч Пётр Вітольдавіч
Нарадзіўся ў 1913 г. Калгаснік. Арыштаваны 27 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Цэхан Варвара Іванаўна
Нарадзілася ў 1890 г. Працавала на гаспадарцы брата. Арыштавана ў 1929 г. і выслана ў Сібір на 3 гады.

Ясінскі Іван Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1897 г. Калгаснік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Хутар Дзеднае.

Залескі Міхаіл Отавіч
Нарадзіўся ў 1906 г. Рабочы завода «Пралетарый». Арыштаваны ў 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Залескі Станіслаў Отавіч

Нарадзіўся ў 1899 г. Бухгалтар-касір. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Сенажэцкі-Войніч Аляксандр Людгардавіч

Нарадзіўся ў 1877 г. Селянін. Арыштаваны 2 лютага 1930 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Сенажэцкі Казімір Леанардавіч

Нарадзіўся ў 1885 г. Аднаасобнік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады. Паўторна арыштаваны 18 красавіка 1933 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Сенажэцкі Міхаіл Іванавіч

Нарадзіўся ў 1902 г. Працаваў упаўнаважаным лясной аховы калгаса. Арыштаваны 17 студзеня 1933 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Памёр 4 чэрвеня 1942 г. ў Пячорскім лагеры.

Хутар Дубраўка.

Крукоўская Марыя Вацлаваўна

Нарадзілася ў 1912 г. Працавала ў гаспадарцы бацькоў. Асуджана 12 ліпеня 1929 г. на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вёска Любавін.

Будкевіч Аляксандр Пятровіч

Нарадзіўся ў 1862 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Будкевіч Антон Міхайлавіч

Нарадзіўся ў 1897 г. Селянін. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 25 лютага 1932 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Будкевіч Феліцыя Антонаўна

Нарадзілася ў 1882 г. Аднаасобніца. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Быкоўская Марыя Антонаўна

Нарадзілася ў 1878 г. Аднаасобніца. Мела 5 дзяцей. Арыштавана 22 снежня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір.

Залескі Пётр Іванавіч

Нарадзіўся ў 1893. Працаваў вартаўніком калгаса імя Дзяржынскага. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 17 жніўня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Гомелі 9 кастрычніка 1938 г.

Зянкевіч Ганна Аляксандраўна

Нарадзілася ў 1890 г. Аднаасобніца. Асуджана 20 чэрвеня 1929 г. на 3 гады высылкі ў Сібір.

Контаўт Міхаліна Пятроўна

Нарадзілася ў 1889 г. Аднаасобніца. Асуджана 20 чэрвеня 1929 г. на 3 гады высылкі ў Сібір.

Крукоўская Тэадора Іосіфаўна

Нарадзілася ў 1899 г. Сялянка. Асуджана 20 чэрвеня 1929 г. на 3 гады высылкі ў Сібір.

Крукоўская-Кшэсінская Марыя Іосіфаўна

Нарадзілася ў 1900 г. Арыштавана 9 студзеня 1936 г. Асуджана на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Крукоўскі Антон Вікенцьевіч

Нарадзіўся ў 1900 г. Працаваў бухгалтарам лясгаса. Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Крукоўскі Антон Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1876 г. Калгаснік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Крукоўскі Антон Іванавіч

Нарадзіўся ў 1888 г. Працаваў манцёрам на чыгунцы. Арыштаваны 1 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Крукоўскі Вацлаў Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1883 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 26 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Крукоўскі Іван Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1874 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 27 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Паўночны край на 3 гады.

Крукоўскі Ігнат Сямёнавіч
Нарадзіўся ў 1886 г. Калгаснік. Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 15 лютага 1938 г. у Мінску.

Крукоўскі Мікалай Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Беларус. Арыштаваны 6 жніўня 1937 г. Пражываў у г. Краснакамск, Пермская вобласць. Абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі. Асуджаны 10 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 14 верасня 1937 г.[697]

Крукоўскі Пётр Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1897 г. Арыштаваны 2 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 26 снежня 1937 г. у Гомелі.

Крукоўскі Станіслаў Іванавіч
Нарадзіўся ў 1893 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 красавіка 1933 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў ППЛ. Паўторна арыштаваны 4 снежня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 25 лютага 1938 г. у Мінску.

Крукоўскі Сцяпан Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1888 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Крукоўскі Уладзімір Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 2 лютага 1930 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ляўковіч Антон Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1904 г. Выключаны з калгаса. Арыштаваны 18 красавіка 1933 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Ляўковіч Антон Клімавіч
Нарадзіўся ў 1877 г. Калгаснік. Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ляўковіч Людвіг Клімавіч
Нарадзіўся ў 1885 г. Калгаснік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 1 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Ляўковіч Роберт Іванавіч
Нарадзіўся ў 1909 г. Калгаснік. Арыштаваны 18 красавіка 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ляўковіч Уладзімір Іванавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. Выключаны з калгаса. Арыштаваны 18 красавіка 1933 г. Асуджаны на 8 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ніцыеўская Канстанцыя Нікадзімаўна
Нарадзілася ў 1863 г. Хатняя гаспадыня. У 1929 г. выслана на 3 гады ў Сібір.

Пукінская Альбіна Іванаўна
Нарадзілася ў 1894 г. Аднаасобніца. Мела 4 дзяцей. Арыштавана і асуджана ў 1929 г. да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Радзевіч Іван Адамавіч
Нарадзіўся ў 1858 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 2 красавіка 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Радзевіч Іван Клімавіч
Нарадзіўся ў 1901 г. Калгаснік. Арыштаваны 3 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 снежня 1938 г. у Гомелі.

Сакалоўская Альбіна Міхайлаўна
Нарадзілася ў 1893 г. Аднаасобніца. Мела 4 дзяцей. Асуджана ў 1929 г. на высылку ў Сібір на 3 гады.

Сакалоўская Марыя Аляксееўна
Нарадзілася ў 1877 г. Аднаасобніца. Асуджана ў 1929 г. на высылку ў Сібір на 3 гады.

Сакалоўская Станіслава Францаўна
Нарадзілася ў 1911 г. Аднаасобніца. Асуджана ў 1929 г. да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Сакалоўскі Уладзімір Францавіч

Нарадзіўся ў 1903 г. Аднаасобнік. Асуджаны ў 1929 г. да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Сакалоўскі Франц Казіміравіч

Нарадзіўся ў 1874 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 26 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Сталыпка Ігнат Міхайлавіч

Нарадзіўся ў 1887 г. Учотчык калгаса імя Дзяржынскага. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 снежня 1937 г.

Сталыпка Людвіг Міхайлавіч

Нарадзіўся ў 1886 г. Працаваў вартаўнікам калгаса імя Дзяржынскага. Арыштаваны 10 чэрвеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 1 кастрычніка 1938 г. у Гомелі.

Сталыпка Міхаіл Міхайлавіч

Нарадзіўся ў 1895 г. Калгаснік. Арыштаваны 25 верасня 1929 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў канцлагеры. Паўторна арыштаваны 6 снежня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Тычынская Мальвіна Антонаўна

Нарадзілася ў 1885 г. Калгасніца калгаса імя Молатава. Арыштавана 21 снежня 1937 г. Прыгаворана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляна 11 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Чарнушэвіч Антон Баніфацьевіч

Нарадзіўся ў 1897 г. Калгаснік. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Растраляны ў 1937 г. у Гомелі.

Чарнушэвіч Мікалай Іванавіч

Нарадзіўся ў 1877 г. Калгаснік. Арыштаваны 25 ліпеня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Чарнушэвіч Павел Іванавіч

Нарадзіўся ў 1885 г. Калгаснік. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 11 студзеня 1938 г.

Чарнушэвіч Станіслаў Антонавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. Працаваў лесаводам у лясгасе. Арыштаваны 8 жніўня 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Юхневіч Браніслаў Сямёнавіч
Нарадзіўся ў 1905 г. Сакратар Любавінскага сельсавета. Арыштаваны 6 снежня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 15 лютага 1938 г. у Мінску.

Ясінскі Аляксандр Мікалаевіч
Нарадзіўся ў 1887 г. Працаваў кавалём калгаса імя Дзяржынскага. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Ясінскі Іван Ігнатавіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Ясінскі Канстанцін Іванавіч
Нарадзіўся ў 1877 г. Працаваў вартаўніком лясгаса імя Горкага. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 4 чэрвеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Ясінскі Павел Іванавіч
Нарадзіўся ў 1897 г. Калгаснік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 студзеня 1938 г.

Ясінскі Пётр Ігнацьевіч
Нарадзіўся ў 1898 г. Калгаснік калгаса імя Куйбышава. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Ясінскі Станіслаў Адольфавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. Калгаснік. Арыштаваны 23 снежня 1932 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ясінскі Сцяпан Іванавіч

Нарадзіўся ў 1889 г. Арыштаваны 17 жніўня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 лістапада 1938 г. у Гомелі.

Ясінскі Сцяпан (Стэфан) Мартынавіч

Нарадзіўся ў 1907 г. Калгаснік калгаса імя Дзяржынскага. Арыштаваны 1 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 11 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Ясінскі Франц Іванавіч

Нарадзіўся ў 1882 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 14 студзеня 1933 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Казахстан.

Ясінскі Юрый Мікалаевіч

Нарадзіўся ў 1889 г. Працаваў цесляром калгаса імя Дзяржынскага. Арыштаваны ў 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ. Паўторна арыштаваны 24 чэрвеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 кастрычніка 1938 г.

Вёска Слабада-Люшаўская

Ніцыеўскі Навум Сцяпанавіч

Нарадзіўся ў 1868 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Сібір.

Хутар Стасіна

Крукоўскі Мікалай Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1878 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 31 студзеня 1930 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 12 верасня 1937 г. у Свярдлоўскай вобласці.

Крукоўскі Станіслаў Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1883 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 1 лютага 1930 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Вёска Шутнае

Богуш Алена Станіславаўна

Нарадзілася ў 1879 г. Хатняя гаспадыня. Арыштавана 20 чэрвеня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Богуш Захар Іванавіч
Нарадзіўся ў 1870 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Сібір.

Богуш Канстанцін Захаравіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 4 кастрычніка 1929 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры. Паўторна арыштаваны 9 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Казлоўскі Іван Сяргеевіч
Нарадзіўся ў 1893 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 25 сакавіка 1932 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены ў 1942 г.

Казлоўскі Пётр Васільевіч
Нарадзіўся ў 1899 г. Калгаснік. Арыштаваны 23 сакавіка 1932 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ніцыеўская Аляксандра Фёдараўна
Нарадзілася ў 1901 г. Аднаасобніца. Арыштавана ў 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Ніцыеўскі Антон Мартынавіч
Нарадзіўся ў 1892 г. Працаваў кантралёрам суднарамонтнага завода. Арыштаваны 29 мая 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 21 верасня 1938 г. у Гомелі.

Ніцыеўскі Браніслаў Навумавіч
Нарадзіўся ў 1912 г. Аднаасобнік. Арыштаваны ў 1929 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Сібір.

Ніцыеўскі Іосіф Мартынавіч
Нарадзіўся ў 1897 г. Калгаснік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 23 сакавіка 1932 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Ніцыеўскі Павел Стэфанавіч
Нарадзіўся ў 1888 г. Працаваў настаўнікам у школе. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 4 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 студзеня 1938 г. у Гомелі.

Ніцыеўскі Франц Навумавіч
Нарадзіўся ў 1908 г. Аднаасобнік. Арыштаваны ў 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Пінцэвіч Аляксандр Лук'янавіч
Нарадзіўся ў 1892 г. Аднаасобнік. Арыштаваны ў 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Пінцэвіч Канстанцін Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1911 г. Навучэнец. Арыштаваны ў 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Пінцэвіч Марыя Іосіфаўна
Нарадзілася ў 1897 г. Аднаасобніца. Мела 5 дзяцей. Арыштавана ў 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Ліпініцкі сельсавет

Вёска Люшаў

Асвяцінскі Аляксандр Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1889 г. Старшыня калгаса «Камінтэрн». Арыштаваны 8 студзеня 1933 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 16 лютага 1933 г.

Вярбоўскі Іосіф Мартынавіч
Нарадзіўся ў 1884 г. Без пэўнага занятку. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 25 жніўня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Кнехт Франц Сямёнавіч
Нарадзіўся ў 1886 г. Каваль калгаса «Камінтэрн». Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 28 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Патапаўскі сельсавет

Пасёлак Вецярок

Гурскі Іван Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1898 г. Працаваў нарыхтоўшчыкам. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 6 лютага 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны ў Мінску 14 сакавіка 1938 г.

Вёска Галы

Язерскі Аляксандр Фёдаравіч

Нарадзіўся ў 1899 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 2 лістапада 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры. 16 красавіка 1933 г. зняволенне заменена высылкай у Казахстан.

Язерскі Фелікс Антонавіч

Нарадзіўся ў 1892 г. Працаваў у Жлобінскім нарсудзе. Арыштаваны 2 красавіка 1933 г. асуджаны на 8 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены датэрмінова 10 кастрычніка 1934 г. Паўторна арыштаваны ў 1938 г. і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Магілёве 14 сакавіка 1938 г.

Ясінскі Антон Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1904 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 9 студзеня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Вёска Забаб’е

Пукінская Брыгіда Паўлаўна

Нарадзілася ў 1894 г. Аднаасобніца. У 1929 г. выслана на 3 гады ў Сібір.

Яцкевіч Мартын Францавіч

Нарадзіўся ў 1873 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір.

Хутар Ляды

Контаўт Мікалай Уладзіслававіч

Нарадзіўся ў 1872 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 25 мая 1929 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Паўночны край.

Пукінскі Казімір Пятровіч

Нарадзіўся ў 1874 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 мая 1929 г. Асуджаны на 3 гады высылкі ў Сібір.

Рагінскі сельсавет

Вёска Дзербічы.

Тычынскі Віктар Іванавіч

Нарадзіўся ў 1890 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 28 верасня 1929 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Вёска Курганне.

Барэйша Канстанцін Ігнатавіч

Нарадзіўся ў 1889 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 28 верасня 1929 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Вёска Рагінь

Навакоўская Марыя Адамаўна

Нарадзілася ў 1922 г. Калгасніца. Арыштавана 23 лістапада 1948 г. Асуджана на 10 гадоў зняволення ў ППЛ з канфіскацыяй маёмасці і на 5 гадоў пазбаўлення правоў.

Уваравіцкі пасялковы савет

Пасёлак Краснарэчча

Душкевіч Сямён Антонавіч

Нарадзіўся ў 1894 г. Аднаасобнік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 11 кастрычніка 1930 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў канцлагеры.

Вёска Лапічы

Велічкевіч Восіп Іванавіч
Нарадзіўся ў 1895 г. Калгаснік. Арыштаваны 25 верасня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў турме.

Вярбіцкі Іван Фаміч
Нарадзіўся ў 1889 г. Меў 4 дзяцей. Працаваў слесарам у Гомельскім сарціровачным дэпо. Арыштаваны 7 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Драбышэўскі Іван Мікалаевіч
Нарадзіўся ў 1903 г. Працаваў упакоўшчыкам на шклозаводзе. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Іван Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1906 г. Працаваў слесарам на «Гомсельмашы». Арыштаваны 1 лютага 1937 г. Асуджаны на 7 гадоў зняволення ў ППЛ і на 5 гадоў пазбаўлення правоў.

Драбышэўскі Мікалай Станіслававіч
Нарадзіўся ў 1903 г. Калгаснік калгаса імя Молатава. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 8 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 1 кастрычніка 1938 г.

Драбышэўскі Уладзімір Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1889 г. Працаваў слесарам. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 26 верасня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў турме.

Душкевіч Пётр Ігнатавіч
Нарадзіўся ў 1887 г. Селянін. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 25 верасня 1933 г. Прыгавораны на 8 гадоў зняволення ў турме.

Душкевіч Рыгор Мікалаевіч
Селянін. Арыштаваны 15 жніўня 1933 г. Асуджаны на 5 год зняволення ў турме.

Душкевіч Станіслаў Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1908 г. Працаваў на заводзе «Гомсельмаш». Арыштаваны 26 мая 1931 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры. Паўторна арыштаваны 27 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Душкевіч Юліян Каэтанавіч

Нарадзіўся ў 1884 г. Пражываў у г. Ніжні Тагіл, працаваў на «Вагонбудзе». Арыштаваны 6 сакавіка 1938 г. Асуджаны па арт. 58-6 (шпіянаж). Загінуў.

Жарын Аляксандр Міхайлавіч

Нарадзіўся ў 1915 г. Працаваў дырэктарам школы. Рэпрэсіраваны ў 1937 г.

Жарын Міхаіл Сільвестравіч

Нарадзіўся ў 1887 г. Працаваў рэвізорам-бухгалтарам у Гомельскім упраўленні сувязі. Арыштаваны 20 ліпеня 1941 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці.

Івіцкі Іван Антонавіч

Нарадзіўся ў 1897 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 верасня 1929 г. Асуджаны на 3 гады зняволення ў канцлагеры.

Кончыц Васіль Яўцехавіч

Нарадзіўся ў 1903 г. Быў камандзірам 120-га кулямётнага батальёна. Арыштаваны 8 красавіка 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 20 красавіка 1938 г. у г. Варашылаў.

Кончыц Марыя Аляксандраўна

Нарадзілася ў 1922 г. Працавала настаўніцай Бераставіцкай школы. Арыштавана 17 верасня 1948 г. Асуджана на 25 гадоў зняволення. Вызвалена.

Кончыц Мацвей Фёдаравіч

Нарадзіўся ў 1887 г. Працаваў пажарным на заводзе «Рухавік рэвалюцыі». Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 16 студзеня 1933 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Расстраляны ў 1937 г. у Дзмітлагу.

Кончыц Рыгор Фёдаравіч

Нарадзіўся ў 1902 г. Калгаснік калгаса імя Кірава. Арыштаваны 30 жніўня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Кончыц Сямён Фёдаравіч

Нарадзіўся ў 1883 г. Аднаасобнік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 6 верасня 1938 г. Асуджаны на 8 гадоў зняволення ў ППЛ і на 3 гады пазбаўлення правоў.

Красоўскі Антон Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1893 г. Працаваў цесляром камунальна-паравознай гаспадаркі. Арыштаваны 7 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 кастрычніка 1938 г. у Гомелі.

Міронава Марыя Адамаўна

Нарадзілася ў 1878 г. Хатняя гаспадыня. Арыштавана 19 сакавіка 1937 г. Асуджана на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Радзевіч Мікалай Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1910 г. Чырвонаармеец 110-га стралковага палка. Арыштаваны 19 ліпеня 1941 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ і 5 гадоў пазбаўлення правоў.

Сушчынскі Антон Францавіч

Нарадзіўся ў 1908 г. Працаваў цесляром. Арыштаваны 10 чэрвеня 1936 г. Асуджаны на 2 гады зняволення ў ППЛ.

Трызна Іван Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1883 г. Працаваў чорнарабочым дэпо ў Гомелі. Арыштаваны 18 сакавіка 1933 г. Асуджаны на 3 гады ўмоўна.

## 3. ВЕТКАЎСКІ РАЁН

### Вёска Рудня-Стаўбунская

Гулевіч Адам Васільевіч

Нарадзіўся ў 1907 г. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 17 снежня 1937 г. Асуджаны 21 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Адам Казіміравіч

Нарадзіўся ў 1892 г. Жыў у пас. Качуг Іркуцкай вобласці, працаваў кацельшчыкам суднаверфі «Дальбуда» ў пас. Качуг. Беспартыйны, паляк. Арыштаваны 14 мая 1938 г., пастановай

«тройкі» УНКУС Іркуцкай вобласці ад 29 кастрычніка 1938 г. па арт. 58-1а КК РСФСР асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі.

Гулевіч Аляксандр Канстанцінавіч
Нарадзіўся ў 1891 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 17 снежня 1937 г. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Аляксандр Канстанцінавіч
Нарадзіўся ў 1888 г. Калгаснік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 12 лістапада 1933 г. Асуджаны 13 снежня 1933 г. да 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Антон Васільевіч
Нарадзіўся ў 1867 г. Рабочы. Меў 7 дзяцей. Арыштаваны 26 верасня 1933 г. Асуджаны 13 снежня 1933 г. на 8 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Варвара Іосіфаўна
Нарадзілася ў 1901 г. Даярка. Мела 2 дзяцей. Арыштавана 10 снежня 1937 г. Асуджана да вышэйшай меры пакарання. Расстраляная 1 красавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Вікенцій Рыгоравіч
Нарадзіўся ў 1880 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 26 ліпеня 1938 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Іван Антонавіч
Нарадзіўся ў 1896 г. Ляснік. Меў 8 дзяцей, бацьку 60 гадоў. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Растраляны 14 сакавіка 1938 г.

Гулевіч Іван Іванавіч
Нарадзіўся ў 1897 г. Калгаснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 17 снежня 1937 г. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Іван Іосіфавіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Калгаснік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 20 ліпеня 1938 г. Асуджаны 27 верасня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Гулевіч Іван Паўлавіч

Нарадзіўся ў 1894 г. Калгаснік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 18 снежня 1938 г. Асуджаны 21 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Іван Паўлавіч
Нарадзіўся ў 1871 г. Калгаснік. Меў 9 дзяцей. Арыштаваны 13 верасня 1933 г. Асуджаны да 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Іван Станіслававіч
Нарадзіўся ў 1884 г. Калгаснік. Арыштаваны 20 ліпеня 1938 г. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 28 лістапада 1938 г.

Гулевіч Іван Францавіч
Нарадзіўся ў 1894 г. Калгаснік. Арыштаваны 19 снежня 1937 г. Асуджаны 21 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Іосіф Якаўлевіч
Нарадзіўся ў 1890 г. Заможны селянін. Арыштаваны 26 ліпеня 1938 г. Асуджаны 27 верасня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Гулевіч Міхаіл Іванавіч
Нарадзіўся ў 1898 г. Аднаасобнік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 26 ліпеня 1938 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Павел Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1898 г. Калгаснік. Арыштаваны 20 жніўня 1938 г. Асуджаны 27 верасня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Гулевіч Пётр Іванавіч
Нарадзіўся ў 1903 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Стэфан Цімафеевіч
Нарадзіўся ў 1895 г. Калгаснік. Арыштаваны 17 снежня 1937 г. Асуджаны 21 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г.

Гулевіч Франц Мікалаевіч

Нарадзіўся ў 1897 г. Аднаасобнік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 26 ліпеня 1938 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Гулевіч Франц Ягоравіч

Нарадзіўся ў 1895 г. Калгаснік. Арыштаваны 17 снежня 1937 г. Асуджаны 20 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Гулевіч Франц Якаўлевіч

Нарадзіўся ў 1893 г. Калгаснік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 6 жніўня 1937 г. Асуджаны 1 верасня 1937 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны.

Ляскоўскі Аляксандр Восіпавіч

Нарадзіўся ў 1898 г. Калгаснік. Арыштаваны 6 снежня 1937 г. Асуджаны 5 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г.

Скарапацкі Іосіф Раманавіч

Нарадзіўся ў 1867 г. Калгаснік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 15 верасня 1933 г. Асуджаны 13 снежня 1933 на 8 гадоў зняволення ў ППЛ.

Скарапацкі Мікалай Іосіфавіч

Нарадзіўся ў 1901 г. Арыштаваны 26 ліпеня 1938 г. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны.

Смыкоўскі Васіль Адамавіч

Нарадзіўся ў 1900 г. Служачы. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 18 снежня 1937 г. Асуджаны 21 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Яскевіч Агнеса Аляксандраўна

Нарадзілася ў 1906 г. Настаўніца. Арыштавана 22 снежня 1937 г. Асуджана на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Паўторна асуджана 21 студзеня 1949 г. да высылкі.

Вёска Аднаполле

Смольскі Пётр (Эдуард) Францавіч

Нарадзіўся ў 1899 г. Калгаснік. Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Хадановіч Павел Антонавіч

Нарадзіўся ў 1887 г. Арыштаваны 26 лютага 1932 г. Асуджаны 11 мая 1932 да 5 гадоў зняволення ў канцлагеры. Паўторна арыштаваны 1 верасня 1937 г. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 28 верасня 1937 г. у Гомелі.

Рэчкаўскі сельсавет

Вёска Зарэчча

Горскі Казімір Сцяпанавіч

Нарадзіўся ў 1870 . Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 12 верасня 1933 г. Асуджаны 12 снежня 1933 да 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Горская Марыя Данілаўна

Нарадзіўся ў 1884 г. Хатняя гаспадыня. Мела 2 дзяцей. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Акушка Іосіф Казіміравіч

Нарадзіўся ў 1896 г. Арыштаваны 17 сакавіка 1934 г. асуджаны 27 сакавіка 1934 г. на 3 гады зняволення ў ППЛ. Паўторна арыштаваны 27 ліпеня 1938 г. Асуджаны 27 верасня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Вёска Рэчкаўскія Хутары

Кончыц Іван Васільевіч

Нарадзіўся ў 1910 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 2 красавіка 1932 г. Асуджаны 19 чэрвеня 1932 на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Вёска Рудня-Гулева

Мохараў Іван Антонавіч

Нарадзіўся ў 1888 г. Аднаасобнік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 26 лютага 1932 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Мохараў Мікалай Антонавіч
Нарадзіўся ў 1872 г. Аднаасобнік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 19 сакавіка 1934 г. Асуджаны 27 сакавіка 1934 на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Мохараў Франц Пятровіч
Нарадзіўся ў 1907 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 12 ліпеня 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Мохарава Юзэфа Іванаўна
Нарадзілася ў 1917 г. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Вёска Рудня-Шлягіна

Кацуба Анастасія Пятроўна
Нарадзілася ў 1889 г. Аднаасобніца. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Кацуба Андрэй Цімафеевіч
Нарадзіўся ў 1880 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 22 снежня 1928 пры супрацьдзеянні закрыццю капліцы. Асуджаны 28 лютага 1929 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Кацуба Іван Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1892 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 18 жніўня 1930 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры.

Кацуба Іван Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1893 г. Арыштаваны 3 кастрычніка 1937 г. Асуджаны 21 лістапада 1937 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 29 снежня 1937 г.

Кацуба Кузьма Пятровіч
Нарадзіўся ў 1883 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 13 студзеня 1933 г. Асуджаны 16 красавіка 1933 г. на 5 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены ў 1936 г.

Кацуба Павел Іванавіч

Нарадзіўся ў 1915 г. Калгаснік. Арыштаваны 20 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 кастрычніка 1938 г.

Кацуба Павел Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1901 г. Арыштаваны 4 снежня 1937 г. Прыгавораны 5 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 сакавіка 1938 г. у Гомелі.

Кацуба Павел Каспаравіч
Нарадзіўся ў 1894 г. Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Прыгавораны 28 верасня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Кацуба Пётр Каспаравіч
Нарадзіўся ў 1893 г. Ляснік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 27 жніўня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 кастрычніка 1938 г.

Кацуба Пётр Паўлавіч
Нарадзіўся ў 1891 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 22 снежня 1928 г. пры супрацьдзеянні закрыццю капліцы. Асуджаны 21 чэрвеня 1929 г. на 6 месяцаў зняволення.

Кацуба Пётр Паўлавіч
Нарадзіўся ў 1891 г. Селянін. Арыштаваны 14 верасня 1937 г. Асуджаны 19 кастрычніка 1937 на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены 4 верасня 1947 г.

Кацуба Рафаіл Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1905 г. Арыштаваны 3 кастрычніка 1937 г. Арыштаваны 21 лістапада 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 29 снежня 1937 г.

Кацуба Фелікс Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1903 г. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Гомелі 7 кастрычніка 1937 г.

Ключынскі Фларыян Пятровіч
Нарадзіўся ў 1908 г. Пажарны. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1937 г. у Гомелі.

Мохараў Андрэй Ігнатавіч

Нарадзіўся ў 1882 г. Аднаасобнік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 13 студзеня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены ў 1936 г.

Мохараў Андрэй Сямёнавіч

Нарадзіўся ў 1878 г. Аднаасобнік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 13 лютага 1933 г. Прыгавораны 28 лютага 1933 г. да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны.

Мохарава Алена Пятроўна

Нарадзілася ў 1910 г. Аднаасобніца. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана  да высылкі ў Сібір на 3 гады.

Мохараў Дамінік Цімафеевіч

Нарадзіўся ў 1907 г. Арыштаваны 17 лютага 1938 г. Асуджаны 10 кастрычніка 1938 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Загінуў у Магадане 12 ліпеня 1943 г.

Мохараў Іван Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1927 г. Арыштаваны 28 верасня 1949 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ і 3 гады пазбаўлення грамадзянскіх правоў.

Мохараў Іван Іванавіч

Нарадзіўся ў 1898 г. Арыштаваны 3 кастрычніка 1937 г. Асуджаны 21 лістапада 1937 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Мохараў Іосіф Паўлавіч

Нарадзіўся ў 1902 г. Дырэктар школы. Арыштаваны 24 жніўня 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Мохараў Міхаіл Ігнатавіч

Нарадзіўся ў 1880 г. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 3 верасня 1933 г. Асуджаны 13 снежня 1933 г. на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Мохараў Павел Міхайлавіч

Нарадзіўся ў 1912 г. Ваенурач. У Чырвонай Арміі з 1940 г. Арыштаваны 13 чэрвеня 1945 г. Асуджаны 6 жніўня 1945 г. на 7 гадоў зняволення ў ППЛ і 3 гады пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Вызвалены 12 красавіка 1952 г.

Мохараў Пётр Людвігавіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 12 ліпеня 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вёска Ухова

Вольская Ганна Навумаўна
Нарадзілася ў 1905 г. Мела 2 дзяцей. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольская Ефрасіння Рыгораўна
Нарадзілася ў 1899 г. Мела 2 дзяцей. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольская Ева Пракопаўна
Нарадзілася ў 1908 г. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольская Лідзія Пракопаўна
Нарадзілася ў 1910 г. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольская Лізавета Яфімаўна
Нарадзілася ў 1868 г. Хатняя гаспадыня. Мела 4 дзяцей. Арыштавана 12 ліпеня 1929 г. Асуджана на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольскі Мікалай Пракопавіч
Нарадзіўся ў 1894 г. Аднаасобнік. Меў 2 дзяцей. Арыштаваны 12 ліпеня 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольскі Міхаіл Сцяпанавіч
Нарадзіўся ў 1905 г. Аднаасобнік. Меў 2 дзяцей. Арыштаваны 17 ліпеня 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольскі Пракоп Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1871 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 6 кастрычніка 1930 г. Асуджаны на высылку ў Сібір.

Вольскі Рыгор Пракопавіч
Нарадзіўся ў 1912 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 12 ліпеня 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Вольскі Сцяпан Антонавіч

Нарадзіўся ў 1870 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 6 лістапада 1930 г. Асуджаны на высылку ў Сібір.

Вольскі Сцяпан Іванавіч

Нарадзіўся ў 1894 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 26 лютага 1932 г. Асуджаны 23 мая 1932 г. на 3 гады зняволення ў ППЛ.

Горскі Аляксандр Станіслававіч

Нарадзіўся ў 1912 г. Селянін. Арыштаваны 12 ліпеня 1929 г. Асуджаны на высылку ў Сібір на 3 гады.

Драбышэўскі Аляксандр Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1888 г. Аднаасобнік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 6 лістапада 1930 г. Асуджаны на высылку ў Сібір.

Драбышэўскі Аляксей Пятровіч

Нарадзіўся ў 1888 г. Аднаасобнік. Меў 6 дзяцей. Асуджаны на 3 гады зняволення.

Драбышэўскі Антон Вікенцьевіч

Нарадзіўся ў 1902 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 12 студзеня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры. Паўторна арыштаваны 20 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 лістапада 1938 г.

Драбышэўскі Антон Іванавіч

Нарадзіўся ў 1898 г. Калгаснік. Меў 5 дзяцей. Арыштаваны 19 лістапада 1937 г. Асуджаны 30 лістапада 1937 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўская Браніслава Міхайлаўна

Нарадзілася ў 1903 г. Арыштавана 9 красавіка 1933 г. Асуджана 11 мая 1933 г. на 5 гадоў высылкі ў Казахстан.

Драбышэўскі Іван Іванавіч

Нарадзіўся ў 1895 г. Селянін. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 19 лістапада 1937 г. Асуджаны 30 лістапада 1937 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Памёр ва Усцьвышлагу 24 чэрвеня 1939 г.

Драбышэўскі Іван Канстанцінавіч

Нарадзіўся ў 1911 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 12 студзеня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры. Паўторна арыштаваны 4 верасня 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Іван Станіслававіч
Нарадзіўся ў 1897 г. Пільшчык. Арыштаваны 10 сакавіка 1933 г. Асуджаны 11 мая 1933 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены 10 кастрычніка 1945 г.

Драбышэўскі Іван Феліксавіч
Нарадзіўся ў 1901 г. Рахункавод-касір. Арыштаваны 5 кастрычніка 1933 г. Асуджаны 23 лютага 1934 г. на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Іван Фролавіч
Нарадзіўся ў 1878 г. Аднаасобнік. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 17 студзеня 1930 г. Асуджаны 10 красавіка 1930 г. на высылку на Поўнач.

Драбышэўскі Іосіф Станіслававіч
Нарадзіўся ў 1894 г. Сталяр. Арыштаваны 10 сакавіка 1933 г. Асуджаны 11 мая 1933 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Казімір Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1904 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 17 лютага 1930 г. Асуджаны 10 красавіка 1930 г. на высылку на Поўнач.

Драбышэўскі Канстанцін Антонавіч
Нарадзіўся ў 1900 г. Калгаснік. Арыштаваны 26 ліпеня 1938 г. Прыгавораны 11 кастрычніка 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 кастрычніка 1938 г.

Драбышэўскі Канстанцін Казіміравіч
Нарадзіўся ў 1906 г. Арыштаваны 4 лютага 1930 г. Асуджаны 24 лютага 1930 г. на высылку на Поўнач.

Драбышэўскі Канстанцін Мікалаевіч
Нарадзіўся ў 1908 г. Калгаснік. Арыштаваны 25 верасня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1938 г.

Драбышэўскі Мікалай Аляксандравіч

Нарадзіўся ў 1905 г. Арыштаваны 11 сакавіка 1933 г. Прыгавораны 10 мая 1933 г. да вышэйшай меры пакарання, якая заменена на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Мікалай Іванавіч
Нарадзіўся ў 1907 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 17 лютага 1930 г. Асуджаны 10 красавіка 1930 г. на высылку на Поўнач.

Драбышэўскі Мікалай Мікалаевіч
Нарадзіўся ў 1902 г. Арыштаваны 12 студзеня 1933 г. Асуджаны на 5 гадоў зняволення ў канцлагеры.

Драбышэўскі Мікалай Паўлавіч
Нарадзіўся ў 1913 г. Арыштаваны 20 ліпеня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19 кастрычніка 1938 г.

Драбышэўскі Міхаіл Іванавіч
Нарадзіўся ў 1893 г. Селянін. Меў 4 дзяцей. Арыштаваны 19 лістапада 1937 г. Асуджаны 30 лістапада 1937 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Вызвалены 13 лістапада 1943 г.

Драбышэўскі Мацвей Цімафеевіч
Нарадзіўся ў 1882 г. Калгаснік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 8 верасня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 7 кастрычніка 1937 г. у Гомелі.

Драбышэўская Надзея Пятроўна
Нарадзілася ў 1906 г. Арыштавана 4 лютага 1936 г. Асуджана 9 ліпеня 1936 г.

Драбышэўскі Павел Віктаравіч
Нарадзіўся ў 1868 г. Селянін. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 19 лістапада 1937 г. Асуджаны 30 лістапада 1937 г. на 10 гадоў зняволення ў ППЛ. Памёр у Томлагу 25 верасня 1942 г.

Драбышэўскі Сцяпан Паўлавіч
Нарадзіўся ў 1909 г. Калгаснік. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Гомелі 5 верасня 1937 г.

Драбышэўскі Сцяпан Паўлавіч

Нарадзіўся ў 1909 г. Вадаправодчык. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Прыгавораны 22 жніўня 1937 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Гомелі 5 верасня 1937 г.

Драбышэўскі Фелікс Антонавіч
Нарадзіўся ў 1891 г. Настаўнік. Арыштаваны 6 снежня 1937 г. Прыгавораны 5 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 31 мая 1938 г. у Мінску.

Драбышэўскі Фелікс Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1891 г. Аднаасобнік. Меў 3 дзяцей. Арыштаваны 6 лістапада 1930 г. Як заможны селянін асуджаны на высылку ў Сібір. Паўторна арыштаваны 5 лютага 1936 г. Асуджаны на 6 гадоў зняволення ў ППЛ. Памёр 5 красавіка 1938 г. ва Ухцімлагу.

Драбышэўскі Фелікс Яфімавіч
Нарадзіўся ў 1858 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 6 лістапада 1930 г. Як заможны селянін асуджаны на высылку ў Сібір.

Драбышэўскі Франц Аляксандравіч
Нарадзіўся ў 1894 г. Аднаасобнік. Меў 6 дзяцей. Арыштаваны 26 лютага 1932 г. Асуджаны 23 мая 1932 г. на 5 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Франц Антонавіч
Нарадзіўся ў 1893 г. Калгаснік. Арыштаваны 30 верасня 1938 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 кастрычніка 1938 г.

Драбышэўскі Франц Канстанцінавіч
Нарадзіўся ў 1911 г. Арыштаваны 18 ліпеня 1937 г. Прыгавораны 22 жніўня 1937 г. да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 5 верасня 1937 г. у Гомелі.

Драбышэўскі Франц Міхайлавіч
Нарадзіўся ў 1901 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 12 студзеня 1933 г. Асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ.

Драбышэўскі Фрол Іванавіч
Нарадзіўся ў 1905 г. Аднаасобнік. Арыштаваны 17 лютага 1930 г. Асуджаны 10 красавіка 1930 г. на высылку на Поўнач.

Драбышэўскі Ян Аляксандравіч

